№6(67)
/лістапад-снежань/ 2013

дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Рыгор Барадулін.**
Шляхам бульбы. *Вершы.* / 5
**Юрка Голуб.**
Запас міласці. *Вершы.* / 61
**Леанід Галубовіч.**
Зазімак. *Вершы.* / 80
**Вольга Гронская.**
Казкі пра вар'ятаў. *Вершы.* / 99
**Алесь Камоцкі.**
Не згубіцца. *Вершы.* / 144
**Воля Чайкоўская.**
Лабірынты. *Вершы.* / 165
**Уладзь Лянкевіч.**
Дзень Гор. *Вершы.* / 181

**Проза**

**Андрэй Федарэнка.**
Дзядзька Адольф. *Аповесць.* / 16
**Віктар Казько.**
Вечны покліч вады. *Апавяданні.* / 69
**Лідзія Арабей.**
Пошукі ісціны. *Абразкі.* / 87
**Павел Касцюкевіч.**
План Бабарозы. *Сямейная сага.* / 106
**Віктар Супрунчук.**
Калі пяюць птушкі. *Апавяданні.* / 152
**Усевалад Сцебурака.**
Вячэра з відам на "Дынама".
*Выбраныя абразкі.* / 169

**Дэбют**

**Уладзімір Дрындрожык.**
У далёкіх краях. *Вершы.* / 186

**Пераклады**

**Тарас Шаўчэнка.**
Мастак. *Урывак з аповесці.*
*Пераклад Валера Стралко.* / 190

| | | |
|---|---|---|
| **Спадчына** | **Барыс Сачанка.** «Літаратура – гэта голас народа». *Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Барысам Сачанкам.* | / 210 |
| **Да стагоддзя з дня нараджэння Масея Сяднёва** | **Алесь Пашкевіч.** «Той дзень надышоў». *Духоўны ўніверсум прозы Масея Сяднёва.* | / 233 |
| **Палеміка** | **Пётра Садоўскі.** «Кніга пра мяне», *або Постнацыянальныя рэсентыменты кібіца-інтэлектуала.* | / 240 |
| **Крытыка** | **Ірына Шаўлякова-Барзенка.** Авантуры *тутэйшасці* ў найноўшай беларускай літаратуры. | / 271 |
| **Кнігапіс** | **Эмануіл Іофе.** На самой справе, гэта крывавыя землі! *Рэцэнзія на кнігу Тымаці Снайдэра «Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным».* | / 278 |
| **Дзеяпіс** | *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова».* | / 291 |

Рыгор Барадулін



...Нялёгкае гэта мастацтва —
Падобным да сябе заставацца...

# Шляхам бульбы

* * *

Каб воз ягоны перакуліўся
І галава пайшла пехатой! —
Праклён цыганскі.
А мне ўявіўся
Цыган бясхаты, праклятый
Той,
Што спанталычыўся недзе ў полі
Ці ў таўстарэбрай пушчы глухой.
Разбіла лоб валачобніца воля,
Як яйка, што ўпала
На дол пухой.
А галава пехатой пачасала,
Бо з'ехала з глузду,
Як з гаці воз.
У кублах плача ад солі сала.
З сябе смяецца цыганскі лёс.

* * *

Два-тры сонцы дай мне, Божа,
Два-тры дай дажджы, Магута,
Каб растаў на схіле снег,
Каб я свой шацёр прыгожа
Мог паставіць,
Каб пачута
Сон прыходзіў на начлег.

Каб нарэзаў тры-чатыры
Грабянцы не ад раскошы
І прадаць усе паспеў.
Памажы мне, Божа шчыры,
Новыя ўкішэніць грошы,
Бо старыя я праеў.

* * *

Ля дунайскай сярэдзіны
Жонка сэрца звярэдзіла,
Густа косы распушыла,
Слязьмі вочы прыгушыла.
Плача бедная таму ж,
Што памёр каханы муж.
Плача ўсё, ды не таму ж,
Што памёр каханы муж,
У слязах плыве, нябога,
Дзе б знайсці сабе другога?

* * *

Гара ўнізе, гара ўверсе,
Яшчэ ўнізе горка.
Хлопец коні вараных
Мые халадзёнкай.

Каля студні маладая
Праходзіць дзяўчына.
— Дай, дзяўчына,
Дай вады мне, —
Кажа ёй хлапчына.

— Слугаваць такі не стану
Я табе як мужу.
Сам цягні ваду са студні
А глыбокай дужа.

— Не хачу вады са студні,
З рук тваіх хачу я.
Заўтра слаць сватоў гатоў я,
Сватаюць маладую!

* * *

Хай дасць мне Божа добрую ноч,
Прывёў дадому я прыгажуху.
Ды не таму, што кахаю, прывёў,
Раней быў бедны ды слухаў скруху.

Ой, як мне, мама,
Дзвюх жонак мець,
Ад радасці, як ад бяды, ачомацца?
Адну варажыць у вёску пашлю,
З другой віно буду піць у карчомцы.

Прывучаны коні, мама, мае —
Лягчэй галодныя носяць збрую,
Спыняюцца каля кожнай карчмы,
Пакуль жа п’ю я кварту-другую.

* * *

Сядзіць мядзведзь на ланцугу,
Глядзець, мой бацька, не магу
Я на галоднага актора.
Апошні раз ён еў учора.
Ці, бацька, дай яму харчы,
Ці дай ад голаду ўцячы!

* * *

— Ад голаду я сёння млею,
Адно што сербануў алею,
Ды ў ім каб пах цыбулі той.
Без жонкі стаў я сіратой.

— Ад голаду мне блага стала,
Адно што супу паспытала.
Без солі суп не есца дужа.
Асірацела я без мужа.

* * *

Запрасілі на вяселле,
Нумай шчэ, нумай шчэ.

I пілі, і перац елі,
        I яшчэ, і яшчэ.

Перац сох на жэрдках смагла,
        Нумай шчэ, нумай шчэ.
У гаршчэчках бульба смягла,
        I яшчэ, і яшчэ.

Покуль еў я скваркі й кашу,
        Нумай шчэ, нумай шчэ,
Дзюрка звёў дзяўчыну нашу.
        I ўцячэ, і ўцячэ!

* * *

— Хто такі, прызнайся, Мімі,
Быў пад вокнамі тваімі?
— Не каханак-шавяла,
Гэта кошачка была.

— Лепей, жонка, не брашы.
Кошачка ў капелюшы?
Зараз лопну ад смяхоты —
На нагах у кошкі боты?

— Не чашы мне пугай спінку.
Каб я высахла ў лісцінку,
Каб не ўбачыла святла,
Гэта кошачка была!
Муж мой, ці ж мая віна,
Што ў цябе я не адна!

## ***ШЛЯХАМ БУЛЬБЫ***

Паспела бульба спешка
I ахапіла спешка
Паспець
Капаць і звесці,
Драць, гатаваць
I з'есці.

На плечы ўзяць
Хагуль бы
I рушыць
Шляхам бульбы.

Старацца
Ў гэтым

Жыць жыцці:
Дзе ні пасадзяць —
Узыйсці!

*12.XII.2012*

## НЕ ЎСЁ...

Цыганка,
Паваражы.
Хто кватараваць будзе
У гэтай будзе,
Скажы.

Цыганка,
Паваражы.
Коні бяссоння
На ўсім разгоне
Парвуць гужы.
Замовай
Не новай
Наноў завяжы.

Цыганка,
Паваражы.
У цёплым хлудзе,
У беспрабуддзі
Спіць страх
На мяжы.

Дай выспацца ліху,
Ступай паціху
Па карчоўю,
Па дуддзі!

Не-
раз-
бу-
дзі...

*16.VIII.2013*

* * *

А трэба няшмат,
Каб душой наталіцца:
Акрайчык блакіту,
Глыток навальніцы...

* * *

І позіркі ў зорак замгляцца.
Прыкінецца цемра святлом.
Растаючыся з сабой,
Па-зямляцку
Да жыцця прысланіцца плячом.

* * *

Самай кароткай сцежкай
Пытанне ідзе знарок:
Святло палуднуе ўсмешкай,
А чым вячэрае змрок?

### НІЯКАВАТАСЦЬ

Не зважае на ветравы кпіны
Згарбелы курган.
Даткнуўшыся
Да сцягна вярбіны,
Збянтэжыўся маладзюткі туман...

* * *

З ганьбаю пахвальба
Хочацца размінуцца.
Лёгка выйсці з сябе.
Цяжка ў сябе вярнуцца.

* * *

Шчадруе ціша скупая.
Заікаецца рэха ад замілаванання.
Гэта Ўсявышні небам ступае.
Крокі Ягоныя як дыханне...

* * *

Каб у сне заблукаўшы,
Сцежку знайсці,
Трэба прачнуцца.
А ў жыцці?..

* * *

Лёс удачу дзеліць па-скупечы
Пра сябе клапоціцца знямога.

Выжываюць чалавека
З хаты рэчы.
Чалавек сябе – з сябе самога...

* * *

Мусіць, і ў ледзяша
Ёсць таксама душа,
Толькі яна сцюдзёная.

* * *

Вушацкі дождж сваё шапоча.
Вушацкі гром сваё грыміць.
Мяне расчуліць кожны хоча.
Мне добра...

### *ПАРАДА*

Шчупа льга наўпрост
Лавіць за хвост.
А яшчэ лепей —
Браць за шчэлепы.

### *НАКІД*

Дзень свой цень хавае.
Лета спачывае.
Восені дарэчы
Пацеркі парэчак.

### *ЗАКЛІК*

Маладыя дзецяробы!
Жылістыя вершаробы!
Будзьце,
Покуль вам рука,
Вартыя высокай пробы
Самагонкі й каньяка!

* * *

Галоўнае ў гэтым жыцці —
У час адыйсці...

* * *

На золку
Далей ад дарог
Стог шукае іголку,
Іголка — стог.
А навальніца чакае...

* * *

Па далані ліста
Варожыць восень,
Ці доўга дрэву
Раскашавацца...

* * *

А што за істота жах?
Ці ён жывы,
Ці ад болю
Утойваецца ў крыжах,
Узяўшы закладніцай долю?

* * *

Недарэчы неба раку —
Рэчка трэба небараку!

### ***ПЫТАННЕ***

Гарачы град з вачэй
Балючаю заслонай.
Жыццё пражыць лягчэй,
Чым стаць травой зялёнай?..

* * *

Не загадаць журбе
Колер змяніць зялёны
Упэўненыя ў сабе
Восеньскія вароны...

* * *

Павук хацеў бы пахваліцца,
Што небасхіл схітрыўся сшыць.
Лісток апошні на галінцы

Яшчэ дрыжыць,
Бо хоча жыць...

** * **

Талент,
Як самы бедны на свеце,
Чакае міласціны
Ад Усятрымцы.
Тым і жыве.

** * **

Спачатку слова было.
А святло?
Спачатку была пятля.
Гальштук пасля?..

** * **

Жыццё — надзея.
Смерць — падзея.
Чаканне — наканаванне.

***?***

Сон — сцэнар
Замагільнага жыцця...

***З МІНУЛАГА***

І як ні звярэлі,
Як глоткі ні дралі,
Але самагонку
Ў калгас не загналі.

***ЛАГІЧНА***

Усё жыццё,
Пакуль не злёг,
Ён працаваў на некралог...

***У АСНОЎНЫМ...***

У плётак далікатнасці няма.
Хлусня

Трымае ісціну за кратамі.
Гісторыя — цікаўная кума
Харчуецца ў асноўным
Канцэнтратамі...

* * *

Хто бачыў,
Як плача пятля,
Вітаючы караля?..

* * *

У люстэрка гляджу
І прывыкаю да шаржа.
Не паленаваўся шаржыст...

* * *

Нялёгкае гэта мастацтва —
Падобным да сябе заставацца...

*12.VII.2012*

* * *

Сябе не шкада
Ні на страты,
Ні на залёты
Прысуджанаму захапленнем
Да
Вышэйшай меры пяшчоты...

*18.VI.2013*

* * *

Узгадваючы бяседы соў,
Чую
Апошнюю тую,
Як праменне тваіх валасоў
І ад спёкі
Мяне ратуе...

*4.VI.2013*

* * *

За ўсіх,
Што быць маглі б,
Ты лепшая была.

Неразгаданасць глыб
Начэе без вясла.

Настрой —
Капрызны госць
Ратуе плынь ад крыг.
Ты ў гэтым свеце ёсць,
Каб быць
Адной за ўсіх.

Кранае потай дна
Самотнай хвалі ўсхліп.
Ты лепшая адна
За ўсіх,
Што быць маглі б...

*8.III.2011. 0:15*

* * *

*Акрадзякуй*

**В**ядзе душу дапытны лёс,
**А** лёс душа вядзе.
**Л**яціць вандроўніцай нябёс,
**Я**к запытацца, дзе
**Д**арога стоміцца, а там
**З**астогне бор густы.
**Я**шчэ душа твая, як храм
**К**удзейны з любаты.
**У** храме думак нездарма
**Ю**рма маўчыць сама...

*7.III.2013*

## *СВАЯЧКІ*

У Някляева — Вольга.
У Расіі — Волга.
У абедзвюх — шчырасць і глыбіня.
Над абедзвюма — зорная даланя.

* * *

Родная старана,
Я адчуваю ў спёку
Тваю раку
На сваім плячы...



Андрэй Федарэнка



...я асабіста
нікому нічога
не павінен...

# Дзядзька Адольф

*Аповесць*

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### I

З гэтым дзядзькам Адольфам у 55 гадоў здарыўся крызіс.

Да крызісу ён жыў сабе ціха-мірна ў раённым гарадку на беразе Дняпра, меў кватэру, дачу, жонку, мапед і двое дзяцей, працаваў на камвольным камбінаце мастаком-афарміцелем: малякаў плакаты па тэхніцы бяспекі, розныя лозунгі-транспаранты, усялякія буклеты-лістоўкі, пісаў каліграфічным почыркам (пакуль не было кампутараў) прозвішчы і пасады на шыльдах для дзвярэй начальніцкіх кабінетаў – словам, займаўся чым папала, нагляднай агітацыяй.

У выхадныя выязджаў на прыроду маляваць акварэлькі і, канечне, марыў пра маштабнае палатно.

Ён хацеў напісаць такі шэдэўр, які б ахопліваў усё.

У ім павінны былі адлюстравацца асноўныя перыяды гісторыі беларускага народа, нацыянальныя рысы яго характару, а таксама прырода ва ўсёй паўнаце і непаўторнасці. Яшчэ шэдэўр павінен быў несці глыбокі філасофскі падтэкст і ў розных перспектывах раскрывацца па-новаму.

Ды вось час! Дзе набрацца часу? Жонка Ірына, разглядваючы акварэлькі, таксама казала з уздыхам:

– Часу табе, Адольф, не хапае. Эх, каб табе час! Ты б, можа, намаляваў яшчэ не горш, чым Рафаэль.

За гэта – за такія словы – Адольф яе паважаў, але ў цэлым ставіўся да жонкі крышку іранічна. Яна не мела ніякіх талентаў, працавала звычайнай камвольшчыцай, да таго ж была круглая сірата, з дзіцячага дома. Адольф жартам называў яе Ірына Бацькаўна. Яна не крыўдзілася, адчувала, што не роўня таленавітаму мужу. Бегала сабе раніцай на камбінат, увечары назад, цягнула ўсю гаспадарку, выхоўвала дзяцей – яны, дарэчы, зваліся так, як і бацькі: сынок – Адоля, дачушка – Ірачка.

Раней, у маладыя гады, Ірына вельмі раўнавала мужа, баялася, каб не паклаў вока на якуюсь спакуслівую камвольшчыцу, адсочвала кожны яго крок. Але кот сала захоча – знойдзе, пільнуй не пільнуй... Таму перыядычна паміж імі ўзнікалі канфлікты, здараліся сур'ёзныя скандалы, са слязьмі, папрокамі, крыкамі, нават з пакаваннем чамаданаў і пагрозай разводу.

Потым усё прайшло. Муж астыў, паспакайнеў, супакоіўся. І калі ў час выпіўкі маладзейшыя сябры-калегі спрабавалі завесці дзядзьку Адольфа на анекдот, ці раскруціць на якую-небудзь пікантную, інтымную гісторыю са сваёй біяграфіі, ён альбо адмахваўся: "Ай, я ўжо стары!" – або з выглядам прафесіянала, што вымушаны спускацца да дылетанцкага ўзроўню, паблажліва адказваў:

– Усё гэта не так цікава, як здаецца ў пачатку.

З радні ў Адольфа застаўся толькі старэйшы брат Іван. Іх бацькі, заходнебеларускія сяляне з-пад Мядзела, даўно памерлі. Так атрымалася, што Іван жыў ад Адольфа на другім канцы Беларусі, чорт ведае дзе, у самай палескай глушы, на лясным хутары каля чыгуначнай станцыі Старушкі – кіламетраў 300 ад Мінска і яшчэ 100 да Адольфавага гарадка. Іван працаваў лесніком, яго жонка Ніна – бібліятэкаркай у Старушках. Туды ж, у школу ў Старушкі, хадзілі пехам з хутара іх дзеці: старэйшы Талян і малодшы Лёнік.

Зрэдку Іван з Нінай прыязджалі да Адольфа ў госці. З братам было лёгка, ён паводзіў сябе, як і належыць чалавеку ў гасцях. Асцярожна ступаючы ў шкарпэтках, хадзіў па кватэры, усё хваліў, усім захапляўся, гаспадыні Ірыне не шкадаваў шчодрых кампліментаў, нават такога ўзроўню:

– Які цукар у вас салодкі! – казаў, калі пілі гарбату.

А калі гарэлку:

– Якая гарэлка мяккая – у горле не стаіць!

Гладзіў па галоўках дзяцей, і аж вочы ў яго вільгатнелі ад замілавання:

– Ну чыстыя анёлы нябёсныя!

Сядаючы на канапу, не забываў сказаць:

– Бач ты, якая зручная для сядзення канапа...

І на балконе, прыкурваючы цыгарэту, Іван не маўчаў:

– Шырокі ў вас, прасторны балкон! А прыгажосць якая зверху!

Хаця “прыгажосць” была – вершаліны дрэў, аўтобусны прыпынак ды воддаль – квадратны аблезлы дах камвольнага камбіната. Калі ж справа даходзіла да братавых малюнкаў і Іван падымаў вочы на сцяну, на акварэлькі – тут ужо яго захапленню не было межаў, проста слоў не знаходзілася. Ён толькі прыцмокваў языком.

– Ай і карціна! Як на фатаграфіі! – і варушыў пальцамі, нібы збіраўся памацаць ствол намаляванага дрэва ці пагладзіць травінку.

Затое Ніна, яго жонка, вельмі стрымана, суха паводзілася, нічога не хваліла. Нават багата сабраны стол ёй не падабаўся. Толькі падціскала вусны і казала з лёгкім дакорам:

– Ці трэба ўжо такі меркантылізм?

Ірына Бацькаўна слалася, не ведаючы, як ёй дагадзіць, і ўсё дарэмна. Нават Адольф, гаспадар, і той ніякавеў перад братавай, пабойваўся яе за падцісканне вуснаў, катэгарычнасць, аскетызм, а яшчэ – за незразумелыя паводзіны. Напрыклад, яна мыла рукі не калі заходзіла ў кватэру, як усе людзі, а калі выходзіла, перад ад’ездам.

– Ну, – казала, – трэба ісці мыць рукі, ды будзем развітвацца.

Адольф з жонкаю кожны раз потым ламалі галовы, што б гэта магло значыць, і не знаходзілі тлумачэння, акрамя асацыяцыі з выразам – “умываю рукі”.

Прыезды сваякоў былі рэдкія, раз на год максімум. Да таго ж і сустрэчай гасцей, і ўладкаваннем, і пачастункам, і адпраўкай – усім займалася жонка. А Адольф, натура творчая, як толькі выпадаў вольны час і дазваляла надвор’е, закідваў мальберт за плечы, заводзіў мапед, і – на акварэлькі.

– З’езджу на акварэлькі! – казаў ён, як рыбакі кажуць – “на акунёў”, ці паляўнічыя – “на качак”.

З берага Дняпра адкрывалася прыгожая, шырокая панарама. Адольф ставіў мальберт, або з эцюднікам хадзіў па беразе, выбіраў ракурс, накідваў на паперу эскізы, замалёўкі. Зрэшты, які б ракурс ён не выбіраў, на якое б месца не станавіўся, выходзіла адно й тое ж: выгін Дняпра, лугавіна за ім, купка асін, дарога ў полі, кавалак неба і купал цэркаўкі.

Ён так на гэтай тэме натрэніраваў вока і набіў руку, што, у прынцыпе, яму і на натуру выязджаць не было асаблівай патрэбы – дома маляваў па памяці, і ўсё роўна атрымлівалася вельмі прыгожанька, проста копія, як у сапраўдных майстроў пейзажу, асабліва калі акварэль узяць у рамку пад шкло або ў звычайнае паспарту.

Акрамя маральнага задавальнення, малюнкі здорава выручалі ў сэнсе эканоміі грошай. У Адольфа ніколі не было клопату перад 8 сакавіка, ці на Новы год, ці проста – калі сам ідзеш у госці, або да цябе прыходзяць – заўсёды гатовы падарунак-сувенірчык.

Мелася ў яго яшчэ адно хобі. У выхадныя ён любіў выпіць і паіграць на гармоніку, што застаўся ад бацькі. Асабліва прыемна было ўвосень, калі вечар, за вакном непагадзь, вецер ірве лісце з дрэў... А дома так утульна, суха. На стале выпіўка, закуска... І ўсё ў яго так спакойна, ладна. Дзеці добра вучацца. Жонка тут.

Адольф выпіваў чарку гарэлкі, адчуваў, як цяплее на душы. Браў гармонік. Гладкія перламутравыя кнопкі слухаліся пальцаў, пакой запаўняла мелодыя песні “Чобаты вы мае”.

Хоць яму крыху сорамна было, што замест пісання шэдэўра марнуе

час, траціць яго на пустое, але надта любіў ён такія вечары. Ён называў іх “маленькай слабасцю”.

Здаралася, што “слабасць”, акрамя выхадных, прыхоплівала яшчэ і панядзелак. Потым, у аўторак, на пытанне: дзе быў? чаму прагул? – Адольф з вінаватай усмешкай адказваў:

– Ну вы ж ведаеце – ёсць у мяне гэтая маленькая слабасць!

І яму даравалі.

## II

Вось так да крызісу жыў чалавек. Не горш, а бадай, лепш за іншых. Меў хлеб і да хлеба, жонку, мапед, дзяцей, працу і мару пра шэдэўр, якім рана ці позна спадзяваўся здзівіць калі не ўсё чалавецтва, дык хаця б некаторых знаёмых з камвольнага камбіната.

А час – як толькі ён адзін умее – бег сабе і бег. Ды не проста бег – ляцеў! Усё змянялася вакол. Адольф даўно ўжо карыстаўся мабільным тэлефонам, і патрошку – інтэрнэтам. Прадукты хадзіў купляць не ў гастраном, а ў супермаркет. Надпісы на шыльдах для начальніцкіх дзвярэй не пісаў тушшу каліграфічна, а набіраў на кампутары якім хочаш шрыфтам і выводзіў на прынтары. Разбіраўся ў тэрмінах “крэдыт, лізінг, іпатэка” – прынамсі, ведаў, што яны абазначаюць. Камунальныя паслугі аплочваў у філіяле банка замест ранейшай ашчаднай касы. Зарплату атрымліваў па картцы ў банкамаце, прычым, здымаючы грошы ў беларускіх рублях, абавязкова хоць нейкую частку з іх вылучаў на пакупку даляраў, а потым дома разыгрываў жонку: то выдумляў, што даляры ўкралі, ці што ён іх згубіў, ці няправільна іх налічылі, ці што фальшывыя яны – і жонка кожны раз паддавалася, рабіла выгляд, што верыць, вохкала, божкала, а ён у апошні момант спаважна даставаў некалькі замежных купюраў. Яны любілі так пагуляць.

Двор іхні пакрысе, з кожным годам запаўняўся новенькімі машынамі самых розных памераў, марак і колераў, – ужо нават па тратуарчыку немагчыма было прайсці, а трэба праціскацца бокам. А некалі Адольфаў мапед быў адзіны траспарт на ўвесь дом.

Раней з усяго дома толькі ў іх кватэры быў зашклёны балкон – цяпер ва ўсіх стаялі еўрапакеты, а іхні балкон калі чым і выдзяляўся, дык хіба што перакошанай драўлянай рамаю і трэснутай шыбкай, заклеенай скотчам.

Яшчэ не так даўно са сваімі малюнкамі Адольф быў ледзь не адзіны на ўвесь раён “бізнесмен”. А цяпер – куды ён са сваёй акварэлькай, кошт якой пляшка гарэлкі? – неяк сорамна было ўжо нават бясплатна дарыць.

Дача іхняя цяпер выглядала хлеўчыкам у параўнанні з катэджамі-камяніцамі, што ўзносіліся побач.

Дзеці, гэтыя анёлы нябёсныя, таксама шпарка раслі. Вось ужо і сыну Адольфа – Адолю, прыйшла позва ў ваенкамат. Старэйшы Адольфаў пляменнік, Талян са Старушак, той увогуле ўжо год як адслужыў і нават паспеў ажаніцца – жыў у жонкі ў Гомелі. Дачка Ірачка непрыкметна вымахала ў дарослую дзеўку, рыхтавалася да выпускных экзаменаў, капрызнічала і псіхавала. Тут да ўсяго яшчэ брат Іван памёр.

На пахаванні першае, што кінулася Адольфу ў вочы, – як змянілася Ніна: у чорным, заплаканая, пастарэлая, прыгорбленая. І побач з ёю Талян, такі дарослы! Талян быў у ваеннай форме, толькі з адпоратымі пагонамі

і без шаўронаў. Хоць вярнуўся ён з войска даўнавата, з формай не хацеў развітвацца, яна пасавала яму. Прыгожы, падобны на маладога Адольфа, толькі ростам больш гонкі. Засмучэння вялікага не было на яго твары.

Гаварыў Талян з дзядзькам па-мужчынску. Закурыў цыгарэту, расказаў шэптам, азіраючыся, што служыў у сакрэтнай роце. Малако давалі, плюс ільготы, прыроўненыя да "чарнобыльскіх" і "афганскіх".

– А чым займаліся?

Талян азірнуўся, прыціснуў палец да вуснаў: маўляў, цыц! што вы! ваенная тайна! Паказаў на адной руцэ два пальцы, на другой растапырыў усе.

– Дваццаць пяць! Пацярпіце, дзядзя, – зашаптаў на вуха. – Праз дваццаць пяць гадоў усё даведаецеся. Не раней! Дзядзя, – зрабіў страшныя вочы, – я вам нічога не казаў – вы нічога не чулі. Усё. Рот на замок, ключ у ваду.

Лёніка нідзе не было відаць. Ні на могілках, ні ў двары, ні ў хаце. За жалобным сталом Адольф пацікавіўся, дзе ён. Ніна адвяла вочы.

– У лесе сядзіць, хаваецца, – неахвотна сказала. – Потым прыйдзе на магілку, калі ўсе разыдуцца. Дзіўны ён у нас. Ранімы. Сярод людзей яму не ўтульна... Не кожны разумее... Смяюцца з яго. А гэта хвароба такая, сацыяфобія. Прасцей кажучы – людабоязь.

– Во мая мамка Нінка дае! – з захапленнем абняў маці Талян. – Усё на свеце ведае! Больш за энцыклапедыю! Другой такой разумнай на планеце не знойдзеш!

Талян знешнасцю ўдаўся ў дзядзьку, а характарам – у нябожчыка-бацьку, не скупіўся на пахвальбу.

Цяпер ён, выпіўшы, то хваліў маці, то завочна бараніў брата:

– Лёнік у нас, дзядя, во такі! Вам не перадаць! Кожную сцежачку ў лесе ведае! Такі геній, якіх не было і не будзе!

– А ты чаму адзін? – спытаў Адольф. – Без жонкі? Ці ўжо? – ён акругліў рукі каля жывата.

– Не, яшчэ на курорт не адпраўляў, – засмяяўся Талян.

– Як?

– Ну, пытаюць: "Чаму ў цябе дзяцей няма?" – "Ды ніяк жонку на курорт не збяруся адправіць!"

– А-а, – Адольф таксама засмяяўся, потым пасур'ёзнеў. – Трэба месяц не папіць, – сказаў ён тое, што яму раілі, калі Іра год не магла зацяжарыць. Адольф паслухаўся, месяц не піў – сапраўды памагло.

Пасля гэтага пахавання і пачалося, і пасыпалася!

Толькі правялі ў армію сына, тут дачка Ірачка раптам аб'явіла, што яна на "чацвёртым месяцы", а віноўнік – азербайджанец, які на мясцовым базары трымае кіёскі. Так што яна пасля экзаменаў збіраецца замуж.

Жонка ламала рукі, і плакала, і біла яе, і на каленях прасіла апамятацца... Ды што ўжо тут. Усё роўна атрымалася па даччыному, улетку выйшла замуж, перабралася да азербайджанца, а неўзабаве ашчаслівіла бацькоў чарнявенькай унучкай.

Адольфа з усяго калейдаскопа падзей найбольш уразіла, што ён ужо дзед.

Вось дык навіна!

Ён пазіраў на сябе ў люстэрка. Ну які ён дзед? Калі выглядае на 40, а адчувае сябе на 18? Праўда, трошкі пачаў лысець. Валасы кучараваліся

вакол лысінкі, як лаўровы вянок, а нос з гарбінкаю ў профіль рабіў яго падобным на рымскага патрыцыя. Не, ён яшчэ мужчына хоць куды.

У чым жа справа? Што яго круціць?

Ну, дзеці. Дык яны і павінны вырастаць, служыць у арміі, выходзіць замуж... Рана ці позна іхнія лёсы выступяць на першы план, засланяючы бацькоўскія. Тым больш дзецьмі, калі шчыра, Адольф і так не займаўся, выхоўвала іх Ірына Бацькаўна, таму цяпер ён з чыстым сумленнем перакладваў віну за тое, што здарылася з дачкою, на жонку – не ўпільнавала, не дагледзела.

Ну, брат Іван памёр. Дык ён старэйшы – старэйшыя і павінны паміраць раней за малодшых.

Ну, усе грошы ляснулі на пахаванне, вяселле і провады ў войска... Дык на тое яны і капіліся...

Тут Адольф зноў пачаў думаць, што вось ён ужо дзед. А чаго ён дасягнуў у жыцці ў параўнанні з іншымі? І са здзіўленнем сам сабе адказаў – нічога.

Пакуль ён пісаў акварэлькі, граў на гармоніку “Чобаты” і аддаваўся “маленькай слабасці”, прайшлі, прабеглі, праімчаліся самыя цікавыя, пераломныя гады! Хітры час падмануў яго. І ён, па-сутнасці, звычайны няўдачнік. Горкае слова!

Хіба такога жыцця ён хацеў? Не. Ён марыў, каб з ім здарыўся які-небудзь цуд. Напрыклад, буйны выйгрыш у латэрэю. Каб яму хоць крыху пашанцавала. Хацеў павагі да сябе з боку іншых. Не зашкодзіла б таксама – чаго ўжо тут? – лёгкай зайздрасці, звычайнай, чалавечай... І каб спакойна было за заўтрашні дзень.

А так – ён дзед, без грошай, з ненапісаным шэдэўрам, з гармонікам і лысінай... Неўзабаве на пенсію. І што – сесці на лавачцы і няньчыць азербайджанскіх унукаў?!

## III

Думка, што ён няўдачнік, што жыццё магло б скласціся інакш, а ў яго не склалася і наўрад ці ўжо складзецца, не давала Адольфу спакою.

І праўда, настаў нейкі крызіс. Так, жыве. А чаго жыве? Пытанне! Адольф нават узяў за свой кошт адпачынак, каб у адзіноце паспрабаваць з усім гэтым спакойна разабрацца.

Дзе ён зрабіў памылку? Што было не так? Ну, “маленькая слабасць”, ну, беларуская нацыянальная хвароба лянота... Не такія вялікія грахі.

Маўклівы зрабіўся Адольф, задумлівы, рассеяны. Пасвістваў уголас, а на жончыну заўвагу не свістаць, бо грошай не будзе, з гатоўнасцю адказваў:

– Іх і так няма! – і ў голасе яго чуўся дакор, нібыта ён адзін грошы зарабляў, а жонка тое і рабіла, што траціла.

Выпіваць пачаў часцей, чым да крызісу. У галаве тады адразу святлела, і ён дзяліўся з жонкаю сваімі думкамі.

Ён ёй тлумачыў у даходлівай форме пра перавагі іхняга старога добрага часу перад цяперашнім:

– Раней як было? Праца і сціпласць. Два словы, два кіты, на якіх усё трымалася. Будзеш працавіты і сціплы – усё астатняе само да цябе прыплыве. І грошы, і слава, і павага, і кар’ера... Усё цябе само знойдзе. А

цяпер? Наадварот. Спачатку дайце мне грошы, славу – а тады я адразу стану сціплы і працавіты. Усё пастаўлена з ног на галаву!

Жонка слухала, згаджалася, падтаквала.

Але Адольф бачыў, што яна не разумее яго. Яна не магла ўзвысіцца да тых пытанняў, якія вярэдзілі яму душу, бо прымітыўна лічыла, што самае галоўнае – гэта здароўе, ды спакойны сон, ды добры настрой, ды каб лад у сям'і. У яе не было крызісу. Яна па-ранейшаму бегала на свой камвольны, не забывала вясці хатнюю гаспадарку і сачыла, каб муж не заставаўся галодны.

– Гэта раз, – казаў Адольф. – А другое – праца абясцэнена! Яна страціла ўсялякі сэнс. Яна не развівае, не бадзёрыць, а прыніжае і атупляе. Працаваць дзеля ежы, дзеля запісу ў працоўнай кніжцы – абраза чалавека, найвялікшы здзек з яго!

– Нічога, – суцяшала жонка. – Ты яшчэ ўсіх за пояс са сваім розумам і талентам затыкнеш. Эх, часу каб табе! – усё шкадавала яна.

Але Адольф ад гэтых слоў крывіўся. Яе падтакванне, пакорлівая згода ўжо не цешылі яго самалюбства. А згадкі пра недахоп часу – вечная адгаворка гультаёў і няўдачнікаў – толькі раздражнялі яго. Увогуле, яго адносіны да жонкі змяніліся пасля таго, як яна стала бабуляй. Простая, сціплая, але мілая, як васілёк у жыце, цяпер яго Ірына Бацькаўна неяк выцвіла і паблякла. Не тое, што знікла яе ранейшая вабнота, а як бы змяніўся фокус і парушылася сіметрыя.

Яна не стала непрыгожай, усе тыя ж рысы засталіся, але калі раней яны выклікалі ў душы ціхую заміранасць, дык цяпер – толькі жаданне шкадаваць яе. І гэта было непрыемна.

## IV

Раптам усё абрыдла Адольфу. І жонка, і кватэра, і балкон, і панарама з балкона, і гармонік... А сама больш праца. Нават думаць пра камвольны камбінат стала моташна.

Адольф цвёрда вырашыў, што калі адпачынак скончыцца, ён падасць заяву.

– Напішу "па ўласным", – аб'явіў ён жонцы.

– І правільна! І даўно пара! Хай пабачаць, як без цябе...

– Паеду ў Маскву двары падмятаць. Ці цэглу на будоўлі падносіць.

– Яшчэ чаго! Не дачакаюцца! Я цябе не пушчу. І так не прападзем. Агарод свой, дзеці дарослыя. Колькі нам трэба? А ў цябе затое час з'явіцца – на акварэлькі, на палатно...

Адольф моршчыўся, бо і акварэлькі, і палатно яму абрыдлі. Адзінае, што яму не абрыдала, дык гэта спіртное. Яно давала вастрыню розуму і яснае адчуванне ўсяго, што адбываецца. У такія хвіліны Адольф разумеў усё – усе пачаткі і канцы.

Ён пакрысе прывык піць і філасофстваваць. А слухачом, хочаш не хочаш, даводзілася быць жонцы.

– Пра якую працу можа быць гаворка, калі людзі бачаць, як дваццацігадовы хлапчук адным націсканнем клавішы на кампутары зарабляе мільён даляраў?

– І ты будзеш зарабляць мільён даляраў, – з цвёрдай упэўненасцю казала жонка. – Кінеш гэты камвольны, час з'явіцца...

– Пры чым тут час? – злаваўся Адольф. – Я ў цэлым бяру! Увогуле сітуацыю!..

Паступова ў яго разважаннях усё больш пачало з'яўляцца агрэсіўных нотак. Адольф выпіваў; разам з алкаголем наліваўся нядобрым імпэтам, і, як Ягор Булычоў, пачынаў выкрываць.

Нібыта ён быў які суддзя, ці пракурор, ці народны абвінаваўца, а ўяўная аўдыторыя (жонка) перад ім – падсудныя.

Сэнс яго "выкрыванняў" зводзіўся да таго, што ўсе вакол кепскія, адзін ён добры.

Злодзеі, бессаромнікі, прайдзісветы стварылі, у яго, Адольфа, не папытаўшы, самы што ні на ёсць дзікі капіталізм, пад шумок пабудавалі ідэальнае грамадства татальнай несправядлівасці.

Сумленнаму, шчыраму, а, значыць, непрактычнаму чалавеку ў такім грамадстве няма месца. Ён пастаўлены ва ўмовы, пры якіх у яго знікае павага да самога сябе. Адсюль – стрэс, ад стрэсу – выкіды ў кроў гармонаў трывогі, а гэта прымушае арганізм увесь час працаваць на павышанай хуткасці, як матор, якому не даюць адпачыць; адсюль вынік – хваробы, бяссонніца, хуткае старэнне.

– Па ідэі, – развіваў думку Адольф, – любая хвароба, ад грыпу да зубнога болю, справакавана такім грамадствам. І за тое, што я цяпер п'ю, я смела магу падаваць зыск у Страсбургскі суд... на грамадства!

Во да чаго пачаў дагаворвацца дзядзька Адольф, вось у якія вышыні сягаў яго абвінаваўчы запал, во да такіх вялікіх наступстваў прывяла чалавека маленькая слабасць!

– І – перастаньце! – гнеўна звяртаўся ён да сваёй "аўдыторыі" (да жонкі). – Мне вашыя гульні ўжо надакучылі! Усё не так цікава, як здаецца напачатку. Выбачайце! Маё шанаванне! – насоўваў на галаву капялюх і выходзіў.

Праўда, працверазеўшы, Адольф прасіў у жонкі прабачэння, бажыўся, што нічога не памятае, што такога не магло быць, бо ён сябе ведае, ён па натуры добры, мяккі, нікому зла не жадае, не зайздросціць, і цвёрда абяцаў, што больш такога не паўторыцца.

Але яно паўтаралася.

Жонка ніколі яго такім раней не бачыла і цяпер са страхам сачыла за пераменамі. Яна і не думала, што ў яе мяккага, бяскрыўднага, далікатнага Адолі можа жыць усярэдзіне іншы чалавек – агрэсіўны, злосны. Яна з усіх сілаў спрабавала ўратаваць сям'ю, спадзявалася, што муж апамятаецца, вернецца да сябе ранейшага, і ўсё ў іх зноў будзе, як у людзей, ладна, зграбна, прыстойна.

Скончыўся адпачынак – Адольф аднёс заяву "па ўласным". Думаў, будуць упрошваць застацца, хоць бы ўлічаць яго стаж, хоць бы спытаюць прычыну. Нічога падобнага! Загадчык аддзела кадраў – чалавек новы, супрацоўнікаў не ведаў, падмахнуў заяву з радасцю, бо і так камбінат ледзь ліпеў, трэба былі скарачэнні. Гэта яшчэ больш пераканала Адольфа ў тым, што цяпер любому на любога начхаць.

Ён атрымаў разліковыя, і на гэтыя грошы загуляў па поўнай. Ужо і не апраўдваўся, проста наліваў сам сабе і піў. Да жонкі пачаў чапляцца. Падкрэслена звяртаўся да яе на "вы", нібы яна была яму ворагам, нібы гэта менавіта яна, жонка, знарок стварыла грамадства татальнай несправядлівасці, спецыяльна зрабіла так, каб мужу кепска было.

– Я – Адольф! Папрашу запомніць! – стукаючы костачкамі пальцаў па стале, казаў ён (а жонцы слухай). – У мяне размова кароткая! Калі што – выбачайце!

Апранаўся, браў капялюш, кідаў пагардліва:

– Маё шанаванне!

Выходзіў, праз пяць хвілінаў як ні ў чым не бывала вяртаўся, вешаў капялюш, плашч і пачынаў новую лекцыю. Ён ужо забываўся, дома ён ці дзе.

Жонка да таго змучылася, што не вытрымлівала – сыходзіла, начавала ў сяброўкі, у суседзяў, каб толькі не чуць, не бачыць гэтага. І ўвесь час прасіла, каб ён схадзіў да доктара. А аднойчы сказала:

– Калі ты не зменішся, я падам на развод.

Адольф ухапіўся за гэтыя неабдуманыя, з гарачкі вымаўленыя словы.

– Ха – развод! Хоць зараз! Гаршчок аб гаршчок – і маё шанаванне!

Яны з Ірынаю і без таго ўжо не жылі разам (як муж з жонкаю), а цяпер Адольф яшчэ і аддзяліўся тэрытарыяльна: пасцілаў сабе на канапе ў другім пакоі.

Ён нават развёў цэлую тэорыю, што людзі проста абавязаны разводзіцца пасля 50 гадоў – незалежна ад абставін.

– Калі хочуць застацца людзьмі, – удакладняў Адольф.

Бо, паводле яго тэорыі, шкодна жыць разам так доўга. Добрыя пачуцці астываюць, нараджаюцца новыя, злыя, і пачынаюць труціць жыццё. А ў некаторых народаў не толькі жонку, нават імя трэба мяняць перыядычна. Нават працу, хоць самую любімую, рэкамендавана раз у сем гадоў мяняць у Японіі.

– Што я, Адольф, і зрабіў!

Беднай Ірыне Бацькаўне, галоўнае, памагчы не было каму. Сын у арміі, дачка са сваім азербайджанцам не магла разабрацца, да таго ж зноў была цяжарная. З адчаю Ірына Бацькаўна дазванілася Ніне ў Старушкі ў бібліятэку: прыедзь! памажы! мо хоць ты на яго паўплываеш! мо цябе паслухае!

Ніна прыехала з сынам Талянам. Першае, што радасна з парога заявіў Талян, было:

– А я, дзядзя, таксама разводзіцца думаю! Мне яна трэба была, тая жаніцьба?

Ніна пастарэла, але характарам не змянілася. Такая ж аскетычная, непрымірымая, з падціснутымі вуснамі. Яна ўздыхала асуджальна.

– Усё ад багацтва... Усе злыбеды. Меркантыльнасць, мяшчанства зацягвае людзей у вір.

І зноў Талян:

– Я ад сваёй толькі і чуў – грошы, грошы... А дзе я іх вазьму? На заводзе з цямна да цямна, як да рэвалюцыі. Вось Лёнік, брацельнік мой, малайчына – блізка да сябе дзевак не падпускае! Цяпер такія дзеўкі, што лепш аднаму! Ды і які ён адзін? – прырода, лес, вада...

А за ім Нінка:

– Усё ад няма чаго рабіць. Жыць багата сталі. Бедныя не задумваюцца, у іх няма клопатаў, жывуць як набяжыць...

І Талян:

– А мне і з маёй мамкай Нінкай добра! Развядуся – і да Лёніка, да

мамкі на Хутар пераеду. Дзяцей няма, аліменты плаціць не трэба... На армейскія ільготы буду жыць. Паспытаў чужога жыцця – хопіць! Прыеду на Хутар, да мамкі з Лёнікам, брацельнікам маім... Лепш нідзе ў свеце не знойдзеш!

Жонка сама не рада была, што іх запрасіла. Нічога яны не памаглі. Наадварот, пасля іх ад'езду Адольф, бачачы, што ўправы на яго няма, усё часцей закатваў сцэны, і гэта нагадвала ўжо не маленькую слабасць, а сур'ёзную хваробу.

Любая хвароба канчаецца бальніцай – і гэтая тым жа скончылася. Не вытрымала ў Адольфа нагрузак сэрца... "Хуткая"... Мікраінфаркт. Ірына Бацькаўна ўспрыняла гэта як знак зверху. Змянілася, ажыла, нават вочы памаладзелі. Ездзіла кожны дзень праз увесь горад да мужа ў бальніцу, начаваць гатова была каля палаты. Акрамя таго, дабілася прыёму ў дырэктара камвольнага камбіната, сарамаціла: "Нельга ж так кідаць чалавека", пагражала судом, упрошвала, прыніжалася: "Хоць адведайце, слова скажыце..."

У палату да Адольфа прыйшлі з прафкама, прынеслі тры кілаграмы апельсінаў, паабяцалі выпісаць яму бясплатную пуцёўку ў прафілакторый, прасілі прабачэння, што пагарачыліся, звольніўшы яго.

– Нам трэба было самім здагадацца і вас адправіць у прафілакторый. Так што падлечвайцеся – і прыходзьце назад, прымем адразу, на лягчэйшую работу з захаваннем заробку перавядзем, усе ўмовы створым...

Адольф не ведаў, што гэтым візітам ён абавязаны жонцы. Ён думаў, гэта іх сумленне заела. Ён ляжаў на белых прасцінах, сам белы, прысмірэлы, упершыню за доўгі час цвярозы. Пра алкаголь цяпер не магло быць размовы.

Праз тры тыдні ён выпісаўся з кіпай рэцэптаў на руках і рэкамендацыйным заключэннем. Дыягназ гучаў так:

"Артэрыяльная гіпертэнзія I ст., рызыка 3. Пралабіраванне мітральнага клапану 1 ст. (3,4 мм) з мітральнай рэгургітацыяй 1 ст. Нярэзкая шчыльнасць АО, створак АоК. Трыкуспідальная рэгургітацыя 1 ст. Рэкамендавана: дыета № 10, гіпаліпідэмічная, гіпасолевая, рацыянальнае харчаванне, багатае на калій, кальцый, магній, ёд (курага, разынкі, грэцкія арэхі, бананы, кабачкі, грэчка, аўсяныя крупы), карэкцыя вагі, штодзённая хадзьба 40-60 хвілін, плаванне. Медыкаметознае лячэнне: селект. БАБ: небілет 5 мг. па S табл. раніцай пры кантролі пульсу і АД, працяглы час; метабалічныя прэпараты: мілдранат 0,25 па 1 капс. 2 разы на дзень пасля ежы, 1 месяц; седатыўныя прэпараты – пры ўзнаўленні болю ў вобласці сэрца..."

І яшчэ многа чаго было там напісана.

Дома Адольф уголас зачытаў жонцы ўсе гэтыя "рэгістурацыі" – сур'ёзным голасам, урачыста, як прысуд. Маўляў, давялі чалавека. А калі падняў вочы – убачыў, што жонка... усміхаецца!

– Затое піць цяпер нельга, – вінавата сказала яна, прытушваючы радасць, зразумеўшы, што ўсмешка выглядае недарэчы.

Але Адольф усё роўна пакрыўдзіўся.

І, каб пацвяліць жонку, адпомсціць ёй за праяву радасці ў такі момант і крышку падпсаваць ёй настрой, а яшчэ таму, каб не думала, што ён цяпер зламаны, бязвольны, і з яго вяроўкі можна віць, ён адклаў свой дыягназ, змяніў інтанацыю з урачыстай на гуллівую і паведаміў Ірыне Бацькаўне, што калі ляжаў у бальніцы з мікраінфарктам, у яго адбыўся мікрараман з

медсястрою – так, так, з той самай, на якую касілася жонка, светленькая такая, з кароткімі валасамі і кароткай спаднічкай.

Ён гэта выдумаў, каб набіць сабе цану. Але перагнуў палку, увайшоў у смак, пачаў расказваць з дэталямі, падкрэсліваць інтымныя падрабязнасці... Кабінет, ноч, нікога няма... Кушэтка, дзверы на ключ...

Адольф яшчэ і падміргваў Ірыне Бацькаўне, нібы не роднай жонцы, а кампаньёну па выпіўцы расказваў.

Гэта стала апошняй кропляй. Жонка ўспомніла паездкі праз увесь горад, прыніжэнне ў дырэктара камбіната, свае няспраўджаныя надзеі... Стала так горка, крыўдна... І яна падала на развод.

## V

У маленькім кабінеце суддзя – Эла Васільеўна Кузьмянкова (Адольф прафесійна запомніў шыльду на дзвярах), папрасіла іх прысесці, спытала, ці дарослыя дзеці.

– Дарослыя, – адказаў Адольф.

І як яны – не дзеці, а Адольф з жонкаю – збіраюцца дзяліць маёмасць?

Тут Адольф не без долі гонару сказаў, што ні на што не прэтэндуе, усё чысценька пакідае жонцы: кватэру, дачу, нават мапед, а з сабою забярэ толькі чамаданчык з прадметамі гігіены і рознай драбязой: бялізна, брытва, кашуля, гальштук... Таксама ён згодзен аплаціць усю дзяржпошліну, хоць заяву на развод падавала жонка.

На яго думку, атрымалася сціпла, прыстойна, па-старамоднаму класічна. Але на суддзю ніяк гэта не падзейнічала. Відаць, яна ў стотысячны раз такое чула.

– Я вас разводжу без тэрміну на абдумванне, – сказала яна. – Усё. Можаце ісці.

– Ага. Добра. Зразумела. Дзякуем.

Адольф кіўнуў галавой і падняўся. Ён быў у прыўзнятым настроі, усім сваім выглядам паказваў, што так і трэба, менавіта так і разводзяцца.

А разгубленая жонка засталася сядзець, цярэбячы празрыстую хусцінку, павязаную на шыю дзеля такога выпадку. Яна ж разводзілася ў першы раз і думала, што гэта будзе неяк інакш. Яна спадзявалася, што будзе, як у маладых: тры месяцы на роздум, упрошванне, паходы па псіхолагах і ўсё такое.

"А чаму без тэрміну на абдумванне?"– хацела спытаць яна.

Вопытная Эла Васільеўна адказала і без пытання:

– Ды вы яшчэ зноў сыйдзецеся. Я па вас бачу. Іншая справа, што, можа, сапраўды некаторы час вам трэба пажыць асобна.

Тут Адольф з жонкаю нібы самі на сябе зірнулі збоку. І ўбачылі, якое глупства яны, дарослыя людзі, робяць! Цяпер, калі іхняя сітуацыя прайшла праз чужыя вочы і рукі, якой нікчэмнай, недарэчнай, нават смешнай яна падалася!

І ім абоім стала сорамна.

Канечне ж, яны сыдуцца! Бо куды ім адно без аднаго? І як цяпер паправіць?

А калі ім паставілі ў пашпартах штампы, і гэта зацвердзіла афіцыйна, што цяпер яны чужыя людзі, яны проста разгубіліся. Адольф зняў з пальца пярсцёнак, і жонка, гледзячы на яго, думаючы, што так трэба,

хуценька сцягнула свой. Іх рукі без пярсцёнкаў сталі нейкія безабаронныя, асірацелыя.

– Так. Дзякую. Зразумела, – па інерцыі паўтарыў Адольф тое, што ў кабінеце.

Але нічога яму не было зразумела. Гэта перад суддзёй добра было разыгрываць ролю джэнтльмена. А тут? Лёгка сказаць: збяру чамаданчык і пайду – а паспрабуй зрабі. Ды першае пытанне – дзе жыць? Гэта ў фільмах прыгожа і без праблем: развёўся чалавек, сеў у аўтамабіль і паехаў у любы чужы горад. А куды паедзе Адольф? Каму ён трэба, хто яго будзе цярпець? Ды сам занудзіцца.

Яны стаялі і моўчкі круцілі ў руках пашпарты.

– Ну што, з'езджу пакуль у санаторый, – нерашуча сказаў Адольф. – Каб бясплатная пуцёўка не прапала. Заадно, можа, нервы папраўлю, сэрца падлячу, стрэс здыму...

– А пасля?

– Дзе-небудзь перакідаюся... Да халадоў на дачы, а там у сяброў, знаёмых, – ціха казаў прысмірэлы, прыніжаны Адольф. – Можа, у інтэрнаце пакой дадуць. Мне многа не трэба...

– Пад старасць гадоў! Па дачах, інтэрнатах, чужых людзях...

Жонка падумала. Сказала цвёрда, рашуча:

– Вось што. Сапраўды, з'ездзі ў санаторый. Адпачні, падлячыся. Здароўе галоўнае. І суддзя ж сказала – пажыць асобна... А потым вяртайся назад! Абавязкова! Чуеш?

– Чую...

– У цябе свой дом. Хопіць. Немаладыя. Я і сама добрая! Сама вінавата! Адпачывай, лячыся, а я буду чакаць! Хай разведзеныя, хіба не бывае: разведзеныя – а жывуць разам?

Дома яна энергічна збірала яго – як у дальнюю дарогу, як нічога не адбылося паміж імі. Уголас сама ў сябе перапытвала: што яшчэ? ці не забыла пакласці ножык? дзе пакецік з лекамі?

– Там жа бясплатна ўсё, – смірна казаў Адольф. – Лекі, кропельніцы... Усялякія працэдуры, душ, баракамера...

З сабой Адольф захапіў яшчэ эцюднік, бо надта сухая, прыгожая стаяла восень, а санаторый быў у лясе каля Дняпра – акурат у тых самых мясцінах, куды Адольф ездзіў на акварэлькі.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

У санаторыі Адольф два дні хадзіў на працэдуры, на трэці – маляваў з берага Дняпра, а на чацвёрты пазнаёміўся каля масажнага кабінета з Тамарай.

Сорак пяць гадоў. Таксама разведзеная. Калі ў Адольфа прычына разводу – "крызіс", дык у яе – "не сышліся характарамі". Родам з Мінска. Бухгалтарка. Звычайная. Прапаноўвалі галоўнай – адмовілася: галоўбух цяпер небяспечная прафесія. Бландзінка. Падобная на Ганну Герман знешнасцю і грудным голасам. Прызналася, што любіць спяваць пад гітару. Дарослы сын Вадзім, жанаты, грузчык у ЦУМе. Нявестка Соф'я – аператар у турагенцтве. Унукі-двайняткі, хлопчык і дзяўчынка 8 гадоў, вучацца ў

музычнай школе: Наста – вакал, Дзімка – альт (“маэстра Співакоў”). Маці – мілая старэнькая бабулька ў добрых зморшчынках, бацька – спакойны, мудры адстаўны палкоўнік. Двухпакаёвая кватэра. Дача – зямельны ўчастак, катэдж, гараж. У гаражы “Вольва” 264 GL.

– Новенькая, сумуе без гаспадара, – сказала Тамара. – Адзін мой знаёмы муж (так яна называла былога мужа) так і не навучыўся ездзіць!

Усе жывуць асобна. Ніхто нікому не замінае.

– А твае дзеці? – спытала Тома. – Як іх завуць? Часта бачыцеся?

– Ды не. Я мала з імі... Жонка імі займалася. Вось і выраслі – маміны дзеткі. Дачка Ірына замужам за азербайджанцам. Унучка ёсць.

– Маленькая? Як здарова! Любіш яе?

– Не, – шчыра сказаў Адольф.

– Чаму?

– Ай, чорныя гэтыя... Я іх баюся.

– Як можна?! – усклікнула Тома з дакорам, нібы ўжо мела нейкае права на яго. – Нельга так! Трэба абавязкова ўсіх любіць... як мая нявестка Сафі кажа.

– А сын, Адольф, у арміі.

– Такое імя... Рэдкае. Прыгожае.

– Праўда? – Адольф ажывіўся. – У нас, у Заходняй Беларусі, гэта звычайнае імя! Кажуць: назаві сына Адоля – будзе шчасна доля. А тут, у цэнтральнай частцы, сама ведаеш, як да гэтага імені ставяцца. У мяне была мара: у Самарскае ваеннае лётнае паступіць. Не ўзялі. Сказалі – сэрца. А можа, і не сэрца. Можа, імя.

– Дык ты і сына так назваў?

– Ну, каб традыцыі не рваць... Можа, яно цераз раз. Мне не пашанцавала, а яму мой кавалак шчасця выпадзе.

– А хто ў цябе яшчэ ёсць?

Ён расказаў пра двух пляменнікаў, пра братавую Ніну, якая жыве на лясным Хутары каля Старушак. Тома міла рассмяялася, а Адольф патлумачыў, што гэта не ад рускіх “бабулек”, а, хутчэй за ўсё, некалі жыў там такі Старуш, і ад яго сядзібы пайшла назва. Бо там блізка ёсць яшчэ Барушкі – значыць, быў і нейкі Баруш.

Потым яны гулялі па беразе Дняпра. Ад ракі пахла летам, а лісце асін палала ўсімі барвамі ранняй восені. Адольф паказаў на супрацьлеглы, высокі бераг:

– Ву-унь адтуль я звычайна малюю.

– З таго высокага берага?! Уяўляю, якая прыгажосць! А як ты туды дабіраешся?

– Мапедам.

Гэта ўразіла яе куды больш, чым тое, што ён мастак. Яна ўмілілася і пачала распытваць, як ён, творчы чалавек, “з тэхнікай на ты”.

– Зручна. Я мог праехаць па любой сцежцы. У такую глушэчу забіраўся, што ні машынаю не праехаць, ні пехам не прайсці. Потым – выпіўшаму добра, ДАІ не чапляецца. Каму трэба дзядзька з мальбертам за плячыма, на веласіпедзе з маторчыкам?

– Ты піў за рулём?

– Ну, за рулём... Скажаш таксама.

– Усё роўна – гэта ж тэхніка! Трэба разбірацца ў ёй. Далёка не кожны зможа.

– Ды малое дзіця зможа, – сціплічаў Адольф.

– Не – гэта вельмі складана! Адзін мой знаёмы муж, – яна ўздыхнула, – ты ведаеш, пра каго я – так і не навучыўся. Не змог атрымаць правы. Дальтонік. Блытаў зялёнае з сінім. А можа, хлусіў, знарок не хацеў здаваць.

– Чаму хлусіў? Многа такіх. Купюры грашовыя блытаюць. Праўда, заўсёды на сваю карысць. Касірцы ў магазіне замест пяцідзесяці тысяч дае адну – маўляў, колеры падобныя, а паспрабуй яму рэшту даць меншай купюрай! Імгненна скандал, адразу дальтанізм знікае!

– Хацелі чалавека з яго зрабіць, – дагаворвала пра сваё Тома, – але нават мой бацька, які ўсё можа, не змог. Ну, калі чалавек сам сабе не хоча дабра! Не разумее свайго шчасця...

Грыбоў было многа той весенню. Адольф з Тамарай імі любаваліся і па-еўрапейску не бралі – што з імі рабіць у санаторыі? Адзін раз у час такой прагулкі знайшлі сямейку падасінавікаў, класічных чырвонагаловікаў. Маленькія, з нераскрытымі шапачкамі, і большыя, на доўгіх ножках, крамяныя, цвёрдыя. Тамара вырвала з коранем адзін. Патрымала ў пальцах, агледзела, пачырванела. “Не скажу, што ён мне нагадвае... І чамусьці толькі падасінавікі!” – “Скажы”. – “Не, не скажу...” І тут, у асінніку, тым самым, які Адольф маляваў з другога берага Дняпра, міжволі адбыўся паміж імі грэх.

А ўвечары ў сваім пакоі Адольф паказваў Тамары акварэлькі, знаёмы асіннік, жытнёвае поле, макаўка царквы... Тома была ў захапленні – ці то ад акварэлек, ці пасля грэху ў асінніку.

– Які цуд! І ты з такім дарам прападаеш!

Адольфу было прыемна, разам з тым ён крышку бянтэжыўся, бо не да канца разумеў, які менавіта “дар” маецца на ўвазе.

“Такі мастак! Табе трэба сталіца, публіка... Персанальныя выставы... Тут, канечне, закіснеш... Нерэалізаванасць, ніхто не зможа ацаніць... У Мінску б ты... Ёсць на прыкмеце архітэктурна-праектная фірма... Лёгкая праца – фармальная, для стажу, з запісам у працоўнай кніжцы... Вольны графік. Хочаш – дома сядзі за кампутарам, хочаш – палатно пішы... Усе ўмовы!..”

Адольф схамянуўся.

– Якія выставы? Якая сталіца? Каму я там трэба? Ды яшчэ без прапіскі...

– Рэгістрацыі, ты маеш на ўвазе? Цяпер не прапіска, а рэгістрацыя. І яе не трэба, каб працаваць у Мінску.

– Не можа быць!

Яна толькі смяялася.

– У якім ты стагоддзі жывеш? Ніхто цяпер гэтага не пытае, гэта ўвогуле незаконна. Калі цябе не бяруць на працу, бо няма мінскай рэгістрацыі, ты можаш падаць на іх у суд.

– Ну і ну, – здзіўляўся Адольф. – І жыць можна? У самім Мінску? Без рэгістрацыі?

– Жыць нельга, але...

– Вось бачыш, – узрадваўся Адольф. – Яны свайго не ўпусцяць!

– Але – часовая рэгістрацыя робіцца за паўгадзіны. Сто пяцьдзясят даляраў.

– Часовая... Што такое часовая?

– На год.

– А пастаянная? – раптам спытаў Адольф. У прадчуванні чагосьці новага, нязведанага ў яго мацней забілася хворае сэрца.

– Трыста пяцьдзясят даляраў і тыя самыя паўгадзіны. Было б жаданне. А галоўнае, не забывай, хто мой бацька!

– А... не абавязкова жаніцца? Ці, там, замуж выходзіць? Каб атрымаць гэтую рэгістрацыю?

– Зусім не абавязкова. Было б у каго жыць.

Ах, як заманліва, чорт вазьмі! Сапраўды, адстаў ён ад жыцця. Адольфа яшчэ ніколі так не спакушалі. Тое самае новае жыццё, якога ён не прымаў, якое гнеўна “выкрываў” і якога баяўся, цяпер само лёгка ішло да яго, усміхалася яму, падзывала пальчыкам, клікала да сябе і брала ў мяккія абдымкі.

А Тома не сунімалася:

– Хочаш – давай так. Не будзем ні спісвацца, ні распісвацца. Каб не звязваць сябе. Колькі ты пражыў з жонкаю?

Адольф падлічыў уголас:

– Мне 55, ажаніўся ў 25... Атрымліваецца, роўна трыццаць. Юбілей! А я і забыў...

– Трыццаць гадоў! Вось бачыш. Яшчэ трыццаць разоў захочаш назад вярнуцца. Таму можна проста паспрабаваць. Мы ж дарослыя, разумныя, інтэлігентныя людзі. Абяцаю ні ў чым цябе не абмяжоўваць. Проста пажывем разам, паглядзім. А не спадабаецца табе ці мне – вольнаму воля.

– І ты мяне прапішаш... у сэнсе, зарэгіструеш?

– Без праблем.

Прапанова была цудоўная. Лепш не прыдумаеш. І мудра, і справядліва. А галоўнае, Тома падабалася яму. Прыемная была сваім розумам, ахайнасцю, гумарам, і яшчэ ў параўнанні з ім – маладосцю. Яна як бы скідвала з Адольфа гэты кашмарны ціск у 55 гадоў. Бо калі ты здольны спадабацца маладзейшай...

– Паедзеш? Не пабаішся? – падахвочвала, падбухторвала Тома.

– Я падобны на тых, хто баіцца? – храбрыўся Адольф.

– Тады я зраблю табе маленькі сюр-прайз. У мяне адпачынак доўгі, пасля прафілакторыя застаецца палова. Ты таксама беспрацоўны... Я зважу цябе ў Парыж. Хоць на тыдзень.

– Парыж? – тут Адольф па-сапраўднаму спалохаўся.

– Ты мастак, табе неабходна пабываць на Манмартры, пахадзіць па Манпарнасе, проста падыхаць тым паветрам... Гэта будзе табе маленькі падарунак ад мяне.

– Ды якое паветра? Хто мяне пусціць у Парыж? Мяне, які далей Баранавіч у заходнім накірунку ніколі не быў! Пашпарт? Віза? Дакументы?

Тома толькі смяялася:

– Ох, мне гэтыя правінцыялы... Я нават не ведала, што яшчэ такія засталіся. Ты забываеш, што свет даўно змяніўся. І не ведаеш, хто мой бацька. І дзе мая нявестка працуе. Мы паедзем па турыстачнай візе. Усё аформіцца за суткі разам з білетамі. І ні пра што не турбуйся. Проста будзеш хадзіць, глядзець, адпачываць, набірацца ўражанняў...

Можа, праўда, рызыкнуць? Які шанц дае яму жыццё! Прычым без усялякіх абавязкаў. Калі яшчэ такое будзе? Вось яна – нечакана атрыманая камандзіроўка на нявызначаны тэрмін, “адпачынак за свой кошт”, афіцыйны допуск да бязмежнай волі, свабоды!

Заставалася адно – жонка. Як быць з ёю? Яна тэлефанавала кожны дзень двойчы: раніцай і вечарам. Што ёй сказаць?

Добра падумаўшы, Адольф вырашыў не казаць нічога. На званкі адказваў дзяжурна: лячуся, кормяць добра, хаджу на працэдуры... Голас у яго быў вінавата-смірны. Калі ў Томы скончылася пуцёўка, ён таксама не стаў чакаць. Толькі заехаў дамоў, каб пакінуць эцюднік і забраць сякія-такія рэчы. З жонкай сустракацца было страшнавата, і ён падгадаў час, калі яна была на працы. Замкнуўшы кватэру, пазваніў суседцы і папрасіў, каб тая перадала ключ Ірыне. А таксама сказала, што гармонік і эцюднік ён пазней забярэ.

– Адразу, як з Парыжа вярнуся, – удакладніў ён і пайшоў сабе спакойна ўніз па лесвіцы, пакінуўшы каля расчыненых дзвярэй анямелую суседку з ключом на пальцы.

## II

Так Адольф замест таго, каб вярнуцца на камвольны камбінат, дзе яго чакалі, і да жонкі, апынуўся ў Мінску.

Тамарына двухпакаёўка памерам была большая за чатырохпакаёвую. Паркет, высокія столі, светлыя вокны. Але ва ўсім адчувалася адсутнасць гаспадара. Прастор і шык суседнічалі з бязладдзем. Бярэшся за пазалочаную ручку, каб адчыніць дзверы – ручка адвальваецца. У вялікай ваннай, дзе люстры на ўсю сцяну і падлога падаграецца, ступіш – плітка пад нагою ходзіць. У туалеце дарагі ўнітаз – і ржавы дроцік замест кнопкі зліву. Лоджыя вялікая, новенькай вагонкай абшытая, а цвікі павылазілі, рама рассохлася – паставілі абы хутчэй, са свежага дрэва, не прасушылі, не прааліфілі.

– Цяп-ляп робяць, – дзелавіта сказаў Адольф, заходзячы на кухню. Тома, у фартуху, стукаючы нажом аб дошку, наразала цыбулю. – Рамы, кажу, нават аліфай не пакрылі.

– Што ты хочаш, тут вунь нават нож палец не рэжа...

На дачу з’ездзілі, паглядзеў Адольф. Выдатная дача, блізка, толькі тое самае: мужчыны не хапае. Гараж, у гаражы – Адольф ахнуў – якая машына! Строгая форма, прамыя лініі, нічога лішняга. Крыху нагадвае колішнюю савецкую “Чайку”.

– Во, прыгналі, стаіць, ржавее... Так ні разу і не завёў. А Вадзім у нас такі непрактычны, – з уздыхам падзялілася Тамара. – Так што ўсё гэта цяпер тваё. Хочаш катайся, хочаш – на металалом здавай.

Адольф доўга не адыходзіў, гладзіў машыну, любаваўся ёю. А ўвечары прыбыла ў поўным складзе Томіна радня. Сын Вадзім, высокі, худы малады чалавек, падаючы руку, сказаў:

– Вадзім, грузчык з ЦУМа.

Апатычны. Вочы шкляныя, мутныя. Бязвольныя рухі. Гаворыць кароткімі, адрывістымі словамі, невыразна, ухілiста... Больш чым дзіўны. І што за праца для маладога мужчыны – грузчык у ЦУМе? – і гэта з Тамарыным блатам! з яе напорам і магчымасцямі! І што яна мела на ўвазе ў гаражы, калі з уздыхам казала пра яго непрактычнасць?

Вадзімава жонка – Тамарына нявестка Соф’я, прыгожая, здаровая, ядраная, спакойна пацалавала Адольфа ў шчаку і адразу ж азадачыла:

– Вы не вядзеце блог? Цяпер усе вядуць. Раю вам завесці. Я вяду пад нікам “maci tereza”. Можаце зайсці, пацікавіцца.

– Чаму... маці Тэрэза?

– Маё крэда – усім рабіць дабро. Гэта абавязковая ўмова, каб дабіцца поспеху.

Адольф хацеў пажартаваць, сказаць, што для такой красуні гэта двухсэнсоўнае, небяспечнае крэда. Ды не асмеліўся. Ён толькі пазіраў на яе, любаваўся ёю, як “Вольваю”, і крамольна думаў, што яна, хутчэй за ўсё, будучы за такім, як Вадзім, “робіць дабро” направа і налева.

Яшчэ сваім мастакоўскім вокам сёе-тое прыкмеціў Адольф. Напрыклад, як “ціхі, мудры” адстаўнік-палкоўнік зусім не ціха гмыкнуў, пачуўшы імя – Адольф.

“Старэнькая маці ў зморшчынках”, сапраўды, уся свяцілася дабрынёй, падкрэслівала мядовым галаском, сціпла:

– Я тут не гаспадыня, – а сама так і свідравала позіркам няпрошанага прымака-прыжывалу: “Ух ты! Я цябе навылет бачу! Вось я табе пакажу! Толькі паспрабуй мне!..”

Затое двайняткі, Наста і Дзімка, адразу залезлі яму на калені, шчабяталі і спакойна называлі яго “дзядзя Адольф”. У цэлым знаёмства прайшло лепш, чым чакалася. Вельмі прыстойна. Усе яго прынялі. А калі б і не прынялі, Адольф хутка скеміў, хто ў доме гаспадар: Тамара – яго Тома. Яе слова было закон, і калі што не так, яна ўмомант паставіць любога на месца.

Неўзабаве атрымалі дакументы з білетамі, Адольф палюбаваўся бліскучай шэнгенскай візай, якая пераліваласяся, калі паварочваеш пашпарт. Уночы селі ў таксоўку, раніцай былі ў Вільні, а яшчэ праз пару гадзін выходзілі ў аэрапоце імя Шарля дэ Голя. Размясціліся ў гатэлі “Alesi” на аднайменным бульвары. Адольф абуў купленыя ў Мінску новенькія белыя туфлі, і трэба ж – як толькі выйшлі з гатэля, да падэшвы прыліпла жвачка. Гэтая буржуйская жуйка аказалася звышліпучай, яе немагчыма было ні ададраць, ні скалупнуць, ні адмыць гарачай вадой, ні сашкрэбсці сцізорыкам. І яшчэ некалькі дзён у Адольфа пры хадзьбе атрымлівалася “шлёп-нага”, туфель прыставаў да асфальту, прычмокваў, і было нязручна, непрыемна. Усё ж Адольфу хапіла розуму ўстрымацца ад жлобства (кшталту, каб не расказваць потым – бачыў я ваш Парыж, падумаеш, абхадзіў яго ўздоўж і ўпоперак).

Ён выдатна разумеў, што гэта не жарцікі, а дарунак лёсу – вялікі, важны, невядома за якія заслугі атрыманы, з неба звалены. Ён адчуваў, які шчаслівы білет выцягнуўся яму. Ну, ці не праўда, што ў Адолі шчаслівая доля?

Як проста. Як імгненна. Як рэзка ўсё ў жыцці можа памяняцца. Вось жа зусім нядаўна ён чытаў Ірыне Бацькаўне на кухні “лекцыі”, зайздросціў таўстасумам – на, калі ласка, стаіць каля парапета і ў Сену паплёўвае. Масты. Помнікі едка-зеленаватага колеру нейкім французскім каралям на ўздыбленых ці на спакойных конях. Ззаду Луўр, спераду Нотр-Дам. Тома паказала на ажурную вежу і на яшчэ адзін высокі будынак.

– Эйфелева вежа і “Дом сляпых”, іх адусюль відаць. Арыентуйся на іх, і ў цэнтры не заблукаеш.

– Дом сляпых?

Яна пацiснула плячыма:

– Усе завуць так. Вокан няма, вось і “Дом сляпых”. Па-мойму, самі парыжане не ведаюць, што гэта такое.

Сама яна пачувалася тут, як у Мінску. Насіла блакноцік, дзе славянскімі літарамі былі напісаны французскія пытанні (як прайсці да..., колькі каштуе..., я не размаўляю па-французску...), а бонжур, мерсі боку, кес кэ сэ – ведала і без блакноціка. Адольф хадзіў, церпячы “шлёп-нагу”, сіліўся хоць штосьці запомніць, хаця б па прынцыпу параўнання, напрыклад, з Мінскам: шукаць не тое, у чым розніца, а што падобна. Узятая ў бетонны парапет Сена, між іншым, нагадвала Свіслач. Толькі на Сене было больш мастоў і розных прагулачных цеплаходзікаў. Людзі гулялі па набярэжнай таксама, як і ў Мінску каля Свіслачы. Моладзь каталася на роліках, на скейтбордах. Праўда, калі Адольф, расслабіўшыся, паклаў барсетку на парапет, Тома яго астудзіла:

– Ты што? Тут табе не Мінск. Міргнуць не паспееш, як сапруць!Ranясецца на роліках...

Ён хуценька прыбраў, яшчэ і раменьчык вакол рукі абматаў. Зайшлі ў гулкі Нотр-Дам, дзе Тома, раптам забыўшы на яго, ламанулася да алтара і там старанна, па-каталіцку злева-направа са шчырай набожнасцю пачала хрысціцца. Вусны яе варушыліся.

А ўвечары на балкончыку яны стаялі, звесіўшыся, глядзелі ўніз, на вуліцу, і ўверх, на казачны горад. Тома піла віно, Адольф – сок, і не таму, што баяўся за сэрца, ці таго, што можа “сарвацца” – проста не хацелася алкаголю, уражанняў хапала, ён і без спіртнога быў п’яны. Блішчэлі машыны ўнізе, і лісце дрэў, і кветкі ў вазонах на балкончыках. Вось каб жонку Ірыну сюды! Яму так шкада стала, што жонкі тут няма, што яна гэтага не бачыць, хаця, напэўна ж, не менш, чым ён, заслугоўвае. Сірата, што яна ўвогуле ў жыцці бачыла; адзінае яе шчасце – замуства, ды сям’я, дом, дзеці... Але гэта былі небяспечныя думкі, і ён хутка адагнаў іх.

– Як табе?

– Вельмі прыгожа! – вырвалася ў Адольфа. І акрамя гэтых двух слоў ён больш нічога не мог сказаць пра начны Парыж. Ды і не хацеў.

– Тамара, што я магу для цябе зрабіць? Чым аддзячыць?

– Перастань. Ты ўжо робіш, ужо дзячыш. Зрэшты... Ведаеш, у нашым доме жыве бабулька. Зусім адна. Такая няшчасная, маленькая, худзенькая, яе нават ліфт не можа падняць – такая лёгкая. Дык яна бярэ з сабою ў ліфт дзве цагліны.

Адольф засмяяўся, а Тамара сказала:

– Дык вось – не хачу ў старасці ездзіць у ліфце з цаглінамі. Не хачу мець дома гастарбайтара. Хачу звычайнага мужа, афіцыйнага гаспадара ўсяго, што ў мяне ёсць. Хачу, каб табе са мной спадабалася, каб ты не сумаваў па жонцы, па ранейшым жыцці... Я была б шчаслівая. Я і ў саборы аб гэтым прасіла, – наіўна прызналася яна.

Адольф плыў. Ён слухаў, верыў сваім вушам і не верыў. За што яму такое? Няўжо за талент? За акварэлькі? А ён заўсёды лічыў іх нікчэмнай забаўкай. Ну, калі так, цяпер ён па-іншаму возьмецца! па-сапраўднаму! ён дакажа!..

## III

Па вяртанні ў Мінск Адольф яшчэ раз з’ездзіў у свой горад – па мальберт з гармонікам. Зноў, як і пасля санаторыя, падгадаў час, калі жонка была на працы. Ключ аказаўся ў суседкі, той самай, якой ён хваліўся пра

Парыж. Яна прыліпла да Адольфа, як парыжская жуйка: што? як? дзе? Але на гэты раз Адольф не стаў ні жартаваць, ні хваліцца. Яму сорамна было і за той раз, за свае дурныя словы, за пахвальбу – надта жорстка было тое з яго боку; ён уяўляў, як суседка пераказвала іх Ірыне Бацькаўне, як яны, тыя словы, аглушылі, дабілі жонку... Цяпер ён не стаў нічога ёй расказваць. Ужо ўсё набывала іншы абарот, рабілася сур'ёзным.

– Маю радню ты ведаеш, – сказала Тамара, калі яны селі плячо да пляча на канапе, як сапраўдная сямейная пара. – А цяпер давай з тваёй знаёміцца. Памятаеш, ты пра жанчыну з Хутара расказваў? Пра сыноў яе?

– А, тыя! – Адольф спачатку спалохаўся, падумаўшы, што Тома хоча з яго жонкай, ці з дачкою, знаёміцца. – Ну, якая радня... Так, пятая вада на кісялі. Я, калі шчыра, з імі не вельмі... Я з імі, можна сказаць, ніяк... Больш чужыя, чым свае. Амаль нічога не звязвае.

– Табе зусім нецікава, як яны жывуць?

– А што ім зробіцца? Як жылі, так і жывуць. На Хутары каля Старушак... Яны што ёсць, што няма – аднолькава. Лясныя людзі, дзікаватыя...

Выкручваўся, асцярожнічаў Адольф, ведаў ён, як "любяць" чужую радню, тым больш – бедную, і ўсяляк даваў зразумець, што ў гэтым плане праблем не будзе.

Але Тома настойвала.

– Давай да іх з'ездзім. Ці сюды запрасі.

– Навошта яны табе? Гэтыя сем'і, дзе ўсё наперакасяк... Я прымхлівы, веру, што можна набрацца няўдач ад іх... (Сябе Адольф ужо лічыў удачлівым.) Я стараюся пазбягаць такіх...

– Як не сорамна! – з дакорам сказала Тамара. – Трэба помніць радню, нават самую далёкую, любіць, трымацца разам, жыць дружна. Мая мара – вялікая сям'я, многа ўнукаў, сваякоў, розных, з хутара, з вёскі, з іншых гарадоў, каб сабраліся разам, спявалі за сталом...

– Якія песні, пра што ты кажаш. Гэта бедныя, затурканыя людзі, яны жывуць зусім іншымі катэгорыямі, ледзь зводзяць канцы з канцамі... Да якіх ім песень?

– Ты мяне яшчэ зусім не ведаеш. Для мяне не існуе гэтых паняццяў: багаты, бедны, вясковы, хутарскі... Так, я ніколі ні ў чым не мела патрэбы, можа, таму ў мяне проста не было прычын азлобіцца на жыццё. Я ўсіх люблю, а тым больш людзей, крэўна з табою звязаных. Яны для мяне тое самае, што і ты. Мы іх так прымем! Хай ганарацца табою!

Адольф, расчулены, пацалаваў яе.

– І праўда, даўно не быў... Тады, канечне, з'езджу, адведаю, запрашу...

Тома захацела падрабязнай гісторыі пра хутарскую радню. Адольф, не разумеючы яе цікавасці, усё ж коратка расказаў пра нябожчыка брата, Ніну. Не забыў і пра сябе. Нарадзіліся яны з братам у Заходняй Беларусі, на Мядзельшчыне. Бацька праваслаўны, маці каталічка. Вырашылі, каб нікому не было крыўдна, назваць сыноў па дзядах: аднаго Іван, другога Адоля. Адольф пасля няўдачы з Самарскім лётным паступіў у мастацкую вучэльню, скончыў ды так і асеў на мясцовым камбінаце. А Івана кідала па краіне, занесла на БАМ, дзе пазнаёміўся з зямлячкай-беларускай Нінай – яна там вяла самадзейнасць, ці то ўзначальвала нейкую агіт-культурную брыгаду, а можа, проста загадвала бібліятэкай – няважна; важна, што ў чырвонай хустачцы, прыгожая, няўрымслівая. Там жа, на БАМе, яны

пабраліся камсамольскім шлюбам, падзарабілі грошай ("неверагодную колькасць!" – прыўкрасіў Адольф), вярнуліся ў Беларусь, да Ніны на Палессе – яна так захацела, купілі хутар і пачалі жыць у глушы. Дзікая тайга, сібірскія бязмежныя прасторы (разважаў Адольф), аграмадныя адлегласці, зауральскі клімат кладуць на еўрапейскага чалавека свой адбітак. Іван з Нінай, акрамя грошай, прывезлі з сабой і нетутэйшае, не беларускае ў характарах – штосьці вольнае, разгульнае, нейкую ермакоўшчыну, і разам з тым цягу да адасобленасці, скрытнасці – карацей, такое, што звычайным людзям не зразумець.

– Вось і ўсё. Брат памёр, Ніна замуж не выйшла. Два сыны ў яе, пра Таляна расказваў – як прыязджалі прасіць, каб я не разводзіўся.

– А ведаеш – цікава, – задумліва сказала Тома. – Прыгожая гісторыя. Я заўсёды думала, што гэта прапаганда ўсё, пра БАМ, лічыла, што там п'янкі, распуста, блатныя ўсе... А тут – рамантыка, загадкавасць... І потым гэтая адзінота. Вернасць... Я б не змагла вось так, зусім адной, застацца. Абавязкова з'ездзі сам, і іх запрасі!

## IV

Перад тым, як ехаць, крыху пасварыліся.

Тома напакоўвала вялікую сумку, а Адольф капрызнічаў: ісці будзе цяжка ад станцыі да Хутара.

– У мяне ж сэрца!.. І нервы недалечаныя...

– Вось-вось. Цяпер бачыш, што свой транспарт трэба? Проста неабходны.

Канечне, цяпер ён, як чалавек забяспечаны, мог дазволіць сабе на таксоўку хоць ад Мінска, Тамара так і прапаноўвала, але ён сам для здароўя захацеў прайсціся. Тым больш, дактары прапісалі. І сумку таму ўзяў лёгкую, каб нічога не перашкаджала атрымліваць задавальненне ад падарожжа. Ён даехаў цягніком да станцыі Старушкі і пайшоў па лясной дарозе. Апошні раз ён быў на Хутары на пахаванні брата. Цяпер Адольф ішоў туды, як да чужых, не ведаючы, каго там знойдзе і ці стаіць той Хутар увогуле. Столькі часу прайшло, а галоўнае – столькі падзей адбылося!

Пад нагамі шэрхала жоўтае лісце. У Мінску даўно быў кастрычнік, а тут, на Палессі, яшчэ верасень. Бабіна лета нічым не адрознівалася ад лета звычайнага: цёпла, росна, парна. Арэшнікавыя кусты то спляталіся над галавой і не прапускалі сонца, а то яно біла проста ў вочы. Адольф звярнуў увагу, што дарога добра-такі ўезджаная машынамі.

"Люблю я свой Хутар, – успомніў ён аднойчы пад чаркай сказаныя Іванавы словы. – Сімвал нацыі! Хутар памог выжыванню беларусаў, злучыў заходнікаў і ўсходнікаў".

Паказалася паляна са стагамі сена, потым адна за адной тры паветкі, і ў канцы паляны высокі, са свежых бярвенняў, шчыльны частакол. Раней хутарскія пабудовы стаялі на палянцы без аніякага плоту, адкрытыя людзям, звярам, вятрам.

Цяпер "сімвал нацыі" хаваўся за надзейнай агароджай у выглядзе ромба па перыметры. Частаколіны былі ідэальна круглыя, гладка зачасаныя; мала таго, на канцы кожнай яшчэ тырчэў востры цвік – не ленаваліся ўбіваць, а потым адшчыкваць шляпкі пасаціжамі. Агароджа высокая, за ёй нічога не відаць, толькі комін тырчыць, а з коміна віецца дымок.

Адольф падняў палку і пастукаў па частаколіне. Па той бок загаўкаў сабака. Выйшла Нінка, пляснула рукамі. Выбег Талян:

– Дзядзя мой прыехаў – во радасць! Я ж казаў, дзядзя мой Адольф прыедзе! А я, дзядзя, усё! Тут жыву! Развёўся!

Ззаду сарамліва выглядваў Лёнік, з доўгімі валасамі, няголены, у камуфляжнай куртцы і такога ж колеру штанах. У Адольфа ад дарогі ў галаве крыху закаламуцілася; ён, сам не ведаючы чаму, думаў убачыць маладую статную жанчыну і двух з саламянымі валасамі падлеткаў, якія трымаюцца за матчыну спадніцу і дзівяцца на гарадскога дзядзьку. А тут побач з Нінай тапталіся два здаровыя дзецюкі: адзін у камуфляжы, другі, Талян, у сваёй любімай ваеннай форме, з цыгарэтай у пальцах.

Той жа двор. Лаўкі, вёдры, чыгуны, сабачая будка з пастарэлым Жукам. Куры. Недзе карова – бо стагі сена, і парасяты – бо вёдры. У меншай хаце стаяў фікус у бочцы, раскінуўшыся ледзь не на паўхаты. Ніна спаласнула чайнік і выліла разам з старой заваркай пад фікус.

– Ад молі – каб моль не вялася, – патлумачыла яна.

А Талян туды ж укруціў, зламаўшы, недакурак.

– Гэта для фосфару, дзядзя! Попел фосфар дае!

Талян увогуле мітусіўся, доўга не хацеў сядаць за стол, балбатаў – узбуджаны ад таго, што столькі дарагіх яму людзей сабраліся разам, у адным месцы.

– Мамка мая... Лёнік, брацельнік... У-у, расказаць вам, які гэта чалавек! Звычайна ён у лесе прападае... І дзядзя Адольф – трэба ж!..

З-за гэтага яго шуму, калі нарэшце селі за стол, братавая ўсё не магла даўмець, што ў Адольфа цяпер у жыцці куча перамен.

– Дык а чым ты дабіраўся?

– Кажу ж, мінскім цягніком...

– А ў Мінск як патрапіў?

– Кажу ж – жыву там...

Нарэшце пачало даходзіць.

– Дык ты што – развёўся?!

– Ну, а я пра што кажу...

Талян пляснуў далонямі сябе па грудзях.

– Во дае мой дзядзя! Я развёўся – і ён развёўся!

– А сумка, падарункі? Ці... ты зноў жаніўся?!

– Ды а я вам што кажу...

Тут любога можна было агаломшыць.

– Ну і дзядзя Адольф у мяне! Я з яго не магу!

Адольф расказаў, як разводзіўся. Усё Ірыне пакінуў. Чамадан забраў, мальберт.

– А гармонік? – спытала Ніна.

– Ну, і гармонік.

– Вось за гэта хвалю, – адобрыла Ніна. – Тут правільна паступіў. Чаго за гэтыя шмоткі трымацца. Я яшчэ як тады прыязджала, адразу заўважыла – мяшчанства адно, лішняга многа. А гэтая як, другая? – спытала пра Тамару.

– У Парыж мяне звазіла, – стрымана пахваліўся Адольф.

Ніна заморгала вачыма. Замаркоцілася.

– Бач ты, – сказала з зайздрасцю, забыўшы пра меркантыльнасць. – А

мае хлопцы адны і адны... Талян – на што ўжо добры, а і ён, бач ты, не падышоў...

– А хто мне трэба? – Талян перагнуўся цераз стол, абняў маці, пацалаваў: – Я адну сваю мамку Нінку люблю!

– Ты не п’еш, – заўважыла Ніна. – Аніяк? Ці толькі ў нас?

– Не цягне пасля бальніцы. Сам дзіўлюся! Людзі кадзіруюцца, па знахарах ездзяць, столькі мучаюцца... А ў мяне – як пасаціжамі адшчыкнула! Мабыць, толькі так і можна кінуць – калі прышчэміць добра.

– А ясі чаго мала? Ці нясмачна пасля Парыжа?

Перакінулася гутарка на Парыж. Адольф расказаў, што паветра там у цэнтры горада чысцейшае, чым у нас у лесе, ці на беразе рэчкі.

– Проста носам, лёгкімі адчуваеш.

– А елі што?

– Рыба, куры, мідыі, сыры, бульба, мяса, аліўкі... А-а, суп з памідораў – гаспача.

– Жабы елі, дзядзя? – згараючы ад цікаўнасці, спытаў Талян. – А то Лёнік зараз адскочыць, наловіць.

– Не. Гэта ўсё дарагое, у асобных рэстаранах, мы ў такія не хадзілі...

Лёнік, які за ўвесь абед не вымавіў ні слова, не падняў ад стала вачэй, нешта сказаў, але так ціха, што пачуў яго толькі Талян.

І Талян, як перакладчык, радасна аб’явіў усім:

– А Лёнік еў! Жабу! Заблудзіўся ў лесе, злавіў камышовую жабу, спёк і з’еў!

– І што? – спытаў Адольф.

– Смачная, – прашаптаў Лёнік, гледзячы ў талерку.

– Галоўнае, без солі, дзядзя!

– З голаду ўсё смачнае, – сказала Ніна.

– А вось я ў Парыжы смаку зусім не адчуваў. Што ні ем – усё аднолькава. Акліматызацыя, можа. А ў вас тут звычайная яечня, шкваркі, памідор... Вазьмі бульбу...

Адольф узяў бульбіну, разламаў, прысаліў:

– Сопкая, развальваецца – і пахне!

– Там усё геннамадыфікаванае, – сказала Нінка.

– Мы, дзядзя, толькі сваё ядзім! – гарлапаніў Талян. – Ядзім свяжак, п’ем пяршак! Лёнік нам дастане і кабана, і рабчыка, і ліна...

Лёнік страшэнна канфузіўся, чырванеў, не ведаў, куды падзецца.

– Што я ў параўнанні з Лёнікам? Нішто! А Лёнік – о-о-о, гэты службу ведае!

Лёнік, не могучы больш быць у цэнтры ўвагі, так засаромеўся, што не вытрымаў, ускочыў, перакуліўшы з грукатам табурэт, і кінуўся з хаты. Ніна з Талянам аніяк на гэта не адрэагавалі. Ніна толькі са скрухай паглядзела яму ўслед.

– Шкада маіх хлопцаў... Не сучасныя яны. Добрыя. Добрым цяпер не выжыць. А дзеўкі ўсе пайшлі паганыя, меркантыльныя... Самі не ведаюць, чаго ім трэба. Вось у Таляна была... Грошы... Дык ты палюбі спачатку хлопца, а тады будуць грошы.

Адольф спаважна, аўтарытэтна параіў:

– Тут трэба падыход ведаць...

– Во – правільна дзядзька сказаў! Каго я люблю, дык гэта свайго дзядзьку!

Талян не паленаваўся абысці стол і пацалаваў Адольфа ў лысіну.

– Скажа – як у дзясятку ўлепіць!

А Ніна, уздыхнуўшы, рэзюмавала:

– У Адолі шчаслівая доля.

Адольф не застаўся начаваць, як яго ні прасілі.

– Ну, дык ідзі рукі памый на дарогу, – сказала Ніна.

На двары Адольф спаласнуўся з меднага, пазелянелага, як парыжскія помнікі, умывальніка каля частакола, і, выціраючы рукі шорсткім саматканым ручніком, кіўнуўшы на частакол, спытаў у Таляна:

– Ад каго так бароніцеся?

– Здагадайцеся!

– Ваўкі?

– Не, не ваўкі.

– Ну, не ведаю... Людзі?

– Не людзі.

– Здаюся.

– Падумайце яшчэ.

Талян з добрую хвіліну маўчаў, глядзеў на дзядзьку, нібы раздумваў, казаць ці не. Глыбока зацягнуўся цыгарэтай.

– Рысь! – выдыхнуў разам з дымам. – З-пад Мазыра прыйшла! Усіх кацянят з куранятамі паела!

– А можа, з-пад Лоева? – усміхнуўся Адольф.

– Калі Лёнік сказаў – з-пад Мазыра, значыць, з-пад Мазыра.

Талян узяўся правесці дзядзьку да станцыі. Усю дарогу рот у яго не закрываўся, у Адольфа звінела ў вушах ад гэтых “мамка ды мамка, Лёнік ды Лёнік”.

– Тут, вам, дзядзя, не Парыж! Жывем самі бачыце як – як у раі! Усё ёсць. Грэх скардзіцца. Тут, на прыродзе, лягчэй. Натуральная гаспадарка. Карова, кабан... Ні ад кога не залежыш. А грошы? – мамчына пенсія ды яшчэ бібліятэка, мае армейскія... Льготы ж у мяне ёсць. Я на льготы жыву... Лёнік...

Талян закашляўся.

– Сэрца спыняецца, задышка, – вінавата сказаў. – Б’ецца – а тады раз, і ўніз падае... Лёнік, вы ж ведаеце, дастане ўсё з лесу, дзічыну, рыбку здабывае... Ого-го, наш Лёнік... Усё ведае! Дзе табе глушэц, дзе цецярук, дзе ліна паймаць, дзе сазана... Да нас толькі і пад’язджаюць машыны! Бачыце, якая дарога? – Талян тупнуў нагою. – Машыны так і шнуруюць, так і гойсаюць туды-сюды! Кожную ноч, лічы. Пакажы кабана! пакажы глушца! пакажы курапатак!

– І Лёнік паказвае?

– Не ўсім. І не адразу. Лёніка так проста не купіш. Ён жа шкадуе, як не шкадаваць? – павыбівалі ўсё, курапаткі не знойдзеш, а раней як галубы на гарадскіх вуліцах – ідзеш па лесе, пырх з-пад ног штук дваццаць! – за спінаю зноў селі. А цяпер знайдзі курапатку! У саміх вудкі за тысячу даляраў, сеткі, электравуды... Стрэльбы дарагія, з оптыкай... А толку, калі не ведаеш, куды страляць? Вось і прущца ўсе да Лёніка. Грошы дастаюць – я столькі не бачыў, і ніхто столькі грошай не ўбачыць! У далоні пачкі не ўмяшчаюцца! Але ён да грошай абыякавы, паперкі і ўсё. Яму прырода даражэй.

– А не баіцца ён? – спытаў Адольф. – Гэтыя ж браканьеры страшныя. На ўсё здатныя.

– Лёнік? Ну вы сказанулі, дзядзя! Вось толькі мы з мамкай Нінкай баімся за яго, – уздыхнуў Талян.

– Усё-ткі пагражаюць?

Талян вытрымаў паўзу, як і тады, калі расказваў пра рысь. Прамовіў значна:

– Усяляк бывае. Толькі, дзядзя, – маўчок! Я вам нічога не казаў!

*

– Ну вось бачыш, – сустрэла Адольфа Тамара, – нічога страшнага, з'ездзіў, праведаў... Як яны?

– Кажуць, як у раі.

– А на самой справе?

– На самой справе – які там рай? Два здаровыя хлопцы, нежанатыя, не працуюць. Хіба гэта нармальна? І гэтыя наезды браканьерскія...

Адольф таксама палічыў патрэбным расказаць пра Таляна – інтымна падзяліўся, што нешта не ладзіцца ў хлопца з жанчынамі; відаць, схапіў добра радыяцыі, ну, і нешта не тое.

– Я, канечне, пра такія рэчы не распытваю, а сам ён не кажа...

– Нічога! – рашуча сказала Тамара. – Мы гэта выправім. Цяпер гэта не праблема. Кампутар кішыць аб'явамі: "сама з дзіцём, шукаю чалавека, які дзяцей мець не можа"... Такіх мора-акіян, з дзецьмі і без бацькоў. Ты запрасіў іх?

– Адрас даў, і нумар тэлефона...

– Уладкуем цябе – возьмемся за хлопцаў. Мы павінны памагаць адно аднаму, бо мы цяпер адна сям'я!

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

Праца, якую Тома абяцала Адольфу некалі ў санаторыі, знайшлася ва ўстанове пад назвай ЗАТ "СпецПрадМаш", або проста эс-пэ-эм.

– А чым яны займаюцца?

– Табе ўсё скажуць. Кніжку працоўную не забудзь.

Тома прывяла яго за руку ў офіс, зазірнула ў кабінет ("дзе там наш Касперскі?"). Застаўшыся адзін, Адольф нагнуўся і пачаў разглядаць бокам прыстаўлены да сцяны макет, вялікі, памерам з більярдны стол – выразаныя з пенапласту белыя, з чырвоным дахам домікі, авал стадыёна, блакітная палоска ракі, зялёныя дрэўцы, машынкі на акуратных стаяначках, трамвайчык з "рожкамі", які пад'язджае да прыпынку, дзе стаяць фігуркі людзей: мужчыны, жанчыны, дзеці... Усё малюсенькае, ліліпуцкае, але да таго натуральнае, праўдападобнае, што Адольф міжволі прымружыў вочы, шукаючы каго знаёмага. Выйшла Тома:

– Заходзь, я пачакаю на калідоры, а вы пагаварыце.

"Касперскі" (Адольф, канечне, адразу здагадаўся, што гэта не сапраўднае прозвішча), зусім малады хлопец, яшчэ маладзейшы, можа, за Адольфавага сына, сустрэў яго з ветлівасцю, рэдкай нават для Мінска, не кажучы аб правінцыі. Адольф, як пан, сядзеў у мяккім фатэлі, а хлопец стаяў перад ім, нібы гэта Адольф бярэ яго на працу, а не наадварот.

“...Займаемся распрацоўкай праектаў. У асноўным тыпавых. Але стараемся ўносіць дызайнерскія, стылявыя навінкі... Рыхтуем разліковую дакументацыю, складаем каштарыс для будаўніцтва ад нулявога цыклу да камунікацый, інфраструктуры і азелянення... У асноўным, спартыўныя аб’екты, лядовыя палацы... Але таксама паркавыя ансамблі, і...”

– Для вас, – падкрэсліў хлопец, – у нас ёсць вакансія. Мы можам прыняць вас праекціроўшчыкам фрагментарных распрацовак. Напрыклад, будзеце рабіць толькі аўтастаянку. Альбо зялёную зону.

Як звычайна робяць у такіх выпадках – для формы, з ветлівасці – Адольф пачаў ламацца і мямліць:

– Не спраўлюся... Вопыту не маю... Такіх кампутараў ніколі не бачыў...

– А вы рабіце рукою, на ватмане. А мы потым унясем у кампутар. Мы вам таму і даем выпрабавальны тэрмін на авалодванне кампутарам. Прыйдзе ад нас чалавек, паставіць спецыяльную праграму. Будзеце дома вучыцца. А калі што незразумела, якія пытанні: звяніце, прыязджайце – падкажам, раскажам.

– Ну, калі так...

– Праўда, ёсць адно але. Вы на паўстаўкі, таму грошы невялікія. Мы можам прапанаваць усяго толькі...

І хлопец назваў суму, у пяць разоў большую за Адольфавую камвольна-камбінатаўскую поўную стаўку з усімі яе прэміяльнымі, за стаж, па кантракце і інш., і інш.

– Але гэта часова! А там усё наладзіцца!

І, нібы баючыся, каб Адольф не адмовіўся, пачаў расхвальваць, якія ў іх выдатныя ўмовы: дружны калектыў, карпаратыўнасць, ніякага дыктату, зрабіў за гадзіну – вольны чалавек.

Адольф і марыць не мог пра такую працу, нават не ўяўляў, што яны такія бываюць на свеце. І гэта афіцыйна, з запісам у працоўнай кніжцы, каб стаж ішоў, з графікам, як знарок падагнаным для творчага чалавека. Хочаш – сюды прыходзь, хочаш – дома рабі. Ну цуд, проста рай, як пляменнік Талян кажа. Адно слова – сталіца.

– Усё? – спытала Тома, калі ён выйшаў.

– Няўжо гэта праўда? І я цяпер нібыта працую? Афіцыйна? Сорамна нават...

Тома смяялася.

– Прывыкай! Галоўнае, ніхто ж не гоніць. Проста авалодвай кампутарам, калупайся ў інтэрнэце, потым паставяць спецыяльную праграму... А не хочаш, надакучыць, няма ахвоты – малюй акварэлькі.

Адольф папрасіў яе пачакаць і прайшоўся па калідоры, асцярожна заглядваючы ў расчыненыя дзверы. Якія чыстыя, светлыя, прасторныя кабінеты... Офісная прыемная строгая мэбля, чысціня, святло, у кожнага свой столік з новенькім кампутарам. І недзе тут, варта яму толькі захацець, знойдзецца і яму месца.

Толькі цяпер, калі было з чым параўноўваць, зразумеў Адольф, як у іх на камвольным камбінаце ўсё было шэра, прымітыўна. Дабітыя завірусаваныя кампутары стаялі хутчэй для антуражу, а так – кульман, ватман і рэйсшына. Аблезлае памяшканне, выпіўка ўціхую... Вечнае прыніжэнне, адчуванне абдзеленасці, абыйдзенасці цябе іншымі, непавага з боку начальства, якое само толькі тым і было заклапочана, каб яго паважалі і хвалілі.

Дома Тома адвяла Адольфу ўвесь вялікі пакой. Мальберт, кампутар. Вось гэта праца! Якая раскоша: ведаць, што ты сам сабе гаспадар, свайму часу, свайму целу! Нікому не трэба тэлефанаваць, хлусіць, прыніжацца, выдумляць, адпрошвацца. Пішы шэдэўр, малюй акварэлькі, авалодвай праектнай кампутарнай праграмай.

Але трэба ж – менавіта цяпер, калі з'явіліся ўсе ўмовы для душы і цела, калі славутага "вольнага часу" аказалася хоць адбаўляй, дзяваць не было куды – не тое што шэдэўр, нават машынальна не атрымлівалася намахаць акварэльку з Дняпром, полем і асіннікам.

Усё валілася ў Адольфа з рук. Ні да чога не было ахвоты. Дні два ён туляўся з кутка ў куток, не разумеючы, чаму так? Потым зразумеў – жонка Ірына Бацькаўна. Яна завочна па-ранейшаму не давала яму спакою. Яна нібы адсочвала кожны эпізод яго новага жыцця, як адзняты на відэакамеру. І гэтай сваёй нябачнай прысутнасцю яна непакоіла, бянтэжыла яго, сарамаціла. Перашкаджала яму забыцца, не давала расслабіцца, каб ён мог адчуць усю асалоду такога багатага, новага, шырокага, поўнага жыцця. І цяпер ён вымушаны жыць так, нібы трымае перад ёю справаздачу.

Усё гэта прыгнятала Адольфа псіхалагічна.

Ён кожны дзень званіў ёй. А яна не абзывалася. Не падымала трубкі, званкі на мабільны скідвала. Тады Адольф набіраў сяброў, знаёмых, суседку – тую самую, у якой ключы ад кватэры. Пытаўся. Яму адказвалі хутка, як пра неабавязковае, што жонка яго жывая, здаровая, працуе – і, выпаліўшы гэта, з прагнасцю пачыналі яго ў сваю чаргу дапытваць, прычым малолі неверагодную лухту – нібы з падколкамі, іранічна, а на самой справе з непрыхаванай правінцыйнай зайздрасцю, аблізваючыся на тым канцы трубкі, – пыталі, ці праўда, што ён па Еўропе раскатвае? алігархам зрабіўся? грошы грабе граблямі? як сыр у масле плавае?

Адольф адказваў:

– Ды не – я ў зат эс-пэ-эм.

– А што ты там робіш?

– Авалодваю кампутарам.

– Ух, ты! Вось жучара!

Зрэдзьчас Адольф званіў дачцэ. Але ёй званіць было без толку, яна ведала пра маці яшчэ менш, чым Адольф; гаварыла надрыўна, плаксіва, а калі і крыкліва, і ўсё скардзілася, ныла, ва ўсіх сваіх бедах вінавацячы бацькоў. Да таго ж адзін раз яе мабільнік узяў зяць-азербаджанец – відаць, спадзеючысяналяцець на жончынага палюбоўніка. Пачуўшы ў трубцы грубы голас з акцэнтам, Адольф так перапалохаўся, што сам змененым голасам пачаў прасіць прабачэння – маўляў, памылка, не той набраў нумар.

"Усё ж гэта часова! Гэта ж проста эксперымент! Я ж проста спрабую, я ж не ўсур'ёз!" – у думках апраўдваўся ён перад Ірынай Бацькаўнай, перад сабой і яшчэ чамусьці перад зяцем-азербайджанцам.

"Ну калі само цячэ, у рукі падае, пад ногі коціцца – што ж мне, адфутбольваць яго?"

"Я ж не ідыёт, каб не выкарыстаць такі шанс... Я ж не хлушу, не краду, не забіваю..."

"Проста пажыву, пагляджу вопыту набяруся... Кампутарам авалодаю... А там, калі што не па мне – дык гэта лёгка робіцца: гармонік, мальберт забраў – і маё шанаванне! Выбачайце!"

Адольф успамінаў, як падказвала яму наіўная Тома яшчэ ў санаторыі:

трэба лічыць усё як бы “творчай камандзіроўкай”, “бестэрміновым адпачынкам за свой кошт”.

Ну, так. Камандзіроўка. Адпачынак. А да Ірыны Бацькаўны ён у любы час паспее вярнуцца. Калі? Ну... калі прыспічыць. Можа, крыху пазней. Толькі не цяпер. Вернецца не крызісным п’яніцам, а чалавекам, упэўненым у сабе, багатым, разумным, застрахаваным ад крызісаў.

Быў тут яшчэ адзін важны момант. У глыбіні душы Адольф выдатна разумеў, што калі б не Ірына Бацькаўна – і адносіны Томы да яго былі б іншыя. Жонка з’яўлялася неабходным балансірам, які ўраўнаважваў. Не будзь яе – наўрад ці Адольф пачуваўся б у чужой сям’і прывольна. А пры такім раскладзе ў яго заўсёды была пра запас надзейная падстрахоўка – тыл быў яму забяспечаны, плацдарм для адступлення гарантаваны. Пакуль Ірына Бацькаўна маячыць недзе на заднім плане, датуль з ім будуць насіцца і тут.

## II

А Тома насілася з ім.

Ненасытная ў ложку, яна да ўсяго яшчэ надта ж смачна гатавала. Даведаўшыся, што Адольф аддае перавагу нацыянальным беларускім стравам, яна варыла яму капусту з белымі грыбамі, пякла бліны і рабіла мачанку са смажанымі рабрынкамі. Яйкі, мяса, сухія баравікі і салёныя грыбы купляліся толькі на базары – “свае”, а капуста, бульба, цыбуля, усялякая гародніна былі з дачы.

Не забывала яна пра Адольфаў рэкамендацыйны ліст, таму рацыён яго папаўняўся курагой, разынкамі, арэхамі. Плюс па настойлівай яе просьбе ён кожны дзень аддаваў мінімум гадзіну ціхай, няспешнай хадзе перад ядою і перад сном.

З Томай праблем не было. Затое кожныя выхадныя абавязкова прыходзілі ці адстаўнік з жонкаю, ці Вадзім з Сафі і з дзецьмі. Вялага, апатычнага Вадзіма цікавілі толькі дзве рэчы: чарка і шкварка, прычым не ў пераносным плане, а ў самым што ні на ёсць прамым, менавіта – ён піў толькі гарэлку з гранёнай чарачкі і закусваў толькі падсмажанымі шкварачкамі, каб храбусцелі на зубах. Выпіць ён мог столькі, колькі налівалі, а шкваркі з’есці ўсе, што стаялі перад ім, і патэльню вымачаць лустай хлеба. Яшчэ ён ажыўляўся, калі размова заходзіла пра жанчын, або калі ў тэлевізары паказвалі любую асобу жаночага полу: ад юнай спявачкі да якой-небудзь пажылой дыктаркі. Вадзім пераставаў жаваць, сківіца ў яго адвісала, у куточках рота выступала сліна, якую ён забываў зглынуць або выцерці, на твары з’ўлася юрлівая, драпежная, ненармальная ўсмешка, ад якой Адольфу рабілася не па сабе, і нават па спіне беглі мурашкі – тады ён нават баяўся ўяўляць, што Вадзік вырабляе з сваёй Соф’яй, і колькі часу можа займацца гэтай справаю.

Красуня Сафі гаварыла “о’кей”, ведала на *аднолькавым* размоўным узроўні – інакш кажучы, *аднолькава* кепска – усе мовы, якія толькі ёсць на свеце, сама вадзіла машыну, неаднойчы па справах і без справаў бывала за мяжою – і разам з тым зусім не разумела гумару. Ні разу Адольф не бачыў, каб яна ўсміхнулася.

– Вы, я чула, авалодваеце кампутарам, – сур’ёзна казала яна Адольфу. – Яшчэ не завялі блог? Дарэмна. Раю вам гэта зрабіць.

– Ай, я ўжо стары, – дабрадушна адказаў Адольф, на што атрымаў строгае:

– Агаворка па Фрэйду.

Яе любімай кнігай была брашура “Як дасягнуць поспеху”. Сафі падсаджвалася да Адольфа, гартала старонкі, лакаваным пазногцем падкрэслівала патрэбныя, найбольш важныя месцы. Прыступка першая... другая... пятая... І ў канцы кожнай прыступкі – уменне забываць пра няўдачы, а імкнуцца толькі ўверх. Адольфу ўяўляліся галовы і плечы, па якіх трэба караскацца. Ён удыхаў яе пах, быў так зачараваны ёю, што пасля двух-трох выхадных махнуў рукой і перастаў рабіць спробы ў нечым разабрацца. Мінск! – іншая, асобная дзяржава, тут усё магчыма, і такія сем’і, як Сафі з Вадзімам, і “Вольва” з Парыжам, і такія, як Тома, чараўніцы-жанчыны, і праца, дзе нічога не трэба рабіць, пад назваю “авалодванне кампутарам”...

Настачка з Дзімам, мілыя, таленавітыя, здаровыя, разумныя дзеці (яшчэ адно дзіва – у такога бацькі) – цешылі Адольфа, як родныя. Яны звалі яго “дзядзька Адольф” – акрамя іх і Тамары, усе астатнія пазбягалі звяртацца да яго па імені, а казалі проста – “вы”. Наста даказвала яму, што варона – самая кепская птушка, таму што назва яе – ад слова “вараваць”, а таксама дзялілася сваёй бядой: “Ведаеш, мяне яшчэ ні разу ў жыцці не кусала аса, ці хаця б пчала...” Малы Дзімка, якога Адольф паабяцаў навучыць іграць на гармоніку “Чобаты”, калі той будзе паслухмяным хлопчыкам, моўчкі ўзяў гармонік, накінуў на плечык шлейку і сыграў пачатак накцюрна Шапэна, не схібіўшы ні ў адной ноце.

На наступныя выхадныя з’ўлялася старэйшае пакаленне. І тут ужо Адольфу даводзілася трымаць вуха востра. Гэта было для яго сапраўдным выпрабаваннем. Томіна маці яшчэ так-сяк; яна толькі настойліва падкрэслівала сваю другаснасць:

– Я тут не гаспадыня, – казала ласкава, а вачыма па-ранейшаму прасвечвала Адольфа, як рэнтгенам.

У сваю чаргу, гледзячы на яе, на гэтую зморшчаную высахлую мумію, Адольф заўсёды асабліва востра адчуваў бязлітаснасць часу, і тое, што чалавек – смяротны.

Але сама няўтульна было з палкоўнікам-адстаўнікам. Хаця Адольф і здагадваўся, што насамрэч гэта звычайны які-небудзь былы гэбісцік, невялікі шэранькі кардынальчык, – але тым не менш: з самага пачатку, яшчэ завочна, з Томіных расказаў у санаторыі ён быў акружаны таемным арэолам усемагутнасці. У Тамарынай падачы ён паўставаў як добры маг, чарадзей. Ён робіць візы, пашпарты, мае сувязі, уладкоўвае на блатныя працы, – для яго няма нічога немагчымага. Яшчэ да таго, як яны пазнаёміліся, ён пачаў уплываць – тайна і яўна – на Адольфаў лёс, кіраваць ім, карэктаваць яго.

Чырванеючы і запінаючыся, Адольф заводзіў размову на тэму гаспадаркі – каб не думалі, што ён ласы на гатовае, звычайны прымак, прыжывала; усяляк хацеў паказаць, што ён станоўчы, гаспадарлівы мужчына, перарабіў, што змог, у кватэры: сантэхніку, лоджыю, і на дачы сёе-тое... Аднак ніштo не магло растапіць недавер палкоўніка. Ён слухаў падазрона, ставіўся да Адольфа суха, гмыкаў дэманстратыўна, калі Тамара звала Адольфа па імені, і ўсё маўчаў.

– Чаму ён усё маўчыць? – потым, калі госці адбывалі, скардзіўся Адольф Томе. – Я іх, гэтых маўчуноў, усё жыццё пазбягаю. Недалюбліваю. Ніколі

не ведаеш, што ў іх у галаве, добрае ці кепскае; натуральна, думаеш, што кепскае.

– Ды нічога падобнага! – смяялася Тома. – Ты менш да сэрца бяры. Яно табе спатрэбіцца – табе яшчэ медкамісію праходзіць.

– Не! За гэтым маўчаннем – прынцыпы! А я яшчэ больш, чым маўчуноў, баюся прынцыповых. Яны, канечне, справядлівыя, але ўсе жорсткія.

– Перастань. Якія прынцыпы ў старога чалавека? Адзін прынцып – каб нам, дзецям, лягчэй жылося. Ніхто табе не будзе перашкаджаць, а калі б і надумаліся, дык я хутка пастаўлю ўсіх на месца. Ну, хочаш, яны не будуць прыходзіць?

Адольфу прыемна было пачуць – “нам, дзецям”. Ён змякчыўся.

– Чаму? – на здароўе, хай прыходзяць, – высакародна дазволіў ён. – Я пра тое, што памагаць... Але ж нічога не робіцца задарма. За ўсё трэба плаціць. Настроем, свабодай, грашыма... А я нікому не хачу быць павінны.

– Гэта раней можна было так жыць. Незалежна. А цяпер без гэтага ніяк. Людзі на тое і створаны, каб памагаць адно аднаму.

– Гледзячы чым. Грашыма? Я б, напрыклад, не хацеў мець многа грошай. Непрыгожа быць багатым. Страшнавата. Багацце надта да многага абавязвае. Заўсёды на віду... Увесь час думаць толькі пра грошы, каб яны не прапалі, каб іх было яшчэ больш. А на ўсё астатняе проста фізічна не застаецца часу – на творчасць, прыроду, побыт... Беднаму лягчэй, спакайней, прасцей, нават цікавей.

– Ага. Апраўданне ўсіх бедных, – дражніла яго Тома. – Нябось, дай, дык схопіш і пабяжыш хваліцца...

– А вось і не схаплю! А вось і не пабягу! Ну, дай – і сама пабачыш!

– Ёсць бедныя шчаслівыя – і багатыя няшчасныя, – задуменна, летуценна сказала яна. – Я думаю, трэба мера, каб усё з толкам – не выстаўляцца, не свяціцца, не хваліцца...

– Справа, Томка, не ў тым. Не ў грашах. Хаця і ў іх, канечне... Жонку ніяк не магу забыць! Ты прабач ужо. Усё раблю для гэтага. Каб пабачыў хоць раз, ці адазвалася яна, а так – маўчаннем мяне карае, – з горыччу казаў Адольф.

– А чаму ты апраўдваешся? Гэта натуральна. Калі б ты адрэзаў па жывому, мне было б гэта непрыемна, незразумела. А так – лішні раз доказвае, што ты сапраўдны, добры, шчыры, таленавіты... Проста неацэнены. А яе – шкада! Сірата... Такога мужчыну не ўтрымала! Уяўляю, як ёй цяпер! Відаць, перажывае, пакутуе...

– У душы, вядома, пакутуе, – згадзіўся Адольф. – А не трэба быць такой... такой...

Ён не знайшоў патрэбнага слова. Тома працягвала:

– Вось гэта страшна, а не багацце. Я таксама ўвесь час баюся: мы ж будуем сваё шчасце на чужым няшчасці!

– А можа і не перажывае, – сказаў Адольф. – Хто быў ініцыятарам разводу? Не я ж? Значыць, чаго хацела – тое атрымала. Значыць, ёй лепш так.

– З’ездзі ты да яе. Пагаварыце. Супакоіш і сябе, і яе. Ды і дачку з унучкай праведаеш. А то не па-людску...

– Што дачка? – адрэзаная луста! А да Ірыны Бацькаўны, канечне, з’езджу, – няўпэўнена сказаў Адольф. – Вось толькі дачакаюся, калі сын з арміі вернецца. Каб заадно, усё разам. Ды што ёй станецца? Я ж званю,

мне перадаюць. Працуе сабе на камвольным. Можа, наадварот, яшчэ і радая...

Тома супакоілася і павесялела.

– Табе трэба новыя ўражанні. Трэба рух. Каб ты менш думаў. Жыццё – веласіпед: пакуль круціш педалі – едзеш, спыніўся – упаў... Трэба загружаць цябе, перабіць умоўны рэфлекс, прывычку... Цяпер жыццё не такое – іншыя каштоўнасці.

## III

Тома ніколі не забывала пра машыну, пры кожным зручным выпадку то жартачкамі, то ўсур’ёз падводзіла Адольфа да працэдуры здачы на правы. Яна расказвала, як пасля вайны ў Германіі пачалася дэпрэсія, немцы співаліся, і амерыканцы прыдумалі наладзіць масавы выпуск “фольксвагенаў”, паступова перасадзілі ўсіх у “народныя машынкі” і тым уратавалі нацыю.

Адольф адмахваўся, тлумачыў, што гэта не той выпадак. Ён проста не здатны да машыны. Па тэлевізіі паказваюць адны аварыі, і асацыяцыя чалавека за рулём выклікае толькі віскат тармазоў, пошлае “бу-бух!” – і дзве жалезныя сметніцы адна аб адну, а ў выніку “воз касцей і мора крыві”... У сваім гарадку Адольф жыў каля перакрыжавання, нагледзеўся на такое з балкона.

– А мапед? – нагадвала Тома. – Ты ж ездзіў?

– Што я там ездзіў – па тратуары практычна. Той жа веласіпед, толькі з маторчыкам... Ды я і камісію не прайду!

Яна аж захліпвалася смехам:

– Ты ў якім часе жывеш? І хто мой бацька? Камісію... Прыдумаць жа такое! Ты наіўны такі... Усё ты можаш, ты ідэальны, толькі адстаў ад жыцця гадоў на дваццаць. Нічога – здагонім, я памагу.

Скончылася тым, што адразу пасля Новага года Адольф прайшоў медкамісію і запісаўся на курсы ў аўташколу. Прычым не на паскораныя, а на трохмесячныя – каб усё грунтоўна. Доўга з Томай выбіралі графік (ранішнія групы: 8.30 – 13, вячэрнія: 18 – 22, група выхаднога дня, дзённыя: 13.40 – 17.30), спыніліся на ранішнім варыянце, калі галава свяжэйшая. Для самастойнага вывучэння тэорыі Сафі паставіла яму на кампутары ПДР, правілы дарожнага руху, надта зручная штучка, дзе было ўсё: каляровыя дыяграмы, тлумачэнні, дарожныя знакі, тэсты і самыя розныя сітуацыі, якія толькі могуць здарацца з “вадзіламі”.

Вучэбны клас. Група з трыццаці чалавек. Самыя розныя ўзросты. Гэтая ўраўнілаўка была асабліва сімпатычная. У асноўным, канечне, вучыліся маладыя дзяўчаты і хлопцы, але была і бабуля з унучкай, і маці з сынам, былі такія, як Адольф, і старэйшыя. Усе ў аднолькавым становішчы. Розум, вопыт не мелі тут ніякага значэння, а трэба было мець талент да гэтага, ці хаця б любіць, як, зрэшты, і ўсялякую справу. Хто любіў – у таго і атрымлівалася.

Спачатку ішло тугавата.

Тэарэтычныя заняткі пачалі не з элементарнага – напрыклад, як завесці машыну і крануцца з месца, або растлумачыць, чаму дарожныя знакі адны круглыя, другія – квадратныя, і чаму яны розных колераў, – а з прыдумвання нейкіх фантастычных сітуацый, ледзь не на ўзроўні: самалёт пасля

вымушанай пасадкі на аўтастраду выкаціўся на паласу сустрэчнага руху і рухаецца ў напрамку горада; пры ўездзе ў горад, дзе сапсаваны светлафор, збіліся – грузавая фура справа, гужавы транспарт (конік, упрэжаны ў воз, на якім вясёлы дзядзька з лейцамі ў руках) – на ўзбочыне, веласіпедыст злева, трамвай на павароце, а тут яшчэ коціцца чортаў самалёт... Хто каму павінен саступіць дарогу?

Абсурд гэтых сітуацый, неверагоднасць, складанасць іх увагналі Адольфа ў лёгкую паніку. Тут на дапамогу прыйшла Сафі:

– Не звяртайце ўвагі і з усяго вылучайце галоўнае.

– А што галоўнае?

Аказалася – саступаць дарогу транспарту спецыяльнага прызначэння (“членавозам з мігалкамі”, сказала Сафі) і да аўтаматызму вывучыць, дзе “права”, дзе “лева”.

І праўда, гэтыя словы – “права-лева”– неўзабаве набылі велізарнае значэнне. Адольф блытаўся, адчуваў сябе то першакласнікам, то зялёным прызыўніком, траціў каштоўныя секунды, каб скеміць, куды павярнуцца: справа – там, дзе быў пярсцёнак на пальцы, злева – гадзіннік на руцэ... Цяпер ён нават калі ішоў пехам, дык увесь час суадносіўся: злева – “праезджая частка”, справа – “пешаходная зона”. Да канца курсаў ён нават сваю правую палавіну цела пачаў любіць больш за левую.

Разам з тым яму нечакана спадабаўся гэты новы свет – як чалавеку, якому пачынае рабіцца зразумелай замежная мова. Назіраючы за іншымі, бачачы, што ён не самы горшы, Адольф уцягваўся, зубрыў правілы ПДР, запамінаў знакі, ці, як у іх казалі – вучыўся “чытаць знакі”, нароўні з тым, як чытаюць кнігу.

Тое, што здавалася цёмным лесам, прачышчалася, святлела.

Аказваецца, гэтыя строгія правілы, знакі, калі іх разумець і выконваць, някепска дысцыплінуюць. Вось каб яшчэ можна было ў жыцці такія прыдумаць! – у бытавым, прыземленым значэнні. Адкрыў кампутар, адгарнуў лісток календара, глянуў – і бачыш свой “дарожны знак-указальнік”, які раіць, дзе табе павярнуць, дзе збавіць хуткасць, а дзе і даць задні ход... Колькі б тады знікла розных дурных праблем выбару: жаніцца ці разводзіцца, змяняць працу ці заставацца на старой...

На аўтадроме, калі пачалася практыка – ваджэнне на старых, дабітых “Жыгулях” (знарок, патлумачылі Адольфу, каб потым адчуў асалоду ад сапраўднай машыны), стала лягчэй.

Дзе руль – там лева, а дзе небяспека – права. Усе перавагі меў той, хто справа. Яму трэба было саступаць дарогу, перад ім тармазіць, памятаць пра “перашкоду справа”... Плюс гэтыя небяспечныя левыя павароты, во ўжо дзе біч!

Таксама на ваджэнні высветлілася, як заўсёды, што тэорыя адно, практыка – іншае, і ў экстрэмальных выпадках лепш забыць на правілы, а дзейнічаць інтуітыўна, быць псіхолагам, умець ацэньваць, хто перад табой, ці збоку, ці ззаду: “тормаз”, “чайнік”, “адмарозак” ці нармальны чалавек – і толькі з гэтага сыходзіць. Яшчэ Адольф даведаўся пра самае галоўнае правіла – “трох Д”:

– Дай Дурню Дарогу.

Тамара ўсё ж папярэдзіла бацькоў, каб радзей наведваліся. Цяпер выхадныя ў Адольфа былі больш-менш вольныя. Ён прыязджаў на дачу, адчыняў гараж, сядаў у машыну: а) сесці, б) адрэгуляваць сядзенне і нахіл

спінкі, в) адрэгуляваць нахіл рулявой калонкі, г) адрэгуляваць люстэркі задняга віду, д) прышпіліцца рамянём бяспекі, е) яшчэ раз паглядзець у задняе люстэрка і пераканацца ў правільнасці рэгулёўкі... Паварочваў ключ запальвання. Машына паслухмяна вуркатала, як кошка, што ссумавалася па ласцы, увазе, пяшчоце. Па адным гуку матора зразумела было, якая яна адданая, згодная стаць яму сяброўкай.

Хутка ішла тая зіма. Адольф акуратна наведваў курсы, кожны месяц здымаў з банкаматаўскай карткі грошы – як так і трэба; у СпецПрад-Маш за гэты час не заглянуў ні разу. У жыцці яго пакрысе ўсталяваўся рэжым, а рэжым дае супакой душы і целу. Адольф нават характарам стаў пакладзісты, рахманы.

Усё было б зусім добра, каб не маўчанне жонкі. Гэтая стрэмка сядзела, і ніяк не можна было выцягнуць яе. Тома ледзь не кожны вечар пытала:

– Жонка маўчыць?

– Маўчыць.

– З’ездзі ты туды! І дачку заадно адведаеш...

– Ну вось хутчэй вам з’ездзі, – адмахваўся Адольф ад непрыемнай тэмы. – З’езджу! Здам на правы... Сын вернецца з арміі... Тады – і з’езджу... На нашай уласнай машыне. Каб усё заадно. Дачакаюся сына – і з’езджу!

## IV

У канцы цёплага сакавіка, калі таполі выкінулі першыя клейкія лісточкі, на бульвары каштаны пачалі набрыньваць сваімі пупышкамі, а пад імі з травы, са старых, пад снегам праляжалых пладоў, прабіваліся раздвоеныя расткі – будучыя дрэвы, прыехалі ў госці Ніна з Талянам. Лёнік баяўся горада.

Тамара пастаралася: стол, беласнежны абрус, кветкі-сурвэткі... Ніна нават не заікнулася пра меркантылізм і мяшчанства, да таго была падаўлена, забіта, расціснута маральна: Мінскам, кватэрай, абстаноўкай, багаццем ежы на стале, і выглядам Тамары, яе свежасцю, спеласцю, дабрынёй. Выбраўшы момант, калі Тома выйшла на кухню, шапнула Адольфу: “Ну, Адоля, злавіў ты лісу за хвост – трымай моцна, аберуч, не выпускай, бо другі раз не зловіш... Зайздросна жывеш!”

А Талян радаваўся чужому поспеху, як уласнаму:

– Ну і дзядзя ў мяне!.. Во дзе жыве чалавек. Вось як жыць трэба!

За сталом Тамара сказала:

– А ведаеце, Анатоль, – сказала яна, – за вас многія пайшлі б.

– А мне яно трэба? – стараючыся быць бесклапотным, адказваў Талян. – У нас і так усё ёсць. Як у раі жывем!

– Я не жартую. Вы вельмі сімпатычны. І адразу відаць, вось паверце, жанчыны гэта чуюць – вы незвычайна добры, у вас чыстая душа. Гэта самае галоўнае, паверце. А ўсё іншае цяперашнім часам нажыўное. Да таго ж вы – герой, прайшлі амаль што Афганістан...

Талян густа пачырванеў і ад збянтэжанасці выпіў чарку гарэлкі.

– Ды ну... Скажаце вы... Які герой...

І, прыкусіўшы салатам са свежых памідораў, гуркоў і зялёнай цыбулькі ў алеі, хутка перавёў размову на любімую тэму:

– Вось мамка ў мяне... Лёнік у мяне... Дзядзя Адольф во сядзіць – ён ведае, не дасць схлусіць... Эх, каб вы Лёніка пабачылі! Во хто сапраўдны

герой! Што я ў параўнанні з Лёнікам? Ты яго ўночы ў чужым лесе ў дзікім месцы да дрэва прывяжы – распутаецца! Вылузнецца! Агонь здабудзе, дзічыну зловіць голымі рукамі – і выжыве! Нам усім тут да Лёніка – як да Венеры! У Лёніка шалаш на дрэве, ён ведае, як засаду рабіць – па ўсіх правілах! Другі шалашык на вадзе, з чароту, каб да дзікіх гусей падплыць... Лёнік любую хованку зробіць. Вальдшнэп цяпер у балоты забіўся, а Лёнік ведае адну сям'ю, назірае за ёю – ну й расказвае! – хоць ты фільм здымай, так расказвае! Дзюбкі доўгія, галоўкі маленькія, а разумней за людзей. Сам сабе пераломы лечыць. Лапка зламаная, дык ён сам дзюбаю скруціць жгуцік з травы і на лапку накладзе – як гіпс у паліклініцы. Чарвякоў трэба з зямлі выманіць, дык вальдшнэп стане і лапкамі тупае – нібыта дождж ідзе! Туп-туп-туп – як кроплі дажджу! Чарвякі вераць, паўзуць на шум...

– Няўжо выпаўзаюць? – здзіўлена акруглліла прыгожыя вочы Тома.

– Бягом бягуць! Аж з зямлі выкручваюцца! Патупае – дзюб-дзюб, набярэ чарвякоў поўны рот – і панёс дзяцям.

– Як цікава.

– А то прыехалі нядаўна – завядзі на вальдшнэпаў. Любыя грошы даем! Лёнік адказвае: пайшлі. Хочаш пагубіць сабаку – пайшлі! Застанешся без сабакі.

І замоўк. Ніхто, акрамя Ніны, не разумеў нічога.

– А што такое? Чаму? – спытаў Адольф.

– Не – пайшлі! Калі не шкада сабаку, – закручваў сюжэт, падпускаў таемнасці Талян, махаючы відэльцам з сасіскаю, а другой рукой цягнуў Адольфа за кашулю.

– Ну ўсё, здаёмся, – сказаў Адольф. – Чаму так сказаў Лёнік?

Талян урачыста агледзеў усіх. Потым прамовіў з націскам, нібы паведаміў важную ваенную тайну:

– Кляшчы. Цяпер іх самы час.

– Праўда, і па тэлевізары паказваюць, – падтрымала Тамара.

Адольф успомніў сваё маленства. Ніколі раней не было такой пошасці. Адно гора – камары ды мурашкі, ну, яшчэ гадзюкі. А калі зрэдку, раз за лета, дзе ў арэшніку натрапіш на кляшча, дык потым, на другі дзень, абдзярэш, як гарошынку, ну, пасвярбіць трохі, як камар укусіў, і ўсё.

Талян усміхнуўся паблажліва, паляпаў Адольфа па плячы:

– Не, дзядзя, цяпер усё іншае! Цяпер не тыя кляшчы. Людзі ад іх гінуць. А сабакі – і падаўна.

Закасаў рукаво, паказаў шрам авальнай формы, няроўны, спечаны, як выпаленае калёным жалезам таўро.

– Што гэта?

– Апёк? – сказаў Адольф.

– Не – што гэта такое?

– Ну не ведаю я!

– Не – хто скажа?

Паўтарылася тая ж гісторыя нагнятання, што і з кляшчамі.

– Баршчавік, – нарэшце пасля сваёй каронннай паўзы спакойна, з гонарам, аб'явіў Талян. – Тры гады назад. Вы ведаеце баршчавік, дзядзя? Лёнік пакажа. У тры чалавечыя росты, як бамбук, выганяе. Нічым не вытравіш. Усё жывое труціць вакол сябе. Нічога каля яго не расце – ні крапіва, ні лопух, ні бадыллё, ні чортава лыка. Раней было такое? Ніхто і слова такога не ведаў, а баршчавікам называлі грыб, што ў боршч кладуць.

– Няўжо тры гады? Ад расліны? – спытала Тома.

– Тры, – пацвердзіў Талян, любуючыся шрамам. – Зімой праходзіць, а ўлетку, вясной на сонцы праяўляецца.

– Фотасінтэз, – нясмела ўставіла Нінка.

Калі госці паехалі, нагружаныя падарункамі, Тома пацікавілася:

– А чаму Ніна рукі памыла не як зайшла, а ў канцы? Мо што было не так?

– Ай, усё іхнія хутарскія замарочкі! – адмахнуўся Адольф.

– А Талян і праўда – сімпатычны які. І добры такі, наіўны і разумны. Душа адкрытая. На цябе падобны. Яго памыць, падстрыгчы, апрануць – ды тут кожная другая за ім пабегла б. Шкада яго! І Ніну гэтую таксама...

Скончыліся курсы. Адольф без асаблівага хвалявання пайшоў і ўсё з першага разу здаў: тэорыю і кіраванне.

Усе яго віншавалі, хвалілі. Сафі, якая прымала ў яго вучобе самы актыўны ўдзел, чмокнула ў шчаку. Палкоўнік-адстаўнік руку пацiснуў.

Гэты поспех, такое лёгкае атрыманне таго, што здавалася яму недасягальным, акрыліла яго. Тым больш, ён ведаў, наслухаўся, бачыў, як іншыя па сем разоў здаюць, нават прафесары, спартсмены, і іншыя вельмі разумныя людзі не могуць здаць, як ні біся – і хабар не памагае.

Ён любаваўся новенькім прыгожым дакументам – правамі, і думаў: значыць, і другія справы, якія здаваліся яму немагчымымі, маглі гэтак сама лёгка вырашыцца?

Можа, ён яшчэ многа чаго выпусціў з жыцця тым жа парадкам – думаючы, што гэта недасяжна? Таму нават не спрабуючы. А каб паспрабаваў – дык, глядзіш, і атрымалася б.

– Марудна запрагаю, ды хутка еду! – радасна-ўзбуджаны, хваліўся ён Тамары. – Я, відаць, нарадзіўся пад знакам жырафы – доўга даходзіць. Эх, каб мне жыццё разы ў тры-чатыры даўжэйшае! Тады б я, можа, у 140 гадоў дабіўся таго, чаго іншыя дабіваюцца ў 40.

– Усяму свой час. Даб'ешся! – не менш за яго шчаслівая, пераконвала Тамара. – Яшчэ не такога даб'ешся! Усё ў жыцці трэба паспрабаваць хаця б адзін раз. І калі не атрымаецца, спакойна адарваць ад сябе, забыць. Але ў цябе атрымаецца, абавязкова – я гарантую!

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### I

Нарэшце прыйшла чутка, што сын вярнуўся з арміі. Больш адкладваць паездку не было як. Адольф паехаў – на машыне. За гэты час ён ужо даволі прыстойна навучыўся ездзіць: то на дачу, то пару разоў у сваё эспэ-эм; зухавата рабіў левыя павароты, паркаваўся заднім ходам, нават пры абгоне нецярпліва сігналіў якомусь "чайніку", хоць у самога прылеплена была да задняга шкла ўзятая ў кружок лічба "70".

Тамара баялася за яго – упершыню далёкая дарога. Яна нават сама хацела з ім ехаць, ды Адольф рашуча заўпарціўся. Сустрэча Тамары з Ірынай Бацькаўнай ужо аніяк не ўваходзіла ў яго планы.

Не было яго два дні. Вярнуўся стомлены, без настрою. Ні сын, ні дачка не спадабаліся яму. Сын стаў нейкі прыблатнёны, нібы з турмы, а не з арміі вярнуўся. Рукі ў татуіроўках, гаварыў на жаргоне, машыну называў

– “тачка”, грошы – “бабло”, да Адольфа фамільярна звяртаўся – “баця”, паблажліва паляпваў па плячы, нібы яны былі роўня. “Дык ты падняўся моцна, баця!” Зноў цяжарная дачка цягнула старую песню – як кепска ёй з азербайджанцам, а тут яшчэ малая кашляе, яслі трэба мяняць, выхавацелька не спраўляецца, дзеці дурныя, дражняцца, б’юцца, з малой не сябруюць...

І абое – дачка і сын – толькі пра адно казалі і аднаго прасілі: грошы! грошы!

– А жонка? Пра яе чаму маўчыш?

Жонка не захацела з ім бачыцца. Як толькі даведалася, што ён прыязджае, адразу пайшла да сяброўкі, той самай, у якой знаходзіла прытулак і раней, калі Адольф закатваў сцэны.

– Нават не з’явілася... Дэманстратыўна сышла. Ну і хай! Хоць усе пасыходзьце! І што я ёй зрабіў? – шчыра здзіўляўся Адольф, паціскаючы плячыма. – Чалавек чалавека забівае – і то яму даруюць, а тут!..

Тамара не хавала радасці, што дома ў Адольфа не ладна, а тут яму лепш.

– Вось жа бесталковае пакаленнне! – Адольф быў пад уражаннем ад сваіх дзяцей, не мог супакіцца. – Лядачае, ні на што не вартае! А я яшчэ здуру здымкі паказаў: вось я ў машыне, вось у кватэры, дача буйным планам, шашлычкі, усе ў зборы і я, Адольф, у цэнтры... А вось я ў Парыжы... Ну, яны хутка скемілі: табе Парыж, нам – грошы. Я разумею – аліменты, да паўналецця. Але ж не ў такія гады! Я стары – і то ўладкаваўся...

– Ну які ты стары, – гулліва цягнула Тома. – Не кажы гэтага слова. Ты малады, самы свежы... І гэта толькі пачатак. Я абяцала – і зраблю з цябе ідэальнага мужчыну. Ты і ёсць ідэальны, я табе трошкі памагу – і ўсе табе будуць зайздросціць.

– А і праўда. Дарослыя здаровыя людзі. Дзяцей рабіць навучыліся, татуіроўкі набіваць, курыць, піць – жывіце! Вучыцеся і ўсяму астатняму! Дабівайцеся поспеху!

Усё ж паездка, знаёмы горад, родныя сцены моцна развярэдзілі яму душу. А сама горка, канечне, было, што жонка бачыць яго не захацела. Не ацаніла яго поспехаў, не парадавалася разам з ім.

У той вечар прыйшлі Вадзім з Сафі. Пануры Адольф прамаўчаў усё застолле, толькі пад канец папрасіў у Тамары:

– Можна мне, калі ласка, яшчэ шкварку? Вунь тую, падсмажыстую...

Тамара не пачула, ці зрабіла выгляд, што не пачула – і сыну Вадзіму падсунула жаданую шкварачку. Нічога не сказаў Адольф, але затаіў крыўду. І толькі позна ўвечары, у ложку, не ўтрымаўся і ўпікнуў Тому.

Тамара смяялася:

– Можа, механічна! Ну не сварыцца ж з-за шкваркі!

– Ведаеш, як бацька з сынам касілі? “Чаму, сынок, так мала бярэш?” – “Бацька, што ты раўняеш: я ж падлетак, ты мужчына!” Селі палуднаваць, сын налівае па поўнай шклянцы: “А што, бацька: ты мужчына – і я мужчына!”

– Да чаго гэта? – здзівілася Тамара.

– Да таго. Як на правы здаваць, як цвік прыбіць, дык здароўя няма. Іншыя знаходзяцца... А як чарку выпіць, закусіць – тут розуму хапае! Ведаеш прымаўку: дурны-дурны, а шкварку любіць?

– Дык ты ўсё шкварку забыць не можаш? Трэба ж – які злапомны... Ну, хочаш, я табе аднаму вялізную патэльню насмажу, з аладкамі?

– Ды не ў шкварцы справа, Томачка... Пры чым тут шкварка? Калі на тое пайшло, даўно хацеў спытаць. Чаго яны так часта сюды ходзяць? Ці... на кватэру вока паклалі?

– Канечне, ім спатрэбіцца плошча. Трэба ж думаць пра будучае. У нас ужо дзяцей не будзе, а ў Вадзіма яшчэ будуць. Божа, як хутка цяпер растуць дзеці, – уздыхнула Тома. – Пакуль малыя, дык мала з імі клопату, а з вялікімі... Ды яшчэ разнаполыя. У Насты з'явіцца хлопчык, у Дзімы дзяўчынка...

Ад гэтых слоў чамусьці зусім крыўдна, горка стала Адольфу. Нават нейкім як бы цынізмам ад іх патыхнула.

– Ты мне адно скажы: за што Вадзіму такі гонар? За якія заслугі?

– Забудзь ты пра Вадзіма! Мы так ці інакш не апынемся на вуліцы, гэта я табе абяцаю!

Яна не разумела яго. Ён устаў, уключыў святло. Падышоў да вакна, адчыніў фортку. Мінская вясна ўварвалася ў пакой вулічным шумам і свежым паветрам. Тома падышла ззаду і абняла яго.

– Ну, што не так? Усё ж добра. Чаго табе яшчэ не хапае? – пяшчотна, мякка дапытвалася яна. – Ты ўсё маеш, аб чым можа марыць мужчына. Можа, я кепская? Ты толькі скажы. Што ты хочаш, каб я зрабіла для цябе, для твайго спакою, для твайго таленту? Скажы, чаго табе не хапае?

Гэтага Адольф пакуль сам не ведаў.

## II

У прынцыпе, нічога страшнага яшчэ не здарылася. Усё гэта, ці прыблізна такое, Адольф і чакаў. Увесь час да яго рыхтаваўся. Яно не звалілася як снег на галаву.

Проста паездка ясна паказала яму, што перыяд "творчай камандзіроўкі", гэтага зацягнутага, своеасаблівага "адпачынку за свой кошт" канчаецца.

Пакуль была мэта – правы, праца, грошы, заможнасць – усё ішло само сабою, у нейкай эйфарыі, на аўтапілоце. Калі яна дасягнулася – настала паўза. І зноў яму трэба было вызначацца. Пытаць у сябе: навошта, дзеля каго і чаго ён гэта робіць?

Калі ён рабіў гэта для сябе – каб даказаць сабе, што не ўломак, а вось як спрытна змог выйсці з крызісу, пазбавіцца комплексу няўдачніка – дык гэта дасягнута. Усё даказана. Што далей?

Калі ён рабіў гэта для Томы, у знак падзякі ёй за дабро, яму зробленае, – дык трэба жаніцца з ёю. Ездзіць на працу ў эс-пэ-эм, на лецішча, – жыць.

Калі ён рабіў гэта для Ірыны Бацькаўны – дык тым больш усё атрымалася, ён пераможца; трэба вяртацца ў гарадок, уладкоўвацца на камвольны, але ўжо іншым чалавекам, трыумфатарам; маўляў, ну, бачылі, на што я здатны і як лёгка ад гэтага адмаўляюся?

У любым выпадку, яму зноў трэба было рабіць выбар. Нельга далей заставацца ў гэтай незразумелай, недарэчнай сітуацыі, тым больш, вечна так цягнуцца не можа, сама сітуацыя не дасць.

Некалі ў "крызісны" перыяд яму памагло спакойнае абдумванне. І цяпер ён інтуітыўна хацеў паўтарыць тое самае. Ён адчуваў, што трэба спакой і час, каб у нармальных абставінах прывесці ў парадак разбэрсаныя думкі і заняцца "разборкаю палётаў".

Але як на зло, менавіта ў гэты вельмі важны час, калі ў самога ўзніклі праблемы, яго ўпарта пачалі церабіць то сын, то дачка, то хутарскія.

Перыядычна Талян званіў ці на хатні тэлефон, ці на мабільны. Як заўсёды бадзёры, шчаслівы голас:

– Дзядзя, у нас усё – во! Мамка Нінка прывітанне вам перадае!

– Не трэба крычаць... Вельмі рад за вас.

– Толькі Лёнік знік! Ало! Ало!

– Як... знік?

– Ну, прапаў!

– Як... прапаў?

– Пайшоў у лес і не вярнуўся! Тыдзень ужо! Сезон-то адкрылі паляўнічы: з 20 сакавіка па 1 мая: на глушца, цецерука, з 12 мая на гуся, з 15 – на казулю! Перад гэтым прыязджалі з Мінска, прасілі глушца знайсці! А вы думаеце, лёгка цяпер глушака знайсці?

– У міліцыю заявілі? – перабіў Адольф.

– А толку? У міліцыі, думаеце, не ведаюць, што за чалавек Лёнік? Не першы ж раз ён знікае – ён тыднямі можа ў лесе жыць!

– Можа, пад'ехаць? – адчэпнага пытаў Адольф.

– Не трэба, дзядзя! Вы, галоўнае, не хвалюйцеся, сябе беражыце! Бо вы ў нас адзін – чалавек! А пра нас не турбуйцеся, мы як-небудзь... Нам нічога не трэба! Мы дужы род – не прападзем! Галоўнае, сябе глядзіце! Ды не саромцеся, прасіце! Бульбы там, сала... Бо вы ж, дзядзя, сціплы, як Лёнік, ніколі самі не папросіце! Калі мы адзін аднаго не будзем трымацца, дык каму мы трэба? Хто нам паможа? Так што не турбуйцеся, не перажывайце!..

У Адольфа палец нервова дрыгаўся на кнопцы, каб хутчэй скінуць званок.

– Спачатку нагрузяць – а потым не перажывай, – бурчаў ён, кідаючы тэлефон на канапу. – Што за звычка – грузіць чалавека сваімі праблемамі? Чаму я нікога не гружу? Чаму сам ва ўсім разбіраюся? Нікога не чапаю, нікому не званю, ні ў кога не прашу...

– Што там? – пытала Тома.

– Ды ў іх вечна... Лёнік прапаў! Пайшоў у лес і знік. Нашто мне гэта ведаць?! Мне ж нельга хвалявацца! Мне ж нервы трэба берагчы, сэрца... А яны грузяць!

– Можа, сапраўды, з'ездзі, – нясмела прапаноўвала Тамара.

– З'ездзі! Так гэта лёгка – сеў ды паехаў! І што за дзіця Лёнік?! Ён сто разоў знікаў! Знойдзецца... Не да Лёніка тут. Ён можа голы зімою ў лесе выжыць, як Маўглі.

Горад таксама не адставаў. Сын з дачкою як змовіліся – назвоньвалі і назвоньвалі. Адольф наперад ведаў, што будуць або просьбы, або дакоры, або просьбы і дакоры адначасова. Сын усё: "Баця, баця! Падкінь трохі, зараблю – аддам!" А дачка са сваім "азерам" – як невыносна ёй з ім, мардуе яе будзь здароў, хоча яна разводзіцца, а канчалася тым самым:

– Дай грошай, памажы!

– Я заняты... Абавязкова прыеду, – усім аднолькава адказваў Адольф.

Ён выслаў дачцэ і сыну невялікія сумы, але замест падзякі атрымаў адчайны лямант, што мала, кропля ў моры!

– Не, гэта пераходзіць усе межы, – абураўся, трымаючыся за сэрца, Адольф. – Я ведаю, чаго яны хочуць: каб па машыне ім выслаў, а наступны

раз па катэджы пабудаваў, а на трэці – паклаў ім у банк па мільёну еўра! Чаму мне ніхто нічога не прышле? Чаму я ні ў кога не прашу?

І зноў праклюты Хутар, зноў гарлапаніць у трубцы вясёлы Талян.

– Дзядзя, як вы пажываеце?

– Я заняты.

Але Талян не разумеў намёкаў. Тое, што для дзядзькі было прыкрасцю, драбязой, не вартай ні званка, ні згадкі, для пляменніка з'яўлялася цэлай падзеяй, і ён спяшаўся падзяліцца ёю:

– Вы не бойцеся пра грошы! Гэта ж я вам званю, дык я і заплачу!

– Лёніка знайшлі? – спытаў Адольф.

– А хто яго шукаў? А так усё добра ў нас, вы не хвалюйцеся! Мамку Нінку абяцалі хутка з бальніцы выпісаць!

– Дык яна... у бальніцы? Як?! Чаго?!

– Кляшчы пакусалі! – весела крычаў Талян. – Мы па лісічкі пайшлі, мне хоць бы што – я ж радыяцыяй прапітаны, а мамку... Ды вы не хвалюйцеся, галоўнае, дзядзя, сэрца беражыце! Яе хутка адкачалі! З рэанімацыі перавялі ў палату... Так што ўсё выдатна!

– Я пакуль заняты... Але абавязкова пад'еду, разбяруся... Пазней.

– Не трэба, дзядзя! Вы сябе глядзіце, абы ў вас усё было добра!..

– Будзе з вамі добра, – адзваніўшыся, нервова казаў Адольф. – І чаму я павінен слухаць гэта? Пра нейкіх кляшчоў, нейкага Лёніка... Начорта мне вашыя кляшчы?

– Можа, сапраўды, з'ездзіў бы, разабраўся, – мякка раіла Тамара. Апошнім часам яна пачала пабойвацца Адольфа, не разумела яго, стала разгубленай з ім.

– З'ездзі... На ключы – едзь!

Яе ўпэўненасць у тым, што варта яму захацець, і ён вось так лёгка з усім разбярэцца, раздражняла Адольфа яшчэ больш, чым званкі. Ён бачыў, у які клубок усё гэта збіваецца: хутарскія, сын, дачка з зяцем, Тамара з Ірынай Бацькаўнай, – і выдатна разумеў, што дастаткова пацягнуць з гэтага клубка адну нітку, ён зацягнецца ў такі вузел, што сто Адольфаў не развяжуць. Толькі пачні вырашаць чужыя праблемы, хоць крыху падступіся да іх – і ад цябе самога нічога не застанецца; цябе проста імгненна расцягнуць, як мурашкі жука ў мурашніку, па кавалачках.

**III**

Усе гэтыя мітрэнгі зноў расхісталі Адольфу нервы і растрывожылі хворае сэрца.

Ён часта паціраў правую грудзіну. У вушах пачыналі звінець знаёмыя званочкі – як бы крызіс вяртаўся. Да ўсяго ён зрабіўся падазроны. Яму пачало здавацца, што і тут, у Тамары, да яго ставяцца ўсяго толькі як да таннай рабочай сілы, як да вешалкі для адзення.

У ім прачнулася цяга да выкрывання. Некаторы час ён цярпеў, капіў крыўду. А потым, каб паказаць, што ў яго ёсць уласная думка, усё пачаў рабіць і казаць насуперак Тамары. На кожнае яе слова, нават самае бязвіннае: “Бацькоў трэба на дачу завезці”, – ён разгортваў цэлую лекцыю.

– ...Ім бы не па дачах ездзіць, а задумацца. Яны, і ніхто больш, спарадзілі гэтае нікчэмнае пакаленне. Стварылі сістэму, якая працуе толькі на маладых і здаровых. Ну і ну! Сістэма ж, наадварот, павінна працаваць на старых і слабых, а маладыя і здаровыя самі не прападуць.

Некалі Ірына Бацькаўна заўсёды падтаквала кожнаму яго слову. Тома рашуча, катэгарычна, хоць і ў мяккіх выразах, не згаджалася літаральна ні з чым.

– Само жыццё на баку маладых, – казала яна з мілай усмешкай. – Так і павінна быць. Маладога і здаровага – аберагай, старога і аслабленага – яшчэ больш аслабляй. Усё правільна.

Адольф гарачыўся, казаў: "Ну дзе ж правільна? А мы? Нашае пакаленне? Мы адпрацаваны матэрыял, баласт? Мы ж узялі ад жыцця яшчэ менш, чым нашы дзеці! Мы як мінімум у аднолькавым становішчы ў сваіх прэтэнзіях да жыцця!"

– Нам трэба падстройвацца пад час, – пазяхаючы, адказвала Тома. Усё ж яна была вельмі прыгожая, асабліва цяпер, у ложку, з рассыпанымі па белай падушцы валасамі. – Часы змяніліся...

– Нічога не змянілася! Ні за апошнія дзвесце гадоў, ні тым больш за мае пяцьдзясят. У дзевятнаццатым стагоддзі быў звычайны тэлефон, цяпер мабільны, у дзевятнаццатым стагоддзі ездзілі 20 кіламетраў у гадзіну, цяпер дзвесце – вось і ўсе змены. Усе вынаходніцтвы скіраваны толькі на інфармацыю і хуткасць. Каб яшчэ хутчэй разносіць па свеце сваё і чужое глупства.

– Нічога не зробіш. Трэба неяк жыць і ў такія часы. Памагаць маладым, дзецям. Нам памагалі, і мы павінны памагаць...

– Дзякую! Павінны! Я асабіста нікому нічога не павінен. У чым іхняя ў параўнанні з намі заслуга? У мабільных тэлефонах? Якія, дарэчы, прыдумала, наша пакаленне? Ці ў легалізацыі аднаполых шлюбаў!

Тома міла смяялася.

– Вось яшчэ прыдумаў! Па-мойму, гэта самае бяскрыўднае з усяго, што ёсць. Мне не замінаюць ні тэлефон, ні чужыя шлюбы. Хай жывуць на здароўе хто з кім хоча!

Яна старалася перавесці ўсё на жарт і ўзяць яго лагодаю.

– Нас жа ніхто не чапае, праўда? Я, напрыклад, толькі з табою магла б і хачу жыць... Ну, ідзі ў ложак... Тут у цябе лепш атрымліваецца, чым на трыбуне...

– А ведаеш, што твае ўнукі, – апускаўся да плявузгання Адольф, – што твая Наста казала? Якая ў яе мара ў жыцці? "Хачу стаць мадэллю, перамагчы ў конкурсе і на прызавыя грошы зрабіць пластычную аперацыю – каб сісі былі як у мамы!"

– Высокая мара! – смяялася Тома. Ці яна не разумела яго, ці не хацела разумець, альбо проста не ўспрымала яго ўсур'ёз. – Дзеці – што ты хочаш...

– А Дзімка, канечне, будзе банкірам? Нафтавым алігархам?

– Само сабою. Ну, ідзі сюды, – працягвала яна рукі, – прыдумляльшчык мой...

Тамара хоць бы слухала яго, адказвала, спрачалася. А больш не было з кім пагаварыць, выказаць усё, што накіпела: які вар'яцкі стаў свет і куды ён коціцца? Адстаўніка Адольф па-ранейшаму баяўся, ды і не стаў бы той з ім гаварыць, Вадзім і маці Томіная адпадалі, Дзімка з Настаю пачалі пазбягаць яго, адчуўшы, што з вясёлага дзядзькі Адольфа чалавек ператвараецца ў старога зануду, буркатуна, больш не залазілі яму на калені і не дзяліліся сваімі сакрэтамі.

Паспрабаваў быў заядацца з Соф'яй: маўляў, віртуальнае пакаленне,

не ведаеце жыцця... Але вопытная, загартаваная ў такіх пікіроўках Сафі нездарма штудзіравала брашурку "Як дасягнуць поспеху", яна была абаронена, як бранёй, і адразу паставіла яго на месца.

– Спрабуеце накідваць на вентылятар? – спакойна спытала яна. – Са мною не атрымаецца. На мне дзе сядзеш, там і злезеш.

Адольф не ведаў, што значыць – "накідваць на вентылятар", і адчапіўся ад яе.

## IV

Адольф і так, сам па сабе, заблытваўся ўсё больш. А тут яшчэ жыццё вырашыла ўзяцца за яго ўсур'ёз. Адна за адной пачалі здарацца непрыемныя рэчы. Як кляшчы, чапляліся да яго чужыя праблемы. Дачка кінула-такі азербайджанца, і ўжо з двума дзецьмі вярнулася жыць да маці – Ірыны Бацькаўны. І нібыта нават стала папіваць і пакурваць. З шалапутным сынам было яшчэ горш: ублытаўся ў нейкія цёмныя справы, каноплі прадаваў, ці мак, ці што ён там прадаваў. "Баця, баця!" – а далей пра саломкі, варкі, ацэтоны, "спайс", "бубкі"... Адольфа ад адных гэтых слоў перакручвала. Ён абрываў званок, звыкла абяцаючы прыехаць, разабрацца.

Неяк ён вярнуўся з прагулкі ў больш-менш добрым настроі. Май, сонейка, трава... Адольф гуляў і ў думках "выкрываў" усіх і ўсё. У гэтым была своеасаблівая псіхатэрапія, аказваецца. На парозе сустрэла яго ўстрывожаная Тома.

– Талян званіў!

Адольф пацёр скроні, узяўся звыкла за сэрца. Тут празвінеў на стале тэлефон, высветліўся незнаёмы нумар.

– Бяры, – падштурхнула Тома.

Зноў бадзёры Талян. У Адольфа аж шчака заторгалася. Ён не мог ужо чуць гэтага голасу.

– Дзядзя! Я з пошты са Старушак званю! Па міжгорадзе! Мабільны ўпаў, тройка западае... Дзядзя, у нас усё добра! цудоўна! Вы не перажывайце толькі... Сябе беражыце...

– Ды што здарылася?

– Мамцы Нінцы зноў блага. Але перавялі ўжо з рэанімацыі!

– Як? Зноў?!

– Імунітэт аслаблены! Кляшчы аслабілі! Але вы, галоўнае, не хвалюйцеся! Я спецыяльна званю, каб вас не расстройваць!

– Лёніка знайшлі? – механічна спытаў Адольф.

– А хто яго шукаў? Так што не турбуйцеся! Мы ж за вас перажываем! Калі ў вас добра, дык і нам цярпіма...

Адольф вышмаргнуў тэлефон з разеткі. Яго трэсла ўсяго.

– Не, яны мяне ўходзяць з такімі тэмпамі! Не дадуць да пенсіі дажыць! З усіх бакоў б'юць – і плакаць не даюць! Рабі пасля гэтага дабро людзям!

– Але ж тут праўда бяда, Адольф... Гэта ж ненармальна – калі чалавек знікае, і няма столькі часу. Давай, я з бацькам пагавару? Можа, ён па сваіх каналах... Ці хочаш, сам пагавары?

– Не хачу быць нікому абавязаным, – астываючы, строга сказаў Адольф. – Выбачайце, – яму непрыемна стала, што чужы чалавек, Тамара, больш хвалюецца за яго радню, чым ён сам.

Пасля таго Адольф перастаў адказваць на званкі, хатні тэлефон не

падымаў, мабільны адключыў. І, як некалі ў час крызісу, пачаў сур'ёзна думаць.

І як толькі ён пачаў думаць, захістаўся грунт пад нагамі, і на яго напалі сумненні. Можа, ён зноў нешта важнае прапусціў? Не ведае чагосьці? Знешне – толькі пазайздросціць. Усё ёсць, усяго дасягнуў: Мінск, выдатная праца, кватэра, машына, мілая жанчына, якая нічога не шкадуе для яго, па-сапраўднаму кахае, вольны час, ідэальныя ўмовы для творчасці...

А ў душы – тое самае, што было амаль год назад, калі ён глядзеўся ў люстэрка, калі на яго напаў крызіс, і ўсё яму стала няміла, а было толькі жаданне выкрываць.

Так і цяпер. Нічога больш не радавала. Да "халяўнай" працы ў эс-пэ-эм ён зрабіўся абыякавы, увогуле перастаў туды паказвацца. Нават да машыны страцілася цікавасць – ездзіць на ёй у такім настроі было небяспечна, а часу, энергіі, увагі да сябе яна патрабавала больш, чым капрызная палюбоўніца.

Адольф ішоў па вуліцы. Было толькі 27 мая, а цвіло ўсё падрад, што магло: бэз, чаромха, каштаны, слівы, вішні, кусцік ружовай сакуры каля дзіцячай паліклінікі, побач – персікавае дрэва з кветкамі на голых галінах без адзінага лісточка; цвілі белыя і жоўтыя акацыі, глог з непрыемным сваім пахам, на рабінах закручваліся суквецці, і ліпа! – нават ліпа на два месяцы раней выпусціла дробныя шарыкі, вось-вось гатовыя лопнуць, а дзе на сонечным баку і распукнутыя!

Усё паблыталася ў прыродзе. Яна нібы знарок падладжвалася пад людзей, якія хацелі паскоранага рытму, і таксама ўсё рабіла паскорана, наперакор логіцы – падыгрывала людзям, спецыяльна пацвельвала: ай, малайцы! правільна! так і трэба, толькі яшчэ хутчэй!

Адольф углядваўся ў чужыя твары. Ні на адным – ні ў старога, ні ў маладога, ні тым больш у малога – ён не бачыў ні цені сумнення. На ўсіх чыталася абсалютная вера ў правільнасць таго, што вакол адбываецца, стопрацэнтнае веданне нейкай мэты. Усе жылі так, нібы ўладкаваліся тут на вякі. І ён дзівіўся, і аніяк не мог зразумець прычыны іх пагалоўнай мэтанакіраванасці. Адкуль яна, што гэтымі людзьмі кіруе, хто напаўняе іх такой тупой упэўненасцю?

Ён адчуваў сябе сярод іх, як у лесе, – зусім адзінокім. І разважаў сам з сабою ўголас:

– Гм, адкуль яшчэ адзінота? Здаецца, усё прадбачыў, страхаваўся, нічога не забыў... І вось табе маеш – адзінота падкінулася.

Ён раней не ўмеў адчуваць адзіноту. Думаў – гэта калі нікога няма побач, калі сам. Блытаў самоту з адзінотаю. Але самота была прыемным пачуццём, біялагічнай патрэбай, неабходнай, як сон, як некалі выпіўка з сябрамі.

А адзінота аказалася зусім іншай, чым ён сабе ўяўляў. Адзінота – гэта калі ты не адзін, а калі ты нікому не патрэбен. Ні ты, ні твой вопыт, ні думкі, ні розум, ні дабрыня... Усё гэта цьфу, выкінь і забудзь. Колькі ж нявыкарыстанага, незапатрабаванага, нерэалізаванага забірае з сабою на той свет чалавек!

Адольф прыходзіў дамоў (у чужую кватэру), уключаў тэлевізар. Ехала машына па летняй палявой дарозе. Музыка, барабанны дробат. Пасярод поля маладая прыгожая жанчына, гледзячы на машыну, прыціскала да сябе маленькага сына. Машына пад'ехала, спынілася. Адчыніліся дзверцы. Малады чалавек выйшаў, зняў цёмныя акуляры і пачаў уважліва глядзець

на жанчыну з сынам. Буйным планам фары, капот, колы. Музыка ўсё больш трывожная. Крокі. Жанчына прыцiснула да сябе сына.

"Здравствуйте".

Паўза.

"Здравствуйте".

"Извините, я ищу Алексея Макарыча".

Паўза. Музыка дасягае піку трывожнасці. Раптам – цішыня.

"А его нет".

"А где же он?"

Паўза. Малы цiснецца да маці.

"А он продал мне дом и уехал в Логойск".

Паўза, неба, вялiзныя, як фары, вочы малога. Малады чалавек надзеў цёмныя акуляры і пайшоў да машыны. На паўдарозе рашуча павярнуўся і пайшоў назад да жанчыны.

"Извините, могу ли я с вами поговорить?"

– А да гэтага ты што рабіў? – пытаўся ў тэлевізара Адольф.

Доўгая паўза, музыка, сіняе неба з белымі воблакамі, увесь у кветках луг.

"Так могу ли я с вами поговорить?"

"Да. Идёмте в дом".

Адольф пераключаў на другі канал. Зноў машына, толькі едзе па гарадской вуліцы. Едзе доўга. Спыняецца. Адчыняюцца дверцы. Выходзіць малады чалавек. Зачыняе дзверцы. Бабулькі каля пад'езда. Кожнай твар – буйным планам. Марудна падыходзіць. Музыка пачынае выдаваць трывожныя ноткі. Хвіліна маўчання.

"Здравствуйте".

Паўза. Кожная з недаверам разглядвае маладога чалавека.

"Здравствуйте".

"Простите, мне нужна ваша соседка Алефтина Валентиновна Воскобойникова из 32 квартиры".

Паўза. Камера пераскоквае з аднаго твару пенсіянеркі на другі. На тварах трывога.

"Или вы её не знаете?"

Паўза.

"Почему – знаем".

"И где же она?"

"А она уехала на дачу".

"Где находится дача, конечно, не знаете?" – без усялякай надзеі спытаў малады чалавек.

Музыка дасягнула апагея трагічнасці: вось-вось павінен быць стрэл, ці выбух, ці хоць бы нечаканае слова... Маўчанне – дзве хвіліны. Буйныя планы ўсіх герояў па чарзе.

"Почему не знаем – знаем..."

## V

Прыехаў сын – нечакана, без званка, без папярэджання, сярод белага дня. Томы дома не было, толькі на кухні Вадзім, які заскочыў на хвілінку, папрасіць малаток, спакойна, з апетытам, еў. Убачыўшы маладога Адольфа Адольфавіча, хутка ўстаў:

– Вадзім, грузчык з ЦУМа.

Сын не проста ў адведкі прыехаў, а прасіць грошы на адваката. Папаўся на сваіх “спайсах”, і цяпер яму “свяціла” ці то нейкае пасяленне, ці “хімія”, ці “ўмоўна”, ці то прымусовыя работы – у залежнасці ад сумы, якую ён спадзяваўся выцыганіць у бацькі.

Адольфа проста перасмыкала ад адной толькі гэтай лексікі. Якія адвакаты, “хіміі”, суды?.. Сын ляпнуў яго па плячы і, каб павесяліць, працягнуў руку:

– Бачыш, як палец з пальцам размаўляе?

І праўда, пальцы трэсліся.

– А як там... маці? – спытаў Адольф.

– Што ёй станецца? Усё хварэе. Паказваў ёй здымкі твае. Во, на тэлефон нават скачаў. Слухай, баця, мне трэба флэшка новая, кроў з носу. Я твае здымкі перакачваў, флэшка зламалася, там жа ўсяго адзін гігабайт... Сказала, што ты пахудзеў. Вось я б так не сказаў – ты яшчэ моцны бацця!

– А... Іра?

– І Іра хварэе. Не дом, а бальніца. Азер п’яны прыходзіць, скандаліць... Не дом, а бахчысарай. Дык ты паможаш?

Адольф моўчкі падышоў да шафы і даў роўна, колькі сын прасіў – з агульных іх з Томаю зберажэнняў.

Потым, калі машынай падвозіў сына на вакзал, да электрычкі, той усё лез пад рукі: “Ну ты падняўся! Не, ты, ты... ”

– Бацця, побач з такой тачкай – ты салідны! Шчыра скажу. Ганаруся. Паважаю. Дай, абдыму цябе!..

Абняў, пацалаваў, пайшоў да перона хуткай хадой дзелавога чалавека. Расхлістаны, бесталковы... Адольф сеў у машыну (сесці... адрэгуляваць сядзенне і нахіл спінкі... нахіл рулявой калонкі... люстэркі задняга віду...)

“Пахудзеў!” А сама хварэе... А ён думаў уразіць яе здымкамі, Парыжам, дачай, шашлычкамі ды машынамі – “раскошаю”. А яна толькі і заўважыла, што пахудзеў. За год адно слова. І гэтае слова пераважвала ўсё – усе яго набыткі, поспехі, жарсці, выкрыванні, праблемы.

У Адольфа ледзь слёзы не выступілі. І палезла ў галаву розная сентыментальная драбяза. Напрыклад, як яна, сірата, плакала ад шчасця, калі ён зрабіў ёй прапанову. Або як ён аднойчы ў час “выкрывання” змахнуў са стала любімы жончын кубак, разбіў яго, а яна толькі і сказала: “На шчасце”. Як ездзіла да яго ў бальніцу праз увесь горад.

Ён з нейкай мазахісцкай упартасцю пачаў успамінаць адно за адным нязначныя, маленькія выпадкі, дэталькі, эпізоды. Як яна была цяжарная сынам і ціха дзялілася з мужам, што ад такога таленавітага бацькі абавязкова народзіцца незвычайны, адораны сын... А як яна радавалася, калі ён купіў мапед і зможа цяпер выязджаць “на натуру”, маляваць акварэлькі! Заўсёды перахрышчвала яго перад кожнай паездакай, каб не трапіў у аварыю... Смешная! Мо таму ніколі і не патрапіў, нават паддаты.

Ён успамінаў – і расчульваўся. Як усё адносна, як умоўна. Сядзець у “Вольве” і з пяшчотаю ўспамінаць мапед... Бачыла б яна яго цяпер... І тут упершыню ў яго курыных мазгах раптам праскочыла людская думка – узяць вось зараз ды рвануць на кальцавую, а там у гарадок на Дняпры! Зайсці, стаць на...

Яму пастукалі ў шкло: давай, ад’язджай! Ён паслухмяна крануўся.

Робячы левы паварот, ледзь-ледзь размінуўся з трамваем. Іскры з дроту, віскат чыгунных колаў аб рэйкі... Ён пакорліва праглынуў: “Чмо!!!” – і яшчэ некалькі мацюкоў наўздагон ад раз’юшанай жанчыны-кіроўцы, што высунулася да пояса ў акно. Толькі калі ад’ехаў далёка ад вакзала, працадзіў праз зубы:

– Маё шанаванне.

Калі Тома зайшла ў кватэру, ёй адкрылася такая карціна: мальберт, выпэцканыя анучкі, фарбы, цюбікі, грунтоўка, пэндзаль... На стале амаль пустая бутэлька гарэлкі. Адольф сядзеў, падціснуўшы пад сябе босыя ногі, і ціха наігрываў “Чобаты”.

– Гэта – усё? – ціха спытала яна. – Гэта развітанне? Я так разумею, што ўсё скончана? Ну, што ж, я бачу, як табе... Не буду трымаць. Я вельмі ўдзячная табе за...

Яна падыйшла да мальберта і ахнула.

– Гэта ж наш... асіннік! Дык ты не забыў?!

У яе былі мокрыя вочы. Яна не ведала, што ён, акрамя гэтага асінніка, нічога больш не ўмее, толькі на ім набіта рука.

– Які талент даў табе Бог, – прашаптала яна.

Адольф сам разгубіўся. Ён чакаў скандалу, а атрымался рамантыка. Акварэлькі, да якіх ён ніколі не ставіўся ўсур’ёз, цяпер так выручалі яго. Ён адклаў гармонік і падняўся на зацёклыя ногі.

– З чаго ты ўзяла, што... развітанне? – блытаючыся языком, сказаў ён.

– А хіба не?! Я падумала...

Яна, няшчасна-шчаслівая, аддана, з падзякаю на яго пазірала. Апранаючыся, каб ісці ў супермаркет па дабаўку, ён не строга, а хутчэй паблажліва не забыў нагадаць:

– Я – Адольф! Чалавек вольны. Калі што не па мне – зборы кароткія. Мальберт, гармонік і – маё шанаванне.

Ён спусціўся ўніз. Ад алкаголю, ад свабоды, ад таго, што ўбачыў, як яго кахаюць, на душы ў яго было ясна, лёгка, зразумела. Што ж, калі так – гэта мяняе справу. Можна пакуль... яшчэ і тут пажыць. Шанцуе – карыстайся, не будзь дурнем. Нічога! У Адолі шчаслівая доля! Я вам не проста так! Во як я ўмею! – урывацца ў чужыя лёсы, тасаваць іх, як карты, быць прычынай чужых слёз і чужой радасці... А да Ірыны Бацькаўны паспею вярнуцца... Яна даруе. Прыме, зразумее... Папрашу прабачэння... Раз сказала “пахудзеў”, значыць, па-ранейшаму кахае. Хай толькі скончацца гэтыя разборкі... А то сын, дачка, азер цягаецца... Пачакаць, пакуль утрасецца там...

На першым паверсе каля ліфта цярпліва чакала маленькая, з дзвюма цаглінамі пад пахаю, бабулька, худзенькая, як дзесяцігадовы падлетак.

Адольф выйшаў бокам, ветліва даючы ёй зайсці. Потым пастаяў, пагледзеў – пацягне ліфт ці не? Зачыніліся дзверы, ліфт паехаў.

– Усё не так цікава, як здавалася ў пачатку, – прамармытаў Адольф і засмяяўся. Ён ціха зацягнуў:

– Чобаты, чобаты вы мае!..

Цяпер, п’янаму, яму было мора па калена.

– Нарабілі клопату яны мне!..

# VI

З самай раніцы на далёкім, за 300 кіламетраў адсюль, Хутары Талян пачаў збірацца да маці ў бальніцу.

Яна папрасіла прынесці зялёнай свежай цыбулі з салам і чорнага хлеба – больш нічога.

Ён падагрэў на пліце ўчарашні суп, сагнуў лыжку, як чарпак, пасёрбаў трохі з каструлькі. Паеў трохі, а ўзмакрэў, як паўлуга выкасіў.

Гадзіннік на сцяне спыніўся. Талян засвяціў мабільнік, у якім западалі кнопкі, паглядзеў, колькі часу, перавёў стрэлкі і падцягнуў гіры. Паспрабаваў пальцам суп, ці астыў, панёс, выліў Жуку ў міску. На агародзе вырваў некалькі корчыкаў цыбулі, каля калодзежа, нахіляючы вядро, абмыў вадою, акуратна паабшчыкваў пазногцямі белыя ніткі-карэньчыкі. У каморы адрэзаў кусман сала, разам з хлебам закруціў усё ў газету. Адвязаў Жука, узяў палку і пасунуўся ў Старушкі.

Ішоў не дарогай, а напрасткі – як яны з Лёнікам у школу хадзілі. Некалі тут былі дзікія мясціны... Раптам ён спыніўся, як укапаны. З лаўжа наперадзе тырчэў вялікі кавалак пачарнелай слюды, і падобна было, што там, пад слюдой, чалавек! Сэрца затрэслася ў грудзях, запульсавала ў скронях. Талян падбег, паварушыў палкаю. Сатлелая ватоўка... Чайнік іржавы, пластыкавая бутэлька. Цэлафанавы каляровы пакет... Нейкія сурвэткі, разматаныя бінты... А здалёк, накрытае слюдою, так яўна прымала абрысы чалавека! Талян спачатку так і падумаў – Лёнік.

Паказаліся Старушкі, вялікая станцыя, з поштай, школай, бібліятэкай, трыма крамамі. Людзі, якія сустракаліся на вуліцы, ведалі маладога, задыханага, спацелага, з палкаю хлопца. Шкадавалі яго. Трэба ж, які лёс! Вось ужо сапраўды – дзе тонка, там і рвецца. Мала таго, што радыяцыі хапануў, з жонкаю нелады, брат прапаў – дык яшчэ з маці на кляшчоў умудрыліся наляцець! – а цяперашнія кляшчы не тыя, што раней, ад гэтых ногі адымаюцца, дзяцінее чалавек, а то і памерці можа.

– Куды йдзеш, Талян?

– У бальніцу да мамкі Нінкі! Перадачу нясу. Сала з цыбуляю захацела. Вы ж ведаеце, калі хворы чаго захоча – гвалт!

– Лёніка знайшлі?

– А хто яго шукаў?

– І што гэта з вашай сям'ёю такое здарылася? – спачувалі яму. – Столькі бяды ў адначас...

– Пазайздросцілі! – тлумачыў Талян. – Нехта добра вока паклаў!

– Дык ты зусім адзін цяпер?

– Чаму адзін?! А дзядзя? Вы хіба не ведаеце майго дзядзю – Адольфа? Гэта ж такая душа... Не перадаць! Чалавек з вялікай літары! З бальніцы пайду на пошту, яму званіць. Ён заўсёды паможа. Не, мой дзядзька Адольф (Талян падымаў вялікі палец) во такі!

*2013 г.*



Юрка Голуб



...Зіма наваліцца цішком,
І дых яе – не за гарамі...

# Запас мілосці

### *ПЕРАТРУС*

Не лез у поцемкі жыўцом.
Не чуўся хілым пад загадам.
Сачу адбеглае жыццё
На фоне згадак і загадак.

Дзіцячай велічы буквар.
І шал юнацкі – акіянам.
Не ходкі старасці тавар,
Але будзіць навошта лямант.

Кіно адкручваем назад.
Гарэзіць конь. Сапе малеча.
Ты свет на волас нанізаў
І, Бог бароніць, не скалечыў.

## З'ЯЎЛЕННЕ ДНЯ

Пазбавіў Збаўца ад пакут,
І вечка зачыніла жытку.
А каляндарных фішак жмут
Суровай ніткаю прашыты.

На неба хутар пазіраў:
Хтось зоры выцінаў зубілам.
І вызвалялася зара
З крутых абдымкаў небасхілу.

У травах нехта гергетаў,
Каб неадчэпна свет вярэдзіць.
Ды знікла лёсу гарката
З душы і цела папярэдне.

На схілах помнае гары
Спынілі шэсце цені змроку.
Цяпер там золатам гарыць
Каплічкі зніч навідавоку.

З'явіўся дзень, акі прамень.
Зязюля шчодра закувала.
А там, дзе безліч перамен,
Гуло чырвонае кавадла.

## ЗЛЕПКІ З КАСТРЫЧНІКА

Спадае бязлітасна лісце.
І кадку лядок распазнаў.
Не мае надзеі на літасць
І Шаляў няўстойлівы знак.

Застаўся ад рыжай атавы
Іржавы за коламі след.
Тут вецер ад роду картавы
Шукае сабе амулет.

На скруху пакінуты лебедзь
Затоку адсочвае днём.
А лодку, каб днішча агледзець,
У гору варочаюць дном.

Дымы засяродзіла восень.
Марудна развітваўся гром.
Калі яго транты вывозяць,
Грукоча дзіравым вядром.

Кастрычнік. Кастрыца. Сястрыца.
На зябліве руні намёк.
У стог саламяны зарыцца б...
Прымроіцца: гэта намёт.

З кастрычнікам дрэмлем. Сузор’е.
На Шалях гайдаецца лёс.
А там, дзе знаўшоўся сцізорык,
Згубілася рэха калёс.

## *ЖУРАЎЛІНАЯ АПОВЕСЦЬ*

Сшытак неба. Пішуць журавы
Падарожнай велічы аповесць.
Ападае шапка з галавы,
Што з зямлі трымае з імі повязь.

Трубіць бор пакінутым – на збор:
Не шкадуе выдыху і рога.
Нават той, хто выдумкаю скор,
Не ўяляе вынік эпілога.

А на крэсках кніжак і дарог
Можа непрадбачанае стацца.
Далібог, звысоку бачыць Бог:
Кніжнікі і птушкі пры сваяцтве.

Дый аповесць крэмзаюць вятры,
Скарачаюць вернікаў палёту.
К*а*паюць на  капішча вітрын
Перыйкі – старонкі з пераплётаў.

Зямлятрус закасваў рукавы:
Быць сутычцы, мабыць, неўзабаве.
Пішацца аповесць. Журавы
Не належаць да чужой забавы.

## *ХЛАПЧУК І ДОЛЯ, І ЗАРА*

Хадзіла зара на пракосы.
Хлапчук праз акно пазіраў:
“Навошта жывем у двукоссі?
Вылазіць з двукосся пара!”

Збягаліся разам наранку
Краса і раса, і каса.
Адвешвала вёска фіранку:
Фіранка цвіла наўскаса.

Калёсамі дзед валюхае
Па бруку прымятай бяды.
Дзядка надзялілі грахамі
За тое, што быў маладым.

Гукае зязюля за светам:
Напомніла пра медзякі.
За блізкім стаяць сельсаветам
Далёкія ў часе дзянькі.

Не спалася, здзіўлены хлопча?
Падушка маркоціцца зноў.
Прытомлена трактар лапоча,
Хоць мае жалезны назоў.

...Дражнілі дападныя атам.
Маруда палетак араў.
І доля азвалася раптам.
Апала зара.

## ЯСТРАБ

Драпежных вышынь камандор,
Расхрыстаны, ярасны, босы:
Не выкруціць крылы віхор.
Паплечнік нябёсаў!

У ястраба хуткасць – зарок.
Імгненны, як крэсіва, мускул.
Пазначана неба зарой
І ястраб пазначаны, мусіць.

У ястраба вока, як смерць,
Для тых, хто сябе апаганіў
І поўзаў, як поўзае смерд,
Калі да падлоўчых – на ганак.

У лесе, дзе смягнуць звяры
І ўсходзіць на свет светаяннік,
Ён гострыць аб ствол кіпцюры,
А потым у высях паўстане.

Спыніўся спатнелы абоз.
Трывалая стрэльба прыкладам.
...І каменем падаў з нябёс
Уласнае волі закладнік.

## ТУМАН НА НЁМАНЕ

Туман падаўся хваляй лёгкай,
І лодку ўзважвала карм*а*.
А салавей, каханых лёкай,
Паслугі ўслых рэкламаваў.

Дзе дрэмна ў лесе сосны спелі,
А Нёман з выраю ляцеў,
Было шчасліва, больш чым вельмі,
Руцэ ў дазволенай руцэ.

І баранілі абярэмца –
Кастра зняволянага дым –
І тыя, хто пад ім збярэцца,
І тыя, хто зышлі за ім.

Віват, тумане, наскай хвалі,
Якой сябе ты давяраў!
Ды не, мы разам давяралі,
А ты жыццё дакляраваў.

## МІМАЛЁТНАЯ ЗГАДКА ПРА ДОЖДЖ НА ХУТАРЫ

Праз небасхілы шпарыў дождж.
Закасваў ходам калашыны.
Стаялі ў пырсках басанож
Чарэшні, вішні і машыны.

А потым посцілкай туман
Накрыў раскопы гараскопаў,
Каб зноў не выкрыўся падман
Ад таямніцы на раскопе.

Здабытак мелі касары,
А зоры сваякоў згубілі.
Свісцёлка з лознае кары
Рулады птушак перабіла.

Нататнік свой сабе падоўж.
Дапамажы ласкава, Божа,
Як дапамог аднойчы дождж,
Бо хто нам болей дапаможа?

## ПОНАЧЫ

Павекі поначы прыплюшч –
І свет праявіцца да грана.

Уверх віецца пруткі плюшч,
А дуб дуплісты дагарае.

Заміж ваконных скразнякоў
Трапеча крыльца матылькова:
Яшчэ не вынайшлі закон,
Каб начапляць яму аковы.

Рыпіць начынне грузных грон,
Падобных вельмі да ружанца.
Калі на кручу ўсходзіць горн,
Ныраюць з кручы беражанкі.

Схапіў маланку краявід:
Вось гэтак шаблю злосць хапала,
Калі ў стрыножанай крыві
Пазнакаў згоды не хапала.

На службу ночку дождж наняў,
Амурных заклікаў аматар.
І думкі на памін няма:
Ісці адсюль, ці затрымацца...

## ЧЭРВЕНЬ. НОЧ

На дахі вечных вечароў
Пярун з размаху ставіў клеймы.
Зламаў разгневаны чарот
Стралу маланкі аб калена.

А чэрвень хроп за двух мужоў,
Ажно дрыжэлі дзверы ў сенях.
І стала конікам мяжой
Жыццё не ў травах, а на сене.

З высокай зоркай на чале
З Каробчыц пасвіліся коні.
І быў нязмушаным начлег
У рамках летняга закону.

Трымала цемра лес за пас.
Туман падклаў пад вуха ватнік.
Мілосці быў яшчэ запас,
І ў гэтым чэрвень вінаваты.

### ЗАМАЛЁЎКА З КАСЬБЫ

Навобмацак ходзіць ліхтар.
Спаўзае на бераг пакоша.
І вучацца зоры лятаць,
Каб грымнуцца лозам у кошык.

У склепе гартуецца квас.
Пад бэлькай кумпяк у каморы.
На граблі наступіш не раз,
Калі на касьбе не ў гуморы.

Марнуецца час гультая.
Блішчыць залатнік адмыслоўца.
І заўтра рака, як свая,
Прыцягне вясёлкаю сонца.

А покуль дзесь бавіцца ноч:
Заблытала ў травах спадніцу.
Блішчыць праз дрымоту наўзбоч
Каса...
Па-за ёй бліскавіца.

### ЛЕТА. ПАЛЯНЫ

Самлелыя на смольным дні,
Паляны ў зёлках пазяхаюць.
Тут светлякі адзін з адным
Расшпіляць ноч па-за імхамі.

А дуплы ў лучнасці з жаўной
Пазначылі грудзіну соснаў.
На дзікіх птушак і жывёл
Зімою руля гляне скоса.

Паляны
воблак і чмяля
Сцяблом высокім загайдалі,
Калі завея тут мяла,
Гадаць пра тое не гадалі.

...Задышка схопіць за гарляк
Засаднікаў дазорнай вежы,
Дзе сцежкі пагубляў ганчак,
Што загадзя абраў драпежнік.

Хвайняк у пужалах сцяжкоў
Вось-вось, глядзі, і загарлае...

Зіма наваліцца цішком,
І дых яе – не за гарамі.

## *ПРОСЦЕНЬКІ ВЕРШЫК*

Ранак, лесам гаваркі,
Раздзімае ноздры,
І дзяруцца гарлякі
У драздовых гнёздах.

Верашчыць пярэсты дух:
Спаў на расцяробах.
Ды арол не ловіць мух,
Асабліва дробных.

Набірае ў росах моц
Першаісны голас.
Скінуў, бачыш, свербкі коц
І свіргоча ў голлі.

Непадробны галасок
Падрабляе хтосьці.
Партытура ўсіх лясоў
Унікае злосці.

Тых, хто немы запяяць,
Бэсцяць талакою.
Гэта – зубы не баляць
За чужой шчакою.

Віктар Казько



...не ўродзіць поле –

дапаможа вада...

# Вечны покліч вады

***Апавяданні***

### Ён у мяне адзіны запаветны

Ужо і не помню, ці то недзе чытаў, ці нехта расказаў. Хутчэй за ўсё і тое, і другое. Чытаў і чуў ад бывалага і прыкметлівага, чулага душой і вокам чалавека. Чыстая і прамая творчасць амаль заўсёды ўваходзіць у жыццё як бывальшчына, як нешта бачанае табой, падгледжанае ці нават перажытае: клянуся, усё так і было. І гэтае “так і было” ператвараецца ўжо ў бясспрэчную жыццёвую праўду, бо ўся творчая праўда толькі такая. Так вось і ў мяне. Урэзалася ў памяць карцінка, як мядзведзь пасля вясновай майскай навальніцы ў сасновым бары іграў сам для сябе, іграў, нібыта на скрыпцы, на адной адзінай струне расшчэпленай маланкай хвоі.

І нібыта я ўжо сам быў тым мядзведзем, бо выразна ўсё ўяўляў сабе. І мне карцела быць каля той хвоі, карцела дакрануцца да створанай нябесным творцам струны. Адчуць яе гук і назаўсёды зліцца з ім, ператварыцца ў гук і пайсці з ім у бясконцы працяг неба, пошум сасновага бору.

Сама сасна ўпала мо не толькі ад ўдару маланкі, як ад назапашанай у ёй музыкі, дараванай ёй ад нараджэння. Упала, але не цалкам і, пэўна, не адразу, трывала трымалася за карані і зямлю, ад якіх мо і набыла мелодыю, песню. Лопнула па-жывому на вышыні росту мядзведзя і чалавека. І на гэтую вышыню, а мо крыху і большую, паўстала, узнялася ў неба вялізнай вострай стрэмкай. Так велічна і бела ўзвысілася перарваная памяць яе адвечнага спеўнага ляснога жыцця.

Ці не аб гэтую памяць, бо яна была і ягонай, і спатыкнуўся касалапы. Спатыкнуўся, здзівіўся тленнасці, здавалася б, вечнага, непарушнага дрэва, з макаўкі якога ён яшчэ з маленства пазнаў тое, што зямля круглая і хісткая, кружыцца, люляе яго. Створаная яму ў асалоду, каб ён зведаў яе і палюбіў.

Мядзведзь задумліва крануў лапай узнятую ў неба лопіну, бела-жалобную плоць былога жыцця. Пацягнуў да сябе, адпусціў. І няўчасна ўпалая хвоя пазнала яго, адгукнулася і загаварыла з ім. Загаварыла мовай скрыпкі, каторай з яе не атрымалася, а магло ж, магло... Усхліпнула і заспявала чыста і высока – небу і сонцу, бору і зверу.

Дрэва спявала назапашаным і яшчэ захаваным у ім цяплом і прагай жыцця, музыкай, што была закладзена з нічога, народжана ад лятучага і трапяткога зярняткі, якое абудзілася адначасова ўглыб і на паверхню яе – парасткам і коранем вышэйшай музыкай нябесных і касмічных сфер, невядомых планет і галактык. Цяпер жа водгукі той музыкі імкнулі да зямлі, планеты, што яе нарадзіла, у яшчэ некранутыя паміраннем карані, некранутыя, але ўжо прасякнутыя прадчуваннем сумнага ведання зямной непазбежнасці. І таму гэтая музыка была не толькі развітальнай, рэквіемам, але і гімнам, зваротам да будучыні, – да абуджанай першай майскай навальніцай заўсёднай спадарожніцы дрэва, бору – грыбніцы, да жыцця, што ўжо прачыналася сярод тых каранёў – маёвага баравічка-каласавічка, таму, як вядома сапраўдным грыбнікам, першыя баравікі зачынаюцца на Палессі ў час, калі пачынае палавець, красаваць жыта. А гэта, як заведзена, адбываецца напярэдадні ці крыху пазней Міколавага дня.

І няхітрая лясная песня мядзведзю была насычана будучыняй. Празрыстая, светлая і, здаецца, нават духмяная, як згубленая маладой хвойкай, ужо загусцелай у патаемнасці прадвечаровай заранкай бору, слязінка, смолка-жывіца, што нагадвала, пэўна, нешта да болю знаёмае і юрлівае. І мядзведзь рупіўся, баючыся падману сваёй памяці, спужаць адзіную вечную ноту свайго прыроднага існавання. І нават недаверліваму сугнею дубу, абазванаму палешукамі глухім за тое, што ён вясной пазней за ўсе іншыя дрэвы пускае ліст – калі ўжо ўсе вясковыя дзеці насуперак яму купаюцца ў рацэ – было зразумела, што гэта хлусня, нібыта мядзведзь касалапы і можа наступіць сапраўднай музыцы і музыку на вуха, што яму нехта наступіў на вуха. Таму што ў сапраўднай песні, ёсць на яе слых ці няма, не бывае фальшы. Непадробнасць і шчырасць спеўнай душы, чуйнага сэрца – самае вялікае і высокае мастацтва, таму што ў ім радасць, жальба і шчымлівае, без падробкі, адчуванне мінулага і будучага. І ў той жа час – гэта для ўсяго існага. Таму нават утоены яшчэ зямлёй, толькі пазначаны яшчэ ў матчыным улонні баравічок-мікалайчык не асэнсавана пачынае трапятліва адгукацца, расці, выцягвацца да святла і свету мелодыяй. Прыроду не падманіш папсой, што паўсюдна раскашуе сёння.

І з таго часу, як я ўведаў пра мядзведзя-музыку, зусім інакш, чымсьці

раней, заходжу ў лес і проста так, і па якой бы там ні было патрэбе, у тыя ж, як гавораць у нас на Палессі, грыбы. І гэтае “ў грыбы” для мяне, амаль цалкам пазбаўленага музычнага слыху, самая чароўная на зямлі музыка і чаравальнае, амаль незямное дзіва. Вечная асалода чалавека-шукальніка. І мо не столькі таго ж грыба, як самога сябе ў першастворанасці бароў, диброў і гаёў.

Музыка, якая гучыць ужо ўва мне, бясспрэчна глухім на яе, прачынаецца, калі я схіляюся перад бясконца зямным стварэннем, што ні дыхам ні слыхам пра сваю зверхнасць, адвечную непаўторнасць – перад баравіком, падасінавікам ці нават някідкай, у нечым падобнай да паганкі, курачкай, у нашым балотным краі – подбалаткай. Грыб ёсць грыб – стварэнне зусім не нашага, абмежаванага карысцю панылага розуму, які мы выдаем за інтэлект і цывілізаванасць – за дасведчанасць.

Хаця там, дзе я нарадзіўся, рос і браў першыя грыбныя ўрокі, праходзіў сваю грыбную першапачатковую школу, а было гэта ў паляшуцкіх барах Каленкавіч, у падпрыпяцкіх, случанскіх барах і дубровах па Жыткаўшчыне. Дык вось, там гонар лічыцца і звацца грыбам мае толькі баравік. Усе астатнія казлякі. Назва ідзе ад непагляднага і нягеглага нават у сваю сакаўную пару спеласці амаль паўсюдна парослага рашэтніка, якім паважаючыя сябе грыбнікі – а гэта ўсё Палессе і ўсе палешукі, асабліва ў прызнаных расіянамі і ўкраінцамі грыбных сталіцах – Каленкавічах, Жыткавічах і назаўсёды страчанай, мечанай мірным атамам Нароўлі, – пагарджаюць.

Мо некаму гэта пакажацца і спрэчным. Але, ах ды вох, такія мае песні. А ім жа, уласным песням, сонца не засціш і на горла не наступіш. Тым больш, калі гэта тычыцца не аднаго цябе ці мяне, а нашага радаводнага – бора, дубровы і грыба. Грэбавалі ў нас і маслюкамі, імі нават больш, з-за іх смаркатасці, плеўкасці, лічылі казлякамі з казлякоў. Абыходзілі бокам, не даючы сабе нагнуцца, лісічкі, паўсюдна раскіданыя, нібы залатыя грошыкі, у раскошы зялёнага моху падбаравых нізін.

З лісічкамі, як на мой сённяшні розум, усё проста. Сапраўды ж, што за грыб, які можна есці двойчы: іх яшчэ ў нас звалі яўрэйскімі грыбамі. І мо не безпадстаўна: у якой яны пашане і гонары сёння, але зноў жа, не пра паляшукоў, больш іншаземцаў, у пралётных і залётных па нашых трасах гаражан, расейцаў і іншых гурманаў, ласых, як гавораць, на нашы каўбасы, да прыкладу, тых жа палякаў, немцаў і іншых.

Зрэдзьчасу толькі ўстаялы, сапраўдны паляшук дазволіць сабе схіліцца перад маладзенькім, свежаўмытым расой падасінавікам – старыя, спелыя ўжо завуцца краснюкамі, а то і проста – губа – нарасць – падымаў, каб падсмажыць сыраежку, а той-сёй і подбалатку-курачку. Першая хрусткая ў смажанні, другая – салодкая, накшталт курацiны, якой мясцовыя людзі не надта балавалі сябе – усё больш на базар ды на базар. А вось грыбамі ў той колішні час, здаецца, зусім не гандлявалі. Хіба толькі сушанымі, адборна цяжкімі, звонкімі. А свежыя, не маючы магчымасці ўпарадкаваць іх самім, здавалі нарыхтоўшчыкам – перцам, грыбаварам. Непрыстойна, ці як сёння гавораць, западло было палешуку мець навар з грыба. Гонар мелі, кіў боскі: грыб ён жа, што трава, не лянуйся толькі вярэдзіць ногі ці спіну, нагнуцца.

Гэта было нешта вельмі старажытнае, дамастроеўскае. Запаветнае, што брала пачатак ад адносін да хлеба, бульбы. Мо таму на Палессі так і казалі: мясцовы чалавек ніколі не галадаў і галадаць не будзе, пакуль у яго ёсць

лес, балота – вада – і поле. Не ўродзіць поле – дапаможа вада, маецца на ўвазе рыба. Перасохне рэчка – дасць лес, грыба, разумеецца, але не толькі. Самі ведаеце, што тут лішне нагадваць. І сёння даводзіцца толькі разводзіць рукамі ды горка ўздыхаць: куды ўсё гэта падзелася, якія злыдні і пранцы пабралі, знішчылі ўсё гэта. Хто звёў нашы паўнаводныя рэкі разам з балотамі і прыбалаццямі і вёскі Вадовічы, Азярычыны, Зазеркі, Балацянкі, Убалаці, Забалоцці? Дзе нашы спелыя лясы, бары, дубровы, гаі. Няўжо ўсё спляжана, пераўтворана ў адно бясконцае поле, якое ніяк не можа задаволіць наша ненажэрнае чэрава.

Ды гэта так, спадарожна, да слова. Хаця не толькі да слова, але і да стала. Да тых жа, што амаль канулі ў небыццё танных кропак грамадскага харчавання – сталовак і так званых забягалавак. У дзяцінстве мне чамусьці падабалася забягаць у іх. Бясконца карцела нешта ўкупіць, самому разлічыцца, даць касірцы капейчыну, узяць і паставіць на паднос нешта не хатняе, купленае. Але кішэні мае дзіравыя. І я любіў глядзець, як купляюць іншыя, як гэтыя іншыя ядуць. Мяне чаравала само грамадскае харчаванне.

Аднаго толькі не мог зразумець, чаму гэты люд, што харчуецца грамадой, навідавоку, бессаромна адзін перад другім так прыпадае да дубовай бочкі з марынаванымі ці салёнымі баравікамі. Тая бочка заўсёды месцілася ў цёмным куце сталовых і чайных, у якіх, дарэчы, амаль не ўжывалі тады чаю. Вялізная, больш за піўную бочку. Мне здаецца цяпер, што за грыбы амаль ніхто і не плаціў. Падыходзілі да той бочкі з талеркай і чэрпалі вялізным драўляным апалонікам, каму колькі трэба, садзіліся за стол і елі. Вось гэта якраз мяне і дзівіла, чаму яны бяруць казённыя пакупныя баравікі. У іх што, хаты няма? Які ў іх смак, слізкія, на выгляд нават кіслыя, кісла ў носе на пагляд.

Сам хадзіць у лес, у грыбы, у баравікі, я ўпадабаў яшчэ зусім малым. Між іншым гэта была не забава, абавязак. Далучанасць да дарослых, бацькоў. Занятак з прысутнасцю спаборніцтва, мо і не асэнсаванага яшчэ суперніцтва і жарсці. А разумення грыба і дзіва яшчэ не было, хаця нейкая загадкавасць і прыцягальнасць ціхага палявання – адвечнага і благаслаўлёнага стану сялянскай мужыцкай душы ўжо абуджалася. Абуджалася і набывала вышыні звычайна яшчэ напярэдадні, у чаканні будучага разам з дарослымі паходу ў лес.

Але раніцой жаданне гэтае згасала, калі не знікала зусім. Таму што з хаты выходзілі часам яшчэ ў прыцемках, калі баравік толькі-толькі пачынаў аказваць сябе, расці. Недарэмна ж мовяць, расце як грыб, нябачна. Па нашаму ж, вулічнаму, разуменню гэта адбывалася толькі ў цемры, уначы, пры пяшчотным святле месяца і зорак.

Сонца ж і чалавечага вока грыб перасцерагаецца, баіцца сурока. Баравік трэба шукаць, знаходзіць і зрэзваць, пакуль на яго, хаця і незнарок, не натыкнулася чужое вока, вока чалавека. Здарылася такое – пішы прапала. Баравік зморшчыцца, скурчыцца, прыпадуць да яго чарвякі і іншая шматлікая пошасць і нечысць, што водзіцца ў лесе: слімакі, тыя ж камары з мухамі наляцяць. Такі ўжо ён недатыкальны ў сваёй магутнасці і прыгажосці.

Але ранішняя пабудка гэта толькі адзін бок нашага дзіцячага нежадання вылазіць з цёплага ложку і хаты. І тут ужо дзейнічаў прымус, а потым і штосьці неўсвядомленае, таямнічае дзіцячае душы: гэта ж без нас пабяруць усе нашыя грыбы. А яны яшчэ з вечара прадралі вочкі ў чаканні нас.

Нашыя ж бацькі мелі зусім іншую рацыю. Яны выпраўляліся ў лес у ахвотку – мо адсюль і пайшла назва “тихой охоты” – ціхага палявання. Ішлі, жадаючы адкінуць усе будзённыя хатнія клопаты. І на голас ішлі, на голас баравіка, які ўладна гучаў ужо ў бары. І клікаў, клікаў, уздымаючы рудой шапкай зялёны ці сівы мох над сваёй смаленай сонцам галоўкай. І яны ішлі на гэты кліч не з патрэбы свайго стала і жывата, хаця яно, канечне, баравік у любую пару, як па мерцы. І свежы, і смажаны, і салёны, і сушоны. Але забаве час, а справе абшар. Да таго, як раз’ясніцца дзень, неабходна было вярнуцца з лесу, дагледзець жывёлу, прыбрацца ў хаце і на падворку, выбраць хвіліну і збегаць на сенажаць, паварушыць сена. А да ўсяго, каб печ не ачахла. Інакш грыбное паляванне не мела сэнсу.

Вось таму ў лес трэба было патрапіць да ўсходу сонца, калі ад зямлі, падлеску і траў пачынае адскокваць лёгкі парны туманок. Увогуле ў тым туманку, начным прыпарку быў асаблівы сэнс. У парныя ночы грыб, як цеста ў дзяжы, раздаецца ўшырку, добра ідзе ў рост, раскашуе, як некалі панства. Сёння такія, прыдатныя ўсяму існаму ночы боскага паходжання, калі ў адной сарочцы, без кухвайкі можна было прабаўляць начлег, пасвячы коней ад зары да зары, амаль звяліся. У згвалтаванай меліярацыяй зводам балот і лясоў прыроды збіта дыханне, прырода помсціць чалавеку і адмаўляецца ад тварэння існага, спрадвечнага. Дарэчы, як адбываецца гэта і са стомленым ад барацьбы з прыродай, сваіх вялікіх перамог над ёй і чалавекам. Прырода чалавека і ўвогуле прырода паядналіся ў гароце і помсцяць адно аднаму спусташэннем і перакосам уласнага сумеснага будучага.

Перадранішні, яшчэ не абуджаны бор навісаў над дзіцячай свядомасцю, як жывы і не заўсёды добразычлівы да галаногай галоты. Сонца яшчэ ледзь-ледзь пазначылася ў далёкіх барвах даляглядаў. Менавіта гэтае імгненне, імгненне, калі зямля соладка пацягвалася і пазяхала туманком, што ўжо адскочыў ад хмызоў і падросту, трэба было не ўпусціць грыбніку. Пакуль раса яшчэ была малочна-каламутнай і не блікавала, не давала водбліску, не пускала люстраных зайчыкаў, не сляпіла раскошай фарбаў. Зямля бачылася выпукла і выразна, уся пад нагамі, ад травінкі да прасвідраванай ці то жуком, ці то дажджавым чарвяком кропкі ўглыб і дарожкі ўсцяж. Усё для вока абазначана. Здалёку яму на пагляд. Іменна ў гэтай падножнай абазначанасці баравых даляў мы, дзеці, і мелі найвялікшы поспех.

Даросла позірк нашых бацькоў шнырыў паверсе, а мы глядзелі ўглыб, мы самі яшчэ не адарваліся ад зямлі, былі звязаныя з грыбам, які толькі-толькі нараджаўся. І ён наводзіў нас на сябе. І ўсе так званыя баравічкі-копанікі былі нашы, зноў жа, мы былі імі самі.

А копанічкі – гэта яшчэ нават не грыбы яшчэ. Толькі іх завязь. Замесь, гушча, пачатак ці канец нашай зямной пупавіны, біяплоць ці плоць ад нашай дзіцячай плоці. Ніколі і ніколькі яшчэ не апаганеная чарвяточынай. Чыстая, проста чыстая, як смутак і смех. І знайсці іх было сапраўдным умельствам і ці не мастацтвам. Патрэбна было наша дзіцячае, не замыленае, не запарушанае пацярухай быцця вока, толькі імі тады можна было ўбачыць, а хутчэй адчуць скрыты, стоены яшчэ ў лоне маці-грыбніцы зародак, ціха дыхаючы ў ёй. Жывы і ўмольна просячы жыцця, прарыва да яго і сонца, адрыву, адскоку ад пяшчоты маці камячок, гатовы выбухнуць і ўзняць над сваёй галоўкай, хай яшчэ кволай, ці не ўсю зямлю, увесь зямны шар.

І вось гэтыя цуд і дзіва, нерв, а мо і мозг зямлі і бору трэба было імгненна выкапаць, як выкопваюць недзе невядомыя нам ні тады, ні сёння адмыслоўцы, спецыяльна натрэніраваныя парсюкі, заморскія грыбы-труфелі, як археолагі, дакопваюцца і агаляюць ці то мінулае, ці то будучае.

І мы, зямныя дзеці, у світанкавым лесе дакопваліся, падрываліся на сваіх грыбах вокам, як сапёры, размініравалі партызанскія бары. І тут, безумоўна, трэба адзначыць тое, што копанічкі былі баравікамі асаблівай якасці і каштоўнасці. Сохнучы, яны мала гублялі ў вазе і ў масе, як прышэльцы з далёкіх і невядомых планет, захоўвалі першастворанасць сваёй прарадзімы: у засолцы злёгку толькі муміфікаваліся, нібы далучаліся да ліку святых, тых жа фараонаў ў сваіх пірамідах.

Гэта былі нашыя грыбы, амаль што равеснікі. Малодшыя, а не выключана, старэйшыя нашыя браты. Дарослыя бралі свае грыбы – дарослыя. Менавіта на іх быў скіраваны і набіты іх позірк. І пра гэты позірк трэба сказаць асобна, таму што ён першы і вызначальны інструмент ціхага палявання: на які грыб наладжаны – такі і знаходзіць, вылучае і бачыць сярод процьмы іншых. Баравіковы такі пагляд і інструмент набываўся і ўдасканальваўся стагоддзямі ў палешукоў. І мы, дзеці, атрымалі яго ў спадчыну і беспамылкова валодалі ім. Як кажуць, маленькія, а палешукі ўжо.

І мы не праміналі, не спатыкаліся на баравіках, бо ўчыніць такое не толькі смеху варта – ганьба. Хаця ўзыходзілі і раслі некаторыя з іх часам, здавалася, у самым непадыходзячым месцы, дзе і сабака носам не ўшчэміцца. Звычайна выпраўляліся ў грыбы ў патаемныя спелыя партызанскія бары, дзе яшчэ не паўсюдна пазарасталі акопы і траншэі, не да рэшты спарахнелі накаты з бёрнаў партызанскіх зямлянак. Нашыя бацькі абміналі, абыходзілі іх бокам, іншым разам, пэўна, перасцярагаючыся і баючыся спатыкнуцца аб іх сваёй памяццю. Мы ж старанна даследавалі і вывучалі іх, маладосць нашых бацькоў. І на пралітай імі крыві амаль заўсёды знаходзілі баравікі. Зноў жа, гэта былі нашыя нашчадкавыя грыбы, крывавыя грыбы нашага напаўжабрацкага дзяцінства. Загусцелая, запечаная кропля на плешцы баравіка ўводзіла нас у былое, крывавую мінуўшчыну тых, хто нарадзіў нас.

Ні дарослыя, ні дзеці тае пары, збіраючы грыбы, не скнарнічалі. Не аднойчы да гэтага і будучы ўжо ў добрых гадах, чуў: паганаму, хціваму чалавеку грыб не даецца. Гэтаму можна верыць і не верыць. Але вось жывы прыклад. Неяк сустрэў у лесе чалавека. Хадзіў ён па бары з пустым кошыкам. А мне ўжо адных баравікоў было некуды месціць. Здзівіўся яго няўдачы, а мо і няўмельству. Разгаварыліся. І чалавек расказаў, што калісь быў ён у вёсцы першым грыбнікам. Але аднойчы наскочыў на такую процьму баравікоў, што напакаваў не толькі кош, але і сарочку, і майку зняў. І ўсё яму здавалася мала. У адным месцы прыкмеціў бугарок, пухліну, даволі ладную. Здалёку кідалася ў вочы. пачаў капаць. Выкапаў вялізную, кілаграмаў з пяць грыб не грыб – грыбную масу. Прынёс дамоў і пасмажыў, і суп зварыў. З’еў.

– І ўсё, як адрэзала. З таго дня маю грыбную ўдачу як рукой зняло. Каторы ўжо год ніводнага грыба, казляка, нават рашэтніка, не гаворачы ўжо пра баравік, не бачу, не знаходжу, – скардзіўся грыбнік. – А ўсё, сам лічу і старыя людзі падказалі, – мая ненаеднасць, хцівасць. Натрапіў і звёў грыбніцу. Знішчыў грыбную матку. У лес цяпер, летам, кожны дзе-

нь хаджу. Блукаю непрыкаяна, а раптам ды даруе ён мне, даруюць мне баравікі, што не ўбачылі свету, зведзеныя ў зародку.

Дзіўная гісторыя. Не менш дзіўная, чымсьці мядзведзь, што іграў у бару на струне баравой сасны. Вось таму і я не ганюся на ціхім паляванні за лішнім баравіком. Ніколі не гнаўся, хаця, хаця... Ёсць, ёсць гэта ў нас, у чалавеках. Ужо будучы ў дзетдоме на Жыткаўшчыне, у вёсачцы пры ўпадзенні ракі Случ у Прыпяць – казачныя мясціны, рай – мы ездзілі па грыбы, баравікі, на падводзе. Запрагалі пару волікаў, а бывала яшчэ і коней, перапраўляліся праз Случ, ставілі ў дуброве сярод пракаветных дубоў вазы і пачыналі рэзаць баравікі. Іменна рэзаць, таму што іх на самой справе было столькі, што хоць касі касой. Рэзалі, пакуль цалкам не загружалі вазы. Стамляючая і забойная праца, як на мясакамбінаце ці птушкафабрыцы.

Мае баравікі, хаця і растуць яны сем'ямі, знайшоў аднаго – шукай другога, брацікі-самотнікі, патаемнікі. І ідуць яны да мяне на мой голас. І гэта сказана не для прыгожага слова. Я гавару з імі, як з жывымі суразмоўцамі. Сустрэў, знайшоў – вітаюся. Сяду каля яго, а то і прылягу, пагаворым пра жыццё. І далей. Калі доўга нічога не трапляецца, тройчы стукну нажом па дрэве. І мой грыб капаціць мне насустрач.

Усе яны вельмі розныя, непадобныя адзін да аднаго. Яловыя, баравыя, дуброўныя, верасковыя, асаковыя, махавыя – як радзімічы, крывічы, драўляне, палянічы. Браў я іх на родным Палессі, у Белавежскай і Налібокскай пушчы, пад Донам і Волгай, сібірскімі рэкамі Таболам і Том'ю і нават каля ракі Гудзон у Нью-Йорку, у Амерыцы. Браў ужо розныя, час для ціхага палявання пайшоў такі, што не да пераробраў. Зноў жа, як настаўляла мяне грыбніца, якую я сустрэў пад Ракавам, паказаў дзіўны грыбок-галубок ці ласявік, спытаў, спажыўны ці не, браць альбо выкінуць. Яна ж адразу спытала мяне, адкуль я буду сам.

– З гораду, з Мінску.

– О, тады бяры, бяры. Гарадскія, мінчукі, грабуць усё.

Дагрэбліся. Само сабой, не гараджане, не мінчукі тым больш, вінаватыя ў тым, што грыбы зводзяцца. Хаця гарадскога люду ў апошнія гады стала ў лесе процьма: гукаюцца, галёкаюць, галосяць, як на Славянскім базары. Але ўсё роўна мой баравік-копанічак часоў майго маленства не выбраны, яшчэ варушыць, падымае на сваёй бялявай галоўцы, трымае на сабе Беларусь. Прабіваецца да святла, набіраючы баравыя барвы. І ён у мяне адзіны, як першае і апошняе каханне. Дзіцячае, непадробнае – наіўнае і чыстае. Я выходжу на яго ў адзіноцтве. Добрая справа патрабуе, вымушае засяроджанасці і не трывае мітуслівасці жаданняў, духа, сэрца. Я помню яго, ён помніць мяне, як помніць бор музыку мядзведзя.

Мой баравік – у разліве, паводцы блакітных верасоў, жоўценькіх кветачак някідкага і таму заўсёды крыху сумнага зязюлінага лёну, немудрагелістага белага баравога моху на нашых пясчаных палескіх узлобках. Па нізе, з-падыспаду белы, як толькі што знятая смятана. А паверху, галоўкай, рудзенькі, нібыта вынырнуў з нашых тарфянікаў ці бурштыну мора Герадота, а мо спадобіўся і паспытаў грэчкавага мёду Палесся. І злёгку ўспатнелы – ад зліцця яго водару, духу, з колерам і святлом абуджальна жыватворчай расы. Ад нецярплівага чакання мяне, сустрэчы са мной, якая заўсёды наперадзе, немінучая і вечная, як мы абодва з ім.

*Вёска Пціч і рэчка Пціч.*

## Вечны покліч вады

Жураўліным клічам згасла, сплыла ў далёкія поўдні нашае капрызнае хмарнае лета. Хаця на Палессі яно не такое ўжо і хмарнае – па колькасці сонечных дзён, як сведчаць сіноптыкі, ніколькі не саступае самой ласкавай Адэсе. Цыганкава зырка аздобіліся, запылалі берагі Гарыні, Морачы з Пціччу, Неначы са Случчу, Прыпяці з усімі яе прытокамі і непрыкметным ручаём з гучнай, знакавай назвай Харыбда. З падбярэжных, амаль бяздонных ямаў і віроў, востраплеча выбліскваючы лускай, выкачваюцца на апошні кастровы прагрэў падрыхтаваныя да зімовага паммораку тлустыя язі з напаўсоннымі ляшчамі і прылепістая вёрткая драбязa, ужо леная для няўрымслівага жору. Клёў амаль паўсюдна прыглух, а то і зусім перапыніўся. Толькі зрэдку шчасціць учапіць праставата бязглуздага ярша-насара, які, сам не цямячы чаму, пакінуў па восені ўтульную яму рэчку-маці і на злом галавы пабег да сясцёр і братоў яе нібыта з запаветным наказам: хопіць лайдачыць і абжырацца.

І ўсё рыбнае пагалоўе гэтаму наказу, немаму загаду, падобна, паслухалася. І надышла пагібель вудзільшчыкам. І прыспеў мёртвы сезон. А праўдзівей і прасцей – міжсезонне, няўчассе. Час вялікага рыбацкага суму і ўедлівага чакання.

А як вядома, чаканне і ёсць рыбацкае шчасце – вечная надзея: а раптам. Гэта надзея, спадзяванне на цуд, як кажуць у народзе – маці дурняў. А маці мы любім, таму пракаветна зняможана мардуемся ад згрызот неадступнага чакання сваёй беларускай добрай долі. Чакання такога бясконцага, што нам ужо мроіцца, нібыта яна, доля гэта, ужо злоўлена, ужо ў руцэ ў нас. І так гэта мроіцца і трызніцца, што мы, здаецца, забываемся на час, надзённае і будучае. Больш на будучае. Зводзім сваё званне ў няўчассі звадлівага, нямога знясілення.

Хаця ў восеньскае міжсезонне ўсё трошкі інакш, мякчэй – гэта больш падсвядомая туга і першабытны наш сум па першым лёдзе, якога ўсё няма і не прадчуваецца ў тумане, што бялява кладзецца і сточвае зямлю і неба спачатку імжліва восеньскай пары, а потым і каляндарна-зімовага часу. Сырое і бляклае неба мімаволі, хаця і імкліва, насоўваецца на такі ж асклізла візглявы дол. І мы відавочна губляем адчуванне не толькі часу, але і прасцягу, прасторы. Вяртаемся туды, дзе ўжо былі, толькі вельмі даўно. Былі ды збылі – у пячоры. У свет, здушана аднапамерны, з усіх бакоў абмежаваны, сціснуты. Наша падсвядомае і збытае мінулае дагнала, стрыножыла нас зноў.

І сёння, у пару няўчасся, нібыта пранікаючы розумам у тое мінулае, душа ўмольна просіць вызвалення. Таго, што было ёй наканавана Творцам, якой патаемна была ад схону вякоў абмытых кроўю ўласнай гісторыі. Прыгавораная да пракаветнага бунту і змагання з сабой самой, душа адвечнага здбытчыка і забойцы, па-сутнасці вольнага і хіжага звера. Душа ваяра паляўнічага, а гэта значыць, і рыбара, якой больш уладарыць неасэнсаваная падсвядомасць – інстынкты. Таму і такая неўтаймавана магутная ў сапраўдным прага свабоды, загадная покліч ловаў, імкненне да патаемнасці прасторы. Таму так вабяць, прыцягваюць лес і вада, і вогнішча ўначы – як непагаснае вока вечнасці, запавет продкаў. Вабяць і прыцягваюць, збіваючы з тропу, птушка, звер, рыбіна – амаль жа як людзі, чалавекі, зусім непадуладныя людзям, чалавекам.

Браты нашы меншыя, якія захоўваюць і берагуць у сабе таямніцу свайго роду і радаводную чалавека, крэўнасць пабрацімства з чалавекам, яго прагі волі, жарсцяў і нязбыўнага жадання быць. Быць адначасова і паўсюдна. І па над усім. Яго азарту вечнай гульні, вечнага руху, вечнай пагоні.

Пагоні за самім сабой. За згубленым недзе тут, на маўклівых і зарослых ужо травой небыцця лясных сцежках, у шатах старых аглохлых дубоў, у балбатліва гаваркіх водах рэкаў і ручаёў – усяго таго, што, што было так разумна і так неаддзельна ад нашага – жывога і мёртвага сэнсу і існасці. Часам у вераб'іныя, бунтоўныя ночы і паморкава задушаныя туманам дні з нежыці ўжо праху былых дубоў і бароў, з віраў, у якіх няма дна, з багны і дрыгвы да некаторых з нас даходзяць яшчэ сцятыя і неўразумелыя галасы тых, якія бунтоўна загінулі ў няўчассі стагоддзяў. Нашых продкаў, што сумуюць самі па сябе, а гэта значыць, і па нас з вамі.

Каменна, зябка ўсохлая старажытная нашая душа, больш сталая і куды больш відушчая заўчасна зношанага намі цела просіць у нас паратунку, збаўлення ад пячорнай няволі – утульнай, якаснай, прыстойнай, набытай здрадамі і пошасцю ранейшага, а можа, і будучага – нашага жыцця. І гэта збаўленне абяцаецца тымі, хто нябачна жыве ў нас, а можа, і тымі, хто шукае да нас дарогу з таго свету, нашымі прашчурамі.

Канечне, гэта амаль вар'яцтва. Утрапёнасць травы, травінкі, што ўзрывае па вясне асфальт і бетон. Узнёслае імгненне, якое, надараецца, вядзе нас да вечнасці і бессмяротнасці. Да ўчынку. Да скону на амбразурах дотаў і дзотаў. А тых, хто больш просты і разважлівы, – да невыразнасці і побытавай бязглуздасці. Накшталт вечнай бурклівасці і мардабоя, ці ўцёкаў у нікуды – поле, лес, а то і ў свой жа агарод, абдымкаў з дрэвам, тым жа дубам-бацюхнам, пацалункаў сырой матухны-зямлі. І ўжо толькі ў лепшым і высокім выпадку – узыходжанню на касцёр ці да палонкі ледзяной купелі.

Вада пасля яе першага восеньскага покліча ўсмешлівая і ўжо неспагадная, яна яшчэ пры розуме і свядомасці таго, як спеліцца нашае глупства. І, падобна, забаўляецца тым, як мы з вудамі ў руках, падобна першабытным паляўнічым з дзідамі на маманта, шалёна гойсаем па бязлюдных берагах маўкліва акалелых на стылым ветры рэк. Павуціннем лёсак позняга бабінага лета спрабуем адрадзіць тое лета, вярнуць яго і нечым пажывіцца. Дзірава і нягучна пырскае смехам пад сярдзітае слізгаценне па ёй нашых стомленых, сточаных прыбярэжным жвірам днішчаў душагубак, здзекуецца з марнага бляшнення з лодак.

Але як бы тое не было, голас у ракі ўжо прарэзаўся, хаця і не надта гожы, сыры, грыпозны. І гэта ўжо голас зімовага цёку вады. І тут нічога не змяніць, не перайначыць, таму што гэты голас узнік, нарадзіўся ўсярэдзіне нас, у нашай насцярожанай падсвядомасці. Рака, вялікая перасмешніца, толькі адгукнулася на яго, адказала нам. І голас вады, і голас чалавека зліліся ў міжсезонне ў адзіны, аднолькава журлівы ў мазглявасці няўчасся кліч, вабны і засцерагальны, што ахоплівае нас і зацягвае за далягляды і час без літасці і папярэджвання пра свае жорны. Мы ўжо ахвяры тых жорнаў. Жорнаў вялікай пракаветнай пагоні, палявання за ўласным ценем, вечным жоравам у небе, які ніколі і нікому не даецца ў рукі, нашай жарптушкай, пра якую мы з пэўнасцю ніколі не ўведаем, ёсць яна ці няма. Але ж прадчуваем, прадчуваем...

А покліч вады вакол нас і ў нас – мы ж, як гуркі, на дзевяноста пра-

цэнтаў вадзянікі – набірае моцы. Гуканне, аднамоўнасць некалі адзіных неразрыўных істот. Афарбаваны ў чырвань крык нашай стомленай крыві. І крык, які губляе цякучасць, пластыку ў стылясці свінцовага неба, свінцовага паветра, шэрай спалоханай вады, якой пагражаюць кайданамі і зняволеннем. І яна ў адчаі ўжо не верыць у будучае абуджэнне. У адраджэнне. Не дае веры ў тое, што зноў ачомаецца ад зімовай беспрытомнасці, што сон яе не будзе вечным.

Адсюль і таму, пэўна, неўтаймаванасць, раз'юшанасць вечнага кліча вады і абурэнне нашай крыві, бунтоўнасць крыві хіжых звяроў, здабытчыкаў-паляўнічых і рыбакоў. Покліч, скіраваны ў прастору і час, у космас, гнеўны, што нас не ўсюды пускаюць. У зліцце і растварэнне ў стыхіі першапачатковага свайго існавання, свайго з'яўлення на Божы белы свет. Стыхіі нараджэння ўсяго існага. Аб'яднання з вечнасцю, з самім сабой і, даруй, Божа, грэх, з самім Творцам. З уласнай велічнасцю і мізэрнасцю. З тымі, хто быў да нас, ёсць і будзе... Калі будзе.

І мы ідзем насустрач гэтаму "калі", насустрач таму, што ўвачавідкі знікае, дазвольна і плодна памнажаючы напаўзабытыя і адвергнутыя мроі і інстынкты, стылай кроўю жорсткасці і абыякавасці спрабуючы захаваць гэта наша хісткае "калі". І нішто нас так не ўсцешвае і не радуе, як прывідная падманная сутнасць нашага зямнога бытавання, мройная венцаноснасць нашага стварэння і тварэння. Апантаныя ўласным падманам, мы без разваг ступаем на тонкі зімовы ці прадзімовы лёд. На ім іншыя з нас знаходзяць і супакаенне.

Але да гэтага першага лёду яшчэ як да загавінаў. Хаця зямля пад нагамі ўжо каменна непадатная. Крохка ашклёная ноччу зямля, нібыта пасолена шэранню. А ўдзень усё яшчэ імжыць. А голас ракі цішэе і грубее, язык яе робіцца ўсё больш і больш непаваротным, прымарожаны акрайцамі берагоў, бялёса выпінаецца ў прыпалым да зямлі, знямела адсырелым зроку ні то дня, ні то ночы. Але холаду, каб скаваць гэты змрок, выцісннуць з шэрані яе вільгасць не хапае. Нават такая сярэдняя рэчка, як Случ, – а яны ў нас амаль усе сярэднія, падобна нам жа – становіцца, замярзае адразу пры сямнаццаці градусах марозу, калі ж толькі дванаццаць, то патрэбны дзве-тры ночы запар. Ні сямнаццаці, ні дванаццаці няма і блізка.

Чаканне робіцца невыносным. Кліч вады і сверб, што адгукаецца яму, развярэджвае кроў, падымае і гоніць прэч ад хаты. У поле, лес, да берагоў, зусім асірацелых ў такую пару азёр, старыц, да безабаронных могілак, калі яны трапляюцца на нашым шляху. Гэта восеньскае імкненне да нежыці, да супакоенай памяці і духу былога жыцця незразумела і невытлумачальна. Нібыта ад магіл таксама сыходзіць нячутны звычайным слыхам кліч, нібыта яны падземнымі жыламі, тагасветнымі пуцявінамі нябыцця злучаны, у адзінай повязі з водамі жывымі. І з невыказнасці і невытлумачальнасці гэтых нашых забароненых ці дазваляльных адведак магіл продкаў амаль імгненна ствараецца цуд, пачынаецца свяшчэннадзейства.

Мы яшчэ не зазналі марознага дыхання асветленага неба, а па рацэ падкалодна, змяіна шыпучы і сыкаючы, пачынае паўзці і ўтыкацца ў пясчаныя водмелі іголкава-галасны першы лёд – шуга, шарош, як нованароджаныя вожыкі. Прадвесце рэкаставу. Але непасрэдна сам рэкастаў, зноў жа невытлумачальна чаму, адбываецца ў патаемнасці начы, нябачна нашаму воку. Ніхто з нас так і паспявае адсачыць зладзейкаватага імгнення зняволення ракі.

Але ранак чысты. Пазвоньвае і іскрыста падміргвае заранкам рыбацкага

шчасця досвітак. Рака стала толькі на плёсах, а на плыні ўсё яшчэ гоніць шарош, і наша рухавае і чуйнае вуха, вуха хіжага звера, адчувае страх у гэтым распеаразаным прывабным ранку, жывыя дрыжыкі сполаху рачной рыбы. Стогн, енк і нават рык – трубны голас прадвесця рыбнай ненаеднасці па першым лёдзе, інакш – абвяшчэнне жору. Шарош выціскае рыб з плыні – у спакой снулых старыц і заток. Старыцы ўжо аблямцаваны хаця яшчэ і тонкім, але трывалым лёдам. Як гавораць пра яго ў такую пару: трашчу, трашчу, але не ўпушчу. А калі і... Але што гэта "і" паляўнічаму і рыбаку? Нішто і ніхто не ўстоіць перад неўтаймаванасцю яго жарсці пагоні. Вечным яе поклічам.

Рыбацкая скрыня з загадзя падрыхтаваным і тысячу разоў у сне і наяве перабраным і перагледжаным начыннем крыху наперадзе перад сабой, каб імгненна можна было адкінуць у бок. Першы крок па люстру лёду і сваім партрэце. Уласнаму, яшчэ не згасламу цвярозаму розуму, здольнасці хоць трошачкі сумнявацца, па сваім жа люстраным адбітку. Трымае, трымае! Нястрыманая радасць. Крышталёва-праменна пырснулі ва ўсе бакі пад націскам лёдаруба белыя атожылкі трэшчынаў. Пабліскваючы чыстым золатам альбо срэбрам, подбегам знікае ў лунцы блёшанка. Дапяла донца. Удар. Рывок. Падсечка.

І вось ужо каля нашых ног трапеча на рознакаляровым лёдзе штосьці таксама каляровае. Сама дасканаласць усяго існага. Зіхаціць суквеццем фарбаў вясны і лета, што пакінулі нас, вылепленае, высечанае, выразанае з магільнай цемры бяздонных віроў і ямаў світальнага мігцення зорак, недаступнай нам таямнічасці вады, суровага ўсёпаглынальнага змроку зямлі і космасу, чароўнага полымя агню. Пракаветнай неўтаймаванасці нашых жаданняў. Срэбрам і золатам, і кроўю нашай працяты окунь, акунёк, акуньчык, акунішча акаянны. Як і мы, хіжы, працаўнік-санітар, матрос ці матросік, гарбыль. І меркнуць усе клопаты, страхі і жарсці.

Чалавек ступіў на першы зімні лёд. Чалавек ідзе па гэтым тонкім падманным лёдзе. Куды? Каб ён толькі ведаў. Яго абралі, паклікалі на гэты лёд. Ён пачуў сваю абранасць і покліч, адвечны кліч вады, голас сваёй прамаці і прарадзімы. І пайшоў, як па лесвіцы на неба. У запаведнасць адвечнага спакою вод, дзе ён сам сабе пакуль пан і гаспадар.

Вечарам, калі вернецца дамоў, ён пераканаецца, што гэта зусім не так. Спайманае і набытае ім рачное дзіва, акунь, акунішча, матрос і гарбыль засне, патухне і скурчыцца, будзе варты толькі жалю. І вечны драпежнік, здабытчык, паляўнічы і рыбак мімаволі схамянецца, адчуе дакор, зразумее, што гэта адплата, пакаранне, што за ўсё трэба плаціць. Што гэты снулы акунёк, можа, і ёсць сам ён. Гэта знак яму, перасцярога лёсу. Але ён адрыне гэта перасцярожанне, прыспіць яго ўначы. І на золаку ступіць усё на той жа падманны лёд. Такая ўжо рыбацкая доля, прымус да жыцця і ўзнагарода яго.

Леанід Галубовіч



...Душа
ўсё
яшчэ
расце...

# Зазімак

## дом

*светлай памяці брата Колі*

Брат будаваў пятнаццаць год
уласны дом,
і вось – якраз перад улазінамі – ён
пачуў ад дактароў
дыягназ страшны...

Найлепшы час,
калі будуеш дом,
закладваеш падмурак,
фундамент заліваеш,
зруб узводзіш...
На тым этапе можна
ўнесці змены
і ўвогуле
пакінуць будаўніцтва
альбо выгодна

неабжыты пляц
прадаць другому...

А калі дом ужо
стаіць, як шклянка,
да краю поўны
потам і крывёю,
надзеяй
і паднебным блаславеннем –
ты ведаеш,
туды ўвайшоўшы раз,
яго ўжо проста так
ты не пакінеш,
бо сам рабіў надзейна ўсё –
і вокны
        з кратамі,
і дзверы
        з шыфраванымі замкамі,
і зашчапкі,
й засовы...
каб з дома гэтага
самому ўжо не выйсці...

## *ТУТЭЙШЫЯ*

Памятаю,
мама заўсёды,
калі прымала далёкіх гасцей,
ніякавата перапрошвала:
*“Вы ўжо прабачце,*
*госцейкі дарагія,*
*калі ў нас што*
*не так...”*
(падразумявалася:
і цёмнасць,
і беднасць,
і звычкі,
і мова)...

Здавалася ёй,
ды і ўсім вяскоўцам тутэйшым,
што іншым людзям
з радзімай
пашчасціла больш...

Так хацелася ім
быць да іншых падобнымі, –
а ўсё не выходзіла...

### *МІС ПРЫГАЖОСЦІ-2012*

Трэба ж, суботнім вечарам
наўгад тыцнуў кнопку на тэлепульце,
а там – конкурс прыгажосці:
выбіраюць “Міс свету-2012”.
Напаўаголеныя дзяўчаты
дэфілююць па сцэне...
Зацягвае... нават у маім узросце,
хоць і няёмка перад жонкаю,
якая з уздыхам выходзіць з кухні
і намацвае ў аптэчцы валакардзін,
каб накапаць пятнаццаць сардэчных кропель...
З усіх удзельніц
журы конкурсу пакідае толькі сем,
з якіх і будуць выбіраць “Міс свету”,
паведаміўшы, між іншым,
што пераможца, у дадатак да кароны,
атрымае дзвесце восемдзесят тысяч даляраў...

*“Ідзі вячэраць! Я зварыла тваю аўсяную кашу...”*
*“А ты?..”*
*“Я з’ем салаты, мне нешта нядобрыцца,*
*і ты ж ведаеш, у нас нягуста з грашыма...”*

Я не сумняваўся,
што перавагу аддадуць гаспадарам:
хто плаціць, той і замаўляе музыку...
Але вось гэтая, чорненькая, з Паўднёвага Судана,
чым не прыгажуня,
альбо вунь тая з Уэльса?!
Аднак журы не важна тая прыгажосць,
якая ёсць насамрэч,
а – тая,
якой яны самі жадаюць...

*“Ну, што ты лупішся цэлы вечар*
*на бессаромных дзяўчат,*
*лепш напісаў бы ліст дачцэ,*
*і ўвогуле, табе не здаецца,*
*што наша прыгажэйшая за кожную з гэтых?..”*

Карону, у рэшце рэшт,
ускладваюць на галаву кітаянкі...
Канечне, нешта ў ёй ёсць,
але, гледзячы на фота сваёй дачкі,
зробленае яшчэ на выпускным вечары,
і праўда,

я не сказаў бы, што кітаянка
нашмат прыгажэйшая...
Прынамсі, для мяне.

*“Я паслала табе, ідзі ўжо кладзіся...”*
*“А ты?!”*
*“Я лягу адна –*
*казала ж, ты хоць чуеш мяне калі ці не?! –*
*нешта нядобрыцца...”*

Ну, вось, нарэшце і скончыўся гэты конкурс...
Цікава, што будзе з прыгажунямі
праз якіх пятнаццаць гадоў?
Пэўна,
самая безразважная з іх
да той пары сканае ад нарказалежнасці,
адчайная – падхопіць ВІЧ-інфекцыю
ад безразборлівай палавой сувязі,
хітрая – зацягне пад вянец зорку кіно ці футбола,
кемлівая – разбагацее, адкрыўшы свой бізнес,
звычайная – будзе мець добрую сям’ю і чацвёра
дзяцей,
і толькі самая верная –
будзе піць нанач валакардзін
і класціся ў халодны ложак адна...

* * *

На кожным чалавеку пастаўлены свой знак:
сексот, зладзюга, скнара, прайдоха, псіх, лайдак...
Змяніць той знак прыкладваў вымогі кожны з іх:
лайдак, сексот, зладзюга, прайдоха, скнара, псіх...
Аднак пад Божым сонцам быў кожны знак відзён –
і кожны заставаўся пры ім да скону дзён.

## КРЭЎНАЕ

*Юры Станкевічу*

Чаму так рэдка звяртаемся мы да роднае мовы?
Таму што да нас, знямелых, мова рэдка
вяртаецца...
Помню, яшчэ з дзяцінства бабулі маёй замовы
ад розных хвароб і нягодаў – такое не
забываецца...

Галоўнае было ў мове, у словах і іх таемстве,
і ў бабуліным стане – чароўнасці й
чарадзейнасці...

Якім вялікім і казачным наш свет здаваўся ў
маленстве
з усёй сваёй непаўторнасцю, ва ўсёй сваёй
непадзельнасці!..

А сёння, вось, адчуваю, што ўсё састарэла, здрабнела,
што кроў растварылі з вадою, і род вымірае ў
канвульсіях...
І ўсё, што бабуля асвечвала й захоўвала, –
ссатанела...
І там, дзе была Беларусь мая, ужо амаль *Белоруссия*...

Адкуль жа яно, з якога зрачонага грэхападзеня,
з якой варажнечы, лютасці, ніцасці, памяркоўнасці
выйшла нарэшце вонкі за межы болю й цярпення,
схіляючы люд знямелы да рабалепнай пакорнасці?..

Як доўга гэта трывацьме, і чым яно скончыцца м*а*е,
ведаць таго не дадзена тым, хто Айчыны не годныя,
хоць маці ўсякага сына па смерць за свайго прымае,
нават людзьмі праклятага, а для яе ўсё ж роднага.

Веру я, набяруцца і гарту й змагарства развою,
тыя, хто, долу ўпалыя, вочы падняць баяліся,
іх сцягі спалатнелыя ўжо наліліся крывёю,
і мячы з'іржавелыя ратных рук зачакаліся...

* * *

У лесе робяць прарэджванне
(у нас казалі, – ачыстку)...
Дрэвы ляжаць уроскід,
вачмі зялёнымі ў неба...

Сеў на бяскроўны пень
і слухаю, як ува мне
шуміць, шапоча, хвалюецца
кронай разгалістай
дрэва...

Душа
ўсё
яшчэ
расце...

### ЗАЗІМАК

Ад жніва
да намалоту,
ад чорнай работы
да едкага поту –
калі ўсё звазілася і знасілася –
восень нарэшце азалацілася.
За ўсё мадзенне,
бяссрэбраны клопат,
рачкаванне ў надзеі
на ўдачу і попыт –
узбагацілася.

Ды толькі золата
зграбла-сабрала –
яе дабро зіма ўцікавала:
снегам прыцерусіла,
да медзі выстудзіла,
завеямі перанасіла –
голаю выставіла.

### * * *

*Айчыне*

Лёд раставаць не меў ахвоты.
Мякчэў, жаўцеў, слабеў да поту.

Ён не жадаў вадою быць –
знікаць з вачэй, кудысьці плыць...

Хоць быў з вады і быў вадою,
але – субстанцыяй другою.

Быў плоццю мерзлае вады,
змярцвелай, ды не назаўжды,
а да цяпла спагадных дзён,
калі сыходзіць скон, як сон,
з вады,
              і талая вада
вызвольваецца ад ільда,

сплывае ў свет жыцця ўваскрэслы,
каб помніць мёртвы час свой, мерзлы,

той час, калі гняло быццё, –
і лёд бярог яе жыццё.

* * *

Бабуля мая памерла
на дзевяноста трэцім годзе жыцця.
*“Як адзін дзень...”*, – казала яна.

Сябар загінуў трагічна
ў дваццаць чатыры гады:
*жыццё – як імгненне...*

Малое дзіцё
трапіла пад колы аўто:
*толькі здзіўленне*
*ў вачах засталося...*

Матылёк лёгкакрылы
заляцеў у пакой
і па кніжных паліцах пырхае,
нязмушана пералятаючы
з вокладкі Гамера
на вокладку Мележа...

Ад Ітакі да палескіх балот
плыве Герадот,
покуль час уліваецца
ў бяздонную вечнасць...

*2011-1013 гг.*

Лідзія Арабей



...чалавецтва
з пачатку свайго існавання
не паразумнела...

# Пошукі ісціны

***Абразкі***

## ПРАГРЭС

Тагачасная тэхніка ў чалавецтва была на вельмі нізкім узроўні і інквізіцыя спальвала ерэтыкоў на вогнішчах, у Францыі пабудавалі гільяціну, а ў Расіі секлі галовы звычайнаю сякераю на пласе, ну і яшчэ вешалі.

Потым разумныя людзі прыдумалі пісталеты, аўтаматы і вінаватых, не вінаватых пачалі забіваць тысячамі. А прагрэс жа не спыняецца, пачакайце, яшчэ гахне атамная ці вадародная бомба, бо тое, што было ў Херасіме – толькі “проба пяра”.

## СЫН

У маіх знаёмых гадаваўся сын, і яны ніяк не маглі разабрацца – ці ён геніяльны, ці дурны. А паколькі гэта быў іхні сын, то яны больш схіляліся да таго, што хлопец геніяльны.

## ПРАЎДА

Толькі чалавек, страціўшы розум, можа напісаць праўду пра наш вар'яцкі свет. Як вялікі іспанскі мастак Францыск Гоя, толькі страціўшы розум, змог напісаць праўду пра інквізіцыю.

## ЖОНКІ

Ён пражыў з жонкаю дваццаць пяць гадоў, выгадаваў двух дзяцей. Паехаў летам у санаторый, пазнаёміўся там з маладою жанчынаю, закахаўся і пакінуў сям'ю, ажаніўся з тою. Не мог нахваліцца на новую жонку – і якая яна разумная, і якая прыгожая. Пражыў шчасліва гадоў дзесяць.

Ды раптам маладая жонка захварэла, прычапілася да яе тая страшная невылечная хвароба, і хутка жанчына памерла. Ён застаўся адзін, і сам скора захварэў.

Першая жонка, якую ён пакінуў, кожны дзень прыязджала да яго, даглядала і была пры ім да апошняга яго дыхання.

## ЯКІ Ж?..

У 1917 годзе паэт Барыс Пастарнак спытаў у сваім вершы: “Якое ж, мілыя, тысячагоддзе сёння на двары?”

Здаецца мне, што і сёння мы можам задаць такое ж пытанне: “Які ж на свеце сёння век, сябры?”.

Ва ўсе часы пісьменнікі, паэты лічыліся розумам, сумленнем нацыі. У нас, у пісьменнікаў, адабралі мову, пазатыкалі раты.

## НЯЧЫСТАЯ СІЛА

Мусіць, яны кахалі адно аднаго, бо пажаніліся і нарадзіўся сын. А потым нібы ўбілася ў мужа нячыстая сіла, загуляў, не стыкаўся дома, часам не начаваў. А потым і зусім пакінуў сям'ю – скруціўся з нейкаю бабаю.

Яна бедавала, гаравала, адна гадавала сына. А хлопчык рос і ўсё больш рабіўся падобны на бацьку.

Яна любіла, шкадавала сына, але пакута, крыўда, што перажыла, часам навісала туманом і над хлопчыкам.

Яна разумела, што дзіця ні ў чым не вінаватае, але скрэбла ў грудзях, калі абдымала сына, і быццам нешта замінала ўсю душу аддаць дзіцяці.

## КЛАСІК

Дзяржаўная прэса славіць, узносіць Уладзіміра Караткевіча, называе яго класікам беларускай літаратуры.

Васіля Быкава ў дзяржаўнай прэсе не ўпамінаюць, і вуліцы імя яго ў Мінску няма.

Але я думаю, што каб жывы быў Караткевіч, то наўрад ці пайшоў бы ён у саюз Чаргінца. І нічога пра Караткевіча не пісалі б, і не было б у нас класіка.

## БЕСТАЛКОВЫ

Матка была інвалідам, у яе ампутаваныя абедзве нагі. Даглядаў яе сын – бесталковы хлопец – нідзе не працаваў, выпіваў. Але нешта дома гатаваў, матку карміў. І год, і два. Абодва жылі на матчыну інвалідную пенсію.

А хворай рабілася ўсё горш і горш, і аднойчы вечарам сын зразумеў, што матка памірае.

Ён схіліўся над ёю, трос за плечы, прасіў:

– Мамка, не памірай!..

Па твары ў яго цяклі слёзы.

– Не памірай, – прасіў ён, – бо як я буду жыць...

І невядома было, ці не дае ён мацеры памерці, бо шкадуе, ці таму, што як маці памрэ, то не будзе яе пенсіі. І сапраўды – як ён будзе жыць...

## БУЛЬБАЧКА

Да экспедыцыі, якая працавала на ільдзіне ў Ледавітым акіяне, прыехалі госці – пісьменнікі, адведаць сяброў. Прывезлі з сабою шмат гасцінцаў – ікры, шыкоўнай рыбы, кансерваў, кілбасы, шакаладу і пяць кілаграмаў бульбы, якую тут жа зварылі ў чыгуне на спіртоўцы.

Усе прысмакі засталіся некранутыя, а бульбу з'елі ўсю, з лупінамі.

## ПАДАРОЖЖА

У час вайны я два гады жыла ў Шчучыне Гродзенскай вобласці, калі вызвалілі Беларусь, вырашыла з'ездзіць у Мінск, да маці.

Нейкі цягнік спыняўся на станцыі Ражанка, пад Шчучынам. Мне ўдалося сесці ў яго.

Ехала ноччу, зімою, змерзла, а пасярод вагона тапілася буржуйка. Пакінуўшы свой чамаданчык, у якім я везла пару брусочкаў масла ў галодны Мінск, я прысела на нейкую скрынку каля той буржуйкі. А была ноч, і мне вельмі хацелася спаць, і я задрамала, і прыхілілася лбом, тварам да распаленай буржуйкі.

Ачнулася ад моцнага болю.

Калі вярнулася ў куток, дзе пакінула чамаданчык, убачыла, што ён адчынены і брусочкі масла зніклі. Нехта ўкраў.

Цягнік, у якім я ехала, мог давезці мяне толькі да Маладзечна, у Маладзечне я дачакалася цягніка, які кіраваўся на Мінск. І вось ён прыйшоў.

Білетаў на яго не прадавалі, а вагоны былі паўнюткія – не ўбіцца. Я пайшла паўз вагоны. У кабінцы паравоза сядзелі двое мужчын. Я папрасілася:

– Дзядзечкі, можа вы падвезяце мяне да Мінска, у вагоны не ўбіцца.

І, як ні дзіўна, дзядзечкі мяне ўзялі.

Я сядзела на нейкім бервяне, ехала. Качагар кідаў у топку вугаль. Машыніст сачыў за дарогаю. Вакол мяне клубіўся чорны дым.

Калі я прыехала ў Мінск і адчыніла дзверы ў хату, то родная матка мяне не пазнала – з абпечаным тварам, ды яшчэ закураная, як камінар...

Такой я вярнулася ў 1944-м годзе ў Мінск.

## ГАЛУБЫ

У нашым двары разумныя галубы. Выйдзеш з пад'езда, і яны бягуць за табою, як сабачкі. Чакаюць, што ты ім нечага сыпанеш.

А паварочваеш за рог дома, і яны вяртаюцца на сваё месца пад вокнамі, бо разумеюць, што ты ўжо нічога ім не дасі.

## АБСУРД

Адна дзяржава ідзе вайною на другую дзяржаву, і забіваюць сотні тысяч людзей – і з аднаго, і з другога боку, руйнуюць гарады.

Але кожная вайна рана ці позна канчаецца, і знясіленыя дзяржавы адбудоўваюць гарады, якія вайна так старанна руйнавала.

А яшчэ праз колькі гадоў шукаюць рэшткі тых, каго забівалі з аднаго і з другога боку, хаваюць і даглядаюць іх магілы. Дык навошта было забіваць? І ці ёсць большы абсурд?

Не, чалавецтва з пачатку свайго існавання не паразумнела.

## ЖЫЦЦЁ

Калі ты яшчэ дзіця альбо падлетак, то жыццё перад табою здаецца вельмі доўгім.

А калі дажывеш да старасці, то ўбачыш, якое яно кароткае.

## ЗБРОЯ

На сустрэчы з журналістамі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка з цеплынёю ў голасе распавёў, як яго малодшы сын Коля на Новы год паслаў просьбу Дзеду Марозу, каб той прыслаў яму падарунак. І добры дзядуля паклаў яму пад ёлку зброю.

І зрабіў дзядуля, па-мойму, вялікую памылку. Няхай бы лепей пад ёлку паклаў цікавую кніжку, бо зброя ніколі нікога да дабра не даводзіла.

## НЕМЦЫ

Калі першыя гады пасля вайны я чула, як па-нямецку гаварылі дзеці, жанчыны, я дзівілася, мне здавалася, што нямецкая мова – мова салдат, акупантаў.

І сёння дзіўлюся, як гэта яўрэі эмігравалі з былога Савецкага Саюза ў Германію. Я разумею, што там цяпер не тыя немцы, што ваявалі з намі, але ўсё-такі немцы, якія знішчылі ў лагерах, спалілі ў крэматорыях шэсць мільёнаў яўрэяў.

## ХАРАКТАР

Маё радавое гняздо – вёска Нізок Уздзенскага раёна, тут нарадзілася я, мая маці, мой дзед і мой прадзед.

З сямейнага ўспаміну мой дзед па нейкай сваёй патрэбе ідзе пехатою з Нізка ў Узду (сем вёрст). Яго даганяе сусед на падводзе, кажа:

– Садзіся, Махнач, падвязу.

– Няма часу ехаць, трэба ісці, – адказвае дзед.

Адна рыса, і ўвесь характар.

## СТРАХ

Дырэктар выдавецтва “Беларусь” Захар Пятровіч Матузаў старанна сачыў, каб у мастацкіх творах не прасачылася якая-небудзь крамола, бо за крамолу яго выклікалі ў ЦК і рабілі наганяй. Аднойчы ён сказаў: “Я паважаю Брыля як пісьменніка, але баюся яго кніжак”.

## ДЫЯЛЕКТЫКА

Кожны жывы арганізм павінен рана ці позна сябе забіць. Але той жа арганізм гэтаму моцна супраціўляецца.

Чалавек рана ці позна памірае. Але яго арганізм моцна супраціўляецца смерці. Ён сам сябе лечыць, бярэ ў дапамогу медыцыну, змагаецца са смерцю, але ўсё-такі смерць заўсёды перамагае.

## СІЛА МАСТАЦТВА

Рэлігія ўзяла сабе на службу ўсе віды мастацтва. Архітэктуру – саборы, цэрквы. Жывапіс – абразы. Музыку – харалы, арган. Нават рыторыку – пропаведзі.

І не дзіва, што ўсё гэта вабіць, зачароўвае вернікаў.

## ЛЮБОЎ

На дачы па дарожцы ішла чатырохгадовая дзяўчынка. Яе нехта моцна пакрыўдзіў, яна ішла, плакала і гаварыла:

– Мяне ніхто не любіць...

Як жа патрэбна чалавеку любоў – ён адчувае гэту патрэбу нават на падсвядомасці.

## З ТАГО СВЕТУ

Сярод сваіх папер знайшла пажаўцелую ад часу газету ад 5 мая 1962 года. Газета адзначала Дзень друку. На першай старонцы змешчана фатаграфія Леніна, які чытае газету “Правда”, а далей быў тэкст: “Цэнтральны Камітэт КПСС цвёрда ўпэўнены, што савецкі друк, усе яго працаўнікі будуць заўсёды вернымі баявымі памочнікамі партыі ў барацьбе за перамогу камунізму... Цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме...”.

Чытаеш усё гэта, і нібы маеш вестку з таго свету, што даўно адышоў і засыпаўся зямлёю.

Праз колькі этапаў прайшло маё жыццё і хоць бы на адзін азірнуцца з удзячнасцю.

* * *

Жыццё вельмі кароткае, але каб зразумець гэта, трэба дажыць да старасці.

## ГОРКАЕ, БАЛЮЧАЕ

Пісьменнікі часта выкарыстоўваюць у сваіх творах факты ўласнай біяграфіі. Але пра самае горкае, самае балючае не пішуць – не хочуць ператвараць гэта ў літаратуру.

## АПОШНІЯ СЛОВЫ

П’яны кіроўца збіў яго на дарозе. Дактары ў бальніцы рабілі ўсё, што маглі. Апошнія словы скалечанага былі:

– Ратуйце мяне, бо жонка гэтага не перажыве...

Перад тым у арміі загінуў іх сын.

Яна аднак перажыла яго, гадоў на пятнаццаць.

Жанчына можа несці крыж, які і дужаму мужчыне не пад сілу.

## СЛУЖБА

Як можа пісьменнік служыць сваёй радзіме?

Яму не абавязкова са зброяй у руках бараніць свой край ад ворагаў. Яму не абавязкова рабіцца членам урада і насіць партфель міністра.

Яму не абавязкова рабіцца нават прэзідэнтам.

Пісьменнік павінен служыць сваёй радзіме толькі тым, што будзе пісаць праўду.

## ЁСЦЬ НАДЗЕЯ

Знайшла “Капейку”, якая належыць Уладзіміру Сцяпану. І “Капейка” аказалася сапраўды залатая. Я адкрыла для сябе харошага пісьменніка – яркая вобразнасць, добрая беларуская мова. Адчуваецца, што прозу піша мастак.

Цікавая пісьменніца і Алена Брава. Так своеасабліва ў беларускай літаратуры не пісаў яшчэ ніхто. Цікава пішуць Наталка Бабіна, Валянціна Доўнар.

І калі ёсць у нас такія пісьменнікі, то ёсць і надзея, што не згіне наша слова, не згіне наша беларуская літаратура.

## ЧАЛАВЕК – ЗВЕР

Часам гляджу па тэлебачанні канал, дзе паказваюць выключна звяроў, і бачу, як галодны леапард даганяе антылопу, забівае і з’ядае.

Прыходзяць аналогіі – як у нас, сярод людзей, адны забіваюць другіх – паклёпамі, нагаворамі. І атрымліваюць асалоду, калі бачаць, што чалавека з’елі.

Дык леапард жа быў галодны, і ён – звер. А ты ж як быццам чалавек, навошта табе кроў другога чалавека?

Такі чалавек страшней за звера.

## ДЗІВОСЫ

Я жыву ў каменным веку, у мяне няма кампутара, няма мабільніка, і я

выдатна без іх абыходжуся. Але аднойчы мае суседкі запрасілі мяне, каб паказаць па тым кампутары дзівосы.

То былі сапраўдныя дзівосы – глыбачэнныя каньёны, гарачыя азёры, якія струменілі гейзеры, і ўсё гэта ў яркіх, прыгожых фарбах, проста не верылася, што ўсё гэта размалявала сама прырода.

Але найбольшае дзіва было не ў гэтым, а ў прапорцыях, якія занатавалі дакументальныя кадры.

Аказваецца, наша планета Зямля ў параўнанні з Сонцам, як гарошына побач з вялізным гарбузом. А ў параўнанні з Сатурнам – яшчэ меншая, як кропка.

І на гэтай малюпасенькай кропцы-гарошыне кіпяць жарсці, ідуць смяротныя войны, барацьба за ўладу, пануюць каханне і смерць.

Як трымаецца наша зямля ў космасе, як не зваліцца разам з усімі намі ў бяздонне, якія сілы трымаюць яе і не даюць упасці?

## ПАКІНУТАЯ ЖОНКА

Чалавек пакінуў жонку з двума дзецьмі, ажаніўся з другою, чамусьці хутка памёр.

То пакінутая жонка плакала і гаравала па ім болей, чым тая, з якою жыў апошнім часам.

## ЕЖА

Кажуць, што кітайцы найлепшыя кухары ў свеце. А яны лічаць, што ежа павінна быць прыгожая на выгляд, прыемная на пах і, вядома ж, смачная.

Але гэта ежа для кітайскіх паноў, а пра просты народ гавораць, што ён есць усё, што лётае, акрамя самалётаў, усё, што плавае, акрамя параходаў, і ўсё, што скача і поўзае на зямлі.

## ПАКАРАННЕ

Жанчына зрабіла мне вялікае зло... Я не ведала, як з ёю змагацца, як адпомсціць і даручыла гэта Богу. Калі ён ёсць, і калі ён справядлівы, то няхай пакарае нягодніцу.

## РАСАДНІК

Тэлебачанне цяпер – расаднік пошласці, непрыстойнасці, прапаганда містыкі. Паказваюць аголенага Джыгурду. Ён і апрануты не выклікае сімпатыі, а тут, на ўвесь экран – голы.

Выломваюцца перад экранам дзяўчаткі, спяваючы бяздумныя песні, прымаючы непрыстойныя паставы.

Так званыя зоркі ўсяму свету расказваюць інтымныя падрабязнасці свайго жыцця.

Замест лекаў прапануюць абразы і малітвы.

Глядзіш, слухаеш усё гэта і ў адчаі выключаеш тэлевізар.

## НАЗАЎСЁДЫ

Некалі мне здавалася, што калі чалавек памірае, то гэта толькі часова, праз якую пару ён вернецца да нас, мы зноў яго ўбачым і пачуем.

А потым, раптам, я зразумела, што калі чалавек памірае, то гэта назаўсёды, навечна. Больш мы яго ніколі не ўбачым і не пачуем. І мне зрабілася шкада чалавека, які памёр, і тых, што засталіся без яго.

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Мы жылі на Газетным завулку, на ўскраіне Мінска. За нашым домам быў роў з вадою, цераз яго ляжала кладка з аднаго берага на другі. Мне было гадоў пяць, і захацелася мне па той кладцы перайсці на другі бераг. Пайшла, паслізнулася і ўпала ў той роў.

Дзяўчынка, з якою я гуляла, спужалася і ўцякла.

І я сама – караскалася, караскалася, паўзла – і вылезла з рова.

Займела навуку на далейшае жыццё – калі з табою бяда – караскайся, выпаўзай сама – ніхто не дапаможа.

І яшчэ:

Існуе байка – дзве жабкі трапілі ў збанок з малаком. Дык адна адразу пайшла на дно, а другая біла, біла лапкамі і збіла масла, і выскачыла са збанка.

Усё жыццё я б’ю лапкамі, а масла не збіваецца. Але я ўпарта б’ю і б’ю.

## ДЗЕНЬ МІНУЛЫ, ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

Па тэлебачанні ішла праграма, якую я вельмі люблю і заўсёды гляджу – “Умницы и умники”. Гаворка ішла пра грамадзянскую вайну і часта ўспаміналася прозвішча Троцкага, яго роля ў бітвах і перамогах. І вядучы сказаў: “Троцкі быў разумнейшы за Сталіна”.

Я падумала: сказаў бы ён гэта ў сталінскія часы – ні ад вядучага, ні ад яго перадачы і пылу не засталося б...

## МАЙСТАР-КЛАС

Масціты беларускі пісьменнік вучыў маладога, заядлага.

– Вось стаіць новы дом, а побач – гнілая хаціна, – гаварыў масціты. – То трэба пісаць пра новы дом, а не пра гнілую хаціну.

Малады, заядлы, не згаджаўся:

– Трэба пісаць, што побач з новым домам стаіць гнілая хаціна...

## ІДЭЯ

Ідэя камунізму сама па сабе высакародная, але такі грамадскі лад трэба будаваць не з такімі людзьмі, якія насяляюць нашу планету – сквапнымі, зайздроснымі, агрэсіўнымі, гатовымі ісці да сваёй мэты па галовах іншых людзей. Але дзе ўзяць людзей іншых? І таму камунізм на сённяшні дзень – утопія, што і паказала жыццё.

## СТО ГАДОЎ – НЕ МЯЖА

Маёй знаёмай сто гадоў. Пытаюся ў яе дачкі:
– Ну, як там мама?
– А нічога, – адказвае дачка. – Гуляем у карты, дык яна яшчэ абжульвае.

## ГЕНІІ

Два паэты размаўляюць. Адзін кажа другому:
– Ты – геній!
Другі адказвае:
– Геній – гэта ты!
– Ты геній!
– Ты геній!
Але кожны ў душы думае, што геній – толькі ён...

## БЯЗЛАДДЗЕ

Настаўнікі, дактары, гэта людзі, якія патрэбны кожнаму чалавеку, пачынаючы ад дзіцяці і канчаючы прэзідэнтам. Бо настаўнікі вучаць чытаць, пісаць, а доктар прыходзіць на дапамогу, калі на чалавека навальваецца немач. Здавён дактары і настаўнікі мелі высокі аўтарытэт.

А ў нас, сёння?

Дактары, настаўнікі маюць мізэрныя зарплаты. Я ведаю аднаго хлопца, які скончыў медыцынскую вучэльню, але яму як фельчару плацілі так мала, што ён пайшоў у тынкоўшчыкі. Тынкоўшчыкі таксама патрэбныя, але для гэтага не варта было канчаць медыцынскую вучэльню.

Найбольшыя зарплаты ў нас маюць міліцыянты. Каштоўным лічыцца цяпер не здароўе людзей, не адукацыя, а парадак і паслушэнства.

Як жа можна назваць такі дзяржаўны лад?

Не інакш як бязладдзем.

## ВЕГЕТАРЫЯНЕЦ

Гітлер быў вегетарыянцам, ён абсалютна не ўжываў мяса, еў толькі гародніну і садавіну, але найвышэйшай якасці і свежасці. Да таго ж, трымаў дэгустатарак, маладых дзяўчат, якія каштавалі ежу, перш чым яна трапляла Гітлеру на стол – баяўся, каб яго не атруцілі.

Але гэты вегетарыянец распачаў вайну і знішчыў мільёны людзей, удосталь напіўся чалавечай крыві.

На паверку вегетарыянец аказаўся людаедам.

## ГАНАРАР

За мой надрукаваны матэрыял часопіс прыслаў мне ганарар – дзве з паловай тысячы рублёў.

Сяброўка мне сказала, што за гэтыя грошы я магу заехаць некуды на гарадскім аўтобусе, але назад не вярнуся.

Вось і жыві на літаратурныя заробкі. Дзякуй Богу, што мне маёй пенсіі хапае, каб некуды заехаць і назад вярнуцца.

## АБЫ ПІСАЛІ

Калі аднаму нашаму пісьменніку сказалі, што ў газеце надрукаваны крытычны артыкул на яго раман, ён адказаў:

– Няхай пішуць што хочуць, няхай крытыкуюць, абы пісалі...

Мабыць, праўда, бо горш за ўсё, калі замоўчваюць.

## НЕ СКАЗАЛА

Яна пражыла з мужам дзесяць гадоў і не мела дзяцей. Развяліся. А потым яна завяла легкадумны флірт і зацяжарала. Думала, ці сказаць пра гэта аб'екту таго флірту. Але ў таго была сям'я і двое дзяцей. Пабаялася, што ўнясе сумятню ў яго жыццё, што прынясе разлад у яго сям'ю, а яна не хацела рабіць яму шкоды. І не сказала.

Нарадзіўся хлопчык. Рос прыгожы, разумненькі. Калі быў ужо падлетак, спытаўся – хто яго бацька.

Яна зноў падумала – а раптам сын захоча ўбачыць бацьку, пазнаёміцца, а невядома, як той яго прыме.

І не сказала.

Так і пражылі ўсё жыццё – чалавек не ведаў, што ў яго ёсць сын, а сын не ведаў, хто яго бацька.

## СМАКУЮ...

Траплялася мне апошнім часам чытаць нешта прэснае, не вельмі цікавае. І захацелася смачнага, накшталт далікатэсу.

І ўзялася я, каторы раз, перачытваць “Вайну і мір” Талстога. Цяпер смакую...

## ПУСТАСЛОЎЕ

Некалі афіцэры шанавалі свае гонар, чэсць. Калі каторы з іх рабіў непрыстойны ўчынак – не падавалі яму рукі, свой гонар адстойвалі на дуэлях.

Цяпер вялікія армейскія чыны крадуць казённыя грошы, бяруць хабар мільёнамі, а словы “гонар”, “чэсць” лічаць пустаслоўем.

## КАЛЕКА

Мая бабка казала свайму сыну:

– Саша, Саша, гультай – найгоршы калека...

## НЕ ПАЗНАЛІ

Наведала сваю радзіму – вёску Нізок. Падышла да хаты, у якой нарадзілася. І з цяжкасцю яе пазнала. І яна, мусібыць, мяне не пазнала, яна ж памятала мяне маленькаю дзяўчынкаю.

А сама хата стала маленькая, моцна ўрасла ў зямлю, дзверы зрабіліся нізкія, як у іх і ўваходзілі.

На дзвярах вісеў вялікі жалезны замок. І заржавела знаёмая клямка

з язычком. Ніхто ў гэтай хаце цяпер не жыве. Адны памерлі, другія раз’ехаліся. А вакол хаты – высокая густая трава, нікім не прымятая.

Пайшоў дождж. Падалі кроплі, як слёзы з састарэлых, амаль голых, без лісця, дрэў. Аплаквалі мінулае, якое знікла назаўсёды.

Я пахадзіла крыху там, паўздыхала і вярнулася дадому, у горад, пакінуўшы хату глыбей урастаць у зямлю, каб некалі, можа, праз сотні гадоў яе адкапалі археолагі.

## ПЕРАНАСЕЛЕНАСЦЬ

І чаму гэта расейскае, беларускае начальства так клапоціцца аб прыросце насельніцтва ў сваіх краінах, усяляк заахвочваюць жанчын пладзіцца.

А статыстыка паказвае, што нас на планеце і так вельмі многа і розныя катаклізмы нас могуць чакаць ад таго, што планета Зямля перанаселеная. То ці варта заахвочваць?

## МІЛЬЯНЕР

Ён мае ўжо сто мільёнаў долараў, на падыходзе яшчэ дзесяць. Ён мае некалькі машын і некалькі кватэр у замежжы. Начамі ён не спіць – пайшло на спад здароўе, сэрца зрываецца з рытму. Ён не спіць. Яму мроіцца забойца, падасланы канкурэнтам, каб захапіць яго багацце. Яму мроіцца пракурор, які пасадзіць яго за краты, і ён са сваім хворым жыватом будзе сёрбаць баланду. А калі ўсё абыдзецца, каму застануцца яго мільёны? Сынам? Прап’юць, прагуляюць. Дочкам? Абяруць альфонсы. І жонка будзе рада яго смерці – усё багацце застанецца ёй.

Бомж, што калупаецца ў сметніцы, мусібыць, шчаслівейшы за яго.

І ўсё ж назаўтра ён устае і робіць усе захады, каб дадаць да свайго багацця яшчэ некалькі мільёнаў.

## ЦЁТКА

Да статрыццаціпяцігоддзя з дня нараджэння Цёткі “ЛіМ” даў артыкул пра творчасць паэтэсы і змясціў фатаграфію. Але на фатаграфіі была не Цётка, а нейкая невядомая жанчына. Я пазваніла ў “ЛіМ”, сказала, што на фатаграфіі не Цётка. Там павохкалі і сказалі, што дадуць абвяржэнне. Але абвяржэння не далі, мусібыць падумалі – пра тое, што на здымку не Цётка, буду ведаць ва ўсёй Беларусі адна толькі я, усе астатнія паверацы “ЛіМу”.

У тым і бяда, калі раённыя газеты ці якія іншыя выданні будуць пісаць пра Цётку, то, магчыма, будуць даваць фатаграфію з “ЛіМа”. І пойдзе гуляць па Беларусі замест Цёткі фатаграфія невядомай жанчыны.

## ЖАНЧЫНА І МУЖЧЫНА

Калі раптам захварэе адзінокі мужчына, то заўсёды знойдзецца спагадлівая жанчына, якая будзе клапаціцца пра яго.

Калі раптам захварэе адзінокая жанчына, то наўрад ці знойдзецца мужчына, які возьме на сябе клопат пра кабету.

## НЕПАЎТОРНАЕ

Сусветнае прызнанне можа набыць толькі мастацтва – літаратура, жывапіс, музыка створаныя на нцаыянальнай аснове, бо нацыянальнае заўсёды непаўторнае.

Падражанне нават сусветна вядомым аўтарам заўсёды будзе другаснае. Толькі пабудаванае на нацыянальным фундаменце будзе трымацца моцна.

***

Бойцеся ў жыцці памылак, якія нельга выправіць.

## ГРОШЫ

Тэлебачанне вучыць людзей не зарабляць грошы, а спадзявацца на халяву. Таму і прапагандуе розныя латэрэі ды лато, каб людзі неслі зробленыя працаю грошы, куплялі білеты, тым самым узбагачаючы дзяржаву.

## ЗЛАЧЫНСТВА

Яно расцвіло тады, калі некаторых вучняў у школах пачалі вызваляць ад беларускае мовы.

З цягам часу ўвесь беларускі народ вызвалілі ад беларускай мовы.

## ЧАС

Непадуладная нікому і нічому катэгорыя. Ці ты плачаш ці смяешся, ці ты бяжыш ці стаіш, ці ты жывеш ці паміраеш, ці вайна на зямлі, ці мір, ён ідзе, ідзі... дзень за днём, год за годам, век за векам.



Вольга Гронская



...ведае: ад любога цмока і ведзьмака
абароніць гэта рука...

# Казкі пра вар'ятаў

## ПЯЦЬ

А калісьці надыдзе дзень,
і ён табе скажа: "Ма,
гэта не шапка, а смех адзін!
Хочаш – насі сама".
Кіне яе на канапу,
пойдзе ў свой пакой і
ўключыць там Muse, ці Coldplay,
ці нешта яшчэ такое
(што будуць слухаць у дваццаць трэцім
гэтыя дзеці?)

А неяк убачыць дзіцячае фота
на сайце і скажа: "Ну вы далі!
У мяне там зуба няма, і ўвогуле – выдалі.
Павесь лепш туды Далі".
Кіне ў заплечнік рыдэр

(плэер, айфон, тамтам)
і – “Не чакайце, мам!”
Махне рукой, усміхнецца
ды апынецца там,
дзе побач з дзяўчынкай-скерца
стане сэрца шалёна біцца.
Як і тваё, дарэчы:
ты з гэтага часу штовечар
пачнеш класціся позна, правяраць тэлефон...
Звоніць. Гэта не ён?

Цяпер ты таксама не спіш. Пакуль –
таму, што кашляе, прачынаецца, просіць тваю руку
(ведае: ад любога цмока і ведзьмака
абароніць гэта рука).
І ты закідаеш дэдлайны і важныя прапановы –
на гарышча, у куфар, дзе цень.
Бо калісьці надыдзе дзень,
і ён сыдзе – дарослы – жыць.
А пакуль – верабейкам сонным – папросіць піць,
і яму яшчэ толькі пяць.
Можна гладзіць па валасах,
трымаць за руку,
сцерагчы яго сон
і самой
не спаць.

* * *

Берта чытае Барта, Вербера й Бэрнхарда.
Бёртан і Берталучы ёй пішуць сны.
Берта хацела б зноў нарадзіцца ў Берне ды
там, а не на тутбаі чакаць вясны.
Берта штодня адна шпацыруе коўзкімі
сцежкамі паміж Берута і метро
і ў лістах заўжды вылучае коскамі:
“Роберт”, або “мой мілы”, ці проста – “Роб”.

Роберту сняцца робаты. Робу вусцішна:
Кафка і Хармс складалі яму сцэнар.
Роберт чытае допісы Берты, вуснамі
ціха варушачы ў месцах, калі яна
піша аб тым, як холадна без. І бэзавы
водар яе парфумы казыча нос...
Роб пачынае мерзнуць у швэдры бэжавым
ды ўратавацца хоча ў старым кіно,
дзе сярод слоў і кніжак анёлы дотыкам
лекуюць сэрцы, марачы стаць людзьмі...

Роберту добра ў гэтай краіне готыкі,
ён не паедзе ў Берцін мінорны Мі.
Хай яна быццам тонкая стрэлка компаса,
мроячы, да заходняй бяжыць мяжы –
жыць ім у паралельных сусветах Борхеса.

А над Берлінам з неба ўсю ноч імжыць.

* * *

Гэта зіма трымае яго, жыве ў ім,
сыпле калючы снег пад сівыя веі,
робіць халодным сонца і нізкім – неба,
сіверам злым у шчылінах вые, вее...
Ён прызвычаіўся. Думае, так і трэба.
Варыць глінтвейн з цытрынаю і імбірам,
ходзіць на лыжах. Лыжкаю па пламбіры
снегавікоў малюе, а з іх галоў на
сподак салодкіх кропель цякуць пункціры,
быццам капеж вясновы. Вось толькі з воўны
швэдар яго, і б’ецца агонь у печы –
месца няма вясне. Ёсць марозны вечар,
мяккі фатэль, канверты, паштоўкі, праца...
Ён захінае шалікам цёплым плечы –
выжыць у гэтым холадзе, пратрымацца.

А па начох не спіцца яму, хоць трэсні.
Ён дэкламуе вершы, спявае песні,
толькі б разбіць маўчанне пустых пакояў
голасам, рэхам крокаў, рыпеннем лесвіц:
цемра яго гняце, не дае спакою.
Нават калі задрэмле – хвілін на сорак –
сняцца не карагоды калядных зорак,
а цягнікі, якімі ён зноў кудысьці
лёцьма нясецца з амерыканскіх горак.
Вечны палонны лёду не мае выйсця.

Сёння – чарговым ранкам – ён раптам чуе
шум увушшу і лечыцца маслам туі.
Гук не знікае, шырыцца, танчыць джыгу:
не зразумець – рагоча ці лямантуе
свет навакольны ў гэтым бясконцым “джынгл”.

Ён каляндар хапае і са здзіўленнем
бачыць, што снежню хутка канец. Ідзе і
цягне кажух, валёнкі нясе, няўклюда...
Спешна ўпрагае ў сані сваіх аленяў
і выязджае.
Дзеці чакаюць цудаў.

* * *

Мы – тролі з падземнага свету.
Лічым прыступкі:
адзін,
два,
тры,
выходзім туды, дзе неба
ў метры ад нашых твараў,
як на карцінах Мунка.

Мы пішам падэшвамі ботаў
толькі вялікія
лі-
та-
ры
"М" на ссівелым асфальце
і моўчкі хаваем сэрцы
пад коканы палітонаў.

Мы ўдзень выключаем сонца.
Лепш хай нам свецяць
ліх-
та-
ры –
вочы бясконцых тунэляў,
а ў нашыя метрыкі ўпішуць
не прозвішчы – назвы станцый.

Мы любім мігценне твараў,
нам добра ў гэтым гар-
мі-
да-
ры.
І рэха ад крокаў цвердзіць,
пульсуючы метраномам:
"Нам домам – метро".
Мы – тролі.

* * *

І калі ты сустрэнеш, нарэшце, сваю вясну,
яна будзе біць абцасамі ходнікі,
стрэсваць снег з капюшона,
прасіць дараваць, што спазнілася
(транспарт, ты ж разумееш),
ды грэць у тваіх кішэнях
заўжды халодныя пальцы –
кончыкі лёгкіх крылаў.

Ты ёй даруеш доўгія ночы без сну,
калі ад болю і страху сціскаў падлакотнікі,
паўтараючы штось манатонна
следам за “Наўцілусам”
ды спрабуючы ўратавацца ад вечнай завеі...

Ты скажаш: “Ну, мы ж сябры. Якія тут выбачэнні?!”
Яна зірне табе ў вочы і пачне ўсміхацца.
...
І вось тут цябе ўсё ж накрые.

### ***АСОЛЬ***

Па вечарох яе валасы пахнуць вадой ды соллю.
У кішэні джынсаў жыве яшчарка з палімернай гліны.
Суседзі лічаць яе дурніцай,
па пашпарце клічуць Асоллю
(маці ў юнацтве занадта моцна любіла Грына).

Яна замяняе сваё імя на звыклае мілае “Ася”
(так павялося з першага ж класа,
калі з яе смяяліся дзеці).
Ася перакладае з ангельскай, ездзіць з працы
тралейбусам,
у дарозе чытае Джэці
і не чакае ніякіх прынцаў.
А ў казкі і ветразі ёй не верыцца ў прынцыпе.

Ён з’яўляецца на Доме друку нібыта,
скідае заплечнік, сядае побач.
Ася бачыць у шкле адбітак (падобны да Джоні Дэпа)
А за вакном Малевіч чорным фарбуе неба.
“Тралейбус ідзе ў дэпо”.
Асі праз тры выходзіць.
І хутка поўнач.

На патрэбным прыпынку Ася ідзе да дзвярэй,
пазяхае, глядзіць на гадзіннік,
ловіць позірк свайго суседа
(шэрыя, гэта ж трэба! – чамусьці здзіўляецца
і на аўтамаце: “Шэрыя, то бок grey”).
“Цьфу-ты, калі я ўжо навучуся выключаць у сабе
мовазнаўцу?!” –
думае Ася, утаропіўшыся ў суседаў пунсовы шалік.
Потым ступае абцасам у брудны снег,
недарэчна з соллю змяшаны.
А ён едзе далей.
Адзін.

## *ВЕРАСЕНЬ*

Верасень,
як маленькі сабака з рудымі лапамі,
ходзіць па менскіх вуліцах.
Туліцца
да дзівакоў
на мокрых драўляных лавачках,
да закаханых,
што на прыпынку цалуюцца,
нават да тога старога
з сівой барадой і фенькамі.
У вочы ім зазірае
каштанамі-зрэнкамі,
просіць сагрэць,
абяцае слухацца,
сустракаць з работы.
І ліжа боты.

Ты яго забярэш дадому,
накорміш плюшкамі,
будзеш гладзіць за вушкам і
вычэсваць доўгую поўсць
(потым звяжаш шалік
або шкарпэткі – цёплыя і вясёлыя).
Ты станеш зваць яго Верасам
і паверыш, што ён – назаўсёды.

Ён будзе торкацца носам,
спаць на тваёй назе...

А потым
аднойчы
горла перагрызе.

* * *

Вецер танцуе твіст на тваім плячы,
чорным Татошкам сумка ірвецца ўбок.
Ты крычыш.
Паўтараеш “раз-два”, “раз-два” –
мікрафон маўчыць.
Гэта не твой эфір.
Сёння тут уладарыць бог
ураганаў, цыклонаў і брызаў.
Выбірае на глобусе кропку,
кажа, што гэта Канзас,
і – рррраз:

разбурае будынкі,
абарочвае плот ды машыны ўсе...
Падымае цябе
і нясе.

Цяпер ты жывеш у праклятым горадзе,
ходзіш па бітым шкле,
у кішэні носіш каменьчык
і лічыш, што гэта смарагд.
У цябе ёсць сябры –
разумныя, смелыя,
з добрым сэрцам, але
табе так хочацца збегчы
ад.

І вось ты руйнуеш сваю Бастылію,
ператвараешся ў ведзьму...
Навокал неба і ціш.
Ты завеш спадарожны вецер,
распрастваеш рукі-крылы,
адштурхоўваешся
і
ляціш.



Павал Касцюкевіч



...кесару – кесарава,

а слесару – слесарава...

# План Бабарозы

***Сямейная сага****

**вось яна**

Вось яна: вызірае на свет божы з авальнага, жаўтавата-шэрага медальёну. Вусны банцікам, з вачэй шугае цэлы фейерверк гняўлівых яскарак. Фатограф, эмальшчык, ці хто там, трохі перакруціў прапорцыі: вочы выйшлі завялікія, а твар – наадварот здрабніўся. Таму выглядае яна ўсё роўна як нейкая суседка знізу, што зазірае ў вочка тваіх дзвярэй з лесвічнай пляцоўкі (ты ж бачыш яе з кватэры). Дзвярны званок напаляецца да беласці, і па той бок чувак лямант пра залітую кухню і гатовасць усыпаць мярзотным суседзям-выблядкам перцу з імберцам. Гэтаксама і Бабароза. Вымоўна зіркае з эмаляванага медальёну і вось-вось, здаецца, я пачую яе тыраду: “Што творыце, га?! Што вы тут, на гэтым свеце, архараўцы,

* Раздзел з рамана “Polissia Is Not Belarus”.

сабе ўдумалі? Ух, зараз вылезу я з-пад зямлі і задам вам, гоям і п’яніцам, турэцкую лазню!”

Цяпер, стоячы тут, у габрэйскім сектары Маскоўскіх могілак, прыгадваю нашыя з Дзядзюлем, яе цесцем, візіты сюды. Дзядзюля заўжды браў з сабою нібыта працоўны ручнічок ці анучку, якія імгненна накідваў на медальён – моцы сустракацца з крапіўным позіркам былой цешчы Дзядзюля так і не набраўся. Бабароза была самым вялікім дэматыватарам у ягоным жыцці. І ў маім таксама.

Мае першыя ўспаміны – я сяджу ў дзіцячым вазку. Хвілінаў колькі таму абкакаўся, але выгляду не падаю. Адчуў, пэўна, што на вуліцы сярод мітусні і процьмы іншых пахаў гэтага майго граху ніхто не заўважыць. І ўвогуле мне добра, спакойна. І вось на мяне гіганцкай хмарай наплывае Бабароза. У нейкім такім балахоне, напэўна, як яна любіць, у стылі “ўсё па-багатаму” – у сезоне 81-82 гг., як я цяпер ведаю, гэта быў шэры балоневы плашч фінскай вытворчасці. Яе губны банцік спеліцца імпэтнай чырванню. Глядзіць на мяне, пераймае маю ўсмешку. Аднак раптам усмешка прападае, яна робіць кіслую міну, падносіць да мяне ўсутыч твар, які вымоўна кажа: “Што ты выскаляешся, Ігарочак, як кот у лядоўні? Чаму ты, смаркач-ч*а*, хай цябе няхай, радуешся? Што ў тваім дробязным жыцці смешнага і добрага? Вось чую, чую – усё ў цябе скончыцца слязьмі!”

Але я – ось хоць ты што – працягваю кроіць ідыёцкую лыбу.

І тут – аёй! – Бабароза ветрыць непарадак. Яе гіганцкія ноздры варушацца, як шчэлепы люстранога карпа. Зрэнкі круцяцца і робяць поўны эліпс. І я чую яе пранізлівы крык. На чатыры бакі, ад краю да краю. Зона пакрыцця – мікрараён Зялёны Луг, а, можа, і ўвесь горад Мінск. Цярпець, жыць пры гэтым крыку мажлівасці няма ніякае. Лямант у Бабарозы ўрачысты ад ведання, што яе прароцкія асцярогі так хутка спраўдзіліся. У адказ я заліваюся горкім, беспрабудным плачам. Мне кепска, вусцішна, самотна. А ўнізе ўсё мокра і смярдзіць. Заслона.

Мне восем. Я не пайшоў у школу, бо ў чарговы раз хапянуў (“у сумнеўных завуголлях”, як кажа мама) залётную ангіну. Бабароза мяне даглядае.

– Ігарочачак, глянь, якое хараство, аччу не адвесці! – кліча яна.

Я паволі выбаўляюся з коўдры і падыходжу да вакна. У нас сёмы паверх. Ва ўсе бакі рассцілаецца бела-белая даліна. Праўда, сям-там гэты зіхоткі цалік паспелі акупаваць мужчыны са сваімі выбівалкамі і квяцістымі дыванамі, ды праз якія паўгадзіны белы неруш ператворыцца ў шахматную дошку з брыдкімі, попельна-чорнымі, квадратнымі плямамі ад кілімаў. Але тое будзе, можа, хвілінаў праз колькі, а цяпер ад гэтага зімняга краявіду сапраўды вочы адвесці цяжка, аднак я раблю гэта, каб падзяліцца назіраннем з Бабарозай. Я хачу выказаць ёй падзяку за тое, што яна паклікала мяне да вакна. Аднак чую толькі бразгат уваходных дзвярэй. Бабароза сышла.

Па хуткім часе ў экране вакна я ўжо маю прыемнасць бачыць яе цыбатую, падобную да адкруткі паставу. Бабароза на скорую руку апранутая ў сваю пляшывую ваўчыную дублёнку, з бура-аранжавай пластмасавай выбівалкай і нашым чырвоным кілімам пад пахай. Хоць на белым покрыве вольнай прасторы наўкола процьма, аднак да мяне праз усе шыбіны даносіцца яе ваяўнічы голас, якім яна выпуджвае з поля мужчын. Глядзець, як яна локцямі працярэблівае свайму кіліму самае снежнае месца – вачэй не адвесці.

...Гэты крык мае паралізуючы эфект. Бабароза працуе на нейрарэгістрах і мае дачыненне да зброі масавага паражэння. Ад яе крыку пад шапкай растуць валасы, чыгунеюць ці ватнеюць ногі, голас жа ахвяры, да смерці напужаны жудаснай канкурэнцыяй, скочваецца ў страўнік. Язык у роце разбухае і адмаўляецца варушыцца.

Той крык спавівае нас усё роўна, як мух павучынне. Калі Бабароза дае прачуханца за падгарэлую патэльню або ссохлую, недапаліваную кветку, дык яе дачка, Бабагруня, і таксама мае бацькі робяцца падобнымі да старэйшых братоў і сёстраў, якіх я ніколі не меў. Стаім, схіліўшы, як школьнікі, галовы, і мармычам жалю вартыя апраўданні, або нават глытаем слёзы і смаркі. У гэтыя імгненні ўсе мы: я, бацькі, іншыя бабулі і дзядулі апынаемся ў адной дзіцячай лізе. Прынамсі вялікай прынцыповай розніцы паміж імі і сабою ў хвіліны Бабарозінага гневу я не заўважаю. Бабароза, і так высокая, яшчэ больш расце ўвачавідкі. Сягае некуды туды пад кухонную столь, дзе пачынаюцца лямпа і аблокі.

У гэтай найвышэйшай лізе дарослых вольным духам лунае толькі яна, Бабароза, жахлівая і немажлівая. Сваёй найласкавай ласкай проста пасярод святкавання народзінаў забараняе ўсім гасцям браць у рот торт, бо крэм асабіста ёй падаўся скіслым. Уладным жэстам падчас сямейнага прагляду на нуль скручвае тэлевыключальнік пасярод любоўнай сцэны (“гэты смарклівы сапляж”). Мне нават здавалася, што я аднойчы зрабіўся сведкам, як Бабароза стаўляла ў кут майго бацьку. Прынамсі пасля нейкай лаянкі ён доўга стаяў-таптаўся ў праёме за сервантам і ціхенька неяк так румзаў, а Бабароза гняўліва грымела посудам.

Гэта матрыярхат па поўнай праграме, без умоваў і права перапіскі. Жывуны і прадметы шыхтуюцца “на зважай”, калі Бабароза ўлятае ў кватэру раз’юшаным дыбукам. Вяршэнства Бабарозінай улады пашыраецца на самыя далёкія куты гаспадарства, на мышэй у кухні і брыдкага павука ў гасцёўні, а хто там ведае – можа, нават і на атамы. Пры яе набліжэнні талеркі ў сушылцы ўвачавідкі круглеюць, а шкло на келіхах агаломшана пазвоньвае. Калі Бабароза павышае голас, электрычнасць у лямпачцы згушчаецца і наліваецца памаранчавым страхам.

Даўжэзная, як змяя, правіца здабывае мясную руду ў маразільніку, а жвавая і не менш змяістая левіца пералічвае шакаладныя цукеркі ў навяснюй шафцы-слупку насупраць. Пальцаў я не бачу, таму здаецца, што драты Бабарозіных рук цягнуцца і цягнуцца бясконца. Кудысьці ў кішкі пракаветнай даўніны ці наадварот – мацаюць далёкую будучыню за вымя.

Бабароза – яна такая. У сваіх чырвоных пазногцях, якія яна нясе на пальцах як які-небудзь пірат-нажавік, гатовы штохвіліны пусціць іх у дзеянне. Мама з дзяцінства ўспамінае апельсін, які Бабароза лупіла – лёгкім і спрытнымі рухам пазногцяў. І падавала маме праз колькі секунд ужо злуплены, насунуты на выпрастаны палец, усё роўна, як маленькі хэлаўінскі гарбуз. За маёй памяццю гэтыя, па-ранейшаму пафарбаваныя ў сляпучую чырвань пазногці большасць часу ляжаць без працы і нагадваюць кіпці заснулага пасля праведнай працы васіліска.

Але ўсё ціха й свята – яна ніколі не бярэ ўдзелу ў сумнеўных праектах. Каб у выпадку новай вайны не галадаць, адразу ў 1946-м яна пайшла працаваць у рэстарацыю на Валадарскага, 9 (там цяпер месціцца “Чабурэчная”). А ў 52-м годзе яе, рэстарацыйную прыбіральніцу, разам з

дырэктаркай пасадзілі за раскраданне сацмаёмасці. “Уяві толькі! – выгукае мама. – Абмінуўшы рахункаводку і касірак, пасадзілі непісьменную прыбіральніцу!” А следчы сказаў Бабагруні, што Бабароза была “мозгам шайкі”. Гэта Бабароза – мозг? Бабароза, якая, каб падказаць нейчы тэлефонны нумар, праз няведанне лічбаў вымушаная браць апарат у рукі і чыста механічна паказваць на дыску, як яна той нумар набірае?..

## бабулі і дзяды

Усё дзяцінства мяне атачалі бабулі і дзяды. Іх было так шмат, што заўжды трэба было ўдакладняць, якога канкрэтна дзеда ці якую бабулю ты маеш на ўвазе. “Званіла баба Роза” ці “Прыходзіў дзед Барыс”. А паколькі нашыя з бацькамі гутаркі заўжды круціліся вакол дзядоў ды іхніх жаданняў, дык пакрысе мы сталі называць кожнага з іх у адно слова: “Бабароза”, “Дзедбарыс”, “Бабаманя”, “Бабагруня”, “Дзядзюля”. Першае частка слова не змяняецца па склонах, другая – змяняецца: Бабароза, няма Бабарозы, даю Бабарозе, віню Бабарозу, распавядаю аб Бабарозе.

Мама – адзіная дачка ў сваіх бацькоў, бацька – таксама адзіны сын. Дзяды багатыя на братоў, на доўгія гады, а яшчэ на разводы і жаніцьбы. І такім парадкам я выявіўся адзіным унукам, (без)надзейна аточаным шчыльным колам дзядоў, бабуль і прабабуль. Іхнія няўтомныя орды ўпарта рабілі спусташальныя набегі на нашую кватэру ў мікраraёне Зялёны Луг або час ад часу ў якасці даніны зганялі мяне да сябе на выходныя ў палон, у арыентальныя лабірынты сваіх кватэр-сэраляў.

Дзяды ж любілі пры нагодзе і без баяць пра краіны свайго дзяцінства. Дзядзюлеву Украіну, зробленую з плятня, сланечнікаў і блакітнага неба, я, здаецца, ведаў больш за ўкраінцаў: палітычны лад, прамысловасць, гетманшчына і казацтва, асабістыя ўражанні ад жыцця ў заможных украінскіх мястэчках і прамысловых цэнтрах. Ведаў нават сёе-тое пра Гішпанію, у якой колькі стагоддзяў да Украіны бавіліся продкі Дзядзюлі, ды ад якой успамінаў не захавалася, але засталася прабабчынае прозвішча Азбель, а таксама чарнявая знешнасць, праз якую Дзядзюля пачуваўся ва ўсіх паўднёвых краях сваім хлопцам. А яшчэ купу ўсякіх фактаў пра Расію, бацькаўшчыну Дзедвасілія, дзе пахмельныя мужыкі робяць у мясцовасці Гжэль самыя харашмяныя (так сказала Бабароза) і вытанчаныя на свеце парцалянавыя збаны і запарнікі. І пра бязлюдныя карэльскія абсягі, родныя мясціны Бабамані, бясконцыя лясы і азярыны, што рассцілаюцца адразу за межамі “паўночнай перліны”, Ленінграда-Пецярбурга.

Вось ён я, Ігарок Качуня, саплівы заўсёднік опіўмнага прытону выходнага дня. Узлягаю на вышытых падушках Бабамані ці Бабагруні, аддаю ім дробную манету сваёй любові, а ўзамен маю эксклюзіўны наркотык – гісторыі і гісторыйкі: мне падносяць новыя і новыя дозы ўлёту ў чароўныя краіны. Туды, дзе панятак “абавязкі” сыходзіць, як дымок ад свечкі, дзе гадзіна, як хвіліна.

Але бацькі не спалі ў шапку. Праз шчыльнае кола моўнага артабстрэлу, праз фалангі сівых дзьмухаўцоў і дружыны кусцістых вусоў ды барадаў мама і бацька стараліся дакрычацца да мяне. Апусціць мяне на цвёрдую мінскую глебу. Вярнуць у выкрыўленую дзядамі рэальнасць законы гравітацыі і інерцыі. Бацькі намагаліся ўсталяваць хоць мінімальныя зямныя і еўрапейскія законы, аднавіць дысцыпліну і справаздачнасць.

Аднак усе тыя высілкі ішлі ў глум, бо голасныя ўшчуванні вярнуць мяне да рэчаіснасці і абавязкаў проста не даходзілі да маіх вушэй, патаналі ў чароўным шматгалоссі дзядоўскага вуркату і сакатання.

Урэшце дзяды, як задаволеныя крывасмокі, з адвіслымі ад гаварнечы сківіцамі, раз'язджаліся па сваіх мінскіх кутах і закуточках, пакідалі нас адных з бацькамі ў кватэры на мікрараёне Зялёны Луг. Або я вяртаўся ў Зялёны Луг пасля п'янкіх і галюцынагенных выходных у дзядоў.

Як толькі нас пакідалі сам-насам, дык бацька адчыняў у маім пакоі фортку, каб скавыш здзьмуў, сарваў з маёй вопраткі гэты прыблудны ачмур крамольнага мраярства. Каб бескарысныя і нават шкодныя аповеды, што пратачыліся ў мяне, павыходзілі праз фортку прэч.

Прахоплены, я азіраўся. Казачныя краіны з дзіўнымі назвамі, кліматам і ландшафтам, што паўставалі былі з аповеду маіх дзядоў, цяпер пакрысе знікалі, ды праступаў шэра-нудны слой мінскай рэальнасці.

Зямная іерархія аднаўлялася агнём і мячом. Я наноў прывыкаў да выхаваўчага чаргавання караў і ўзнагародаў. Тата бязлітасна пасылаў мяне ў краму па смятану або загадваў вынесці вядро са смеццем. Мяне навярталі да рэальнасці, упіхваючы ў руку доўгі спіс абвязкаў. Справядлівае размеркаванне рэсурсаў, гэтак любае бацькамі і гэтак пагарджанае дзядамі, зноў убіралася ў моц.

“Кожнаму з нас па два кубікі шакаладкі, а большую частку пліткі пакінем на заўтра” – кажа бацька, і да майго горла падкатваецца здрадлівы камяк. Улучыўшы хвіліну між экзекуцыямі, я зашываўся ў прыбіральню, дзе сядзеў на ўнітазным вечку з няспушчанымі порткамі і плакаў. Заўтра ў нудотную школу, а я тут, сярод лютых бацькоў, такі няшчасны і пакінуты, выдраны з мясам ад райскіх садоў, кінуты на зямную мулкасць, голы ды смяротны.

Але ж тое няшчасце трывала нядоўга. Бо ўжо ў аўторак першая ластаўка, Бабаманя, анёлам спускалася са сляпучых вяршыняў і прыносіла “кавалічак маннічка для ўнучічка”, вагою пад пяць кэгэ. Седзячы ў кухні і расчулена паўтараючы за мною глытальныя рухі, Бабаманя, жонка былога марскога афіцэра Дзедбарыса, адначасна яшчэ прымудралася дэманстраваць, як гучаць абрывістыя каманды на гонары Балтыйскага флота, авіяносцы “Мінск” недзе ў Ціхім акіяне. Рукамі Бабаманя паказвала абхоп карабельнай гарматы і рабіла падрабязны накід траекторыі ўзлёта “Як-38-х” з карабельнае палубы.

І я пры дапамозе пажыўнага манніка і гэтай адмысловай серыі гучных і вымоўных паказаў на пальцах зноў злятаў з мулкай палубы горада Мінск у бурлівае мора дзядоўскіх мрояў. Я зноў, прынаджаны байкамі і слодычамі, увальваўся ў наркатычны транс, трапляў у змененую свядомасць. І ўсё бацькоўскае выхаванне стрыманасці і цверазасці руйнавалася. Увайшоўшы ў пазачарговы запой, я хадзіў летуценны, неадчувальны да поклічаў цяперішчыны. Рэальнасць выяўлялася біткай на дотык і рассыпалася ў друз ад першага павеву лёгкай марынады, імітаванай губамі Бабамані.

“Сынок, хопіць спаць!” – галёкае мама, калі я ўжо сотым разам забываюся яечню на пліце ды новая патэльня ляцела ў сметнік. Бацька настолькі звыкся, што сын яго не адгукаецца і не слухае, ажно часта знаходзячыся са мною ў адным пакоі, паварочваў галаву ў матчын бок і казаў: “Скажы Ігару, што...”

Усе дзядоўскія байкі пра мінулае заканчваліся паўторам, які тычыўся іхняй цяпершчыны. Велічным рэфрэнам, падобным да ўрачыстай прысягі: “Ісціну кажу табе, Ігарок, Беларусь – поўнае закалдычча!”, “У Мінску ўсё па-свінску, Ігарочак, ось так ось”. “Гэтая змрочная Белоруссія, Ігорь”, – засмучана казала мая чухонская Бабаманя, і яе голас пачынаў дрыжэць на падвойным “с”, нібыта яна, дачка сумскага народа, ніяк не можа выблытацца з гушчару крывіцкіх балотаў на азёрны прасцяг Ладагі.

Бацькі, карэнныя мінчукі, што маглі прапанаваць яны супраць гэтай прыгажосці чароўных краёў? Краёў, дзе фарбы гусцейшыя, а паветра – саладзейшае? Але рук бацькі ў гэтай справе не складалі. Спрабавалі свой антызахад, заразу выгнаць заразаю – вадзілі пакаштаваць мінскае жыццё на дотык. Балазе, усё было пад рукою.

Мама кажа: “Вось тут, каля ТЮГа я сустрэлася з першым кавалерам, Юзікам Станкевічам з Гродна, і ты б цяпер у даважак да ўсіх сваіх нацыянальнасцяў мог быць яшчэ і палякам, ха-ха...”, “А тут, сынок, замест гэтага бара “Старое рэчышча” стаяў паганскі татэмны камень”. Аднак я бачу не вядзьмарскі камень, а зарыганую піўніцу, складзеную з абшарпанай жоўтай цэглы, з якой выпаўзаюць не таямнічы мамін паляк, а падвясёленыя, абцёрханыя жыццём калдыры. Ажно ўяўляць камень не хочацца.

Закатаныя ў тоўсты слой грыму калюмны на фасадзе ТЮГа ў параўнанні з вытанчанымі ленінградскімі растрэлевымі (я бачыў іх на Бабаманіных фотаздымках) здаюцца няўдалай падробкаю, здзекам і марнай спробай мне спадабацца. Ну, не можа быць рамантыкі на вуліцах з назвамі Лодачная і Трэцяя Пасялковая! Як тое “Старое рэчышча” на беразе рэчкі-гразяцечкі можа спаборнічаць з харашмянай хацінай на беразе Ладажскага возера, якая належала карэльскім продкам Бабалюсі, трошкі вікінгам? Або ці можа тое “Рэчышча” хоць у якім свеце цягацца на роўных з самай апошняй гжэльскай чайнай, у чыіх рэзьбяных *чартогах* да ачмуру напампоўваўся зранку гарбатай, а ўвечары – гарэлкай, малады Дзедвасілій? А гатычная аптэка, гатычная аптэка ў Львове, якой валодалі дзед Дзядзюлі, – яе чым мінскім крыць будзеце, бацькі харошыя?

Устурбаваны, я аглядаў нашую блочную двухпакаёўку: цяснотны пакоік, дзе сценка ішла на сценку, стандартная каструбаватая мэбля, вокны глядзяць на вечна сыры лес. Хіба гэтая нудоць можа ісці ў параўнанне з доўгім загадкавым калідорам камунальнай гасподы на Выбаргскай старане? З калідорам, які вёў у іншыя вымярэнні або часам рабіў ласку сваім насельнікам і заканцоўваўся грамадскай кухняй велічынёю з Сенатарскі пляц?

Я заходзіў на нашую асобную куханьку і, каб уявіць чаго надзвычайнага, рады не даваў. У той жа час я даволі лёгка вымройваў, як на далёкай леніградскай варыўні, не раўнуючы касмічныя ракеты перад стартам, дуньдзяць і дымяць паўміфічныя прымусы. Мне нічога не каштавала ўявіць, як пад гэты зладжаны шум ніколі не бачаны мною прадзед Дзедмінька, бацька Бабамані, няспешна бярэ чарачку са сваім субутэльнікам: старасвецкім, але зухаватым акторам Паўлам Кадачнікавым, акрамя іншага, яшчэ і бязногім лётчыкам (якое хараство!) з кінастужкі “Аповесць аб сапраўдным чалавеку”.

Нібы пацвярджаючы, што рамантыкі і ўвогуле прыстойнага жыцця ў Мінску і ваколіцах не маецца па вызначэнні, Дзедбарыс, адзіны прыроджаны мінчук, на вечарах успамінаў языка не вытыркаў. Ніколі не распавядаў

пра сваё мінскае дзяцінства. І сапраўды: што было тут распавесці? Што цікавага і вартага ўвагі можа быць у Свінску?!

“Сувораў, Кромвель, Іван Жахлівы, Напалеон, Чынгіз-Хан...” – славутыя імёны выляталі з Дзядзюлі ўсё роўна як мячыкі з тэніснай гарматы. Калі артабстрэл сканчаўся, дык Дзядзюля, адданы гісторык-аматар і ўладальнік вялікага кнігазбору, з нейкай горыччу прыпячатваў:

– ...і вось, Ігалька, не паверыш, якую гістарычную постаць не назаві – усе яны не з Беларусі.

Я азіраўся па баках і ў тварах мінакоў сапраўды не заўважаў ані следу падабенства да прыгаданых вышэй асобаў. Ужо тады я ведаў, што ўсе гістарычныя персоны, такія, як Майсей ці Жанна Д’Арк, былі калісь звычайнымі шараговымі людзьмі, якія гібелі ў шэрасці і шараговасці. Але потым, зрабіўшы нейкі марш-кідок у сваім развіцці, ці ўразумеўшы, што тут да чаго, адразу скакалі ў найвышэйшую лігу гістарычных зорак-суперстараў.

Аднак у мінскіх мінаках я не бачыў нават намёку на героеў. Нягеглая хада, каструбаватыя жэсты. Шапялявая трасянка, якая, здаецца, толькі для таго і прыдуманая, каб абслугоўваць ніжэйшыя патрэбы свайго носьбіта. Вечна засмучаныя, зануранія ва ўласныя развагі вочы. І самае галоўнае, які, нахалеру, марш-кідок: каго вызваляць? Ад чаго? За што біцца ў нашай занадта мірнай рэспубліцы? Мне рабілася ніяёмка. Не перад Дзядзюлем, перад самім сабою.

Мы выходзілі з Верхняга горада. Справа бязлітасна бялеў сваімі снегавымі вежамі Пішчалаўскі замак, злева пад вытанчанай абалонкай Рускага тэатра трапятала хрыбціна Харальнай сінагогі. Наперадзе надзіў агнямі Праспектленіна-Сталіна-Гаупштрасэ-Міцкевіча-Захар’еўская.

“Тут жа з гістарычнага гледзішча, Ігалька, проста голае поле, – працягваў жаліцца мне Дзядзюля. – Дзіч і пустка. Ажно дзіва дзіўнае, як такое можа быць пасярод шчыльнага еўрапейскага гушчару!”

Мы міналі “Чабурэчную” на Валадарскага, 9, на паўдарозе паміж “валадаркай” і “амерыканкай”. У гэтым будынку калісь абвесцілі Беларускую Народную Рэспубліку, а трошкі пазней, напачатку 50-х тут, у рэстаране, мыла падлогу Бабароза. Мы міналі чабурэчны ганак, па якім яе калісь выводзілі ў кайданках. Я прасіў Дзядзюлю распавесці яшчэ раз, як за крадзёж сацыялістычнай маёмасці дырэктарку і Бабарозу, звычайную прыбіральніцу, прыехалі арыштоўваць ажно сем чалавек аператыўнікаў у цывільным. І як, калі яны зайшлі ў залу, усе наведнікі, якія абедалі там, падумалі, што прыйшлі арыштоўваць менавіта іх. І як адусюль пачуўся звон выпушчаных відэльцаў і пабітага посуду, бо адначасна на ногі падскочыў цэлы рэстаран, уключна з супрацоўнікамі дзяржбяспекі і міліцыі, якія тут раз-пораз абедалі, бо побач былі будынкі МДБ і МУС, а яны сюды хадзілі, калі надакучвалі іх унутраныя сталоўкі. І калі праз некалькі хвілінаў Бабарозу і дырэктарку правялі па рэстаране ў кайданках, усе наведнікі рэстарана амаль не хаваючыся заўсміхаліся, бо ўрэшце арыштавалі не іх. Ішла і таксама ўсміхалася Бабароза, бо яе ўзялі як раскрадальніцу сацыялістычнай маёмасці, а не як жонку ворага народа, нямецкага калабаранта Дзедвасілія. Цяпер яна была лагодная: больш не давядзецца трэсціся ад любога званка ў дзверы, і максімум, што ёй свеціць, – гэта два гады турмы агульнага, чытай – курортнага, рэжыму.

## найбольшая дзядоўская любасць

Найбольш дзяды любілі дні народзінаў адзін аднаго. Яны сядзелі тады самавітыя і мудрыя, як гілі на галіне. Як-ніяк – гэта іхняе свята: чарговая нарада сіёнскіх мудрацоў, юбілейны сход сусветнага ўраду.

Да прыкладу, у Бабарозы і Бабагруні дні нараджэння побач: дванаццатага і чатырнаццатага траўня, – але от хоць ты што – мусіш наведаць абодва, цалкам асобныя і незалежныя адно ад аднога мерапрыемствы. І абедзве ўрачыстасці святкуюцца найшыкоўным чынам, з поўным наборам: селядцом “пад футрам” і мясам па-французску, гарачым і салодкім.

Яшчэ дома бацька, змагаючыся з запінкамі і гальштукам, псіхаваў і казаў, што больш ніколі не прыйдзе на гэты “старпёрскі ідзьяцізм”, дзе яму і ягонаму сыну адведзена роля без’языкай ахвяры, фактычна стравы, якую падаюць на дэсерт. Гэта бацька меў на ўвазе той момант, калі дзяды паварочвалі галовы ў наш бок і саладжавымі галасамі пачыналі прыветна, але па-міліцэйску ўчэпіста дапытваць мяне і бацьку наконт справаў у школе або на працы. Аднак бацька як міленькі з’яўляўся на кожным мерапрыемстве са мною пад пахаю і шырокай усмешкай на твары.

На сваіх зборышчах дзяды гаварылі пра мудрасць, шаленства і дурноту. Найбольш гаварылі пра апошнія дзве тэмы, каб незаўважна выпнуць, падкрэсліць першую, уласную. Гісторыі заўжды мелі мараль, рознай ступені прыхаванасці – маўляў, чарка давядзе да капца, а балбатліваць – да нараў. Слухачы ж па-змоўніцку падтаквалі апавядальніку. Шматмудра ківалі.

Самому апавядальніку гэтай ухвалы прысутных падавалася замала, і чарговую гісторыю ён усё ж заканцоўваў крышталёвай фразай, маральным імператывам, здаецца, выпакутаваным падсумаваннем, якое казалася з паўзамі, прачулым пранікнёным голасам: “Ну, вы самі ўсё разумееце...”, “...Ну, ты сам усё разумееш!..”

“Перабудова? Галоснасць? Новае мысленне? Гэта ўсё для ідзьётаў, Барыс Сцяпанавіч. Знарок абвесцілі галоснасць, каб гэтым разам ужо на поўную выявіць ворагаў, ды пасля цішком-нішком іх, у лясочку пад Мінскам... Ну, вы самі ўсё разумееце”.

“Беларуская мова, Ігарочак? Размаўляць на ёй і дома, і на вуліцы? Гэта яны зрабілі, каб усе вашыя высілкі ішлі на размаўлянне, а не на ўсё астатняе, рэвалюцыі і рабленне нашчадкаў... Ну, ты ж сам усё разумееш...”

Дзяды мелі гонар належаць да ордэна Тых, Хто Самі Усё Разумеюць. Абранай касты, затаямнічанай ложы. Актыўнасць у сяброў гэтага ордэна вельмі вялікая, але іхняя прыкладная дзейнасць палягае ў спецыфічнай плоскасці. У дзевяноста адсотках таемныя веды і навыкі дапамагаюць сябрам ордэна адно дакладна адчуць той самы інтымны момант, калі трэба завязаць на вузельчык свой язык. Або адчуць няўлоўнае, як павуцінка, імгненне, калі належыць даць драпака ці праўдападобна прыкінуцца мёртвым.

Напрыклад, сваёй прыналежнасцю да ордэна Дзядзюля і ягоная мама Бабадора ўдзячныя выратаванню падчас вайны. Як высвятляецца, на пачатку вайны толькі члены ордэна па нейкіх сваіх нябачных каналах атрымалі інфармацыю, што немцы робяць з габрэямі ў Польшчы. І таму дваццаць чацвёртага чэрвеня 1941 года, калі з горада ўцякалі ў асноўным толькі савецкія работнікі і іх жонкі, Дзядзюля і Бабадора не сталі з абывательскай цікаўнасцю чакаць, што будзе далей. З абшарпанай валізкай, пехам, рванулі яны па маскоўскай шашы на ўсход, у Расію. Пакуль уся

астатняя радня разам з любімым братам Дзядзюлі Дзядзькаборухам няўцямна глядзела ім услед: “З роднага дому? Куды? Нашто? Перажылі бальшавікоў, перажывем і немцаў”. Дзядзькаборух разам з іншымі застаўся ў горадзе і ўжо ніколі не стаў Дзедборухам.

Мудрая непрыкметнасць і непрыкметная мудрасць – гэта ордэнская рэлігія. Дзядзюля радаваўся, што яго прозвішча Шапіра, Бабаманя – што Іванова, а Дзедбарыс – што Качуня, прозвішчы незаўважныя, някідкія, і носьбітам такіх прозвішчаў за нашым часам вельмі лёгка ўхіляцца ад падаткавых службаў. Ісці супраць вады? Занясе ў вір. Тузацца і цярабіцца? Сэнсу няма, бо вас асабіста тады... а вашу сям’ю... і... ну, вы самі ўсё разумееце...

Члены ордэна ніколі не захапляліся хараством моманту, бо не забываліся (ды іншым не давалі забыць), што за прасветлай паласой ідзе чорная. Пасля росквіту абавязкова наступіць адцвітанне. За бурлівым банкетам заўсёды наваліцца горкае працверазенне. Пасля жвавенькай маладосці кульгае нямоглая старасць. Усё трухлее, парахнее, выцвітае і лысее. Смех? Недарэчнасць! Радасць? Што яна дасць! Мінздароўя папярэджвае: пасля выпаленай цыгарэты на сценках лёгкіх імгненна пачынае крышталізавацца рак.

У поспеху дзяды ўжо бачылі руйнаванне, у багацці – банкруцтва. Бо ж апошнія гізунты адбярэ бессэнсоўная беганіна, грашовае багацце зжарэ дэнамінацыя. Маёмасць, як мы ўсе ведаем з вопыту, адцяпае сквапная дзяржава, а калі дзяржава будзе ў дадатак таталітарная, дык выйме і жыццё. Паратунку няма.

Аўтар Кнігі Эклезіяста, цар Саламон, мяркую, таксама належаў да гэтага старадаўняга ордэна разумнікаў. Аднойчы, перачытваючы той раздзел Бібліі, я імгненна ўявіў на нашых сямейных урачыстасцях гэтага каранаванага пашыральніка дэпрэсіўных настрояў.

Вось ён, Саламон Давідавіч. У белай фланельцы з кароткім рукавом засядае за святочным сталом у кватэры на вуліцы Чкалава. Скінуў старазапаветныя сандалі і ерусалімскую карону, бо Бабароза карае горлам усіх тых, хто ходзіць па доме ў вулічнай вопратцы. І вось ужо зіхціць ягоная ядвабная ярмолка паміж убялёным кудзеркамі цемем Дзядзюлі і сакратаўскім плехам Дзедбарыса. Саламон Давідавіч накладае сабе на гжэльскую парцаляну гефельтэ-фіш і крэветкавы салат ды па-старэчы рыпіць: “Ось так ось... Такія справы вынікаюць... Марная марнасць... Пагоня за... (паўза, падчас якой кавалак гефельтэ небяспечна балансуе на відэльцы) ...ветрам”.

Доўгі, доўгі шлях гэтага кавалка да месца прызначэння! Тым часам голасам, поўным пенсіянерскае стомы, Саламон Давідавіч, засяроджаны на відэльцы, працягвае мармытаць сабе пад нос яшчэ нешта пра адсутнасць новага і карыснага пад сонцам, пра немагчымасць крывому выпрастацца, а воку – насыціцца бачаным. Аднак тут кавалак гефельтэ ўрэшце цэлы і здаровы прызямляецца на талерку, ды Саламон Давідавіч хуценька хапае лусту хлеба і паспешліва завяршае: “...Ну, вы самі ўсё разумееце”. І вышнураваны вакол стала дзядоўскі сінедрыён ухвальна і ўсцешана ківае галовамі на манер спружынных цацак. Хаця я гатовы паклясціся, што кожны з дзядоў насамрэч захоплены думкамі пра колішніх сямсот жонак і наложніц, якіх меў Саламон Давідавіч у маладосці.

Выбухаў здзіўлення або захаплення ў членаў ордэна заўважана не

было. Праявы замілавання назапашваліся і патрошачкі адшкадоўваліся: падрыхтаванымі дозамі, адрэпетавана і цэнтралізавана, як раз на тыдзень трактуюць дзетак кішаньковымі.

Эмоцыі падразумявалі цырымонію. Іх аддавалі, але загадзя папярэдзіўшы па тэлефоне, на дзень народзінаў ці на майскія. Проста так, без дай прычыны пацалаваць ці абняць? Дурнота! Далібог, дзяды былі надта спрактыкаваныя і дасведчаныя, каб ведаць, што пасля весялосці і пяшчоты сэрца чалавека жалезнымі абцугамі сціскае гора і адчужанасць. “Дык нашто, Ігарочак, звівацца, як засранец у рассоле?”

Далі пудла дзяды толькі двойчы. Два вядомыя мне разы, калі залётныя эмоцыі здолелі апанаваць душу і розум Бабарозы і Дзядзюлі.

Спярша пра Бабарозу. У 2004 годзе яе папрасілі апазнаць далёкага пляменніка Дзядзькагрышу, які разам з палюбоўніцай захлынуўся газам у гаражы. На дварэ ціснулі маразы, і напярэдадні вечарам каханкі схаваліся ў гараж. Зашыліся там у машыне і завялі матор, каб у салон пайшоў абагрэў. Пасля любошчаў заснулі. Выхлапны дым, які не змог выблытацца з закрытага памяшкання, задушыў іх. Пачуўшы пра палюбоўніцу, жонка Дзядзькагрышы, Цёткавера, адмовілася апазнаваць мужа-здрадніка.

Калі мы прыйшлі ў трупярню і санітар адгарнуў адразу дзве прасціны, дык Бабароза, ледзьве глянуўшы на ссінелы твар племяша-жыгала, стала ўзірацца ў правільныя рысы незнаёмай ёй палюбоўніцы. Па каторым часе замест нейкай сваёй звычайнай шматдумнасці кшталту: “Ось так ось!” або “Людская дурнота ўсё, прасцігоспадзі!”, з Бабарозавых губ нечакана зляцела: “Прыг-о-ожая”.

Адразу пасля гэтага ёй зрабілася страшэнна няёмка, і яна фальшыва закудахтала санітару: “Ой, няможна ж пры дзіцёнку такое паказваць!” і стала тыцкаць пальцам у мяне, дваццаціпяцігадовага.

Дзядзюля аднаго разу таксама даў пудла і цэлыя два тыдні зусім не хаваў эмоцыяў. Гэта здарылася ў 1989-м. Дзядзюля надта перажываў за румынаў, якія сіліліся зрынуць (і ўрэшце зрынулі) дыктатара Нікалае Чаўшэску. Румынская рэвалюцыя расцягнулася на колькі тыдняў, і на ўвесь гэты перыяд Дзядзюлем апаноўвала нечуваная ўзрушанасць. Дзядзюля, і без таго палкі фанат дысідэнцкіх “галасоў”, які і раней жыць не мог без дозы Бі-Бі-Сі і радыё “Свабода”, цяпер увогуле зрабіўся навіновым наркаманам. Глытаў звесткі з Румыніі штодня нашча і пасля ежы, сем-восем разоў на дзень.

Гэтымі запойнымі днямі Дзядзюля панадзіўся хадзіць да Бабагруні з Бабарозай у госці. Задыханы, не раўнуючы як пасланец з Маратону, ён прыносіў зводкі з поля бою: распавядаў падрабязна пра цімішаарскае паўстанне, пра рухі паўстанцкага войска і перасоўванні сілаў камуністаў.

Назіраць усю гэтую расчуленасць у Дзядзюлі, ці не самага адданага члена змрочна-стрыманага ордэна, было вельмі дзіўна. Ясна – Тыя, Хто Самі Усё Разумеюць любую ўладу ненавідзяць. Аднак ненавідзяць так, як чалавек ненавідзіць кепскае надвор’е ці цялесную хібу. Маўляў, брыда-брыдою, але нягледзячы на яе, трэба далей век векаваць. Па-другое, паводле аднаго з ордэнскіх пастулатаў, ніякую ўладу (а гэта пацвярджаў шматгадовы досвед) немагчыма ані памяняць, ані зрынуць, ані пераабраць. Па-трэцяе, кесару – кесарава, а слесару – слесарава. Як сказаў аднойчы зазвычай маўклівы Дзедбарыс: “А ты, Ігарочак, хацеў бы апынуцца на месцы Гарбачова? Калі

табе – і нікому іншаму – у патыліцу дыхалі і абхазскі канфлікт, і мільён незадаволеных сухім законам? Хацеў бы не спаць ноччу ад экстранных паведамленняў шэфа КДБ, га? Браць грэх на душу і збройна разганяць мірныя дэманстрацыі ў Літве? Штодня ў крамлёўскіх кабінетах звівацца, як сам ведаеш хто ў бочцы сам ведаеш з чым?" Не даўшы мне і пальца ўсунуць, Дзедбарыс тады адразу сам на сваё рытарычнае пытанне і адказаў: "Вось, і ніхто іншы з нармальных людзей, *а не з гэтых яйцакрутаў*, не хацеў бы быць прэзідэнтам".

...Дзякуючы румынскаму паўстанню, на якія два тыдні Дзядзюля забыўся на закарэлую ад даўнасці варажнечу з Бабарозай. Цяпер, пасля стольнкіх гадоў разводу і разладу з Бабагруняй, ён наважыўся завітаць да яе на вуліцу Чкалава. Радасны і самаіранічны, Дзядзюля зусім ужо пасябраваў з Дзедлёням, другім мужам Бабагруні. Дзядзюля распавядаў і распавядаў пра павешанне румынскага ідала і яго жонкі гэтак, нібыта бачыў усё на свае вочы. Прыгаворваў, што нарэшце небаракі-румыны зажывуць як след.

Так, сапраўды, у тыя дні румынскай рэвалюцыі Дзядзюля, разважны і шматмудры пячкур, абсалютна не кантраляваў сябе. Дарэчы, гэты Дзядзюлеў уздым я прыгадаў гадоў колькі пасля, калі, ледзьве ачуняўшы ад колькісотгадовай няволі, ужо і беларусы паспелі займець свайго дыктатара.

У першыя пасля выбараў месяцы Дзядзюля быў дэмаралізаваны ўшчэнт. На яго стала шкода глядзець. Дысідэнт у душы і заўзяты волялюб пасівеў і згорбіўся. Пакрысе адбіўся ад сну і ежы. Варта было толькі яму пачуць па БТ або па "Радыё-1" маналогі "гэтага Македонскага", як у Дзядзюлі пачыналася арытмія. Палкі аматар гісторыі і палітыкі надта добра засвоіў, да чаго прыводзяць хамуйлавата-дурнаватыя маналогі перад камерай, гэтая нахрапістая гульня ў адну браму. Дзядзюля ўжо цудоўна ведаў на прыкладах з гісторыі, чаго чакаць ад флірту ўлады з калектыўным несвядомым.

Каб хоць неяк прывесці Дзядзюлю да ладу і рытму, падчас аднаго з маіх візітаў я, як бы незнарок, запытаўся: ці радаваўся б ён, калі б і ў нас, як калісь у Румыніі, народ скінуў свайго дэспатычнага кіраўніка?

Гэта дапамагло. Дзядзюля, які млявы і абыякавы да жыцця ляжаў на канапе перад выключаным тэлевізарам, ажно падскочыў, падняўшы вакол сябе фантан з падушак і коўдры.

– Ціпун табе, Ігалька! Ты што, здурнеў? – галасіў ён. – Ты ўвогуле думаеш наперад, што кажаш?!

Кроў вачавідкі вярталася да бледнага Дзядзюлевага ілба.

– То тады тут будзе хаос, анархія! Ты што, не разумееш, што наступіць разгул антысемітызму і пагромы?!

Дзядзюля ставаў на дыбкі, яго вочы шалёна круціліся, а голас зрабіўся трубны. Ён нагадваў параненага дзідай слана.

– Ну, скінуць яны Македонскага, ну, будзе добра ўсім які тыдзень... хай сабе месяц будзе воля... Але потым усё стане яшчэ горай і паскудней. Усе будуць хадзіць голыя і дурныя... Без цара ў галаве.

Дзядзюля запстрыкаў адначасова ўсімі выключальнікамі на тэлевізійнай панелі. На экране з'явілася пастаральная ніва, па якой нетаропка пахаджваў Македонскі ў атачэнні сваёй шэрай світы.

– Таму напрамілы бог...

Дзядзюля трапна плюнуў у экран тэлевізара і, малітоўна склаўшы рукі, павярнуўся ў бок усходняй сценкі кватэры. За ёй знаходзіліся мікраraён Уручча і Ерусалім.

– Хай, Ігалька, усё цячэ так, як яно ёсць... Любая ўлада, Ігалька, ад... – тут ідэйны атэіст Дзядзюля запнуўся, а на ягоным твары прачытвалася збянтэжанасць, – ... ад... ад каго трэба!

Ён хапаліва схаваў за спіну ўказальны палец, які тыркаў быў у столь.

Гісторыя з Македонскім мела працяг. У той вечар Дзядзюля яшчэ доўга гармідэрыў, лямантаваў, усяляк бэсціў мяне. Хапатліва і бязладна рухаўся па гасцёўні. Урэшце знямогся, а мама, якая прыйшла па мяне, накарміла Дзядзюлю дзвюма празрыстымі к*у*лькамі валідолу. Мінаючы мяне ў вітальні, мама замахнулася на мяне, заскандаліўшы шэптам: “Ад цябе, Ігар, я такога не чакала! Думала, ты дарослы!”

Пасля той прыкрасці з Дзядзюлем ма*е* з членамі ордэна адносіны не тое што сапсаваліся, але, скажам так, змяніліся ў трывожны бок. Я патыліцай адчуваў, што цяпер усе дзяды ўважліва, новымі вачыма абглядаюць мяне. Дзедлёня ціхенька шэпчацца з Бабаманяй. Бабагруня кідае позіркі, поўныя сумненняў і заклапочанасці. Нават бацька, падбухтораны дзядамі, дасылаў спагадлівыя і шкадоблівыя сігналы, а ягоныя глыбокія ўздыхі, здаецца, казалі: “Так, Аля, наш сын ідзьёт, але што ўжо тут зробіш...”

Праз месяц фаза глухога адчужэння і ўстрывожаных зіркаў змянілася чародкай ветлівых допытаў. Дзядзюля сам адмыслова прыязджаў да нас на Зялёны Луг і задаваў мне нібыта наіўныя такія пытаннечкі на гістарычныя, на палітычныя тэмы, або пра зусім ужо адцягнёныя рэчы.

Я сцяміў, што адбываецца: пасля майго правалу з Македонскім дзяды намацвалі глебу, асцярожна, але настойліва правяралі, ці годны я ўвогуле працягваць іхнюю справу – быць у ордэне Тых, Хто Самі Усё Разумеюць. Я разумеў яшчэ – нарэшце, пасля ўнутранай дыскусіі дзяды ўсё ж вырашылі даць мне апошні шанец.

Я стараўся штомоцы і супрацоўнічаў са следствам. Я хадзіў, як па нітачцы, не дазваляючы збыткоўных свавольстваў і непрыхаваных дурнотаў. Каб залішне не цвяліць маму, нават перастаў слухаць на касетніку бесшабашны грандж і хэві-мэтал. На ўсе правакацыйныя пытанні адказваў ўмеркавана і разважна, як уласціва не хлопчыку, але мужчыну. Як адказаў бы сам Дзядзюля.

Я гатовы быў выканаць любы ягоны загад. Калі б мне сказаў выкачацца ў пыле, я бы з ахвотаю паваліўся ў вопратцы і стаў качацца б там у вопратцы. Або з’есці ёлкае масла з лядоўні, калі б майму самавітаму дзеду раптам прыйшла на думку такая дурніна. Бо я, бачыце, дужа не хацеў вылятаць з гэтага ўплывога ордэна. Не хацеў я ў наступны раз, калі прыйдуць фашысты, загінуць у гета, як ніколі не бачаны мною Дзядзькаборух. Мілы мой Божа, вельмі прашу цябе – быць з валадарамі свету заадно і вырашаць разам з імі лёсы планеты!

Калі праз нейкі час увага да мяне з боку дзядоў і бацькоў паслабла, а вымоўных зіркаў стала значна менш, я сцяміў, што ўзноўлены ў таемным ордэне на выпрабавальны тэрмін. І зноў жыццё вярнулася ў шчаслівую руціну.

## святая вера ў адну рэч

Я даўно заўважыў – у членаў ордэна, на фоне іхніх амаль бязмежных сумненняў у хоць чыёйсьці рацыі, усё ж існавала святая вера ў адну рэч. Атрымаўшы тую рэч, – верылі члены ордэна, – чалавек мог абараніцца ад большасці нягодаў і побытавых нявыкрутак. Быў, быў залаты ключык ад патаемнай бурацінаўскай дзверцы па-за карцінай з агменем! Такі існавала прапустка ў светлую будучыню!

Дзяды верылі ў цымус цымусаў, які не прапіць, не прафукаць. З пакалення ў пакаленне гэтая самая адна рэч мянялася, але нязменным заставалася толькі вера дзядоў, што яе трэба мець. Калі б я нарадзіўся гадоў на дваццаць раней, дык гэтай рэччу быў бы інстытуцкі дыплом. Ого, дыплом! Ён тады здаваўся шчытом гуляй-горада, тлустым азонавым слоем, за якім ягоны шчаслівы ўладальнік пачуваецца ў сваім жыцці як у Хрыста за пазухай. Цяпер жа навароджаным зычаць асобную кватэру ў Мінску. І будзе вам шчасце!

У маім жа дзяцінстве, у пачатку 80-х, сябры ордэну Тыя Хто Самі Усё Разумеюць (куды дзяды запісалі яшчэ маму Вовы Шахава, нашага суседа), ужо ведалі, што стопудовае прасвятленне і дабрабыт абвязана прынесці веданне замежнай мовы.

Пры словаспалучэнні "вывучэнне замежных моваў" заўсёдную ўяўную млявасць, што панавала сярод членаў ордэна, здымала як рукой. Яны пачыналі ўвіхацца наўкола, махаць рукамі і голасна прапаноўваць свае варыянты дзеяння.

Трэба прызнаць – члены ордэна, надзеленыя дарам прадчування, былі больш чуллівыя за звычайных людзей. І таму ўжо напрыканцы 80-х ведалі, што савецкая плацiна праравецца. А што ў бурлівым ліхалецці зробіцца выратавальным колам для іх дзетак? Што вынясе на багаты і зацішны бераг шчасця? Канечне, веданне моваў!

Пакуль у трэцім класе ўсе астатнія мамы вакол разводзілі рукамі, са збянтэжанасцю пераглядаючыся (маўляў, нахалеру яны гэта робяць?), мяне і майго сябра Вову Шахава сілком забралі са школы №148 з французскай мовай і перавялі праз дарогу – у 171-ю, ангельскую. Што зробіш: у рэйтынгу членаў ордэна ў сілу імкліва ўбіраўся менавіта інгліш.

Дарэчы, свайго першага жывога замежніка я ўбачыў гадоў пяць пасля, у 1992 годзе, у піянерлетніку "Фатон" пад Ракавам. Да нас прыехаў студэнцкі ансамбль танца з Аёўскага каледжа. Амерыканцы на "біс" выканалі каўбойскія танцы і кабарэ-нумары. Потым на ганку піянерскага клуба кідалі ў раздратаваны натоўп піянераў пярэстыя жуйкі, бірулькі, вытрыманыя ў колерах амерыканскага сцяга, плоскія сувенірныя вяхоткі, якія самі распушчаліся ў вадзе, як сухары. Калі я штурхаў локцямі сваіх сяброў і поўзаў па асфальце ў надзеі атрымаць такую вяхотку, я раптоўна зразумеў, што дзеля падобных кантактаў з замежнікамі веданне мовы не патрабуецца.

Але вернемся да залатога ключыка. Такім чынам, усё дзяцінства і юнацтва навылёт мяне, свайго адзінага ўнука, дзяды проста шпігавалі мовамі. Бабанадзя – прыгаданай вышэй перспектыўнай ангельскай, Дзядзюля, як ён лічыў і ўсіх пераконваў, – перспектыўным іўрытам, Бабароза безупынна сачыла за чысцінёй маёй рускай.

## ангельшчына

У 1985 годзе да мяне прыйшла ангельшчына. Прыйшла нечакана, разам з Бабанадзяй. Стаяў чэрвень, два месяцы да “нулёўкі”. Я святкаваў шасцігоддзе са сваімі найбліжэйшымі сябрамі – тым вечарам двухпакаёўка ў Зялёным Лузе была набітая дзядамі і бабулямі. І вось на парозе някліканым госцем намалявалася Бабанадзя, маладзейшая дачка Бабарозы, родная сястра Бабагруні, перакананая векавуха. Бабанадзя сказала, што прыйшла ні больш, ні менш, як навучыць “свайго ўнучыка” ангельскай.

Калісь Бабанадзя выкладала гэтую мову ў школе. Але ў яе галаве ад пэўнага часу стаў неадчэпна гучаць голас нейкай іншай жанчыны, і Бабанадзя ад настаўніцтва адмовілася – не магла ні на чым засяродзіцца. Тады яна пайшла працаваць на завод, дзе праз грукат машын і станкоў надакучлівага голасу амаль не чуваць.

Той, іншы жаночы голас распавядаў розныя гісторыі, прыдумляў вершы. Казаў, што ў свеце ёсць цікавыя і нетрывіяльныя рэчы і з’явы, заклікаў Бабанадзю да падарожжаў унутр сябе. Голас раскрываў, як адчуваюць і пра што думаюць іншыя людзі. Слухаючы чужы голас, Бабанадзя рабілася іншым чалавекам: мройным, задумлівым, трохі пабожным. Голас яўна абдорваў Бабанадзю эзатэрычнай трансцэндэнтальнай мудрасцю, але наўзамен выцягваючы яе здаровую развагу.

Найбольш голас не любіў мужчынаў. Голас цвердзіў Бабанадзі, што ўсе мужчыны – мярзоты і поскудзі, стварэнні іншасвета. Наслухаўшыся голасу, Бабанадзя казала маме, што не разумее, як яна дазваляе, каб пры пацалунку мужчынскі язык залазіў у рот і па-гаспадарстку там распараджаўся. Яна не магла дабраць розуму, як можна любіць істотаў, што адвечна вывяргаюць са сваіх глотак лаянку і адрыжку. “А ці ты ведаеш, Алачка, – казала Бабанадзя, і кідала па баках свае шалёныя позіркі, – што п’яны мужчына можа абрабіцца ў шлюбным ложку? Мне Клава з Лодачнай распавядала”.

Аднойчы Бабанадзя заспела сваю сястру Бабагруню ў лазенцы за мыццём Дзядзюлевай бялізны.

“Як, Груня, ты мыеш ЯМУ шкарпэткі? Якая ганьба! Як нізка, Груня, ты ўпала!”

Адзіны мужчына, якога любіла Бабанадзя, – яе родны брат Дзедміша. Ён памёр немаўляткам, ды ягоны вялікі падрэтушаваны партрэт Бабанадзя захоўвала ў сябе над ложкам. Дзедміша весела і бессэнсоўна глядзеў у камеру, ды трымаў у руках футровага зайчыка з адным вокам.

Мама кажа, што чужы голас у Бабанадзі з’явіўся пасля таго таго, як немец у акупаваным Мінску прымусіў Бабанадзю цалаваць яму боты. Бацька ж ва ўсім вінаваціў востры менінгіт, перанесены Бабанадзяй у юнацтве. І стуль усё, кажа бацька, пайшло-паехала. У сэнсе Бабанадзеў дах.

Ужо ў дваццаць гадоў Бабанадзя мела псіхалогію закаранелай векавухі. Мама распавядае, што хлопцы вытрымлівалі не больш за адно спатканне з прыгожай, але шызафрэнічнай і дзівакаватай Бабанадзяй.

Праз гэтую мужаненавіснасць у Бабанадзі сваіх унукаў не было, бо не было і дзетак. Пасля нечаканага візіту Бабанадзі мама казала, што для Бабанадзі гэткая зацікаўленне мужчынам, хай сабе і ўнучатым пляменнікам, абсалютна ёй неўласцівае. “Можа, яна ўбачыла ў цябе Дзедмішу? – нібыта

самую сябе ўголас спыталася мама і стала абглядаць мой твар на прадмет падабенства з маленькім нябожчыкам. – Хаця... мусіць, рэч у тым, што бабчына любоў да ўнукаў зла, палюбіш і...” Тут мама замоўкла і вымоўна паглядзела на мяне.

Менавіта праз чужы голас у галаве Бабанадзя не трапіла ў лік сяброў ордэна, і, зразумелая рэч, яе адхілілі ад майго выхавання, а таму і запрашаць на дзень нараджэння яе было няварта. Ордэнская рада абмежавалася падачкамі ў выглядзе штоквартальных афіцыйных візітаў унучатага пляменніка да Бабанадзінай аднапакаёўкі на вуліцы Славінскага. Візіты адбываліся пад пільным наглядам стаячага вышэй органа, Бабарозы ці мамы.

А яшчэ з ласкавага дазволу Бабарозы Бабанадзя, якая даводзілася мне стрыечнай бабкай, атрымала права называць мяне “ўнучыкам” і нават “маім унучыкам”. Хаця, калі як след падумаць, дык тут адчуваюцца невялікія такія хітрыкі з боку Бабарозы. Сама ж яна была ўсяго-толькі маёй прабабуляй, і правоў зваць мяне “ўнучыкам” таксама не мела. І вось такім чынам, нібыта саступкай Бабанадзі, Бабароза фактычна ўзаконьвала сваё таксама не вельмі ўжо блізкае да мяне крэўства. Дарэчы, калі я гэтую думку калісь распавёў самой Бабарозе, дык усчаўся скандал, маштабы якога гэты сціплы твор проста не зможа ўмясціць, і таму я вярнуся лепей да прапановы Бабанадзі навучыць мяне ангельскай мове.

Удар быў разлічаны як мае быць. Сваёй прапановай Бабанадзя трапляла ў самае вока. Унаровіла таемным жадункам маіх дзядоў і бацькоў, ажно яны нечакана для сабе саміх і пагадзілася, і ўжо з наступнага тыдня мы сталі займацца з Бабанадзяй ангельскай мовай. Два разы на тыдзень, аўторак і пятніца.

Першыя месяцы, навучаючы транскрыпцыі, літарам і паасобным словам, Бабанадзя ўсё роўна як карміла мяне. Падносіла да рота разжаваныя да стану вадкага пюрэ веды. “Ну, Ігаруня, вось слова “эпл”-“яблык”-запомні-па-літарах-эй-двайны-пэ-дабл-пі-эл-у-канцы-літара-“і”-яна-ж-руская-“е”-але-яна-не-чытаецца-запомні. А вось слова “плам”-“сліва”-пі-эл-ю-эм”. Ці Бабанадзя казала: “З’еш “спун”-эс-пі-дабл-оў-эн-“лыжку”-за-маму-і-выпі “глас-оф-ці”-“шклянку-гарбаты”-за-тату-па-літарах-казаць-не-буду-ты-разумны-хлопчык-так-запомніш”.

Потым, калі мы пачалі ўжо выбудоўваць цэлыя словаспалучэнні і сказы, Бабанадзя ўскладніла сваю навуку гульнёю.

Яна ўсё роўна як якога-небудзь агента ці шпіёна надзяліла мяне легендаю. Цяпер мяне клікалі Інгварай, або проста Інгві, і я быў дзяўчынай. Жыла я ў горадзе Мальмё. Я была шведскай інжынеркай, якая прыехала ў Мінск на завод “МАЗ” вучыцца рабіць вялікія грузавыя машыны.

Тэматычныя тэксты для мяне пісала сама Бабанадзя. Калі я спытаў, чаму я дзяўчына, Бабанадзя тонам, які не церпіць пярэчанняў, адказала:

– Інгві, ты не дзяўчына. Ты дарослая, спелая жанчына. У цябе быў муж (харошы быў чалавек, але памёр вельмі маладым) і двое дачок-шведзянятак.

Пад выглядам шведскай інжынеркі разам з Бабанадзяй я наведваў вялікія гарады і малыя вёскі Беларусі, дазнаваўся пра іх славутасці. Бабанадзя пісала тэксты, а я іх разбіраў і часам вучыў напамяць. Пад прыкрыццём замежнай спецыялісткі я бадзяўся па лабірынце аўтазавода “МАЗ”. Спускаўся ў салігорскія шахты, поўныя чырванавата-зіхоткай руды.

Наведваў сем'і незнаёмых беларусаў, якія па зразумелых прычынах усе да апошняга дашкольніка размаўлялі па-ангельску. Знаёміўся з мінакамі на беларускіх вулках, а яны на чысцюткай British English тлумачылі нешта пра мінскі ампір і Great Patriotic War. Я зазубрыў напамяць, што Yanka Kupala and Yakub Kolas are Byelorussian poets. Я даведваўся што Minsk is the capital of Soviet Byelorussia. It's political, economic and cultural centre. І ўсё сваімі ножкамі, усё на ўласныя шведскія вочы.

Але простых тэкстаў Бабанадзі падалося замала. На заняткі яна прыносіла і заводскі план "МАЗа" (дзе яна яго ўзяла?), і план 32-га засакрэчанага тады завода, дзе рабілі оптыку для танкаў. А яшчэ ксеракопію мапы ВКЛ, надрукаванай у XVII стагоддзі ў Нямеччыне. Усё гэта было поўным адкрыццём і нечаканасцю для мяне: такіх інтэрактыўных, пагатоў на беларускія тэматы, падручнікаў па вывучэнні ангельскай (і нават беларускай мовы) у школах і на курсах тады яшчэ не існавала.

Пра ўсе тэмы Бабанадзя расказвала інфарматыўна, калі краналася тэмаў Другой сусветнай вайны і вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі – па-настаўніцку ўзнёсла. Аднак калі даходзіла да культурных дасягненняў беларускага народа, дык у яе голасе я чуў вядомую долю адстароненасці, нават схаванай, пэўна, брытанскай іроніі. У дадатак, кажучы пра беларусаў, Бабанадзя ніколі не ўжывала займенніка "we", "мы", а толькі "Byelorussians", так, нібыта казала пра замежную краіну. Расійка па бацьку, Дзедвасілію, – а гэтая акалічнасць за тадышнім светам абсалютна законным парадкам вызваляла любога чалавека ад абавязкаў быць беларусам. Але я на цікавасць усё ж спытаўся яе, чаму яна ніколі не хоча прылічваць сябе да нашай дружнай сям'і беларускага народа. Бабанадзя паглядзела сваім адметным, прымружаным позіркам вар'яткі, і адказала пытаннем на пытанне: "Missis Ericsson, I am starting to doubt that you came from Sweden!", "Спадарыня Эрыксан, я ўжо пачынаю сумнявацца, што вы прыехалі са Швецыі!". Я, напужаны раскрыццём сваёй сапраўднай асобы (аб якой я ўжо, здаецца, шчасліва забыўся), замоўк і больш падобнымі пытаннямі Бабанадзю не турбаваў.

Калі topic'і на сучасныя тэмы скончыліся, дык Бабанадзя пацягнула мяне ў дом беларускіх сялянаў XIX стагоддзя. Потым я папрысутнічаў на вечы полацкіх князёў. Яшчэ праз занятак Бабанадзя ператварыла мяне ў чорнага бусла, і я апісваў свой расклад дня, з ранішнім пошукам жаб і вечаровымі шлюбнымі танцамі. Адзін занятак я сябраваў з нейкім селянінам Sauka'м, які такі знайшоў magic Paparats-Kvetka. Кветка, выяўляецца, сама па сабе не торкае – з яе трэба было зрабіць галюцынагенную гарбату. Галюцынацыя, як высвятляецца, была такой моцнай, ажно заганяла звыклую рэальнасць у казіны рог, а той, хто пакаштаваў напой, атрымліваў не грошы, як зазвычай казалі нам у школе, а разуменне моваў жывёлаў і гармоніі свету. Яшчэ пазней Бабанадзя злагодзіла мне нават інтэрв'ю з Чарнобыльскай АЭС, якая ўцелавілася прыгожай маладзіцай, гаваркой істотай, капрызнай і крыху сапсаванай ад залішняй увагі. Седзячы ў кавярні Парка Горкага, АЭС наракала мне і дыктафону, што пасля выбуху яе прыхільнікі, энергетыкі, да яе ходзяць мала, што яна адзінокая, і яе інтэлектуальны патэнцыял цікавай суразмоўніцы пайшоў сабаку пад хвост. АЭС раскрыла, як ёй працавалася ў найлепшыя гады і што яна была закаханая ў сярэдні комін Мінскай ТЭЦ.

Аднойчы Бабанадзя мне прынесла спадніцу і прымусіла мяне яе

апрануць, пераконваючы, што менавіта гэтак трэба вучыць ангельскую мову. Згэтуль я займаўся ў жаночым.

Нягледзячы на дзівосу з пераапрананнем, з кожным заняткам гульня ў Інгвару і яе цудоўную краіну мяне ўсё больш зацягвала. Прапанаваная Бабанадзяй ілюзія была настолькі аб'ёмная, што пасля некалькіх заняткаў я адчуў сябе ўсемагутным духам, які лунае па-над краінай, на любой вышыні. Я, нібы тая Белая Сарока са “Шляхціца Завальні” Баршчэўскага, быў вольны заляцець у кожную шчыліну хаты ці кватэры і даведацца пра любы сакрэт. У дадатак я мог мяняць форму, уцелаўляцца ў іншых людзей, і часам нават не ў аднаго. Я напраўду стаў пачувацца даследчыцай, выведніцай, піянеркай у невядомай для еўрапейцаў краіне. Мне вельмі падабалася быць шведскай інжынеркай у Беларусі, чужынкай у невядомай краіне. Я зрабіўся мройным, задумлівым, трохі пабожным.

Разам з тым, у мяне самога пачалося лёгкае падваенне асобы. Напрыклад, калі зацягваўся ўрок белмовы – у нас была страшэнна нудотная настаўніца Станіслава Браніславаўна – я адчуваў, як невядомы голас Інгвары Эрыксан, інжынеркі з Мальмё, нашэптвае мне, падбадзёрвае, як жа гэта захапляльна быць жанчынай у мужчынскай вопратцы, сядзець сярод замежных дзетак і вучыць абсалютна незнаёмую мову. Пад уплывам голаса я нават стаў перакладаць беларускіх класікаў (ці, дакладней, іх імёны) на ангельскую – і перада мной паўсталі загадкавыя John Midsummer і Jacob Spike.

Калі мяне аднойчы ў той мой шведска-ангельскі перыяд злавілі ў туалеце старшакласнікі і пачалі збіваць – я не даў адпору. Вось яна, заморская прыгода з сапраўднымі тубыльцамі! Усё для мяне выглядала не як кадры са стужкі “Пудзіла” пра дзедаўшчыну ў школе, а хутчэй як якісьці экзатычны фільм з “Клуба кінападарожнікаў”. Думаю, гэтаксама паводзіў сябе цікаўны, але неразважны капітан Кук, якога мясцовыя жыхары забілі на Гаваях. “Ух ты, вось яны наблізіліся ў сваіх насцёгнавых павязках”, “Ваў, адзін з экзатычных тубыльцаў дастаў сваю акіянскую дзіду і крывы меч!” Гэтаксама і мне. Мне было нагэтулькі цікава, што гэтая цікаўнасць знішчыла пачуццё самазахавання. Ад радасці сустрэчы з новай прыгодай я гучна засмяяўся. Старшакласнік, які занёс кулак і ўбачыў мой смех, знерухомеў. Другі старшакласнік засычэў яму на вуха: “Жэня, ты што не бачыш, ён жа псіх!” Тымчасам я адчуў, як мае вусны выпіхваюць на свет таксама падораную мне Бабанадзяй фразу Тэадора Рузвельта: “Do what you can, with what you have, where you are”, “Рабі што можаш, з тым, што пад рукою, там, дзе стаіш”. Старшакласнікі палічылі, што яны могуць не біць мяне, а яшчэ адступіць і ўвогуле ад граху падалей збегчы з туалета.

Потым насланнё паўтарылася. Аднойчы, падчас шпацыру па вуліцы Чкалава, зноў нейкі чужы голас апанаваў маімі губамі. Я са здзіўленнем заўважыў, як самавітымі, дарослымі інтанацыямі па-ангельску пытаюся нейкага мінака, абцёрханага рабацягі, пра гісторыю Палаца чыгуначнікаў – Railway Workers' Palace. Рабацяга за-э-экаў, азірнуўся па баках у пошуках сэнсу і падмогі, і раптам зусім па-дзіцячы прыпусціў ад мяне шпаркім трушком.

Аднак канец. Пачалася перабудова – і мае ангельскія штудыі з узаконеным падваеннем асобы скончыліся. Тады па тэлевізары даводзілі, – а гэта дублявалі газеты і часопісы, – што прыслухоўвацца да ўнутраных галасоў – легітымны і нават модны занятак. Навіны пра НЛА, полтэргейст і дамавікоў-Барабашак забралі ў мяне Бабанадзю. Бясплотная

мужаненавісніца і эзатэрычка, атрымаўшы гарачую падтрымку з боку СМІ, ужо цалкам апанавала мазгамі Бабанадзі. Бабанадзя амаль перастала выходзіць з дому. Аднойчы, праз нейкую дробную крыўду, Бабанадзя сышла ад мяне не развітаўшыся і ўжо назаўсёды занурылася ў векавусіну моўчу ў аднапакаёўцы на Славінскага. Цяпер яе адведвала выключна Бабагруня, і гаворкі пра заняткі ангельскай нават і не было. Там, на Славінскага, Бабагруню і знайшлі перад домам на кветніку – яна выкінулася са свайго восьмага паверха. За некалькі дзён, калі да яе прыходзіла Бабагруня, Бабанадзя казала, што ў яе дома стаяць чужыя рэчы – нейкія невядомыя нябачныя мужчыны ноччу, калі яна спала, ціхенька ўламаліся да яе ў дом і падмянілі ёй усю вопратку і ўсю мэблю ў кватэры.

## габрэйшчына

“Іўрыт, іўрыт, іўрыт!” – дзень пры дні тупамерна гіпнатызаваў мяне ды іншых членаў ордэна Дзядзюля. Сам Дзядзюля за сваё сямідзесяцігадовае габрэйскае жыццё не агораў аніводнага кручочка з кампактнага, на дваццаць дзве літары, альфабэту, але ідэяй вяртання да моўных каранёў з пэўнага часу быў апантаны бясконца. Гэткае азарэнне, як падалося мне спярша, прылучылася ні з пушчы ні з поля, годзе ў 92-м, праз пару гадоў пасля таго, як Дзядзюля дэклараваў свой хуткі ад’езд на ПМЖ, ды за паўтара гады да самога гэтага ад’езду ў Ізраіль.

Дзядзюля, інтэрнацыяналіст *да шпіку косткі*. У гэтым можна было лёгка пераканацца з ягонага стракатага, дзе ёсць, пэўна, нацыяў дваццаць, донжуанскага спіса. Аднак – бач ты! – ён раптам зрабіўся стрыманым прыхільнікам нацыянальных каштоўнасцяў.

“Ігаль, можна я буду называць цябе на іўрыцкі манер Ігалем?” – сказаў Дзядзюля, калі завітаў у мой пакой падлетка і пачуў, як я слухаю “Уліс” і “Мрою”. Прадаўшы кватэру, са сваёй другой жонкай Бабафаняй яны гэтыя паўтара гады перад рэпатрыяцыяй жылі з намі ў Зялёным Лузе.

– Ёсць мовы, якімі мы размаўляем: расійская, нямецкая, украінская... добра... хай сабе беларуская, – шчодра пачаў сваю перадвыбарчую гонку Дзядзюля. – Але габрэі, і людзі ў якіх ёсць хоць кропелька габрэйскай крыві, – тут Дзядзюля шматзначна паглядзеў на мяне, – ...на нейкім этапе павінны хіліцца да ідышу... прабач, іўрыту”.

О, так! Я захапляўся беларушчынай, і Дзядзюля згледзеў у гэтым шанец для свайго іўрыта. Ён браў беларускую мову ў хаўруснікі ў сваім змаганні з іншымі, вялікімі і магутнымі, культурамі, якія, як ён заўважыў, апошнім часам далі расколіну. “Гуртам і бацьку біць лаўчэй, Ігаль”, – казаў Дзядзюля, і я адразу ж уяўвіў, як Дзядзюля прыязджае да нас у Зялёны Луг, заходзіць да мяне ў пакой, і адтуль мы ідзем у гасцёўню лупцаваць майго тату.

Каторым разам мяне сілком заганялі на тонкі лёд нацыянальнага пытання, аднак выгляду я не падаў – вытанцоўваўся неблагі варыянцік са шлюбам па разліку. Я імпэтна кіўнуў у адказ.

Шляхам дробнапобытовага шантажу і атракцыёнаў нябачанай шчодрасці Дзядзюля выцягнуў з мяне згоду запісацца на нядзельныя курсы іўрыту на Інтэрнацыянальнай. Мне прэзентавалі выдадзены яшчэ ў 70-ых падпольны падручнік па іўрыце, які інтэнсіўна выпраменьваў пах крамолы і антымышынай атруты. У знаёмых чаўнакоў, якія ездзілі ў Беласток,

Дзядзюля купіў для мяне прыгожыя сшыткі і ўсякую канцылярскую мішуру, – рэчы непатрэбныя, але як на той час дужа шыкоўныя. Усё гэта я адразу ж з радасцю перадарыў упадабаным мною дзяўчынам. На іўрыцкія курсы я ездзіў на таксоўцы, якую аплочваў зноў жа Дзядзюля. Я ўжо маўчу пра кішаньковыя – іх цяпер Дзядзюля выдаваў мне з нагоды і без. Тлуста змазваючы мае далоні разматым хабарам, разам з іўрыцкімі курсамі Дзядзюля ўпіхваў мне і спадарожны тавар: раман кіраўніка габрэйскай самаабароны адэсіта Зээва Жабатынскага “Самсон Назарэй” ды сахнутаўскія брашуркі “Арабская прапаганда супраць нашай рэпатрыяцыі”.

Дзядзюля дабраахвотна выклікаўся быць адзіным паплечнікам ад Бабарозы ў маёй нежартоўнай бітве за права размаўляць па-беларуску. “Хто як хаціт, той так і іўрыт, Роза Іванаўна, хаціт – іўрыт...”.

1994 год. Святая святых, банкет для тых, хто ад’язджае на ПМЖ. З кіеўскай катлетай і слёзнымі прамовамі рэдкіх ужо сяброў. Паводле важнасці гэтая святочнасць набліжаецца да трыяды найвялікшых жыццёвых цырымоній: народзіны–вяселле–хаўтуры. А фактычна – будзем шчырымі – замяняе апошнюю. Бо ўжо вісіць па-над сталом гэтая даўкая невымоўнасць апошняга разу. Я, малады вісус, ведаў, як абысці гэтае нудотнае пенсіянерскае мерапрыемства, гэты напышліва-трагічны вечар. У самым пачатку банкету, які адбываўся ў кафэ “Раксалана” на вуліцы Валгаградскай, я падышоў да дзеда з тылу. Нахіліўся да ягонага вялізнага вуха і прашаптаў, што мушу адвітацца, бо заўтра на іўрыцкіх курсах трэба здаць сачыненне. Дзед адлучыўся ад салата “Пралеска”, крыху павярнуўся да мяне, хапатліва заківаў і трохі па-змоўніцку шапнуў: “Ідзі, Ігалька, дзетухна, канечне, ідзі. Мы тут усё з’ямо без цябе”.

Ягоныя сінія вочы глядзелі ў голую сценку мінскага кафэ па-за спінамі запрошаных гасцей, але я гатовы быў паклясціся, што на ёй я ўбачыў раптам тое, што ў той момант бачыў сам Дзядзюля: мой цень, увянчаны ярмолкаю. Мой кашэрны абрыс трымаўся рукой за нейкія валуны ў сценцы і ў адрозненне ад нерухомага мяне гойдаўся ў зацятай юдэйскай малітве. Дзядзюля павярнуўся цяпер да мяне ўсім целам і ўсміхнуўся.

Аднак, пры ўсёй павазе – маёй павазе да Дзядзюлі і Дзядзюлевай павазе да іўрыту – мушу ўсё ж заўважыць, што Дзядзюля ізраільскім патрыётам не быў. Патаемна ад усіх сваякоў ён са сваёй пятай жонкай Бабафаняй падаў дакументы адначасна ў тры консульствы: амерыканскае, ізраільскае і нямецкае. Нягледзячы на ўласную сіяністкую прапаганду, Дзядзюлевы лыжы зусім неабавязкова былі навостраныя ў бок Ерусаліма. О, не, я не памятаю, каб Дзядзюля хоць раз сказаў маме: “Трэба ехаць у Ізраіль!” Дзень пры дні, гады навылёт, Дзядзюля зацята паўтараў больш універсалісцкую мантру: “Алечка, трэба ехаць!”

Гэта была самая папулярная Дзядзюлевая фраза. Паводле частаты паўтораў яна пераўзыходзіла нават “Ну, ты сам усё разумееш...” А здаралася, што калі-нікалі Дзядзюля казаў гэтыя фразы разам, адну за адною. Прычым тая, якая ішла следам, здавалася лагічным вынікам першай: “Ну, Алечка, ты сама ўсё разумееш... трэба ехаць!”

Аднойчы, у разгар перабудовачнай нішчымніцы, пасля таго, як яму прысніўся “ЦУМ”, у якім па талонах выдавалі прэзерватывы, Дзядзюля нараніцу прымчаўся да нас. Ускудлачаны, расхлістаны. Плюхнуўся ў гасцёўны фатэль. Расказаўшы ўвесь свой жахлівы сон, ён хапатліва ўскочыў

з фатэля і нечакана накінуўся на маму. Пачаў душыць яе штрыфелем ейнага ж хатняга халата, нібыта яе віна ў развале савецкай эканомікі не падлягае сумненням. “Алечка, трэба ехаць! Ехаць трэба! Ну, ты ж сама ўсё...”—заблагаў Дзядзюля. Кісларод перастаў паступаць да мамінага мозга. Яна часта-часта залыпала вейкамі і здушана прашамкала: “Е-хаць? Ку-ды? Колькі пуцёўка каштуе?” Якраз тады мама была чаўнаком, цягала ваўняныя швэдры з Індыі і Пакістану, і ўсе з’явы мерала на няхітры чаўночны манер. Ад такога фармалісцкага адказу Дзядзюлю ажно перасмыкнула. Аднак ён вярнуўся да рэальнасці і адпусціў мамін штрыфель.

Першы раз сур’ёзна з’ехаць Дзядзюля наважыўся ў пракаветныя 70-я, і нават падаў тады заяву на звальненне. З гэтай нагоды ў ягонай адвакацкай калегіі склікалі грамадскі сход, на якім рэй вялі старыя габрэі-камуністы. Пад пільным наглядам каламутнага суб’екта ў апошнім шэрагу партактыў мусіў даць Дзядзюлю прынароднага прачуханца.

– Юлік, ты ж наш чалавек, савецкі! – надрэсіравана накінуўся на Дзядзюлю патрыярх адвакацкай калегіі Самуіл Алканавіч. – ...А цікаеш за кардон, як пацюк з тонучага карабля!

Каламутны суб’ект у апошнім шэрагу, які датуль паблажліва і трохі прыспана назіраў за млявапенным сходам, цяпер во падскочыў як шылам працяты. Ужо не маскуючыся пад адвакацкага работніка і асабліва не выбіраючы словаў, закрычаў на Самуіла Алканавіча:

– Алканафтыч, ты што, ах..еў?! Які пацук? З якога ТОНУЧАГА КАРАБЛЯ? Ты на сваёй персанальнай пенсіі зусім ужо з глузду з’ехаў!

Паседжанне яўна пайшло няпланавым парадкам. Карны меч грамадскага абурэння скарэктаваў свой напрамак і стыхійна скіраваў сваё вастрыё ў бок небаракі Самуіла Алканавіча. Пра Дзядзюлю ўсе адзінагалосна забыліся. Хіба праз пару дзён адміністрацыя адвакацкай калегіі абмежавалася звальненнем Дзядзюлі па ўласным жаданні. І, вядомая рэч, з’ехаць ніхто ні за якую мяжу Дзядзюлю не дазволіў.

Пасля выгнання з калегіі Дзядзюля зрабіўся юрыдычным дарадцам на прадпрыемствах – няпыльная і грашовая праца. Кар’еры не зробіш, але яна дазволіла Дзядзюлю занурыцца ў свае ўлюбёныя захапленні: прыгожае жыццё і залёты. Вёў Дзядзюля, вольны мужчына, лад жыцця ленаваты, нетаропкі, уласцівы хутчэй еўрапейскім арыстакратам мінулага стагоддзя ці падпольным мільянерам. Колькі маёй памяці, Дзядзюля заўсёды выглядаў як міністр, які ўзяў на працы два дні адгулу. У працоўную гадзіну яго ў светла-шэрым гарнітуры можна было сустрэць за кавай з чарговай жанчынай у мінскай кавярні “Бярозка”. Або ў кінатэатры “Кастрычнік” на дзённым кінасеансе, куды я таксама ўцякаў з школьных заняткаў. А яшчэ два разы на год, у ліпені і падчас аксамітнага сезону, у верасні, Дзядзюля лятаў адпачываць у Бадэн-Бадэн. Жартую, у Сочы.

Да сваёй ідэі-фікс з’ехаць Дзядзюля вярнуўся толькі ў канцы 80-х. За пяць гадоў да ПМЖ да яго ў кватэру на Маскоўскай іншыя дзяды і каханкі ўжо сталі прыходзіць развітвацца. Або завітвалі нібыта развітацца, а насамрэч каб глянуць на вар’ята, які ўсё тут м*а*е і ўсё адно дае драпака.

Дзядзюлю ніхто не разумеў. “Юлій Зэлікавіч, куды ж вы едзеце?” – пыталі яго іншыя дзяды і каханкі, а ён няўцямна мармытаў нешта непераканаўчае пра прававыя свабоды і “кока-колу”. “Якія яшчэ свабоды, Юлій Зэлікавіч, якія правы? – перапытвалі ўсе. – Хто вам там будзе прыбірацца ў кватэры (у Мінску ў Дзядзюлі была хатняя працаўніца)? Кока-кола?”

“Хто вам будзе даваць падвышаную пенсію ветэрана вайны? І каму ў Мюнхене ці ў Нью-Ёрку вы будзеце паказваць на дзявятае мая свае баявыя медалі? Немцам і кітайцам?”

Можа быць, тады за мяжою быў які рай на зямлі? Дзядзюля меў той рай у Мінску.

Усе пагаджаліся – дзе падняўся, там і прыдаўся. Дзядзюля толькі адмахваўся ад гэтых абрыдлівых: “Фанечка, – казаў ён сваёй пятай жонцы Бабафані. – Хай яны са сваёй пачуццём роднай зямлі ідуць да ліхаматары”.

Не разумеў Дзядзюлю і я. У Ізраіль, на Радзіму? Не смяшыце мяне. Дзядзюля быў адданым членам ордэна Тых, Хто Самі Усё Разумеюць, а іхні пагардліва-адстаронены позірк на ўсе ідэалогіі і дзяржавы ніяк не сумяшчаўся з паняццем Радзімы (“Дай, Божа, сесці на хлебным месці”, – часта казала Бабароза і члены ордэна так ці інакш гэтую фразу абгульвалі на свой манер). Дзядзюля нёс дакументы ў тры розныя консульствы – і, знакам тым, у Дзядзюлевай галаве яўна панаваў цвярозы адвакат, які проста выбіраў, дзе лепей. Ён даўно вылічыў і адну еўрапейскую краіну, якая, гасцінна прымаючы габрэяў, хацела выкупіць перад імі сваю непапраўную віну. І адну заакеанскую дзяржаву, што прагнула ўзбагаціцца за кошт адукаваных і кемлівых эмігрантаў, я перакананы, мой Дзядзюля лёгка раскусіў. І нават не буду казаць пра адну міжземнаморскую краіну, якая хацела паправіць за кошт Дзядзюлі свой дэмаграфічны баланс на злосць не надта прыветлівым суседзям.

Усё-ўсенькае зразумеў я толькі па каторым часе. Дзядзюлю больш за ўсё і напалохалі гэтыя шматдумныя і шкадлівыя позіркі ў след. І я тут павінны быў сыграць сваю ролю.

Як вядома, у Еўропе габрэя найперш робіць антысемітызм. Аднак з усёй габрэйскай фактуры ў мяне толькі валасатыя ногі, і ў мяне не было “цікавага” прозвішча і імя. Стуль я ніколі не зведаў ніяк прыцісканняў. І адпаведна, габрэем я не стаў. І таму, каб гэта ўсё ж адбылося, Дзядзюля хацеў праз іўрыт зацягнуць у сваю павуціну, каб я хоць трошачкі зрабіўся габрэем. Каб з гэтай перспектывы падзяліў яго думкі, зразумеў яго.

Дзядзюля хацеў зрабіць з мяне ягонага прэс-сакратара. Ён хацеў, каб прэс-сакратар урэшце папулярна патлумачыў усім блізкім і родным гоям, чаму ён, разважлівы і ўмеркаваны чалавек, шанаваны член грамадства, які ні ў якой дуротах заўважаны не быў, кідае ўсё і на старасці гадоў едзе проці ліха на ўзгорачку. Каб хоць нехта ў гэтай збольшага славянска-скандынаўскай сям'і зразумеў яго семіцка-качэўніцкую душу і каб пераклаў ім яе парыванні. Дзядзюля хацеў, каб я давёў да ведама іншых дзядоў і ягоных сяброў, што кожны габрэй за сваё жыццё павінны хоць раз куды-небудзь з'ехаць на ПМЖ. Майму дзеду-адвакату спатрэбіўся свой уласны адвакат. Бачыце, нават пасля нагэтулькі чаканага ад'езду на ПМЖ Дзядзюля не хацеў страціць месца ў масонскай ложы ордэна або выпраўлення на выпрабавальны тэрмін.

## расійшчына

Бабароза, стопрацэнтовая беларуска, насмерць стаяла за расійшчыну. Яшчэ ў савецкія часы ў пашпарце была графа “нацыянальнасць”, і Бабароза абавязкова хацела зрабіцца русачкай. Яна панесла ў АВіР

пашпарт Дзедвасілія. У АВіРы ёй далікатна сказалі, што па мужы не лічыцца. Тады Бабароза ўздыхнула і дастала з торбачкі пашпарт Бабагруні, сваёй дачкі, дзе на адпаведнай старонцы таксама красавалася “руская”. Калі пашпартыстка сказала, што і па дачцэ нельга, Бабароза завяла сваю гіпнатычную сірэну:

– Як такое можа быць, што па мужы вы кажаце не лічыцца? Дык ён столькі маёй крыві папіў, ажно той муж мне і крэўны. Але хай яго няхай, Васілія майго... Але ж дачка мая Грунечка. Яна – кроўка мая, плоця ад плоці, дзетачка мая! Як жа вам не айяйяй мяне з ёю разлучаці?

Уражаная ці то вытанчанасцю Бабарозавага сафізму, а хутчэй ультрагукавой атакай, якой казанне гэтага сафізму суправаджалася, пашпартыста насуперак усім правілам запісала Бабарозу “рускай”.

Бабарозавую веру ніяк нельга назваць ваяўнічым праваслаўем. Яна, можа, заўзята пасцілася і пільнавалася святаў па поўнай праграме, аднак мама не дабярэ памяці, каб Бабароза прымушала пасціцца яе ці Бабагруню. Бабароза хіба сачыла, каб усе дзеці, якія нараджаліся ў сям’і, праходзілі хрост, і годзе. Да прыкладу, мяне немаўлём вазілі хрысціцца ў Рыгу (у Мінску не было дзе).

Бацька кажа, што гэткая талерантнасць у Бабарозы – вымушаная: яна раўнавала Бога да астатняга люду. Бабароза, працягвае бацька, усё роўна як стараегіпецкія святары, якія пабожна верылі і пільнаваліся ўсіх рытуалаў, аднак просталюдзінаў да сакральнага асабліва і не падпускалі. Аднак мама ўрэзоньвае бацьку: за саветамі жыць па веры было небяспечна, і таму Бабароза проста не хацела, каб пацярпелі блізкія.

Так ці інакш, але ў працівагу талерантнаму праваслаўю, русіфікацыя, якая насаджалася Бабарозай, зусім не насіла добраахвотны характар. Гэта было хрышчэнне агнём.

Сродкам экспансіі быў том Пушкіна. Але вялікага расійскага паэта Бабароза не чытала. Як я казаў, чытала яна – і тое даволі ўмоўна – адно Біблію. Том служыў для іншых мэтаў...

Гэтая важкая даваенная таміна, зробленая ў 1937-м да стагоддзя смерці Пушкіна. Самавітае выданне – яно выглядала, як браняванае, нібыта ўдзячныя нашчадкі постфактум неяк на свой інтылігенцкі манер хацелі абараніць Пушкіна ад кулі дуэлянта Дантэса, а можа, і нават сябе ад энкавэдэшнай кулі, хто ведае.

Напачатку, калі мне было гадоў пяць-шэсць, пытанне майго моўнага вызначэння яшчэ пакуль не стаяла на парадку дня, дык сам том пакуль спраўна рабіў кар’еру выбівалкі, прыцiскалкі, патрасанкі. Пушкіным мяне толькі палохалі ў педагагічных мэтах. “Хто будзе за цябе пасцель прыбіраць, Пушкін?” – пытае бацька. “Ігар, што, Пушкін за цябе будзе ў садок збірацца?” – цікавіцца мама. А я, лежачы ў пасцелі, уяўляю, што ўсё так і будзе. Як гэтым сонечным днём я застаюся ў ложку, а кучарвавы маладзён выцярэбліваецца са скуранной вокладкі. Сваімі доўгімі паэцкімі пальцамі прыбірае руку з падбароддзя і старанна засцілае мой ложак, увесь час гледзячы некуды ўдалячынь. Чысціць за мяне зубы, прыбірае цацкі. Гэтае ж паўтараецца і назаўтра, дзень пры дні. І вось аднойчы настае мой дзень нараджэння. Мама выходзіць з вялікім пакетам, я цягну рукі да стракатага пакунка, я цягну да іх свае рукі. Але тут мама кажа: “А хто ўвесь год прыбіраў ложак? Хто чысціў зубы? – і ставіць падарункі на кніжнай паліцы, перад томікам Пушкіна. Ад свайго ж выдуманага жаху

я прахапляюся. Мая фантазія працуе, што шалёная. Я нават уяўвіў, што стаю побач з уласным домам і ўзіраюся на вакно колісь свайго пакоя на сёмым паверсе, а на падваконні відаць задаволены афрыканскі профіль, і рука на падбароддзі. Толькі ўяўвіўшы ўсё гэта, я спрытна ўскокваў з ложка, хуценька прыбіраў яго і чысціў зубы.

Далей на далей, у змаганнях з лянотаю, надышлі мае шэсць гадоў і гвалтоўная русіфікацыя. Зялёны Луг – мінскі мікрараён, дзе сяліліся пераважна выхадцы з вёскі. Стаялі 80-я: багавейны страх беларусаў перад горадам мінуўся, і новаспечаныя гараджане пачалі – хай сабе і з аглядкаю – паціху прыўносіць у Мінск свае сельскія звычкі. У кожным тамбуры нашага шматпавярховіка стаяў мех з бульбай або яблыкамі – пах ад іх надаваў паветру пад'езда пачуццё патрыярхальнай абароненасці. На трэцім паверсе нашага шматпавярховіка адна бабуля колькі гадоў на балконе трымала казу з адпілаванымі рагамі.

Гарадское табу на беларускую мову паслабла. Вядома, на працы і ў публічных месцах новыя месцічы з усяе змогі пнуліся загнуць па-гарадскому, але па вавароце з заводаў і прадпрыемстваў, тут, дома "на раёне", накінутая мова злушчвалася, як цыбульнае шалупінне, і ўсе праўмаўлялі хто як прывык. І ўжо не толькі бацькі, сена на асфальце, а нават мае сябры-аднагодкі, якія, здаецца, ужо і панараджаліся ў горадзе, таксама гаварылі па-расійску нячыста. Гэкалі, дзекалі. Часам, калі мы гуляліся ў дварэ, у сяброў праскоквала "вясковае" слова, і, бачачы маё неразуменне, яны па-змоўніцку пераміргваліся і гучна рагаталі. Рагатаў з імі і я.

На Новы год шумлівыя дарослыя, падвясёленыя пасля хатніх бяседаў, прасілі ў дваравой малечы кардонкі, каб перад тым, як разысціся па іншых мікраараёнах, з'ехаць да сваёй асалоды з дзіцячай ільдзяной горкі. Паветра і прастора Зялёнага Луга напаўнялася бязладнай гаманою. Нядаўнія сяляне валюхавата разганяліся і, абдымаючы сваіх жанчын, плюхаліся на кардон, каб смешна зляцець долу. Іхнія дзіўныя, дзынклівыя словы радасна, пазвоньваючы, каціліся следам уперамешку з савецкімі капейкамі, якія выскоквалі з палітонаў і футраў.

З поўнымі кішэнямі паназбіраных манет і словаў я вяртаўся дадому. На "голе" мяне чакала мая гняўлівая Бабароза.

– Бурак, я табе пакажу "бурака"! Сьвёкла, трэба казаць сьвёкла", – грымела Бабароза з характэрным "сь". Або: "СурьвЕтка, ах ты сам, смаркач-ча, сурьветка!"

Я замаўкаў. Калі праз колькі часу я, забыўшыся, зноў ужываў беларусізмы – менавіта тады ў гульню ўступала цяжкая артылерыя, выславёны Пушкін. Кінуты спрытнай рукою дрэсіраваны Аляксандр Сяргеевіч па неверагоднай траекторыі бумеранга зноў апынаўся ў руках Бабарозы. Пушкін зрабіўся байцом ОРУДа: мабільны, пагрозлівы, крыштальна справядлівы – ён стаяў (ці тут дакладней сказаць – лятаў) на варце правільнага вымаўлення, карэктаваў мае найменшыя гэканні. Пушкін хуткага рэагавання сіліўся звесці на пшык увесь "тлетворны ўплыў вуліцы". Што не агораў рускі штых і не дарабіла руская школа, падчышчаў амхарскі хлопчык з мройным позіркам і рукой на падбароддзі.

У звычайныя, негвалтоўныя дні, Пушкін узлягаў то там, то сям, як сыты кот. "Не чапай кнігу!" – чамусьці крычала Бабароза, калі з трохметровай адлегласці я абглядаў ворага на паліцы. – Ён стаіць тут для прыгажосці, а не для таго, каб ты яго лапаў!" Але ў мяне і ў думках не было браць

Пушкіна ў рукі. Праз яго, увогуле кажучы, да сямі гадоў мяне ў жах прыводзіла сама думка ўзяць у рукі хоць якую кнігу. Я быў перакананы, што калі нешта пойдзе не так, дык ўся кніжная паліца не раўнуючы атрад дэсантнікаў абрынецца мне на галаву, або горш: кніжкі, гэтыя драпежныя птушкі, разгарнуўшы свае бязлітасныя папяровыя крылы, пачнуць паляваць на мяне па ўсёй кватэры. Таму ў "нулёўцы" першыя тыдні я ўвогуле не браў ранец з падручнікамі дадому.

Толькі потым, калі пушкінская вокладка ад зачастых шпурлянняў парвалася і маладзён з рукой на падбароддзі запраторыўся некуды пад ложак, я змог пазнаёміцца з расійскім класікам пабліжэй. Пабялелы і бязлікі Пушкін ляжаў нямоглы і голы, мне стала шкада калеку. Я ўзяў кнігу і прачытаў:

Яшчэ горш уздурэла старая,
Не дае мне, старому, спакою,
Ужо не хоча быць яна сялянкай,
Хоча быць слупавою шляхцянкай».
Кажа дзеду залатая рыбка:
«Не журыся, ідзі сабе з богам».

Ого! Я захапіўся. Яшчэ прачытаў такое:

А ткачыха з кухарыхай,
З бабай сваццяй Бабарыхай,
Хочуць мамку загубіць
І ганца не дапусціць.
Самі шлюць ганца другога,
Ліст стаў зместу ўжо такога:
"Ноччу жонка нарадзіла
Не дачку, не сына – дзіва!
І не мышка, і не жабка,
Як звярок тое дзіцятка".

Гэта быў фурор. "Руслан і Людміла", "Цар Гвідон", "Залаты пеўнік" – мне ўсё чыста спадабалася.

Пік моўных войнаў прыйшоўся на сем гадоў. У нашай 148-й школе арганізавалі клас, дзе беларуская мова вывучалася не з трэцяга года навучання, як ва ўсіх звычайных школах Мінска, а з другога. "Эксперыментальны клас, разумееце?" – сказаў дырэктар Уладзімір Уладзіміравіч, калі да яго ў кабінет на крывавыя разборы прыйшла Бабароза, і зацкавана азірнуўся. Ненайлепшыя падазрэнні Бабарозы пацвердзіліся – у Зялёным Лузе акапалася банда нацыяналістаў.

– Яшчэ Збаўца сказаў – няма ні юдэя, ні эліна, ні беларуса! – галасіла па прыходзе дадому Бабароза.

Праз гэтую эксперыментальную класу Бабароза стала злосці поўныя косці. Праз тое, што шпурляць у дырэктара школы кнігу няможна, яна рабілася толькі злейшая.

Зрэшты, узяла ў харуснікі свайго заклятага ворага – савецкую ўладу. Бабароза пару разоў схадзіла на прыём да нейкага гарадскога начальніка. Вынік: дзякуючы рупнасці Бабарозы "эксперыментальны клас" скасавалі. У нас забралі навюткія каляровыя падручнікі і замест беларускай мовы ўвялі прадмет "Свет вакол мяне".

Калі я ўжо вучыўся ў старэйшых класах, у Бабарозы моцы шпурляць

Пушкіна нават без вокладкі не ставала. Цяпер дзеля майго моўнага выхавання Бабароза стала дзейнічаць праз сваіх, як ёй здавалася пакорлівых, сатэлітаў, бацькоў (яе дачка, Бабагруня, тады ўжо памёрла). Бабароза званіла маме і наракала, што "Ігарочачак стаў размаўляць з ёю на агрэсіўнай беларускай мове". Што ён на злосць сваёй "старэнькай прабабулеццы" кідаецца словамі, якімі яна "і ў школе не вучыла, і ўвогуле ніхтошэнечкі не вучыў". І што хай мама скажа "гэтаму піліпупестраку", што калі ён працягне ў гэткай жа манеры, дык яна пазбавіць яго спадчыны ў выглядзе аднапакаёўкі на Славінскага (якая перайшла ёй ад дачкі, таксама нябожчыцы-Бабанадзі). Бацька, схаваны апанент Бабарозавага рэжыму, душачыся ад смеху, закатваў вочы і казаў: "Ігар, я цябе ўмаляю, гавары з Бабарозай на спакойнай беларускай. А то Бабароза *ў сваёй школе* такога не вучыла".

Ні да якіх моваў мяне не схіляў толькі Дзедбарыс. І пры ўсякіх войнах між іншымі дзядамі адно пасміхаўся ў свае мулявінскія вусы. Аднак, як мы памятаем, да аўтарытэта ён не дацягваў.

## ды іншыя аўтсайдэры

Увогуле, былі ў сям'і і іншыя аўтсайдэры. Да прыкладу, мама і бацька так і засталіся бляклай копіяй маіх дзядоў. "Што паробіш, на дзецях прырода адпачывае, Ігаль", "Маму, Ігарочак, не выбіраюць, яна ў цябе такая – нічога не паробіш", – з нейкай такой шкадобай казала Бабароза.

Бацькі на нейкі час засяродзіліся на сваіх праблемах: усе 80-я яны з пераменным поспехам змагаліся за матэрыяльнае шчасце, у красавіку 96-га, зусім безнадзейна на Мінскай вясне барукаліся з рэжымам Македонскага – нечакана для саміх сябе выйшлі на масавую дэманстрацыю пратэсту. У іх, напэўна, было цікавае жыццё – час быў бурлівы і рэвалюцыйны – але ўсё гэта незаўважна мінала паўз мяне. Іхнія прыгоды мяне хвалявалі гэтак, як хлопца-падлетка хвалююць праблемы крыху старэйшай сястры, то бок ніякім бокам. Я надта высока ляцеў, я надта высока глядзеў.

Пасля таго, як бацькі гадоў у 10-12 страцілі мяне як аб'ект выхавання, дык яны, здаецца, цалкам задаволіліся быць самым першым нумарам два. Пайшлі ў падпанкі, а дакладней, у добраахвотнае рабства да тагачасных гаспадароў жыцця, маіх дзядоў. Пакрысе назапашваючы сілы, чакаючы сваёй пары.

Аднак сваю прагнасць да ўлады выяўлялі і бацькі. Аднойчы мама ў пятнаццаць гадоў заспела мяне з аднакласніцай дома, у недвухсэнсоўных паставах. Потым зладзіла допыт з унадай наконт сродкаў засцерагання. Калі яна пачула маё няўпэўненае мармытанне пра адсутнасць грошай на гумовыя вырабы, стала лаяць. Але лаяла так, як слодычна ўшчуваюць салодкага катка, маўляў, уй, ты бозецькі, дрэнны коцік, насмеціў, муся-пуся, трошачкі. У яе голасе было радасці значна больш, чым заклапочанасці. Напэўна, пасля столькіх гадоў прыніжэння, мама таксама хацела зрабіцца для кагосьці багіняй.

Дык вось, пакрысе чакаючы ўнукаў, бацькі паступілі на службу да дзядоў, зрабіліся іхнімі зброяносцамі, адданымі адвакатамі, тлумачамі дзеянняў:

– Ты, Ігар не крыўдуй на Бабагруню, – сказала мама пасля таго, як Бабагруня зладзіла мне прачуханку, калі мы былі ў Мінску з Мэйталь. Нейкай сваёй чуйкай, яшчэ тады за тры гады да нашага растання, зветрыла,

што Мэйталь мяне не кахае. Напрасткі яна сказаць мне гэта была не ў змозе, а неяк бачком-крывенька расказала Бабарозе пра “нехарашмяную дзяўчыну”, а ўжо тая ў сваю чаргу зладзіла мне ўзорны скандал, чаму я дагэтуль нежанаты.

– Яна такая чуллівая, Бабагруня, – сказала мне мама. – Агонь!

Мама раскрыла мне, што Бабагруня – нясталая ўчынкамі натура. Яна захапляецца так, што за кампанію можа павесіцца. У прамым сэнсе слова. Мама ўкруціла гісторыю пра тое, як падчас нямецкай акупацыі Бабагруня працавала ў Лошыцы са сваёй найлепшай сяброўкай Надзяй Майсеевай, пакаёўкай у сядзібе генеральнага камісара Беларусі Готберга. А яшчэ яны былі дробнымі падпольшчыцамі – лічылі нямецкія цягнікі. Сувязны з лесу падсунуў Надзі Майсеевай ідэю забіць Готберга бомбай. Тая расказала сваёй сяброўцы Бабагруні. І Бабагруня адразу ж, не надта думаючы ні пра сябе, ні пра сямейнікаў, якія аўтаматычна рабіліся закладнікамі сітуацыі, пагадзілася дапамагчы сяброўцы. Дарэчы, яшчэ перад вайною, яна за кампанію паступіла з Надзяй на лётчыцкія курсы, дарма што баязліўка была першарадная і зусім не цярпела вышыні. Паступленне на курсы, праўда, сарвала паездка на Чорнае мора – Бабагруня з’ехала туды са сваім хлопцам Стасем, а пра паступленне проста забылася.

Замах на Готберга не атрымаўся – дзяншчык знайшоў бомбу ў бруднай бялізне. Надзю Майсееву арыштавалі і павесілі. Бабагруня выратавалася. У дзень, калі трэба было падкінуць бомбу, яе зваліў з ног магутны прыступ гнойнага апендыцыту. Даведаўшыся пра пакаранне смерцю Майсеевай, Бабагруня проста з палаты бальніцы, забраўшы сямейнікаў па дарозе, дала драпака ў лес.

У каханні Бабагруня таксама кідалася ў прадонні пачуццяў, не раўнуючы як Аліса ў трусіную норку. Захаплялася, закохвалася і расчароўвалася, захаплялася зноў. Яна пахла каханнем. З размоваў, з кінастужак, са стэрыльных савецкіх навінаў Бабагруня выпарвала чыстае, незакаламучанае пачуццё, усё роўна як нейкі каштоўны парашок шляхам гідроліза. Бабагруня шукала намёкі на каханне ў карцінах сацрэалізму і копіях расейскіх мастакоў XIX стагоддзя, якімі быў завешаны Нацыянальны музей БССР. Улюбёнай яе карцінай быў, вядома, “Няроўны шлюб”. Бабагруня адмыслова хадзіла глядзець гэтае палатно ў музей, ладзіла сама для сябе, як цяпер модна называць, выставу адной карціны.

Бабагруня літаральна млела, калі Міхаіл Гарбачоў першы раз за ўсю 70-гадовую гісторыю савецкага павадырства з’явіўся на публіцы са сваёй жонкай Раісай. У гэтым з’яўленні Бабагруня згледзела знак для сябе. І сапраўды: столькі гадоў развядзёнкай у пошуку, – ёй было за шэсцьдзясят гадоў – яна ажанілася з Дзедлёнем, ейным старым сябрам па мінскім падполлі. Дзедлёня быў на дзесяць гадоў старэйшы за яе – аднак мама сведка: гэты шлюб двух ужо немаладых людзей не зрабіўся чыста платанічным. Праз сваё бурлівае полавае жыццё Бабарозу пасялілі ў кухні, а маму ўвогуле з першай аказіяй выставілі з аднапакаёвай кватэры на ўсе чатыры бакі – маму да сябе забраў кавалер, трэнер па плаванні Антольсяргеевіч.

Незадоўга да атрымання мамы ў сумеснае жыццё, Антольсяргеевіч любіў пазвоньваць ёй дадому. Учуўшы “алё!” на другім канцы дрота, без вітанняў і ўступаў, (сама)закаханы паўлін Антольсяргеевіч пачынаў выцылінгваць на акардэоне падыспань або дурнаватым голасам дэкламаваць побытавую

савецкую лірыку якога-небудзь Смелякова. У Бабарозы, Бабагруні і мамы – аднолькавыя галасы, а вось рэакцыя на заўзятага куплетыста была абсалютна непадобная. Бабароза адразу ж перарывала гняўлівай трэллю гэтае “целяфонавае прашмандоўства”. Запусціўшы рэха свайго фірмовага ляманту гуляць па дратах, яна няўхільным жэстам, такім, якім топяць кацянятаў, апускала слухаўку на базу. Бабагруня ж наадварот – карысталася з выпадку. Мама расказвала, што Бабагруню можна было заспець, як тая сядзіць у вітальні, змахвае слязу замілавання, а са слухаўкі нясуцца прызначаныя маме салаўіныя рулады і рыфмаваныя мусі-пусі Антольсяргеевіча.

Бабагруня не была такой штыкляй, як Бабароза. На Бабагруні былі валашковыя вочы (мама так і кажа – “на Бабагруні былі”, не “ў Бабагруні былі”) пухкія саламяныя валасы, смуглявая скура і прыгожы вялікі бюст. Крыху пульхнаватая, але са стрункімі нагамі. Усе пералічаныя вышэй дэталі рабілі Бабагруню мрояй мужчынаў 40-х. Аднак пасля вайны ацаніць цэлы жмут Бабагрунявых жаночых вабнотаў засталося мала каму – мужчын 22-23 гадоў нараджэння выкасіла амаль цалкам. Напрыклад, даваеннага жаніха Бабагруні, лётчыка Стася, забіла на пяты дзень вайны.

Бабагруня прасядзела ў дзеўках да трыцццаці гадоў, пакуль яе не заўважыў Дзядзюля. Франтавік, кучаравец, габрэй – за кожную з гэтых характарыстык Бабагруня магла бы прадаць душу д’яблу. Сонечны ўкраінчык і азіяцік, аматар вышыванак і цюбецеек, ад Дзядзюлі пахла лавандай і нежынскімі гуркамі.

Прапанаваць руку і сэрца Бабагруні Дзядзюля прыехаў з Мінска ў Баранавічы, дзе тая па размеркаванні працавала ў шпіталі. Дзядзюля завітаў у форме, з ордэнамі і букетам чырвоных астраў, і Бабагруня сышла з ім як была: у пантофлях-атопках і дзіравым белым халаце. Уцякла ў Мінск проста з аддзялення тэрміновай хірургіі, з дзяжурства, кінуўшы хворых на волю лёсу. Тым днём у аддзяленні памёр чалавек, якога не дапільнавалі. Усчаўся запамарочны скандал, але паколькі ў гэтыя паваенныя гады лекарак страшэнна не ставала, дык Бабагруні адно зрабілі вымову з занясеннем у асабістую справу ды запхнулі ў празектарскую трэцяй больніцы – анатамаваць трупы. Каб Бабагруня са сваім захапленням не змаглі прынамсі больш нікога забіць. Там яна і працавала да канца жыцця.

“Зачараваная хахлама” – так казала пра сваю неразважнасць і лірычную натуру Бабагруня. Для мяне застаецца таямніцай, як яна, такая ветраная, атрымала месца ў ордэн Тых, Хто Самі Усё Разумеюць. Працоўная версія – пратэкцыя Бабарозы.

Чаго не ведала, ці не хацела ведаць, Бабагруня пра Дзядзюлю: ён не кахаў яе асабіста, ён проста меў агульную любасць да бялявак з ярка выражанай славянскасцю і бюстам. Праз пару гадоў ён прамяняў Бабагруню на яшчэ больш выражаную ў гэтых паказніках жанчыну. Бабагруня заспела каханкаў на сямейнай канапе, як у нашай сям’і вялося, – у цалкам недвухсэнсоўных паставах. Мая мама ўжо тады нарадзілася – праграма-мінімум гэтага шлюба была выкананая, а таму нічога не замінала волялюбнай, запраграмаванай толькі на шчырае каханне да самое труны Бабагруні, разыйсціся з Дзядзюлям.

Дабраахвотны развод – учынак па мерках 50-х нечуваны, скандальны. А калі дадаць сюды паваенную нястачу мужчынаў, дык такі Бабагрунін ход гранічыў з выклікам грамадству. Мама распавядае, што калі ў першым класе

даведаліся пра разведзеных бацькоў, дык вучні, бацькі і нават незнаёмыя настаўніцы з усёй школы хадзілі глядзець на яе. І калі нехта з раззявак наўмысна пытаўся, дзе яе тата, дык мама адважна адказвала: “Тата ад нас сышоў”. Маленькую маму, нібыта выпрабоўваючы і спакушаючы, тады перапытвалі: “У сэнсе, памёр?” “Не”. “Моцна захварэў?” “Не”. Гэта ўсіх тады моцна ўражвала, і ў вачох аднакласнікаў мама са здзіўленнем чытала не спагаду, а захапленне і часам нават зайздрасць.

Аднак пасля разводу Бабагруня працягвала гарэць у полымі кахання і спапяляць ім наваколле. Аднойчы Бабагруня анатамавала мужчыну з зусім нягоднай цырознай пячонкаю, якая і сталася прычынаю заўчаснай смерці. Анатамавала-анатамавала і раптам прыгледзелася да твару. Фарбаваныя ў рудзізну даўгія сівыя валасы, устаўны залаты зуб. Мужчыну знайшла ў ягонай кватэры сястра праз дзесяць гадзінаў пасля смерці – таму як на нябожчыка выглядаў ён яшчэ ніштавата. Гэта быў Анатоль Б., актор Купалаўскага, раскідон і гуляка, які паўгода назад прапаноўваў Бабагруні руку і сэрца. Але тады Бабагруні нешта замуляла і пасля двухдзённых развагаў яна адмовіла.

Успомніўшы пра свае любоўныя расклады, якія апаноўвалі ёй у тыя два дні ваганняў, Бабагруня расклеілася. Уключылася фантазія, і тая фантазія, неўтаймаваная, завіравала на поўныя абароты. На якую хвілю Бабагруня забылася ўшчэнт, што сядзіць у празектарскім пакоі. Яна ўжо ўяўляла, нібыта мужчыну з рудымі пэтламі і фіксай яна кажа “так”. Вяселле прызначаецца недзе на праз паўгода. На вяселлі, якое паводле ўяўлення Бабагруні праходзіць у рэстаране на Валадарскай, 9, яе жаніх не стрымліваецца і выпівае залішняга. І таму ўжо ў першыя дні ягонага шлюбу актора – з яго пячонкай – абсалютна справядліва хапае смертухна. І вось яна, Бабагруня, у белай сукні маладой, сядзіць пры мужавай труне. Свежая ўдава, якая не паспела пакаштаваць прысмакаў кахання і слодычаў шлюбнага шчасця. Адна, ізноў адна! А яе мёртваму жаніху, у графе “прычыны смерці” пішуць ганебны “цыроз пячонкі ў выніку празмернага спажывання алкаголю”. Які несімпатычны, нерамантычны канец у яе такой кароткай love-story! Трэба, трэба было нешта мяняць у гэтай трагічнай карме, але што ўжо ты тут зробіш?

Не маючы лепшага варыянта, Бабагруня падрабіла вынікі анатамавання. І вось яшчэ доўгія месяцы пасля гэтага следчы Цэнтральнага аддзелу міліцыі г. Мінска і сталічная пракуратура збівала ногі, правяючы аўтарытэтныя звесткі судовай медэкспертызы пра тое, што вядомы актор быў забіты невядомымі ўдарам цяжкага прадмета па галаве. Невядомыя, незразумела як і ў якой колькасці, не пакінуўшы аніводнага следу, праніклі ў кватэру, без дай прычыны і нічога не ўзяўшы з каштоўнага. Удары не пакінулі слядоў на скуры, але якія прывялі зліцця крыві ў мозг, што і зрабілася прычынаю смерці. Да агульнай збянтэжанасці дадамо сястру актора, якая, шакаваная прысудам судмедэкспертызы, памяняе ўсе замкі, уштукуе краты на трэцім паверсе і паставіць кватэру на кругласуткавую сігналізацыю. І даплюсуем сюды чуткі, якія неўзабаве папаўзлі па Мінску: вядомага актора ўхойдалі за ягоны талент органы МГБ (а хто ж яшчэ?). Гэтак Бабагруня сваёй рамантычнасцю працягвала забіваць нават мёртвых.

Мама кажа, пасля таго анатамавання і размовы са следчым Цэнтральнага аддзялення г. Мінска Бабагруня ўвесь вечар навылёт плакала, і, як гэта часта здараецца, праз слёзы адкрыла маме таямніцу. Прызналася, што

Цёткастася, яшчэ адна сардэчная сяброўка Бабагруні, – да якой яны штогод едзілі на мора, – падчас акупацыі, калі яны ўтрох працавалі ў Лошыцы, зацяжарыла ад нямецкага афіцэра Цёткажэняй, маёй будучай хроснай. І што пасля вайны Цёткастася хуценька выйшла замуж за першага-лепшага мужчыну, Дзядзькувітаса і з'ехала да яго ў Вільню.

## матрыярх

Мае мама што распавесці і пра матрыярха нашай сям'і, Бабарозу.

Я шмат разоў чуў пра Бабарозу з яе ўласных вуснаў. Я бачыў яе схаваныя самалюбаванні, яе перабольшванні, усялякія перакручванні фактаў на ўласную патрэбу. Таму мамін расповед больш умеркаваны (хоць і не менш суб'ектыўны).

Бабароза нарадзілася ў самым канцы XIX стагоддзя ў вялікай вёсцы Гатава, да якой цяпер зусім блізка падпоўз Мінск. Яе бацькі, Іван ды Кацярына, былі дужа пабожныя людзі, праваслаўныя ўшчэнт. Яны абдаравалі дзвюх малодшых дачок ультрарэлігійнымі імёнамі са Старога Запавету: Руфь і Наома. Прычым іншых сваіх дзетак чамусьці назвалі Таняй, Жэняй, Сашам, Іванам і Лёшам.

У адрозненні ад старазапаветнай Руфь Бабароза была непрыгожая і няўмелая: даўгалыгая, не схільная да вытанчанасцяў і не здатная хоць да якой сялянскай працы. Спалучаць веру ў Бога са штодзённай працай у яе катастрафічна не атрымлівалася. Урэшце бацькі, бачачы гэткае, вызвалілі Бабарозу ад клопатаў і перасталі вучыць гаспадарчым абавязкам. І паводле тадышняй завядзёнкі прысвяцілі пазнячку-Бабарозу служэнню Богу. Бабарозу аддалі да пападзі ў пакаёўкі, а яшчэ спяваць ў царкоўным хоры. З поўнае згоды Бабарозы пастрыглі яе ў такое сабе паўманаства.

Стуль Руфь, яна ж Бабароза, брала ў рукі выключна Біблію. Брала яна яшчэ том Пушкіна, але, як я казаў вышэй, выкарыстоўвала яго для зусім іншых мэтаў. Тата з гэтага робіць выснову, што Бабароза дырдыганіцца, снабіруе ўсе набыткі сучаснай культуры, а мама не пагаджаецца і пярэчыць, што Бабароза не ўмела чытаць увогуле. І паколькі Біблію Бабароза ведала напамяць, дык усё, што заставалася рабіць шчырай шанавальніцы веры праваслаўнай, – публічна ўдаваць, што гартае старонкі.

Біблія была Бабарозіным усім. Калі з грамадскага жыцця ў 30-я царква канчаткова знікла, Бабароза занурылася ў глыбокія сутарэнні Бібліі, асабліва ў доўгія, ледзьве асвечаныя каганцамі разумення галерэі і хады Старога Запавету. Пачасту яе можна было заспець за сталом, з разгорнутай кнігай у руках. Яна адстаронена глядзела трохі паўзверх радкоў і старанна варушыла вуснамі – гэтак яна ў думках узнаўляла радкі аб Язэпе Егіпцяніну ці аб прарочыцы Дэборы і адначасова ўдавала, што чытае па літарах.

Па біблійных сутарэннях Бабароза хадзіла разам са сваймі дзвюма таварыскамі, багамольнымі Лаўрэніхай і Якімовіхай. Гладкія і празрыстыя, як царкоўныя свечкі, набожніцы сядзелі ў Бабарозінай вясковай хаце на Лодачнай, шэпчучыся ды молячыся дзень навылёт. А яшчэ яны ганялі туд-сюд савецкі адрыўны каляндар. Як высвятляецца цяпер, яны вылічвалі надыход Вялікадня і іншых рухомых святаў, бо сапраўдныя царкоўныя часасловы тады зніклі ўшчэнт. Іхнія штудыяванні перарывалі толькі супрацоўнікі НКВД, якія доўгія гады прыблізна раз на месяц завітвалі да

Бабарозы, каб да асновы разабраць печку, бо падазравалі, што Бабароза хавае пападзёўскае золата.

Тое, што яе дачка, Бабагруня, выходзіць замуж за іншаверца, ультраправаслаўніца Бабароза прыняла спакойна, нават прыязна. Дзядзюля ж быў габрэем! А ў адзінай кнізе, якую яна чытала (ці ўдавала, што чытае) габрэяў роілася цэлая процьма. Яна столькі ўсяго пра іх ведала! Ды і сама Бабароза мела старагабрэйскае імя. Праўда, у савецкім пашпарце Руфь паправілі на Роза, але і гэты варыянт таксама застаўся з ярка выражанай нацыянальнасцю.

Калі ўжо замужняя Бабагруня наракала Бабарозе на Дзядзюлю, тая толькі адмахвалася. Дзядзюля – бабнік? Дзіва што! Пачынаючы ад цара Саламона, – вельмі паважанай, трэба зацеміць, персоны, – столькі біблійнага спадарства мела вялікую любасць да жанок і выявілася гуляшчымі. Гняўлівы і запальчывы? Дык усе, ад Саўла да Давіда, ад заўсёднай раз'юшанасці ў руках сябе не трымалі. І ўвогуле гэтая нібыта загана ў характары была для старажытных герояў кшталту знака якасці. Абібок і гуляка? А як жа магутны Самсон Назарэй, вялікі аматар дачок неабрэзанага народа, які па вялікім рахунку ўсё жыццё толькі тое і рабіў, што махаў аслюковай сківіцай і чыніў бясконцыя разборы са сваімі ворагамі і жанчынамі? “Не судзі, Грунечка, і не будзеш суджаная!” – падмацоўвала старазапаветныя прыклады новазапаветным выслоўем Бабароза. У адказ на матчыную падножку максімалістка Бабагруня моцненька плакала па начах.

Ёсць такая показка. Нейкую познесавецкую пенсіянерку, якая з'язджала на ПМЖ за акіян, спыталі, у які з амерыканскіх гарадоў яна б хацела патрапіць. Пенсіянерка, не думаючы замнога, адказала, што ў Санта-Барбару. “Санта-Барбару? Чаму менавіта туды?” – перапыталі яе. “Ды я там усіх ведаю”*. Дык вось, гэтаксама Бабароза ў сярэдзіне 20-х гадоў, пераехаўшы з сяла Гатава ў напаўгабрэйскі Мінск, трапіла ў свой серыял. Біблійны.

– Ой, нядобрыя вочы ў гэтага гіцаля Ламэха Беразоўскага, не раўнуючы як у нашага прабацькі Ламэха, сына Мафусала, унука Мехіїла, – казала Бабароза. – Ой, сэрцам чую, ухойдае ён каго тут. Ой, чую.

Праз які год прадказанне Бабарозы спраўджвалася. Гіцаль Беразоўскі, які пакутаваў на прыроджаную глаўкому, – праз якую ягоныя вочы набылі колер асмужанай бірузы, – з табельнага нагана памылкова забіў двух алкаголікаў, папоцемку прыняўшы іх за бадзячых псюкоў. Алкаголікі, бацька і сын, што набраліся як жаба гразі, перапаўзалі на чатырох Нямігу проста па брукаванцы. Пра жахлівую памылку Беразоўскі, яшчэ п'яны з гора, распавёў жонцы Адзе і былой жонцы Цылі, а праз іх аб здарэнні зрабілася вядома міліцыі і грамадскасці.

У габрэйскіх раёнах віравалі жарсці, ішло жывое жыццё, а Бабароза як прасунуты чытач усё-ўсенькае ведала наперад. Яна ўжо была ў курсе, што ў Яшы і яго нялюбай, упхнутай яму бацькамі жонкі Ліі з Інтэрнацыянальнай, нягледзячы на выкідкі, такі народзіцца доўгачаканы сын. А іначай быць не можа, гаварыла Бабароза. Яна прадказвала, што будучае імя сына Сямён, Шымон, “Бог пачуў” па-габрэйску. Потым, казала Бабароза сяброўкам, Лія народзіць яшчэ траіх сыноў, і толькі тады шчаслівы бацька ўрэшце

* “Санта-Барбара” – гэтак называецца дужа папулярная ў канцы 80-х і пачатку 90-х гадах мыльная опера, дзеянне якой адбываецца ў аднайменным каліфарнійскім горадзе.

перастане адведваць сваё старое каханне, Лііну родную сястру Рахіль з Рэвалюцыйнай.

Усе Бабарозіны прароцтвы спраўдзіліся да апошняй дэталі.

Для Бабарозы гэта было ўсё роўна як глядзець фільм паводле прачытанай кнігі. Аднойчы ў суботу ліхвяр, уладальнік падпольнага ламбарда з Кальварыйскай Майсей Навін заліў вочы на Ракаўскім бровары, дадаў на "Аліварыі", і яшчэ ў пары-тройцы месцаў. Апошняе месца, дзе яго бачылі – ля Свіслачы: распранаўся і збіраўся чмыхануць у ваду. У панядзелак уся Лодачная хадзіла ходырам, пажарныя мацалі дно Свіслачы гірлыгамі. Аднак агульнай паніцы Бабароза не аддалася і нікуды не бегала. Яна ўжо дакладна ведала (і сказала пра гэта Бабагруні), што Майсей не патануў, і што калі ён і зайшоў у ваду перайсці раку, дык воды Свіслачы абавязкова расхінуліся абапал, а Майсей па аголеным дне рэчкі сышоў у кірунку сваёй абяцанай зямлі. І што вы думаеце? Ужо ў сераду, праз чатыры дні, ушчэнт змучаная пошукамі, Майсеева жонка Фіра знайшла яго на Ляхаўцы, на процілеглым баку Свіслачы, у хаце ягонай палюбоўніцы Святланы Кікінзон, цэлага і жывога. Майсея заспелі на гарачым: ён сядзеў за сталом і еў манную кашу з чарнаслівам, якую яму ніспаслала палюбоўніца.

Відаць, згэтуль упершыню Бабароза і адчула сябе Госпадам Богам. Усёмагутнай, усёведнай, што можа дазволіць сабе быць беспадстаўна гняўлівай, вольнай безапеляцыйна ўмешвацца ў чужыя лёсы.

## шлюб Дзядзюлі і Бабагруні

Аднак вернемся да шлюбу Дзядзюлі і Бабагруні. Адзінай рэччу, якая бянтэжыла Бабарозу ў яе новым габрэйскім зяці, было ягонае імя, Юлік.

"Што за Юля такі?" – усё ніяк не магла прывыкнуць Бабароза. Яна ў думках гартала старонкі ўлюбёнай кнігі і адказу не знаходзіла.

"Ну, Юлій, старажытнае мужчынскае імя", – аднойчы не вытрымала Бабагруня. – Як Юлій Цэзар, рымскі імператар".

І гэта быў канец. "Рымлянін?" – Бабароза падазрона ўскінула брыво. Адзінага рымляніна, якога яна добра ведала, і ведала з нядобрага боку, быў Понцій Пілат.

Згэтуль нібыта чорная котка прабегла між ёю і Дзядзюлем. Дарма што наяўных правін у Дзядзюлі вялося процьма, Баброза пачала падазраваць зяця ў грахах іншага парадку. Грахах, як на дробнага геданіста Дзядзюлю, – занадта непадумных, грахах смяротных. Дзядзюля больш не быў ахвяраю абставінаў, а самім іх стваральнікам, творцам жахаў. Вахлаком, злыдухам, трупажэрам, люцыпарам. Дзядзюля толькі-толькі прыступіўся да практыкі ў пракуратуры, а Бабароза ўжо пляла грушы на вярбе пра сотні нявінных душ, якія той нібыта паспеў загубіць. У сваёй пракуратуры "пракуратар" Дзядзюля ўкрыжоўваў людзей: планаваў масавы тэрор, наўмысна падвышаў артыкул крымінальнага кодэкса: дамушнікам шыў рабаванне, рабаўнікам – забойствы, забойцам – шпіянаж на карысць ЗША. Дзядзюля, дамарослы грэхаводнік, дэманізаваўся ўвачавідкі. Не дапамагала нават прыналежнасць Дзядзюлі да іншай рэлігіі, у якой няма няма месца пеклу і нячысціку.

Бабароза атакавала служку Вельзэвула паўсюдна: удома, па тэлефоне,

пры суседзях. Калі Бабароза бачыла Дзядзюлю за кухонным сталом, дык абавязкова кідала: “Ну што, сядзіш, скуралуп?” Ад абурэння Дзядзюля падскокваў, а Бабароза радасна сычэла: “Стаіш... скуралуп!” Для праўніка Дзядзюлі на зямлі быў падрыхтавана страшны суд. Не вытрываўшы кпінаў цешчы, Дзядзюля нават адмовіўся ад кар’еры пракурора: перавёўся ў адвакацкую калегію.

Моду на судзілішчы Бабароза хапіла ад свайго мужа Дзедвасілія, які быў выпушчаны з турмы па амністыі 54-га года. Пасля пяці гадоў турмы ў Дзедвасілія з’явілася такая зэкаўская завядзёнка: перад уваходнымі дзвярмі, проста на кілімок, ён паверху ахайна сцяліў сляпуча-белую анучу. І цяпер госці, якія хадзілі да Дзедвасілія ў адведкі, стаялі перад дылемай: наступіць на анучу ці пераступіць яе. Пасля сыходу гасцей Дзедвасілій адчыняў дзверы і ўсяляк тую анучу абглядаў сваім адным-адзіным вокам. Калі на ёй заставаліся сляды, дык з нейкай такой асалодаю ён цягнуў: “Паску-у-дзіш, сука!” Калі ж слядоў не было, дык Дзедвасілій з няменшаю ўсцешанасцю выгукаў: “Грэбу-уеш, сука!”.

Калі я спытаўся ў мамы, у чым тут цымус і дзе тут было з анучаю выйсце, каб можна было пазбегнуць Дзедвасіліевага здзеку, дык мама здзіўлена ўскінула брыво і адказала: “Сынок, а хто табе сказаў, што ў жыцці заўсёды ёсць выйсце?”

Дарэчы, пра адносіны Дзедвасілія і Дзядзюлі. Нягледзячы на тое, што зяць ледзьве не стаў пракурорам, былы зэк Дзедвасілій Дзядзюлю любіў. Бо зяць адзіны, хто, акрамя жонкі і дзяцей, не збаяўся адкрыта стаць на ягоны бок, калі ў 1948-м Дзедвасілія абвінавацілі ў калабарацыі з немцамі.

Дзедвасілій, муж Бабарозы, прыехаў у Беларусь з Падмаскоўя. З мясцовасці Гжэль, дзе рабяць харашмяны белы посуд, распісаны блакітам. З гэтае мясцовасці паходзілі горкія п’яніцы і таленавітыя мастакі. Дзякуючы апошняй акалічнасці падчас пагалоўнага прызыву 1915 года Дзедвасілія ў Першую сусветную не запхнулі на перадавую, а ўзялі ў тыл пісарчуком, у правіянцкі эшалон, як тады казалі ў “мучныя кірасіры”. Зухаваты, з падкручанымі вусікамі, Дзедвасілій ездзіў на правіянцкім цягніку, і, мяркуючы па фотках, усю вайну толькі тое і рабіў, што набіраўся ў штабным вагоне панскага глянцу: курыў папіросы з бурштынавым мундштуком і фарсуніста баксіраваў з іншымі тылавікамі.

Штабны цягнік доўга стаяў на прыколе пад Мінскам, ля вялікага сяла Гатава. Па завядзёнцы ў нядзельку параненька зайшоў памаліцца і заадно прагнаць ваенную нуду. Падчас службы гэтак захапіўся Бабарозіным фальцэтам, які, здаецца, змятаў на сваім шляху ўсе перашкоды. Усё астатняе: розніца ва ўзросце і ў росце ўжо не мела значэння. Дзедвасілій прычакаў, калі харысты выйдуць і гэтак сустрэў сваю будучую жонку.

Дзедвасілій – нізенькі, шчупленькі. Да мяне дайшлі некаторыя фотакарткі сямейнай пары. Рэжысура іхніх сямейных здымкаў заўсёды нязменная. Дзедвасілій, у сваёй фарсуністай форме (ці пазней у не менш франтаватым гарнітуры), заўсёды сядзіць. Стаіць жа высокая і худая Бабароза. Тата з’еднічае, гэта таму, што калі б Дзедвасілій і ўзняўся на ногі, дык асабліва істотна ва ўзроўнях росту нічога б не змянілася.

Нягледзячы на захопленасць Бабарозай, якую ён пранёс праз усё жыццё, Дзедвасілію ў Гатава і пазней у Мінску было несардэчна, бо морды тут чысцілі значна радзей, чым у Гжэлі ці нават у вайсковым цягніку. Дзедвасілій нагадваў баявога пеўня, якога пасялілі ў звычайным птушыным

двары. Ён пахаджваў па адзінай гатаўскай вуліцы, гатовы не толькі даць пытля, але і атрымаць годны адказ. У адных бялёсых падштанніках, прыдбаных яшчэ ў войску, з-пад якіх вытыркаліся пасінелыя ад марозу ногі, ён выбягаў на аснежаны падворак.

“Праваслаўныя! – крычаў Дзедвасілій пачарнелым сценам хат, – давайце паб’емся як брацці!”

Грукат аканіц, якія спехам зачыняліся, былі яму адказам. Тутэйшыя мужчыны абыходзілі маскоўца абводнымі сцежкамі. Тады Дзедвасілій заходзіў да гатаўскага заезнага дома і падбухторваў у ім прыхадняў, вандроўных крамароў і габрэйскіх кніжнікаў. Аднак пахаджане не паддаваліся на правакацыі. Тады, змораны, Дзедвасілій кленчыў перад першым-лепшым мужыком і напрамілы бог прасіў, каб той яму ўдарыў у твар. Мужык, апасліва азіраючыся ў пошуках каверзы, выходзіў з ім у сенцы. Там сарамліва прыкладаў кулакі да Дзедвасілевага твару, і трохі расціраў па шчацэ. Дзедвасілій сярдзіта махаў рукой і выбягаў зноўку на мароз. Наведнікі заезнага дома глядзелі ў акно і бачылі, як Дзедвасілій станавіўся ў класічную паставу баксёра: ногі трохі сагнутыя, кулакі перад сабою, і ён крыху трасе галавой, як кітайскі бажок. Праз каторы час Дзедвасілій пачынаў заўзята збіваць кулакамі гатаўскае паветра. Раз-два, левай-правай. Мяцеліў паветра доўга, аж пакуль ягоны пачырванелы твар не пачынаў капітальна кантраставаць з белымі падштаннікамі.

Дзедвасілій, сэрца на далоні, так і не прывык да зануранных, сабе на розуме, тутэйшых людзей. Яго душа прасілася на прасцяг, а тут людзі паводле ягоных словаў, “запраўляюць сваю шубу ў трусы”. Хто ціха ходзіць, той густа месіць. Ордэн Тых, Хто Самі Усё Разумеюць быў не для яго, пра што голасна казалі некалькі гучных сварак, рэха якіх праз гады дакацілася да мяне.

Нядзіва, неабаронены ордэнскай моццу, Дзедвасілій дужа пацярпеў ад жыцця. За другімі немцамі Дзедвасілій пайшоў рабіць паштаром – і ў акупаваным Мінску трэба было карміць сям’ю (“А калі той Мінск быў вольны? Вось пакажыце мне пра якія часы можна было сказаць, што мы працуем не на акупантаў?” – мімаходзь рытарычна пытаецца мама, і ў яе голасе я чую крыўду).

На немцаў у Мінску шмат хто працаваў, але па вайне аб гэтым перыядзе ўсе заціхлі – нібыта не было тых трох гадоў акупацыі. Калі сустракаліся двое былых саслужыўцаў, дык сарамліва адводзілі вочы і разыходзіліся ў бакі. Нібыта на гэты тэрмін усіх замарозілі і паклалі ў адмысловыя лядоўні. Тады давалі голас толькі падпольшчыкі і партызаны.

Крывадушнасці Дзедвасілій цярпець не мог. Ён хацеў давесці людзям, што ніхто нікога ні ў які маразільнік не клаў. Што не ўсе былі партызанамі. Што партызанаў і падпольшчыкаў партызанка і падполле не кармілі. За чаркаю, на прызбе, аб працы на нямецкай пошце Дзедвасілій падрабязненька распавядаў як пра неад’емную частку свайго пакручастага жыццяпісу. За гэтыя распаведы ў 48-м яго і ўзялі як фашыстоўскага калабаранта, Беларускага нацыяналіста яму накінулі ўжо па ходзе справы.

Калі следчы на допыце спытаў Дзедвасілія, як ён дакаціўся да супрацы з ворагам, Дзедвасілій адказаў, што проста хацеў паказаць фрыцам, як славяне ніколі не схіляюцца перад захопнікам. Сваёй сумленнай працай на пошце ён пнуўся здзівіць і напалохаць немцаў, прадэманстраваць гарт

і сілу духа, і пераканаць у бессэнсоўнасці іхняй навалы. Адразу пасля агучвання гэтага аргумента Дзедвасілій і пазбыўся аднаго вока.

Дык вось, адзіным, хто пасля арышту не адвярнуўся ад дачкі “фашыстоўскага падбрэхіча”, быў Дзядзюля. Тады ён усё яшчэ вучыўся завочна на юрфаку ў Маскве. На вакацыях ён не толькі не баяўся прыходзіць да Бабагруні, але яшчэ даваў праз яе Дзедвасілію прававыя парады, якія ў савецкай краіне, ясная рэч, насілі характар хутчэй псіхатэрапеўтычны, чым практычны.

Гэткая адданасць і пагарда да небяспекі запала ў душу не толькі Дзедвасілію, але таксама Бабагруні. Пасля жаніцьбы, нават убачыўшы здраду, Бабагруня толькі з павагі да бясстрашнага Дзядзюлі не парвала з ім вокамгненна, як падказвала ёй ейнае палымянае сэрца. На цэлы доўгі год волялюбная феміністка Бабагруня запхнула “сваю шубу ў трусы” і за колішнюю Дзядзюлеву ласку цярпела ў сваім сэрцы і хаце здрадніка.

## гісторыя з’яўлення фемінізму

Увогуле, гісторыя з’яўлення фемінізму ў нашай сям’і такая. Па-першае, насіў ён вымушаны характар. Па-другое, усё адбывалася даволі выпадкова і нечакана для саміх феміністак, якія і ведам не ведалі, што гэтак іх будуць менаваць.

Як казалася вышэй, Бабарозу бацькі рыхтавалі да рэлігійнай кар’еры, якую парушыла неспадзяванае замуства. Дзедвасілій ведаў, на што ідзе, калі браў у жонкі напаўманашку. У побыце ён не надта ціснуў на бязрукую Бабарозу і заўсёды ў ахвотку выконваў усюю хатнюю працу, не дараблёную жонкай.

Таму сваёй дачцэ Бабагруні Бабароза па гаспадарцы перадаць не змагла нічога. У прынцыпе, калі б Бабагруні патрапіўся закаханы і непатрабавальны мужчына, такі самы, як Дзедвасілій, няўмека, Бабагруня магла бы неяк перасаплівіцца да старасці. У Бабагруні, мусіць, быў шанец шчасліва дажыць да тае паравіны жыцця, калі кулінарная ліхаманка захапляе нават самых непрыхільных і няздатных да хатняй гаспадаркі жанок. Аднак Бабагруніну дарожку перасякерыў Дзядзюля.

Дзядзюля гадаваўся ў прыстойнай габрэйскай сям’і, дзе на абед штодня прынята падаваць салату, першае, другое (мяса+гарнір+падліва) ды ўзвар са штрудалем на дэсерт. Дзядзюля быў яўна не падрыхтаваны да няўцямных посных заціарак, якім Бабагруня навучылася ад Бабарозы. Па прыходзе ў дом пасля працы, бачачы пліту, устаўленную пустымі патэльнямі, ён папросту спярша губляўся. Бегаў, дапамагаючы сабе рукамі, нераўнуючы павіян, з пакоя ў пакой. Потым прыйшла і злосць.

Бабароза як магла залагоджвала свае выхаваўчыя хібы – з рэстарана на Валадарскай, 9 цягала для Дзядзюлі цэлыя комплексныя абеды. Аднак, на Бабагрунін жаль, дапамога не заўсёды прыходзіла аператыўна. Варта Дзядзюлю было прыйсці дадому хоць на адну хвіліну раней за Бабарозу, як усё завяршалася пагана. Раз’юшаны Дзядзюля сыходзіў да сваёй мамы, Бабадоры, на вячэру і начоўку.

У вачох жа Бабадоры Бабагруніна няўменне гатаваць было горшае за жаночую неўрадлівасць. Гэта быў грэх, нешта сярэдняе паміж прастытуцыяй і інцэстам. Калі Бабадоры даводзілася трапляць з праверкай на Бабагруніну кухню, дык свякруха магла пры сведках, дэманстратыўна,

са смакам плюнуць у пусты, падзёрты бялёсай плесняй рондаль. Словаў пры гэтым Бабадора не выбірала таксама. Яе адзіны сыночак яўна не для таго нарадзіўся на гэты свет, каб зрабіцца ахвярай “гэтай гадаваўкі і яе гатоўкі”. Не кажучы ўжо пра маю маленькую маму, яе ўнучку. Бабадора імпэтна распавядала сваякам, што бандытаўка Бабагруня мае на розуме змарыць голадам малую Алечку.

І вось, калі ласка: Бабагруню абвінавацілі ў замаху на забойства, а Дзядзюлю – у масавых забойствах. Балазе, ключы ад кватэры дзяцей былі ў абедзвюх мам, ды ўрэшце Бабароза і Бабадора сышліся на гэтай кухні, каб паразмаўляць як мужчына з мужчынам. Гэта быў, кажа мама, эпічных двубой Ахіла з Гектарам. Паранармальная дуэль звышрозумаў з шпурляннем бліскавіц і грымотаў. Сцярвознасці ў свякрухі і цешчы было пароўну. “Але Бабароза перамагла па пенальці”, – падсумоўвае мама. Вынікам гэтай перамогі зрабіўся шлюбаскасавальны працэс Дзядзюлі і Бабагруні.

Пра далейшае развіццё фемінізму ў нашай сям’і мама мне не распавядае. А вось што мая мама замоўчвае, – цяпер усё датычыцца яе самой. Мама настолькі зненавідзела кухню, бо як на яе дзіцячыя вочы, усё страшнае адбывалася менавіта там. Усе, бацька, матка і бабулі, выходзілі адтуль злыя, перасвараныя. Калі, як ёй падавалася, дружная (пра здрады Дзядзюлі мама, зразумелая рэч, тады не ведала) сям’я фактычна развальвалася пасля візіту на кухню.

Гэтак сваё пераможнае шэсце вірус фемінізму зрабіў далей – мая мама, толькі ажаніўшыся з бацькам, наадрэз адмовілася гатаваць. Гэтая адмова пашырылася і на іншыя хатнія заняткі: прыбіранне, пыласмактанне, мыццё бялізны і посуду. За кожным абавязкам мама бачыла прыхаваную абразу і спробу прынізіць яе жаночы гонар. За шуфлямі, прасамі і вёдрамі са смеццем тоіліся жахлівыя цені мінулага.

Паводле мамы, у негалоснай шлюбнай дамове ў мужчыны і жанчыны значыцца адно рабленне сумесных дзіцей і дарэнне радасці адно аднаму. “Цешся днямі сваімі з жонкаю сваёй”, – падтаквала ёй усюдыісная Біблія. Гатаванне ж і прыбіраннне мама лічыла факультатыўнай забаўкай кшталту шарлоткі на Дзень канстытуцыі.

Аднак праз матчын сабатаж шлюб не разваліўся – і зноўку дзякуючы ценям мінулага. Сітуацыю выправіў мой тата, чыя бабуля-ленінградка, Бабалюся, шмат гадоў працавала асабістай кухаркай і пакаёўкай кіраўніка кампартыі Фінляндыі на выгнанні. Непісьменная фінка, чыё сапраўднае імя было Лійса, Бабалюся большасць жыцця прабавіла на кухні спецдачы таварыша Кулерва Манера, які ў процівагу сваім еўрапейскім калегам з Камінтэрна, шчасліва дацягнуў да старасці.

Калі ў 60-я, ужо пенсіянеркаю, Бабалюся ездзіла ў адведкі да дачкі і ўнука ў Беларусь, дык зразумець хоць што з яе фінска-расійскай трасянкі было няможна. І толькі калі Бабалюся кранала кухонныя тэмы, у голасе з’яўлялася яснасць і рускамоўная чысціня.

Хто б іншы і пакінуў у спакоі сваю туземную бабулю, але толькі не мой тата. Тата – чалавек аператыўнага складу: усе рэчы, нават дачыненні між людзьмі, ён прымае як механізм. І калі той механізм не ладзіцца, дык трэба яго направіць, і толькі таго. Каб наладзіць кантакт са сваёй фінскай бабуляй, тата заўсёды пытаў яе пра стравы і пакаёўства і не лез у іншыя цяжкія для Бабалюсі тэмы. У падзяку ўнучку Бабалюся старанна перадала яму кулінарныя і прыбіральніцкія сакрэты.

І вось цяпер, калі мама супраціўлялася займацца гаспадаркай, бацька ўзяўся за працу сам. Ён добра памятаў усё, што выкладала яму ягоная Бабалюся. Рабіў ці не ўсе хатнія працы і нават гатаваў маме сняданкі ў пасцель. І шлюбны механізм запрацаваў: у падзяку за зняццё “хатняй” праблемы, мама стала падымацца па кар’ернай лесвіцы і ў выніку стала зарабляць у тры разы больш за бацьку. Статус-кво ў маіх бацькоў выглядаў так: бацька, хатні гаспадар, сустракае вас у вітальні ў пярэдніку з пыласмокам наперавес, а здарожаная маці, зашпурнуўшы калготкі пад фатэль, паўляжыць на фатэлі і, смокчучы піва з рыльца, лянотна глядзіць “Масква слязам не верыць”.

“У Алечкі не сям’я, а бабская сходка”, – з нутраным неспакоем казала Бабароза пра гэткае гіперэмансіпаванае жыццё маіх бацькоў. Але іхняга шлюбу яна не кранала. Ёй жа, вядома, крануць карцела, але Бабагруня ўрачыста запрысягнулася, што калі Бабароза разваліць таксама і Алечкін шлюб, як і калісь Бабагрунін, дык пасля смерці Бабарозы ў графе аб прычынах смерці судмедэкспертыза абавязкова напіша “атручэнне ў выніку добраахвотнага прыёму смяротнай дозы мыш’яку”. І ўжо тады, урачыста абяцала Бабарозе Бабагруня, ніводная царква ні ў Мінску, ні нават у Вільні, і нідзе не пагодзіцца адпяваць самагубіцу. Пайсці ў зямлю неадпетай Баброзе яўна не хацелася, і яна паўстрымлівалася безапеляцыйна ўлазіць у маміна сямейнае жыццё.

Такая вось гісторыя побытавага фемінізму і эмансіпацыі ў асобна ўзятай сям’і.

<...>

***

Урэшце, як належыць, усе памёрлі. Спярша Госпад з гэтага хітрага суплёту людскіх цеЛарухаў і камбінацый вырваў Бабарозу. Цяпер, падчас сваіх ужо рэдкіх прылётаў у Беларусь, акрамя магілы любай мамулечкі, Дзядзюля быў вымушаны даглядаць помнік былой жонкі і яе зненавіднай маткі. На гіганцкім помніку ў праваслаўнай Бабарозы надпіс быў зроблены выключна на іўрыце, і на шэсць бакоў свету пераможна пускала свае промні гіганцкая залатая зорка Давіда. У сярэдзіну зоркі быў уклеены медальён з партрэтам (Бабарозіна ноў-хаў). Дзядзюля жаліўся мне, што яго нібыта мачаюць у ягоныя дзіцячыя сікі.

Адзінае, што змог зрабіць, каб адпомсціцца, Дзядзюля – гэта наняў самага таннага ў Мінску фотамайстра, эмальшчыка ці каго там, які перакруціў прапорцыі як мае: вочы ў Бабарозы атрымаліся завялікія, а твар – наадварот здрабніўся.

Але Дзядзюлевы пакуты не цягнуліся доўга. Праз пару гадоў пасля Бабарозы выправіўся да Абрагама на піва і ён. І зрабіў ён гэта ў паветры, пасярод рэйсу Мінск-Тэль-Авіў, па-над сваёй радзімай Украінай. Я пры ўсёй павазе – маёй да Дзядзюлі і Дзядзюлевай да Украіны – хіба не перакананы, што Дзядзюлеў разлік быў гэткі.

Кепска Дзядзюлю зрабілася яшчэ ў горадзе. Але ён усёроўна не адмяніў паездкі ў аэрапорт “Мінск-2”, які знаходзіцца кіламетраў сорак ад горада. Сам зялёны, учапіўшыся пабялелымі пальцамі ў сядзенне кіроўцы, пасінелымі губамі Дзядзюля горача шаптаў у бацькавае вуха: “Давай, Сярожа, хутчэй!” За ўсякую цану Дзядзюля прагнуў трапіць на борт самалёта – надта ўжо яму не хацелася пахавацца тут, побач з

“грандыёзнай аматаркай Сіёну” Бабарозай. Цяпер Дзядзюлю не цешыла нават прысутнасць на дзялцы любай мамулечкі, Бабадоры. Дзядзюлю пахавалі каля Бэтлеему, у паселішчы Ткоа, старажытнай габрэйскай сталіцы. На Дзядзюлевым помніку, паводле суворага тэстаменту, – толькі кірыліца.

...У той апошні прыезд у Мінск Дзядзюля, адчуваючы блізкую смерць, разам са мною грунтоўна парадкаваў магілы. Мы падмазалі залатой фарбай надпісы на помніках Бабадоры, Бабагруні і Бабарозы. Замуравалі кветнік перад надмгіллем, яшчэ там сёе-тое... Побач у цярплівай моўчы габрэйскага сектара стаялі такія ж пакінутыя на векі вечныя, надзейна закансерваваныя іншыя магілы-саркафагі.

Праз пару гадоў неанацысты, сябры групоўкі “Расійскае нацыянальнае адзінства”, святкавалі дзень народзінаў Гітлера. Калі яны зайшлі адведаць габрэйскі сектар, дык нябожчыкі былі гатовыя да атакі. Чорныя габрэйскія помнікі ўзвышаліся, як вежы Мардора. У чэраве і фундаменце іх былі ўжыўленыя чыгуначныя рэйкі і жалезабетон – не расхістаць. Але і проста падысці да помнікаў не выпадала: дзверкі ў агароджах былі намёртва прывараныя да самой агароджы. Каб патрапіць усярэдзіну, патрэбна было рызыкнуць мужчынскім начыннем і агараць нянізкую агароджу, ушпіленую вострымі (а сям-там – і адмыслова навостранымі) пікамі. На некаторых дзялках паміж пікамі агароджы напіналася калючка. Заліты пад агароджамі метровы слой бетона ўпэўнена прадухіляў падкоп. А яшчэ блюзнераў чакалі гразкія пасткі ў выглядзе замаскаваных леташнім лісцем ямінаў – тое былі выкапаныя, але нявыкарыстаныя магілы.

Тут не ставала толькі дратоў пад электрычнасць і памежнікаў з сабакам. Так, гэта быў архіпелаг самастойнай Рэспублікі Жыдовія, тры на тры кожная выспа, з дзяржмяжою і нацыянальнымі сімваламі на збудаваннях. Юдэйскае царства на выгнанні. Абяцаная зямля для Бабарозы, Бабадоры і ўсіх-усіх-усіх.

Неанацысты, відаць, былі настолькі ашаломленыя негасцінным прыёмам, ажно забыліся ўжыць сваё ўлюбёнае паскудства – не сталі вымазваць надтрунні дзёгцем. Не тое што гэта дапамагло б – помнікі наўмысна выбіраліся з чорнага, як тая ж смоль, камення. Адзінае, што такі здолелі ўчыніць кутняму Бабарозінаму помніку неанацысты – на непадатлівым палескім граніце ў бяссільнай злобе нейкі бэйбус пакінуў сталёвым ланцугом сярод квадратных іўрыцкіх літар малазначныя вышчарбіны...

Далей на далей – пару гадоў таму да Баброзінай магілы завітаў Пэтр Чарны, дзівакаваты чэх, якому прысніўся сон, у якім яму божы анёл загадваў аднаўляць і чытаць памінальныя малітвы над усімі габрэйскімі магіламі ў Беларусі. Два гады Пэтр сумленна той загад выконваў. Я ўжо вярнуўся ў Мінск, і аднаго дня мне пазванілі з дабрачыннай арганізацыі і папрасілі суправаджаць Пэтра, іўрытамоўнага, – дайшла чарга да Маскоўскіх могілак. Я пагадзіўся.

Першай справай я, вядома ж, падвёў Пэтра да супольнай магілы Бабадоры, Бабагруні і Бабарозы. З гонарам паказаў іўрыцкія надпісы і зорку Давіда на самы вялікім з помнікаў. Пра тое, што Бабароза не была юдэйкай, Пэтру я не сказаў. Я хацеў, каб ён прачытаў кадыш і па ёй. Каб пасляжыццёвы трыумф Бабарозы замацаваўся. Каб на тым свеце ёй зладзілі нябесную авацыю, ці што там у іх прынята.

Пэтр, з усходнееўрапейскім акцэнтам, пачаў агорваць іўрыцкія літары на помніку:

“кан ніквэра ружа карма, бат рэбэ іван, егудыя цнуа ў-това. нолада ТаРНаХ. ніфтэра ТаШСА”, “Тут пахаваная Ружа Карма, дачка шаноўнага спадара Івана, габрэйка сціплая і крыштальна чыстая. Нарадзілася ў год 5658 (1898). Памёрла ў год 5765 (2005)”.

– Якая яшчэ Ружа Карма? – устрывожана запытаў я Пэтра на іўрыце.

– Прачытай сам, – адказаў Пэтр. – Дарэчы, а чаму ў габрэйкі бацьку клікалі некашэрным Іванам?..

Я прыглядзеўся. І сапраўды:

רוּז׳ה קַרמַה

Імя прабабулі зрабіла яшчэ адзін віток, і пасля Руфь Роза зрабілася Ружай. Я ўжо не кажу пра гэтую дзіўную метамарфозу – “Крэмерчук-Крэмер-Карма”.

З квадратным іўрытам так заўсёды – дадалі кропачку ці чупрынку, і сталася ўжо зусім іншая літара. Напрыклад, літара “ו”, “ваў”, фактычна гарызантальная палка, у залежнасці ад кропачак ці іх адсутнасці можа быць “о”, “у” ці нават “в”. І вось тут, пры дапамозе кропкі злева, тая “ваў” чыталася як “у”. Дзякуючы эрэн’ешнаму ланцугу, па-над літарай “зайн” красавалася свежая чупрынка наўскасяк, і “з” ператварылася ў “ж”. Гэтак Роза ператварылася ў Ружу.

З пераходам “Крэмер” у “Карма” было нешта падобнае. Літара “ר” (“рэйш”), што нагадвае люстэркавы адбітак “Г”, пры дапамозе рысачкі зрабілася літарай “гэй”, “ה”, якая, як вядома, у канцы слова чытаецца як “а”. Напісанае КРМР замянілася на КРМА. А калі яшчэ да гэтага іўрыцкага фокуса дадаць, што паводле законаў мовы некаторыя галосныя ў сярэдзіне слова час ад часу не пішуцца зусім, дык робіцца ясна, чаму пастаўленыя неанацыстамі вышчарбіны-агаласоўкі паслужліва падказвалі Пэтру прачытаць слова як “карма”.

Гэтак Руфь Крэмерчук зрабілася Ружай Кармай. Гэтак, пры дапамозе неанацыстаў Бабароза насуперак сваёй волі беларусізавалася пасля смерці. З такім лёгкім індуісцкім акцэнтам. Але гэта ўжо, відаць, гісторыя для наступнай рэінкарнацыі.

Алесь Камоцкі



...Знізу доля, ўверсе воля –
вабіць тым, што нічыя...

# Не згубіцца...

* * *

Якою дарогай патрапіць у рай –
Пытанне шукае адказ –
Мы толькі збіраліся шлях выбіраць,
Калі ён ужо выбраў нас.

Займае дыханне і словы маўчаць,
У марах суцэльны разлад,
Не хочацца верыць упартым вачам,
Што гэта дарога назад.

І кожны там быў, ды не кожны паспеў
У самым звычайным жыцці
Убачыць не тое, што бачыць прасцей,
А тое, што варта знайсці.

Якою дарогай вяртацца назад,
За межы бягучага дня,

Спыняецца час, каб усім паказаць,
Што тут яна толькі адна.

Дарога назад – гэта сон і падман,
Дзе дзівам прыпынены час,
Свой наканаваны здзяйсняючы план,
Жыццю прапаноўвае нас.

Займае дыханне і словы маўчаць,
У мары змяняецца смак,
Здаецца, што можна яшчэ раз пачаць,
Мы толькі не ведаем як.

Якою дарогай патрапіць у рай –
Пытанне шукае адказ –
Мы толькі збіраліся шлях выбіраць,
Калі ён ужо выбраў нас.

* * *

Далёка-далёка дзіцячыя сны,
Іх памяць надзейна умеюць хаваць
Межы галоўных пытанняў зямных,
Дзе кожнаму сніцца дарога свая.

Мы чуем і бачым па-іншаму зараз,
За часам, што лёсы у рэкі злівае –
Адбіткі дзіцячых, няздзейсненых мараў
Звіняць ва ўсмешках дарослых вачэй.

Дарослыя крокі блукаюць навокал.
Шукаючы выйсця знаходзяць дарогу,
Знайшоўшы дарогу, знікаюць патроху
Шэрым туманам былога жыцця.

Далёка-далёка нябесныя сны
Нястомная памяць умее схаваць.
У межах галоўных пытанняў зямных
Не кожнаму дасца дарога свая.

* * *

Там, дзе калісьці было каханне,
Мой шлях працягу знайсці не змог,
У неадольны палон пытанняў
Жыццё вяртала з любых дарог.

Па-за гадамі, па-за шляхамі
Старыя думкі на новы лад,
Каго шукаюць, каго чакаюць
І не пускаюць ісці назад.

Не за гарамі, не за марамі
Хавае памяць мінулы дзень.
Усё былое заўсёды з намі,
На пару з ценем ўслед ідзе.
Па-за гадамі, па-за шляхамі
Старыя думкі на новы лад.
Каго шукаюць, каго чакаюць
І не пускаюць ісці назад.

Нам не хапае утульных казак
У звыклай плыні панылых дзён,
Замест пытанняў адны адказы,
А рэшткі мрояў хавае сон.

Па-за гадамі, па-за шляхамі
Старыя думкі на новы лад.
Каго шукаюць, каго чакаюць
І не пускаюць ісці назад.

* * *

Я паўсюль шукаў нагоды, каб натрапіць на прыгоды,
Адкладаў на потым справы і пра заўтрае не дбаў,
Марыў: зробіцца вядомым і, калі выходзіў з дому,
Ад пачатку па парадку словы простыя спяваў:

Сонца ўстала, сонца села, птушкі ў вырай паляцелі,
Бо не любяць птушкі восень, гэтаксама, як і я.
Я па-свойму адлятаю, хоць і крылля не хапае –
Знізу доля, ўверсе воля – вабіць тым, што нічыя.

Сонца грэе, сонца свеціць, разганяе хмары вецер,
Падаецца, што ўдаецца спадзяванне апраўдаць.
Сёння, заўтра і ўчора ў хвілінах непаўторных
Так і жыў бы, толькі нешта пачынае халадаць.

Сонца свеціць, ды не грэе, не збываюцца надзеі,
Можа, марыў не пра тое, ці не гэтага жадаў,
Але ўсё яно часова і міне, няма размовы,
Толькі ж хочацца пры гэтым не згубіцца ў гадах.

* * *

Казалі нам з усіх бакоў:
– Глядзіце – вас не стала,
А мы спявалі пра любоў
Да бульбы і да сала.
Усякі дзень, што даў нам Бог,
Па-свойму быў вясёлы,
Хаця, урэшце, кожны змог
Паскардзіцца на долю.

Тым, хто казаў, што нас няма,
Мы не маглі паверыць.
Бо хто ж тады іх сустракаў
І адчыняў ім дзверы?
Хто іх пускаў на свой парог
І частаваў як мог?
Хто ім на карак апасля
Узлезці дапамог?

Праходзяць дні, гады лятуць,
Былі, і ёсць, і будуць
Заўсёды тут мой родны кут –
Палі, лясы і людзі.

Зіма зімой, вясна вясной,
Складаюцца ў гады,
З усіх шляхоў, з усіх краёў
Вяртаемся сюды.

* * *

На крок мы наблізілі неба,
Знайшоўшы сябе у жыцці,
Каб незразумелым суседзям
Спакойна грахі адпусціць.
Даніну цярпенню сплаціўшы,
Пазбыцца няпэўных надзей,
Каб холад цяплей перажыўся
На ганак выходзіць радзей.

Утульнае пекла ілюзій
Шануе прасторы свае,
І людзі, нібыта, як людзі –
Чагосьці усім не стае.
Для шчасця не трэба нагоды,
А толькі пачатак і час,
Паціху выходзячы з моды,
Яно не сумуе без нас.

Ратуе усмешка спагады
Ад марнай дарогі назад,
Бязлітасны смак лістапада
Плыве паўз натомлены сад.
Дзе яблыкі адбранзавелі,
Галіны згубілі лісты.
У свет нечаканых завеяў
Не хочаш, а трэба ісці.

* * *

Ліст залаты
Лета не помніць,
Вось і цяпла
Ужо не стае.
Так, як заўсёды,
Так, як ад веку,
Восень наводзіць
Парадкі свае.

Усё, што вясна
Распачынала,
Змогуць дажджы
Змыць да зімы.
Так, як заўсёды,
Так, як адвеку,
Што будзе з марай –
Не ведаем мы.

Цемрай глядзіць
Заўтрашні ранак,
Зноў мы жывём
Праўдай адной.
Так, як заўсёды,
Так, як адвеку,
Цемра загіне
Наступнай вясной.

* * *

У маім неналаджаным побыце
Не працуе званок на дзвярах,
Не хапае усмешак і позіркаў,
Асабліва па вечарах.

Тут далёкія ад дасканаласці
Ходзяць думкі за межы кута,

І усё, што ў іх адбіваецца
Разумецца неяк не так.

Тут па-свойму утульна і хораша,
Можа ў нечым не горш, чым ва ўсіх,
Хоць часамі і іншага хочацца –
Можа ў госці цябе запрасіць?

* * *

*Паводле “Besame mucho” Кансуэлы Веласкес*

Раніца, смак пацалунка –
Помніш як гэта калісьці было ўпершыню?
Хочацца заўтра прачнуцца
І, як учора, у вочы табе зазірнуць.

Памяць і мроя паціху яднаюцца,
Мары знаходзяць спакой,
Новыя дні як заўжды пачынаюцца,
Але ужо не з табой.

* * *

Цішыня бяздоннай вышыні,
Думкам не знайсці належных словаў,
Позіркаў шчаслівых прамяні
Зблытваюцца ў новую размову.

Вось ужо і межаў не відно –
Дзве душы з’ядналыя палётам.
Ёсць каханне, на дваіх адно,
Што пасля – пакуль што не істотна.

Я хачу падараваць табе світанак,
З цёплых промняў сонечных сатканы.
Пад усмешку з пахам ранішняе кавы
Паўтараць тваё імя як заклінанне.
І ляцець туды, дзе зоры нас чакаюць,
Не зважаючы на хмары, дождж і вецер,
І адчуць, як разгараецца каханне
З разумення, што ты проста ёсць на свеце.

Раскажы пра сёлетнія сны,
Як яны сабой здзяйсняюць мроі,
Калі раптам хочацца вясны,
Лістапад становіцца вясною.

І далей ужо і ты, і я
Аддаем сябе на волю часу.
Не істотна дзе, калі і як,
Важна толькі каб заўсёды разам.

* * *

Лагодным ліпеньскім дажджом
Вясёлку з неба змыла лета.
Жыццё маё ішло дагэтуль
Не пакідаючы слядоў.

Ішло жыццё маё пакуль
Не разбіраючы дарогі,
Ішло таму, што неслі ногі
Не да таго, хто крокі чуў.

Лагодным ліпеньскім дажджом
Вясёлку з неба змыла лета,
Мне паказаў напрамак вецер,
А я дарогу не знайшоў.

* * *

Браў вецер за руку дзіцячую душу,
Я бачыў – іх сляды глыталі кіламетры,
Тлумачыць кожны крок душу не папрашу –
Няхай сабе ідуць, я давяраю ветру.

Вяртаннем назаўжды не вырашыць праблему,
Памкненню не знайсці ні месца, ні спакою,
Чаканне сапраўды хацела мець не тое,
Чым можа быць жыццё – калі мяняе тэму.

Я ведаю, што ты на заўтра не зважаеш,
Смакуючы фінал, я ж мару пра працяг,
Пра гэту далячынь, што быццам не чужая
Але і не мая, бо я тут у гасцях.

* * *

Шэрым днём мінула восень,
Белым сном прыйшла зіма.
Лічыць час, што гэта проста –
Дні складаць і адымаць.

Не спыніць і не прыспешыць –
Ён такі ва ўсе вякі –

І пакрыўдзіць, і суцешыць,
І прыпомніць – ён такі!

* * *

*На матыў "Прощание славянки" В. Агапкіна*

Гукі марша бязлітасным сумам
Разрываюць душу на шматкі,
Ці ж маглі мы учора падумаць,
Што жыццё наша будзе такім.

Што сустрэнемся, каб развітацца,
Што ізноў будзеш ты не мая,
Што адвеку нягеглае шчасце
Нам у рукі не дасца ніяк.

Жыццё, як рака,
Вясло ў руках,
Плыві і шукай
У новы дзень кароткі шлях.

Ідзе за годам год,
Хоць і хочацца наадварот,
Забудзь пра бераг,
Зважай наперад –
На вір, на брод, на паварот.

Нас яднае агульная мара,
І дарозе не бачна канца,
Мы усё, што не зробіцца зараз,
Хочам заўтра яшчэ раз пачаць.

Нашай веры не знойдзецца меры,
І душа не шукае спакой.
Каб не збочыць з дарогі уперад,
Я заўсёды плыву за табой.

Вясло ў руках
Жыццё, як рака
Ў яе глыбіні
Паціху тонуць нашы дні.



Віктар Супрунчук



...сіяністы хочуць,
каб кожны жыхар Беларусі
паехаў у Ізраіль...

# Калі пяюць птушкі

*Апавяданні*

## Зламаная душа

На вуліцы была вясна. Вакол усё квітнела. Зацвілі чатыры вішні, якія тата пасадзіў пазалетась: купіў у дзядзькі Шантыкі па тры рублі. Мама сказала яму пасля: "Лепш бы дзецям булачак купіў альбо цукерак". Але ж вішні – да скону жыцця. Яны будуць расці, расці. Міне шмат часу, і вішні будуць заўжды. Нас не будзе, а вішні будуць. Тата казаў праўду. І мама згадзілася...

Калі сонца ўзнялося над царквой і стала горача нават пад старой грушай цёткі Латчыхі, татавай стрыечнай сястры, я пачуў, як моцна загаўкалі сабакі ў Тодара і Сашка. Гэтыя дзядзькі часта прыходзілі да таты і ўсё абмяркоўвалі, шапталіся, ці хутка прыйдуць амерыканцы. Было б някепска. Тата ўспамінаў, што калі яны вярнуліся ў дваццатым годзе з бежанства, то нейкі амерыканскі корпус міра даў на кожную душу па два пуды жыта. Вайна даўно ўжо мінула, але ў паветры адчувалася яе дыханне.

У нашай вёсцы, дый мне здаецца ўсюды, некалі панаваў цар, гаспадарылі палякі, а пасля прыйшлі бальшавікі. Потым былі немцы. Зноў прыйшлі бальшавікі. Ёзю Кантуша, які вымушаны быў стаць солтысам на нашай вуліцы пры немцах, на дваццаць пяць гадоў адправілі да белых мядзведзяў. А што ён зрабіў? Нічога. Бараніў суседзяў ад немцаў і партызанаў. Хто гаспадар на гэтай зямлі? Невядома. Гітлер вурдалак – гэта зразумела. Але чаму мы павінны служыць Сталіну? Мо заўтра прыйдуць амерыканцы? Так казаў тата, а Сашко і Тодар хіталі галовамі, згаджаючыся з ім.

Я сядзеў на ганку і еў акрайчык хлеба. Па вуліцы прайшлі каровы. Неба ажно блішчэла, быццам пачысцілі яго дзеркачом. Мне здавалася, што жыццё бясконцае, тата і мама – вечныя. Толькі ў хаце, увесь час, над намі вісела нейкая густая нябачная коўдра, якая перашкаджала дыхаць, смяяцца.

Увечары тата і мама, а з імі мы, дзеці, на каленях ля ложка шапталі пацеры і прасілі ў Бога дапамогі, здароўя і каб нас ніхто не крыўдзіў. Таму што раніцай заляскаюць на вуліцы калёсы брыгадзіра Малахецкага, які гучна, з мацюкамі будзе крычаць, загадваць маме і тату ісці ў калгас.

Ля Сашка пачулася лаянка, руская мова. Так ніхто на нашай вуліцы не гаварыў. Мама кранула мяне за плячо:

– Сынок, калі спытаюць, мяне няма. Замкні за мной камору.

Я замкнуў за мамай камору і схаваў ключ пад ганкам. У наш двор заходзілі людзі. Наперадзе ішоў чарнявы мужчына ў чырвонай кашулі, які мацюкаўся і пляваўся. За ім – участковы міліцыянт Падхвостаў з чырвоным, бы цэгла, тварам, і старэнькі дзядок па мянушцы Сакратарык з тэчкай. Таксама з чырвоным тварам. Мабыць, падмацаваліся ў Сашка самагонкай з яечняй. Я сам чуў, як стары казаў тату, што трымае запас для начальнікаў. Аднак страх усё адно быў у ягоных вачах, бо невядома было, што чакаць ад тых, у каго ў руках былі тэчкі.

– Дзе бацька, дзе маці? – пытаецца мяне мужчына ў чырвонай кашулі.

– Куды схавалі сала, яці вашу душу!..

Ён лаецца, лаецца, а я плачу і баюся, каб не пачалі ламаць замок у каморы, дзе схавалася мама. Нарэшце яны выходзяць з двара, і міліцыянт у злосці ламае балясчыну ў нашым плоце. Трэск ад зламанага дрэва, нібы стрэл, які палохае птушак і мяне.

Назаўтра я бачу, як мама спалохана кланяецца перад Малахецкім. У яе калоціцца рука, у якой яна трымае вядро, і яно дзынкае, ляскаючы аб жалезную трубу ля ганка. У мамы белы, бы палатно, твар, і на вачах слёзы. Яна хуценька збіраецца і бяжыць з кошыкам у калгас.

Страшна маме, тату, мне, братам і сёстрам. Малахецкі папярэдзіў: “Абрэжам соткі па хату”. Што ж мы будзем есці, калі абрэжуць агарод?

Летась тата доўга хадзіў да старшыні калгаса і прасіў вярнуць соткі. Тады мы пасадзілі бульбу толькі ў чэрвені. Нам не далі каня, і мы капалі рыдлёўкай усе трыццаць сотак.

Мне здаецца, страх панаваў у кожнай хаце. Адна спадзяванка была на амерыканцаў, якіх усё не было. Толькі нікога не баяўся Шура, з прабітай на вайне і завязанай хусткай галавой. Ён з лаза цягаў на плячах, нягледзячы на забарону, вязкамі сена. Яго абходзіў бокам Тоня, калгасны наглядчык, які быў у пашане ў начальства. Тоня служыў наглядчыкам пры паляках, пры немцах і займаў тую ж пасаду цяпер пры бальшавіках.

У вайну, калі ён з аднавяскоўцамі вяртаўся з сенакоса на Ясельдзе, яго хацелі застрэліць партызаны, але людзі не выдалі Тоню. Ён ад страху наклаў поўныя штаны, застаўся жывы і потым стаў бізуном новай улады, каб палохаць і здзекавацца.

Тоня не сумняваўся, што робіць правільна, як патрэбна начальству. Нездарма яно даверыла яму такую адказную пасаду. Наглядаць не за калгаснымі палямі і сенажацямі, а за людзьмі, якія паспрабуюць спакусіцца на ношку травы для сваіх свіней ці каровы.

Тоню апякуе сам старшыня па прозвішчы Круль, які адчувае сябе тут каралём: ён узнагароджвае і карае. Няма на яго ніякай управы. Нашага суседа Касача збіў палкаю на горкі яблык. Уся вёска ведае пра гэта, ад страху прыціхла, насцярожылася ў чаканні нечага благога, здзеклівага, як пры немцах, калі яўрэяў вагонамі везлі на Бронную гару і расстрэльвалі з кулямёта, ці ў трыццаць дзявятым і саракавым, калі бальшавікі сем’ямі вывозілі людзей з вёскі ў Сібір за іх заможнасць і гаспадарлівасць.

Касач напісаў скаргу на Круля ў Маскву, дзе нібыта можна было знайсці праўду. Скарга праз Мінск прыйшла да Круля, які за чаркаю рагатаў: “Вось яны ўсе ў мяне дзе!” – і паказваў свой распанелы на калгасным мясе валасаты кулак. А чаму? Таму, што найвялікшы начальнік беларусаў у вайну на Віцебшчыне ў Крулёвых бацькоў часта гасцяваў, еў дранікі, а потым апекаваў сыночка.

“Праўды нідзе не знойдзеш, толькі ў Бога!” – казаў тата і маліўся, а разам з ім усе мы. “Будзь дурнейшы, сыночак!” – прасіла мяне мама, так спрабуючы аберагчы ад бязлітаснасці жыцця. Ты павінен быць непрыкметны, незаўважны. Ніякіх сваіх думак не выказваць. У нас такі лёс: цярпець, маўчаць, схіліўшы галаву. Толькі Бог дапаможа! А я сам? Што, нічога нявартый?

Мая старэйшая сястра, якая выбралася ў горад і зачапілася там гандляркай у маленькай краме, вучыць мяне: “Не гавары на тутэйшай мове. Яна табе будзе толькі шкодзіць. Вучыся рускай мове. Яна – галоўная ўсюды...” Я здзіўляюся: як гэта адмовіцца ад матчынай мовы? І што такое руская? Бацька, калі качагарыў у ваенным гарадку, здзіўляўся: афіцэрскія жонкі, намазаныя парфумам, у размове між сабой праз слова выкарыстоўвалі мацюкі. Гэта, значыцца, руская мова?

“Навошта гэтая беларуская мова?” – пытаўся швагер, алкаголік, які штодзень ляжаў пад плотам, а бедная мая сястра цягнула яго ў хату, праклінаючы сваё жыццё. І было дзіўна і страшна. Я баяўся сказаць свайму швагру слова насуперак, бо раптам яно пашкодзіць сястры.

Стоячы ў чарзе па памідоры, я слухаў, як мардасты, пузаты дзядзька іржаў, бы жарабец, над хлапчуком, які гаварыў па-беларуску, распінаўся, што ўсе, акрамя каўказцаў і азіятаў, рускія. Толькі рускія, і – няма ніякіх беларусаў. Азіраючыся па баках, з пакорлівай усмешкай у знак згоды, я маўчаў і матляў галавою, нібы хворы, не прамовіўшы нічога супраць. І разам са мной маўчала і ўсміхалася вялізная чарга, для якой было самым галоўным – купіць танныя памідоры.

Я жыву па прынцыпе: менш ведаеш, лепш спіш. Аднак усё роўна вымушаны прыстасоўвацца да абставін, выцягваць галаву з пяску, як той певень калісь на нашым двары. Д’ябал з усім, толькі б мне было спакойна. Трывожны стан душы і ўдзень, і ўноч. Мне патрэбна была тая партыя? Я ведаў, што там шмат злодзеяў, асабліва хто з тэчкай. Канечне,

без партыі нельга было атрымаць тэчку. І я пайшоў у партыю, хоць тата амаль штодня праклінаў бальшавікоў, называючы іх сынамі Сатаны. Я рабіў шмат такога, за што саромеўся ў сне, і плакаў, абліваючы слязьмі падушку. Тата моцна верыў у Бога, і яго аднадумцаў адпраўлялі ў турмы, у паўночныя лагеры. Я слухаў тату і сумна хітаў галавой. Я ім спачуваў. Нават вельмі. Але мяне цікавілі толькі мае прагматычныя пытанні. Мне было ўсё роўна: сядзіць Пятро ў турме ці гуляе на вуліцы.

Я часта ішоў па горадзе, углядаючыся ў людзей, і чамусьці ва ўсіх твары былі падобныя. Нібы злепленыя па адным трафарэце. Хоць у кожнага мужчыны і жанчыны, здаецца, былі розныя вочы, нос, валасы. Я адчуваў, што гэтыя людзі такія ж, як я. Гэта мяне супакойвала. Я быў не горшы за іншых. У кожнага трымцела ад страху душа. Яны не выходзілі на сонца, не смяяліся, не жартавалі. Ратаваліся ў ценю. Чым большы быў цень, тым лепш.

Ішлі гады. Я сталеў, па твары папаўзлі зморшчыны. У валасах там-сям сівізна. Я стаў больш заўважаць, быццам нават думаць. Зрэдзь у душы ўзнікаў агонь, які вельмі хутка гаснуў. Абыякавасць зноў запаўняла ўсю маю істоту.

Неяк летам я панура цягнуўся дамоў, прыкідваючы, колькі ў мяне засталося ў кішэні грошай, каб купіць бутэльку таннага віна. Пажадана “фаўст” — семсотпяцідзесяціграмовую бутэльку. Паўлітровай мне мала. Я выпіваю гэтую бутэльку, і да мяне вяртаецца весялосць. Тады хочацца паглядзець тэлевізар, у якім прыгожа жывуць людзі іншых краін, і ў марах апынуцца там.

Грошай на вялікую бутэльку не хапала, і я ў роздуме спыніўся на тратуары недалёка ад крамы. Знаёмых было не відаць. Мо не пашкадавалі б мне рубель-другі ў доўг? Ззаду пачуў нейкі магутны рух, шум мноства галасоў. Я павярнуўся і ўбачыў вялікую калону людзей, якая са сцягамі рухалася міма мяне. Даўно не назіраў такога відовішча: з часоў першамайскіх і кастрычніцкіх дэманстрацый.

Людзі ішлі-ішлі, весела гаманілі, і твары ў іх – нібыта асветленыя сонцам. Яны не сварыліся, не мацюкаліся, не былі п’яныя. Чыста і прыгожа апранутыя, не такія, што стаяць ля крамы, каб папрасіць сто грамаў. Не парушалі парадку, не ламалі дрэў, не псавалі машын. Яны некуды крочылі...

Я ўбачыў, як з-за будынку выскачылі ў скураных куртках хлопцы-мацакі з аднолькавымі бязлітаснымі тварамі і пачалі лупцаваць гэтых людзей. Зусім блізка ад мяне вялізны граміла схапіў светлавалосую дзяўчынку, якая была меншая за яго ў тры разы, і пацягнуў у чорную з кратамі на вокнах машыну. Я, нібы здранцвелы, з дрыжачымі рукамі і нагамі, стаяў і моўчкі назіраў. Малячы Усявышняга, каб толькі не зачапілі мяне. Дый шкада будзе невыпітай мною бутэлькі віна. Урэшце, якая мне справа да нейкай дзяўчыны? Ці мала дзяўчын на свеце, а я – адзін. Трэба хутчэй адсюль уцякаць...

Назаўтра мяне выклікалі па тэлефоне ў пакой нумар 1191, у якім знаходзіўся аддзел унутранай бяспекі нашага прадпрыемства. Непрыемны тып з худым, заўсёды незадаволеным тварам, не гледзячы на мяне, спытаў:

– Вы былі ўчора на дэманстрацыі?

У мяне перахапіла дыханне, пачаў нямець язык. Я ледзь прашаптаў:

– Не, не, не быў... Я толькі ішоў у краму...

– Ладна, – мой следчы падняў вочы і, здаецца, праціў імі наскрозь. – Гэтага хлопца бачылі?

Ён паказаў фотакартку хлопца з кампутарнага ўчастка, з якім мы пазаўчора пілі піва. Яго зваць Васіль, родам з суседняй вёскі. Ён вясёлы хлопец, спрытны гарманіст. Як іграў летась на канцэрце, ажно душа спявала.

– Бачылі ці не? – пытаецца мой следчы.

Што мне казаць? Я сапраўды бачыў Васіля ў калоне дэманстрантаў. Нават памахаў яму рукой. Я падумаў яшчэ: што ён там, дурань, робіць?

Мяне душыць цішыня ў гэтым пакоі, і страх ахутвае сваімі вяроўкамі ўсё мацней і мацней. Я нізка схіляю галаву і прамаўляю, выціскаю з сябе слова па літары:

– Бачыў...

– Малайчына. Падпішыце, – следчы падсунуў паперку, якую я хуценька падпісаў і праз хвіліну амаль бег па калідоры, праклінаючы сябе за слабасць, за пакорлівасць, нікчэмнасць і, магчыма, за “здачу” добрага хлопца. Ён мне нічога кепскага не зрабіў, а я...

Раніцай ля ўваходу ў будынак нашага прадпрыемства вісеў загад аб звальненні Васіля за сістэматычнае парушэнне ўнутранага распарадку. Людзі абыякава праходзілі міма гэтай паперы. Кожны дзень на стэндзе былі розныя загады: адны здымалі, іншыя прымацоўвалі. Мабыць, ніхто не ведаў, што да гэтага загаду я меў дачыненне. Але следчы ведаў, у аддзеле кадраў ведалі! Што я нарабіў? Што я нарабіў? Як буду глядзець у вочы Васілю? Ладна, неяк перажывем.

У калідоры я сустрэў Васіля, паціснуў яму руку і паспачуваў. Хлопец усміхнуўся:

– Яны думаюць, мяне напалохалі!.. Праўда за мной. Яшчэ паваюем...

Увесь дзень я зайздросціў ягонай смеласці, маладосці і ўпэўненасці ў сваіх думках. Мне так хацелася быць падобным на Васіля, што я пайшоў у туалет і паплакаў, шкадуючы сябе. Я плакаў і адначасова радаваўся, што ўсё-ткі ёсць такія людзі, як Васіль, здольныя змагацца за сваю праўду. Яны, пэўна, ніколі не даравалі б ні Крулю, ні Малахецкаму сваю крыўду. Магчыма, лепш памерлі б. А я?.. Што я... Пасля работы зайду ў краму, куплю “фаўст”, вып’ю ў тэлефоннай будцы, каб толькі міліцыянты, крый Божа, не заўважылі і буду сядзець на лаўцы пад домам з суседам Іванам, які любіць разважаць і даказваць, што жывем мы заможна, спакойна, весела і нам зайздросцяць жыхары ўсіх суседніх краін Еўропы, Азіі і нават праклятай Амерыкі. І ўсё-ткі шкада, што не прыйшлі амерыканцы...

## Мікрамаёр

Сяргей думаў, думаў і не мог вырашыць, што рабіць. Перад ім паўзлі аблокі, ухутваючы сваім пухам вяршыні гор. Плылі, плылі, ледзь не датыкаючыся салдацкай казармы і нефарбаваных, збудаваных яшчэ пасля вайны, шчытавых афіцэрскіх домікаў. У крайнім злева, ля самай цясніны, жылі яны з жонкаю. Галя цяпер была ў доме. Яна тры дні ўжо не выходзіла на вуліцу. Баялася...

Сяргей з малых гадоў марыў стаць афіцэрам. Лётчыкам, бо побач з іхняй вёскай быў ваенны аэрадром. Удзень і ўначы над хатай раўлі самалёты. У лётчыкаў была прыгожая форма. Ва ўсіх скураныя карычневыя курткі. Зімой – унты, а не валёнкі, як у вяскоўцаў. Сусед Генадзь, які працаваў качагарам у сталоўцы на аэрадроме, расказваў, што і харчаваліся лётчыкі багата. Кожны дзень на стале былі шакалад, розныя сокі.

У лётчыкі Сяргей не трапіў па здароўі, пайшоў у армію. На другім годзе службы яму прапанавалі вучыцца на курсах малодшых лейтэнантаў. Ці, як іх называлі, мікрамаёраў. У маёра вялікая зорка на пагоне, а ў малодшага лейтэнанта – малая. У перспектыве можна было здаць экзамены экстэрнам за сярэдняе вучылішча, атрымаць званне лейтэнанта, і – пайшоў далей, далей. У суседа сын падпалкоўнік, а быў мікрамаёрам.

Сяргей паспяхова скончыў курсы, і яго прызначылі ў ваенна-будаўнічы батальён на пасаду намесніка камандзіра роты па палітычнай рабоце. Атрымаўшы дзесяць дзён адпачынку, ён за гэты час ажаніўся з Галяй, светлавалосай і блакітнавокай дачкой суседзяў. З ёй Сяргей сябраваў яшчэ са школы. Яна вучылася на два класы ніжэй.

Галя была стройная і высокая. Ростам, амаль як Сяргей. А ён быў такі ж бялявы. Толькі вочы зялёныя, бы веснавое лісце. На вяселлі ўсе госці былі аднадушны: адметная пара.

...Рота стаяла высока ў гарах. Ім з Галяй тут спярша не вельмі спадабалася. Прырода была зусім не падобная на беларускую. З усіх бакоў горы. Толькі ў цясніне, абапал ледзь прыкметнага ручая, які вясной ператвараўся ў імклівую паўнаводную раку, раслі рэдкі лясок і калючыя кусты з блакітнымі ягадамі. Бязлітасна смаліла сонца, а з вечара і да раніцы дзьмуў з боку Турцыі жорсткі, халодны вецер.

Сяргей быў самы малады з афіцэраў, равеснік многіх салдатаў. Калі б не курсы, ён яшчэ даслужваў бы свой тэрмін. Але на плечах у яго ўжо былі афіцэрскія пагоны, якія надавалі ўпэўненасці і годнасці.

З камандзірам роты капітанам Марціросавым, сівым, лысаватым дзядзькам, склаліся нібыта някепскія адносіны. Ён, здаецца, ніколі не павышаў голас і часта ў прысутнасці іншых афіцэраў хваліў Сяргея. Яны з Галяй некалькі разоў запрашалі Марціросава ў госці. Кожны раз капітан проста засыпаў маладую жанчыну кампліментамі. Маўляў, такой прыгажуні няма больш на свеце; ён зайздросціць Сяргею, якому пашчасціла з жонкай.

У роце, у асноўным, служылі выхадцы з Каўказа і Сярэдняй Азіі. Сяргей неаднойчы заўважаў, з якім нахабствам яны разглядвалі ягоную жонку. Тады яму хацелася каму-небудзь з іх набіць морду. Нават абязвечыць. Аднак пастулова Сяргей звыкся з тым, што жонка пастаянна ў цэнтры ўвагі, нават нібыта перастаў заўважаць бессаромныя позіркі сваіх падначаленых.

Галя без мужа нікуды не хадзіла, хіба акрамя толькі да суседзяў, трымалася хаты. Канечне, было сумнавата, але яна не прывыкла да гарадскіх выгод. Умовы жыцця былі накшталт вясковых. Знайшла сабе занятак: карміла курэй, даглядала агародзік, які яны разбілі за домам.

Неяк пасля разводу Сяргея паклікаў да сябе капітан Марціросаў. Ён стаяў на ганку і размаўляў з незнаёмым мужчынам у цывільным. Гаворка ішла на мясцовай мове. Відаць, яны спрачаліся, бо тады-сягды гучалі мацюкі па-руску. Нарэшце, Марціросаў з мужчынам пацiснулі адзін аднаму рукі.

Сяргей чакаў, назіраючы як салдаты грузяцца ў аўтамабіль. Мільгнула думка: куды? На разводзе ніхто нічога не казаў.

– Значыць так, Суржынскі. Слухай загад. Паедзеш старшым каманды, – капітан правёў рукой па лысіне, нібы прыгладжваючы неіснуючыя валасы, паказаў на мужчыну. – Што рабіць, Гамлет табе скажа. Зразумеў?

Як не зразумець. Загад начальніка – закон для падначаленага.

Праз гадзіну яны спыніліся на ўскраі вёскі ля глухой сцяны, за якой

узвышалася некалькі будынін. Амаль уся тэрыторыя была завалена бярвеннямі. У будынінах гудзелі машыны. Гэта быў вялізны тартак. Тут пілавалі дошкі, якія адразу забіралі грузавікі з грамадзянскімі нумарамі.

З гэтага дня ў Сяргея пачалася служба на тартаку. Салдаты цягалі бярвенні, грузілі дошкі, а ён, нібыназіральнік, хадзіў па тэрыторыі і сачыў, каб падначаленыя не гультаявалі.

Абед прывозіў сам капітан Марціросаў. Заўсёды заходзіў у кабінет Гамлета, які быў фактычна гаспадаром тартака, хоць той лічыўся маёмасцю прамкамбіната, і сядзеў, пакуль не скончыцца абед. І так дзень у дзень...

Яны выязджалі адразу пасля снедання, а вярталіся ў роту ў зацемках. Працавалі па дванаццаць-чатырнаццаць гадзін. Перакураў амаль не было. Гамлет бегаў па тартаку, лаяўся і патрабаваў лепш працаваць. Пад канец змены салдаты ледзь цягалі ногі. Сяргей фізічна нібыта нічога і не рабіў, але таксама стамляўся. Дый ужо абрыдла гэтая аперацыя, як называў Марціросаў працу салдат на тартаку.

У чарговы раз яны вярнуліся ў роту амаль у адзінаццаць гадзін. Сяргей падышоў да дому і здзівіўся: лямпачкі гарэлі ва ўсіх пакоях. Звычайна, чакаючы яго, Галя запальвала святло толькі на кухні альбо ў гасцінай. Ён толькі пераступіў парог, як жонка з плачам кінулася на шыю.

– Паехалі адсюль... Я цябе прашу, паехалі адсюль, – ад яе слёз у Сяргея на грудзях стала мокрай кашуля.

– Што здарылася?

– Нічога... Паехалі адсюль. Мне сумна, страшна. Я хачу дамоў, у вёску... – Яе цела аж но калацілася ад плачу.

– Што здарылася? – Сяргей адхіліў ад сябе жонку і пільна паглядзеў ёй у вочы. Што такое, якая прычына гэткага яе настрою? Адчуў, як у душы заварушыўся неспакой. Яшчэ ў нядзелю яны з Галяй гулялі за тэрыторыяй роты, спускаліся ў цясніну, дзе набралі з крыніцы мінеральнай вады. Ім было весела, і жонка казала, што ёй падабаюцца ўжо гэтыя мясціны. У іх свая, асаблівая, прыгажосць. Калі заходзіць сонца, горы набываюць цудоўныя, незвычайныя колеры, якія яна бачыла на малюнках Рэрыха ў часопісе "Огонёк". Здавалася, такіх не бывае.

Што здарылася? Што? І Галя прызналася. Ужо на другі дзень салдаты, адзін з іх Ахмедаў, спрабавалі залезці ў дом. Яна зачынілася на замок, схавалася. Яны ж стукалі ў вокны, гаварылі розныя непрыстойныя словы. Паскардзілася Марціросаву, але той толькі смяяўся і сказаў, што як-небудзь загляне да яе. Яна баіцца выходзіць з дому...

Сяргей слухаў жонку і, здавалася, трымцела кожная клетачка ягонага цела. Ён не мог есці, не хапала паветра, было душна і хацелася аднаго: біць, душыць Ахмедава, а з ім і Марціросава. Ён здагадаўся, хто быў з Ахмедавым. Яго трое землякоў. Ва ўсіх за плячыма турэмныя тэрміны. Яны заўжды былі разам, зграя. Іх баяліся, таму што ў любы момант пачыналі бойку. Любімчыкі Марціросава.

Свалата, поскудзь... Ён не даруе ім гэтага, не даруе! Аднак, што можна зрабіць? Як абараніць Галю? Ці ён – не мужчына, не афіцэр? Нампаліт роты. Думаюць, ім усё дазволена. Калі малодшы лейтэнант, дык нікуды не варты. Мікрамаёр... Паглядзім, паглядзім... Даведаецеся, хто такі Сяргей Суржынскі. Ні сябе, ні жонку не дасць у крыўду... Толькі вось навошта прывёз сюды жонку? Лепш хай была б пакуль у вёсцы...

У абед ён спыніў Марціросава. Той якраз выскачыў з машыны і бег у кантору тартака.

– Што табе? – у капітана быў кепскі настрой. Марціросаў гучна лаяўся. Валасы на галаве былі ўскалмачаны, ад яго пахла мясцовай гарэлкай – чачай.

– Доўга мы яшчэ тут будзем? – хвалюючыся, спытаў Сяргей.

– Столькі, колькі трэба, – выгукнуў Марціросаў. – Табе што?

– Мы – ваенныя, а не грузчыкі на тартаку. Не парабкі ў Гамлета.

– Што? – у Марціросава ад здзіўлення выцягнуўся твар.

– Мы – ваенныя, а не грузчыкі на тартаку, – паўтарыў Сяргей. – Я вымушаны напісаць рапарт у палітаддзел, што вы выкарыстоўваеце салдат, як сваю рабочую сілу.

– Што? – выплюнуў цыгарэту Марціросаў. – Ты... Ты... Шакал! Я цябе... Што табе трэба?.. – ён раптам выцягнуў з кішэні пачак грошай: – На, на, на, закрый свой рот. У цябе прыгожая жонка, падумай...

Сяргей адхітнуўся ад Марціросава, грошай не ўзяў і пайшоў да салдат, чуючы ззаду мацюкі капітана.

Мінуў тыдзень. Камандзір роты больш не пасылаў Сяргея старшым на тартак. Між імі нібы вырасла сцяна. Марціросаў за гэты час ні разу не загаварыў з сваім нампалітам і не вітаўся з ім. Трывожнае напружанне, здаецца, вісела ў паветры.

Увечары Сяргей з жонкаю, не ўключаючы святла, сядзелі ў гасцёўні і думалі, што рабіць, як жыць далей. І не знаходзілі выйсця. Службу не кінеш, не ўцячэш у вёску. Павінен выконваць загады камандзіра роты. Дзе той палітаддзел? Далёка. У каго шукаць падтрымкі? Невядома. Атрымлівалася, што загнаны ў куток...

За вакном ужо была ноч. Яны гаварылі, гаварылі... Галя нарэшце заснула, а яго сон усё не браў. Было страшна. У галаве мітусіліся розныя непрыемныя думкі. Ён ужо шкадаваў, што пачаў тую размову на тартаку. Але ж, але ж... Калі самохаць пачалі заплюшчвацца вочы, Сяргей пачуў, як дзынкнула разбітае шкло. Прачнулася Галя, зашаптала:

– Што гэта, што?

Ён, супакойваючы жонку, прыкрыў ёй на хвіліну рукою рот і споўз з канапы на падлогу. Сумнення не было: у кватэру нехта лез. Ад акна былі чуваць прыглушаныя галасы.

Сяргей паварушыўся і балюча выцяўся пальцам правай нагі аб нешта халоднае і металічнае. Адразу ўспомніў: труба, якую прыцягнуў дамоў, каб змайстраваць сабе турнік. Яна тоўстая, іржавая, каля двух метраў. Яшчэ пазаўчора жонка сварылася, што хату ў сметнік ператварыў.

Дрыжучы ад страху, ён сціснуў у руцэ трубу і, як толькі першы пералез цераз падваконнік у пакой, ударыў яго. Пачуўся дзікі, нечалавечы крык. Сяргей паспеў зачапіць трубой і другога, але той выскачыў з акна.

Жонка ўключыла святло, і яны ўбачылі Ахмедава, які заліты крывёй ляжаў на падлозе. Скрыгічучы зубамі ад болю і мацюкаючыся, ён падняўся і пакульгаў з дому.

– Мы цябе і тваю жонку... Беларусачку... – Ахмедаў зрабіў выразны жэст рукою.

Ён не затрымліваў салдата. Толькі выйшаў на ганак і назіраў, як, цягнучы параненую нагу, Ахмедаў сунецца да казармы. Страх, які не пакідаў апошнім часам ні ўдзень, ні ўначы, знік. Сяргей цяпер нікога не баяўся: ні

былых крымінальнікаў салдат, ні камандзіра роты. Адчуў сябе мужчынам, які здольны даць здачы, абараніць сябе і жонку, так, як абаранялі сябе бацька з дзедам у вайну, калі іх аблажылі з усіх бакоў у балоце немцы. Ён здолее змагацца за сваю і жончыну годнасць. І будзе змагацца...

Назаўтра дзяжурны па роце паклікаў Сяргея ў канцылярыю да Марціросава. Капітан, не гледзячы на яго, моўчкі паклаў перад ім паперу. Гэта быў загад камандзіра батальёна аб пераводзе малодшага лейтэнанта Суржынскага начальнікам асобнага паста, які знаходзіўся далёка ў гарах...

## Калі пяюць птушкі

Ужо спявалі птушкі, і неба, быццам забаўлялася, то чарнела пад націскам дажджу і ветру, то рабілася чыстым, без воблакаў, як нехта прайшоўся па ім ручніком. І сонца пачало актыўна зазіраць на зямлю, цікаваць за людзьмі, каб часам бліснуць у вока сваім імклівым і гарачым промнем.

Станіслаў, прымружыўшы вочы, стаяў на прыпынку, чакаў свой аўтобус, якога чамусьці ўсё не было і не было. Прайшлі два тралейбусы, маршрутнае таксі. Людзей на прыпынку то меншала, то павялічвалася. Усе яны нерваваліся, некуды беглі, мітусіліся.

Станіслаў не спяшаўся. У яго быў вольны дзень: ад работы, ад сям'і. Так ён сам для сябе вырашыў: на дзень спыніцца, зрабіць сабе перапынак, не думаючы ні аб чым. На службе нібыта ўсё было было пакуль спакойна, дома таксама. Жонка з дзецьмі паехала на два тыдні ў Балгарыю.

Ён нетаропка паснедаў, апрануўся, пакінуўшы ў шафе абрыдлы гальштук, які кожны дзень вісеў на ягонай шыі, – і вось паўгадзіны ўжо стаяў тут, на прыпынку. Сонца свяціла, спявалі птушкі. Жыццё нібыта было радасным і вечным.

Некалькі чалавек падаліся яму знаёмымі. З імі ён кожную раніцу ехаў у аўтобусе. Толькі не ведаў іх імёнаў, дзе працуюць. Іх твары былі для яго прывыклымі, як нумар аўтобуса. Чамусьці сёння і гэтыя людзі ехалі не ў свой час. Магчыма, адгул, як і ў яго.

– Добры дзень, Яцэвіч! – да Станіслава звяртаўся невысокі сіваваты мужчына. Яго хударлявы твар быў гладка паголены, прычоска вельмі кароткая. Шэры касцюм добра адпрасаваны, хоць, як кажуць, не першай маладосці. Няйнакш гадоў пад дваццаць, яшчэ балгарскай сацыялістычнай вытворчасці. У Станіслава таксама некалі быў такі касцюм, які ён даўно адвёз бацьку ў вёску. Бацькі няма ўжо дзесяць гадоў. – Вы ж Яцэвіч? Адразу і не пазнаў.

– Яцэвіч. Але я вас не ведаю, – Станіслаў ветліва нахіліў галаву і нават не паспрабаваў успомніць гэтага чалавека, таму што той быў для яго нецікавы і незнаёмы. Не было аніякага жадання аб нечым пустым размаўляць, прыгадваць. Ён сядзе ў аўтобус і будзе ехаць да канца, потым пагуляе па парку. Паласуецца шашлыком, вып'е бутэльку сухога чырвонага віна, пачытае газеты. І будуць толькі дрэвы, сонца, неба. Ён адзін на лаўцы. А вакол цішыня, спакой і ніякіх турбот. І дзе, ўрэшце, той аўтобус?

– А я вас помню. Прафесійная памяць, – мужчына крыва ўсміхнуўся і цмокнуў языком. – Хоць, канечне, час не нашу карысць. Вы былі худзенькі. І валасы доўгія, светлыя, бы салома. А цяпер і сівізна з'явілася. Я вас адразу пазнаў. Таксама тут недзе побач кватэра?

Станіслаў паціснуў плячыма і нічога не сказаў. Гэты мужчына нечым

зачапіў яго, і яму стала цікава, што далей. Надта пільны быў позірк, вочы глядзелі ўпэўнена, калі не нахабна. Гэты чалавек, несумнена пенсійнага ўзросту, трымаўся так, быццам за плячыма меў паўцарства. Ён адчуваў сябе гаспадаром на зямлі. І гэта нягледзячы на дваццацігадовы касцюм. Туфлі ў яго былі новыя і дарагія. Станіслаў, са сваёй неблагой быццам бы зарплатай, ні разу не купіў сабе такіх. Ён за год ледзь сабраў грошай для паездкі жонкі з дзецьмі ў Балгарыю. Дый ніколі не шыкаваў. Хоць добры абутак прыемны не толькі для вока, але і для здароўя.

І дзе ж аўтобус? "Пад'еду першым жа тралейбусам, а потым перасяду на метро, ад якога таксама недалёка да парка".

– Семдзесят чацвёрты год. Бабіцкі. Камсамольскі сход на факультэце. Не помніце? – зноў пачуўся голас аматара курыць з вялікім стажам, да якога Станіслаў пачаў прывыкаць, хрыплы і гучны. – Няўжо не помніце?..

Камсамольскі сход вясной семдзесят чацвёртага года Станіслаў ніколі і не забываў. І чым далей адыходзіў у нябыт той дзень, тым часцей ён яго ўспамінаў. Асабліва калі сяды-тады ўсплывала прозвішча Бабіцкага, танклявага невысокага хлопца з чорнымі кучаравымі валасамі.

...Шум, усе ўзбуджаныя. Нейкі агульны істэрычны настрой. За сталом сядзяць намеснік дэкана Самовіч, намеснік сакратара парткама Круза і гэты чалавек у шэрым касцюме. У гэтым самым шэрым касцюме балгарскай вытворчасці. Таварыш Захараў, прадстаўнік кампетэнтных органаў.

У аўдыторыі студэнты іхняга курса, чалавек сто. І раптам – цішыня. Чуваць, як за суседнім сталом нешта піша Валя Кучынская, і папера патрэсквае, трашчыць пад яе пяром.

Выступае Уладзік Валасавец. Ён гаворыць, што Іосіф Бабіцкі вінаваты ў тым... Станіслаў пачынае ўспамінаць. Ён успомніў: Валасавец гаварыў, што Бабіцкі распаўсюджваў сіяніцкія ўлёткі, якія запрашалі ехаць у Ізраіль. Так, гэтыя сіяніцкія ўлёткі Іосіф падкладваў пад падушкі ўсім, хто жыў у іхнім пакоі ў інтэрнаце. Гэта гаварыў Валасавец. Уладзік. Актывіст, які праз год стаў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Валасавец? Дзе прыгажун Уладзік, на вуснах якога заўжды была ўсмешка? Валасавец жыве на лецішчах. Гэта сказала Станіславу яшчэ два гады назад аднакурсніца Валя Кучынская. Ён спіўся. Жонка з ім развялася і выгнала з кватэры. Ён жыве тым, што заробіць у суседзяў: адрамантуе цяпліцу, ускапае грады. Спіць часам пад плотам альбо ў клапатлівых старых кабет, якім не хапае мужчынскай увагі.

– Вы чуеце мяне? – пытаецца мужчына з мінулага. Канечне, гэта ён сядзеў за сталом як прадстаўнік кампетэнтных органаў. У галаве бліснула, і Станіслаў успомніў: таварыш Захараў.

І дзе той ягоны аўтобус, які спыніць непрыемную для яго размову?! Вось ён спыняецца на прыпынку. Але Станіслаў нават не паварушыўся. Ніякай ужо ахвоты некуды ехаць, піць сухое чырвонае віно і есці шашлык. Ён стаіць і думае... Хоць не хоча пра гэта думаць. Быццам цвік у сцяне, трымаецца ўспамін, ад якога, відаць, немагчыма, пазбавіцца. А перад ім сіваваты мужчына, усміхаецца, здзекліва пазірае і адчувае сябе панам, а ён, Станіслаў, разгубіўся. Спалохаўся, страшна перад мінулым, якое ніколі не пакіне яго. Ніколі. Разгублены Іосіф Бабіцкі, Уладзік Валасавец, Аляксей Бурдзік, які памёр. Памёр, упэўнены, што правільна жыў, браў Бога за бараду. Ён казаў: сіяністы хочуць, каб кожны жыхар Беларусі паехаў у Ізраіль. Ён рабіў націск на апошнім складзе. А ўвечары Станіслаў бачыў,

як п'яны Бурдзік цягнуў за каўнер Бабіцкага і крычаў, што яўрэі выпілі ў кране ўсю ваду. Асабліва такія, як Бабіцкі. Той плакаў: дзед загінуў на фронце, а бабуля лячыла параненых у партызанскім атрадзе.

Станіслаў не даў Бурдзіку ў морду, а рагатаў разам з іншымі, назіраючы гэтую карціну. Яны ўвесь вечар пілі віно "Вермут" і радаваліся, што, нарэшце, пакаралі сіяніста. На сходзе ж дружна прагаласавалі, каб выключыць Бабіцкага з камсамолу.

Хоць не, не было дружнага галасавання. Не было. У першай групе вучыўся Васіль Казакевіч. Высокі, прыгожы, з сінімі-сінімі вачыма. Кандыдат у майстры спорту па боксе. У яго былі закаханыя ўсе дзяўчаты. Шырокія плечы, былы курсант авіяцыйнага вучылішча, які паступаў ва ўніверсітэт у лётнай форме. На грудзях значок дэсантніка. Пасля першага курса Васіль гаварыў па-французску, як Станіслаў на роднай мове.

Васіль падняўся, агледзеўся і сказаў: "Я таксама хачу паехаць у Ізраіль". І змоўклі ўсе, нават тыя, хто яшчэ паціху расказваў анекдоты, смяяўся ці чытаў кніжку. Аўдыторыя ператварылася ў пустыню, якая прыціснула Станіслава, а магчыма, і ўсіх, да бездані і зверху прытуліла гарачым дахам. І выратавання ўжо не было. Не было...

"Хто пацвердзіць тое, што Бабіцкі распаўсюджваў сіяніцкія лістоўкі?" – пытаў Васіль Казакевіч. Усе маўчалі, толькі мужчына ў шэрым касцюме, якога намеснік сакратара парткама Круза назваў прадстаўніком кампетэнтных органаў, густым і хрыплым голасам абвясціў: "Вы здраднік і саюзнік сіяністаў!"

Станіслаў даўно не бачыў Васіля Казакевіча. Нават цяпер было б сорамна глядзець у яго сінія вочы. Хоць мінула столькі гадоў, і мала хто помніў пра той сход на іхнім факультэце. Але ж ён сам не забыў...

Праз месяц пасля сходу Казакевіч забраў дакументы з універсітэта і нібыта зноў паступаў у нейкі інстытут. Які быў ягоны лёс, Станіслаў не ведаў. Тады ён быў шчаслівы, што не выступаў на сходзе. І ўся гэтая гісторыя не датычылася яго. Яму хацелася хутчэй скончыць універсітэт і застацца працаваць у сталіцы. А Бабіцкі? У яго свая дарога. Ён ніколі не падабаўся Станіславу – занадта разумны, адукаваны, інтэлектуал. Хоць, канечне, гэтая гісторыя са сходам была яму не даспадобы.

– Я вас успомніў, таварыш Захараў, – сказаў Станіслаў, і яму захацелася праз трыццаць гадоў гэтаму самаўпэўненаму старому даць у морду. Ды так, каб у яго нахабных вачах з'явіўся страх, каб твар не быў больш такі задаволены. Таму што не ён гаспадар жыцця, не ён!.. – Вы нешта хацелі?

– Нічога. У мяне выдатная пенсія. І я сяго-таго кансультую... Проста я не забываю тых, хто з намі супрацоўнічаў. Я вам патэлефаную, – ціха і цвёрда прамовіў мужчына і адразу накіраваўся да тралейбуса, які ўжо спыняўся на прыпынку.

– Я з вамі не супрацоўнічаў, не супрацоўнічаў! – закрычаў Станіслаў і нават зрабіў крок яму ўслед. – Сволата! Я з табой не супрацоўнічаў!..

...Пад вечар ён сядзеў у адзіноце ў інтэрнацкім пакоі і рыхтаваўся да сесіі. Была субота, і хлопцы з'ехалі ў вёску па сала. Ён у бацькоў быў тыдзень назад, і прадуктаў пакуль хапала.

За вакном пачынала цямнець. Станіслаў паглядзеў на гадзіннік: час ужо выйсці на вуліцу падыхаць веснавым свежым паветрам. Стук у дзверы, якія праз хвіліну адчыніліся. На парозе стаяў мужчына ў цёмна-шэрым рацінавым паліто, у руках андатравая шапка.

– Вы, Яцэвіч?

– Я... – трошкі разгубіўся Станіслаў, таму што ў незнаёмцы пазнаў прадстаўніка кампетэнтных органаў, які прысутнічаў на камсамольскім сходзе.

– Вы сядайце, сядайце, – казаў мужчына. – Я ненадоўга. Да сесіі рыхтуецеся?

– Так...

– Ну і выдатна, выдатна... – мужчына агледзеўся, закурыў, пільна разглядваючы Станіслава. – Выдатна. Я – Анатоль Іванавіч. Я – прадстаўнік...

– Я помню, – спрабуючы застацца спакойным, прамовіў Станіслаў. – Слухаю вас...

– Вы старшыня студэнцкага прафсаюзнага камітэта. Ці правільна мяне інфармавалі?

– Правільна.

– Да вас просьба. Не толькі ад нас, але і ад дэкана. Бабіцкі, які з'яўляецца актыўным сіяністам, а значыць, нашым ворагам, працягвае жыць у інтэрнаце. Вам тры дні, каб вырашыць гэтае пытанне: ён не павінен жыць у інтэрнаце і працягваць сваю варожую прапаганду. Як старшыня студэнцкага прафсаюза... Карацей, вам усё зразумела? Інакш мы падумаем і пра вас... Зразумела?

– Зразумела, – прашаптаў Станіслаў, а калі падняў вочы ад падлогі, Захарава ў пакоі ўжо не было. Толькі засталося воблака цыгарэтнага дыму, і моцна пахла адэкалонам "Шыпр".

Пасля таго сходу Бабіцкі год знаходзіўся ў акадэмічным адпачынку, а потым аднавіўся ва ўніверсітэце. І ён сапраўды жыў "зайцам" у інтэрнаце. Ніхто, здавалася, пра гэта не ведаў. Начаваць ён прыходзіў вечарам. Але ж нехта прасігналіў. Хто і навошта? Мільгнула думка і прапала. Нешта трэба было рабіць. Ясна, што гэтыя прадстаўнікі не адчэпяцца. Трэба самому ратавацца. Бабіцкі перажыве. Няхай начуе на прыватнай кватэры. Бацькі, кажуць, у яго маладыя. Дый вагоны на таварнай станцыі можна разгружаць. Ён не хворы, рукі і ногі ёсць. І дэкан, мусіць, так лічыць. Скажу Бабіцкаму, што інакш будзе горш. Горш усім: і яму, і мне. Дый дэкану...

Станіслаў спаў ноч спакойна, нішто яго не трывожыла. Раніцай ён выклікаў Бабіцкага ў калідор і, усё-ткі адчуваючы сябе няёмка і не ведаючы, як пачаць, выціснуў:

– Іосіф, ты мяне пытаў наконт месца ў інтэрнаце. У сэнсе, каб узаконіць яго...

– Так-так, – узрадаваўся Бабіцкі. – Я цябе прасіў. Дапамажы, Стась. З мяне піва. Абрыдла, як злодзею... Азіраешся... Дый хлопцам не зусім утульна. Ты ж разумееш?

– Разумею, – ужо больш упэўнена прамовіў Станіслаў. – Але ж... Такая справа.

– Ты не сумнявайся. З мяне піва, – амаль радасна гаварыў Бабіцкі. – Калі будзе пасяджэнне прафкама? Ці ўжо было?

– Ты разумееш, – выціснуў нарэшце з сябе Станіслаў. – Ты разумееш. Мне сказалі... Ты паслухай..

– Што слухаць? Пайшлі! На піва грошы ў мяне ёсць.

– Іосіф, якое піва?..

– Стась, ці ў цябе яшчэ ёсць пытанні?

– У мяне няма пытанняў. Іосіф...

– Стась, ты хочаш яшчэ і гарэлкі. У мяне грошай мала.

І Станіслаў сказаў, як хацеў ад яго таварыш Захараў. Ён выціснуў гэта з сябе, нібыта кроў. Ён вымавіў, тое, што не магло спадабацца Бабіцкаму.

– Іосіф, прашу сёння пакінуць інтэрнат. Я цябе прашу, і больш сюды не вяртайся. Зараз пакінь інэрнат... Зараз...

Чамусьці ён зазлаваў, пачаў крычаць, каб Бабіцкі неадкладна пакінуў інтэрнат. Потым ён выпіў бутэльку гарэлкі, якая раптам апынулася на стале ў іхнім пакоі. І ўсе суседзі радасна віталі яго, гаварылі, што ён малайчына... Ён малайчына, малайчына... Навошта саступаць гэтым сіяністам?.. Які малайчына Станіслаў! Ой, малайчына!..

...Станіслаў прысеў на лаўцы, якая, паўразламаная і паўгнілая, панура стаяла трошкі ўбаку ад прыпынку. Яму ўжо нікуды не хацелася ехаць. Гэты чалавек парушыў ягоны ўнутраны спакой. Ён вярнуў яго ў той час, пра які Станіслаў раней успамінаў з радасцю, але гэтыя дэталі, што датычыліся яго, былі нейкія размытыя, далёкія-далёкія. Іх як і не існавала. Даўно ўсё было і мінула. Наогул, не хацелася думаць пра многае. Не хацелася. Таму што кожны дзень вяртацца ў мінулае, нешта бясконца ўзгадваць – гэта не самы лепшы варыянт... Але які варыянт? Пры чым тут варыянты? Сутнасць у іншым...

Ён не паедзе ні ў які парк, не будзе піць чырвонае сухое віно. Перад вачыма – той камсамольскі сход, і галасы, нібыта зараз яны гучаць. Іосіф Бабіцкі, які з сумкаю выходзіць з інтэрната. Вакол растуць дрэвы, і пяюць птушкі. Яны пяюць радасна, шчасліва. Іосіф глядзіць і гаворыць:

– Вераб'і пяюць, вераб'і... Мне шкада цябе, Стасік...

Станіслаў чуе гэтыя словы, яны гучаць нібыта зараз, толькі што. Ён вяртаецца дахаты. А вечарам ён уздрыгвае ад тэлефоннага званка:

– Яцэвіч?..



Воля Чайкоўская



…Я табе дам дакладны адрас выйсця
З гэтага пекла…

# Лабірынты

* * *

Гэта паэзія?
Тое, што я думаю,
Гэта паэзія?
Гэта паэзія,
Калі ўрачы глядзяць
На маю кардыяграму
І заўжды здзіўляюцца:
– Што гэта за словы?
На якой гэта мове?
О-о! Ды ў вас брадыкардыя!
У вас сэрца баліць?
– Баліць. А няго ж!
Дайце! Дайце!
Я сама прачытаю, што напісала маё сэрца!

### *ХАМ*

Я вам звязала б рукі
Сваёй лаянкай,
Калі б лаянка мела ўласцівасць вяроўкі
Звязваць.
Я стрэліла б вам у твар сваім дыханнем,
Калі б выдых мог забіць.
Я расфарбавала б вам шчокі
Чырвонай памадай,
Калі б ад пунцовасці шчок
Прачнулася ваша сумленне.
Вам я падклала б мыш'як у варэнне.
Вам не дала б забыцця і збавення.
Вам – Хам!

### *ВЕЦЕР*

Такі моцны вецер,
Што калі дазволіш сабе расслабіцца,
Ён занясе цябе далёка на поўнач.
І на месцы твайго знікнення
Пакіне табе помнік –
Водар парфумы.
Калі б ты рашыўся быць некім большым,
Чым проста ісці побач,
Я падтасавала б карты,
Падкупіла б руны.
І хай сабе вецер свішча,
Даводзячы фіранкі да аргазму.
Я табе дам дакладны адрас выйсця
З гэтага пекла.

Але не адразу.

### * * *

І не заўважыш,
Як ператворышся ў драўлянага ідала
З пустымі вачыма,
Будзеш стаяць пасярод лесу
І нічога не выражаць.
І не заўважыш,
Як апынешся наводшыбе, у лагчыне
Будзеш у брудзе і адзіноце
Тварам долу ляжаць.
І не заўважыш,

Як знікнуць знічкі –
Апошняя твая надзея
На цуд.
І не заўважыш,
Што больш нідзе,
Ты так не патрэбны нікому,
Як тут.

## *З неіснуючай нізкі вершаў "Урокі жыцця"*

** * **

Забыць і ісці наперад.
Страх растаптаць нагамі.
Змыць вадою згрызоты
І авечы адчай.
Ёсць час-вечнасць,
Ёсць час-нерат.
У кожнага часу свае пытанні,
Свае пекла і рай.

Сысці ў нябыт троху,
Насыціцца цішынёю.
І Богу даць, і Малоху
Захапіцца тваёй гульнёй.
Ёсць час-аху,
Ёсць час-воху.
У кожнага свой выклічнік,
У кожнага свой герой.

Не будаваць ілюзій.
Не калыхаць паветра.
Мінімум маскараду.
Максімум забыцця.
І перастаць спадзявацца,
Што нехта першы
Сам перастане лічыць цябе
*Дзевачкай для біцця.*

## *ЛАБІРЫНТЫ*

Гэтак паміж людзьмі з'яўляюцца межы, сцены
Ды іншыя прадметы экзістэнцыйнай філасофіі.
Гэтак восень урываецца ў жыццё лістападам.
Сцеле свае серпанцінавыя сцежкі.
Нагадвае пра маладосць і пра сталасць.
Гэтак гаснуць ліхтары ад перанапругі.

Спыняюцца на паўдарозе паведамленні.
Словам, пануе суцэльны
Хаос, дэфіцыт, крызіс
Ідэй і рухаў.
І ў рэальнасці, і ва ўяўленні.
Гэтак перастаеш адрозніваць белмову ад ідыш.
І абсмоктваеш кожнае кінутае табе слова,
Як галодны сабака.
Гэтак разумееш, што ніколі не дойдзеш,
Ніколі не прыйдзеш.
А будзеш жыць вечна.
У лабірынтах падманлівых знакаў.

* * *

У шкле грувасткіх кубкаў
Адлюстроўваецца строгі вечар
Ноч надзявае сваю гіпюравую сукенку.

Хутка спаць.
На вузкім плато паліцы вагона-плацкарта
Не ўпірайся мне ў жывот каленкам.

* * *

У гэтым душным апакаліптычным пыльным горадзе,
Дзе не проста мора,
Дзе акіян паміж двума living розным чалавекамі,
Мы бавілі час, мераючы адно аднаму тэмпературу,
У такт секунднай стрэлкі рухаючы павекамі.

Лічылі гадзіны, хварэлі на ангіну, лячыліся.
Узгадвалі летнікі і лецішчы, і высылкі на вёску
да бабулі на ўсе вакацыі.
Мы неяк так адно да аднаго прыклеіліся,
спрычыніліся.
І толькі калі мы разам, свет мае сэнс,
А Бог мае рацыю.



Усевалад Сцебурака



...часам, па справах бываючы
ў ваколіцах "Дынама", я ўзгадваю
мінулыя часіны, і на душы робіцца цёпла...

# Вячэра з відам на "Дынама"

***Выбраныя абразкі***

***Даўно і не мною заўважана, што з узростам плынь часу, што віруе вакол чалавека, ляціць хутчэй і хутчэй. У дзесяць год нават звычайны тыдзень – гэта такое мора хвілінаў і гадзінаў, што і не загадваеш, што там у канцы таго тыдню будзе! У пятнаццаць – тыдзень ужо драбнее і за меру бярэш месяц, у дваццаць – вядзеш адлік семестрамі, а далей – не паспяваеш азірнуцца. Час ляціць так, што пачынаеш мераць яго, як будаўнікі камунізму, – пяцігодкамі! Здаецца, толькі сабраўся жыць, а дзеці ў двары ўжо завуць цябе дзядзем, маладзенькія дзяўчаты не звяртаюць належнай увагі, а ў дадатак яшчэ і валасіна сівая праб'ецца – не на галаве, дык дзе ніжэй... Карацей – грэй ваду, габлюй дошкі.***

***Гэта, канечне, лірыка. А ў сухой рэшце наступнае: незаўважна і пакрысе васьмідзясятыя адышлі за далягляд, дзевяностыя – таксама перагорнутая старонка, першае дзесяцігоддзе двухтысячных – і тое***

***шпарка аддаляецца ў мінулае за клопатамі новых дзён. Нешта з таго, што раней падавалася значным, мізарнее, як палкае падлеткавае каханне, нешта, наадварот, усплывае, як тапелец з-пад лёду, і набывае значнасць. Тое, што было толькі надоечы днём сённяшнім, стала хай і нядаўнім, але мінулым. За намі вырасла новае пакаленне, а значыць, нашую гісторыю ўжо можна занатоўваць, дадаваць сумніўныя падрабязнасці ды апакрыфічныя факты і распавядаць іншым.***

## Арыенціроўка на мясцовасці

У горадзе-героі Менску, куды ні ступі, – напаміны пра міралюбства беларусаў. Гэтаму сведчаннем ёсць вуліцы Гвардзейская, Артылерыстаў, Сапёраў і іншыя мілітарызаваныя Партызанскія праспекты. Нават танкаў у нашым горадзе два, хаця звычайна населенаму пункту для падкрэслення пацыфізму хапае аднога. Так, два. Першы – каля Дома афіцэраў, а другі – на плошчы Незалежнасці – педагагічны інстытут імя Максіма Танка. Ці, проста, Танк. У гэтым Танку я вучыўся, і з яго вышыні, прапаную агледзецца ў Менску тае пары.

За будынкам педінстытута знаходзілася плошча Мяснікова, адметная прыгожым домам з дзівосна файным балконам. На першым паверсе будынка, з пракаветных часоў, месціўся "Дом фота". Акрамя паслугаў па праяўцы стужкі і вырабу фотак, гасцінны дом быў вядомы невялікім безназоўным барам усярэдзіне, дзе добра было пасядзець, прагульваючы пару ці бавячы "форткавы" час.

З боку плошчы Мяснікова да педу пад'язджалі тралейбусы: 27-ы з Казінца, 43-і і 51-ы з Сярова. Робячы "кола пашаны", яны аб'язджалі галоўны корпус і караскаліся на мост-пуцеправод, што выходзіў на вуліцу Маскоўскую. Пад гэтым пуцеправодам, дарэчы, было разваротнае кола аднаго легендарнага маршруту – тралейбуса №2, які разам з рагатай "адзінкай" калісьці хадзіў па праспекце замест сённяшняй зялёнай "соткі". Дык вось, ад Мяснікова – пад чыгунку рукою дастаць да "кулька" – Інстытута культуры. Там, вядома, былі таксама адметныя месцы – відэасалон і адкрытая піўная пад разгалістымі вербамі, што ўтульна месцілася каля Дома быта.

Відэасалон. Ён варты некалькіх асобных словаў, бо разам з касетамі, відзікамі, ён, як мала якая іншая ўстанова, у наш час маральна састарэў і адышоў у нябыт, стаўшы прыкметаю мінулага стагоддзя, рыхтык як спяваў Візбар: "словно полужесткие крепления или радиолы во дворах". Мне запомніўся ён такім: маленькі хол з крэсламі і столікам, на якім ляжалі пульхныя тэчкі з пералікам стужак па жанрах. Асобныя кабінкі для прагляду, цёмныя, маленькія, набрынялыя застарэлым пахам тытуню і пылу. Праседжаныя крэслы з бруднымі чахламі ў плямах падазронага паходжання. Тэлекі састарэлых мадэляў з парушанай перадачай колераў і гэты непаўторны аматарскі аднагалосы пераклад! Колькі ўсяго там было пабачана ўпершыню: "Форэст Гамп" і "Выратаваць шараговага Райана", "Даўн хаўс" і "ДМБ", "Вядзьмарка з Блэр" і "Брат" і шмат якія іншыя культавыя і прахадныя, цікавыя і пустыя фільмы... Цяпер на месцы салону "Рыбалоў", але, праязджаючы паўз Інстытут культуры, я не-не ды і зірну ў тую нішу, дзе на шыльдзе з выяваю сіняга тэлека грунтоўна быў выведзены надпіс – "Відэасалон".

Але вернемся да Танка. Адразу перад галоўным яго корпусам – велізарная імперская плошча Незалежнасці з Іллічом наверсе – на пастаменце

каля Дома ўраду, і Іллічом унізе – на станцыі метро. Пасля заканчэння заняткаў часцяком з купкаю аднакурснікаў мы ішлі проста на гэтую плошчу і сядалі на лавы пагрэцца на сонейку.

У той час, па-сутнасці, плошча была на дзве траціны звычайнай аўтамабільнай стаянкай, а ў частцы, што набліжалася да гатэлю “Мінск”, была падабенствам сквера, толькі з той акалічнасцю, што вялізныя лавы атачалі не дрэвы, а высокія, ў рост чалавека, па-вайсковаму вуглавата падрэзаныя кусты. Кусты, высаджаныя літараю “П”, рабілі гэтую частку плошчы тупіковаю і ціхаю, дзякуючы чаму яна нагадвала нейкую схованку, што дзіўным чынам утварылася сярод мітусні гораду.

Там мы і сядзелі, схаваныя ад вачэй цікаўных мінакоў, жавалі набытыя ў сталоўцы булкі і запівалі іх півам з шапіка ад рэстарацыі “Папараць-Кветка”, што стаяў на сцежцы ледзь не пад самым мурам Валадаркі. Цёплае піва, адкарkаване аб лаву, моцна пенілася і лілося па пальцах на сухі, як прысак, пыльны чырвоны дол, весяліла і хутка туманіла нашыя светлыя і не вельмі галовы. Падсохлыя булкі еліся кепска і значнаю сваёй часткаю даставаліся рудым пацукам, што ў вялікай колькасці жылі ў непралазнай густэчы кустоў на плошчы. Не надта баючыся нас, хвастатыя жыхары цэнтру выбіраліся са сваіх хованак і цікавалі – чым разжыцца ад нашае грамады. Мы ж плацілі ім за прытулак недаедзенымі бутэрбродамі ды буфетнымі прысмакамі, па-дзіцячы цешачыся з маленькіх жывёлак, што жылі ў сэрцы сталіцы, нікім, акрамя нас, бадай, і не заўважаныя. Куды падзеліся пацукі з пачаткам маштабнай рэканструкцыі плошчы? Не ведаю. Але спадзяюся, што своечасова збеглі ў сутарэнні навакольных будынкаў, а мо ў лёхі касцёлу святых Сымона і Алены...

Дарэчы, за Чырвоным касцёлам была яшчэ адна выдатная лакацыя, таксама ўтульная і даволі ціхая. У яе цэнтры меўся фантан, заценены дрэвамі і атачаны невялічкімі лаўкамі, справа стаяў Музей кінематаграфіі, тамсама, акрамя ўзгаданай рэстарацыі, знаходзілася славутая “Галактыка” ці “Сцякляшка” – кавярня, дзе варылі някепскую каву на пяску, гатавалі дэмакратычныя канапкі ды чабурэкі і налівалі чарку. “Галактыку” палюблялі інстытуцкія выкладчыкі, дробныя чыноўнікі прылеглых міністэрстваў і пахмельныя інтэлігенты з ваколіцаў. Цяпер на яе месцы элітны паб “Дрожджы” і кантынгент відавочна змяніўся.

У тым жа будынку, правей ад кавярні, паміж ёй і “Папараць-Кветкай”, была сталоўка, дзе пару разоў на тыдзень акрамя звычайных наведвальнікаў карміліся сацыяльнымі абедамі з пластыкавага посуду шматлікія бадзягі і п’янтосы з прывакзалля. Скалечаныя ды бажавольныя прыходзілі масава, прыносілі з сабою смурод, вошай і недапітыя бутэлькі, з якіх, паміж прагным ужываннем ежы, трохі саромеючыся, рабілі вялікія глыткі. З часам на месцы сталоўкі з’явіўся боўлінг, пазней – адзін начны клуб, пасля другі, трэці... Смярдзець стала па-іншаму.

Паміж Домам ураду і міністэрствам на завулку Берсана, што злучаў плошчу і вуліцу Мяснікова, была кавярня “Зодчыя” – месца нашых заўсёдных пасяджэнняў у халодную пару года. Інтэр’ер кафэ быў бездакорна вытрыманы ў класічным савецкім стылі – масіўная мэбля, сцены, абабітыя чырвоным дэрмантынам з драўлянымі ўстаўкамі, паўзмрок, высокая барная стойка з мармуровай стальніцай. Кавярня ў дзённыя часы злучалася са сталоўкай, што знаходзілася побач і праз тое шмат хто, спачатку адстаяўшы чаргу да сталоўскай раздаткі, пасля прыходзіў з падносам у кафэ, каб узяць аперытыў. Гэты сімбіёз быў на карысць абодвум установам, і на

такія пасажы ніхто не звяртаў увагі. Публіка была даволі прыстойная і дэмакратычная, праз тое, што бедная. На прынесеныя з сабою бутэрброды пaглядалі са спачуваннем і разуменнем. Для нас, студэнтаў, “Зодчыя” былі і клубам, і рэстарацыяй, і страўняй.

Узгадваючы прылеглыя да пляца ваколіцы, дзе мы пачуваліся па-свойску, адзначу яшчэ слынную “Чабурэчную” на вуліцы Валадарскага і сквер “ля Фелікса” ці “на Ўзвышшы”, дзе, нягледзячы на пільнае вока старэйшага брата, ніхто не замінаў нам дурэць, граць на гітары і піць піва.

Вось такая была нашая айкумена. Жывучы хто-дзе, шмат цягаючыся пешшу, мы ўсё ж не дужа любілі выбірацца кудысь далей за Нямігу ці Кастрычніцкую плошчу. Тут не было “мясцовых”, ніхто не прэтэндаваў на столікі ў кавярнях і лавы ў скверах, якія былі акупаваныя хіба такімі ж, як мы, студэнтамі з навакольных ВНУ. Перажыўшы збянтэжанасць першага курсу, мы, дарослыя і самастойныя 18-ці – 19-ці гадовыя хлопцы, жылі напоўніцу па прынцыпе “дасць Бог дзень – дасць Бог тышчу”, задавальняючыся мінімумам і атрымліваючы асалоду ад жыцця.

## Філаматы

Калі развітацца з пляцам Незалежнасці і пашпацыраваць па праспекце Скарыны, то, мінуўшы Паштамт, мы неўзабаве дойдзем да “Падпісных выданняў”, куды добра было завітаць, пацікавіцца новымі кніжкамі.

Робячы адступленне ад шпацыру, мушу сказаць, што ў кнігарнях тае пары было шмат цікавага – хапала мастацкай беларускамоўнай літаратуры, кніг па гісторыі, краязнаўстве, этнаграфіі. Запушчаны ў пачатку 90-х рухавік трэцяй хвалі беларусізацыі працаваў нават тады, калі вонкавыя прыкметы былі ўжо нябачныя. Так – паліграфія была часам дужа кепская, але кнігі былі добрыя, і галоўнае, іх было шмат. Небагатыя беларусы тады ашчаджалі на ўсім, а вось кнігі купляць мажлівасць была, іншы бок, што карысталіся ёй людзі няшырака і калі заводзілася якая вольная капейчына, то найхутчэй заставалася яна не ў кніжнай, а ў харчовай краме. А пры гэтым, хто хацеў, мог прыдбаць шмат выдатных рэчаў. Часта сустракаліся кнігі, выдадзеныя шмат год таму, кошт якіх цалкам з’ела інфляцыя, набыць іх можна было за сімвалічны кошт. Акрамя таго, на паліцах букіністычных аддзелаў пракідаліся дзівосныя экземпляры, якія былі вартыя музеяў і калекцый. Вядома, у добрыя часы кнігі застаюцца на паліцах, а вось у складаныя моманты, яны мяняюцца на хлеб і кілбасу па мізэрным курсе...

Так, кнігарні былі неад’емнай часткай майго студэнцкага сусвету. З сябрамі, якіх цікавіла нешта, акрамя канспектнага мінімуму, мы выдатна ведалі ўсе асноўныя кнігарні гораду і не меней як раз на месяц збіраліся ў выправу па іх. Кніжны маршрут быў наступны: “Падпісныя”, “Цэнтральная”, “Паліткніга”, сядзіба фронту на Варвашэні, “Кнігарня пісьменніка”, сядзіба ТБМ на Румянцава, “Букініст” (каля плошчы Якуба Коласа), “Акадэмкніга” і кніжны развал у фае самой Акадэміі навук, шапік у навучальным корпусе філфака БДУ на Маркса (у былой партшколе), апроч таго часам завітвалі ў “Светач” на Нямізе. Асобным рытуалам былі начныя паездкі на кніжны кірмаш у Палац моладзі на Камсамольскім возеры, але гэта асобная гісторыя.

Так у пячорную даінтэрнэтную пару, якую мы, дзякуй Богу, заспелі напоўніцу, такія важы давалі асалоду валодання цікавымі і карыснымі

выданнямі, прычым часта ў эксклюзіўным адзінкавым варыянце. Кнігі з тых вандровак, прачытаныя мной і маімі сябрамі, цяпер стаяць на паліцах ва ўласнай і бацькоўскай кватэрах, і я памятаю не толькі іх змест, але і гісторыю нашай з імі сустрэчы.

## Двойка

Вучыцца ў сталіцы – толькі палова справы, а вось недзе ў ёй жыць – іншая, але не менш важная палова. Не скаргі дзеля, але дзеля гістарычнай справядлівасці зазначу, што нашая шматпаважаная бурса давала месцы ў пакоях інтэрнатаў ці ў выпадках нейкага асаблівага статусу студэнта – стараста групы, прафорг, знаны спартовец-разраднік – ці пры наяўнасці выключных ільготаў. Паколькі ў мяне ані надзейнага блату, ані рэкордаў, ані сіроцтва не назіралася, то я сустрэў чарговы навучальны год з надзеяй на лепшае і цалкавітай адсутнасцю якога-кольвек трывалага прытулку.

Вераснёўскае беспрытульнае бадзянне студэнтаў у тыя часы – з’ява звычайная і традыцыйная. Мала каму клапатлівыя і заможныя бацькі загадзя, з сярэдзіны жніўня, здымалі кватэру. Калі такое і надаралася, то тычылася найперш дзяўчат ці зялёных першакурснікаў, якімі матулі і татулі апекаваліся больш. Багата ж самастойных і адчайных хлапцоў, прыехаўшы ў Менск з торбай пальцам пханай каўбасы і 30-ю далярамі ў кішэні, вырашалі праблемы, што называецца, па меры іх надыходу. Хтосьці чакаў цуду, хтосьці шукаў кампанію для супольнага здыму пакоя ці хаты, а хтосьці проста, у стылі сярэднявечных студыёзусаў, ад усяе душы паразітаваў на сваяках, сябрах і першых сустрэчных з мяккім сэрцам і няўменнем своечасова адмовіць.

Праз тыдзень-другі, бліжэй да сярэдзіны верасня, большасць такіх бадзягаў недзе асядала. Заставаліся ці зусім гаротныя студэнцікі, ці прынцыповыя індывідуумы, што сведама і не без задавальнення схіляліся да асацыяльнага ладу жыцця. Паколькі я не належаў ні да першых, ні да другіх, то мяне беспрытульны стан пачаў раздражняць і непакоіць.

Аднойчы я стаяў на рагу вуліцы імя айца-заснавальніка марксізму, у глыбокім задуменні, што ж рабіць з кватэраваннем. Пакуль я пракручваў усе мажлівыя варыянты, ногі панеслі мяне ў госці да брата Толі, які ў той год якраз, паспяхова здаўшы іспыты, толькі паступіў на першы курс гістфака айчыннага флагмана навукі. Прыйшоўшы ў бэдэушны інтэрнат №2, а менавіта там жыў мой брат, я выклікаў яго праз дзяжурных (былі такія студэнты, што сядзелі каля вахты і бегалі клікаць па пакоях тых, да каго прыйшлі наведвальнікі), а сам далікатна чакаў у вестыбюлі, разглядаючы незнаёмых паненак ды наглядную агітацыю на сценах. Тут, па збегу абставінаў, я выпадкова пазнаёміўся з чуллівай загадчыцай, і, заваяваўшы яе давер пры дапамозе гаротнай гісторыі і каньяку з цукеркамі, быў заселены. Адчуўшы сябе амаль сынам турэцкападданага, я з імпэтам пачаў абжывацца на новым месцы.

Сталася так, што на *-ым курсе студыявання мне давялося жыць у новым для мяне і цікавым раёне Менска. Цікавы ён быў цэлым шэрагам адметнасцяў. Першай з іх было тое, што быў гэта самы цэнтр. Вучыцца ў цэнтры і жыць у цэнтры вялікага горада – раскоша нават для карэнных жыхароў, а для тых, хто панаехаў – наогул мала магчымая. У жудасныя 90-я, калі над краінай луналі сцягі агалцелых нацыяналістаў, стаялі заводы і параходы, рэдкія альмамацеры прымалі ўсіх сваіх галодных да ведаў сы-

сункоў на пастой. Праз тое шмат хто з пакутнікаў навукі цягаўся штодня з трыма перасадкамі з далёкіх спальных раёнаў ці, нават, не маючы прытулку ў межах кальцавой, выкульваўся паўсонным з ранішніх прыгарадных электрычак, што прывозілі ў горад аляхновічцаў, жодзінцаў і іншых негарэльцаў з заспанымі тварамі і газетамі "Частный детектив" у кішэнях.

Сярод розных частак Менску, якія агульнапрынята лічыць цэнтрам, кавалак, што прымыкае да Свіслачы ніжэй вуліцы Першамайскай, стаіць асобна – і ў гэтым палягае другая адметнасць месца майго пасялення. Так склалася, што гэты абшар горада апынуўся нібы ў баку ад асноўных транспартных магістраляў, тут засталіся вялікія зялёныя зоны, няшчыльная забудова, а таксама прамысловыя тэрыторыі лікёра-гарэлачнага і дражджавога заводаў, якія нібы закансерваваліся ў часе і адгарадзілі гэтую частку Менску, не пусціўшы да сябе новабудоўлі ды тлум.

Вось у такім месцы я і пражыў, напэўна, адзін з найбольш цікавых перыядаў свайго студэнцтва. У наш час будынак, перажыўшы капітальны рамонт, як і раней годна ўзвышаецца на беразе Свіслачы, гасцінна прымаючы штогод, не раўнуючы, як старая шпакоўня, пасталелых і зусім зялёных птушанятаў, што лятуць у сталіцу з бацькоўскага выраю з надыходам навучальнага года. Часам, па справах бываючы ў ваколіцах "Дынама", я ўзгадваю мінулыя часіны, і на душы робіцца цёпла...

### Прывіды апошніх паверхаў

Кожны, хто жыў па казённых жытлах, ведае, у чым там вымяраецца жыццёвая прастора – у койкамесцах. Маеш яго – значыць афіцыйны жыхар, не – значыць, і правы твае птушыныя: у любы момант пільны камендант возьме за каўнер і выкіне, як кацяня. Без койкамесца нельга. У мяне праблема была трошкі іншага кшталту – месца я атрымаў, але сама койка адсутнічала.

Зацягнуўшы ў пакой майно – спартовую торбу з адзеннем, стос кніг з кніжнаю паліцай, аўдыёкасеты і партрэт прэзідэнта фармату А5 у чорнай жалобнай рамцы, – я агледзеўся: жытло што трэба! Настрой узняўся. Паставіўшы рэчы ў меркаваны кут пражывання, мы з гасціннымі аўтахтонамі склікалі нараду, асноўнымі пытаннямі якой былі пошук ложка і тое, чые хатнія закаткі адкаркоўваць на закуску.

Не паспелі мы падняць трэці кілішак за "Вольную незалежную ў межах этнаграфічнага рассялення", як у пакой на пах шкварак завіталі таварышы з суседняга блоку. Не ведаю, па што канкрэтна ішлі да першакурснікаў старэйшыя гістфакаўцы на чале з мажным, як дуб, аспірантам Сцёпам Захаркевічам, але ў той дзень мне дакладна шанцавала, бо яны выявіліся маімі знаёмцамі па летняй археалагічнай практыцы і ўсё скончылася іх далучэннем да бяседы і яшчэ адным паходам у краму.

У выніку ад Сцяпана, чалавека тонкага гумару і добрай душы, я даведаўся, што патрэбны мне элемент інтэр'еру знайсці лёгка, нават не выходзячы з будынка. Сакрэт палягаў у тым, што "двойку" рыхтавалі да капітальнага рамонту і верхнія 4 паверхі былі на той час ужо адселеныя. Апошнія чалавечыя жытлы эпізадычна сустракаліся на 10-м паверсе, але вышэй было пуста. Пры тым, што ў некаторых пакоях заставаліся фрагменты мэблі featurednай ступені захаванасці. Справа была вырашаная, у праваднікі вызваўся вопытны мясцовы кадр – Уладзімер Л. з Астраўца, і мы, дачакаўшыся ночы, пайшлі ў выправу.

Падняўшыся на ліфце да апошняга жылога ўзроўню, далей пайшлі па лесвіцы, захоўваючы рэжым маўчання...

Вось і нежылыя ўзроўні. Выдраўшы злёгку нажыўленыя цвікі, адчынілі дзверы і апынуліся ў доўгім пустым калідоры. Навокал панавала нязвыклая цішыня, аднекуль знізу, нібы з іншага свету, даносіліся рэдкія гукі музыкі, глухі гул ліфта ў шахце, далёкі смех. Калідор быў цёмны, і ад гэтага, прынамсі мне, падаваўся бясконцым. Нежылыя памяшканні наверсе награваліся за сонечны дзень мацней за ніжнія, і таму цемра была яшчэ і цёплай і, нават, нібы пругкай. Падавалася, што нехта дыхае ў твар, казыча шыю і мяккім рысіным крокам ступае побач з намі.

Было ніякавата, але парушаць цішыню не хацелася. Перакінуўшыся шэптам парай словаў, пайшлі навобмацак. Дзверы першага блоку аказаліся замкнёнымі, другога – таксама. Каб не кратаць кожныя, дайшлі да супрацьлеглага канца калідора і паспрабавалі адтуль – карціна тая ж. Напэўна, абачлівая адміністрацыя зачыніла пакоі, але вяртацца з паўдарогі не выпадала, дый не хацелася – таямнічая атмасфера пустых паверхаў адначасова і палохала, і вабіла да сябе, як глыбіня адчайнага плыўца.

Штурхнуўшы дзверы на пажарную лесвіцу, выйшлі на балкон – свежае восеньскае паветра ўдарыла ў грудзі, а ў вушы, разбэшчаныя цішынёй, уварваліся рэзкія гукі ночы з гудкамі цягнікоў вакзала, грукатам позняга трамвая і шоргатам колаў рэдкіх аўто. Абапіраючыся на парэнчы, нібы стомленыя цяжкай справай, перакурылі. Па-ранейшаму неяк арганічна хацелася захаваць рэжым падводнай лодкі: “Па месцах стаяць! У адсеках слухаць!”

Падняліся на паверх вышэй. Тут гукі вонкавага свету былі яшчэ менш рэальнымі. З’явілася адчуванне прысутнасці на гарышчы, якое ў беларусаў здаўна лічылася асобным сусветам, населеным рознымі пачварамі, прымхамі, забабонамі ды затканыя павуціннем мінулага.

Рухаючыся па сцяне, я намацаў чарговыя дзверы блока, націснуў і праваліўся ўперад у атрамантавую цемру. На імгненне падалося, што пада мной бездань, але рукі, інстынктыўна выстаўленыя наперад, пругка сустрэлі падлогу. Я вылаяўся з палёгкай – адчынена! А раз так – пакінута на рабаванне. “Хлопцы, у горадзе віно і жанчыны – гуляем тры дні”, як казалі ў адным папулярным фільме таго часу. Мае “падзельнікі” паведамілі пра падобны вынік і ў іншых блоках на паверсе. Настрой з містычнага ператварыўся ў практычны – мы разышліся ў пошуках прыдатнага ложка.

Блок, у які ўваліўся я, быў амаль пустым, але нешта ў ім прыцягнула ўвагу. Нейкі ўнутраны спакой авалодаў мной і прымусіў прысесці і агледзецца. Пакой быў не такі цёмны, як калідор, яго залівала срэбнае месяцовае святло. У ім, як у чорна-белым кадры даўнейшых стужак, добра чыталася кожная дробязь... Рассохлая елачка паркету, абарваныя шпалеры, зламаны зэдлік, шэрае ад пылу шкло з доўгай, касой, як шабельны шнар, расколінай.

Я стаў пасярэдзіне, заплюшчыў вочы і раскінуў рукі, абдымаючы цішыню. Аглушальна тахкала сэрца, а вакол ні гуку, ні руху. І раптам праз пакой праплыў цень дзяўчыны-дурнічкі ў нямодным пінжаку і стаптаных чаравіках, якая, зацяжараўшы ад араба, не знайшла нічога лепшага, як скокнуць з вакна ўніз на халодны шурпаты асфальт. Яна паспрабавала ўсміхнуцца разбітым ушчэнт тварам і нешта сказаць, але ў той самы момант, нібы чыясьці рука ізноў падцягнула яе да падваконня і штурхнула ўніз. Я апусціў галаву і, аўтаматычна, зрабіў крок назад – ногі стаялі на нечым

слізкім. Пада мной сярод пакоя расплывалася, упітваючыся ў кожную шчыліну паміж засмяглымі дошчачкамі, вялікая лужына барвова-чорнай крыві, якая цякла з цела аспіранта-шызафрэніка, што зрабіў сабе харакіры, не здаўшы кандыдацкі мінімум па гісторыі КПСС. За спінай скрушна прагучала – “Блытаю з’езды партыі, бл...ць...” Я адступіў яшчэ назад і азадкам штурхнуў дзверы – бразнула клямка і зарыпелі завесы – пеўні праспявалі, і насланнё вокамгненна знікла. З цемры калідора данеслася: “Знайшоў! Давайце сюды – панясем!” Заварушыліся.

Яшчэ паўгадзіны мы, ціхенька і з захаваннем канспірацыі, пераносілі трафеі да сябе. У выніку ўдалага рэйду мы займелі цэлыя два панцырныя ложкі і самаробную палічку. Адна сетка сталася маім ложкам, а другая, пастаўленая на рабрыну паўз сцяну, стала спінкай самаробнай канапы ў майго брата. Дарэчы, такое ўдалае выкарыстанне сетак адразу зрабілася мясцовай модай і прыкметай заможнасці марадзёраў інтэрнату.

Карацей, усё атрымалася як найлепш. Ледзь уклаўшыся пад другую ночы, мы, узрушаныя, доўга не маглі заснуць. Скрозь мроіва дрымоты хтосьці сказаў, што ў адным з блокаў, якія ён даследваў, выразна быў чутны плёскат вады ў душы; іншы адчуваў пах жаночай парфумы, толькі распыленай у паветры, у тым блоку, дзе вісела на сцяне пабітае люстэрка. А Толя, які дайшоў да кухні ў самым канцы калідора, пабачыў ля халоднай пліты худзенькага в’етнамца, які смажыў на патэльні смярдзючыя селядцы і ціхенька мармытаў нешта пад нос. Ён стаяў у промні белага святла, і яго дзіцячага памеру шлёпкі на карабку запалак не краналіся зямлі...

### Трамвай

У пачатку вуліцы Кастрычніцкай, каля невялічкага моста праз Свіслач, як вартавы ля брамы, стаяла 13-павярховая “двойка” БДУ. Пад яе вокнамі па вулцы і мастку, нетаропка і неяк незаўважна, настолькі рэдка, наколькі мог сабе дазволіць грамадскі траспарт, праязджаў, пазвоньваючы, трамвай №2. Менавіта гэты трамвай і з’яўляўся той разынкаю, якая дадавала неабходную рэшту каларыту ў агульную карціну тамтэйшай прасторы.

Трамвайны маршрут звязваў бязглуздую плошчу Мяснікова, а па-сутнасці проста разваротнае кола каля чыгуначнага вакзала, з глухім закутком за заводам “Крышталь”, і быў ці не найкарацейшым маршрутам грамадскага транспарту ва ўсім горадзе. Перапынкі паміж трамваямі сваёй працягласцю больш нагадвалі школьныя ўрокі, чым інтэрвалы руху транспарту. Колькасць пасажыраў у ім была істотнай хіба ўраніцу ды ўвечары, калі з завода людзі пад’язджалі 3-4 прыпынкі ў раён прывакзальнай плошчы. А так трамвайчык хадзіў сабе з некалькімі пасажырамі, якія падсядалі, здавалася, больш са шкадавання да яго самотнага існавання, чымсьці з патрэбы.

Час ад часу, вяртаючыся з заняткаў, я выпадкова сядаў на 2-ку на канцавым ля вакзала, ехаў да прыпынку “Дынама” і выходзіў, праводзячы трамвай далей толькі позіркам. Аднойчы інтарэс узяў верх, і я вырашыў высветліць, як там, у канцы маршрута? Пацікавіўшыся ў абазнаных суседзяў, высветліў, што і яны таксама не бывалі Там. Гэта канчаткова схіліла мяне да рашучых захадаў.

Экспедыцыя была абстаўленая з максімальнай грунтоўнасцю – вызначылі дзень, сабраліся і выйшлі пільнаваць трамвай на прыпынак ля стадыёна. Пасля паўгадзіннага стаяння пад зацяжной кастрычніцкай

залевай мы пабачылі нарэшце наш транспарт. Як звычайна ўдзень, амаль пусты, ён, як лятучы галандзец, здаваўся прывідам ў моры машынаў, парасонаў і капелюшоў...

Дзверы, з рыпеннем, вартым замкавай брамы, расчыніліся – мы ўвайшлі ўсярэдзіну. На вольныя месцы не было канкурэнцыі, тыя тры з паловай бабулькі, што сядзелі ў салоне, як сінхраністкі адвярнуліся ад нас да мокрых шыбаў. На пляцоўцы ля ўваходу, ледзь трымаючыся на адным шрубе, вісеў рарытэтны іржавы кампосцер, які нагадваў памерамі і груваасткасцю друкарку "Рэмінгтон". Я пасунуўся прабіць квіток, але дыназаўр, клацнуўшы бяззубым ротам, толькі пашамкаў яго. Падвязе, маўляў, і так.

Мы абтрэсліся, як сабакі пасля шпацыру, і селі. Дзверы за намі зачыніліся, але трамвай застаўся на месцы. Створкі першых дзвярэй адсунуліся ўбок і цётка-кіроўца ў памаранчовай апранасе выйшла на вуліцу. У яе руках быў спецыяльны кастыль, якім яна ўручную перавяла стрэлку, каб наш вагон мог збочыць з Першамайскай направа, праз мост на Кастрычніцкую. Усё гэта адбывалася, як у запаволеным кіно: і дождж, і рухі цёткі. Трамвай хадзіў у сваім уласным часе, і ніхто не мог яго ні прыспешыць, ні замарудзіць... Тым часам, за намі хутка сабралася чарада іншых трамваяў, але яны чакалі з павагаю, як чакаюць тых, хто смела збочвае з пратраляванай сцежкі ў нерушь лесу... Нарэшце, кіроўца вярнулася ў салон і, без аб'яўлення наступнага прыпынку, мы рушылі наперад.

Дождж узмацніўся. Мы, засяродзіўшыся на ўласных думках, глядзелі ў вокны. Міма праплыў родны інтэрнат, канцэртная зала "Мінск", пачаўся доўгі плот і старасвецкія карпусы "Крышталя". Апошнія нашыя спадарожнікі неяк незаўважна пакінулі салон, і мы засталіся адны. Трамвай грукацеў усімі вантробамі і працякаў, як субмарына на крытычнай глыбіні. Мы ехалі і думалі пра сваё.

На апошнім прыпынку, разумеючы, што мы не выходзім, кіроўца запыталася, ці не заблукалі мы. Пачуўшы ў адказ няўцямныя тлумачэнні і запэўніванні, што ўсё ў парадку, яна пацепнула плячыма і завяла трамвай на запасныя рэйкі. Пакінула дзверы адкрытымі, выйшла ў шэрую сцяну дажджу і знікла.

Не памятаю, колькі яе не было, напэўна, хвілін 10-15. Здаецца, усе паддаліся гіпнозу трамвайнай вандроўкі. Азіраючыся па баках, хлопцы млява перагаворваліся, больш занурваючыся ў сваё, чым слухаючы адзін аднога. Мы з Алесем сталі на ніжнюю прыступку апошняй пляцоўкі і запалілі. Густыя аблачыны тытунёвага дыму, смачнага і духмянага, які бывае толькі ў восеньскім вільготным паветры, падымаліся ўверх і павольна распушчаліся ў шэрай смузе. У наваколлі з усяе гамы колераў засталіся руды і шэры – усе іншыя змыліся дажджом. Вакол рэек стаяла высокае, немаведама калі кошанае, ссохлае пустазелле, валяліся дзіўныя іржавыя штуковіны і механізмы, якія аднолькава маглі належаць і трамвайнаму дэпо, і танку "Тыгр", і касмічнай талерцы. Будынкі навокал падаваліся даўно закінутымі дэкарацыямі вялікага здымачнага павільёна. Для паўнаты моманту не хапала толькі сталкера, які б шпурляў гайкі з навязанымі на іх белымі матузкамі.

Раптам у мяне ўзнікла адчуванне, цалкам супрацьлеглае вядомаму дэжавю – адчуванне, што раней так ніколі не было, і гэта ўсё больш ніколі-ніколі не паўторыцца! Нават калі прыехаць сюды ізноў праз гадзіну – усё стане іншым. І што з'явіліся мы тут менавіта для таго, каб адчуць незваротнасць і непаўторнасць кожнай секунды зямнога існавання.

Усведамленне такой таямніцы ў той момант, відаць, было дадзена не мне аднаму – нехта побач сказаў: давай возьмем што на памяць, калі яшчэ тут будзем, га?

Назад вярталіся пешшу, змэнчаныя і мокрыя ўшчэнт, але з дзіўным светлым адчуваннем нейкага не да рэшты зразумелага, але вельмі важнага адкрыцця. Мы ішлі, збольшага абмінаючы лужыны, Алесь трымаў пад пахай шыльдачку "Месцы для дзяцей і інвалідаў", а я нёс стары кампосцер.

## Угодкі слуцкага збройнага чыну

Мы былі студэнтамі-гісторыкамі, а значыць – нефармаламі, таму папсовы дзень студэнта асабліва не адзначалі. А вось угодкі Слуцкага збройнага чыну вырашылі адсвяткаваць. Шэрым восеньскім днём мы сустрэліся на рагу ля тагачаснай нацыяналкі. Нам належала вырашыць складанае пытанне, звязанае з культурнай часткай праграмы свята, бо пытанне пра банкет пасля яго было натуральна зразумелым.

Як ушанаваць памяць паўстанцаў, калі помнікаў няма, стэндаў у музеях – таксама, нават шыльды на доме, і тое... Неяк не згаворваючыся, сышліся на тым, што варта ехаць на Вайсковыя могілкі – там і разбярэмся, як ні круці – ўся наша гісторыя на могілках.

Выйшаўшы на вуліцу Бядулі, найперш скіраваліся па галоўнай алеі да класікаў. Імжа шляхетным вэлюмам затуляла наваколле, робячы маленькія клады асобнай прасторай спакою і сну... Класікі, стаялі задуменна і глуха. Нічога ў іх магутных манументах не выдавала спрычыненасці да той нагоды, з якой мы завіталі. Ні радка, ні слупка іх класічнага не ўзгадаць ні пра Устаўныя граматы, ні пра Пагоню, за якія ішлі паміраць случчакі. Што думалі Іван Дамінікавіч і Канстанцін Міхайлавіч пра тыя падзеі? Як пачуваліся яны ў тыя дні? Ці не клікала іх сэрца далучыцца, ці хоць палымяным вершам падтрымаць нашых 300 спартанцаў? Мы не ведалі, а паэты маўчалі. А так падсвядома і моцна хацелася пачуць падказку ад прарокаў... Нічога.

Падразгубіўшы першасны запал, мы рассыпаліся веерам па пакручастых сцежках могілак, і толькі мокрае лісце мякка шаргацела пад нагамі ў адказ на нашыя крокі. Зрэдку перагукаючыся, мы рухаліся паўз агароджы і грудкі, нібы прачэсваючы сектар за сектарам. Вось Трус з Чорным, вось маці Купалы, вось стралок Пуліхаў, які пульнуў у губернатара. Усе персанажы з гістарычнага пункту гледжання вартыя ўвагі, але, як гаворыцца, без патрэбнай прывязкі да бягучага моманту.

Затрымаліся ля царквы Аляксандра Неўскага, якая сваім псеўдарускім стылем настойліва засяроджвала на думцы, хто ў хаце гаспадар і чаму ў Менску і знаку няма пра Паўстанне 1920-га...

Вайсковыя, і так амаль заўсёды пустыя, у гэты шэры будзень былі як ніколі самотнымі. Празрыстыя кроплі віселі на іржавых карунках агароджаў дарэвалюцыйнай коўкі. З-за іх пампезныя помнікі губернскага чынавенства адхрышчваліся вялікадзяржаўнымі "яцямі" нават ад самых крамольных думак пра пошук у іх асяродку ўзгадак ці зачэпак, звязаных з нейкім там беларускім паўстаннем. Выдавала на тое, што мусім вяртацца ні з чым.

Рухаючыся да галоўнай брамы, мы нарэшце знайшлі паратунак з нашае безвыходнае сітуацыі, спыніўшыся ля магілы першага прэзідэнта Акадэміі навук, былога эсэра, аўтара славутага "Кароткага нарыса", удзельніка беларускай партызанкі і проста нацдэма Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага. І

хай ён не быў у шэрагах случчакоў, няхай перажыў многіх з іх на цэлых 10 год, але ён быў адным з іх, тых, каму балела за Беларусь, таптаную чужымі ботамі. Павязаўшы бчб-стужку на халоднае жалеза агароджы, мы хвілінай маўчання ўшанавалі ўсіх, хто зазнаў на сабе дабрыню бальшавіцкіх карнікаў.

Героі і пакутнікі, шукальнікі праўды і долі, шчырыя ў сваіх памылках, на тым свеце яны ўсе будуць пад аднымі штандарамі ў нашым беларускім войску. Там семежаўцы і грозаўцы будуць трымаць ганаровую варту ў пачэсным шыхце побач з харугвамі Астрожскага і Хадкевіча, разам з інсургентамі Ясінскага і касінерамі Каліноўскага...

Адлегла і паспакайнела на душы. І мы выйшлі на вуліцу – да жывых.

## Вячэра з відам на "Дынама", альбо Імператыў Канта

Не ведаю, як хто, але я ў тыя часы раз-пораз яшчэ лётаў у сне. Сумняюся, што пры гэтым рос, прынамсі прыборы росту не фіксавалі, але лётаць – лётаў. Зараз, узгадваючы падзеі таго недалёкага мінулага, магу смела канстатаваць – нас цягнула да неба! Не, канечне, мы не марылі стаць ні касманаўтамі, ні авіятарамі, але дакладна часцей, чым цяпер, падымалі галовы ўверх.

Што было там уверсе? А ўверсе, як вядома, – дах, ён бліжэй да неба значна больш за ўсё астатняе. Менавіта на дах мне і карцела залезці ці не ад першага дня засялення ў 13-павярховы інтэрнат №2. З дзяцінства я меў такую завядзёнку – спрабаваць пабыць на самых высокіх будынках наваколля. Вандруючы з бацькамі па краіне і недалёкім замежжы, я залазіў на касцельныя вежы, царкоўныя званіцы, муры замкаў, проста высокія насыпы ў наваколлі – цікава было – што відно адтуль? Так, я ведаю, як выглядае нальшчанскі край з гервяцкага касцёла, сутокі Нарачанкі і Вяллі з міхалішскага, стольны Полацак з Сафіі, пушчанскія ўзлескі з камянецкае вежы, Кіеў са званіцы Лаўры, Піцер з Казанскага і Варшава з ..... і вёска Калыбаўка з буслянкі.

Ясная справа, жыць у такім, па менскіх мерках таго часу, хмарачосе і не залезці – здрада сваім прынцыпам. Рашэнне было прынятае, заставалася знайсці нагоду і спадарожнікаў. Нібы ўсё проста, але нагода неяк не падварочвалася. Так прайшла восень, узімку, у звязку з умовамі надвор'я, гэтая задума адышла на другі план, а вось з надыходам вясны ізноў пачала раз-пораз усплываць у галаве.

Канчатковым штуршком да ўзыходжання стала чутка, выказаная адным з вартых даверу старажылаў інтэрната, што, маўляў, з даху відзён як на далані газон стадыёна "Дынама", і калі вылезці наверх падчас гульні, то і квіткоў купляць не трэба – сядзі ды глядзі! Навіна была што трэба – спраўдзілі расклад гульняў, падрыхтавалі піва ды чыпсы і з базавага лагера на 13 паверсе пачалі пад'ём.

Выхад на дах з тэхнічнага паверха, як і чакалася, быў зачынены больш чым надзейна: абабітыя жалезам дзверцы мелі моцны ўнутраны замок і свіранавы вонкавы – змагацца з гэтым сейфам не хацелася. Пакінуўшы пакункі ля замкнёных дзвярэй, мы разышліся па закутках і катухах у пошуках нечага, што мусіла нам дапамагчы. У выніку высветлілася, што ёсць яшчэ адзін выхад – маленькае на палову акенца, на палову дзюрка, што вяла на дах з-пад столі ліфцёрскай капцёркі. Падцягнуўшы пару

скрыняў і драбіны, мы акуратна знялі замок разам з вушкамі, на якіх ён трымаўся, і выбраліся наверх!

Любата! Як хораша атрымалася: жывыя-здаровыя і вясёлыя, мы апынуліся на самым версе. Агледзеліся – змейкай выгінаецца павольная Свіслач, па Першамайскай, як цацачныя, коўзаюцца маленькія жоўтыя вагоньчыкі трамваяў, “каза” зверху зусім і не вялікая, а “Пяючыя фантаны” наогул – парнічок у гародзе! Над горадам вісіць такі ружова-зялёны веснавы паўзмрок, які не ўгледзіш ніколі болей, як толькі ў красавіку, калі пах зямлі, ветру і маладой зеляніны набывае моц найтрывалейшай парфумы, якая з аднаго ўдыху валіць з ног, туманячы галаву і прымушаючы сэрца салодка дранцвець, збіваючыся з рытму.

Тое, што мы ўбачылі, перавысіла нашыя спадзевы – прыгажосць навокал, зручнасць пад нагамі. Нагрэты за дзень цёплы сухі рубероід быў ідэальнай падлогай, высокі (па пояс) парапет па перыметры рабіў пляцоўку прыдатнай не толькі для пікніка, але і для гульні ў футбол. Не хапала толькі верталётнай пляцоўкі. Мы наперабой пачалі дзяліцца ўражаннямі. Але ж – час ісці займаць месцы для назірання за гульнёй. Сабралі торбы і пакрочылі да той часткі даху, якая была бліжэй да стадыёна...

І вось яно – фіяска! З даху нашага хмарачоса было відно толькі табло! Як жа мы пралічыліся, паверыўшы плёткам пра халяўны прагляд. Стадыён стаяў на горцы, а інтэрнат, хай і шматпавярховы, але ў самай нізінцы – у выніку бачна толькі табло! Які здзек!...

Заставалася 15 хвілін да пачатку, а мы стаялі ў разгубленасці і глядзелі адзін на аднога. Ісці ўніз, уладкоўвацца ля тэлевізара ў цесным задушным пакоі, замест таго, каб, дыхаючы напоўніцу, па-каралеўску сядзець у віплажы? Гэта, канечне, невыносна...

Мне дрэнна было ўдвая – па-першае, з-за таго, што я ўсіх падбіў на авантуру, а па-другое – таму, што жудасна не люблю прайграваць, вось так за крок ад бліскучай перамогі. І, раптам, працяла думка – усё выпрыўляльна! У нас на паверсе ў хлопцаў з суседняга пакоя быў маленечкі партатыўны тэлек на батарэйках – лёгкі і мабільны, на даху хвалі былі такія, што БТ, па якім мелася быць гульня, лавілася на раз. Мітулём – ляцім!

Ідэя была прынятая без абмеркавання, і праз чвэрць гадзіны мы сядзелі як паны: пад азадкамі посцілкі з ложкаў, на цыраце піва, на скрыні з ліфцёркі – тэлек, за ім – стадыён, які свяціўся сотнямі лямпаў і гуў, як патурбаваны вулей – то бок атмасфера, што трэба!..

Зараз я не ўзгадаю, што за каманды сустракаліся на полі і які быў выніковы лік. Памятаю толькі, што ўсе мы былі шчаслівыя, і нашыя твары свяціліся сапраўднай радасцю і захапленнем ад усяго, што спраўдзілася сёння і абавязкова мусіць спраўдзіцца заўтра ў кожнага з нас. Пасля матчу мы нейкі час яшчэ заставаліся на даху. Тэлек маўчаў, яго хапіла якраз на трансляцыю. Стадыён таксама змоўк, над горадам павісла прахалодная ноч.

Мы ляжалі, заклаўшы рукі пад галаву, і глядзелі на зорнае неба над нашымі галовамі. Не скажу, што з даху яно бліжэй, але больш зразумелае – дакладна.



## Уладзь Лянкевіч



...о пакрыўджаны век
о эпоха белліту...

# Дзень Гор

### *НЯПЕСНЯ*

вочы ейныя колеру глебы
пахне яна кожны раз новым
я ці то босх ці то пітэр брэйгель
пахне яна кожны раз новым
я не заняты нумар гатэлю
пахне яна кожны раз новым
вочы ейныя колеру глебы

гэта не песня а толькі прадмова

### *СВІЦЯЗЬ*

паі-ц*і*-ці паі-ц*і*-ці паі-ц*і*-ці

аднекуль з гарадскога дна
даплывае гук да вушных ракавін
пралупляю тое, што пад бровамі,
прыслухоўваюся

памагі-і-іце памагі-і-іце памагі-і-іце

а, гэта даўно знаёмы лямант бабулькі
што жыве на паверх глыбей
я быў павёўся аднойчы, турбаваў міліцыю
зблыталі дом спачатку – быў надпіс трохі змыты
дабраліся нарэшце, стаім пад дзвярыма
я, мянты, суседзі мятыя

адтуль: памагі-іце памагі-іце
кажуць: не будзем ламаць
ты што, не знаеш? гэта старая русалка
яна калісьці лямантам у вір хлапцоў вабіла
накаціла, відаць, настальгія

штодзень між дамоў у выкапанай ім жа яміне
бялявы сабака нявыспаны, праходжу міма
адным вокам лыпае, па спіне ляпаю
а ён лісце аблізвае, усё пільнуе гаспадара
што паехаў у тагасветнае плаванне

перада мной пара свежых гараджанаў
выбраліся на шпацыр, ад іх пахне прынятым душам
рабізна і плёскат аўтамабіляў

тут па жыцці кажуць адно аднаму: не хвалюйся
і любяць на арэлях гойдацца
баяцца падводных камянёў
тэлефонная сетка то ловіць, а то не ловіць
тут у думкі занураюцца
а калі што якое, то лепей часова залегчы на дно
а дзеці – дзеці гуляюцца ў пяску і лужынах

гэты горад падняўся на паверхню
занадта хутка занадта хутка
у насельнікаў – кесонная хвароба

адсюль сышло мора, пакінуўшы соль на асфальтах

*

учора караткевіч плакаў пад снегам
недалёка ад соннай артэрыі менска

усе подбегам
асобныя бегам

я абдымаю дрэвы калі мне кепска

памятаеш мы чулі гукі лютні
ды песню сумнага чорнага hleba

але тут ён валяецца чэрствы
у нашым значэнні нячэшскім

хрумсціць пад нагамі кімсьці кінуты
нечапаны бо адсюль нават галубы – у выраі

## κοινός τόπος

пакуль мяне не было ў пакой заляцела галубка
не ведаю якім ейнае заканчэнне але цельца
на паркеце шпалерах аконных рамах

узяў паперчыну нешта маркерам пазначана
паклаў ёю птушку ў пакет з супермаркета
выйшаў аддаў дзецям – пахавайце пад клёнам

сам назіраў з акна: толькі шуфлікам ямка –
на працэсію пачалі злятацца галубы з суседняга парку
і дзіцячых пляцовак лапаталі – у гармідары я перастаў
бачыць

назаўтра ўсё ўсеяна белымі пацеркамі перлінамі
ўпярэмешку з пер'ем – галубы калі хавалі сваю цароўну
выплёўвалі сэрцы пеючы вітальныя гімны хорам

сёння ноччу я сплю: нехта поруч буркоча
нешта нутро топча і я гатовы табе сваё выплюнуць
градзінай дзічкай шарыкам для пінг-понга пакоцаным

а ты не бяры да галавы не пераймайся
у нас з галубамі па два – так што яшчэ адно ў запасе

*

я не горац
і нават не народжаны ў краіне
дзе ёсць іншыя горы, акрамя лысых і святых
таму, трапіўшы ў месца, дзе ёсць зялёныя
парослыя дрэвамі, проста з каменю горы
горы, на якія налазіць туман, сагнаны ў кучы –
магчыма, насамрэч, гэта аблокі
але ж звычайна яны там, наверсе, а калі
на ўзроўні вачэй –
значыць туман

тут ён спуджаны пагрозлівым выразам твару вяршынь,
збіраецца групамі

адным словам, трапіўшы туды, дзе ўсё гэта існуе
я не магу прыдумаць належнай метафары
бо хутчэй за ўсё мясцовыя пісачы даўно панапрыдумвалі
я проста магу падабраць колькі слоў, на якія яны падобны

спачатку з гарамі так, як з людзьмі іншай расы:
яны ўсе на адзін твар
і ты можаш адрозніць іх толькі памерам
ды наяўнасцю / адсутнасцю расліннасці:
вось гэта маленькая і аброслая
а гэтая з плешкай і істотна большая

потым, калі трохі даўжэй на іх глядзець
да галавы прыходзіць уся гэтая класічная фішка
пра гераічнасць іхніх паставаў
непакору і ўсе гэтыя вобразы паэтаў
якім вецер раздзімае валасы

але як я ні спрабаваў ад гэтага адксціцца, гэты пафас
нахлынае ўсё адно
трасца, небеспадстаўна, бо калі ты па-над аблокамі, то ёсць
толькі адзінае вытлумачэнне сітуацыі: ты на небе,
а калі ты на небе
то, халера, пра што яшчэ думаць, калі не пра вечнае

о пакрыўджаны век
о эпоха белліту

## *FFYNNON GARW*

*The Englishman who went up a hill but came down a mountain (1995)*
Christopher Monger

у нейкі момант пачынаеш разумець усялякіх ацтэкаў
егіпцян і г.д.
вось што нам трэба: трэба насыпаць горы
каб нашы дзеці нарэшце пачалі нараджацца з арлінымі насамі
а не з кірпатымі й пляскатымі

насыпаць горы насыпаць
прадаць маёмасць купіць машыны абавязкова з кузавам рыдлёўкі
лапаты шуфлі мяхі усё для таго каб

насыпаць горы насыпаць горы
каб у нас атрымліваліся не толькі паэты каб смерць у літаратуры

напаткала не толькі калі кінуўся ў раку і не толькі таму што балота
засмокча або мароз а яшчэ і таму што сарваўся з гары

насыпаць горы насыпаць
адну за адной – няхай гэта будзе народны рух і ніхто не кіруе ім
і не звярае з планам
каб сыпалі няроўна а потым можна будзе сачыць за тым
як кожная з іх атрымае імя
як паціху некаторыя пакрыюцца дрэвамі і людзі будуць назіраць
за сваімі гадаванцамі

насыпаць горы насыпаць
а тады трохі пазней з'явіцца нацыянальнае свята – Дзень Гор
а быць можа цэлы тыднёвы фэст
на які будуць ездзіць пазырыць замежнікі
а на гарах будзе расці бульба і нацыянальная годнасць

насыпаць горы насыпаць
да таго ж у праекта ёсць прыемны бонус: тое месца адкуль мы
будзем выграбаць зямлю і каменне для нашых гор стане цалкам
гатовым морам
[назва для яго даўно валяецца без справы]

насыпаць горы насыпаць
забяспечыць нашчадкаў на стагоддзі прыбыткам з турызму
возьмем сябе ў рукі – падправім здабытае Стаўры і Гаўры

насыплем горы насыплем

Уладзімір Дрындрожык



...І словы, тыя словы, што раней...
Ужо не тыя...

# У далёкіх краях

## *СВОЕЧАСОВАСЦЬ*

Заўжды своечасовасць.
І мудры ты настолькі,
Наколькі гэта ўсвядоміць змог.

Па-за бязглуздай мітуснёй
СВОЕЧАСОВАСЦЬ.
І, нават, мітусня ў СВОЕЧАСОВАСЦІ.

Бо ўсё і ўсе —
І ты, і я
Своечасовыя.
Сваім няспынным рухам
Спакою
Кожнае імгненне.
І назаўжды.
СВОЕЧАСОВАСЦЬ.

### *КАНВЕРТЫ*

І зноў стаю ля небакраю,
Дзе свет штосьць выяўляе.
Ён увесьчасна нараджае,
Таго, хто потым памірае.
Але нічога не знікае —
Бог зноў ператварае.

Трымціць святло дрыготкім ззяннем —
Нерукатворны цуд.
Ці мроя — думаем — над намі,
Нібыта зніадкуль?

Ствараецца ў касмічным спектры
Нябачная нам п'еса:
Нас Бог уціснуў у канверты
І напісаў адрэсы.

** * **

Раскрэслена
Застылай постаццю нямога мысляра
Талерка неба ў начной прасторы.
І пена хмар ад выкіпелай кавы
Здзяйсненняў нашых.

### *U DALOKICH KRAJACH*

*(natchniona tvoram Jana Barščeŭskaha «Šlachcic Zavalnia, abo Biełaruś u fantastyčnych apaviadańniach»)*

U dalokich krajach skarbaŭ niama.
Skarbaŭ niama — šukaj nie šukaj.
A znojdzieš kali — to heta mana, mana.

Praz kolki hod sparachnieła žytło.
Rodnych niama, niama i siabroŭ.
Dzie jany zaraz? — Nie skaža nichto, siabroŭ nie było.

Zastyła kroŭ, zdranćvieła ziamla.
Pryvidy chodziać, i ścieny sa škła.
...Pryvidy chodziać — nia čujuć mianie, nia čujuć ciabie.

Viery nie dam tabie. A ty nie daš viery mnie,
Bo ličyš ty, što dobra žyvieš, što heta dabro.
Zachoŭvaješ ty siabie i žytło — amal pachavaŭsia ŭžo...

...U dalokich krajach.

U dalokich krajach pusteča ŭ dušy...
Zdradziła ŭsio, i nieba ŭ cišy
Nahadvaje znoŭ pra spravu maju.

* * *

Тануць у возеры тваёй пяшчоты...
І не забыцца.
Піць позірка твайго напой...
Ды не напіцца.
Блукаць у валасах тваіх...
І не згубіцца.
Чуць спеў тваіх птушыных галасоў...
Не разгубіцца.
Ступіць у казку тваіх сноў...
Не аступіцца.
Тваіх далоняў лісце зведаўшы,
Не страціць розум.
І, вуснаў тваіх зведаўшы расу, стаяць трывала.
Мне трэба мала.

* * *

Непрадказальны струмень — той верлібр —
Сіні агонь медытуе ўва мне.
Вось па той бок блакітнае шыбы
Працягваю руку...
...чакаю цябе.

* * *

Заплюшчы вочы, стань нерухомай.
Шэпчуцца думкі...
...маёю замовай
Будзь.
Непахіснаю згодай
Будзь. Ты.

* * *

Не зведаўшы нічога пра цябе,
Так і жыву і буду жыць заўсёды.
Патрэбен белы колер на сцяне
Мне. Й часам, з раніцы, гарбата з мёдам.

А вецер замятае ўсе сляды.
Ніхто не ведаў, што так стане, зрэшты.

Бо недзе ў зорнай, чыстай вышыні
Вядзе нас хтосьці па няўхільнай сцежцы.

Жыццё ідзе далей, далей, далей...
У глыбіню зацягваюць вершы.
І словы, тыя словы, што раней...
Ужо не тыя...

* * *

“А вось і ўсё” — хлусня, бо ёсць працяг.
Той, пра які не ведаем мы самі.
Здагадваемся толькі: “Хмара? Сцяг
Кружляе па-над горадам?” І з намі

Няма нікога, але ёсць Сусвет,
Яму чужыя нашыя імкненні,
Нашы “акеі”, “смайлы” ды імпэт,
З якім мы рушым у цемру сутарэнняў.

І будзе кпіць з каштоўнасцяў маіх
Мой лёс, каб выправіць мяне нанова.
І каб часцей бы думаў я пра “іх”,
І каб адпавядаў сваім высновам.

Як адшчапенец. Адчапіўся. Узлёт.
Касмічнасць подыху халоднае прасторы.
І гэта нешта іншае, не лёд.
І не ў спякотны ліпень прахалода.

То...

* * *

Пад шатамі дрэваў зімовых
Мінулае не ажыве.
Толькі здзейсніцца прадказанне,
І лісце старое спадзе.
Нехта, нябачны пакуль,
Плыве ў наш бок на белым чаўне...
У паветры жыве аднаўленне –
Ператварылася ў свята імгненне:
Існуе самота-на-двох
У сапраўднасці... нібы ў сне.
Быццам бы неўзабаве
Сонейка праблісне.
Вось дзівосы! – грае нам мілагучна
Студзень, месяц халодны, – і сіл надае.

## Тарас Шаўчэнка



...у сапраўды мастацкім творы
ёсць нешта чароўнае,
выдатнейшае за саму прыроду...

# Мастак

***Урывак з аповесці***

*25 студзеня 1856 года*

Вялікі Торвальдсэн пачаў сваю бліскучую артыстычную дзейнасць вырэзваннем арнаментаў і трытонаў з рыбінымі хвастамі для тупаносых капенгагенскіх караблёў. Герой мой таксама, хоць і не такую бліскучую, але тым не менш артыстычную кар'еру пачаў расціраннем охры і муміі ў жорнах і фарбаваннем падлог, дахаў і платоў. Бязрадаснае, безнадзейнае пачынанне. Дый ці шмат вас, шчасліўцаў геніяў-мастакоў, якія інакш пачыналі? Вельмі і вельмі няшмат. У Галандыі, напрыклад, падчас самага бліскучага залатога яе перыяду, Астадэ, Берг, Тэньер і цэлы шэраг знакамітых мастакоў (акрамя Рубенса і Ван-Дэйка) у лахманах пачыналі і канчалі сваю вялікую дзейнасць. Несправядліва было б паказваць на адну толькі меркантыльную Галандыю. Разгарніце Вазары і там убачыце тое ж самае, калі не горшае. Я кажу таму горшае, што тады нават палітыка намеснікаў святога Пятра патрабавала вытанчанай дэкарацыі для

*Пераклаў*
*Валер СТРАЛКО.*

асляплення натоўпу і зацьмення ерэтычнага вучэння Віклефа і Гуса, якое пачало ўжо выхоўваць адважнага даменіканца Лютэра. І тады, кажу, калі Леў Х і Леон II спахапіліся і сыпалі золата сустрэчнаму і папярэчнаму маляру і муляру, і ў той залаты час паміралі вялікія мастакі з голаду, як, напрыклад, Карэджа і Цампіеры. І так здаралася (на жаль, вельмі нярэдка) заўсёды і ўсюды, куды толькі пранікала боскае жыццядайнае мастацтва!

І ў наш дзевятнаццаты адукаваны век, век філантропіі і ўсяго, што схіляецца да карысці чалавецтва, пры ўсіх сваіх сродках адхіліць і атуліць ахвяры "Караючай багіні асуджанай". За што ж, пытанне, гэтым увасобленым анёлам, гэтым прадстаўнікам жывой дабрачыннасці на зямлі выпадае амаль заўсёды такая сумная, такая горкая доля? Верагодна, за тое, што яны анёлы ў цялесным вобразе.

Гэтыя развагі вядуць толькі да таго, што аддаляюць ад чытача прадмет, які я маю намер яму прадставіць як на далоні.

Летнія ночы ў Пецярбургу я амаль заўсёды праводзіў на вуліцы або дзесьці на астравах, але часцей за ўсё на акадэмічнай набярэжнай. Асабліва мне падабалася гэтае месца, калі Нява спакойная і, як гіганцкае люстэрка, адбівае ў сабе з усімі падрабязнасцямі велічны порцік Румянцаўскага музея, кут сената і чырвоныя фіранкі ў доме графіні Лаваль. У зімовыя доўгія ночы гэты дом асвятляўся ўнутры, і чырвоныя фіранкі, як агонь, гарэлі на цёмным фоне, і мне заўсёды прыкра было, што Нява пакрытая лёдам і снегам і дэкарацыя губляе свой сапраўдны эфект.

Любіў я таксама ўлетку сустракаць узыход сонца на Траецкім мосце. Цудоўная, велічная карціна!

У сапраўды мастацкім творы ёсць нешта чароўнае, выдатнейшае за саму прыроду, – гэта ўзвышаная душа мастака, гэта надзвычайная творчасць. Затое бываюць і ў прыродзе такія дзівосныя з'явы, перад якімі паэт-мастак падае ніцма і толькі дзякуе творцу за салодкія імгненні, што ўзвышаюць душу.

Я часта любаваўся краявідамі Шчадрына, і асабліва падкупляла мяне яго невялікая карціна "Порцічы перад заходам сонца". Чароўны твор! Але ён мяне ніколі не зачароўваў так, як выгляд з Траецкага моста на Выбаргскі бок перад з'яўленнем сонца.

Аднойчы, нацешыўшыся гэтай нерукатворнай карцінай, я прайшоў у Летні сад адпачыць. Я заўсёды, калі мне выпадала бываць у Летнім садзе, не спыняўся ні ў адной алеі, упрыгожанай мармуровымі статуямі: на мяне гэтыя статуі рабілі самае кепскае ўражанне, асабліва пачварны Сатурн, што пажырае такое ж, як і сам, пачварнае сваё дзіця. Я праходзіў заўсёды міма гэтых нязграбных багінь і багоў, і сядаў адпачыць на беразе возера, і любаваўся прыгожай гранітнай вазай і велічнай архітэктурай Міхайлаўскага замка.

Набліжаючыся да таго месца, дзе вялікую алею перасякае папярочная алея і дзе ў коле багінь і багоў Сатурн пажырае сваё дзіця, я ледзь было не наткнуўся на жывога чалавека ў цікавым брудным халаце, які сядзеў на вядры, якраз супраць Сатурна.

Я спыніўся. Хлопчык (гэта сапраўды быў хлопчык гадоў чатырнаццаці або пятнаццаці) азірнуўся і пачаў нешта хаваць за пазуху. Я падышоў да яго бліжэй і спытаўся, што ён тут робіць.

– Я нічога не раблю, – адказваў ён сарамліва. – Іду на працу, ды па дарозе ў сад зайшоў. – І, трохі памаўчаўшы, дадаў: – Я маляваў.

– Пакажы, што ты маляваў.

І ён дастаў з-за пазухі чвэртку шэрай пісчай паперы і нясмела падаў мне. На паперы быў накіданы даволі дакладна контур Сатурна.

Доўга я трымаў малюнак у руках і любаваўся запэцканым тварам аўтара. У няправільным і хударлявым твары яго было нешта прывабнае, асабліва ў вачах, разумных і паслухмяных, як у дзяўчынкі.

– Ты часта ходзіш сюды маляваць? – спытаў я яго.

– Кожную нядзелю, – адказваў ён, – а калі блізка дзе працуем, то і ў будні заходжу.

– Ты вучышся малярнаму майстэрству?

– І жывапіснаму, – дадаў ён.

– У каго ж ты вучышся?

– У пакаёвага жывапісца Шыраева.

Я хацеў распытаць яго больш падрабязна, але ён узяў у адну руку вядро з жоўтай фарбай, а ў другую таксама жоўты абцёрты вялікі пэндзаль і хацеў ісці.

– Куды ты спяшаешся?

– На працу. Я й так ужо спазніўся, гаспадар вернецца, дык пападзе мне.

– Зайдзі да мяне ў нядзелю раніцай, і калі ёсць у цябе якія-небудзь малюнкі сваёй працы, то прынясі мне паказаць.

– Добра, я прыйду, толькі дзе вы жывяце?

Я запісаў яму адрас на яго ж малюнку, і мы развіталіся.

У нядзелю ранняй раніцай я вярнуўся з усяночнай сваёй прагулкі, і ў калідоры перад дзвярыма маёй кватэры сустрэў мяне мой новы знаёмы, ужо не ў цікавым брудным халаце, а ў чымсьці падобным на сурдут карычневага колеру, з вялікім скруткам паперы ў руцэ. Я павітаўся з ім і працягнуў яму руку, ён кінуўся да рукі і хацеў пацалаваць. Я адхапіў руку, мяне збянтэжыла яго рабалепства. Моўчкі ўвайшоў у кватэру, а ён застаўся ў калідоры. Я зняў сурдут, надзеў блузу, закурыў цыгару, а яго ўсё яшчэ няма. Выйшаў у калідор, гляджу, прыяцеля майго як не было. Я сышоў уніз, пытаюся дворніка: ці не бачыў хлопца? “Бачыў, – кажа, – малога з паперамі ў руцэ, выбег на вуліцу”. Я на вуліцу – і след прастыў. Мне стала сумна, як быццам я страціў нешта дарагое мне. Сумаваў я да наступнай нядзелі і ніяк не мог прыдумаць, што б такое значылі раптоўныя ўцёкі майго прыяцеля? Дачакаўшыся нядзелі, я а другой гадзіне ночы пайшоў на Траецкі мост і, палюбаваўшыся ўсходам сонца, рушыў у Летні сад, абышоў усе алеі, – няма майго знаёмага. Хацеў было ўжо ісці дадому, ды ўспомніў Апалона Бельведэрскага, то-бок пародыю на Бельведэрскага бога, які стаяў асабнячком ля самай Мойкі. Я туды. Аж і прыяцель мой тут як тут. Убачыўшы мяне, ён кінуў маляваць і пачырванеў да вушэй, як дзіця, злоўленае за крадзеж варэння. Я ўзяў яго за дрыготкую руку і, як злачынца, павёў у павільён. І мімаходам загадаў тракцірнаму заспанаму гарсону прынесці гарбаты.

Як умеў, аблашчыў майго прыяцеля, і, калі ён апамятаўся, я спытаў, навошта ён уцёк з калідора.

– Вы на мяне раззлаваліся. І я спалохаўся, – адказваў ён.

– І не думаў на цябе злавацца, – сказаў я яму. – Але мне непрыемна было тваё прыніжэнне. Сабака толькі рукі ліжа, а чалавек гэтага не павінен рабіць. – Гэты моцны выраз так падзейнічаў на майго прыяцеля, што ён зноў схапіў быў маю руку.

Я засмяяўся, а ён пачырванеў, як рак, і стаяў моўчкі, патупіўшы галаву. Напіўшыся чаю, мы развіталіся. На развітанне я сказаў яму, каб ён абавязкова зайшоў да мяне ці сёння, ці ў наступную нядзелю.

Я не маю шчаслівай здольнасці адразу разгадваць чалавека, затое маю няшчасную здольнасць хутка збліжацца з чалавекам. Таму, кажу, няшчасную, што рэдка хуткае збліжэнне мне абыходзілася дарма. Асабліва з крывымі і касымі: гэтыя крывыя і касыя далі мне сябе знаць. Колькі ні здаралася мне з імі сустракацца, хоць бы адзін з іх выявіўся прыстойным чалавекам. Начыста дрэнь. Ці гэта ўжо маё такое шчасце.

Усяго трэці раз бачу я майго новага знаёмага, але ўжо зблізіўся з ім, ужо да яго прычапіўся, палюбіў яго. І сапраўды, у яго фізіяноміі было нешта такое, што немагчыма не палюбіць. Фізіяномія яго, спачатку непрыгожая, з гадзіны на га-

дзіну рабілася для мяне ўсё больш прывабнай. Ёсць жа на свеце такія шчаслівыя твары!

Я пайшоў адразу дамоў, баяўся, каб не прымусіць прыяцеля свайго чакаць сябе ў калідоры. І што ж? Уваходжу на лесвіцу, а ён ужо тут. У тым жа карычневым сурдуціку, вымыты, прычасаны і ўсмешлівы.

– Ты прыстойны скараход, – сказаў я. – Яшчэ ж заходзіў да сябе на кватэру? Як жа ты паспеў так хутка?

– Ды я спяшаўся, – адказваў ён, – каб быць дома, калі гаспадар ад абедні прыйдзе.

– Хіба ў цябе гаспадар строгі? – спытаў я.

– Строгі і...

– І злы, ты хочаш сказаць.

– Не, скупы, хацеў я сказаць. Ён паб'е мяне, а сам рады будзе, што я спазніўся на абед.

Мы ўвайшлі ў пакой. У мяне стаяла на мальберце копія са старога Веласкеса, што ў Строганавай галерэі, і ён прыпаў да яе вачыма. Я ўзяў у яго з рук скрутак, разгарнуў і стаў разглядаць. Тут было ўсё, што брыдзіць Летні сад, ад вяртлявых багінь, што салодка ўсміхаюцца, да пачварнага Фракліта і Геракліта. А ў заключэнне некалькі малюнкаў з барэльефаў, якія ўпрыгожваюць фасады некаторых дамоў, у тым ліку і барэльефы з купідонаў, якія ўпрыгожваюць дом архітэктара Манферана, што на рагу набярэжнай Мойкі і Фанарнага завулка.

Адно, што мяне ўразіла ў гэтых больш чым слабых контурах, гэта незвычайнае падабенства з арыгіналамі, асабліва контуры Фракліта і Геракліта. Яны выразней былі сваіх арыгіналаў, праўда, і больш гідкія, але ўсё ж такі на малюнкі нельга было глядзець абыякава.

Я ў душы радаваўся сваёй знаходцы. Мне і ў галаву не прыйшло спытаць сябе, што я буду рабіць, маючы болей чым абмежаваныя сродкі, з гэтым дыяментам у лушпіне? Праўда, у мяне і тады мільганула гэтая думка, ды адразу ж і патанула ў прыказцы: "Бог не без літасці, казак не без долі".

– Чаму ў цябе няма ні аднаго малюнка адтушаванага? – спытаў я, аддаючы яму скрутак.

– Я рабіў усе гэтыя малюнкі рана ранкам, да ўзыходу сонца.

– Выходзіць, ты не бачыў іх, калі яны асвятляюцца?

– Я прыходзіў і днём глядзець на іх, але тады нельга было маляваць, бо людзі хадзілі.

– Што ж ты збіраешся цяпер рабіць: застаешся ў мяне абедаць ці йдзеш дамоў?

Ён, з хвіліну памаўчаўшы і не падымаючы вачэй, ледзь чутна сказаў:

– Я застаўся б, калі вы дазволіце.

– А як жа ты пасля разбярэшся з гаспадаром?

– Я скажу, што спаў на гарышчы.

– Ну тады хадзем абедаць.

У мадам Юргенс яшчэ наведвальнікаў не было, калі мы прыйшлі, і я быў вельмі рады. Мне непрыемна было б сустрэць якуюсьці чыноўніцкую выпрасаваную фізіяномію, што бессэнсоўна ўсміхалася б, гледзячы на майго, далёка не франта, прыяцеля.

Пасля абеду збіраўся было павесці яго ў Акадэмію і паказаць яму "Апошні дзень Пампеі". Але не ўсё адразу. Я прапанаваў яму ці ісці пагуляць на бульвар, ці чытаць кнігу. Ён выбраў апошняе. Я ж, каб праэкзаменаваць яго і ў гэтым прадмеце, папрасіў чытаць услых. На першай старонцы знакамітага рамана Дзікенса "Ніклас Нікльбі" я заснуў. Але ў гэтым ні аўтар, ні чытальнік не вінаватыя: проста я ноччу не спаў.

Калі я прачнуўся і выйшаў у іншы пакой, неяк прыемна мне кінулася ў вочы мая адчайная студыя. Ні недакуркаў цыгар, ні тытунёвага попелу нідзе не было відаць, усюды ўсё было прыбрана і вымецена, нават палітра, што вісела на цвіку з засохлымі фарбамі, і тая была вычышчана і блішчала як шкельца; а віноўнік усёй гэтай гармоніі сядзеў каля акна і маляваў маску знакамітай натуршчыцы Торвальдсэна Фартунаты.

Усё гэта было для мяне надзвычай прыемна. Гэтая паслуга відавочна гаварыла на яго карысць. Я, аднак, не ведаю чаму, не даў яму заўважыць майго задавальнення. Паправіў яму контур, праклаў цені, і мы адправіліся ў "Капернаум" піць гарбату. "Капернаум" – гэта значыцца, карчма "Берлін" на рагу Шостай лініі і Акадэмічнага завулка. Так ахрысціў яго, здаецца, Піменаў падчас свайго саліхвацкага студэнцтва.

За гарбатай распавёў ён мне пра сваё жыццё-быццё. Сумны, маркотны аповяд. Але ён распавёў яго так наіўна-проста, без ценю наракання і дакоры. Да гэтай споведзі меркаваў я аб сродках дзеля паляпшэння яго выхавання, але, выслухаўшы споведзь, і думаць перастаў. Ён быў прыгонным чалавекам.

Мяне так азадачыла гэтае сумнае адкрыццё, што я страціў усякую надзею на яго пераўтварэнне. Маўчанне цягнулася сама меней паўгадзіны. Ён абудзіў мяне ад гэтага слупняка сваім плачам. Я глянуў на яго і спытаў, чаго ён плача? "Вам непрыемна, што я..." Ён не дагаварыў і заліўся слязьмі. Я разупэўніў яго, як мог, і мы вярнуліся да мяне на кватэру.

Дарогай сустрэўся нам стары Венецыянаў. Пасля першых прывітанняў ён пільна паглядзеў на майго таварыша і спытаў, лагодна ўсміхаючыся:

– Ці не будучы гэта мастак?

Я адказаў:

– І так, і не.

Ён спытаў прычыну. Я растлумачыў яму шэптам. Стары задумаўся, пацiснуў мне моцна руку, і мы рассталіся.

Венецыянаў сваім поглядам, сваім поціскам рукі як бы папракнуў мяне за безнадзейнасць. Я падбадзёрыўся і, успомніўшы некаторых мастакоў, вучняў і выхаванцаў Венецыянава, убачыў, праўда невыразна, нешта накшталт надзеі на гарызонце.

*Protege* мой увечары, развітваючыся, папрасіў у мяне які-небудзь эстампік, каб змаляваць. У мяне трапіўся якраз адзін, у той час толькі што надрукаваны, "Геркулес Фарнезскі", выгравіраваны Служынскім па малюнку Заўялава, і яшчэ "Апаліна" Ласенкі. Я загарнуў арыгіналы ў аркуш пецяргофскай паперы, каб ён передаў яго італьянскімі алоўкамі, даў параду, як засцерагчы іх ад жорсткасці, і мы выйшлі на вуліцу. Ён пайшоў дадому, а я да старога Венецыянава.

Не месца, дый недарэчы распаўсюджвацца тут пра гэтага чалавекалюбца-мастака; няхай гэта зробіць адзін са шматлікіх вучняў яго, які падрабязней за мяне ведае ўсе яго высакародныя подзвігі на ніве мастацтва.

Я распавёў старому ўсё, што ведаў пра маю знаходку, і прасіў параіць, як мне дзейнічаць далей, каб прывесці справу да жаданых вынікаў. Ён, як чалавек практычны ў справах такога роду, не абяцаў мне і не раіў нічога асаблівага.

Раіў толькі пазнаёміцца з ягоным гаспадаром і па меры магчымасці згладжваць яго сапраўды жорсткае становішча.

Я так і зрабіў. Не чакаючы нядзелі, на другі дзень да ўзыходу сонца пайшоў у Летні сад, але, на жаль! не знайшоў там майго прыяцеля; тое ж на другі дзень, на трэці таксама. І я вырашыў чакаць, што нядзеля скажа.

У нядзелю раніцай з'явіўся мой прыяцель. І на запыт, чаму ён не быў у Летнім садзе, сказаў мне, што ў іх пачалася праца ў Вялікім тэатры (у той час Кавос перарабляў унутранасць Вялікага тэатра) і што таму ён цяпер не можа наведваць Летні сад.

І гэтую нядзелю мы правялі з ім, як і мінулую. Вечарам, ужо развітваючыся, я спытаў імя яго гаспадара і ў якія гадзіны ён бывае на працы.

Наступнага ж дня я зайшоў у Вялікі тэатр і пазнаёміўся з хлопцавым гаспадаром. Расхваліў бязмерна яго прыпарахі і столевыя рысункі ўласнай яго кампазіцыі, чым і паклаў трывалы падмурак нашаму знаёмству.

Ён быў цэхавым майстрам жывапіснага і малярнага цэхаў. Трымаў пастаянна трох, часам і больш "мурзаў" у цікавых халатах пад імем вучняў і, гледзячы па патрэбе, ад аднаго да дзесяці наймаў, падзённа і памесячна, кастрамскіх мужычкоў – маляроў і шкляроў, – такім чынам, ён быў у сваім цэху не апошні майстар і па мастацтву, і па капітале. Апрача згаданых матэрыяльных якасцяў, я ўбачыў у яго некалькі гравюр на сценах, Адрана і Вальпата, а на камодзе некалькі тамоў кніг, у тым ліку і "Падарожжа Анахарсіса Малодшага". Гэта мяне падбадзёрыла. Але, – на жаль! – калі я яму здалёку намякнуў аб паляпшэнні стану яго цікавых вучняў, ён здзівіўся такой дзікай думцы і пачаў мне даказваць, што гэта не павяло б ні да чаго больш, як да ўласнай іх жа гібелі.

На першы раз я яму не супярэчыў. Ды і дарма было б запэўніваць яго ў адваротным. Людзі матэрыяльныя і неразвітыя, якія пражылі сваё беднае юнацтва ў брудзе і выпрабаваннях і якія сяк-так выпаўзлі на свет божы, не вераць ні ў якую тэорыю. Для іх не існуе іншых шляхоў да дабрабыту, акрамя тых, якія яны самі прайшлі. А часта да гэтых грубых перакананняў прымешваецца яшчэ найгрубейшае пачуццё: мяне, маўляў, не гладзілі па галоўцы, за што я буду гладзіць?

Майстар жывапіснага цэха, здаецца, не цураўся гэтага негуманнага пачуцця. Мне, аднак, з цягам часу ўдалося ўгаварыць яго, каб ён не перашкаджаў майму *protege* наведваць мяне па святах і ў будні, калі працы не бывае, напрыклад, зімой. Ён хоць і пагадзіўся, але ўсё-такі глядзеў на гэта як на пястоту, якая зусім ні да чаго не вядзе, акрамя пагібелі. Ён амаль адгадаў.

Мінула лета і восень, надышла зіма. Работы ў Вялікім тэатры былі скончаны, тэатр адкрыты, і цудатворца Талёні пачала свае чароўныя аперацыі. Моладзь была ў захапленні, а старыя проста шалелі. Адны толькі суровыя матроны і адчайныя львіцы ўпарта надзімаліся і падчас самых апантаных апладысментаў з пагардай прамаўлялі "Mauvais genre". А непрыступныя пурытанкі хорам крычалі: "Распуста! Распуста! Адкрытая публічная распуста!" І ўсе гэтыя ханжы і крывадушніцы, аднак, не прапускалі ніводнага спектакля Талёні. І калі знакамітая артыстка пагадзілася быць *princesse Troubeckoy* – яны першыя аплаквалі вялікую страту і асуджалі жанчыну за тое, чаго самі не маглі зрабіць пры ўсіх касметычных сродках. Карл Вялікі (так называў нябожчык Васіль Андрэевіч Жукоўскі нябожчыка ж Карла Паўлавіча Брулова) бязмежна любіў усе выдатныя мастацтвы, у чым бы яны ні выяўляліся, але да сучаснага балета ён быў амаль абыякавы, і калі казаў ён часам пра балет, то не інакш, як пра цукровую цацку. У заключэнне свайго трыумфу Талёні пратанчыла качучу ў балеце "Хітана". У той жа вечар разляцелася качуча па ўсёй нашай Пальміры. А на другі дзень яна ўжо валадарыла ў палатах арыстакрата і ў сціплым кутку Каломенскага чыноўніка. Усюды качуча: і дома, і на вуліцы, і за працоўным сталом, і ў карчме, і... за абедам, і за вячэрай – словам, заўсёды і ўсюды качуча. Не кажу ўжо пра вечары і вечарынкі, дзе качуча зрабілася неабходнай. Гэта ўсё нічога, прыгажосці і юнацтву ўсё гэта да твару. А то шаноўныя маці і нават бацькі сем'яў – і тыя туды ж. Гэта была проста хвароба св. Віта ў выглядзе качучы. Бацькі і маці неўзабаве апамяталіся і апранулі ў хітан сваіх малютак, што ледзь пачыналі хадзіць. Бедныя малюткі, колькі вы слёз пралілі з-за гэтай праклятай качучы! Але затое эфект быў поўны, эфект, які дайшоў да спекуляцыі. Напрыклад, калі ў амфітрыёна не было ўласнага карапузіка, то вечарынка ўпрыгожвалася карапузікам – хітанам, узятым напракат.

Свежае паданне, а верыцца з цяжкасцю.

У самы разгар качучаманіі наведаў мяне Карл Вялікі (ён любіў наведваць сваіх вучняў), сеў на канапе і задумаўся. Я моўчкі любаваўся яго разумнай кучаравай галавой. Праз хвіліну ён хуценька падняў вочы, засмяяўся і спытаў мяне:

– Ведаеце што ?

– Не ведаю, – адказаў я.

– Сёння Губер (перакладчык “Фаўста”) абяцаў мне дастаць білет на “Хітану”. Хадземце.

– У такім выпадку пашліце свайго Лук’яна да Губера, каб ён дастаў два білеты.

– А ці не збегае гэты малы? – сказаў ён, паказваючы на майго пратэжэ.

– Ахвоча збегае, пішыце цыдулку.

На лапіку шэрай паперы ён напісаў італьянскім алоўкам: “Дастань два білеты. К. Брулоў”. Да гэтага лаканічна паслання я дадаў адрас, і Меркурый мой паляцеў.

– Што гэта ў вас, мадэль ці слуга? – спытаў ён, паказваючы на дзверы, якія зачыняліся.

– Ні тое, ні другое, – адказаў я.

– Фізіяномія яго мне падабаецца: не прыгонная.

– Далёка не прыгонная, а між тым... – Я не дагаварыў, спыніўся.

– А між тым ён прыгонны? – падхапіў ён.

– На няшчасце, так, – дадаў я.

– Барбарызм! – прашаптаў ён і задумаўся. Пасля хвіліны роздуму ён кінуў на падлогу цыгару, узяў капялюш і выйшаў, але зараз жа вярнуўся і сказаў: – Я дачакаюся яго, мне хочацца яшчэ зірнуць на яго фізіяномію. – І, запальваючы цыгару, сказаў: – Пакажыце мне яго працу!

– Хто вам падказаў, што ў мяне ёсць яго праца?

– Павінна быць, – сказаў ён рашуча. Я паказаў яму маску Лаакаона, малюнак скончаны, і следзік Мікеланджэла, толькі пракладзены. Ён доўга глядзеў на малюнкі, то-бок трымаў іх у руках, а глядзеў – Бог яго ведае, на што ён глядзеў тады.

– Хто яго гаспадар? – спытаў ён, падняўшы галаву.

Я сказаў яму прозвішча памешчыка.

– Аб вашым вучню трэба добра падумаць. Лук’ян абяцаўся пачаставаць мяне ростбіфам, прыходзьце абедаць. – Сказаўшы гэта, ён падышоў да дзвярэй і зноў спыніўся: – Прывядзіце яго калі-небудзь да мяне. Да пабачэння. – І ён выйшаў.

Праз чвэрць гадзіны вярнуўся мой Меркурый і абвясціў, што яны, то-бок Губер, хацелі самі зайсці да Карла Паўлавіча.

– А ці ведаеш ты, хто такі Карл Паўлавіч? – спытаў я яго.

– Ведаю, – адказаў ён, – толькі я яго ніколі ў твар не бачыў.

– А сёння?

– Ды хіба гэта быў ён?

– Ён.

– Шкада, што вы не сказалі, я б хоць паглядзеў на яго. А то думаў, гэта проста спадар нейкі. А ці не зойдзе ён да вас яшчэ калісьці? – спытаў ён, памаўчаўшы.

– Не ведаю, – сказаў я і пачаў апранацца.

– Божа мой, Божа мой! Як бы мне на яго хоць здалёк паглядзець. Ведаеце, – працягваў ён, – я, калі іду па вуліцы, усё пра яго думаю і гляджу на прахожых, шукаю вачыма яго паміж імі. Партрэт яго, кажаце, вельмі падобны, што на “Апошнім дні Пампеі”?

– Падобны, а ты ўсё-такі не пазнаў яго, калі ён быў тут. Ну, не бядуй, калі ён да нядзелі не зойдзе, то ў нядзелю мы з табой самі завізітуем да яго. А пакуль вось табе квіток да мадам Юргенс. Я сёння дома не ем.

Зрабіўшы такое распараджэнне, я выйшаў.

У майстэрні Брулова я заспеў В. А. Жукоўскага і М. Ю. графа Вельегорскага. Яны любаваліся яшчэ не скончанай карцінай “Укрыжаванне Хрыста”, пісанай для лютэранскай царквы Пятра і Паўла. Галава Марыі Магдалены, якая плача, была ўжо скончана, і В. А. Жукоўскі, гледзячы на гэтую дзівосную прыгажуню, сам заплакаў і, абдымаючы Карла Вялікага, цалаваў яго, як бы створаную ім прыгажуню.

Нярэдка здаралася мне бываць у Эрмітажы разам з Бруловым. Гэта былі бліскучыя лекцыі з тэорыі жывапісу. І кожны раз лекцыя завяршалася Тэньерам і ў прыватнасці яго “Казармай”. Перад гэтай карцінай надоўга, бывала, ён спыняўся і пасля натхнёнага, сардэчнага панегірыка знакамітаму фламандцу казаў:

– Для гэтай адной карціны можна прыехаць з Амерыкі.

Тое ж самае можна цяпер сказаць пра яго “Укрыжаванне” і асабліва пра галаву рыдаючай Марыі Магдаліны.

Пасля абдымкаў і пацалункаў Жукоўскі выйшаў у іншы пакой; Брулоў, убачыўшы мяне, усміхнуўся і пайшоў за Жукоўскім. Праз паўгадзіны яны вярнуліся ў майстэрню, і Брулоў, падышоўшы да мяне, сказаў усміхаючыся: “Падмурак ёсць”. У гэты самы час дзверы расчыніліся, і ўвайшоў Губер, ужо не ў пуцейскім мундзіры, а ў чорным фарсістым фраку. Ледзь паспеў ён раскланяцца, як падышоў да яго Жукоўскі і, па-сяброўску пацікаючы руку, прасіў яго прачытаць апошнюю сцэну з «Фаўста», і Губер прачытаў. Уражанне было поўнае, і паэт быў узнагароджаны шчырым пацалункам паэта.

Неўзабаве Жукоўскі і граф Вельегорскі выйшлі з майстэрні, і Губер на прасторы прачытаў нам нованароджаную “Тэрпсіхору”, пасля чаго Брулоў сказаў:

– Я рашуча не еду глядзець “Хітану”.

– Чаму? – спытаў Губер.

– Каб захаваць веру ў тваю “Тэрпсіхору”.

– Як гэта?

– Лепш верыць у выдатную выдумку, чым...

– Ды ты, відаць, хочаш сказаць, – перапыніў яго паэт, – што мой верш вышэй чароўнай Талёні. Мезенца! пазногця на яе мезенцы не варты, Богам табе клянуся... Эге, я ледзь было не забыўся: мы сёння ў Аляксандра ямо макароны і стафата з лакрыма-крысці. Там будзе Нестар, Міша і cetera, cetera... І, напрыканцы, П’яненка. Едзьма! – Брулоў узяў капялюш. Ах, так! Я і забыўся... – працягваў Губер, вымаючы з кішэні білеты. – Вось табе два квіткі, а пасля спектакля да Нестара на біржу (так у жарт называліся літаратурныя вечары Н. Кукальніка).

– Памятаю, – адказваў Брулоў і, апранаючы капялюш, падаў мне білет.

– І вы з намі? – спытаў Губер, звяртаючыся да мяне.

– І я з вамі, – адказаў я.

– Едзем! – сказаў Губер, і мы выйшлі на калідор. Лук’ян, зачыняючы дзверы, прабурчаў:

– Вось табе і ростбіф!

Пасля макарон, стафата і лакрыма-крысці кампанія выправілася на біржу, а мы, то-бок я, Губер і Карл Вялікі, пайшлі ў тэатр. У чаканні ўверцюры я любаваўся творамі майго *protege*. (Для ўсіх арнаментаў і арабесак, якія ўпрыгожваюць плафон Вялікага тэатра, малюнкі былі зроблены ім па ўказаннях архітэктара Кавоса. Гэта паведаміў мне не сам ён і не славалюбны яго гаспадар, а машыніст Карташоў, які прысутнічаў пастаянна пры працах і па раніцах частаваў гарбатай майго пратэжэ). Я хацеў было сказаць Брулову пра арабескі свайго вучня, але ўверцюра грымнула. Усе, у тым ліку і я, утаропілі вочы на парцьеру. Уверцюра скончылася, фіранка здрыганулася і паднялася. Пачаўся балет. Да качучы ўсё ішло паспяхова, публіка трымала сябе, як і ўсялякая добра выхаваная публіка.

З першым ударам кастаньет усё здрыганулася і затрымцела. Апладысменты ціха, як грымоты ўдалечыні, пранесліся па зале, потым мацней і мацней, і – качуча скончана, – і гром грымнуў. Добрага выхавання публіка, у тым ліку і я, грэшны, узбелянілася, раве, хто як папала: хто брава, хто *da capo*, а хто толькі стогне ды нагамі і рукамі працуе. Пасля першага прыпадку глянуў я на Карла Вялікага, а ў яго, беднага, пот коціцца, працуе рукамі і нагамі і што ёсць духу крычыць: “Da capo!” Губер таксама. Я крыху перавёў дух ды і сабе за настаўнікам давай малаціць. Паступова ўраган пачаў сціхаць, і ў дзесяты раз выкліканая чараўніца выпырхнула на сцэну і пасля некалькіх самых грацыёзных прысяданняў знікла. Тады Карл Вялікі ўстаў, выцер пот з твару і, звяртаючыся да Губера, сказаў:

– Хадзем на сцэну, пазнаём мяне з ёй.

– Хадзем, – сказаў Губер захоплена, і мы пайшлі за кулісы.

За кулісамі ўжо раіўся натоўп прыхільнікаў, які складаецца большай часткай з шаноўных лысін, акуляраў і біннокляў. Мы і сабе прыстроіліся да натоўпу. Не без цяжкасцяў прасунуліся ў цэнтр гэтай масы. І Божа, што мы там убачылі! Пырхаючая, лёгкая, як зефір, чарадзейка ляжыць у вальтэраўскіх крэслах з разяўленым ротам і разадзьмутымі, як у арабскага каня, ноздрамі, а па твары, як мутныя ручаі вясной, цякуць змешаныя з потам бялілы і румяны.

– Агідна! – сказаў Карл Вялікі і павярнуў назад. Я за ім, а бедны Губер! Сапраўды бедны! Ён толькі што скончыў пасуючы нагодзе камплімент і, прамовіўшы прозвішча Брулова, азірнуўся, а Брулоў знік. Не ведаю, як ён выблытаўся з бяды.

Заставаўся яшчэ адзін акт балета, але мы пакінулі тэатр, каб не псаваць дэсерту капустай, як выказаўся Брулоў. Не ведаю, ці бываў ён на балеце пасля “Хітаны”, ведаю толькі, што ён ніколі не гаварыў пра балет.

Звяртаюся да майго героя. Пасля слоў, сказаных мне Бруловым: “Падмурак пакладзены”, ва ўяўленні маім надзея пачала прымаць больш пэўныя формы. Я пачаў думаць, чым бы лепш заняць свайго вучня. Хатнія сродкі мае нікчэмныя. Я думаў пра антычную галерэю. Андрэй Рыгорыч (наглядчык галерэі), мабыць, і пагадзіўся б, ды ў галерэі статуі так асветленыя, што маляваць немагчыма. Пасля доўгіх разважанняў я з двухграшвенным звярнуўся да жывога Ангіноя, натуршчыка Тараса, каб ён у някласныя гадзіны пускаў майго вучня ў гіпсавы клас. Так і зроблена. На працягу тыдня (ён і абедаў у класе) намаляваў ён галаву Люцыя Вера, распуснага ўлюбёнца Марка Аўрэлія, і галаву “Генія”, твор Кановы. Потым перавёў яго ў фігурны клас і загадаў яму на першы раз намаляваць анатомію з чатырох бакоў. У вольны час я прыходзіў у клас і заахвочваў нястомнага працаўніка фунтам сітніку і кавалкам каўбасы. А звычайна ён абедаў кавалкам чорнага хлеба з вадою, калі Тарас вады прынясе. Бывала, і я палюбуюся Бельведэрскім торсам ды не ўцярплю і сяду маляваць. Дзівосны, узорны твор старажытнай скульптуры! Нездарма сляпы Мікеланджэла вобмацкам захапляўся гэтым кавалкам адпачываючага Геркулеса. І дзіўна. Нейкі спадар Герсеванаў у сваіх дарожных уражаннях так мастакоўскі дакладна ацэньвае педантычны твор Мікеланджэла “Страшны суд”, фрэскі чароўнага Рафаэля і многія іншыя знакамітыя творы скульптуры і жывапісу, а ў торсе Бельведэрскім бачыць адно кавалак мармуру, нічога больш. Дзіўна!

Пасля анатоміі зрабіў ён малюнак Германіка і танцуючага фаўна. І аднойчы я яго прадставіў Карлу Вялікаму. Захапленне яго было неапісальным, калі Брулоў ласкава і паблажліва пахваліў яго спробы.

Я за жыццё маё не бачыў весялей, шчаслівей чалавека, як ён быў на працягу некалькіх дзён. “Няўжо ён заўсёды такі добры, такі ласкавы?” – пытаўся ён у мяне некалькі разоў. “Заўсёды”, – адказваў я. “І гэты чырвоны – любімы яго

пакой?" – "Любімы", – адказваў я. "Усё чырвонае! Пакой чырвоны, канапа чырвоная. Фіранкі каля акна чырвоныя. Халат чырвоны і малюнак чырвоны, усё чырвонае! Ці ўбачу яшчэ яго калі-небудзь так блізка?" І пасля гэтага пытання ён пачынаў плакаць. Я, зразумела, не суцяшаў яго. Ды і якая спагада, якая ўцеха можа быць вышэй гэтых шчаслівых, гэтых райскіх, боскіх слёз? "Усё чырвонае!" – паўтараў ён скрозь слёзы.

Чырвоны пакой, абвешаны пераважна ўсходняй дарагой зброяй, усюды празрыстыя чырвоныя фіранкі асветленыя сонцам, мяне, які звык да гэтай дэкарацыі, на хвіліну ўразіў, а яму ён застаўся памятным да труны. Пасля доўгіх і страшных выпрабаванняў забыўся ён усё: і мастацтва, духоўнае жыццё сваё, і каханне, што атруціла яго, і мяне, шчырага сябра свайго, усё і ўсё пазабываў; чырвоная дэкарацыя і Карл Паўлавіч былі яго апошнім словам.

На другі дзень пасля гэтага візіту сустрэўся я з Карлам Паўлавічам, і ён спытаў у мяне адрас, імя і прозвішча ягонага гаспадара. Я паведаміў яму. Ён узяў рамізніка і з'ехаў, сказаўшы мне:

– Увечары зайдзіце!

Вечарам я зайшоў.

– Гэта самая буйная свіння ў таржокскіх туфлях! – гэтымі словамі сустрэў мяне Карл Паўлавіч.

– У чым справа? – спытаў я, здагадаўшыся, пра каго ідзе гаворка.

– Справа ў тым, што вы заўтра сходзіце да гэтай амфібіі, каб ён прызначыў цану вашаму вучню.

Карл Вялікі быў не ў настроі. Доўга ён моўчкі хадзіў па пакоі, нарэшце плюнуў і прамовіў:

– Вандалізм! Хадзем наверх, – дадаў ён, звяртаючыся да мяне, і мы моўчкі пайшлі ў верхнія пакоі, дзе змяшчаліся яго спальня, бібліятэка і разам сталоўка.

Ён загадаў падаць лямпу. Папрасіў мяне чытаць што-небудзь услых, а сам сеў канчаць малюнак-сепію "Спячая адаліска" для альбома, здаецца, Уладзіслаўлева.

Мірныя заняткі нашыя, аднак, працягваліся нядоўга. Яго, як відаць, усё яшчэ праследвала свіння ў таржокскіх туфлях.

– Хадзем на вуліцу, – сказаў ён, закрываючы малюнак.

Мы выйшлі, доўга хадзілі па набярэжнай, потым выйшлі на Вялікі праспект.

– Што, ён у вас цяпер дома? – спытаў ён мяне.

– Не, – адказаў я, – ён у мяне не начуе.

– Ну, дык пойдзем вячэраць. – І мы зайшлі да Дэлі.

Я бачыў нямала на сваім жыцці рознага набору рускіх памешчыкаў: і багатых, і сярэдняй рукі, і хутаранцаў. Бачыў нават такіх, якія стала жывуць у Францыі і ў Англіі і з захапленнем гавораць пра дабрабыт тамтэйшых фермераў і мужычкоў, а ў сябе дома апошнюю авечку у мужыка адбіраюць. Бачыў я шмат арыгіналаў у гэтым родзе. Але такога арыгіналу, рускага чалавека, які б груба прыняў у сябе ў доме К. Брулова, не бачыў.

Цікаўнасць мая ў моцнай ступені была ўзбуджаная; я доўга не мог заснуць, усё думаў і пытаўся сам сябе, што гэта за свіння ў таржокскіх туфлях. Цікаўнасць мая аднак жа ахаладзела, калі я на другі дзень раніцай стаў апранаць фрак. Разважнасць узяла верх. Разважнасць падказвала мне, што гэтая свіння не такая вялікая рэдкасць, каб з-за яе ахвяраваць уласным самалюбствам, хоць справа патрабавала і большай ахвяры. Але вось пытанне: а калі і я, па прыкладзе майго вялікага настаўніка, не вытрымаю катаванняў? Тады што?

Падумаўшы крыху, я зняў фрак, апрануў сваё паўсядзённае паліто і выпра-

віўся да старога Венецыянава. Ён практык у падобных справах, яму, пэўна, не раз і не два даводзілася мець сутычкі з гэтымі арыгіналамі, сутычкі, з якіх ён выходзіў з гонарам.

Венецыянава я заспеў ужо за працаю. Ён рабіў тушшу малюнак уласнай жа карціны “Маці вучыць дзіця маліцца Богу”. Малюнак гэты прызначаўся для альманаха Уладзіслаўлева “Ранішняя зара”.

Я растлумачыў яму прычыну несвоечасовага візіту, паведаміў адрас амфібіі, і стары пакінуў працу, апрануўся, і мы выйшлі на вуліцу. Ён узяў рамізніка і паехаў, а я вярнуўся на кватэру, дзе ўжо і заспеў майго вясёлага, шчаслівага вучня. Весялосць яго як быццам затуманьвалася нечым. Ён быў падобны на чалавека, які жадае падзяліцца з прыяцелем вялікай таямніцай, але і баіцца, каб гэтая таямніца не зрабілася не таямніцай. Перш чым я зняў паліто і надзеў блузу, я заўважыў, што з маім прыяцелем нешта так, ды не так.

– Ну, што ж у цябе новенькага? – спытаў я яго. – Што ты рабіў учора ўвечары? Як пажывае твой гаспадар?

– Гаспадар нічога, – адказаў ён, запінаючыся. – Я чытаў “Андрэя Саваяра”, пакуль не ляглі спаць, а потым запаліў сцеарынавую свечку, што вы мне далі, і маляваў.

– Што ж ты маляваў? – спытаў я яго. – З эстампа ці так што-небудзь?

– Так, – сказаў ён чырванеючы. – Я нядаўна чытаў сачыненні Озерава, і мне спадабаўся “Эдып у Афінах“, дык я спрабаваў кампанаваць...

– Гэта добра. Ты прынёс з сабой сваю кампазіцыю? Пакажы мне яе.

Ён дастаў з кішэні невялікі скрутак паперы і, дрыготкімі рукамі разгортваючы яго і падаючы мне, прамовіў:

– Не паспеў пяром абрысаваць.

Гэта было першае яго сачыненне, якое з такой цяжкасцю ён адважыўся паказаць. Мне спадабалася яго сціпласць, ці, лепш сказаць, нясмеласць: гэта дакладная прыкмета таленту. Мне спадабалася таксама і сам твор яго па сваёй нескладанасці: Эдып, Антыгона і ўдалечыні Палінік. Толькі тры фігуры. У першых досведах рэдка сустракаецца падобны лаканізм. Першапачатковыя досведы заўсёды вельмі складаныя. Маладое ўяўленне не сціскаецца, не засяроджваецца ў адно важкае слова, у адну ноту, у адну рысу. Яму патрэбен прастор, яно лунае і ў лунанні сваім часта заблытваецца, падае і разбіваецца аб нязломны лаканізм.

Я пахваліў яго за выбар сцэны, параіў чытаць, акрамя паэзіі, гісторыю, а больш за ўсё і руплівей змалёўваць добрыя эстампы, як, напрыклад, з Рафаэля, Вальпата або з Пусэна, Адрана.

– І тыя, і іншыя ёсць у твайго гаспадара, вось і малюй у вольны час. А кнігі я табе буду даставаць. – І адразу ж уручыў яму некалькі тамоў Гіліса (“Гісторыя старажытнай Грэцыі”).

– У гаспадара, – сказаў ён, прымаючы кнігі, – апрача тых, што на сценах вісяць, у яго поўны партфель эстампаў, але ён мне не дазваляе маляваць з іх: баіцца, каб я не сапсаваў. Яшчэ... – працягваў ён, усміхаючыся, – я сказаў яму, што вы вадзілі мяне да Карла Паўлавіча і паказвалі мае малюнкі, і што... – тут ён запнуўся, – і што ён... ды, зрэшты, я сам у тое не веру.

– Што ж? – падхапіў я. – Ён не верыць, што Брулоў пахваліў твае малюнкі?

– Ён не верыць, што я і бачыў Карла Паўлавіча, і назваў мяне дурнем, калі я яго запэўніваў.

Ён хацеў нешта яшчэ сказаць, калі ў пакой увайшоў Венецыянаў і, здымаючы капялюш, сказаў, усміхаючыся:

– Нічога такога! Памешчык як памешчык! Праўда, ён мяне з гадзіну пратрымаў

у пярэдняй. Ну, ды гэта ўжо ў іх звычай такі. Што рабіць, звычай – той жа закон. Прыняў мяне ў сябе ў кабінеце. Вось кабінет мне яго не спадабаўся. Праўда, усё гэта раскошна, дорага, пышна, але ўсё гэта па-японску пышна. Спачатку я павёў гаворку пра асвету наогул і пра філантропію ў прыватнасці. Ён моўчкі доўга мяне слухаў з увагай і нарэшце перапыніў: “Ды вы скажыце прама, проста, чаго вы з вашым Бруловым хочаце ад мяне? Уразіў ён мяне ўчора. Гэта сапраўдны амерыканскі дзікун!” І ён гучна зарагатаў. Я было збянтэжыўся, але неўзабаве ачуўся і стрымана, проста патлумачыў яму справу. “Вось так бы даўно сказалі, а то філантропія! Якая тут філантропія! Грошы, і больш нічога! – дадаў ён самазадаволена. – Дык вы хочаце ведаць канчатковы кошт? Ці так я вас зразумеў?” Я адказаў: “Сапраўды так”. – “Дык вось жа вам мая апошняя цана: 2500 рублёў! Ці згодныя?” – “Згодзен”, – адказаў я. “Ён чалавек рамесны, – працягваў ён, – пры доме неабходны...” І яшчэ нешта хацеў ён гаварыць. Але я пакланіўся і выйшаў. І вось я перад вамі, – дадаў стары, усміхаючыся.

– Сардэчна дзякую вам.

– Вам дзякую сардэчна! – сказаў ён, моцна паціскаючы мне руку. – Вы мне далі магчымасць хоць што-небудзь зрабіць на карысць нашага прыгожага мастацтва і бачыць, нарэшце, дзівака; дзівака, які называе нашага вялікага Карла амерыканскім дзікуном. – І стары лагодна засмяяўся. – Я, – пасля смеху сказаў ён, – я зрабіў свой уклад. Цяпер за вамі справа. А ў выпадку няўдачы я зноў звярнуся да Агліцкага клуба. А пакуль да пабачэння.

– Хадземце разам да Карла Паўлавіча, – сказаў я.

– Не пайду, і вам не раю. Памятаеце прыказку: «Нязваны госць горш за татарына”, тым больш да мастака, ды яшчэ і раніцай. Гэта бывае горш цэлай арды татараў.

– Вы мяне прымушаеце чырванець за сённяшнюю раніцу, – прамовіў я.

– Ніколькі. Вы паступілі як сапраўдны хрысціянін. Для працы і адпачынку мы вызначылі час. Але для добрай справы няма прызначанага часу. Яшчэ раз сардэчна дзякую вам за ваш сённяшні візіт. Да пабачэння! Мы сёння абедаем дома. Прыходзьце. Бельведэрскага калі ўбачыце, цягнеце і яго за сабой, – дадаў ён сыходзячы. Бельведэрскім называў ён Апалона Мікалаевіча Макрыцкага, вучня Брулова і гарачага прыхільніка Шылера.

На вуліцы расстаўся я з Венецыянавым і пайшоў паведаміць Карлу Паўлавічу вынік уласнай дыпламатыі. Але на жаль! нават Лук’яна не знайшоў. Ліпін, дзякуй яму, выглянуў з кухні і сказаў, што яны сышлі ў порцік. Я ў порцік – і там зачынена. (Порцікам называўся ў нас будынак за цяперашнім акадэмічным садам, дзе змяшчаліся майстэрні Брулова, барона Клодта, Зауэрвейда і Басіна). Праз Ліцейны двор я выйшаў на вуліцу і, праходзячы міма крамы Давіцыелі, убачыў у акне кучаравы профіль Карла Вялікага. Убачыўшы мяне, ён выйшаў на вуліцу.

– Ну што? – спытаў ён.

– Дзе вы сёння абедаеце?

– Не ведаю, а што?

– А вось што, – кажу я, – хадзем да Венецыянава абедаць, ён вам такія цуды раскажа пра амфібію, якіх вы, пэўна, ніколі не чулі ды ніколі і не пачуеце.

– Добра, пойдзем, – сказаў ён, і мы выправіліся да Венецыянава.

За абедам стары распавёў нам гісторыю свайго сённяшняга візіту, і, калі дайшла гаворка да амерыканскага дзікуна, усе мы зарагаталі, і абед скончыўся істэрычным смехам.

Паміж Вялікім і Сярэднім праспектам, на Сёмай лініі, у доме Касцюрына наймалася вялікая кватэра Таварыствам заахвочвання мастакоў для сваіх пяці пансіянераў. Акрамя пакояў, што займалі пансіянеры, там яшчэ былі дзве навучаль-

ныя залы, аздобленыя антычнымі статуямі, як, напрыклад: Венерай Медыцыйскай, Апалонам, Германікам і групай гладыятараў. Гэты прытулак (замест гіпсавага класа пад апекай Тараса-натуршчыка) я меркаваў для свайго вучня. Акрамя згаданых статуй, там быў яшчэ чалавечы шкілет, а пазнанне шкілета для яго было неабходна; тым больш што ён па памяці маляваў анатамічную статую Фішэра, а пра шкілет не меў паняцця.

З такою вось добраю мэтай, на другі дзень пасля абеду ў Венецыянава, зрабіў я візіт былому тады сакратару Таварыства В. І. Грыгаровічу і папрасіў у яго дазволу майму вучню наведваць пансіянерскія навучальныя залы.

Абавязковы Васіль Іванавіч даў мне ў выглядзе квітка на ўваход запіску да мастака Галаўні, які жыве разам з пансіянерамі ў якасці старшыны.

Не варта было б мне спыняцца на такой мізэрнай з'яве, як мастак Галаўня, але паколькі ён даволі рэдкая з'ява, тым больш рэдкая паміж мастакамі, то я і скажу пра яго некалькі слоў.

Моцна, рэзка намаляваная фігура Плюшкіна бляднее перад гэтым антымастаком Галаўнёй. У Плюшкіна сама меней было юнацтва, а такім чынам, і радасць, хоць не поўная, не вясёлая радасць, але ўсё ж такі радасць, а ў гэтага бедняка нічога падобнага на маладосць і на радасць не было.

Ён быў пансіянерам Таварыства заахвочвання мастакоў, і калі ён, па конкурсе Акадэміі мастацтваў, павінен быў выканаць праграму на другі залаты медаль (сюжэт праграмы быў: Адам і Ева над трупам свайго сына Авеля), для выканання карціны спатрэбілася жаночая мадэль; а яе ў Пецярбургу не лёгка, а галоўнае, не танна можна дастаць. Хлопец дапетрыў і адправіўся да шчодрага апекуна мастакоў і тагачаснага прэзідэнта Таварыства заахвочвання мастакоў Кікінёва прасіць дапамогі, то-бок грошай для наймання натуршчыцы. І, атрымаўшы сторублёвую асігнацыю, зашыў яе ў сяннік, а першародную прыгажуню напісаў з лялькі, якую ўжываюць жывапісцы для драпіровак.

Хто ведае, што значыць залаты медаль для маладога мастака, той зразумее агідную душонку юнака-скнары. Перад ім Плюшкін проста марнатравец.

Гэтаму вось маральнаму вылюдку прадставіў я пры запісцы майго маральна прыгожага знайдыша.

На першы раз я сам дастаў з шафы шкілет, пасадзіў яго на крэсле ў паставе самага адчайнага гулякі і, лёгкімі рысамі накідаўшы агульную пазіцыю шкілета, прапанаваў вучню свайму намаляваць падрабязнасці.

Праз два дні з вялікім задавальненнем я параўноўваў яго малюнак з анатамічнымі літаграфаванымі малюнкамі Васіна і знаходзіў падрабязнасці выразней і дакладней. Але гэта, можа быць, вінавата павелічальнае шкло, у якое я глядзеў на свайго знайдыша. Ды як бы там ні было, а мне яго малюнак падабаўся.

Ён працягваў у розных паставах маляваць шкілет і, пад апекаю натуршчыка Тараса, статую павешанага Апалонам Мідаса.

Усё гэта йшло сваім парадкам; і сваім жа парадкам зіма сыходзіла, а вясна набліжалася. Вучань мой прыкметна стаў худзець, бляднець і задумвацца.

– Што з табой? – пытаўся я ў яго. – Ці здаровы ты?

– Здаровы, – адказваў ён сумна.

– Чаго ж ты плачаш?

– Я не плачу, я так. – І слёзы ручаём ліліся з яго выразных прыгожых вачэй.

Я не мог разгадаць, што ўсё гэта азначае? І пачынаў ужо думаць, ці не страла злога амура ўразіла яго бязгрэшнае маладое сэрца, як у адну амаль вясновую раніцу ён сказаў мне, што кожны дзень наведваць мяне не можа, бо з панядзелка пачнуцца працы і ён павінен будзе зноў платы фарбаваць.

Як мог, я падбадзёрваў яго. Але аб намерах Карла Паўлавіча не казаў яму ні

слова, і больш таму, што сам я нічога такога не ведаў, на чым бы можна было заснаваць надзею.

У нядзелю наведаў я яго гаспадара з прапановай, ці нельга будзе замяніць майго вучня звычайным, простым малярам.

– Чаму нельга? Можна, – адказаў ён. – Пакуль яшчэ жывапісныя работы не пачаліся. Бо тады ўжо даруйце. Ён у мяне рысавальшчык. А рысавальшчык, самі ведаеце, што значыць у нашым мастацтве. Ды вы што, мяркуеце, – працягваў гаспадар, – ён у стане будзе паставіць за сябе работніка?

– Я вам пастаўлю работніка.

– Вы? – са здзіўленнем спытаў ён. – Ды з якой радасці, з якой карысці вам клапаціцца?

– А проста так, – адказаў я. – Ад няма чаго рабіць. Для ўласнага задавальнення.

– Добрае задавальненне! Марна раскідаць грошы. Відаць, у вас іх і куры не дзяўбуць? – І, усміхнуўшыся самаздаволена, ён працягваў: – Напрыклад, па колькі вы бераце за партрэт?

– Гледзячы які партрэт, – адказаў я, прадбачаючы яго думку. – І які давалец. Вось з вас, напрыклад, я больш за сто рублёў срэбрам не вазьму.

– Ну, не, бацюхна, з каго хочаце бярыце па сто цалковых, а з нас калі б дзясятачак узялі, дык гэта б яшчэ – дзе наша не прападала.

– Дык лепей мы зробім вось як, – сказаў я, падаючы яму руку. – Адпусціце мне месяцы на два вашага рысавальшчыка, вось вам і партрэт.

– На два? – прамовіў ён у роздуме. – На два шмат, не магу. На месяц можна.

– Ну, хоць на месяц. У чацверыку маку адно зярнятка.

Мне прыемна было глядзець на яго ў працяг гэтага шчаслівага месяца. Яго выразны юнацкі твар ззяў такой светлай радасцю, такім поўным шчасцем, што я, даруй мне, Божа, пазайздросціў яму. Беднае, але ахайнае і чыстае яго касцюміраванне здавалася мне фарсістым, нават фрызавы шынель яго здаваўся мне з байкі, самай лепшай рыжскай байкі. У мадам Юргенс падчас абеду ніхто не паглядаў скоса то на яго, то на мяне. Відаць, не я адзін бачыў у ім такую шчаслівую змену.

У адзін з гэтых шчаслівых дзён мы йшлі ўдвух да мадам Юргенс і сустрэлі на Вялікім праспекце Карла Паўлавіча.

– Куды вы? – спытаў ён.

– Да мадам Юргенс, – адказаў я.

– І я з вамі, нешта мне раптам есці захацелася, – сказаў ён і павярнуў з намі на Трэцюю лінію.

Карл Вялікі любіў зрэдку наведаць разняволеную мадам Юргенс. Яму падабалася не сама паслужлівая мадам Юргенс і не служанка яе Алімпіяда, якая была мадэллю для Агары нябожчыку Пятроўскаму. Яму падабалася, як сапраўднаму артысту, нашае featuresзнахарактарнае таварыства. Там ён мог убачыць і беднага працаўніка, сенацкага чыноўніка, у адзіным, вельмі не з іголкі віцмундзіры, і ўніверсітэцкага студэнта, худога і бледнага, што ласаваўся абедам мадам Юргенс за грош, атрыманы ім ад багатага нямецкага студэнта-гулякі за перапіску лекцый Фішэра. Тут многае і многае ён бачыў такое, чаго не мог бачыць ні ў Дзюмэ, ні ў Сэн-Жоржа.

Затое заўсёды, калі ён прыходзіў, уважлівая мадам Юргенс прапаноўвала яму ў асаблівым пакоі накрыты стол і адмысловую якуюсьці страву, спехам прыгатаваную, ад чаго ён, як сапраўдны сацыяліст, заўсёды адмаўляўся. На гэты ж раз не адмовіўся, і загадаў накрыць стол у асаблівым пакоі на тры асобы, і паслаў Алімпіяду да Фокса па пляшку джаксона.

Мадам Юргенс зямлі пад сабой не чула; так забегала, замітусілася, што ледзь-ледзь было свой новы парык не сарвала разам з чапцом, калі ўспомніла, што трэба чапец перамяніць для гэтакага дарагога госця.

Для яе ён быў сапраўды дарагім госцем.

З таго самага дня, як ён упершыню наведаў яе, сталаўнікі сталі памнажацца з дня на дзень. І якія сталаўнікі! Не шушара якая-небудзь: мастакі, ды студэнты, ды двухгрывенныя сенацкія чыноўнікі, а людзі, для якіх патрэбна была пляшка мядоку і які-небудзь адмысловы бефстэк.

І гэта вельмі натуральна. Калі плаціць чацвяртак за тое, каб паглядзець даму з Амстэрдама, то чаму не заплаціць трыццаць капеек, каб паглядзець зблізку на Брулова? І мадам Юргенс цалкам гэта разумела і па меры магчымасці карысталася.

Вучань мой моўчкі сядзеў за сталом, моўчкі і бляднеючы выпіў шклянку джаксона, і моўчкі паціснуў ён руку Карла Вялікага, і на кватэру прыйшоў моўчкі, а дома ўжо, не распранаючыся, упаў на падлогу і праплакаў рэшту дня і цэлую ноч.

Яшчэ тыдзень заставаўся яго незалежнасці, але ён на другі дзень пасля апісанага мною абеду звярнуў у трубку свае малюнкі і, не сказаўшы мне ні слова, выйшаў за дзверы. Я думаў, што ён пайшоў, як звычайна, на Сёмую лінію, а таму і не пытаўся ў яго, куды ён ідзе. Прыйшоў час абеду – яго няма, і ноч прыйшла – яго няма. На другі дзень я пайшоў да яго гаспадара, і там няма. Я спалохаўся і не ведаў, што думаць. На трэці дзень пад вечар ён прыходзіць да мяне больш звычайнага бледны і растрапаны.

– Дзе ты быў? – пытаюся. – Што з табой? Ты хворы? Ты нездаровы?

– Нездаровы, – ледзь выразна адказвае ён.

Я паслаў дворніка за Жыдоўцавым, прыватным лекарам, а сам пачаў распранаць яго і ўкладваць у ложак. Ён, як паслухмянае дзіця, падпарадкаваўся мне.

Жыдоўцаў памацаў у яго пульс і параіў мне адправіць яго ў бальніцу.

– Бо, – кажа, – гарачку пры вашых сродках дома лячыць небяспечна.

Я паслухаўся яго і ў той жа вечар завёз свайго беднага вучня ў бальніцу св. Марыі Магдалены, што каля Цючкова моста.

Дзякуючы ўплыву прыватнага лекара Жыдоўцава, хворага майго прынялі без узаконеных фармальнасцей. На другі дзень я даў знаць яго гаспадару аб тым, што здарылася, і форма была выканана з усімі аксэсуарамі.

Я наведваў яго кожны дзень па некалькі разоў, і кожны раз, калі выходзіў з бальніцы, мне рабілася сумней і сумней. Я так прывык да яго, я так зрадніўся з ім, што без яго не ведаў, куды падзецца. Пайду, бывала, на Пецярбургскую старану, звярну ў Пятроўскі парк (які ў той час яшчэ толькі пачынаўся), выйду да дачаў Сабалеўскага і зноў назад у бальніцу. А ён усё яшчэ гарыць агнём. Пытаюся ў сядзелкі:

– Што, не апамятаўся?

– Не, бацюхна.

– Ці не трызніць?

– Адно толькі: чырвоны ды чырвоны!

– Нічога больш?

– Нічога, бацюхна.

І я зноў выходжу на вуліцу, і зноў праходжу Цючкоў мост, і наведваю дачу сп. Сабалеўскага, і зноў вяртаюся ў бальніцу. Так прайшло восем дзён; на дзявяты ён апамятаўся, і, калі падыходзіў я да яго, ён паглядзеў на мяне так пільна, так выразна, так сардэчна, што я гэтага погляду ніколі не забуду. Хацеў ён сказаць нешта мне і не мог, хацеў працягнуць мне руку і толькі заплакаў. Я выйшаў.

Сустрэты ў калідоры дзяжурны медык сказаў, што небяспека мінулася, што маладая сіла ўзяла сваё.

Супакоены добрым медыкам, я прыйшоў да сябе на кватэру. Закурыў цыгару, цыгара неяк дрэнна паліцца, я кінуў яе. Выйшаў на бульвар. Усё нешта не так, усё чагосьці не хапае для маёй радасці. Я пайшоў у Акадэмію, зайшоў да Карла Паўлавіча, – яго няма дома. Выходжу на набярэжную, а ён стаіць сабе каля велізарнага сфінкса і глядзіць, як па Няве, на якой пачаўся крыгалом, слізгае ялік з вясёлымі пасажырамі і за ім цягнецца доўгі тоненькі срэбны струменьчык.

– Што, вы былі ў мяне ў майстэрні? – спытаў ён, не вітаючыся.

– Не быў, – адказаў я.

– Пайшлі.

І мы моўчкі пайшлі ў яго хатнюю майстэрню. У майстэрні засталі мы Ліпіна. Ён прынёс са свежымі фарбамі палітру і, усеўшыся ў спакойныя крэслы, любаваўся яшчэ не высахлым падмалёўкам партрэта Васіля Андрэевіча Жукоўскага. Пры ўваходзе нашым бедны Ліпін саскочыў, пераканфузіўся, як школьнік, злоўлены на месцы злачынства.

– Схавайце палітру. Я сёння працаваць не буду, – сказаў Карл Паўлавіч Ліпіну. І сеў на яго месца. Прынамсі паўгадзіны моўчкі глядзеў ён на свой твор і, звяртаючыся да мяне, сказаў:

– Погляд павінен быць мякчэй. Яго вершы такія мяккія, салодкія. Згодны? – І, не даўшы мне адказаць, працягваў: – А ці ведаеце вы прызначэнне гэтага партрэта?

– Не ведаю, – адказаў я.

Яшчэ хвілінаў дзесяць маўчання. Потым ён устаў, узяў капялюш і прамовіў:

– Хадзем, я распавяду вам прызначэнне партрэта. – Ды, выйшаўшы на вуліцу, сказаў: – Я перадумаў. Аб гэтых рэчах не распавядаюць раней часу. Пры гэтым я цалкам упэўнены, што вы не цікаўныя, – дадаў ён жартам.

– Калі вам так хочацца, – сказаў я, – хай гэта застанецца загадкай для мяне.

– Толькі да другога сеансу. Ну, што ваш пратэжэ, ці лепш яму?

– Пачаў апамятавацца.

– Выходзіць, небяспека мінула?

– Прынамсі так медык кажа.

– Да пабачэння, – сказаў ён, працягваючы руку. – Зайду да Гальберга. Наўрад ці ён, бедны, устане, – дадаў ён сумна, і мы рассталіся.

Мяне надзвычай зацікавіў гэты таямнічы партрэт. Я здалёку здагадваўся аб яго прызначэнні, і як ні моцна хацелася мне пераканацца ў праўдзівасці маёй здагадкі, аднак я меў столькі мужнасці, што нават і не намякнуў пра яе Карлу Вялікаму. Праўда, адной цудоўнай раніцай зрабіў я візіт В.А. Жукоўскаму на падставе палюбавацца сухімі контурамі Карнэліуса і Пятра Гесэ, а на самой справе, ці не праведаю чаго пра таямнічы партрэт. Аднак жа, я памыліўся.

Кленц, Валгала, Пінакатэка і наогул Мюнхен занялі ўсю раніцу, так што нават пра Дзюсельдорф не было згадана ні аднаго слова, а партрэта – быццам проста на свеце не існавала.

Захопленыя пахвалы германскаму мастацтву незабыўнага Васіля Андрэевіча былі перапыненыя прыходам графа М.Ю. Вельегорскага.

– Вось віна і прычына цяперашніх клопатаў вашых, – сказаў Васіль Андрэевіч, паказваючы на мяне графу.

Граф з пачуццём паціснуў мне руку. Я ўжо наважыўся быў на пытанне, як увайшоў слуга і прамовіў нейкае незнаёмае мне яснавяльможнае прозвішча. Я знайшоў свой намер цяжказдзяйсняльным, раскланяўся і выйшаў, як кажуць, з носам.

А між тым маладое здароўе брала сваё. Вучань мой, як той казачны славуты

волат, ажываў і мацнеў не па днях, а па гадзінах. Ён за якісьці тыдзень пасля двухтыднёвай гарачкі стаў на ногі і хадзіў, хоць і прытрымліваючыся за свой ложак, але так сумна і нявесела, што я, не зважаючы на настаўленне медыка гаварыць з ім пра адцягненыя прадметы, спытаў у яго аднойчы:

– Ты здаравееш, табе добра, чаго ж ты сумуеш?

– Я не сумую, мне весела, але я не ведаю, чаго мне хочацца... Мне хацелася б пачытаць.

Я спытаў у медыка, ці можна яму даць чытаць што-небудзь?

– Не давайце, тым болей чытання сур'ёзнага...

– Што ж мне з ім рабіць? Сядзелкай я ў яго не магу быць, а больш дапамагчы яму няма чым.

У гэтым цяжкім роздуме ўсплыла мне на памяць "Перспектыва" Альберта Дзюрэра з рускім тлумачэннем, якую я калісьці вывучаў, вывучаў, дый кінуў, не дабіўшыся толку. І дзіўна. Я ўспомніў пра блытаніну Альберта Дзюрэра і зусім забыўся аб тлумачальным выдатным курсе лінейнай перспектывы нашага прафесара Вараб'ёва. Чарцяжы гэтага курса перспектывы ў мяне былі ў партфелі (праўда, у беспарадку). Я сабраў іх і, спачатку параіўшыся з медыкам, аддаў іх вучню свайму разам з цыркулем і трохкутнікам і адразу ж прачытаў яму першы ўрок лінейнай перспектывы. Другі і трэці ўрокі перспектывы мне ўжо няма чаго было тлумачыць яму: ён як хутка ачуньваў, так хутка і разумеў гэтую матэматычную навуку, не ведаўшы, зрэшты, чатырох правілаў арыфметыкі.

Урокі перспектывы скончыліся. Я прасіў старэйшага медыка выпісаць яго з лякарні, але медык гігіенічна растлумачыў мне, што для канчатковага лячэння яму неабходна яшчэ прабыць пад медыцынскім наглядам прынамсі месяц. Нехаця я пагадзіўся.

На працягу гэтага часу я часта сустракаўся з Карлам Паўлавічам, бачыў разы два ці тры партрэт Васіля Андрэевіча пасля другога сеансу. У размове з Карлам Паўлавічам заўважаў ненаўмысныя намёкі на нейкі сакрэт, але, не ведаю чаму, я сам адхіляў яго шчырасць. Як быццам чагосьці баяўся, а між іншым амаль адгадваў сакрэт.

Таямніца неўзабаве такі адкрылася. 22 Красавіка 1838 года ранкам атрымліваю я ўласнаручную запіску В.А. Жукоўскага такога зместу:

"Ваша міласць N. N.!

Прыходзьце заўтра аб адзінаццатай гадзіне да Карла Паўлавіча і дачакайцеся мяне ў яго, дачакайцеся мяне абавязкова, як бы позна я ні прыехаў. В. Жукоўскі.

P. S. Прывядзіце і яго з сабою".

Слязьмі абліў я гэтую святую запіску і, не давяраючы яе кішэні, сціснуў у кулаку і пабег у бальніцу. Швейцар, хоць і меў загады прапускаць мяне ва ўсе гадзіны дня, на гэты раз аднак жа не пусціў, сказаўшы: "Рана, ваша благароддзе, хворыя яшчэ спяць". Мяне гэта крыху астудзіла. Я расціснуў кулак, разгарнуў запіску, прачытаў яе ледзь-ледзь не па складах, беражліва згарнуў яе, паклаў у кішэню і сталымі крокамі вярнуўся на кватэру, у душы дзякуючы швейцару за тое, што ён спыніў мяне.

Даўно, вельмі даўно, яшчэ ў прыходскім вучылішчы, крадком ад настаўніка чытаў я знакамітую пераліцаваную "Энеіду" Катлярэўскага.

Колы чого в руках нэ маєш,
То нэ кажы, шчо вжэ твое...

І гэтыя два радкі так глыбока мне ўрэзаліся ў памяць, што я і зараз іх, паўтараючы, нярэдка ўжываю. Якраз гэтыя два радкі і прыйшлі мне на памяць, калі

я вяртаўся на кватэру. І сапраўды. Ці ведаў я напэўна, што гэтая святая запіска адносіцца да яго справы? Не ведаў, толькі прадчуваў, а прадчуванне часта падманвае. А што, калі б яно і цяпер падманула? Якое б я страшнае зрабіў зло, і каму яшчэ? Найлюбімаму чалавеку. Я сам сябе спалохаўся пры гэтай думцы.

На працягу гэтых вельмі доўгіх сутак я раз дваццаць падыходзіў да дзвярэй Карла Паўлавіча і з нейкім незразумелым страхам вяртаўся назад. Чаго я баяўся, і сам не ведаю. У дваццаць першы раз я наважыўся пазваніць, і Лук'ян, выглянуўшы ў акно, сказаў: "Іх няма дома". У мяне як гара з плеч звалілася. Як быццам я здзейсніў велізарны подзвіг і нарэшце ўздыхнуў свабодна.

Бадзёра выходжу я з Акадэміі на Трэцюю лінію, і тут якраз Карл Паўлавіч насустрач. Я зусім разгубіўся і хацеў было бегчы ад яго, але ён спыніў мяне пытаннем:

– Вы атрымалі запіску Жукоўскага?

– Атрымаў, – ледзь чутна адказаў я.

– Прыходзьце ж да мяне заўтра аб адзінаццатай. Да пабачэння. І гэта... Калі ён можа, прывядзіце і яго з сабой, – дадаў ён, аддаляючыся.

"Ну, – падумаў я, – цяпер ні найменшага сумневу, і ўсё-ткі:

Колы чого в руках нэ маєш,
То нэ кажы що вжэ твое".

Прайшло некалькі хвілінаў, і гэтае мудрае выслоўе выпарылася з маёй вельмі непрактычнай галавы. Мною авалодала непераадольнае жаданне прывесці яго заўтра да Карла Паўлавіча. А ці дазволіць медык? Вось пытанне. І, каб рашыць яго, я пайшоў да доктара на кватэру, застаў яго дома і расказаў яму прычыну майго раптоўнага візіту. Доктар прывёў мне некалькі прыкладаў вар'яцтва, прычынай якіх былі раптоўная радасць або раптоўнае гора. "А тым больш, – сказаў на заканчэнне ён, – што ваш пратэжэ не зусім яшчэ акрыяў пасля гарачкі". На такія аргументы адказваць не было чаго. І я, падзякаваўшы доктару за добрую параду, развітаўся і выйшаў на вуліцу. Доўга шліфаваў я брук без усякага намеру; хацеў было зайсці да старога Венецыянава, ці не скажа ён мне чаго больш пэўнага, але было ўжо за поўнач; а ён не наш брат халасцяк, – такім чынам, і думаць няма чаго аб познім наведванні. "Ці не сходзіць мне, – падумаў я, – на Траецкі мост палюбавацца ўсходам сонца?" Але да Траецкага моста няблізка, а я пачынаў ужо адчуваць стомленасць. А мо абмежавацца мне ціхамірным сядзеннем ля гэтых велізарных сфінксаў? Бо ўсё роўна тая ж Нява. Тая ж, ды не тая. І, падумаўшы, я накіраваўся да сфінксаў. Сеўшы на гранітную лаўку і прыхіліўшыся да бронзавага грыфона, я доўга любаваўся ціхаструменнай прыгажуняй Нявой.

З узыходам сонца прыйшоў на Няву па ваду акадэмічны швейцар і разбудзіў мяне, прыгаворваючы як павучанне:

– Добра яшчэ, што людзі не ходзяць, а то падумалі б, што які гуляшчы.

Падзякаваўшы грывенікам швейцару за паслугу, я адышоў на кватэру і заснуў ужо сапраўдным, як гаворыцца, гаспадарскім сном.

Роўна аб адзінаццатай я з'явіўся на кватэру Карла Паўлавіча, і Лук'ян, адчыніўшы мне дзверы, сказаў: "Прасілі пачакаць". У майстэрні ў вочы мне кінулася, толькі па вядомасці і Мілераваму эстампу вядомая, знакамітая карціна Цампіеры "Ян Багаслоў". Ізноўку неўразуменне! Ці не з нагоды гэтай карціны запрашае мяне Васіль Андрэіч? Тады навошта ён піша: "Прывядзіце і яго з сабою"? Запіска была пры мне, я дастаў яе і, прачытаўшы некалькі разоў post scriptum, трохі супакоіўся і падышоў да карціны бліжэй, але пракляты сумнеў перашкаджаў мне цалкам атрымліваць асалоду ад гэтага ў вышэйшай ступені вытанчанага твору.

Як ні перашкаджаў мне сумнеў, аднак жа я заўважыў, як увайшоў у май-

стэрню Карл Вялікі ў суправаджэнні графа Вельегорскага і В.А. Жукоўскага. Я з паклонам саступіў ім сваё месца і адышоў да партрэта Жукоўскага. Яны доўга моўчкі любаваліся вялікім творам беднага пакутніка Цампіеры, а я заміраў ад чакання. Нарэшце Жукоўскі дастаў з кішэні форменна складзеную паперу і, падаючы мне, сказаў:

– Перадайце гэта вучню вашаму.

Я разгарнуў паперу. Гэта была яго адпускная, засведчаная графам Вельегорскім, Жукоўскім і К. Бруловым.

Я набожна перахрысціўся і тройчы пацалаваў гэтыя знакамітыя рукапрылажэнні.

Дзякаваў я як мог вялікаму і чалавекалюбнаму трыа і, раскланяўшыся як папала, выйшаў у калідор і пабег проста да Венецыянава.

Стары сустрэў мяне радасным пытаннем:

– Што новага?

Я моўчкі дастаў з кішэні каштоўны акт і падаў яму.

– Ведаю, усё ведаю, – сказаў ён, вяртаючы мне паперу.

– Ды я, аднак, нічога не ведаю! Богам прашу, раскажыце мне, як гэта ўсё сталася?

– Дзякуй Богу, што здзейснілася, ды мы спачатку паабедаем, а потым я пачну распавядаць. Гісторыя доўгая, а галоўнае – выдатная гісторыя.

І, узвысіўшы голас, ён прачытаў верш Жукоўскага:

– Дзеці, аўсяны кісель на стале, чытайце малітву.

– Чытаем, татуля, – пачуўся жаночы голас, і ў суправаджэнні А.Н. Макрыцкага выйшлі з гасцінай дочкі Венецыянава, і мы селі за стол. За абедам супраць звычаю неяк было шумней і весялей. Стары натхніўся і расказаў гісторыю партрэта В.А. Жукоўскага. І амаль не згадаў пра ўласны удзел у гэтай высакароднай гісторыі. Толькі ў заключэнне дадаў:

– А я толькі быў простым маклерам у гэтай велікадушнай справе.

А сама справа дзеялася вось як.

Карл Брулоў напісаў партрэт Жукоўскага, а Жукоўскі і граф Вельегорскі гэты самы партрэт прапанавалі найсвятлейшай сям'і за 2500 рублёў асігнацыямі і за гэтыя грошы вызвалілі майго вучня. А стары Венецыянаў, як ён сам выказаўся, разыграў у гэтай добрай справе ролю руплівага і высакароднага маклера.

Што ж мне цяпер рабіць? Калі і як мне абвясціць яму гэтую радасць? Венецыянаў паўтарыў мне тое ж самае, што і лекар сказаў, і я цалкам перакананы ў неабходнасці гэтай засцярогі. Ды як жа я ўцярплю! Або спыніць свае наведванні на некаторы час? Нельга, ён падумае, што я таксама захварэў або пакінуў яго, і будзе мучыцца. Падумаўшы, я ўзброіўся ўсёй сілай волі і пайшоў у лякарню Марыі Магдаліны. Першы сеанс я вытрымаў як лепш не трэба, за другім і трэцім візітам я ўжо пачаў яго патроху рыхтаваць. Пытаўся медыка, як хутка яго можна выпісаць з бальніцы. Ды медык не раіў спяшацца. Я зноў пачаў мучыцца нецярпеннем.

Аднойчы ранкам прыходзіць да мяне яго былы гаспадар і без далёкіх акалічнасцей пачынае мяне папракаць, што я абрабаваў яго самым варварскім чынам, што я скраў у яго лепшага работніка і што ён праз мяне губляе па меншай меры не адну тысячу рублёў!

Я доўга не мог зразумець, у чым справа? І якім родам я трапіў у рабаўнікі? Нарэшце ён мне сказаў, што ўчора выклікаў яго памешчык і што расказаў яму ўвесь ход справы і патрабаваў ад яго знішчэння кантракту. І што ўчора ж ён быў у шпіталі, і што ён нічога пра гэта не ведае. «Вось табе і засцярога!" – падумаў я.

– Чаго ж вы цяпер ад мяне хочаце? – спытаў я.

– Нічога, хачу даведацца толькі, ці праўда ўсё гэта?

Я адказаў:

– Праўда. – І мы рассталіся.

Я быў задаволены такім паваротам падзей. Цяпер ужо ён падрыхтаваны і можа прыняць гэтую вестку больш спакойна, чым раней.

– Ці праўда? Ці можна верыць таму, што я чуў? – такім пытаннем сустрэў ён мяне каля дзвярэй сваёй палаты.

– Я не ведаю, што ты чуў.

– Мне казаў учора гаспадар, што я... – І ён замоўк, як бы баючыся скончыць фразу. Ды, памаўчаўшы трохі, ледзь чутна прамовіў: – Што я адпушчаны!.. Што вы... – І ён заліўся слязьмі.

– Супакойся, – сказаў я, – гэта яшчэ толькі падобна на праўду. – Але ён нічога не чуў і працягваў плакаць.

Праз некалькі дзён ён выпісаўся з лякарні і размясціўся ў мяне на кватэры, цалкам шчаслівы.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
свайго шаноўнага старэйшага сябра
**Валерыя Васільевіча Стралко**
з сямідзесяціпяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, аптымізму,
душэўнае трываласці і новых твораў ды перакладаў!

Барыс Сачанка



...я перакананы: смерць Купалы – справа рук адпаведнага ведамства...

# “Літаратура – гэта голас народа”

***Гутарка Зіновія Прыгодзіча з Барысам Сачанкам***

Мне выпаў вялікі гонар доўгія гады быць побач з выдатным пісьменнікам, актыўным грамадскім дзеячам і проста цудоўным чалавекам Барысам Сачанкам. Нашае сяброўства доўжылася цэлых дваццаць гадоў, і ўвесь гэты час мы бачыліся з Барысам Іванавічам літаральна кожны дзень. І не проста бачыліся, а пра многае гаварылі, абменьваліся думкамі па самых балючых праблемах, часам горача спрачаліся, не заўсёды і не ва ўсім прыходзячы да згоды. Але, канечне ж, па самых важных, прынцыповых пытаннях было поўнае паразуменне.

З пісьменнікам Барысам Сачанкам я пазнаёміўся ў 1960 годзе, калі выйшла з друку яго першая кніжка апавяданняў “Дарога ішла праз лес”. У тое лета я паступаў у Дзяржуніверсітэт. На аддзяленне журналістыкі мае дакументы не прынялі – не было неабходных двух гадоў працоўнага стажу. І я вырашыў здаваць экзамены на беларускае аддзяленне філфаку. Аднойчы вечарам, калі мы, шасцёра абітурыентаў, сядзелі ў інтэрнацкім пакоі, абклаўшыся кніжкамі, і рыхталіся да чарговага экзамена, нехта з хлопцаў раптаў сказаў:

– Паслухайце!

І стаў чытаць. Апавяданне было пра тое, як чалавек праз многія гады прыходзіць у родную вёску і, дачакаўшыся цемені, цішком крадзецца пад вокны свайго былога дома, каб хоць здалёк убачыць тых, каго некалі так неабдумана кінуў – жонку, дзяцей... Апавяданне глыбока ўражвала. Сваёй прастатой, шчырасцю, унутраным драматызмам.

– Хто гэта? Чыё? – зацікавіліся мы.

– Барыс Сачанка.

Прозвішча было малазнаёмае, хаця, здаецца, ужо сустракалася на старонках літаратурных часопісаў. Забыўшыся на падручнікі, мы прасілі хлопца чытаць яшчэ і яшчэ..

Назаўтра ж усе разам пайшлі ў кнігарню і набылі там кніжку, якая нас так уразіла і ўсхвалявала.

З таго часу я ўжо стараўся ўважліва сачыць за творчасцю пісьменніка, які стаў мне блізкім і дарагім.

А вось з самім Барысам Іванавічам я пазнаёміўся значна пазней. Працуючы ў “Звяздзе”, у аддзеле літаратуры і мастацтва, я не раз чуў ад загадчыка гэтага аддзела Алеся Траяноўскага прозвішча Сачанкі: то яны некуды разам ездзілі, то адзін у аднаго гасцявалі, то гаварылі па тэлефоне... Але чамусьці Барыс Іванавіч ні разу не зайшоў у рэдакцыю, каб я мог нарэшце пабачыць яго і пазнаёміцца.

А неўзабаве я перайшоў на працу ў ЦК КПБ, у сектар мастацкай літаратуры. І здарыўся невялічкі цуд: адным з першых, хто пазваніў і павіншаваў мяне з новай пасадай, быў... Барыс Сачанка! Колькі гадоў прайшло, а я і зараз да драбніц помню тую кароткую, але такую прыемную, радасную, хвалюючую для мяне тэлефонную размову. Барыс Іванавіч пацікавіўся, як мне працуецца на новым месцы, сказаў, калі будуць якія пытанні па літаратуры, а гэта сфера няпростая, тонкая, не ўсё тут навідавоку, не ўсё адназначна, каб я без усялякіх цырымоній звяртаўся да яго – “чым магу памагу”.

Неўзабаве пасля гэтага была і нашая першая сустрэча, знаёмства і непрацяглая, трохі раскіданая размова. Раскіданая, бо мне замінала лішняе хваляванне (як-ніяк, перада мною быў вядомы пісьменнік, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі), я стараўся менш гаварыць і больш слухаць. А Барысу Іванавічу, каб падтрымліваць размову, даводзілася пытацца ў мяне то пра адно, то пра другое.

І ўсё ж ад сустрэчы той засталося ў мяне цёплае, шчырае пачуццё. Асабліва кранула тое, што Барыс Іванавіч, разважаючы пра творчасць маладых, упамянуў і некаторыя мае публікацыі, што прамільгнулі былі ў “Звяздзе”, у “Полымі”. І, можа, не гэтулькі кранула, як уразіла: аказваецца, пісьменнік, пры ўсёй сваёй занятасці, знаходзіць час, каб уважліва сачыць за ўсім, што адбываецца ў літаратуры, у журналістыцы.

Пазней я не раз пераконваўся: цікаўнасць, дапытлівасць, прага ведаў – былі, бадай, самымі адметнымі рысамі ягонага характару. Дзеля гэтага Барыс Іванавіч заводзіў знаёмствы з рознымі людзьмі: чыноўнікамі (але толькі з тымі, якія былі яму цікавыя), навукоўцамі, журналістамі, мастакамі і, вядома ж, пісьменнікамі. Дзверы ягонай гасціннай кватэры на Пуліхава, здаецца, не зачыняліся ніколі. Каго я тут толькі не сустракаў – філосафа Анатоля Міхайлава, гісторыка Мікалая Сташкевіча, кнігалюба Васіля Вільтоўскага, патрыярха беларускай літаратуры Максіма Лужаніна...

А яшчэ згадваюцца нашыя праходкі каля Свіслачы... О, гэта было своеасаблівым рытуалам. Больш за дзесяць гадоў, вечар у вечар, у любое надвор’е, як толькі заканчвалася праграма “Время”, мы – Барыс Сачанка, Раман Катужанец і я – выходзілі на нашую “сцяжыну здароўя”. Сцяжына гэтая пачыналася каля вакзала “Усходні”, ішла ўздоўж ракі паралельна вуліцы Пуліхава, мінала парк

Горкага, штаб Ваеннай акругі і канчалася каля музея Янкі Купалы. Туды і назад – недзе кіламетраў дзесяць. Спорным крокам гэта займала гадзіны паўтары. За гэты час мы паспявалі не толькі добра надыхацца свежым паветрам, але і ўволю нагаварыцца. Напачатку абменьваліся навінамі – хто дзе што чуў альбо бачыў. Пасля Барыс Іванавіч расказваў нам, што вартага паявілася з новых кніжак, нешта раіў абавязкова набыць. Яго дасведчанасць і аўтарытэт тут былі бясспрэчнымі. Даводзілася толькі здзіўляцца: і калі чалавек паспявае за ўсім сачыць, неабходнае даставаць (тады добрую кніжку часцей за ўсё не куплялі, а з вялікімі цяжкасцямі даставалі) і – самае галоўнае – чытаць. Менавіта ад Барыса Іванавіча я ўпершыню пачуў пра Маркеса і Фолкнера, пра Гамсуна і Пруста, пра Джойса і Кафку... Некаторыя кнігі, якія нельга было дастаць, скажам, Ніцшэ, Шапэнгаўэра, Макіявелі, ён даваў пачытаць, агаворваючы, праўда, каб трымаў іх далей ад чужога вока.

Нярэдка падчас гэтых праходак паміж намі ўзнікалі гарачыя спрэчкі, асабліва па якіх-небудзь палітычных, ідэалагічных праблемах. Памятаю, як востра перажываў Барыс Іванавіч сваю няўдачу на выбарах у Вярхоўны Савет БССР. Яго абурала тое, як несправядліва, па-хамску абышліся мясцовыя ўлады не толькі асабіста з ім, а і з многімі вядомымі пісьменнікамі. Няўжо ім больш патрэбны маўклівыя галасавальшчыкі, чым людзі, якія маюць сваю думку, самастойны погляд? Не, такая ўлада не мае перспектывы!

На прагулку Барыс Сачанка выходзіў з розным настроем. Калі дзень у яго складваўся ўдала, калі не азмрочваўся ніякімі непрыемнасцямі, Барыс Іванавіч быў бадзёры, ахвотна жартаваў, многа смяяўся. А здаралася, што ён прыходзіў маўклівы, змрочны, і мы ў такіх выпадках стараліся не назаляць яму лішнімі роспытамі.

Дарэчы, па натуры Сачанка быў чалавек гарачы, запальчывы і надта ж ранімы. Часам ужо і залішне. Быў такі выпадак. Падышлі мы да пад’езда Барысавага дома, чакаем пяць хвілінаў, дзесяць, а яго ўсё няма і няма. А на дварэ – зіма, мароз, мы ўжо заледзянелі ад холаду. Нарэшце Барыс Іванавіч выходзіць. І трэба ж было яму папытацца: “Ну што, замерзлі? Прабачце, якраз выходзіў, а тут званок...” – “Можна ж было і не адказваць на званок, – раздражнёна папракнуў Раман, у якога ўжо зуб на зуб не трапляў, лёгенькае паліто зусім не ратавала ад холаду. – Задубееш тут, гэтулькі чакаючы”. – “А я нікога не прымушаў чакаць! Можаце гуляць і без мяне”. І потым не выходзіў на праходку цэлы тыдзень.

І разам з тым, пры знешняй строгасці, Барыс Іванавіч быў вельмі чуллівым і зычлівым чалавекам. Ён браўся дапамагаць і дапамагаў усім, хто звяртаўся да яго па дапамогу і нават сам, па сваёй ахвоце, клапаціўся пра тых, хто яе не прасіў. А як ён перажываў, калі Чарнобыль засыпаў радыяцыйным попелам ягоныя родныя мясціны. “Маці, маці ж там! – ледзь не плакаў ён. – Гэты Чарнобыль адабраў у мяне радзіму, спаганіў маю бацькаўшчыну!”

Доўгі час гэтая балючая тэма была галоўнай на нашых праходках. Барыс Іванавіч не проста перажываў, а і імкнуўся чым мог дапамагчы сваім землякам у той страшнай бядзе, якая на іх звалілася. Помню, ён падрабязна расказваў пра сваю паездку ў Хойнікі разам з Іванам Шамякіным і Міколам Мятліцкім, пра сутрэчы з кіраўніцтвам раёна, з жыхарамі вёсак Вялікі Бор і Бабчын. Пасля гэтай і пазнейшых паездак нарадзілася вострапубліцыстычная кніга “Запіскі пра радыяцыю”, у якой быў пастаўлены шэраг важных, актуальных праблем.

Але не толькі словам, а і канкрэтнай справай ён стараўся дапамагчы землякам. То разам з дырэктарам Інстытута ядзерных выпрабаванняў Васілём Несцярэнкам даставаў дэфіцытныя тады дазіметры, то ў Міністэрстве гандлю “прабіваў” фонды на прадукты харчавання, то клапаціўся пра летні адпачынак хойніцкіх школьнікаў.

Увогуле, мне здаецца, Барыс Сачанка далёка не поўнасцю рэалізаваў свой не абы які талент арганізатара, талент кіраўніка. У апошнія гады справядлівасць нарэшце нібыта перамагла – яго прызначылі галоўным рэдактарам выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя”. З якім энтузіязмам узяўся ён за новую, складаную, але такую блізкую, дарагую для яго справу! Колькі цікавых, перспектыўных планаў выношваў у тыя месяцы!

Ён рупліва даводзіў да ладу і выдаў энцыклапедычны аднатомнік “Беларуская мова”, апошнія тамы шасцітомніка “Беларускія пісьменнікі”. З энтузіязмам узяўся за шматтомную “Энцыклапедыю гісторыі Беларусі”, першы том якой ужо быў падрыхтаваны ранейшым галоўным рэдактарам, доктарам гістарычных навук Міхасём Ткачовым, які заўчасна памёр.

Аднак ягонай рамантычнай мараю, з якой ён і прыйшоў у “БелЭН”, было стварэнне энцыклапедычнага даведніка “Беларусь”. Усё пра краіну ў адным томе. “Разумееш, – казаў ён, – гэта ж тысяча славутых людзей Беларусі за тысячы гадоў!” Прынцыпова абмяркоўваў кожнае імя, кожную дэфініцыю, перад тым, як паставіць іх у слоўнік. Баяўся прапусціць якое-небудзь шаноўнае імя ці значную для нашай Радзімы падзею.

Барыс Іванавіч, прыйшоўшы на сваю турботную пасаду ў перабудовачны час, не вельмі спрыяльны для энцыклапедычных выданняў, усё ж шчыра і з рашучасцю ўзяўся за стварэнне сваёй – менавіта сваёй! – універсальнай, 18-томнай энцыклапедыі. Былі створаны слоўнікі па ўсіх галінах ведаў, падрыхтаваны першыя тамы, аднак здзейсніць сваю задуму да канца яму, на вялікі жаль, не ўдалося – выданне “БелЭН” было завершана пасля яго смерці.

І ўсё ж, аддаючы належнае арганізатарскаму таленту, шматлікім грамадскім клопатам, хочацца зазначыць, што не гэта было для яго галоўным у жыцці. Сам Барыс Сачанка неаднаразова казаў: “Пісьменнік – гэта творы. Ёсць яны – ёсць пісьменнік. Няма твораў – няма пісьменніка”.

Цяжка з гэтым не пагадзіцца. Сапраўды, твораў пісьменніку не заменіць нішто – ні актыўная грамадская работа, ні тая альбо іншая пасада, ні ганаровае званне, якое, карыстаючыся пасадай, можна часам “выбіць” і не па заслугах. Літаратура прызнае толькі адно: чэснае, праўдзівае слова, народжанае да жыцця сілай таленту, напоўненае гарачым высокім пачуццём. Вось чаму нязменнай застаецца ісціна: гаварыць пра пісьменніка – значыць, перш за ўсё, гаварыць пра яго творы.

Барысу Сачанку можна не саромецца зробленага. За няпоўныя чатыры дзесяцігоддзі творчай дзейнасці ім выдадзена амаль чатыры дзясяткі кніг. Напісаны сотні апавяданняў, адзінаццаць аповесцяў, тры раманы.

Справа, аднак, не ў колькасці. Галоўнае ў тым, што большасць з гэтых твораў праўдзіва адлюстравалі нашу рэчаіснасць, прыцягнулі ўвагу да найбольш важных, актуальных праблем. Ужо з першай сваёй кніжкі, пра якую я згадваў, Барыс Сачанка заявіў пра сябе як сталы, таленавіты пісьменнік. Крытыкі аднадушна адзначалі, што малады аўтар на дзіва глыбока ведае жыццё, здольны тонка пранікнуць у псіхалогію чалавека, па-мастацку перадаць свае назіранні і пачуцці.

Рэдкі на сённяшні дзень выпадак – каб першую кнігу віталі так горача і з такой аднадушнасцю. Прычым, рэцэнзіі былі змешчаны не толькі ў рэспубліканскім друку, але і ў саюзным, у прыватнасці, на старонках такога саліднага часопіса, як “Дружба народов”.

Барыс Сачанка разнастайны ў сваёй творчасці, аднак і адзіны ў гэтай разнастайнасці. Ён адкрываў у нашай літаратуры шмат якія новыя тэмы. Так, аповесць-рэквіем “Апошнія і першыя” – першы твор пра спаленыя беларускія вёскі. У раманае “Чужое неба” – зноў жа адкрыццё: цяжкі лёс беларусаў, якіх вывезлі ў Нямеччыну захопнікі на прымусовую працу.

Кажучы пра новыя тэмы, якія адкрываў Сачанка ў беларускай літаратуры, варта

згадаць вось яшчэ што. Калі я не памыляюся, ён адзін з першых, а можа нават і самы першы пачаў пісаць пра дзеячаў народна-вызваленчага нацыянальнага руху напачатку XX стагоддзя, такіх, як Янка Купала, Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі, Казімір Сваяк, Язэп Лёсік... Гэта цяпер ужо мы ведаем шмат якія дэталі, факты, абставіны іх трагічнага лёсу, а тады, у 70-я, нават многія імёны былі пад забаронаю. А Барыс Іванавіч не пабаяўся ўзяцца за распрацоўку гэтай тэмы. І артыкулы, адзін за адным, пачалі з'яўляцца то ў "ЛІМе", то ў "Полымі", то ў "Маладосці". Пазней яны склалі кнігу "Сняцца сны аб Беларусі...", якая цяпер шырока вядомая.

Не трэба, аднак, думаць, нібыта ў творчай біяграфіі Барыса Сачанкі ўсё было лёгка і гладка. Канечне ж, гэта не так. Ужо другая кніга "Барвы ранняй восені", у якой ён паспрабаваў закрануць некаторыя балючыя пытанні жыцця, выклікала даволі рэзкую рэакцыю з боку крытыкаў. Пісьменніка абвінавачвалі ў натуралізме, у скажэнні рэчаіснасці, у тым, што ён не бачыць вакол нічога светлага, радаснага.

На шчасце, так думалі не ўсе. Віктар Каваленка, напрыклад, пісаў, што "Барвы ранняй восені" – гэта барвы самога жыцця з яго чалавечай складанасцю і супярэчлівасцю, што гуманістычная канцэпцыя зборніка даволі шырокая і баявая.

Так што новае, нязвыклае заўсёды нялёгка прабівала сабе дарогу. І мужнасць, пра якую мы ўпаміналі, бывае тут часам зусім нялішняй. Да гонару Барыса Сачанкі, ён выстаяў пад агнём крытыкі, застаўся верны сваёй творчай канцэпцыі – не проста апяваць дабро, а паказваць яго ў барацьбе са злом, даследаваць вытокі розных сацыяльных заган, прымушаць і чытача думаць над гэтым.

У маім архіве захаваўся запіс гутаркі, якую мы з Барысам Іванавічам вялі ў лютым 1990 года, напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет БССР. Але размова міжволі выйшла далёка за межы выбарнай тэматыкі. І хоць з таго часу мінула больш за дваццаць гадоў, думкі, меркаванні пісьменніка не страцілі сваёй цікавасці і актуальнасці.

## І дарадца, і памочнік

**– Барыс Іванавіч, вось мы з табой усё талдычым: літаратура, літаратура… Яна, маўляў, і крыніца эстэтычнай насалоды, і магутны сродак выхання, і яшчэ шмат чаго карыснага ёй прыпісваем. Але ці так яно насамрэч? Ці не перабольшваем мы значэнне мастацкага слова ў нашым жыцці?**

– Можа, у нечым і перабольшваем, але не істотна. Спашлюся на класікаў. Леў Талстой вельмі высока цаніў ролю і прызначэнне мастака. "Мэта мастака, – гаварыў ён, – не ў тым, каб неаспрэчна вырашыць пытанне, а ў тым, каб прымусіць любіць жыццё ў бясконцых, ніколі не спатольных усіх яго праявах". Гэткай жа думкі прытрымліваўся Някрасаў, які сцвярджаў, што "ў нашай айчыне роля пісьменніка ёсць перш за ўсё роля настаўніка і па магчымасці заступніка за безгалосых і прыгнечаных".

Я не буду паўтараць вядомыя ісціны, што літаратура мае выхаваўчае значэнне, што яна заўсёды была і будзе тэндэнцыйнай, сацыяльна і гуманістычна скіраванай. Што мастацкае слова, зноў-такі спашлюся на Льва Талстога, акрамя "часовых інтарэсаў грамадства павінна адлюстроўваць вечныя, агульначалавечыя інтарэсы, самыя дарагія, задушэўныя ўсведамленні народа".

Мне здаецца, што ў гэтым у нас разыходжанняў ні ў кога няма. Усе мы – пісьменнікі, усе мы хочам служыць свайму народу, хоць гэтае служэнне кожны разумее па-свойму. Адзін бачыць яго ў адкрытай, страснай публіцыстыцы. Другі сцвярджае свае ідэалы сілай мастацкіх вобразаў. Трэці абуджае чалавечыя душы тонкай пранікнёнай лірыкай. І немагчыма сказаць, што тут больш важна, неабходна. Кожны выбірае сваё, тое, што грэе сэрца, жывіць розум.

Літаратура – адзін з самых інтымных відаў мастацтва. Чалавек чытае кнігу часцей за ўсё на адзіноце, калі побач з ім нікога няма: толькі ён і кніга. Гэта не кіно, не тэатр. Таму чытачу, застаўшыся сам з сабою, хочацца пра многае падумаць, зразумець і сябе і іншых людзей, асэнсаваць тое, што рабілася вякамі і што робіцца цяпер навокал яго. І кніга тут – найпершы сябра, памочнік і дарадца. Не бяда, калі падчас чытання ён засмяецца, заплача альбо адкладзе кнігу на пэўны час убок, захоча засяродзіцца, паглыбіцца ў сябе. Не варта забываць, што чытач шукае ў кнігах пэўнай апоры ў сваім жыцці, у сваёй дзейнасці. І пісьменніку, калі толькі ён хоча, каб яго паважалі, важна не падмануць чалавека, спраўдзіць яго надзеі.

**– А што для гэта патрэбна? Які, на тваю думку, самы галоўны складнік мастацкага твору?**

– Такіх складнікаў многа. І я, бадай, не вазьмуся вызначаць, што сярод іх галоўнае, а што другараднае. Усё важна – і форма, і змест. Паміж імі павінна быць, як кажуць філосафы, дыялектычнае адзінства. Але калі ты ўжо задаў такое пытанне, то я адкажу на яго словамі таго ж Льва Мікалаевіча (прабач, што так часта яго цытую). Дык вось Талстой на гэты конт прызнаваўся, што галоўны герой усіх яго твораў, "якога я люблю ўсімі сіламі душы, якога імкнуўся перадаць ва ўсёй прыгажосці і які заўсёды быў, ёсць і будзе цудоўны, – праўда".

Не толькі адзін Леў Талстой, а і многія іншыя пісьменнікі-класікі папярэджвалі, што літаратура можа быць патрэбнай народу, стаць яго сумленнем толькі тады, калі яна не будзе баяцца гаварыць праўду, якая б яна, тая праўда, горкая ні была, калі літаратура нічога не будзе ўтойваць, хаваць ад людзей.

**– Але ж, пагадзіся, што праўда, якая б яна шчырая ні была, яшчэ не мастацтва…**

– Цалкам пагаджаюся. Сапраўды, адной голай праўды мала для літаратуры. Для літаратуры патрэбна сіла мастацкага слова, магія пісьменніцкага суперажывання, каб праўда жыцця стала мастацкай праўдай.

**– А ў чым жа ўсё-такі розніца паміж жыццёвай праўдай і мастацкай?**

– Мастацкая праўда – гэта праўда жыцця, убачаная творцам і прапушчаная праз яго розум, веды, сагрэтая яго сэрцам. Яна, гэтая праўда, нічога агульнага, вядома, не мае з "фальгой", з упрыгожваннем, падмалёўваннем праўды. Разам з тым мастацкая праўда можа прымаць самую разнастайную форму – рэалістычную, фантастычную, фантасмагарычную, містычную.

Яскравым сведчаннем таму могуць служыць неўміручыя творы Гогаля. Возьмем, скажам, "Мёртвыя душы". Захапляючыся яркімі, каларытнымі вобразамі Чычыкава, Манілава, Сабакевіча, Плюшкіна, мы тым не менш разумеем, што ў рэальным жыцці такіх людзей не было, іх стварыла багатая фантазія пісьменніка. Але стварыла на падставе рэальных жыццёвых фактаў, узбуйніла гэтыя факты, тыпізавала іх, зрабіла з'яваю ўжо не толькі літаратуры, але і самога жыцця.

Ці, напрыклад, раман "Людзі на балоце" Івана Мележа. Канечне ж, у рэальнасці такіх людзей, як Васіль Дзятлік, Ганна, Міканор у тых мясцінах, адкуль родам пісьменнік, не было. Але былі дзясяткі іншых, якіх Іван Паўлавіч добра ведаў сам альбо пра якіх яму расказвалі яго бацькі, аднавяскоўцы. Ад кожнага з іх пісьменнік узяў нейкую рысу характару, нейкую дэталь, падрабязнасць і намаляваў сваіх, надзвычай яркіх, самабытных герояў. Герояў, у якіх праўда жыцця ўвасоблена куды больш поўна і пераканаўча, чым у любым дакуменце.

**– Дарэчы, пра дакументальнасць. Некаторыя крытыкі, а іншым разам і самі пісьменнікі сцвярджаюць, што будучыня якраз не за мастацкаю літаратурай, а за дакументальнаю…**

– Чаго толькі не прыдумаюць асобныя вёрткія творцы, каб апраўдаць, прыўзняць тое, што самі робяць! Напісалі дакументальныя творы – і пайшлі

адзін за адным тэарэтычныя абгрунтаванні, маўляў, у дакументальнай літаратуры больш праўды, чым у мастацкай, таму чытач аддае перавагу менавіта ёй.

Мне такім хочацца сказаць: спыніцеся – нічога новага ў вашых разважаннях няма. У адным са сваіх лістоў да В.П. Боткіна Леў Талстой паведамляў: “Салтыкоў нават растлумачыў мне, што для “изящной” літаратуры цяпер час мінуў (і не толькі для Расіі цяпер, а наогул), што ва ўсёй Еўропе Гамера і Гётэ перачытваць не будуць больш...”

Многія ўжо спрабавалі пахаваць мастацкую літаратуру, аддаючы перавагу то аднаму, то другому не мастацкаму жанру. А яна жыве. І, трэба спадзявацца, будзе жыць. Бо літаратура – гэта голас народа, боль і радасць ягонай душы. І час, у якім мы жывем, мае патрэбу ў мастацкай літаратуры, як ніякі іншы ў нашай гісторыі.

**– Ну, добра… А што ты скажаш наконт сцверджання некаторых вядомых еўрапейскіх мысляроў аб тым, што раман як літаратурны жанр памёр?**

– Ведаю, чуў, чытаў. Атакі на раман пачаліся не сёння – яшчэ гадоў трыццаць, сорак таму. З’язджаліся, збіраліся на розныя нарады тыя, хто любіць гэты жанр, хто не ўяўляе без яго свайго жыцця – пісьменнікі, крытыкі, чытачы, даказвалі, пераконвалі, што зарана напісаны некралогі, раман жыве і не збіраецца паміраць. Вядома, праціўнікі рамана не здаліся. І не здаюцца. Дыскусія то тлее, то выбухае агнём. Ломяцца пёры, апусташаюцца бочкі чарніла і друкарскіх фарбаў. Кожны ў сваё апраўданне знаходзіць довады і доказы...

А раман? Ён як жыў, так і жыве. На змену адным раманістам прыходзяць новыя. Хто спрабуе ўліць у старыя мяхі віно новага зместу, хто проста піша – а раптам што-небудзь і атрымаецца. Часопісы, выдавецтвы ахвотна друкуюць раманы, чытачы яшчэ больш ахвотна іх купляюць. Сярод раманаў, вядома ж, ёсць шмат слабых і нават не вартых гэтага жанру. А што – хіба сярод іншых жанраў, скажам, вершаў, апавяданняў, аповесцяў, менш слабых? Але час ад часу з’яўляюцца і такія раманы, якія адпавядаюць самым строгім меркам гэтага жанру. Яны якраз нешматлікія, рэдкія, але яркія, і вызначаюць шляхі далейшага развіцця нашай літаратуры.

**– Дарэчы, пра нашу літаратуру… Якім табе падаецца сённяшні стан беларускага прыгожага пісьменства?**

– Ого, як ты кучарава выказаўся!

**– Гэта я для таго, каб не паўтараць слова “літаратура”.**

– А вось Леў Мікалаевіч (бачыш, ніяк я не магу без яго) не займаўся гэтай арыфметыкай. Ён не баяўся ў адным сказе паўтарыць слова і двойчы, і тройчы, і нават пяць-шэсць разоў. Для яго галоўным былі мелодыка фразы, яе рытм і, вядома ж, яснасць, даступнасць сэнсу. Таму мы, чытаючы яго творы, і не заўважаем гэтых паўтораў.

Але да твайго пытання. Я разумею яго падтэкст. Падчас перабудовы некаторыя гарачыя галовы надта ж ужо ўзяліся крытыкаваць нашую літаратуру, закрэсліваючы ледзь не ўсё, што напрацавана за савецкім часам. Насамрэч мы маем не такую ўжо і благую літаратуру. Лепшыя творы яе гавораць самі за сябе – яны перакладзены на многія мовы і сталі здабыткам культурных людзей усяго свету.

**– Нас, у прыватнасці, абвінавачваюць у правінцыялізме…**

– Хваробу правінцыялізму такія абвінаваўцы бачаць досыць аднабакова. Што мы разумеем пад правінцыялізмам? Звычайна – дрымучую застарэласць, нячуласць да ўсяго новага, вартага, што ўзнікае ў іншых літаратурах. Так, гэта правінцыялізм: жыць даўно набытым, карыстацца гатовым, задавольвацца зробленым.

Аднак наш славуты класік Іван Мележ бачыў і іншы бок правінцыялізму. Ён, гэты правінцыялізм, бывае так спрытна апрануты ў наймаднейшы гарнітур, такі цывілізавана прычасаны, “сучасна” настроены, што яго не адразу і разбярэш. Але ёсць у яго адна якасць, якая адразу ж выкрывае ўсю сутнасць. Гэта – непамернае

захапленне ўсім, што робіцца па-за нашым домам, і разам з тым – няёмкасць, сорам за ўсё сваё, за ўсё тое, што зроблена тут, самімі, няўменне незалежна цаніць свае, блізкія каштоўнасці, няўвага, а часам і пагарда да неацэнных скарбаў, выпрацаваных родным народам, стараннямі многіх пакаленняў.

І далей Іван Паўлавіч зазначаў: "Галоўнае, што яднае правінцыялаў мастацтва ўсіх гатункаў і відаў – гэта ў рэшце рэшт нізкі ўзровень светапогляду, у рэшце рэшт бедная ўнутраная культура – ці то правінцыялізм гэты апрануты ў даматканую світку, ці ў самы модны гарнітур з найлепшага сталічнага атэлье. Не трэба думаць, што правінцыялізм у літаратуры – гэта прывязанасць да старых форм, у наш час правінцыялізм дастаткова "разумны", каб часта першым падхапіць новую, выгадную тэмку, эфектную ідэйку, фарсануць архісучаснасцю. Уся бяда ў тым, што пад гэтай архісучаснай і моднай апраткай – убогая беднасць унутранага свету, нікчэмная культура думкі і пачуццяў. Няздатнасць мысліць самастойна, ствараць вартыя каштоўнасці".

Прабач за доўгую цытату, але тут думка сфармулявана так ёмка і так поўна, што лепш і не скажаш.

**– А яшчэ часам раздаюцца галасы: маўляў, колькі можна пісаць пра вайну? Пакаленні, якія ўдзельнічалі ў баях альбо тыя, што перажылі жахі вайны, гэтыя пакаленні ўжо адыходзяць. А пасляваенная моладзь, што яна ведае вайну, якую праўду пра яе можа сказаць?**

– Давай разважаць так. Нават сёння, праз столькі гадоў пасля заканчэння вайны, ніхто не можа сказаць, што пра вайну мы ведаем усё. Час адкрывае новае і новае, чаго раней не ведалі, а калі і ведалі, дык не асмельваліся ці не мелі магчымасці паказваць. Нічога дзіўнага ў гэтым няма – праўда аб вайне шматлікая, шматаблічная. Дый, як выяўляецца, у кожнага свая, кожны ж перажыў сваю вайну. Бо ваявала з фашызмам не толькі армія, ваяваў увесь народ. І Перамога здабывалася не толькі на палях бітваў, але і ў глыбокім тыле, на заводах і фабрыках, у калгасах і саўгасах, мужчынамі і жанчынамі, дарослымі і дзецьмі. Літаратура ўжо многае пра гэта сказала. Але не ўсё. І не заўсёды так, як трэба было б сказаць. Так што перад пісьменнікамі – шырокае поле дзейнасці. Гэта да пытання, колькі можна пісаць...

Што датычыцца моладзі, то я адказаў бы так. Я не ведаю іншай літаратуры, дзе б пакаленне пісьменнікаў, якое само не ваявала, сказала такое важкае, такое самабытнае, сваё – я падкрэсліваю – сваё слова пра вайну. Не буду называць імёны, пералічваць творы – іх дзясяткі: выдатных раманаў, аповесцяў, паэм, вершаў. Зазначу толькі, што гэта – не ўспаміны дзяцінства, не. Гэта суровая споведзь пра гераічны час, расказ пра барацьбу народа за волю і Бацькаўшчыну, пра тыя выпрабаванні, здзекі і жахі, што мы перажылі.

Тэма вайны – адна з галоўнейшых тэм літаратуры. І няма, не можа быць больш сучаснай тэмы, як гэтая. Бо калі не адстаім мір, калі, не дай Бог, пачнецца новая вайна, усе самыя актуальныя, як некаторым здаецца, тэмы і праблемы стануцца непатрэбнымі.

## Падводныя рыфы адраджэння

**– Барыс Іванавіч, расказваючы пра сучасную крытыку, ты згадаў ганебную практыку 20-30-х гадоў. Ведаю, што гэты перыяд нашай літаратуры ты даследаваў даволі глыбока і сур'ёзна, і маеш сваю пазіцыю, сваю думку наконт тых працэсаў, якія тады адбываліся.**

– Гэты час я б назваў рамантычна-драматычным. Рамантычным, бо пасля стольких гадоў то паланізацыі, то русіфікацыі ў беларусаў паявілася нарэшце надзея на адраджэнне. У Мінску адкрыліся Беларускі дзяржаўны тэатр, Беларускі

дзяржаўны ўніверсітэт, Дзяржаўнае выдавецтва, Інстытут беларускай культуры, Дзяржаўная публічная бібліятэка, выходзілі часопіс “Полымя”, газеты “Савецкая Беларусь”, “Звязда”... Ліквідоўвалася непісьменнасць, пераводзілася на родную мову справаводства, нават армія – ішла так званая “беларусізацыя”.

А з другога боку, гэты час быў напоўнены вялікім унутраным драматызмам і, я б нават сказаў, трагізмам. Як зазначаў адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Максім Лужанін у сваёй аўтабіяграфічнай нататцы, літаратура ўваходзіла у пару бурных дыспутаў, зацяжных дыскусій, жорсткіх узаемных атак адной літаратурнай арганізацыі на другую.

Асаблівай ваяўнічасцю вызначалася суполка БелАПП, якая па прыкладу РАПП падзяліла ўсіх беларускіх пісьменнікаў на некалькі катэгорый – буржуазных, сялянскіх і пралетарскіх. І ў адпаведнасці з гэтай градацыяй адпускалася слава і няслава. І не мела значэння, хто, што і як піша, важна было адно – “свой” ён ці “чужы”... Сваіх, вядома, без меры хвалілі, а чужых знішчалі аглабельнай крытыкай.

Вось як, напрыклад, ацэньваў калег з іншых аб’яднанняў Алесь Дудар, які выступаў у крытыцы пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі. Ён не прапускаў ні адной больш-менш важнай падзеі ў літаратурным жыцці, адгукаўся часам з дзіўных, лявацкіх пазіцый. Каго толькі і ў чым ён не вінаваціў – “патэнтованага крытыка” М. Гарэцкага, “развязнага” В. Сташэўскага, Я. Пушчу і К. Чорнага за тое, што ўпадаюць у вялікі індывідуалізм, псіхалагізм і ў творах якіх з’яўляюцца надтрэснутыя ноткі нездаровага песімізму, што ў іх няма бадай што ніводнага слова ні пра рэвалюцыю, ні пра грамадзянскую вайну на Беларусі. П. Труса наваяўлены крытык папракае за беднасць мовы, У. Жылку – за архіўную мараль, мяшчанскую філасофію, біблейскую цвіль, замагільныя вобразы, чужыя нам па форме і па ідэйным змесце. А літаб’яднанне “Узвышша” наогул называе літаратурным балотам, у якім пад шыльдай пралетарскай літаратуры прабіваюцца зусім не пралетарскія тэндэнцыі.

Але на ролю першай асобы ў крытыцы ўсё ж прэтэндаваў – і не без пэўных “поспехаў” – сумнавядомы Лукаш Бэндэ. Гэты гарлахвацкі ў літаратуры, псеўдавучоны-вульгарызатар, прыкрываючыся марксісцкай фразай, імкнуўся палітычна дыскрэдытаваць творчасць многіх беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і творчасць нашых класікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

Бясспрэчна, асэнсаванне і адлюстраванне новай савецкай рэчаіснасці давалася маладым творцам нялёгка. Пэўныя цяжкасці ў гэтым, вядома ж, былі. Але, нягледзячы ні на што, кожны з названых майстроў, у меру сваіх сіл і здольнасцяў, яе асэнсоўвалі і паказвалі ў творах. Ды што было да таго Бэндэ! Ён, узяўшы ў рукі крытычны бізун, размахваў ім, лупцаваў усіх, хто трапляў на вочы, без асаблівай павагі і разбору.

Перайшоўшы на працу ў Інстытут літаратуры і мастацтва АН БССР, Бэндэ перанёс туды і сваю “рэзідэнцыю”, свой, калі можна так сказаць, штаб. Адтуль, з Акадэміі навук, і пачаліся галоўныя падзеі тых дзён – звальненні з працы і арышты. Былі звольнены з працы і арыштаваны былы дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства Інбелкульта, намеснік загадчыка Белдзяржкіно Я. Дыла, акадэмікі В. Ластоўскі, А. Смоліч, С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, У. Пічэта, прафесар Б. Эпімах-Шыпіла, пісьменнікі М. Гарэцкі, М. Грамыка, У. Дубоўка, Я. Пушча, У. Жылка, А. Бабарэка, Н. Чарнушэвіч, А. Гурло і многія, многія іншыя.

Арыштаваныя абвінавачваліся ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі... Ужо ўвосень 1930 года на старонках газет пачалі друкавацца больш чым дзіўныя лісты, у якіх іх аўтары – самыя аўтарытэтныя і вядомыя ў Беларусі людзі – прызнаваліся ў грахах і памылках, якіх не мелі, публічна каяліся ў тым,

у чым не былі вінаватыя. Хачу прывесці некаторыя ўрыўкі з гэтых лістоў, якія малавядомыя нашым чытачам, каб яны адчулі ўвесь драматызм моманту.

Першы такі ліст з'явіўся за подпісам Якуба Коласа. "У шкоднай контррэвалюцыйнай рабоце, – пісаў паэт, – побач з актыўнейшымі прадстаўнікамі нацыянал-дэмакратызму, прымаў удзел і я, падпаўшы пад уплыў нацыянал-дэмакратычных ідэй і настрояў... Адарваны ад жывых крыніц пралетарскіх мас, замкнёны ў цесным крузе нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі і атручаны нацыянал-дэмакратычным дурманам, я па-прымірэнцку і апартуністычна адносіўся да ўсіх яго праяў, ні разу не выступіўшы супраць іх ні ў друку, ні ў парадку пралетарскай самакрытыкі... Асуджаны гісторыяй на адміранне, як аджыўшая свой час дробнабуржуазная спадчыннасць старога капіталістычнага свету, беларускі нацыянал-дэмакратызм павінен быць адмецен і скінут, як тормаз, з дарогі пераможнага ходу сацыялістычнага будаўніцтва".

Менш чым праз месяц таго ж года газета "Звязда" змясціла на сваіх старонках ліст за подпісам народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. У ім былі тыя ж горкія радкі самабічавання: "...пачаўшы з 1908 года, у часы самае чорнае рэакцыі, працаваць у "Нашай ніве", я падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмакратычнай дзяржаўнасці і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасці, апяваючы, як нешта цэлае, пазакласавае, беларускі "народ", ідэалізуючы ў некаторых сваіх творах гістарычнае мінулае, значыцца, феадальна-паншчыннае Беларусі, зацямняючы гэтым самым клясавую сутнасць сацыяльнае і нацыянальнае барацьбы за вызваленне...

Прасякнуты нацыянал-дэмакратычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім перыядам маёй літаратурнай працы, калі я стаў быў адным з ідэолагаў нацыянал-дэмакратычнага "адраджэнцтва" і "незалежніцтва", я і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі не адмежаваўся, як гэта належала, ад акружаючага мяне нацыянал-дэмакратычнага асяродзішча, а быў уцягнуты ім і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце...

Парываючы сам катэгарычна і беспаваротна з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, як з нейкай хваравлівай зданню, якая палоніла мяне на працягу доўгіх год майго свядомага жыцця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ не зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіння, якая канчаткова не прыйшла да перакання, што толькі працуючы пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі, гэтага авангарду рабочага класу, толькі аддаючы свае сілы на сацыялістычнае будаўніцтва, яна не будзе адмецена жыццём, як агідная памятка рабскага мінулага..."

**– Кажуць, што на гэтым траўля народнага паэта не спынілася…**

– І гэта – праўда. Тады ж, у тыя дні, па Мінску, па ўсёй Беларусі папаўзла пагалоска, што Янка Купала, не вытрымаўшы здзекаў, якія чынілі над ім Бэндэ і яго памагатыя, ды і некаторыя іншыя, надзеленыя паўнамоцтвамі і ўладай асобы, зрабіў спробу самагубства. Доўгі час гэты факт старанна замоўчваўся. Але вось колькі год таму мне ў рукі трапіў надзвычай важны дакумент (дарэчы, з сакрэтнага партыйнага архіва), які неабвержна пацвярджае: так, Купала сур'ёзна збіраўся звесці рахунак з жыццём. Гэта – перадсяротны ліст самога паэта, адрасаваны старшыні ЦВК БССР т. Чарвякову. Я не буду цытаваць ліст увесь, прывяду толькі вось гэтыя страшныя словы: "Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога..."

**– Калі мы ўжо загаварылі пра лёс Янкі Купалы, то хацеў бы пачуць ад цябе тваю версію яго загадкавай, заўчаснай смерці. Ты ў свой час правёў на гэты конт грунтоўнае пісьменніцкае расследаванне.**

– Сваю версію я магу выкласці вельмі коратка: тое, што адбылося 29 чэрвеня 1942 года ў сталічнай гасцініцы "Масква", – ніякае не няшчаснае здарэнне, а самае сапраўднае забойства.

**– Але ж многія сур'ёзныя даследчыкі аспрэчваюць такую версію. І прыводзяць як быццам пераканаўчыя аргументы.**

– Хай сабе прыводзяць, колькі хочуць. А я перакананы: смерць Купалы – справа рук адпаведнага ведамства.

**– Твае контраргументы?**

– Купала прыехаў у Маскву 18 чэрвеня на Другі кангрэс Усеславянскага камітэта, дзе павінен быў выступіць з прамовай. І правёў у сталіцы практычна дзесяць дзён. Усе, хто бачыў паэта ў гэтыя дні, хто з ім сустракаўся, размаўляў, адзінадушна сведчаць: паэт быў у добрым настроі, выгляд меў свежы, бадзёры. Купала прызначаў спатканні, запрашаў на свой блізкі юбілей, марыў, як будзе жыць і працаваць пасля перамогі, калі вернецца на родную зямлю... Ды і навошта ехаць у Маскву, каб зрабіць самагубства, калі можна было зрабіць гэта ў любы час і ў любым месцы. Не! Не бачу тут ніякай логікі.

Да таго ж, калі пасля смерці ўскрылі яго нумар у гасцініцы, там быў сервіраваны стол на чатыры асобы. Значыцца, Купала збіраўся з кімсьці вячэраць, чакаў гасцей.

Пацверджаннем маёй версіі можа служыць і прызнанне Пятра Глебкі, якое ён зрабіў на адным з вечароў у Барысаве 19 чэрвеня 1962 года. Пётр Фёдаравіч сцвярджаў, што гасцінічная дзяжурная па паверху, на якім адбылася трагедыя, расказвала яму, быццам бачыла, што Купала стаяў, абапёршыся на бар'ерчык лесвіцы, і размаўляў з маладою жанчынаю. Калі дзяжурная яшчэ раз праз нейкі час паглядзела на лесвіцу, то Купалы ўжо там не было, стаяла адна жанчына... Пра жанчыну, вінаватую ў смерці паэта, гавораць і некаторыя іншыя – яе, тую жанчыну, якая нібыта па нейкай прычыне піхнула паэта, – бачылі, калі яна ўцякала, бегла...

Трохі іншае расказваў Анатоль Астрэйка. Ён, які амаль не адлучаўся ад Купалы ў тыя апошнія чэрвеньскія дні, быў да канца ўпэўнены, што з Купалам расправіліся берыяўцы. Яны хадзілі за паэтам літаральна па пятах. Астрэйка напаткаў іх, калі заходзіў у гасцініцу, і тыя, выскачыўшы з ліфта, ледзь не збілі яго з ног: так беглі, ратаваліся, каб іх ніхто не затрымаў. Ён запомніў іх – трое, у кепках... На пытанне, чаму ён віну ў смерці Купалы ўскладае на берыяўцаў, на чым грунтуецца яго перакананасць, Астрэйка адказваў: "Купала быў незадаволены Сталіным і ўсім тым, што рабілася ў краіне перад вайною, і не хаваў, гаварыў не аднаму яму, Астрэйку, што ва ўсіх няўдачах у барацьбе з фашыстамі і ў тым, што Беларусь апынулася пад акупантамі, вінаваты не хто-небудзь, а правадыр. Мусіць, у гасцініцы ды і ў іншых месцах, дзе казаў гэта Купала, былі вушы".

Такога ж погляду на смерць Купалы прытрымлівалася і яго жонка, Уладзіслава Францаўна, дадаючы хіба, што Купалу не даравалі спробу самагубства, якая паблытала некаторым карты ў арганізацыі працэсу над выдуманай контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай суполкай. Перад юбілеем Купалы – яго шасцідзесяцігоддзем, калі паўстала пытанне аб яго вечары і ўзнагародзе, гэта выкрылася, усплыло...

Насцярожвае і сама таямніца вакол гэтай смерці – столькі гадоў мінула, а ніхто афіцыйна ў друку ніякага паведамлення пра гэтую смерць не зрабіў. Тут адно з двух: альбо ў гэтай трагедыі не ўсё ясна, альбо настолькі ясна, што тоё-сёй не асмельваецца пра гэта паведамляць. Ва ўсякім выпадку, спроба музея Янкі Купалы займець матэрыялы камісіі, якая займалася высвятленнем смерці паэта, ні да чаго не прывяла – матэрыялы не толькі не былі прысланы ў музей, але нават нікому з супрацоўнікаў музея не паказаны... Калі б не перабудова, то і я не толькі не меў бы магчымасці пра ўсё гэта пісаць, публікаваць, але і адкрыта гаварыць сёння з табою.

## А суд гісторыі суровы

**– Дарэчы, перабудова дала табе яшчэ адну магчымасць – даследаваць нашу літаратурную эміграцыю.**

– Так, у нашай краіне вывучэнню і асвятленню жыцця эмігрантаў да нядаўняга не надавалася належнага значэння. Для сувязі з суайчыннікам існавала таварыства "Радзіма", выходзіла газета "Голас Радзімы". Зрэдку той-сёй выязджаў пагасцяваць да сваякоў на чужыну. Вось, бадай, і ўсё. Амаль усіх, хто апынуўся за мяжою і не вяртаўся на Радзіму, ды яшчэ калі не выракся роднай мовы, гаварыў і пісаў на ёй, ахрысцілі "белбурнацамі", гэта значыць, беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі. Хоць пераважная бальшыня эмігрантаў ні ў якую палітыку не лезлі – проста працавалі,араблялі на хлеб.

Чуткі пра эміграцыю абрасталі міфамі і легендамі, бо рэальнае яе становішча мала хто ведаў. Ды і цяпер яшчэ не дужа ведае. Вось чаму мяне зацікавіла гэта праблема і я аддаў нямала свайго часу, даследуючы яе. Што высветлілася?

Не ўдаючыся глыбока ў гісторыю розных высяленняў і перасяленняў, мушу сказаць, што былі яны ў беларусаў яшчэ да ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, ды і потым. Уцякалі ў Запарожскую Сеч, беглі на Дон, у суседнія дзржавы – у Польшчу, Маскоўю. З далучэннем Беларусі да Расіі прастор да розных высяленняў і перасяленняў пабольшаў – адкрылася ж малазаселеная Сібір.

У пачатку XX стагоддзя беларусы адкрылі для сябе Амерыку. Ды і амерыканскія вярбоўшчыкі адкрылі Беларусь як край амаль дармовай рабочай сілы. І праз Лібаву, іншыя марскія парты пацягнуліся за акіян караваны суднаў з сотнямі, тысячамі людзей.

Новыя хвалі эміграцыі пачаліся падчас першай сусветнай вайны, рэвалюцыі, нямецкай і белапольскай акупацыі. З Заходняй Беларусі паток эмігрантаў у Амерыку ды і ў іншыя краіны Еўропы – у Францыю, Бельгію, Галандыю, Англію – не слабеў. Амаль паўмільёна беларусаў было вывезена на прымусовыя работы ў гітлераўскую Германію, і далёка не ўсе яны вярнуліся на Радзіму.

Сёння за межамі рэспублікі жыве... Хто называе паўтара мільёна, хто – два, а хто нават і тры. Але якая б лічба не называлася, яна ўсё роўна будзе недакладная. Таму што беларусы дастаткова хутка асімілююцца. У трэцім, чацвёртым пакаленні адбываецца поўная асіміляцыя, нават рэдка кім згадваецца, што іх карані – у Беларусі. Да таго ж каталікі лічаць сябе палякамі, праваслаўныя – рускімі.

**– Гэта праўда, што адзін час цэнтрам беларускай эміграцыі была не Амерыка, не Канада, не Аўстралія, а Чэхія, дакладней – яе сталіца Прага?**

– Так, менавіта ў Празе ў 20-30-я гады ўзніклі розныя арганізацыі, якія ставілі на мэце аб'яднаць беларускую эміграцыю: Беларускае (Крывіцкае) культурнае таварыства імя Ф. Скарыны, Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый, Беларускі архіў і часопіс беларускага студэнцтва "Прамень"... І не выпадкова, мусіць, апынуліся ў Празе і два нашыя найбольш вядомыя, таленавітыя земляки – спявак Міхась Забэйда-Суміцкі і паэтка Ларыса Геніюш. <...>

**– Барыс Іванавіч, а што можна сказаць наконт беларускай літаратурнай эміграцыі ў цэлым?**

– Развіццё літаратуры ў эміграцыі, як правіла, ідзе не за кошт талентаў, што нараджаюцца і вырастаюць у новых умовах, а за кошт тых, што па розных прычынах пакінулі Радзіму. Многія з літаратараў, апынуўшыся за межамі сваёй краіны, спрабуе асэнсаваць жыццё там, адкуль прыехаў. Ды і настальгія па тым, што пакінуў дома, мучыць. <...>

Аднак і там, за мяжою, ёсць некалькі імёнаў, дзякуючы якім эміграцкая літаратура падтрымлівае свой імідж, звяртае на сябе нашу ўвагу. І першае месца сярод іх займае адна са старэйшых беларускіх паэтэс Наталля Арсеннева. <...>

Другім па значэнні створанага, ды, мабыць, і па таленце варта назваць Алеся Салаўя. Сапраўднае яго імя і прозвішча Альфрэд Радзюк. <...>

Пэўныя творчыя здабыткі мае таксама Масей Сяднёў. <...>

Галоўныя матывы ў творчасці М. Сяднёва – апяванне прыроды, хараства роднай зямлі (асабліва ў ранніх вершах), аповед пра перажытае ў турме і ў лагеры на Калыме, вітанне прыходу на беларускую зямлю нямецкіх захопнікаў як "радасць для сябе". Ёсць у паэта і шчырыя, пранікнёныя радкі пра Беларусь, без якой яму цяжка быць на чужыне. У адным з вершаў ён прызнаецца: "Гляджу назад і бачу ясна – не ўмеў я жыць". І сапраўды, калі чытаеш яго вершы і паэмы, бачыш, як ён рабіў, ды робіць і цяпер, памылку за памылкай і не разумее гэтага. Адсюль і азлобленасць, што жыццё пражыта не так, як магло б, як некалі ўяўлялася, марылася.

А вось у прозе М. Сяднёва (найперш у рамане "І той дзень надышоў") няма гэтай злосці, непрыняцця ўсяго савецкага. І калі параўноўваць з празаічнымі кнігамі, якія створаны ў эміграцыі, то гэты раман, бадай, самы лепшы з іх.

Драматычна склаўся лёс яшчэ аднаго нашага земляка – паэта Уладзіміра Клішэвіча. Студэнтам Мінскага педінстытута ён быў арыштаваны і высланы на Калыму. Падчас вайны апынуўся на волі. Цяжка ды і немагчыма зразумець, а тым болей апраўдаць тое, чаму замест таго, каб змагацца з акупантамі, ён пайшоў да іх служыць – пачаў супрацоўнічаць у рэдакцыі "Газэты Случчыны". Свае вершы друкаваў на старонках многіх выданняў. Адступіў перад прыходам савецкіх войскаў разам з немцамі, жыў у Германіі і ў ЗША. <...>

З астатніх, менш значных паэтаў можна назваць Міхася Кавыля, Янку Золака, Рыгора Крушыну, Уладзіміра Дудзіцкага і іншых. На жаль, большасці з іх не стае культуры творчасці, яны гадамі варыліся ў сваім соку, і тое, што некаторыя паспелі зарыфмаваць, хіба толькі ўмоўна можна назваць паэзіяй.

Яшчэ больш сціплае месца ў эмігранцкай літаратуры займае проза. Акрамя М. Сяднёва, тут сур'ёзна, прафесійна працуе хіба што адзін Кастусь Акула. <...>

Выдаў некалькі кніг апавяданняў, аповесцяў і нарысаў і Уладзімір Сядура. З празаічнымі творамі ў друку час ад часу выступаюць Антон Галіна (Міхась Міцкевіч, родны брат Якуба Коласа), Юрка Віцьбіч і іншыя. <...>

## Талент даецца ад Бога

**– Барыс Іванавіч, пра літаратуру мы з табой пагаварылі. Закранулі крыху і тых, хто яе стварае. Хацелася б яшчэ запытацца вось аб чым. Як, на тваю думку, пісьменнікам трэба нарадзіцца ці можна чалавека гэтаму навучыць?**

– Пытанне амаль рытарычнае. Канечне ж, навучыць пісаць немагчыма. Талент (і не толькі літаратурны – любы) даецца ад Бога. Не перадаецца ён і ў спадчыну. За рэдкі-рэдкім выключэннем. Скажам, малодшы сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч стаў доктарам тэхнічных навук, выдатна валодае словам – піша таленавітыя вершы, эпіграмы. Хаця сам ён лічыць гэта забаўкай і ні ў якім разе не прэтэндуе на месца побач з бацькам.

**– Але ж ёсць прыклады, калі чалавек пачынаў абсалютна пасрэдна, а з цягам часу, дзякуючы асабістай настойлівасці, дапамозе старэйшых, больш вопытных таварышаў, вырастаў у сур'ёзнага, таленавітага пісьменніка…**

– Наконт "абсалютна" ты перабольшыў. З пасрэднасці, як бы хто ні стараўся, можа вырасці толькі ваяўнічы графаман. Брыльянт з шэрага каменю не вытачыш, нават калі яго будзе апрацоўваць самы вопытны, самы дасканалы майстар. Патрэбен алмаз. У нашым выпадку – талент.

Так, і я ведаю шмат прыкладаў, калі чалавек прыносіў у рэдакцыю свае першыя спробы пяра (вершы, апавяданні) і яны бракаваліся, бо былі няўмелыя,

бездапаможныя. Але сярод гэтых радкоў траплялiся i сапраўдныя слоўцы-дыяменты, якiя сведчылi аб здольнасцi чалавека вобразна, па-свойму ўспрыймаць навакольнае i гэтак жа свежа, арыгiнальна перадаваць убачанае ў слове. Нехта з класiкаў (цi не Чэхаў?) гаварыў, што ён можа вызначыць вышыню палёту птушкi па адным яе руху, нават калi яна знаходзiцца на зямлi. <...>

**– I ўсё ж, мне думаецца, вельмi важна ў гэты перыяд станаўлення таленту, каб на яго дарозе сустрэўся чуйны i чулы настаўнiк, якi б сваiмi разумнымi, асцярожнымi парадамi дапамог развiцца, вырасцi гэтаму таленту, набраць тую вышыню, што патэнцыяльна ў iм закладзена.**

– Тут я з табой згодзен. I як мне здаецца, нашым маладым крыўдаваць у гэтым сэнсе няма нiякiх падстаў. Дзе-дзе, а ў лiтаратуры дэвiз –“настаўнiк, выхавай вучня” – выконваецца i перавыконваецца. Я не ведаю нi аднаго старэйшага пiсьменнiка, якi б адмовiўся пачытаць твор маладога, даць кансультацыю. Не ведаю я i нi аднаго маладога, якому б хоць у чым хтосьцi не памог са старэйшых. Iншая справа, што той-сёй з маладых лiтаратараў ужо на пачатку лiчыць, што ён узяў Бога за бараду, што яму няма чаму вучыцца ў старэйшых, што ён i так генiй. Што ж, як кажуць у нас на Палессi, прыйдзе коза да воза...

**– Што цябе радуе i што засмучае ў творчасцi маладых?**

– Радуе, што, нягледзячы на на не вельмi спрыяльную моўную сiтуацыю, якая склалася ў апошнiя гады ў Беларусi, шмат юнакоў i дзяўчат настойлiва спрабуюць свае сiлы ў самых розных вiдах i жанрах лiтаратуры. Значыць, карэннi ў нас жывыя, струменяць крынiцы з гаючых народных глыбiнь. Не ўсё ва ўсiх аднолькава добра атрымлiваецца, побач з сапраўды таленавiтым, свежым з’яўляецца ў друку нямала i выпадковага. Сустракаецца другаснасць, пераймальнасць вядомым узорам, узятыя напракат чужыя вобразы i думкi. Але гэта ўсё – недахопы росту. Важна маладым, таленавiтым людзям своечасова памагчы, падтрымаць. У лiтаратараў гэтая дапамога павiнна быць скiравана ў першую чаргу на авалоданне сакрэтаў, таямнiц майстэрства.

**– А з чаго яно, гэтае майстэрства, складаецца?**

– Пра гэта дакладна ведае адзiн Бог. Але ёсць некалькi i вiдавочных рэчаў. Пiсьменнiк павiнен валодаць пачуццём меры, уменнем своечасова паставiць кропку. У. Уiтмен адзначаў яшчэ адну важную якасць мастацтва – прастату. Здольнасць пiсаць проста i ясна – безумоўная прыкмета таленту. А Чэхаў гаварыў i пра такую сястру таленту, як сцiсласць, кароткасць. Шкада толькi, што ён не сказаў, колькi гэтых самых сясцёр бывае. А ёсць жа яшчэ i браты, i бацькi, сыны i дочкi, i нават унукi. Тым жа, хто ведае толькi адну сястру таленту i не знаёмы з астатнiмi сваякамi, у лiтаратуры няма чаго рабiць.

**– Што ты маеш на ўвазе?**

– Найперш – уменне знайсцi сваю тэму. Некалi А. Блок у дзённiку, аналiзуючы творчасць I. Севяранiна, зрабiў такi запiс: “Гэта – сапраўдны, свежы, дзiцячы талент. Куды пойдзе ён, яшчэ нельга сказаць; што з iм адбудзецца: *у яго няма тэмы”.* Вельмi iстотная заўвага! Я таксама думаю: няўдача некаторых маладых лiтаратараў у тым, што ў iх не было сваёй тэмы. Яны ўмелi пiсаць, але не ведалi пра што. Пiсалi пра ўсё, толькi не пра тое, пра што варта было пiсаць.

Акрамя тэмы пiсьменнiку неабходна яшчэ выпрацаваць сваю мову, свой стыль. Каб iх мець, Гётэ, якi надаваў прыроджаным здольнасцям, асобе мастака асаблiвае, можна сказаць, выключнае значэнне, правёў многiя днi i ночы над удасканаленнем свайго таленту, сваёй асобы – усё жыццё вучыўся, слухаў лекцыi па самых розных навуках, у тым лiку па юрыспрудэнцыi i медыцыне. I стаў адной з самых адукаваных i дасведчаных асоб свайго часу, сусветна вядомым вучоным, асветнiкам i мыслiцелем. Толькi дурнi, гаварыў ён, ўяўляюць, што сапсуюць свой талент, калi набудуць веды.

Лічу, чытаць творы найвялікшых філосафаў і творы класікаў гэтак жа неабходна пісьменніку, як і вывучэнне жыцця. Бо перш чым глядзець на тое, што робіцца навокал цябе, трэба ўзабрацца на нейкую вышыню, адкуль было б усё добра відаць.

Але і гэта яшчэ не ўсё. У сапраўдным, па-майстэрску напісаным мастацкім творы трэба каб было, як казаў паэт, “ні ўбавіць, ні прыбавіць”. І падначальвалася яно аднаму – задуме, ідэі. Няма задумы, ідэі – няма і твора. Ён рассыпаецца на асобныя частачкі – цаглінкі. Нібыта і прыгожыя яны і існаваць адна без адной могуць. Але яны, не складзеныя ў сцены, не змацаваныя глінай і цэментам, – яшчэ не дом...

І нарэшце, літаратуры няма і не можа быць без асабістага, без даверліва-інтымнага. Вядома, мы з задавальненнем чытаем творы, у якіх шмат цікавага, пазнавальнага, займальнага. Але праходзіць час – і цікавасць да такіх твораў знікае. Тое, што не сагрэта талентам, не прапушчана праз сэрца мастака, жыве не доўга. О, гэта вялікая смеласць – шчыра раскрыць перад усімі сваю душу, сказаць, чым ты жыў і жывеш! Яна далёка не ўсім талентам пад сілу...

Словам, сакрэты майстэрства – у творах саміх пісьменнікаў. Толькі іх, гэтыя сакрэты, трэба ўмець бачыць. Чым большы майстра – тым цяжэй убачыць тое, дзякуючы чаму дасягаецца надзвычайны эфект. І раз, і два, і тры... Бясконца можна чытаць і кожны раз адкрываць для сябе новае і новае, раней не заўважанае. Самае вялікае майстэрства – гэта калі яго зусім не відаць.

**– Барыс Іванавіч, падзяліся, калі ласка, як ты асабіста спасцігаў сакрэты майстэрства. Не адразу ж яно табе далося?**

– Не адразу. Але і доўгага перыяду вучнёўства таксама не было. Справа, магчыма, тут у тым, што перш чым узяцца за пяро, я ўжо меў немалы жыццёвы вопыт. Перажыў жахі вайны, пакуты на чужыне, калі сям’я была вывезена на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Дый у першыя пасляваенныя гады таксама жылося не соладка. Пакуль пабудавалі хату (немцы у 1943 годзе спалілі ўсю нашу вёску Вялікі Бор), агаралі карову, узбіліся на сякую-такую гаспадарку – хапіла ўсім. І я таксама змалку быў прывучаны да рознай сялянскай працы. Так што парог звычайнай школы я пераступіў, прайшоўшы не адзін клас мудрае школы жыцця.

Жыццёвы вопыт, на маю думку, – той надзейны грунт, на якім вырастае і плённа развіваецца талент, дадзены чалавеку ад прыроды. А яшчэ мой уласны вопыт сведчыць: вельмі важнай умовай пісьменніцкага сталення з’яўляюцца веды. У агульным плане я ўжо пра гэта гаварыў. Што тычыцца мяне асабіста, то я асабліва ўдзячны ўніверсітэту, які памог мне ў многім разабрацца, многае зразумець, і, бадай, самае галоўнае, за што я буду ўдзячны яму ўсё сваё жыццё – навучыў мяне думаць, выбіраць у настаўнікі не толькі тых людзей, што жывуць побач, а і тых, якія жылі да мяне і якія свае думкі і погляды выклалі на паперу. Раіцца з гэтымі людзьмі, што б ні рабіў, увайшло ўжо ў абавязак.

**– Раскажы пра настаўнікаў падрабязней. Чаму і як яны цябе вучылі?**

– Трэба сказаць, на настаўнікаў у школе мне пашанцавала. Яны не толькі прывівалі мне любоў да мастацкае творчасці, але і вучылі распазнаваць прыгожае, адрозніваць бляск золата ад бляску медзі, сапраўднае ад надуманага, уяўнага, нежыццёвага. Літаратурных жа настаўнікаў ні на пачатку маёй творчай дарогі, ні пазней у мяне не было. Сакрэты майстэрства я спасцігаў самастойна, чытаючы класіку, любімых пісьменнікаў.

Першым, у каго я вучыўся валодаць мастацкім словам, стаў Якуб Колас. Спачатку былі асобныя вершы і апавяданні са школьных чытанак, потым кніжачкі, кнігі, а пасля адзін за адным і ўсе сем Коласавых тамоў, якія я чытаў і перачытваў радок за радком. Дзівіўся і захапляўся назіральнасцю вялікага мастака слова,

мілагучнасцю кожнае фразы, лёгкасцю і празрыстасцю малюнкаў. І я не згодзен з некаторымі даследчыкамі, якія сцвярджаюць нібыта Якуб Колас больш эпік, чым лірык. Няпраўда! Эпіка і лірыка шчасліва спалучаюцца ў яго творах, ствараючы своеасаблівы, уласцівы аднаму яму вабны, самабытны сплаў. Якуб Колас – паэт, і паэт не толькі ў сваіх вершах, паэмах, але і ў прозе. Малюючы той ці іншы вобраз, тую ці іншую падзею, сцэну, ён раптам нібы забывае на законы эпікі, дае волю сваім пачуццям – і піша так званае лірычнае адступленне.

Коласу ўласціва спакойная, нетаропкая ўсебаковасць, гарманічнасць. Пра што б ні пісаў народны пясняр, пра што б ні пачынаў гаварыць – выходзіць у яго гэта заўсёды глыбока, грунтоўна, мудра. І яшчэ адна вельмі важная асаблівасць ягонага таленту – у ягоных творах няма ні ідэальных герояў, ні абсалютных нягоднікаў. Кожны нешта мае і прывабнае, і кожны не пазбаўлены пэўных чалавечых слабасцяў.

Незвычайная і сіла ўздзеяння Коласавага слова. У чым сакрэт гэтай сілы – хвалявала і хвалюе не аднаго мяне. Здаецца, і піша Якуб Колас пра самае будзённае, і быццам не маракуе вельмі над тым, каб пра гэтае будзённае сказаць не будзённа, і думкі не вылучаюцца асаблівай навізной, і няма крута завязанага сюжэту... А пачнеш чытаць – адразу трапляеш у нейкі чароўны палон, дзе соладка замірае сэрца, дзе віруюць, крыляюць пачуцці і думкі... Гэтаму майстэрству ў народнага песняра можна вучыцца ўсё жыццё.

Вельмі многае даў мне Кузьма Чорны. Сапраўдны смак ягонай прозы, ягонага мастацкага слова я адчуў, спасціг яшчэ ў студэнцкія гады, калі акрамя хрэстаматыйнага “Трэцяга пакалення” адкрыў для сябе не менш цудоўныя раманы “Зямля”, “Лявон Бушмар”, “Бацькаўшчына”, “Вялікі дзень”, “Млечны шлях”.

Як празаік Кузьма Чорны вялікі ва ўсім – у сваіх задумах, у сваім разуменні філасофіі жыцця і часу, веданні чалавека. Уменні заўважаць і паказваць найтанчэйшыя зрухі душы, і асабліва – у веданні народнага беларускага побыту, мовы. Чорны – пісьменнік вельмі нацыянальны, вельмі наш, беларускі. Усё, пачынаючы ад слова і канчаючы апісаннем самай звычайнай карчмы ці сялянскай хаты, у яго сваё, непаўторнае, чорнаўскае, беларускае.

Крыху пазней прыйшоў да мяне Максім Гарэцкі. Дзіўны лёс напаткаў гэтага чалавека і пісьменніка. Ён быў рэпрэсаваны не толькі сам, але і яго творы. Напісаныя ў неверагодна цяжкіх умовах, яны зрабілі даволі доўгае і небяспечнае падарожжа “па прасторы часу”, пабывалі ў руках многіх самых розных людзей, і ўсё ж не загінулі, асталіся, каб потым ажыць на старонках часопісаў і кніг, вярнуць добрае імя іх аўтару.

Я рады, што да гэтага вяртання ў нейкай ступені спрычыніўся і я. Працуючы ў часопісе “Полымя”, на старонках якога адзін за адным друкаваліся творы Гарэцкага, мне таксама пашчасціла бласлаўляць у друк некаторыя яго рукапісы. З кожнай новай публікацыяй усё больш ярка паўставаў ва ўсёй сваёй непаўторнасці і прывабнасці воблік гэтага чалавека, які вельмі ж хацеў дабра свайму народу, пісьменніка самабытнага і рэдкага таленту, вялікай еўрапейскай культуры. За знешняй някідкасцю і прастатой яго твораў адчувалася чэхаўска-бунінская школа. Уражвала незвычайная любоў да ўсяго таго, пра што пісьменнік расказвае, празрыстасць і лёгкасць малюнка, дабрыня да сваіх герояў, уменне іх раскрыць, паказаць з выключнай паўнатой. Майстэрства аўтара, асабліва ў абыходжанні са словам, у выбары дэталяў было незвычайнае. Кожны сказ – гэта ўзор дакладнасці і высокай моўнай культуры. Нават мясцовыя дыялектныя слоўцы надта ж па-мастацку ўпісваліся ў тэкст, быццам без іх і нельга было абыйсціся.

Незабыўныя ўрокі (і літаратурныя, і жыццёвыя) атрымаў я ад нашых класікаў – Міхася Лынькова і Івана Мележа, з якімі яшчэ пры іх жыцці мне пашчасціла сустракацца, абменьвацца думкамі.

Аднойчы па рэдакцыйных справах я зайшоў на кватэру да Лынькова. Запрасіўшы ў свой застаўлены кнігамі кабінет, Міхась Ціханавіч пачаў няспешліва, па-лынькоўску, расказваць пра некаторыя вехі сваёй біяграфіі. Пачаў здалёку – з тых часоў, калі з Бабруйска, дзе ён працаваў рэдактарам акруговай газеты “Камуніст”, пераехаў на сталае жыццё ў Мінск. Як цяпер помню, Міхась Ціханавіч, разважаючы ўголас і адначасова звяртаючыся да мяне, маладога літаратара, казаў: “Не трэба, уюнаша, забываць, што тады не так многа мінула часу пасля вялікага пералому у грамадстве і свядомасці людзей – рэвалюцыі. Потым пачалася калектывізацыя... І не ўсе, далёка не ўсе прынялі новыя савецкія парадкі. Былі і нашыя класавыя ворагі. Яны толькі прытаіліся, чакалі. Не ўсе і нашы калегі разумелі палітыку партыі. Балючым ставалася нацыянальнае пытанне. Яго штучна падагравалі некаторыя, асабліва сярод не вельмі спрактыкаванай моладзі. Усё гэта і прывяло да таго, што потым здарылася... Былі моманты, калі мне здавалася, што з нас, беларускіх пісьменнікаў, ніхто не ацалее...”

Як я пазней зразумеў, гэта быў для мяне своеасаблівы бацькоўскі наказ: глядзець на жыццёвыя падзеі шырэй, больш аб’ектыўна, дыялектычна і, ацэньваючы іх, мысліць канкрэтна-гістарычна.

Амаль тое ж гаварыў мне не раз і Мележ, з якім мы ў апошнія гады яго жыцця нават пасябравалі. Дык вось, згадваючы працу над сваёй “Палескай хронікай”, Іван Паўлавіч зазначаў: ”Гэта цяпер выразна бачны плён вялікіх пераўтварэнняў у сельскай гаспадарцы... А ці лёгка было ва ўсім разабрацца маім героям, Апейку таму ж? Таму даводзілася і мне самому грунтоўна ва ўсім разбірацца... Пісанне – гэта ўжо як бы механічная работа. Уяві – па колькі разоў абдумвалася кожная сцэна, кожны эпізод. Ды дзе там кожныя сцэна – кожнае слова. Я ж, перш чым нешта зрабіць, па некалькі разоў з розных бакоў, як кажуць, падумаю...”

Я неаднойчы бачыў вынікі гэтай падрыхтоўчай работы – спісаныя цэлыя сшыткі цытат, выказванняў, розных рэплік герояў, фактаў з тагачаснага жыцця. Але, бадай, самым павучальным для мяне ўрокам стаў такі факт. Аддаючы ў “Полымя” адзін з раманаў хронікі, Іван Паўлавіч па сваёй звычцы паволі разгарнуў папку, узяў некалькі старонак і, паказваючы іх нам, супрацоўнікам аддзела прозы, сказаў: “Вось гэты раздзел можаце пакуль не чытаць. Я над ім яшчэ працую...”

Я прачытаў той раздзел. Ён быў звычайны, напісаны, як кажуць, на ўзроўні. Прачытаў я гэты раздзел і пасля праўкі, дапрацоўкі. І не паверыў сабе, здзівіўся – вось што значыць рука майстра! Некалькі разоў чытаў, перачытваў, звяраў па словах, сказах з ранейшым, хочучы зразумець, як пісьменніку ўдалося дасягнуць такой выразнасці малюнка, праўдзівасці дэталяў, псіхалагічнай напоўненасці, словам, зрабіць шэдэўр, мастацтва вышэйшай пробы...

Вядома, пра карысць праўкі я ўжо ведаў нават са сваёй невялікай творчай практыкі. Мог таксама назваць шмат прыкладаў, як правілі, працавалі над сваімі творамі іншыя класікі – рускія, замежныя, але ўпершыню сапраўдную карысць праўкі ўбачыў і адчуў менавіта тады, у Івана Мележа. Гэта быў яшчэ адзін наглядны ўрок мне, маладому літаратару.

**– Барыс Іванавіч, ты згадаў рускіх класікаў. У каго з іх у першую чаргу ты вучыўся?**

– У каго найперш? Цяжка сказаць... Бо амаль адначасова да мяне прыйшлі і Талстой, і Гогаль, і Чэхаў. Але найбольш блізкім маёй душы стаўся ўсё ж такі Талстой. Асабліва ў студэнцкія гады, калі я сам спрабаваў нешта пісаць. Чытаючы і перачытваючы творы Льва Мікалаевіча, я прыходзіў да пераканання, што мастацкае адлюстраванне жыцця дасягаецца толькі пры ўмове, калі бярэцца яно ў штодзённай звычайнасці. Талстой вучыў мяне як мага дакладней паказваць жывую рэальнасць, а гэтая рэальнасць, прапушчаная праз пісьменніцкае сэрца, і дасць тыповасць. А яшчэ – прастата і праўда.

Надзвычайнае ўражанне зрабіў на мяне адзін запіс, які зрабіў Леў Мікалаевіч у сваім “Дзённіку”: “Я чытаў “Капітанскую дачку” і, на жаль, павінен прызнацца, што цяпер ужо проза Пушкіна старая, – не стылем, але манерай паказу. Цяпер справядліва ў новым накірунку цікавасць падрабязнасцяў пачуцця замяняе цікавасць саміх падзей. Аповесці Пушкіна голыя нібыта...”

Геніяльнае адкрыццё! І Талстой усёй сваёй далейшай творчасцю даказаў, што “цікавасць падрабязнасцяў пачуцця” павінна браць верх у сучаснай прозе над “цікавасцю саміх падзей” сюжэта.

А возьмем Буніна. Сапраўдны чараўнік слова! Як ніхто, ён умеў стварыць адной-дзвюма фразамі настрой, намаляваць ярка і аб’ёмна цэлую карціну. Ні адной фальшывай ноты, ні адной непатрэбнай дэталі, ні аднаго лішняга слова! Да Буніна ў рускай літаратуры ніхто не пісаў так дакладна і разам з тым так маляўніча пейзаж, не адчуваў у ім гэтулькі прыроднай сілы, жыцця – фарбаў, пахаў, гукаў... Гэтаму майстэрству можна вучыцца ўсё жыццё.

Не магу не сказаць колькі слоў пра ўрокі Паўстоўскага. Незаўважна і неяк надта ж даверліва, па-сяброўску ўвайшоў ён у маю свядомасць і завабіў адразу ж, з першай сустрэчы, павёў след у след за сабою.

Канстанцін Паўстоўскі ўсё сваё жыццё шукаў прыгажосці. Шукаў часам там, дзе яе, здавалася, не было і не думалася, што можа быць. І што дзіўна – знаходзіў. Ён, гаворачы ягонымі словамі, хацеў “даказаць, што ў любой дробязі схавана вялікая глыбіня”. Толькі трэба яе ўмець бачыць. Умець паказаць іншым. На яго думку, пісьменніку менш за ўсё трэба выдумваць, а найбольш поўна і шчодра паказваць сябе ў любым творы. Для мастацтва, сцвярджаў ён, прыдатны толькі той матэрыял, які заваяваў сталае месца ў сэрцы. Залаты запас пісьменніка – гэта запас яго думак і назіранняў над жыццём. Іншымі словамі – гэта яго біяграфія. Разам з тым, К. Паўстоўскі падкрэсліваў, што пісьменнікам можа быць толькі той, у каго ёсць што сказаць людзям новае, значнае, цікавае, той чалавек, які бачыць многае, чаго астатнія не заўважаюць.

Вось так... Не ведаю нават, адказаў я на тваё пытанне ці не, бо, па праўдзе кажучы, я і сам толкам не разумею, што такое літаратурная вучоба. Як сказаў мне аднойчы Іван Мележ, гэта нешта вельмі ж няўлоўнае. Чытаеш кнігі майстроў, а як яно ў цябе і дзе адаб’ецца – цяжка і сказаць, і ўявіць нават самому пісьменніку...

## І пакуты, і радасць

**– Задам тады пытанне прасцейшае. Скажы, калі ласка, як адбываецца працэс нараджэння твора? Асабіста ў цябе?**

– Гэта здараецца па-рознаму. Прыйшла ў галаву думка – і пайшла. Нават следу не пакінула. А бывае, прыйдзе – і засядзе. Жыццё тваё перайначыць... І пакуль не напішаш, не выкажаш тое, што смыліць пад сэрцам, што разварушаным вулеем дзень і ноч круціцца ў галаве, – спакою не чакай.

Я не адкрыю нічога новага, калі скажу, што самай спрыяльнай, жыватворнай глебай для нараджэння твора з’яўляецца ўласны жыццёвы вопыт, ураджанні ўбачанага і перажытага, а вось пускавым механізмам, своеасаблівым імпульсам для пачатку творчага працэсу можа стаць нечаканая думка, вычытаная ў кнізе, нейкае слова, падслуханае выпадкова, нейкая дэталь, падгледжаная мімаходзь.

**– Працэс пісання для цябе – гэта пакуты ці радасць, асалода?**

– І тое, і другое. Тым, каму здаецца, што пішу я лёгка, хутка, магу сказаць: даецца ўсё гэта мне вялікай маёй сабранасцю і дысцыплінай. Я ведаю, што калі чаго-небудзь не скажу, за мяне таго ніхто ўжо не скажа. І вось калі гэта ўдаецца зрабіць, напісаць тое і так, як хацелася, – канешне ж, гэта вялікая, ні з чым не параўнальная радасць.

**– Але ж гэтая радасць, бывае, і моцна азмрочваецца, калі лепшыя парывы душы, самыя высакародныя твае намеры, укладзеныя ў слова, сустракаюць непаразуменне…**

– Я разумею, на што ты намякаеш. Так, мая другая кніга "Барвы ранняй восені" выклікала цэлую буру. Кім толькі мяне не называлі! Пасыпаліся ў самыя розныя арганізацыі пісьмы, даносы. Маўляў, я з сімпатыяй адношуся да паліцаяў, раводжу ў сваіх апавяданнях парнаграфію... Дзякуй першаму сакратару ЦК КПБ Кірылу Мазураву, які мяне прыняў і выратаваў ад яшчэ большых непрыемнасцяў.

Ці паўплывала ўсё гэта на мяне, на маю творчасць? Так, паўплывала. Я пачаў больш думаць над усім, што раблю, больш адказна адносіцца да кожнага слова, што выходзіла з-пад майго пяра. Але ў галоўным я не змяніўся – пісаў пра тое, што балела, што перажыў. Пісаў праўду, і толькі праўду.

**– Як ты адносішся да дэвізу "Ні дня без радка"?**

– Дэвіз гэты выдумаў кароль метафары Юрый Алеша. І сам стаў першай ахвярай свайго ж не надта разумнага правіла. Замест таго, каб працаваць, як працаваў дагэтуль, ён дзеля радка ў запісной кніжцы пачаў хадзіць на розныя сходы, сустрэчы, чытаў розныя газеты, слухаў радыё...

Не, я гэтым правілам ніколі не карыстаўся і не карыстаюся. Творчы працэс невытлумачальны і непрадказальны. Часам хочацца нешта запісаць, хоць запісваць быццам і няма чаго. А іншы раз і запісваць ёсць што, а не запісваеш. Не хочацца. Самае каштоўнае – калі яно само запішацца. І не на паперы, а ў душы.

У кожнага пісьменніка бываюць дні, а то і тыдні, месяцы, калі ён нічога не піша. Нават здаецца, што ніколі ўжо не створыш нічога вартага, а тое, што выдаў – уяўляецца мізэрным і ні нашто не прыдатным.

А бывае, адчуваеш сябе, як той калодзеж, з якога вычарпана ўся, да дна, вада. Гэта стан пасля доўгай пакутлівай працы над чарговым творам, калі здаецца, што ты выклаўся ўвесь, больш табе няма чаго сказаць, ты канчаткова выпісаўся...

Але праходзіць час – калодзеж незаўважна напаўняецца вадою. Яшчэ больш свежаю, гаючаю. Так і ты незаўважна напаўняешся музыкаю, вобразамі, думкамі, жаданнем, ахвотаю зноў працаваць...

Трэба толькі не спяшацца, не падганяць сябе, даць магчымасць адпачыць, пабыць з людзьмі, з самім сабою.

**– А от яшчэ некаторыя творцы сцвярджаюць, што пісаць трэба, не азіраючыся ні на чытача, ні на крытыка, ні на якія патрабаванні часу. Пісаць, на іх думку, неабходна толькі для сябе…**

– Пісаць для сябе? Няпраўда! Можна хіба толькі думаць пра сябе. А калі ты нешта напісаў і аддаеш яго ў друк, то гэта ўжо не для сябе, а для іншых. Дзелішся тым, што ўбачыў, што цябе ўсхвалявала, а значыць хочаш, каб тое ведалі іншыя.

Здараюцца, вядома, і парадоксы. Напісанае быццам для сябе раптам робіцца блізкім, патрэбным усім людзям. І наадварот – напісанае для іншых вельмі часта ні да каго не даходзіць, аказваецца нікому не патрэбнае.

**– У мастацтве, у тым ліку, вядома, і ў літаратуры, самыя гарачыя спрэчкі вядуцца вакол праблемы традыцый і наватарства. Пры гэтым меркаванні выказваюцца нярэдка прама процілеглыя: адны адмятаюць усялякія традыцыі – пісаць трэба толькі па-новаму, па-наватарску, а другія, наадварот, не прымаюць ніякіх эксперыментаў, ніякага наватарства, лічаць, што ўсё гэта разбурае мастацтва. А як лічыш ты?**

– Як па мне, дык абедзьве гэтыя пазіцыі – крайнія, непрыймальныя. Я – за залатую сярэдзіну. За гарманічнае, ці, кажучы па-навуковаму, дыялектычнае спалучэнне традыцый і наватарства. Без эксперыменту, без пошуку новых выяўленчых сродкаў, новых, адпаведных часу мастацкіх форм літаратуру спасцігне застой, спыніцца яе развіццё, рух наперад. Але ж і голае эксперыментатарства,

адарванае ад усялякіх традыцый, непазбежна прывядзе да пустой форматворчасці. Мне шкада, калі я бачу як часам таленавіты чалавек гадамі траціць свае сілы на пошук нібыта нечага новага, а ў сапраўднасці – на бясконцае штукарства. Новае ж якраз і нараджаецца тады, калі чалавека перапаўняе пачуццё, калі яму ёсць што сказаць. Тады форма прыходзіць сама, яе не трэба шукаць – нараджае змест.

Каб падмацаваць свае разважанні, прывяду некалькі прыкладаў.

У рускай паэзіі сярэбранага веку быў выдатны паэт Велемір Хлебнікаў. Аўтар шматлікіх "заумных", эксперыментатарскіх твораў, стваральнік "самавітай" мовы, якая адрывала гучанне слова ад яго сэнсу. Кожны радок, кожны верш паэта – нібыта куфэрак з дарагімі каменнямі, што свецяцца, пераліваюцца ўсімі сваімі гранямі і адценнямі. Але чытаць такую паэзію – цяжка, не ўсе знаходзяць да яе адпаведны ключык, і яна застаецца для большасці за сям'ю замкамі.

Прычым такія творцы шчыра думаюць, што непаразуменне – гэта не іх праблема, а праблема чытача. Адзін з яскравых прыкладаў таму – "стыхійны геній", якому было ўсё дазволена, Канстанцін Бальмонт. Вядомы факт – паэт чытаў свае вершы Льву Талстому. Геній рускай рэалістычнай прозы, у якога было сваё разуменне паэзіі, не хаваў адносін да высакапарнай, гучнай, але пустой, нікчэмнай па зместу паэзіі новаяўленага генія, – калыхаючыся ў качалцы, аж паміраў ад смеху. Але Бальмонта гэта не збянтэжыла. "Старик ловко притворялся, что ему мои стихи не нравятся", – зрабіў вывад самазакаханы паэт. <...>

Наогул жа, як я ўжо гаварыў, мяне ў паэзіі цікавіць паэзія. А як гэта дасягнута, старымі ці новымі сродкамі, – мяне мала цікавіць. Дый што значаць гэтыя "новыя паэтычныя формы"? Калі добра пакорпацца ў практыцы вершаскладання, яны, гэтыя "новыя" формы, могуць аказацца вельмі старымі, як той жа верлібр...

## Шанаваць і ўзбагачаць спадчыну

**– Ты даволі часта выступаеш ў друку з вострымі публіцыстычнымі артыкуламі, у якіх узнімаепш важныя, надзённыя праблемы. Што найбольш цябе хвалюе, трывожыць цяпер, падчас перабудовы?**

– <...> Як пісьменніка і як чалавека, які нарадзіўся і вырас у самым прыгожым кутку Беларусі – Палессі, мяне даўно хвалюе праблема экалогіі. А дакладней, тое, як ідзе меліярацыя на Палессі. Замест таго, каб падыходзіць да гэтай справы разумна, па-гаспадарску, забяспечваць на асушаных землях двухбаковае рэгуляванне вады, гора-меліяратары спрамляюць, нішчаць нашы цудоўныя, спрадвечна-шчодрыя рэкі і рэчачкі, капаюць глыбозныя, прамыя, як стрэлы, каналы, пасля якіх не застаецца ні кроплі вільгаці не толькі на тарфяніках, але і на прылеглых мінеральных глебах. І ў выніку такога нядбайства, а я нават сказаў бы варварства, вялікія тэрыторыі зямлі ператвараюцца ў пустыню.

Пра гэта я пісаў яшчэ чвэрць стагоддзя таму, у сваёй кнізе "Зямля маіх продкаў". Неаднаразова выступаў у друку і пасля. Звяртаў увагу на існуючую праблему высокага начальства, якое часам прысутнічае на нашых пісьменніцкіх сходах. На вялікі жаль, голас мой, як кажуць, быў "гласом вопиющего в пустыне". Не, канешне, нейкія пазітыўныя зрухі адбыліся, але кардынальна пытанне не вырашаецца. Многае нібыта залежыць ад Масквы.

Ну, добра, хай палітыку меліярацыі вызначае Масква – яна выдзяляе сродкі, зацвярджае планы, кантралюе іх выкананне. І, можа, спраўды тут не ўсё так проста. А хто і што перашкаджае нам навесці парадак у нашых вёсках? Няўжо ўлады не бачаць, што моладзь там не хоча заставацца, праўдамі і няпраўдамі імкнецца перабрацца ў горад. А тыя, хто засталіся, паціху співаюцца, дэградзіруюць.Ужо цяпер у многіх калгасах няма каму працаваць. А што будзе заўтра?

Не менш востра, на маю думку, стаіць і праблема спадчыны – стаўленне да

тых вялікіх духоўных скарбаў, што пакінулі нам нашы папярэднікі. Я, вядома, турбуюся найперш пра спадчыну культурную, літаратурную А яна ў нас не такая і малая, як некаторым уяўляецца. Ва ўсякім выпадку, вывучаць, выдаваць, перавыдаваць, прапагандаваць нам ёсць што. Пра гэта гаворыцца не адзін год, аднак... Дзіва дзіўнае, дый толькі, бо і сёння яшчэ даводзіцца даказваць, як неабходна ведаць кожнаму свае карані, вытокі, як неабходна мець народу сваю гістарычную памяць. Многае ж з таго, што засталося, дайшло да нас, не знішчана – аплявана, апаганена, абылгана, абчапляна рознымі вульгарызатарскімі ярлыкамі.

Дзякуючы перабудове сітуацыя, здаецца, пачала паляпшацца да лепшага. Выдадзены творы Ядвігіна Ш., Каруся Каганца, Сяргея Палуяна, Максіма Гарэцкага, Язэпа Дылы, Янкі Нёманскага, Уладзіміра Жылкі і іншых незаслужана рэпрэсаваных пісьменнікаў. Выходзяць шматтомныя выданні “Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі”, “Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва”... Але многае, што варта было б, што таго заслугоўвае, яшчэ не сабрана, не выдадзена.

І размова ідзе не толькі пра спадчыну пісьменнікаў, а і вучоных – гісторыкаў, краязнаўцаў, археолагаў. Узяць хоць бы таго ж сусветна вядомага філолага-славіста, заснавальніка беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнографа, фалькларыста, акадэміка некалькіх акадэмій Яўхіма Карскага. Ім напісана больш за 700 прац. А што ў нас пасля яго смерці перавыдадзена? У Беларусі – нічога, ні адной працы. Нават знакаміты трэці том “Беларусаў” – вышэйшае дасягненне еўрапейскай славістыкі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў – сёння практычна недаступны шырокаму колу чытачоў.

А ёсць жа яшчэ багатая спадчына нашых выдатных фалькларыстаў і этнографаў Івана Насовіча і Аляксандра Сержпутоўскага. Зусім – ні разу – не перавыдаваліся ў рэспубліцы працы такіх вучоных, як Мітрафан Доўнар-Запольскі, Еўдакім Раманаў, Мікалай Нікіфароўскі, Ісак Сербаў, Міхаіл Федароўскі, Павел Шпілеўскі, Мікола Шчакаціхін...

Надыйшоў час напісаць і выдаць новую гісторыю беларускай літаратуры, бо ў тых, што дасюль выходзілі, занадта многа пропускаў, замоўчаны імёны, творы і факты, без якіх літаратура наша ўяўляецца няпоўнай, збедненай і далёкай ад таго, што было на самай справе. Проста недаравальна, якія мы непаваротлівыя, як мала робім па вяртанню нашай такой каштоўнай і багатай спадчыны. Ох, як сяму-таму яшчэ і сёння хочацца, каб у беларусаў не было сваёй гісторыі, мінулага, а значыць, і ніякіх святынь. І дзеля гэтага шукаецца любая прычына, каб парваць сувязь сучаснага з мінулым, пазбавіць народ сваіх каранёў. А без мінулага хіба ж можна па-сапраўднаму ацаніць сучаснае? Як тут не прыгадаць слоў Абуталіба, горскага мудраца, якія прыводзіць у сваёй кнізе “Мой Дагестан” Расул Гамзатаў: “Калі ты стрэліш у мінулае з пісталета, будучыня стрэліць у цябе з гарматы”.

**– Хацелася б пагаварыць з табою вось яшчэ аб чым. Ведаю, што ў свой час ты прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы “Закона аб мовах”. Скажы, калі ласка, чым было выклікана прыняцце гэтага закону?**

– Выклікана адным – клопатам аб захаванні і развіцці роднай мовы. Але перш чым гаварыць аб праблемах сённяшніх, хачу зрабіць невялікі экскурс у мінулае. Як вядома, наша мова мае даволі багатую гісторыю. Вытокі яе пачынаюцца амаль пяць стагоддзяў таму, яшчэ ў Вялікім княстве Літоўскім. Ва ўсякім разе, Статут ВКЛ быў напісаны менавіта на старажытнабеларускай мове. Дзякуючы Статуту, беларуская мова бытавала ў судзе дый у справаводстве досыць доўга, аж пакуль у 1697 годзе не была скасавана спецыяльнай пастановай польскага сейма.

Бедная беларуская мова! Хто толькі з яе не здзекаваўся. За гады свайго існавання яна перажыла некалькі драматычных этапаў – паланізацыю, пасля русіфікацыю. Нарэшце ў 20-я гады мінулага стагоддзя паявілася рэальная надзея на адваротны працэс – беларусізацыю. З якім натхненнем, якім гарачым жаданнем уключылася ў

гэты працэс творчая інтэлігенцыя. Але вельмі хутка гэтае жаданне было гвалтоўна задушана. Прыхільнікаў беларускага слова абвясцілі нацдэмамі, “ворагамі народа”, і каго выслалі ў “места не столь отдаленные”, а каго і расстралялі.

Новыя надзеі нарадзіла так званая хрушчоўская адліга. На жаль, і гэты этап скончыўся, не паспеўшы пачацца. Камуністычная ідэалогія прапаведавала зліццё моў, а таму ўсё нацыянальнае, самабытнае ўспрыймалася з насцярожанасцю. Пачынаўся працэс выцяснення роднай мовы са сферы ўжытку, са школ. Я тады, будучы яшчэ студэнтам універсітэта, не выцярпеў і выступіў з даволі эмацыянальным артыкулам “Шанаваць родную мову”, які быў надрукаваны ў “ЛіМе”. Ох, што тут пачалося! Як толькі мяне ні бэсцілі, ні пляжылі. Добра, што гэта быў усё ж такі не 37-ы год і я застаўся на волі. Але мне яшчэ доўга аукалася мая смеласць.

Ды пазіцыя мая засталася нязменнай. Я і цяпер дзе толькі можна і каму толькі можна стараюся давесці, што сённяшні стан беларускай мовы – незайдросны. Асабліва трывожыць у апошні час мова ў нашых тэатрах. Здавалася б, дзе яшчэ, як не ў тэатры, павінен паказвацца прыклад сапраўднай дбайнасці, чысціні ўжывання і вымаўлення роднага слова. Аднак на справе ўсё не так. Прычым псуюць мову аднолькава і драматургі і акцёры. Драматургі – бо хочуць дамагчыся найбольшага сцэнічнага эфекту, а, як выяўляецца, не ўсе добра ведаюць мову. Акцёры ж – бо не маюць жывой размоўнай практыкі, беларуская мова для большасці з іх – гэта не мова жыцця, а толькі працы. Таму не дзіўна, што ў некаторых такое вымаўленне, што хоць вушы затыкай. Здзек не толькі з мовы, але і з нашага “брата-беларуса”, пра што гнеўна пісаў калісьці яшчэ Ф. Багушэвіч.

Далёкая ад дасканаласці, прабач за праматy, і мова сродкаў масавай інфармацыі. Яна збедненая, спрошчаная да прымітыву, засмечана рознымі канцылярызмамі, штампамі. Гэта сведчыць пра нізкую моўную культуру нашай журналістыкі, пра тое, што мове не надаецца належная ўвага ні ў часе падрыхтоўкі журналістаў, ні потым, у час іх працы...

**– А можа праблема пачынаецца яшчэ са школы?**

– Канечне. Хіба гэта нармальна, што за апошнія гады самавольна, без рашэння адпаведных органаў, дый без згоды бацькоў, пераведзены з беларускай мовы навучання на рускую амаль усе сярэднія школы. Што рабіць? Мне здаецца, выхад ёсць. Ён у тым, каб вучні аднолькава добра ведалі і рускую і беларускую мовы, а яшчэ лепш – і адну замежную. Веданне моў дае чалавеку магчымасць засвойваць культуру іншых народаў, пашырае яго свет, межы зносін, працы, жыцця... Вядома, усё гэта трэба рабіць спакойна і мудра, без шараханняў, не забываючы пра інтэрнацыянальнае выхаванне.

Мова ж кожнага народа – гэта не толькі нацыянальнае багацце, яна – каштоўнасць агульначалавечая. Яна патрабуе аховы і абароны дзяржавы. І таму вяртанне беларускай мове дзяржаўнага статусу было б вельмі дарэчы. Гэта дапамагло б ёй заняць належнае месца ў жыцці народа.

**– І апошняе пытанне. У цябе (і гэта ведаю не толькі я) – адна з лепшых, а, можа, і самая лепшая ў Мінску хатняя бібліятэка. Раскажы, калі ласка, як, па якім прынцыпе ты фарміраваў сваю бібліятэку і ці чытаеш ты ўсё тое, што набываеш?**

– Заўсёды купляў і купляю кнігі ў адпаведнасці са сваімі прыхільнасцямі і інтарэсамі. Найперш, вядома, мяне цікавіць мастацкая літаратура, кнігі па літаратуразнаўству, краязнаўству, па этнаграфіі і фальклору. Вельмі люблю гісторыю, таму набываю ўсё больш-менш значнае, цікавае, што трапляецца мне па гэтай тэме. Ёсць сапраўдныя рарытэты, як, якажам, першае выданне кнігі Усевалада Ігнатоўскага “Кароткі нарыс гісторыі Беларусі”, Вацлава Ластоўскага “Кароткая гісторыя Беларусі”, шматтомнае выданне“Живописная Россия”, асобныя нумары

часопіса “Живая старина”, што выдаваўся ў 1890-1916 гадах у Пецярбургу. Маю фактычна поўны збор кніг з серыі “ЖЗЛ”, шмат цікавых выданняў па выяўленчым мастацтве, архітэктуры, пра свет раслін і жывёл. Ну і, безумоўна, хатняя бібліятэка не можа абысціся без даведачнай літаратуры – энцыклапедый, розных слоўнікаў.

Ці чытаю я ўсё гэта? Канечне ж, каб прычытаць тое, што маю, не хопіць ніякага жыцця. Але ў мяне такі прынцып: любую кніжку, якую я купляю, перш чым паставіць на паліцу, я ўважліва праглядаю, некаторыя раздзелы бегла прачытваю, каб ведаць яе змест і запомніць, дзе мне што, калі спатрэбіцца, шукаць.

Я наогул не прыхільнік хуткага і ўсяяднага чытання. Такі падыход прыносіць мала карысці. Чытанне толькі тады дасць свае вынікі, калі чытаеш павольна смакуючы, запамінаючы кожную думку і нават тое, як яна выказана.

Практыка падказала мне, што кнігі трэба не толькі чытаць, але час ад часу некаторыя з іх і перачытваць. У першую чаргу гэта творы мастацкай літаратуры, творы Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Дастаеўскага, Льва Талстога, Чэхава, Буніна, Паўстоўскага, Купалы, Коласа, Чорнага, Гарэцкага, Мележа...

**– Дзякую, Барыс Іванавіч, за шчырыя і цікавыя думкі.**

– Буду рады, калі нешта з таго, што мы тут з табой нагаварылі, здасца чытачам вартым увагі.



Алесь Пашкевіч



...Масей Сяднёў – з тых пісьменнікаў, чый мастацкі почырк пазнаецца адразу...

# "Той дзень надышоў"

***Духоўны ўніверсум прозы Масея Сяднёва***

Пісьменнік беларускай эміграцыі Масей Сяднёў увайшоў у гісторыю нашай літаратуры найперш як паэт, аўтар шматлікіх лірычных зборнікаў. Ён вярнуўся на Беларусь яшчэ ў 60-х гадах, праўда, як... прататып. Вобраз сына Дзяніса Зазыбы Масея, мінскага студэнта, літаратара, быў «спісаны» ў раманах народнага пісьменніка Івана Чыгрынава з Масея Сяднёва.

Масей Сяднёў – адзін з найбольш улегендаваных творцаў беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. Ён нарадзіўся сто гадоў таму ў вёсцы Мокрае на Касцюковіцкай зямлі. Паступіў у педінстытут, быў беспадстаўна рэпрэсаваны і вывезены ў Сібір. Падчас вайны апынуўся на волі. Згадваюць (няпэўна), што быў пісарам у нямецкай управе. Карыстаючыся той «пасадай», выпісваў вяскоўцам бясплатнае малако. Дапамагаў так і сям'і дзевяцігадовага хлапчука з Вялікага Бору Івана Чыгрынава. А да ўсяго – і ахутаная смугой гісторыя аб тым, як М. Сяднёў «звёў» дзяўчыну ў камандзіра партызанскага атрада... Напрыканцы вайны пісьменнік падаўся ў эміграцыю: Беласток, Нямеччына, ЗША, дзе ў 2001 годзе і закончыў свой зямны шлях.


*Масей СЯДНЁЎ.*

Большасць з перажытага М. Сяднёвым аніяк не магло ўвасобіцца адно ў паэзіі; жыццёвы вопыт патрабаваў формы празаічнай, лепшым узорам якой і стаў аўтабіяграфічны раман.

...На вокладцы кнігі «Раман Корзюк», аддрукаванай у Мюнхене ў 1985 годзе, – змрочны малюнак Ірыны Рагалевіч-Дутко: чорная ноч, што – як тушшу – заліла і неба, і зямлю; як прадрапаныя чымсьці зоркі-дзіркі; некалькі шляхоў сыходзяцца ў адзін дзесь на ўяўным небасхіле і, загнуўшыся спіраллю, знікаюць; над усім – вялікая жоўтая поўня, і гэта ад яе нежывога святла зіхцяць дарогі, на адной з якіх – кволая постаць чалавека. Просты, нават лубочны малюнак, а напоўніцу перадае настрой кнігі, пачуцці герояў, жыццёвыя шляхі якіх абагрэтыя не сонечным цяплом, а залітыя здрадлівай поўняй – адной з галоўных «гераіняў» твора.

«Раман Корзюк» – першы празаічны твор М. Сяднёва – найперш хочацца назваць гісторыяй-драмай, сцэнар якой пісалі ў мінскім будынку на скрыжаванні вуліц Савецкай і Урыцкага. НКУС, зрэшты, здзяйсняў і пастаноўкі той гісторыі, і праводзіў рэпетыцыі. Гэта ў кабінетах НКУС, як сведчыць сваім раманам М. Сяднёў, выспелілася ідэя аб нацдэмаўскай змове «ва ўсебеларускім маштабе», «контррэвалюцыйнай шпігунска-дэверсіўнай арганізацыі». Вось і пачалі збірацца цэлыя турмы «кулакоў» і нацдэмаў, а ў кіраўнікі «Саюза вызвалення Беларусі» падбірацца вядомыя беларускія нацыянальныя дзеячы: Ігнатоўскі, Чарвякоў, Жылуновіч-Гартны. Іншымі словамі сказаў пра гэта ў «Рамане Корзюку» адзін з кіраўнікоў НКУС: «<...> усё, што мы робім, ні больш, ні менш – санітарнае мерапрыемства», бо з Захаду ўжо «запахла порахам», а на каго, маўляў, абаперціся будзе ворагу, як не на такіх «інфіцыраваных» непакорай да савецкай улады?

Літаратура на Беларусі праблематыку «Рамана Корзюка» змагла распрацоўваць без аглядкі на цэнзуру толькі з 1990-х гадоў, калі зніклі цэнзурныя ды ідэалагічныя забароны[1].

«Раман Корзюк» М. Сяднёва разглядаць і аналізаваць мэтазгодна ў сістэме праблемных і жанрава-стылёвых каардынатаў агульнай антытаталітарнай, «дысідэнцка-антысавецкай» літаратуры. Арыенцірамі аўтарскай задумы бачацца найперш творы А. Салжаніцына і Дж. Оруэла. «Успомнім, што «Раман Корзюк» пісаўся М. Сяднёвым у 1983-1984 гадах, – адзначыў Я. Чыквін у артыкуле, прысвечаным творчасці пісьменніка («Шлях да сябе»), – значыць, ён узнікаў пад знакам «оруэлаўскай» даты, і на ім, здаецца, ляжыць водбліск оруэлаўскага спосаба мыслення і мастацкага абагульнення. <...> У шырэйшым плане М. Сяднёў, падобна Дж. Оруэлу, аўтару кнігі «1984 год», паказвае, як пад уздзеяннем палітычных ідэялагем і сухіх канструкцый, што рэдуцыруюць жывую, паўнакроўную рэчаіснасць толькі да памераў палітыкі, а палітычную дзейнасць да прапаганды і насілля, страшэнна дэфарміруецца тая ж рэчаіснасць і ўсё грамадства».

«Раман Корзюк» М. Сяднёва – спавядальны дакумент пра гвалт-генацыд і

---

[1] Пра рэпрэсіі сталінскіх часоў сказалі ў сваіх творах яшчэ І. Мележ (вобраз Алеся Маёвага ў «Палескай хроніцы»), А. Кулакоўскі (аповесці «Нявестка», «Дабраcельцы»), Васіль Быкаў, аднак да 1990-х гадоў такія спробы былі выключэннямі і не пашыралі свайго выкрывальніцкага пафасу на ўсю таталітарна-савецкую сістэму.

здзекі з народа ды – адначас – абвінаваўчы акт і здраднікам, і катам (тыпу следчых НКУС Цімошкі ці Палітыкі). Беларусь ператварылі ў змрочны замак, адзін з «князькоў» якога – начальнік НКУС. І жывуць (працуюць, вучацца, кахаюць) усе – нібыта пад жудасным аграмадным каўпаком, у страшэннай пастцы-краіне. Аніяк з яе не вырвацца бацьку Рамана, селяніну з заслаўскага хутара Савосту Корзюку. Яго залічылі ў кулакі, адабралі жывёлу, коней, апісалі хлеб, не пасаромеліся нават «экспрапрыіраваць» і пустыя гаршкі. І зямлю забралі. Да ўсяго – пачалі лавіць як забойцу сакратара райкама партыі (хоць сакратара тога самі ж улады і застрэлілі: каб засведчыць «кулацка-буржуазны» супраціў на вёсцы). У пустой хаце трымаюць жонку і дачку, робяць засаду.

Не купаўся ў раскошы і малодшы сын. У яго, Рамана Корзюка, і абуць нават прыстойнага не было чаго – галёшы не скідваў у інстытуцкай распранальні, бо стары чаравік прадзёрся, і ў дзірку вызіралі голыя пальцы. Так і шлёпаў на экзамен па дыялектычным матэрыялізме...

Ні бацьку, ні сыну з краіны-пасткі – аніяк не збегчы. Пераходзяць заходнюю мяжу, ды Раман адразу ж назад, на «Беларусь», просіцца і вяртаецца, а Савосту НКУС пасля вераснёўскага «ўз'яднання» 1939 года прывозіць «дамоў» – у мінскую турму.

У «Рамане Корзюку» ёсць і яшчэ адно параўнанне савецкага «архіпелагу ГУЛАГ», безвыходнага замку-пасткі – з падводнай лодкай, пакінуць якую аніяк немагчыма, апроч як памерці. Адной з каютаў гэтае пачварнае лодкі бачыцца аўтару «габінет» у будынку НКУС: «Уражвала ягоная поўная ізаляванасьць, здавалася, што ён кругом быў абабіты тоўстым лямцам, які нічога не прапускаў: ні крокаў, ні голасу. Што б хто ні гаварыў – усё глуха, і стваралася ўражаньне, быццам вы знаходзіцеся ў каюце падводнай лодкі, на якую цісьне страшэнная тоўшча вады, і ад гэтага ціску ў вас баліць галава». І плысці гэтая лодка смерці самохаць не можа, бо яе капітан – у Маскве. «Памятайма словы Сталіна, – гаворыць «боцман» Бэрман (начальнік НКУС Беларусі). – Калі мінскае НКВД спіць, яго разбудзіць маскоўскае».

Удала, псіхалагічна заглыблена раскрыты ў рамане вобраз Валі Камоцкай, беларускай дзяўчыны-студэнткі, закаханай у Рамана, і праз каханне сваё – нявіннай ахвяры мінскай «амерыканкі». «Раман напаткаўся ёй неспадзявана, адразу. Тры гады правучылася – не дабачала яго, потым ён як-бы аднекуль зьявіўся, вырас і, жартаўлівы, нават абыякавы, знайшоў сабе месца ў ейнай душы. І цяпер яна нагэтулькі звыклася з ім, што нельга было-б уявіць нейкі адыход ад яго <...>. Гэта яшчэ больш кідае яе да яго з такой пасьпешнасьцяй, з якой кідаецца пад хуткія колы дарога». Валя хоча ў жыцці сваім быць упэўненай, а дзеля гэтага – ведаць усё наперад. Толькі ж ці можа такое стацца ў каханні?

Трагічным успрымаецца ў рамане і вобраз Генадзя Кандраценкі, чулага беларуса і – сексота, «падсадной качкі». «У двух скурах» мусіць жыць гэты чалавек. НКУС расшукала яго, сібірскага ссыльнага, засумавалага па Беларусі, і зноў вярнула на Радзіму – каб зрабіць сваім памагатым і адным з актораў-марыянетак. І той згаджаецца выйсці на сцэну, і ў гульні сваёй (на мяжы са смерцю) імкнецца падыгрываць і Раману Корзюку, і ягонай сям'і (паслухай напачатку Раман яго, з'едзь куды-небудзь «у Азію» – мо і не зведаў бы сібірскага пекла).

А які характэрна-тыповы лёс «галоўнага стратэга й тэарэтыка па нацдэмаўшчыне», чалавека-зомбі Цімошкі, які паверыў у тое, што ягоная жонка – польская шпіёнка, і – больш за тое – вёў яе справу, судзіў і патрабаваў ейнага расстрэлу? І такі псіхічна хворы службіст пачынае «раскручваць» справу аб нацдэмаўскай тэрарыстычнай арганізацыі!

Сярод дзейсных герояў «Рамана Корзюка», якіх «стальная машына» імкнецца ператварыць у «вінцікаў» выдуманага «цэнтра» нацдэмаўскай «шпіёншчыны» –



*Пачатак 1990-х. Першае вяртанне ў Мінск. На фота: Барыс САЧАНКА, Яўген ЛЕЦКА, Масей СЯДНЁЎ.*

Усевалад Ігнатоўскі, Янка Купала, Алесь Чарвякоў, Цішка Гартны, Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, – амаль усе, хто ацалеў пасля першых «хапуноў» і большасць з якіх М. Сяднёў ведаў асабіста.

Праўда, М. Сяднёў не ўсёчасна можа ўтрымліваць у сваіх руках сюжэтна-апавядальныя ніці. Раман пісаўся доўгія гады – амаль тры дзесяцігоддзі. Так і друкаваўся: напачатку ў часопісе «Конадні» – першыя раздзелы, затым у газеце «Бацькаўшчына», а заканчэнне – толькі ў асобным выданні. Гэтым і хочацца вытлумачыць некаторыя зместавыя «нестыкоўкі», напрыклад, пры абмалёўцы вобраза старшыні ЦВК Беларусі А. Чарвякова. Яшчэ ў турме Валя Камоцкая з артыкула ў газеце (якую знайшла ў прыбіральні) даведалася пра самагубства Чарвякова, а праз некаторы час начальнік НКУС са сваім памочнікам Пушкіным плануе зрабіць першага «беларускага старасту» першым «загаворшчыкам» на адкрытым працэсе-судзе ды маракуе, як атрымаць з Масквы дазвол на ягоны... арышт (Валя даўно ўжо вызвалілася з турмы).

М. Сяднёў – з тых пісьменнікаў, чый мастацкі почырк пазнаецца адразу. І найперш – увагай да дэталяў. Мастацкая дэталь у М. Сяднёва – кідкая, запамінальная, нават – паэтычная, як яшчэ неўрыфмаваная метафара (у чым, безумоўна, выяўляўся яго паэтычны талент). «Студэнтка <...> яшчэ болей тулілася да яго і, калматая, вісела на Раманавай руцэ, як кошык» – «дэкаратыўна», бо аніякага пачуцця да яе Раман не меў; «<...> Шаркевічанка, ступіўшы аднэю нагою ў страмяно, хутка, як сцяг, узьнялася ўгору»; «Скрозь шчыліны ў перагародцы <...> калола сьвятло і даставала Рамана, як штыхамі». І параўнанні: «Ноч, як абвугленая засланка» і інш.

Запамінальнымі атрымаліся ў «Рамане Корзюку» некаторыя вобразныя апісанні, пададзеныя праз погляд чалавека пачуццёвага, эмацыйнага (апісанні Дома ўраду, універсітэцкага гарадка). А яшчэ, здараецца, голас празаіка быццам стоміцца, і тады нечакана новы раздзел пачынаецца ўзнёслым лірычным адступленнем, блізкім да верша ў прозе – як, да прыкладу, раздзел 20-ы, што апісвае восеньскія вечары, прыгажэйшых ад якіх няма ў свеце, – калі «халодна-звонкае паветра кружыць тваю галаву, і ты ступаеш, узвышаючыся і вырастаючы, быццам не датыкаешся да зямлі, радасны і прыемны сабе самому. Асьветлены знутра, ідзеш як на сустрэчу, яшчэ першую ў тваім жыцці, нязнаную й незвычайную. Лёгкасьць і хараство...».

Трэба адзначыць, «Раман Корзюк» зрабіўся абцяжараным залішняй публіцыстычнасцю. І ці не наноў «ужываўся» аўтар і ў твор свой, і ў герояў. «Сямнаццаць год ня браўся за яго, пакуль іншы наш вядомы літаратар не пераканаў мяне ў мэтазгоднасьці завяршыць твор», – прызнаваўся аўтар у прадмове да рамана. Ды ўсё ж зноў здолеў перасіліць у сабе публіцыста – у «Эпілогу» забруіла-загучала лірычна-біяграфічная плынь. Рамана Корзюка прывозяць з Сібіры ў Менск на «перагляд» справы, у турме яго застае вайна, палонных выводзяць – як колісь і самога М. Сяднёва – да Чэрвеня, дзе ноччу турэмная варта збягае...

«Раман Корзюк» напоўнены экзістэнцыйнымі, біблейскімі матывамі і асацыяцыямі, на якія, дарэчы, вельмі багатая паэзія М. Сяднёва. Героі рамана раскрываюцца ў цяжкіх, трагічных выпрабаваннях. У кожнага з іх – свой судны дзень. «Ромусь, твой дзень прыйшоў. Ня бойся суда. Гэта будзе твой судны дзень...» – гаворыць Раману Кандраценя.

Праўдзівая хроніка савецкіх рэпрэсій выпісана і ў другім рамане М. Сяднёва, які ўжо нават самой назвай лучыцца з «Раманам Корзюкам», – «І той дзень надышоў» (той жа судны дзень, як наканаванасць, як немінучасць). У гэтым творы акцэнтуюцца тыя ж хрысціянская сімволіка і біблейскія матывы, што і ў першым рамане М. Сяднёва. Вывучаючы беларускую літаратуру ў кантэксце хрысціянскіх ідэалаў, У. Конан асобна вылучыў паэзію беларускай эміграцыі, у прыватнасці – кнігу вершаў М. Сяднёва «Ачышчэньне агнём»: «Паэт Масей Сяднёў у кніжцы вершаў «Ачышчэньне агнём» (1985) прадвызначыў <...> пераемнасць культуры самім загалоўкам свае кнігі: ачышчэнне вадою і агнём адбываецца і ў народным купальскім абрадзе, і ў хрышчэнні ў водах Іярданскіх, і полымем Святога Духа, які зышоў на апосталаў у дзень Сёмухі. <...> «Ачышчэньне агнём» пачынаецца «Малітвай», дзе ёсць скрытыя алюзіі на евангельскі эпізод выпрабавання веры апостала Фамы (Ян 20:24-28)».

Біблейскія матывы выяўляліся не толькі ў паэзіі М. Сяднёва: у яго прозе выразна адлюстравалася біблейска-апакаліптычная сімволіка суднага дня для Беларусі і беларускага народа. Экзістэнцыяльная *праблема выбару*, матыў *пакутнага шляху* на Галгофу, якія перарастаюць у ранг быційнай архетыповай катэгорыі, – цэнтральныя і вызначальныя ў раманах М. Сяднёва[2].

Раман «І той дзень надышоў» М. Сяднёва быў упершыню надрукаваны ў 1987 годзе ў ЗША, а затым быў апублікаваны ў кнізе выбранага М. Сяднёва «Патушаныя зоры» (Мінск, 1992). Гэта – твор незвычайны не толькі закранутымі праблемамі, выглядае свежа і самавіта не толькі праз свае прыгодніцка-сюжэтныя калізіі, аўтабіяграфічную адкрытасць і драматычнасць. «І той дзень надышоў» – раман пачуццёвы, узнёслы. Узвышаны запеў рамана – ад яго галоўнага героя Міколы, студэнта мінскага педтэхнікума, маладога паэта, чалавека акрыленага і летуценнага, героя выразнага аўтабіяграфічнага складу. Перавагу ў рамане эмацыйнага над рацыянальным адзначала і Л. Савік: «...калі “Раман Корзюк” – пераважна тварэнне халоднага розуму і разваг, то “І той дзень надышоў” – найперш тварэнне сэрца, душы, эмоцый».

Кампазіцыйна раман “І той дзень надышоў” падзяляецца на тры часткі: Міко-

[2] З беларускай эмігранцкай прозы ў кантэксце біблейска-хрысціянскіх абсалютаў разам з творамі М. Сяднёва яскрава вылучаецца аповесць Антона Адамовіча «Трывога» (яе героі штодня ўзыходзяць на пажарную каланчу – як на ўмоўную Галгофу); з біблейскім адценнем успрымаецца і пашыраны ў большасці эміграцкіх твораў як катэгарыяльнае паняцце вобраз дарогі-блуканняў – як доўгага Маісеевага хаджэння да мэты-ідэалу (раманы «Вялікія дарогі» У. Сядуры, «Змагарныя дарогі» К. Акулы, апавяданні Ант. Адамовіча, аповесць «Загібельскі летапіс» М. Цэлеша і інш.).

ла на летніх вакацыях у роднай вёсцы Мокрае (роднай і самому аўтару); лёс Міколавых бацькоў пасля высылкі сына-«нацдэма» ў Сібір; вызваленне Міколы з бальшавіцкага палону і палон «лёсавы» (паміж партызанамі і немцамі ён і ні свой, і ні чужы). Пачатак і заканчэнне рамана перададзены як успаміны, пачуцці і роздумы самога галоўнага героя – асобы шчырай, пакутнай і трагічнай. Урэшце, паўторымся, аўтабіяграфічнай. Праз гэта «І той дзень надышоў» – твор, да ўсяго, спавядальна-праўдзівы, нават эпіграф да яго паказальны – з паэмы Міколы Гусоўскага: «Мала карысці ад слоў, веры каторым няма».

Праўдзівасць перакрыжоўваецца са шчырай спавядальнасцю, найбольш яркай у шматлікіх «унутраных» маналогах галоўнага героя («плынь свядомасці»). «Я хацеў жыць бесклапотна. Хацеў жыць тым узвышаным пачуцьцём, што акрыляла мяне, той радасьцяй быцьця, што штурхала мяне на нейкі ўчынак...» – летуцеў Мікола, а рэаліі гэтага быцця складваліся не так акрылена-радасна: у родную вёску да яго прыязджае «ўпаўнаважаны».

Урэшце, раман «І той дзень надышоў» – узор эмігранцкай ваеннай прозы. Слушна раскрываючы антыфашысцкі пафас савецкай ваеннай прозы, Л. Корань пісала і аб тым, што само «паняцце «Вялікая Айчынная вайна 1941-1945 гг.», фундаментальнае для савецкай культуралогіі, у 90-я гады пачало актыўна пераасэнсоўвацца, удакладняцца <...>. У савецкай рэчаіснасці 40-50-х гадоў не маглі не з’явіцца такія спрашчэнні вайны, як проза І. Гурскага і А. Стаховіча, што нагадвае афіцыйны лубок на мяжы мастацкай бездапаможнасці».

Першая ж «мастацкая прышчэпка» ад такіх запраграмаванасці і фальсіфікацыі была зроблена ў прозе нашага замежжа. Беларускія эмігранты ў сваіх творах першымі падышлі і да раскрыцця тых прычынаў, што прывялі да недапушчальных ваенных стратаў, пройгрышаў, ахвяраў, паражэнняў, трагедый – прычынаў, абумоўленых таталітарнай ідэалогіяй савецкай дзяржавы. У згаданых раманах М. Сяднёва, аповесці Ант. Адамовіча «Трывога» і апавяданнях-навелах «Эмігранцкая песьня» і «Афрадыта-Ост», аповесці Л. Савёнка-Крывічаніна «Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава», раманах У. Сядуры «Вялікія дарогі» і К. Акулы «Змагарныя дарогі», у шматлікіх творах мемуарна-аўтабіяграфічнага плану якраз і раскрываліся праблемы вайны незаідэалагізаванай па-савецку, не ўлубочанай: яе антычалавечнасць, трагедыйнасць з крытэрыяў гуманістычных, з пункту погляду абодвух ваюючых бакоў. У такіх творах мастацкімі і публіцыстычнымі сродкамі была выпісана трагедыя беларуса-«абывацеля», простага селяніна ці бязвіннага беларуса-паязджаніна.

Раман М. Сяднёва «І той дзень надышоў» арганічна ўпісваецца ў агульнанацыянальны літаратурны кантэкст і можа ўспрымацца і як тужлівая паэма пра лёс беларуса-селяніна – як працяг Коласавай «Новай зямлі». Драматычныя рэаліі побыту жыхароў вёскі Мокрае, праца савецкіх прыгонных – і ўражваюць, і прымушаюць задумацца. А на гэтых кругах жыццёвага пекла – закаханыя юнак і дзяўчына, якія імкнуцца-рвуцца збудаваць свой нябесны замак, хочуць узвысіцца па-над змрочнай будзённасцю. «...я – <...> на нейкім азораным узвышшы, і з яго, узвышша, нейкім цудам, нецялесна, узьнімаюся ў іншыя сфэры, слухаю музыку і, задаволены, вяртаюся, ужо такім, як я ёсьць, зноў да сябе самога», – асэнсоўвае-ўсведамляе сваё становішча Мікола. Такія «звароты да сябе» – балючыя, трагічныя: з маладой жонкай ён не мае прытулку – амаль кожную ноч наведваюцца партызаны, каб пакараць – і за тое, што не пайшоў да іх (хоць не пачаў служыць і немцам), і за жонку-маладзіцу (бо «перабег дарогу» ў любоўнай справе вясковаму актывісту, а цяпер камандзіру партызанскага атрада Міколу Бугрову). Раем закаханым падаюцца «шалашы» – чужая лазня, стог у лузе. Ды нараджаецца Васілёк, надыходзіць восень. Фінал іх узнёслай паэмы апякае трагічным холадам: Мікола з бацькам і сястрой на Сцюдзянецкай

дарозе («сцюдзіць» нават яе назва), дарозе выгнанцаў, маці, каханая і сын – «па другі бок», у невядомасці[3]...

Мастацкі почырк М. Сяднёва пазнаецца па шматлікіх адметных паэтыка-стылістычных адзнаках. Яго раманам характэрна натуральнасць мастацкага маўлення, калі пераходы ад апавядальных «я»-формаў да няўласна-простай мовы, ад дыялогаў да ўнутраных маналогаў адбываюцца нязмушана, арганічна, непрыкметна для чытача. Вось прыклад такой «змены факусіроўкі»: «З абодвых Мокрых на акопы жанчын зьбірае ваенны грузавік. Вязе на Бесядзь. <...> Спаць няма дзе, толькі на зямлі, на траве, пад кустом. <...> [Дзяўчаты] дурэюць. Шчакочаць адна другую. <...> Палезьлі б да «лейтэнантаў» у іхныя шатры-будкі, але ці ж лёгка на гэта адважыцца?» І вось ужо «бліжэй», ад імя гераіні, але без разбіўкі на абзац: «Ды ім, лейтэнантам, ня трэба столькі, колькі нас тут усіх. <...> Самых прыгажэйшых і маладзейшых могуць мець. І маюць. <...> Унь як Піліпаву аблюбавалі! <...> Ды дзеўка не дура – бароніцца.

– Бароніцца? Дужа ты знаеш.

– Што знаю, тое й кажу».

М. Сяднёў – майстар дыялогаў, «спружыністых», псіхалагічна-яркіх (хораша і дасканала выпісаны ў рамане «І той дзень надышоў» – у гутарках гасцей – і вяселле Ягора, Міколавага сябра, і ўсе героі). Надзвычай багаты і «празаічны» слоўнік пісьменніка, залацінкі роднай гаворкі якому былі ці не найлепшымі духоўнымі лекамі на чужыне.

Творчасць Масея Сяднёва, такім чынам, не толькі папаўняла беларускую прозу асобнымі ідэйна-мастацкімі, сюжэтна-фармальнымі знаходкамі і распрацоўкамі, але і без уплыву палітычнай кан'юнктуры паўнакроўна рэдуцыравала (прыводзіла ў адпаведны стан) савецка-беларускую рэчаіснасць 30-х – першай паловы 40-х гадоў, у аўтабіяграфічных мастацкіх параметрах падавала праўдзівы празаічны летапіс жыцця беларуса ў вірлівы час сталіншчыны і ваеннага ліхалецця, узвышаючыся да яго канцэптуальнага асэнсавання, прыўносіла ў беларускую ваенную прозу павеў лірычнасці і пачуццёвасці, узбагачала беларускую літаратуру творчым асваеннем агульнасусветных літаратурных набыткаў, доступу да якіх на Беларусі 70-х – пачатку 80-х гадоў не было.

---

[3] У аснову згаданага рамана быў пакладзены аўтабіяграфічны матэрыял. Вядома, што на Беларусі засталіся першая жонка і сын аўтара (прататыпы Дусі і Васілька), з якімі ў часе свайго прыезду на Беларусь у 90-х гадах М. Сяднёў меў сустрэчы.

Пётра Садоўскі



...Акудовіч праз дасціпную навукападобную філасофскую паэтычную фантазію давёў, што Беларусь, яе гісторыя, грамадзянскія рухі – прыдумка, нішто...

# “Кніга пра мяне”,

## *або Постнацыянальныя рэсентыменты кібіца-інтэлектуала*

Прапанаваны тэкст – пашыраны пераказ маёй нямецкамоўнай рэцэнзіі для нямецкага чытача на кнігу Валянціна Акудовіча *“Код адсутнасці. Спроба зразумець Беларусь”* (з аўтарызаванай расійскамоўнай версіі). Пераклад выйшаў у 2013 годзе ў нямецкім выдавецтве “Зуркамп”. Рэцэнзія напісана для часопіса “Wostok” (Берлін).

Выдавецкая анатацыя: *Valentin Akudowitsch “Der Abwesenheitscode. Versuch, WeiЯrussland zu verstehen”. Edition Suhrkamp SV. Aus dem Russischen von Volker Weichsel. Mit einem Nachwort von Martin Polack. Deutsche Erstausgabe, Berlin 2013. 204 Seiten.*

### Некалькі ўступных заўвагаў для беларускага чытача

Тэкст для чытання нялёгкі, пісаны ў жанры навуковапапулярнага эсэ, з семантычнымі і стылёвымі перападамі, па-нямецку і для немцаў. Ёсць шмат рэаліяў, якія сярэднім беларусам “з ходу” могуць і не прачытацца, што зусім

натуральна. У такіх выпадках даюцца тлумачэнні – у зносках ці ў тэксце. Розныя раздзелы маюць розную стылістыку. Напрыклад, пра беларускую "партызанку" напісана папулярна, пра евангельскую герменеўтыку – больш складана.

Загаловак нямецкамоўны чытач адразу "расшыфруе", для нашых жа даю тлумачэнне:

*Рэсентымент*, з псіхааналізу (ад фр. *затоеная злосць*, *прыкрасць, падсвядомая трывога*). Для сучаснага нямецкага "більдунгсбюргера" гэтае слова, якое бярэ свае выток з псіхааналітыкі Ніцшэ, добра вядомае. Ім абазначаюць пачуццё варожасці ці непрыязнасці да каго-небудзь ці чаго-небудзь, што пэўная асоба лічыць прычынай сваёй іншасці, сваёй слабасці, баязлівасці, непаўнавартаснасці, уяўнага ці матываванага сораму, стараецца знайсці апраўданне сваім учынкам і г. д. У выніку суб'ект стварае сістэму сваіх унутраных каштоўнасцяў, якія дапамагаюць (часта ўяўна) пазбавіцца ад уласных комплексаў праз крытыку сваіх апанентаў. Крытыкуючы апанентаў, суб'ект вельмі часта падсвядома сублімуе свае комплексы ў сістэму маралі, у якую сам пачынае верыць, і даводзіць сябе нават да стану ідыясінкразіі адносна сваіх апанентаў.

*Кібіц* (Kiebitz) – балотная птушка кнігаўка; таксама – "назіральнік за картачнай гульнёй". У нямецкай назве рэцэнзіі *("Das Buch über mich", oder "postnationale" Ressentiments eines kiebitzenden Intellektuellen*) ключавым – паводле прычынна-выніковых сувязяў і генеалогіі маралі – з'яўляецца азначэнне "kiebitzend" (той, хто толькі назірае, правакуе, рэзаніруе, папярэджвае, прыцягвае ўвагу, дае парады ды хаваецца ад магчымай небяспекі), утворанае ад дзеяслова "kiebitzen". Нямецкі картачны "кібіц" – у адрозненне, напрыклад, ад польскага брытагаловага футбольнага заўзятара-кібіца з шалікам і піўной пляшкай – навязлівы пустацікавец за спінамі картачных гульцоў, што заўсёды па часе мае розум: *"Я ж казаў, што трэба было з хрэсці хадзіць..."* Калі-нікалі праз таемную змову "кібіц" сістэмай умоўных знакаў можа паказваць аднаму з гульцоў карты ягонага візаві. Праз гэта ён рызыкуе апынуцца ў прыкрай сітуацыі.

Метафарычная постаць Акудовіча-кібіца ўзнікла ў маім уяўленні пасля прачытання ягоных эсэ, змешчаных у "ARCHE", "Дзеяслове", беларускім варыянце "Коду адсутнасці" і ў нямецкім перакладзе, дзе ён малюе свой "партрэт у натоўпе". Ва ўсіх пяці тэкстах ён узгадвае, як ён *"упершыню ўбачыў Пазняка, ускараскаўшыся на плечы сябра паэта Леаніда Дранько-Майсюка"*, падчас разгону "Дзядоў" каля Маскоўскіх могілак, калі амапаўцы труцілі фронтаўцаў "Чаромхай"... ( У нямецкім варыянце прозвішча паэта не называецца). Тут жа назіральны талент аўтара па-філасофску абагульняе сваё прадчуванне хімеры адраджэнскага руху: "*...Не на добры лад уразіла, што падчас публічных прамоваў ён (Пазняк – П.С.) зашмат "акцёрстваваў", раз-пораз карыстаючыся рытарычнымі прыёмамі, вынайдзенымі схаластамі яшчэ ў антычнай Грэцыі. З гэтага атрымлівалася, што Пазняк казаў праўду так, быццам хлусіў...*".

З гэтага пасажу відаць, што аўтар сапраўды піша кнігу пра сябе. Каму яшчэ магло прыйсці ў галаў, што схаласты існавалі ўжо ў антычнай Грэцыі... Да такога можна прыйсці толькі з лекалам рашучай дэканструкцыі панятку схаластыка, дайшоўшы да позняй антычнасці, дзе можна сапраўды шукаць вытокі сярэдневечнага філасофскага багаслоўя.

## Чаму напісаўся гэты тэкст?

Канечне, мне было б больш прыемна пісаць сонечныя тэксты пра добрых людзей ці перакладаць нешта з нямецкіх мысляроў. Гэты ж мой тэкст – крытычнае (традыцыйнае) прачытанне не толькі ўзгаданага нямецкага перакладу кніжкі Валянціна Акудовіча, але і спроба паглядзець на з'яўленне падобных "тэкстаў" як на феномен траўмаванай беларускай нацыянальнай свядомасці, што імкнецца ўпісацца ў еўрапейскі кантэкст. Ва ўмовах антынацыянальнага аўтарытарызму шмат хто з гэтак званых ліберальных інтэлектуалаў, хто не

мае “прымардыяльнай[1] прышчэпкі”, пацiху зведвае мутацыю каштоўнасцяў, якая сягае ў гушчар дзялянак, зарослых мадэрным разнатраўем ўперамежку з старымi антыбеларускiмi стэрэатыпамi.

Гiстарычная анексiя нашай зямлi паступова пераходзiць у актуальную акупацыю. Не толькi ў эканамiчную, але i ў каштоўнасна-духоўную. Не без уплыву расейскай эканамiчнай i культурнай экспансii людзi губляюць арыентыры i разуменне змены парадыгмаў iснавання, развучылiся чытаць “тэксты iнтэрпрэтацыяў рэчаiснасцi”. Знешне бачнае, кiдкае – у жыццi i ў мастацтве – пачынае падмяняць сутнасць, семантыку. Законы шоў-бiзнесу пачынаюць перамагаць людскасць у мастацтве i масмедыях.

Наш вядомы мастак i лiтаратар Артур Клiнаў, якi не раз засведчыў сваю заангажаванасць уласнымi авангарднымi праектамi, кажа: *“У наш час... поспех залежыць не толькi ад мастака i ад яго твора, хутчэй ён вызначаецца тым, што вакол гэтага твора адбываецца, ад узроўню лабiравання i гульнi iнтарэсаў, якiя стаяць за тым цi iншым аўтарам. Сучаснае мастацтва працуе па тых жа правiлах, што i сусветны рынак: iдзе жорсткая канкурэнцыя, i нiхто, захапiўшы нейкую тэрыторыю, уласнае месца добраахвотна нiкому не саступiць”.* (З iнтэрв’ю пасля Венецыянскага бiенале). З гэтым нельга не пагадзiцца.

Мне цяжка зразумець, якiя дэманы натхняюць некаторых нашых айчынных аўтараў складаць “тэксты”, што ўяляюць сабою своеасаблiвую гульню ў перлiны, дзе аўтары са свайго сённяшняга бяспечнага мадэрнага далёка, як бы з добрымi намерамi, блiскучай паверхняй шарыкаў “бязлiтасна” высвечваюць нашую мiнуўшчыну, вiнавацячы нашых папярэднiкаў – больш цi менш ахвярных, больш цi менш шчаслiвых – што яны нешта не так зразумелi, нешта не так зрабiлi, не павесiлiся, не застрэлiлiся, а проста выжывалi... Янка Купала некалi казаў:

I прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзiцi суд, цi мы сумленна
Жыццё прайшлi, цi чарада
Зняваг мiнулых нас не з’ела,
Пакiнуўшы свой дым i чад,
I мы па-даўняму нясмела
Жылi не ў лад i неўпапад?

*Каб любiць Беларусь нашу мiлую*, ...яе трэба проста любiць.

Валянцiн Акудовiч для мяне – не вораг. Хутчэй – асоба трагiкамiчная i, як мне здаецца, не вельмi шчаслiвая. Бо сузiранне ягонае – мiтуслiвае, сабранае з разнатраўя другога ўкосу, – чужых рамак i вымысленых спарудаў уласнай канструкцыi, якiя дазваляюць вандраваць па чужых дзялянках бяспечнай iнтэлектуальнай утульнасцi. Але гэта – шчасце Агасфера.

## “Пра Беларусь у нямецкамоўнай прасторы нiхто падобнага не пiсаў...”

Так выказваецца пра “Код адсутнасцi” аўтар нямецкага пасляслоўя Мартын Поляк (с. 173). Сп. Поляк назваў сваё заключнае слова *“Ключ да незапоўненай прасторы”*, маючы на ўвазе Беларусь. Тут жа ён дадае i больш моцныя сiнонiмы

[1] Ад анг. *pri*mordial – *спрадвечны, першапачатковы.* У дапасаваннi да нацыянальнай iдэнтычнасцi гэтым словам абазначаюць дадзеныя чалавеку ад нараджэння каштоўнасцi малой Радзiмы: мову, ландшафт, песнi, штодзённую працу, звычаi, манеру апранацца, жывёльны свет, адносiны да суседзяў, легенды, паданнi i да т. п.

для назвы нашай краіны – *белая пляма Еўропы, невядомая велічыня* (матэматычны тэрмін), *Hic sunt leones* (так рымляне абазначалі на старажытных картах землі па-за межамі імперыі). Пра экзатычна невядомую Беларусь для немцаў дазволю сабе паспрачацца з аўтарам пасляслоўя трошкі пазней. Пакуль абсалютна пагаджуся з сп. Полякам, што да Акудовіча на нямецкай мове пра Беларусь – тым больш самімі беларусамі – ніхто ніколі *так* не пісаў. У "інсайдаўскіх дыскурсах" пра нацыянальную ідэнтычнасць з пункту гледжання псіхааналізу і сацыяльнай герменеўтыкі такі выклад можна кваліфікаваць як сублімацыю "саманянавісці" (Selbsthass), самаадмаўлення.

Аўтар нямецкага пасляслоўя з постнацыянальнай паліткарэктнасцю "наватарства" Валянціна Акудовіча метафарычна-наглядна выкладае ў адным сказе: *"Валянцін Акудовіч трасе й калоціць (rüttelt) усё, што з'яўляецца для ягоных нацыянальна свядомых землякоў дарагім і святым..."* (с. 177). Сапраўды, удалая метафара. Уявіце сабе дзядзьку ў акулярах і з барадой, які ў экстазе экзекуцыі трасе яблыню з яшчэ несаспелымі яблычкамі: у траве ўжо валяюцца плады, як більярдныя шарыкі, з надпісамі "ВКЛ", "Каліноўскі", "Пазняк"... Зверху і на двух бакавых суках яшчэ трымаюцца "БНР", "Багдановіч", "Купала"...

Тое, што можна было б назваць "рэсентыментамі вожыка Піляпэкса[2]", сп. Поляк разглядае як "постнацыянальную сталасць" колішняга рамантыка-нацыяналіста і прылічае яго да піянераў беларускага Адраджэння, які своечасова адмовіўся ад "этнакультурнай мадэлі ідэнтычнасці" і бачыць шанец сталення новага "грамадзянскага"[3] самаўсведамлення пры дыктатуры Лукашэнкі. Лапідарная характарыстыка Акудовіча, якую дае сп. Поляк, у агульных месцах, як блізнятка, падобная на вербальны партрэт, вынесены ў выдавецкія анатацыі іншых акудовічаўскіх тэкстаў: *культавы беларускі філёзаф..., пачынальнік новага адраджэння..., аказаў вырашальны ўплыў на...* і г. д. Узнікае ўражанне, што Валянцін Акудовіч сам прапаноўваў выдавецтвам сваю атэстацыю, ідэнтычную інтэрнэтаўскай самарэкламе.

На с. 175 аўтар пасляслоўя піша: "*Валянцін Акудовіч належыць да генерацыі беларускіх інтэлектуалаў, якія актыўна выступалі за адраджэнне беларускай незалежнасці. Але ў адрозненне ад большасці сваіх колішніх змагарных паплечнікаў, якія працягваюць марыць пра беларускую дзяржаву з бясспрэчна выразнай беларускай ідэнтычнасцю, ён назаўсёды развітаўся з гэтай ідэяй... Ва ўмовах крызісу, куды Лукашэнка завёў краіну, Акудовіч таксама бачыць шанец... Дэмакратычныя сілы не павінны закасцянела адстойваць ранейшую этнакультурную мадэль...*"

Ужо як дыстанцыяваны "нацыяналіст"-назіральнік гістарычнай паразы адраджэнцаў пасля (антыканстытуцыйнага!) рэферэндуму 1996 г., Акудовіч са смакам апісвае раніцу, калі "рассыпаліся ілюзіі беларускага Адраджэння". Нават пра гарэлку і оргіі нешта прыдумаў. З вышыні свайго назіральнага інтэлекту Валянцін Акудовіч так малюе нямецкаму чытачу нікчэмнасць лідэраў "беларускай Беларусі" (с. 156, Эпілог): *"Свядомыя", як совы, для якіх нечакана наступіў дзень, толькі разгублена лыпалі вачыма, круцілі туды-сюды галовамі, каб знайсці паратунак ад невыноснага святла. Не дапамагалі ні гарэлка, ні оргіі..."* І далей на с. 159, сцвярджаючы несумяшчальнасць нацыянальнага і сацыяльнага пачаткаў (чарговае "адкрыццё" аўтара), ужо як "сацыяльны філёзаф" Акудовіч піша: "*Карацей, колькі я ні ламаў галаву, я ўвесь час прыходзіў да адной высновы: "Нацыянальная дзяржава і "сацыяльная" дзяржава – несумяшчальныя. І з гэтага*

[2] Галоўны герой казкі Фрыдрыха Вольфа "Зухаваты вожык Піляпэкс".

[3] Тое, што па-нямецку паліткарэктна называюць Verfassungspatriotismus (канстытуцыйны патрыятызм).

*вынікала, што "свядомым" нічога не заставалася, як кожнаму дажываць свой век у сваёй уласнай сабачай будцы, пакуль усе да аднаго не вымруць..."*

Бязлітасны крытычны пафас Акудовіча, скіраваны на неразумных нацыяналаў, падзяляе выдавец і "гісторык-папулярызатар" Анатоль Тарас, нават запазычвае ў Акудовіча вобраз пра сабак у будцы і асуджаных на паступовае выміранне тыпаў. У сваім інтэрнэт-каментары *"Кто находится в гетто?"* (пасля дыскусіі пра нацыянальную ідэнтычнасць на "Радыё Свабода" і партале tut.by) называе беларускамоўных адраджэнцаў *«ущербными типами», «озлобленной маленькой группой», трусливыми «свядомыми», лающими из подворотни, «кучкой безответственных болтунов», «неспособных шевелить мозгами», «сельскими недотёпами», «представителями постепенно вымирающей породы»...* "*По моим подсчетам, в Минске таковых не более 500 человек на 1,7 млн. жителей – 0, 03%"* ("*Беларусь превыше всего"*. 2-е выд., с. 232).

Свае "папулярныя" пасажы Анатоль Тарас падмацоўвае "навуковай" цытатай з акудовічаўскага "Коду адсутнасці": *"Вот высказывания Валентина Акудовича, с которыми я полностью солидарен: «Языково-этнографическая форма национального обустройства Беларуси уже не жизнеспособна и, значит, не пригодна для формирования вполне качественной нации»... «Необходимо прекратить невидимую войну двух белорусских национализмов – «языково-этнографического» и «общественно-гражданского». И первым просить о мире должен этнонационализм, и потому, что он побежден, и потому, что это он начал войну, и потому, что ему придется искать у победителя снисхождения и понимания, чтобы найти себе место и сохраниться в той конфигурации белорусского общества, которая исподволь формируется на концепте посполитого национализма...»"* (Другое выданне, с. 148). Гэты пасаж можна прачытаць цяпер ужо і па-нямецку ў перакладзе з расейскага аўтарызаванага акудовічаўскага тэксту.

Кайцеся, сп. Караткевіч, што напісалі "сімулякр" – "Каласы пад сярпом тваім", кайцеся сп. Кісялёў, што напісалі "Пачынальнікаў", кайцеся сп. Кулік, што выпусцілі паштоўку з "Пагоняй", кайцеся сп. Марачкін, што пісалі партрэты Луцкевічаў... Вы пачалі вайну, вы – пераможаныя, вы павінны прасіць літасці ў пераможцаў... Пытайцеся: "*Ці можна я ў сваёй хаце пад лаўкай перасплю?"*

Калі з Тарасам усё больш-менш зразумела (чалавек пазіцыянуе сябе як нашчадак польскамоўнай і расійскамоўнай шляхты[4], цешыць сваё самалюбства ды зарабляе грошы на скампіляваных скандальных кніжках), то "выхад на міжнародную арэну" Валянціна Акудовіча з канцэпцыяй адмаўлення ўласнай нацыянальнай ідэнтычнасці – не вельмі зразумелая метамарфоза. Вось старшыня Беларускага ПЭНу А. Хадановіч цешыцца, што яму як члену Праграмнай рады Кангрэса культуры Усходняга партнёрства (Люблін, 21-23. 10. 2012) удалося ўключыць В. Акудовіча ў склад беларускай дэлегацыі ("*Адной з маіх функцый было якраз-такі раіць беларускіх удзельнікаў. Я вельмі задаволены, што да кангрэсу даехаў Акудовіч..."* – з інтэрв'ю "Радыё Свабода"). Але ж што можна гаварыць пра сябе гораду і свету, калі ты прыехаў на міжнародны круглы стол са сваёй труной у партфелі?

Атрымліваецца нейкі абсурд: палякі ладзяць тут кангрэс культуролагаў, вучаць беларускіх студэнтаў па "Праграме Каліноўскага", а беларускі дэлегат сп.

---

[4] *"Мои отец, дед и прадед были минчане, а мой род, принадлежавший до 1831 года к служилому сословию, существует не менее 300 лет (документальное свидетельство тому – грамота императрицы Екатерины II от 11 апреля 1785 года, подтверждающая шляхетское достоинство моего предка Николая Тараса). Долгое время они пользовались польским языком, в XIX веке перешли на русский. Неужели я, минчанин в четвертом поколении, прямой потомок беларуской шляхты, буду обращать внимание на мнение вчерашней деревенщины..."* (Беларусь превыше всего. Изд. 2-е, с. 239. Смоленск, 2011).

Акудовіч у “Кодзе адсутнасці” называе Каліноўскага “аўтсайдэрам”, “беларускім патрыётам па разліку” (як Купалу і Багдановіча), выносіць неаспрэчны прысуд беларускай ідэнтычнасці і культуры. Тым не менш сп. Хадановіч какетліва раздае кампліменты інтэлектуальнаму дэмакратызму “незалежнага філёзафа”: *“Незалежны філосаф, эсэіст Валянцін Акудовіч – сам па сабе ўпрыгожанне любой дыскусіі ды пагроза для любой упэўненай у сабе сфармуляванай канчатковай думкі”* (з таго ж інтэрв’ю).

З якой “глыбіні” вырастаюць тэксты Валянціна Акудовіча?

## Пафас адмаўлення нацыянальнага праз вымыслены “код адсутнасці”

Кніжка “Код адсутнасці” – працяг пісанняў аўтара, які ўсё жыццё гуляе ў вербальныя перліны дэканструкцыі. Такое радаснае валоданне словам для стварэння парадаксальных постмадэрнісцкіх цацак. Гуляць з гэтымі цацкамі і захапляцца могуць хіба толькі людзі, якія абсалютна пазбаўленыя здольнасці сачыць за прычынна-выніковымі сувязямі ў выкладзе думак.

Вось Валянцін Акудовіч напісаў чарговае эсэ, запазычыўшы з сваіх “Дыялогаў з Богам” тэзіс пра хімеру нацыянальнага і Боскага. Нацыя, паводле В. Акудовіча, – “*феномен, які да сёння толькі апісаны, але не растлумачаны”* (с. 15). Трэба чакаць, што аўтар гэта нарэшце патлумачыць гораду і свету.

На жаль, высвятляецца, што і ў “Кодзе адсутнасці”, як і ў “Дыялогах з Богам”, аўтар блытаецца ў базавых панятках герменеўтыкі Старога Запавету і Евангелля. Ён не ведае базавых іўрыцкіх значэнняў тэрмінаў “бліжні” і “слова” (логас/давар), не разумее значэння дыхатаміі “эліны/юдэі” ў вуснах апостала Паўла з улікам тагачаснай юдэйскай традыцыі.

Крытыкуючы наяўнасць “трохкутніка” Бог-царква-чалавек, Валянцін Акудовіч паўтарае свае пасажы пра хімеру боскага, як і нацыянальнага ў “Кодзе адсутнасці”: *“...Для такога спосабу існавання не патрэбныя ні Францыск Скарына*[5]*, ні Леў Сапега, ні Сімяон Полацкі. Нават і Лазар Богша не патрэбны, бо ў дачыненнях паміж Богам і чалавекам дзве змацаваныя накрыж трэскі маюць аднолькавую каштоўнасць з крыжам Еўфрасінні Полацкай. А верагодна трэскі і нават большую...”* (с. 14).

“Код адсутнасці”, як і папярэднія эсэ пра Беларусь – пра адно: усё, што беларусы напісалі пра сябе ў гістарычным, сацыяльным, транцэндэнтным ды мастацкім вымярэннях – хімера, сімулякр, нонсэнс. Беларусі проста няма. Яна прыдумка купкі хваравітых розумаў. “Код адсутнасці” – своеасаблівы беларускі антыпод вядомай кнігі нямецкага аўтара Тыла Зарацына “*Самаліквідацыя Германіі”*[6] (пераклад назвы мой – *П.С.*). Аўтар нямецкага бестселера, адстойваючы правы немцаў на сваю адметную ідэнтычнасць, карыстаўся аналізам актуальнай гісторыі і статыстыкай, хоць і не заўсёды бясспрэчнай. Беларускі ж эсэіст любіць “дуктус пастулатаў”, што не патрабуюць доказаў. У эпілогу аўтар прызнаецца: *гэта кніга пра мяне*. Сапраўды, навошта тады доказы? Акудовіч проста, працуючы ўсё жыццё на ласкавым хлебе еўрапейскіх “постнацыянальных лібералаў”, стараецца як мага хутчэй завесці беларусаў, што не маюць выразнай нацыянальнай ідэнтычнасці, у “метэрніхаў сад” еўрапейскага постмадэрнага мыслення.

Сп. Акудовіч, аднак, не разумее нюансаў нямецкай палітыкі ў адносінах да

[5] У нямецкім тэксце і Багушэвіч мае імя “Францыск”, а прозвішча падаецца на расейскі манер – “Богушевіч” (гл. раздзел 15 “Franzysk Boguschewitsch und Adam Mickiewicz”).

[6] Thilo Sarrazin: *Deutschland schafft sich ab (2010)*. Кніга мае падзагаловак *“Як мы самі ставім на карту лёс сваёй краіны”* (аўтар піша пра страту немцамі сваёй ідэнтычнасці праз ісламізацыю краіны).

нацыянальнага ў так званую постнацыянальную эпоху. *Ведамства ў справах аховы канстытуцыі* думае і дзейнічае не так паліткарэктна, як выступаюць *парламентары* з трыбуны Бундэстага. За нямецкую мову немцам не трэба хваляваацца. Трэнас некаторых інтэлектуалаў пра "дэнгліш" – не ў разлік. А суседзі – далёкія і блізкія – няхай сабе паліткарэктна становяцца краінамі мігрантаў. Галоўнае: Германія – чэмпіён Еўропы паводле экспарту. Тут нацыянальныя эгаізмы і трыбунная паліткарэктнасць пра культурную інтэграцыю добра ўжываюцца. Сучасная нямецкая паліткарэктнасць як бы дзеля стрымлівання правага радыкалізму часам патрабуе дадатковага знешняга сілкавання. Тут Акудовіч разам з нямецкімі ліберагамі трапляе ў патрэбную нішу. Ён такі маленькі анты-сарацын з Беларусі, які кажа "*Беларусь сёння – гэта Францыя заўтра"*. Для гэтага, натуральна, ёй, як і Беларусі, трэба "пераадолець" старыя "нацыяналістычныя" тэксты, міфы, дэсакралізаваць апосталаў... Гэта, відавочна, імпануе нямецкаму прамоўтару і аўтару пасляслоўя Мартыну Поляку. Апошнія сказы пасляслоўя такія: "*...Дэмакратычныя сілы Беларусі не павінны закасцянела настойваць на этнакультурнай мадэлі ідэнтычнасці. Гэты выбар – пройдзены (Diese Option ist passй). Беларусь будзе нармальнай еўрапейскай краінай".*

У такіх выпадках бывае карысна прасачыць жыццёвы шлях і сацыяльна-герменеўтычны партрэт асобы. Цікава, чаму "сучасны немец" Мартын Поляк думае зусім інакш, чым цяперашні міністр фінансаў кансерватыўны немец Вольфганг Шойбле з ХДС? Ці не цісчуць на сп. Поляка якія-небудзь уласныя рэсентыменты?

Пішучы кнігу "пра сябе", Валянцін Акудовіч усё ж-такі спрабуе перанесці сваё бачанне на больш шырокае кола суб'ектаў. Аднак, цяжка быць пераканаўчым, нічога не дэманструючы чытачу, акрамя постмадэрнісцкай рамкі а ля Джойс, абстаўленай сваімі апрыёрнымі пастулатамі. Гэта добра відно, калі па-лінгвістычнаму назіраеш за нематываванай варыятыўнасцю аднаго з галоўных членаў сказа, – дзейніка – што ўплывае на "лагічны прэдыкат" выказвання ў тэкстах В. Акудовіча.

Перманентнае непастаянства семантычных пасылаў і занадта эсэічная змена настрою прымушаюць Акудовіча, гаворачы фактычна ад сваёй асобы пра беларусаў, ужываць займеннікі "мы", "я", "яны" або карыстацца безасабовымі ці абагульняльна-асабовымі сказамі (адпавядае нямецкім канструкцыям з безасабовым займеннікам "man"). Сустракаецца нават спалучэнне *"мы **і** беларусы"*! *"Мы б маглі прымірыць беларусаў **і** (!! – П.С.) саміх сябе з рэчаіснасцю"* (с. 143). Ужо зусім незразумела, хто ёсць хто. Да таго ж, Валянцін Акудовіч блытаецца ў сваіх палітычных і эмацыянальных прызнаннях: як ён адчуваў нешта раней, а потым памяняўся. То ён ненавідзеў уладу, то захапляўся апазіцыяй, то пост фактум асэнсаваў фатальнасць сваіх аблудаў. Пачытайце такі сказ (с. 107): *"Мы ўсе, хто быў заангажаваны справай беларускай нацыі, мелі "аферу"* (па-нямецку таксама ў двукоссі *"eine Affäre"*, што надае слову адмоўную канатацыю – *П.С.*) *з Пазняком"*. Тут жа далей: *"Хаця я сам не быў нават асабіста знаёмы з Пазняком, мела месца тое, што належыць да аферы: першае захапленне, сляпая закаханасць, нянавісць, здрада..."* Нічога не скажаш – поўны набор складнікаў для таго, што я назваў рэсентыментамі. Толькі незразумела, хто каму здрадзіў і за што ўзненавідзеў...

Найлепшым шляхам для камфортнай дзейнасці і мастацкім прыёмам, які дазваляе прыгожа і як бы па-навуковаму сублімаваць ўласныя рэсентыменты, аўтар выбірае прыём так званай "партызанкі" (паводле аўтара, міфу пра беларускі партызанскі рух), якая дазваляе заставацца лаяльным да існага рэжыму і захоўваць арэол апазіцыянера для сваіх еўрапейскіх контрагентаў. У тэорыі гэта сфармулявана так: *"У сітуацыі астракізму дзяржаўным дыскурсам... было вельмі істотна стварыць "паляну" дзеля вольнай, незалежнай ад палітычных дамінацыяў і кананізаваных эстэтычных тэндэнцый творчасці... Галоўная праблема, куды хавацца*

*й на каго паляваць, каб заставацца спраўным партызанам... Гэта – гульня ў хованкі ад прыўладнага дыскурсу...* (З інтэрв'ю часопісу “pARTizan”, №20, 2012 г.).

Думаецца, што дарма хваляваўся сп. Акудовіч. Не трэба яму было хавацца ні ў якую партызанскую бульбу. Не трэба яму баяцца. Любы вораг беларушчыны і прыхільнік чыста “грамадзянскай дзяржавы” толькі будзе пляскаць у ладкі, прачытаўшы сучасную экзістэнцыяльную максіму эсэіста і “культавага філёзафа”.

Канчаткова развітваючыся з нацыянальным, Акудовіч асланяецца Філіпам Брэтонам і піша пра глабалізацыю ды выбух камунікацыі як пра фатальную непазбежнасць і прычыну асабістай мутацыі, што нават не саромеецца пісаць пра страту сваіх “прымардыяльных” сувязяў: пачуцця дому, родных, маральных максімаў: “*Раней чалавек жыў у каардынатах быцця як ва ўніверсальным кантэксце з транцэндэнтнай перспектывай... Цяпер ніхто не жыве выключна дома, на роднай зямлі, на сваёй Радзіме. Што значаць паняткі “радзіма” і “чужына”, “далёка” і “блізка”, калі я бачыў Лэдзі Дзі перад ейнай смерцю часцей, чым маю родную сястру, ...што значаць для мяне словы “радзіма” і “чужына”, калі замежныя фонды, якія пра мяне нічога да гэтага не ведалі, даюць мне больш грошай, чым мае бацькі...”* (с. 148 нямецкага тэксту). І далей на с. 149: *“Бясшумны выбух разарваў чалавека і раскідаў яго па ўсіх кутках свету...”*

Так аўтар кажа пра ўсіх і перш за ўсё пра сябе: *гэта кніга пра мяне*. Ён не падае ўжо тут сябе як трагічную фігуру, – новага нацыяналіста без нацыянальнага. Тут ён ужо адыходзіць ад элегічнай скрухі, прадыктаванай “непазбежнасцю”, пра што пісаў раней, гадоў 10 таму, у эсэ “Вялікая здрада”: *“Беларус “свядомы” – асоба трагічная... Але з чаго яшчэ, як не з духу высокай трагедыі, можа паўстаць воля да супраціву свайму немілажальнаму кону?”* (беларускі арыгінал “Коду адсутнасці”). Або вось гэта: *“Міне яшчэ колькі часу, і пад беларускім нацыяналізмам пачнуць разумець зусім не тое, што разумеюць сёння. У ім мала застанецца ўласна беларушчыны, але затое гэта будзе **ўся** Беларусь (*выдзелена Валянцінам Акудовічам – *П.С.). І ў той Беларусі аб'явіцца процьма беларускіх нацыяналістаў, якім не да галавы будзе*[7] *ні беларуская мова, ні нацыянальная культура... Так яно станецца. Ужо ж напэўна.* ***Адно не пытайцеся мяне, ці добра гэта?”*** (выдзелена мною – *П.С.*). Цытацыя паводле часопіса “Дзеяслоў”, 2003 г. Суплёт эсэ “Вялікая здрада”.

Але гэта было раней. Цяпер Акудовічу ўжо добра на глабалізаваным скразняку. Ён стаміўся ад нацыянальных культурных і палітычных “праектаў”: “...*У эпоху «смерці» нацыянальных праектаў (перадусім палітычных) тэарэтыкі мастацтва нават прытаміліся даводзіць, што нацыянальная культура (любая) мала чаго вартая.* (З інтэрв'ю часопісу “pARTisan”). І далей пра гэта ж з рэфлексам у мінуўшчыну: “...*Сённяшнія беларускія нацыяналісты ўваскрашаюць «хімеры мінуўшчыны», па-некрафільску прыцягваюць за вушы ды ідэялагізуюць мерцвякоў мінулага (*с. 11 нямецкага перакладу). *Усё ў ім (*адраджэнні – *П.С.) было спрэс незнаёмае і нясвойскае. Вакол нейкія Альгерды, Вітаўты, Сапегі, нейкае ВКЛ, БНР, СБМ і безліч няўцямнага іншага...* (з часопіса “Дзеяслоў”).

Падсумаванне гучыць так: “*Адраджэнне сталася своеасаблівым інтэлектуальным генацыдам* (?! – *П.С.*) *тагачаснага беларускага грамадства” (“Дзеяслоў”. Суплёт эсэ. “Вялікая здрада”. №№11-12).*

---

[7] У нямецкім перакладзе замоцнена негатыўная форма – mit jemandem nichts am Hut haben (катэгарычна адмяжоўвацца ад чаго-небудзь ці каго-небудзь). Увогуле пераклад зроблены вельмі добра. З грубых недакладнасцяў заўважыў толькі адну: слова “нефармалы” (80-х гадоў) перакладаюцца нямецкім словам «нелегалы» (die Illegalen), што не адпавядае сэнсу той рэаліі. Тэрмін “нефармалы” ўзнік як калька з ангельскай мовы: informal – неафіцыйны, ўзніклы ў грамадзянскай супольнасці.

Як памяняўся час, людзі і мера сумленнага быцця! А некалі ж традыцыйны, памяркоўны нацыяналіст Рыгор Барадулін даваў рэцэпт пазбежнасці трагічнага: "*Трэба дома бываць часцей..., каб не страціць святое штосьці...*"

Як ужо ўзгадвалася раней, для Акудовіча зараз "*галоўная праблема, куды хавацца й на каго паляваць, каб заставацца спраўным партызанам...*"

На каго ж ён палюе? Паляванне пачынаецца здалёку, з сярэднявечча.

## Пра гістарычны кантыніум і гістарычныя разрывы

У раздзеле *"Расейская імперыя – калыска беларускай нацыі"* (стар. 38-42) Валянцін Акудовіч катэгарычна не прымае ідэю гістарычнай "пераемнасці" ў сталенні беларускай нацыі і будуе пастулат пра тое, што *"пасля канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. той працэс этнагенэзу, які складаўся ў палітычных, эканамічных, рэлігійных і культурных інстытуцыях пачынаючы з 13 стагоддзя, канчаткова згінуў... І толькі ў Расейскай імперыі беларускі этнас выспеў да нацыі... Пакуль у нашую мясцовасць прыйшлі расейцы, мы ўжо былі каланізаваныя палякамі. Таму пасля падзелу Рэчы Паспалітай не пачалася русіфікацыя ВКЛ і літвінаў. Больш таго, расейская экспансія вызваліла ВКЛ і літвінаў-беларутэнаў ад польскай каланізацыі" (с. 40-41).* Чым не заходнерусізм?

Ніхто ж не сцвярджае, што "выспяванне" нашага этнасу да нацыяпадобнага стану адбылося яшчэ да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай. Аднак далей назіраем дзіўнаватую логіку: чаму гаворыцца пра ВКЛ ***і*** літвінаў? Хто такія літвіны паводле Акудовіча[8]? Чаму нельга русіфікаваць паланізаваныя групы грамадства (калі гэта і мела месца)? І няўжо сп. Акудовіч не знаёмы з гістарычнымі фактамі русіфікацыі "Паўночна-Заходняга краю"? Ёсць жа статыстыка і сведчанні сучаснікаў. Ну гэта, як бы сказаў паэт, – спрэчка славянаў паміж сабой.

Але ж як будзе ўспрымаць нямецкі (еўрапейскі) чытач "эўрыстычныя" адкрыцці Валянціна Акудовіча пра лінейнасць/перапыннасць і нованакіраванасць працэсу сталення этнасу – як маркеры ягонага знікнення ці працягу існавання? Што, носбіты той самай прымардыяльнасці (мова, звычаі, вопратка, традыцыйныя гаспадарчыя заняткі і г. д.) імгненна мяняюцца пры змене ўлады? Якія зігзагі гісторыі перажылі германцы, пакуль з іх улоння не вылупіліся немцы! А сённяшнія брытанцы? Колькі "разрываў", "уплываў", "зменаў курсу" яны перажылі? Рымляне, вікінгі, нарманы... Еўрапейскія ж нацыі "выспелі" толькі да пачатку 20-га стагоддзя. Аўтар нямецкага гімну *"Германія – перадусім"* А. Г. Гофман фон Фалерслебэн яшчэ ў 1841 г. заклікаў нямецкія землі да адзінства. Бо не было тады яшчэ адзінай Германіі, нават пасля напалеонаўскіх "кантынентальных" перадзелаў. Былі Саксонія, Баварыя, Брандэнбург і да т. п. Немцы спрачаліся яшчэ пра "малую" і "вялікую" Германію: з Аўстрыяй ці без? Пад Прусіяй ці не?

Жыхары Вялікабрытаніі шануюць як "першаангліччанку" жанчыну, якую звалі Баўдыка (Boudicca). Пасля смерці мужа, што быў у хаўрусе з рымлянамі, яна ўзначаліла кельцкае племя іцэнаў, адважна змагалася супраць прыхадняў, помсцячы ім за здзекі са сваіх дзвюх дачок і супляменнікаў, прададзеных у рабства. У адной з бітваў, адчуваючы немінучую паразу і не жадаючы здавацца ў палон, прыняла атруту з чорнага ваўчка (балігалова). Здарылася гэта, паводле падання, на пачатку 60-х гадоў пасля Н. Х.

---

[8] Нямецкі пераклад зроблены з расейскага тэксту самога аўтара. Аўтар не размяжоўвае саманазвы энтасаў і апелятывы, ужываныя суседзямі, таму ў перакладзе назіраецца блытаніна з адпаведнікамі *русіны, рутэны, вайсрутэны, літвіны, беларусы, беларусіны.* А між тым нават у вуснай расейскай народнай традыцыі праз моўную характарыстыку адлюстроўваецца дакладна арэал ужывання слова "літвін": *"Литвин умрет, но дзекнет"* (В. Даль. Пословицы русского народа, в 2-х томах., 1984 г.). Ні летувісы, ні палякі, ні ўкраінцы не дзекаюць.

Падобным чынам немцы лічаць легендарнага Германа (паводле рымскіх гісторыкаў – Армінія), вайскаводу германскага племені херускаў, “першым змагарным немцам”, які, будучы ўзятым маладым у палон рымлянамі, авалодаў вайсковым майстэрствам, ваяваў на баку рымлянаў, атрымаў рымскае грамадзянства, як манкурт, біў сваіх, а потым у адным з паходаў перабег на бок германскіх плямёнаў, якія нанеслі цяжкую паразу рымскім легіёнам на чале з Публіем Квінтыліем Варам (Varus) у так званым Тойтэбурскім лесе. Адбылася гэтая бітва (у немцаў – Varusschlacht) у 9-м годзе пасля Н. Х. Не было тады яшчэ ніякіх немцаў. Былі толькі германцы-варвары. Аднак у эпоху рамантычнага нацыятварэння, асабліва перад франка-прускай вайной у 70-я гг. XIX ст. з’явіліся каля г. Дэтмольд помнік Герману, манумент на 54 м вышынёй і прысвечаныя яму дзясяткі гераічных паэмаў, операў і карцінаў. Тады не ведалі, дзе дакладна той “лес”, бо раскопак яшчэ не праводзілі. І высока ўзняты сяміметровы меч Германа быў скіраваны не ў бок гістарычнага ворага, на Рым, а ў бок Парыжа... У 2009 г. у Нямеччыне выйшлі тры таўшчэзныя манаграфіі, прысвечаныя той бітве, разбудаваны сучасны мемарыяльны комплекс, які наведваюць тысячы школьнікаў, немцаў з усіх федэральных земляў ды замежных гасцей.

У Нямеччыне ёсць добрая кніжка “Немцы і іхнія міфы” (Герфрыд Мюнклер). Пасля ўз’яднання яна перавыдавалася некалькі разоў. Пра што гэтая кніга? Пра нібелунгаў, Барбаросу, Германа-херуска, Рэйн, кайзера Вільгельма, Фаўста, Луізу і жалезны крыж... Калі тое было... Нават “своечасова” ўладкаваная нацыя шануе свае старыя міты, якія раздзяляюцца “разрывамі” з сучаснасцю памерам у стагоддзі, бо нацыя хоча з аптымізмам глядзець у будучыню.

Томас Джэферсан, трэці амерыканскі прэзідэнт (1743-1826), прапаноўваў змясціць на дзяржаўны сцяг ЗША выявы легендарных кіраўнікоў першых саксонцаў Хенгіста (Hengist) і Хорсы (Horsa), што высадзіліся на Альбіён паводле легенды ў 304 годзе пасля Н. Х. Джэферсан лічыў сябе і сваіх паплечнікаў нашчадкамі тых гераічных англасаксаў.

Швейцарцы лічаць пачаткам сваёй нацыі легендарную клятву прадстаўнікоў трох камунаў (Уры, Швіц і Унтэрвальдэн) на лузе Рутлі (Rüttli-Schwur) каля Фірвальдштэцкага возера у 1291 годзе. Гэта легенда 15 стагоддзя. Тут спрацоўвае гісторыя месца. Дакладна невядома, хто былі тыя клятвадаўцы пра ўзаемны хаўрус дзеля адзінства барацьбы супраць “злых габсбурскіх намеснікаў”. Адно паданне кажа, што гэта былі мудрыя старцы, другое – што палымяныя маладзёны, трэцяе – што сярод тых трох была адна жанчына. Некаторыя гісторыкі ідэнтыфікуюць гэтых герояў з канкрэтнымі асобамі: Вернэр Штаўффахэр, Вальтэр Фюрст, Арнольд фон Мэльхьталь (або Вільгельм Тэль з гэтай жа камуны).

Спіс народаў і легендаў можна доўжыць і доўжыць. Палякі ўзгадваюць пра свайго легендарнага Леха, іракцы шукаюць сваіх продкаў сярод старажытных бабілонцаў, венгры – у гунаў, французы – у галаў, румыны – у дакаў, туркі – у шумераў і хетаў...

А куды ж нам падзець сярэднявечнага Скарыну, які раіў нам браць прыклад са звяроў, птушак, пчол ды рыбаў, якія ведаюць свае логавы, гнёзды, віры ды бароняць вулляў сваіх і да тых месцаў вялікую ласку маюць?.. Ён жа жыў да падзелу Рэчы Паспалітай.

А каму аддаць канцлера ВКЛ Льва Сапегу, які, прэзентуючы Статут 1588 года, звяртаўся да ўсіх станаў гаспадарства, заклікаў да годнага ведання правоў, “*пісаных не чужой якойсьці моваю, а сваёй уласнай...”?* Было гэта таксама да падзелу Рэчы Паспалітай, – у 1588 годзе.

А хто гэта ў складзе 22-х харугваў хадзіў з нашых мястэчкаў на Грунвальдскае поле? Гэта ж было да 1795 года... Хто біўся пад Воршай? Пытанні можна доўжыць. Куды гэта ўсё падзець?

## Каліноўскі, Купала, Багдановіч, Быкаў – лузеры і правінцыйныя апосталы

Хвароба на гібрыс[9], як гэта ні парадаксальна, – нярэдкі складнік псіхікі рознага кшталту канвертыдаў ды неафітаў, што змагаюцца з сваімі дэманамі і рэсентыментамі. Яны раз-пораз як бы *a propos* ставяць сябе побач з вялікімі асобамі. Найбольш апантаныя адчуваннем свайго актуальнага паклікання ідуць далей – зрынаюць з п'едэсталаў класікаў і куміраў.

Дзеля сцверджання постмадэрнісцкага пастулату адсутнасці Беларусі і беларусаў у еўрапейскай гісторыі Валянцін Акудовіч катэгарычна разбурае "міталягічны кантыніум", што пабудавалі неразумныя нацыяналісты. Ён аб'яўляе пачынальнікаў нашага адраджэння няўдачнікамі, якія паводле простага разліку сталі на бок "тутэйшых", бо не адчувалі ў сабе моцы і таленту змагацца за сваю экзістэнцыю ў польскай ці расейскай прасторы.

Для лепшага разумення фрэйдысцкіх рэсентыментаў Валянціна Акудовіча пачнем з хваравітай вівісекцыі больш блізкай гістарычнай асобы – Васіля Быкава. Раўнуючы сябе, як пісьменніка, з Васілём Быкавым паводле адносін да нацыянальнага (*РС, дыскусія "Пісьменнік і ўлада", 2012 г.*), Валянцін Акудовіч сцвярджае: *"Я не баюся сказаць, што быў савецкім, стаў антысавецкім, а потым увогуле нацыяналістам. Быкаў — вялікі пісьменнік... Але навошта выскрабаць з яго тое, што было ягоным? Да перабудовы вы ў ім нічога і нікога не знойдзеце, акрамя савецкага чалавека, хай крытычнага да ўлады. А кім ён мог быць яшчэ, акрамя як савецкім? Дарэчы і беларус у Быкаве прачнуўся і сфарміраваўся вельмі позна, я не кажу нават нацыяналіст, а проста беларус"*

У раздзеле "Паўстанне аўтсайдэраў" (с. 46-47) чытаем пра спробы беларусаў як "іншых" уладкавацца ў спарудзе расейскай дзяржавы. Тут аўтар узгадвае Фадзея Булгарына як рэдкага лаўца кар'ерных шанцаў. Аднак агульны прысуд гучыць так: *"У звычайны спакойны час няўдачнікі моўчкі прымаюць свой лёс. Але ў час крызісу яны выходзяць на гістарычную сцэну. На пачатку беларускага нацыянальнага руху стаялі такім чынам людзі, якія засталіся ў інстытуцыях іншых нацыяў аўтсайдэрамі... У каго была магчымасць у Расейскай імперыі здзейсніць свае амбіцыі і адпаведна гэтым амбіцыям заняць адпаведнае месца сярод эліты, той не вяртаўся... Так, няздзейсненыя амбіцыі могуць быць названыя ўнутраным чыннікам, які падштурхнуў Кастуся Каліноўскага разыграць "беларускую карту" ў польскім паўстанні 1863 года. Перад гэтым яму не ўдалося нават за межамі цэнтраў* (відаць, маецца на ўвазе "цэнтраў кіраўніцтва паўстаннем" – *П.С.) падняцца да ўзроўню кіраўніка паўстання. Праз такія ж прычыны Булак-Балаховіч далучаўся да барацьбы за БНР, а Янка Купала і Максім Багдановіч пакінулі спробы пісаць адпаведна польскія і расейскія вершы..."*

Прачытаў я нямецкі тэкст і не мог паверыць, што такое можна не тое што напісаць, але нават падумаць... Пакінем Булак-Балаховіча: пад якімі сцягамі ён толькі не стаяў. Але як можна думаць пра нейкі халодны разлік Каліноўскага, чытаючы ягоную "Мужыцкую праўду" і ведаючы ягоны лёс, або пра паэта, які пад дыктоўку неба напісаў па-беларуску радкі: "*Ды што мне цемень вечнай ночы, калісь глядзеў на сонца я..."?*

## Логіка, сэнс, дасведчанасць

Жанр эсэ, які вельмі папулярны цяпер сярод так званага незалежнага супольніцтва беларускіх інтэлектуалаў, небяспечны тым, што ў ім, як правіла,

[9] Ст.-грэц. – самаўзвышэнне, спаборніцтва з багамі; тут ужыта ў пераносным сэнсе.

адсутнічае сапраўдная рэдактура, якая б хаця сачыла за этыкай, логікай і прычынна-выніковымі сувязямі выказванняў. Калі аўтар, напрыклад, даючы фенаменалагічную характарыстыку нашага народа, піша: *"Беларусы або працуюць, або п'юць гарэлку. Яны не ўмеюць радавацца, проста адпачываць..."*, то як быць рэдактару тэксту? Не ўмешвацца? Калі зводзіць функцыю рэдактара да абавязкаў простага карэктара, тады так... Але ж што з гэтага атрымаецца? Вось пасля акупацыі Варшавы ў час Другой сусветнай вайны немцы выпусцілі "дакументальны" фільм "Der ewige Jude", дзе дэманструюцца кадры побыту ў яўрэйскіх сем'ях: дзеці ядуць з бруднага посуду, па ежы поўзаюць мухі, жанчына з ідыёцкім выразам твару цягне за галаву гусь праз дзірку з забітай рэйкамі скрынкі, перад прыходам падаткавага агента гаспадары загортваюць у анучы смажанае мяса, каб паказаць сваю беднасць, вымазваюць твары дзяцей у бруд... Што – гэта таксама не трэба рэдагаваць?

Зразумела, што Акудовіч і нацысты з розных прычынаў малююць несімпатычны стэрэатып падразглядных аб'ектаў: нацысты – яўрэяў, Акудовіч – свайго ўласнага народа. Нацысты робяць гэта з мэтай паказаць "прадстаўнікоў злачыннай расы", якая падлягае вынішчэнню, што выцякае з іх чалавеканенавісніцкай дактрыны. Валянцін Акудовіч – аўтар арыгінальнага жанру – своеасаблівай "філасофскай паэзіі" з бязмежнымі метафарамі і правакацыйнымі рытарычнымі фігурамі, што не падпадаюць пад апісальна-аргументатыўны выклад. Гэты жанр – вынік банальнага жаданння быць арыгінальным і заўважаным. Эстэтыка і этыка такога прыніжальна-агіднага "мастацтва" выцякае ў сваю чаргу з адсутнасці ўжо ўзгадванай раней "прымардыяльнай прышчэпкі" і рэліктаў усё той жа "саўковасці" і нізкай культуры ("паэтычныя" апанеты – "сабакі ў будцы", "круцяць галовамі, як аслепленыя совы"...). Але ж ад гэтага беларускаму "рэцыпіенту" не лягчэй.

Так што такія тэксты – пры самым ліберальным падыходзе – павінны рэдагавацца. Задача рэдактара, акрамя ўсяго іншага, – падтрымліваць этычны ўзровень разважанняў і дыскусій.

Апошнім часам у нас нярэдка выходзяць кніжкі з падтрымкай замежных спонсараў, якія не вельмі кантралююць якасць канцавога прадукту. Тутэйшыя рэцэнзенты, не заўсёды падрыхтаваныя, за сціплую плату, па-сяброўску адпрацоўваюць пункт бізнес-плану. Гэта тут у нас – амаль як правіла. Нават еўрапейскія выдавецтвы, што атрымліваюць сродкі на падтрымку ўсходніх праектаў, не вельмі хвалююцца за сваё рэнамэ, выдаючы часта ў перакладах даволі блытаныя тэксты аўтараў з абшараў былога СССР. Тут не йдзецца аб вялікім прыбытку. Выдавецтвы гарантаваныя, што яны "адаб'юць" свае затраты хай сабе і з невялікім прыбыткам. Спрацоўвае элемент рэкламы для выдавецтва, якое, напрыклад выконвае заказ Еўрапарламента, партыйнага фонда ці яшчэ якой паважанай арганізацыі. Рэч у тым, што значная частка перакладных кніг проста застаецца нерэалізаванай без дадатковых высілкаў дабрачынных прамоўтараў. На рэкламу перакладных твораў, напрыклад, у нямецкіх праектах да апошняга часу спецыяльных сродкаў не прадугледжвалася. Асабліва гэта тычыцца выданняў сацыяльна-палітычнай тэматыкі, нават перакладаў з расейскай мовы.

У выніку часта вельмі актыўнымі "валадарамі думак" на нашых тэрэнах, на жаль, аказваюцца асобы, што не прайшлі нават сціплай школы кшталту савецкай аспірантуры: блытаюць палітыку, навуку, мараль, уласныя рэсентыменты, мастацкую творчасць і г. д. А між тым вядома, што навука даследуе стан рэчаў праз статыстыку і эксперыменты, мараль мае сваім прадметам адказ на пытанне, як грамадства мае быць уладкавана найлепшым чынам, мастацкая творчасць традыцыйна пазбягае чалавеканенавісніцтва і агіднасці, сцвярджае самапераўзыходжанне, а не самаўзвышэнне... У эпоху інтэрнэта ўвогуле з'явіліся дэманы віртуальнай прасторы, якія сцвярджаюць сябе паводле законаў шоў-

бізнесу, што часта супадае з хваравітым эксгібіцыянізмам, – videor ergo sum. *Я існую, пакуль я бачны.*

Валянцін Акудовіч належыць да плеяды такіх нерэдагаваных самарэкламаваных "філёзафаў" і тэарэтыкаў мастацкай культуры, бо ўсе ягоныя тэкставыя прадукты ў асноўным выраслі на ласкавым хлебе спонсараў, што вельмі прыблізна ведаюць беларускую рэчаіснасць. Сп. Акудовіча часам як бы цытуюць ягоныя калегі па цэху, але рэдка хто сочыць за прычынна-выніковымі сувязямі выкладу думак і законамі "жанра".

## Пра "смяротны двубой паміж рэлігіяй і нацыяй" і нацыянальна-боскія хімеры

У рэлігійных і тэалагічных тэкстах, як вядома, біблійныя аповеды рацыяналізуюцца пры дапамозе сродкаў філасофскага логасу: еўрапейская хрысціянская тэалогія з'явілася пасля старажытнагрэцкай філасофіі. Феномен жа суадносін нацыі і рэлігіі ляжыць зусім у іншай парадыгме. Таму разважанні пра іх "смяротны двубой" нагадваюць шызафрэнічны дыягназ: прыкметы і матэрыял лагічнай канстатацыі прысутнічаюць, але яны цалкам "дэранжаваныя". Папросту кажучы, – у агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька. Чаму так?

Па-першае, трэба ведаць, што значыць евангелічны выраз пра новага чалавека, што будзе створаны паводле вобразу Бога, які не будзе ўвасабляць *ні эліна, ні юдэя.* Акудовіч разглядае гэта як вырак нацыянальнаму: хрысціянства прывядзе да знікнення этнасаў і нацый[10]. Пры гэтым ён блытае ўсё, што можна пераблытаць: пра новага чалавека гаворыць не Хрыстос, а апостал Павел у лісце да каласянаў, і гаворыць ён не пра грэх нацыяналізму, а пра адзінства ў веры паганцаў (неабрэзаных, элінаў, скіфаў) і габрэяў, рабоў і вольных, мужчынаў і жанчынаў[11]... Гэта тыповая аматарская мадэрнізацыя.

Што да агульнай метафары Валянціна Акудовіча пра *«смяротны двубой паміж Рэлігіяй і Нацыяй»,* то тут стылістыку трэба падбіраць пад гістарычны момант. Натуральна, у эпоху стварэння нацыяў, калі фармаваўся нацыянальны буржуазны рынак, або за асвечанымі манархіямі, дзе вернападданасць ставілася вышэй за канфесійную прыналежнасць (напрыклад, за часам Фрыдрыха II у Прусіі), узнікала непазбежная супярэчнасць. Рынак ламаў межы і канфесійна-рэлігійныя традыцыі, але царква была проста неабходная як светапоглядная аснова, каб ствараць дзяржаўны міф для ўладнага суверэна (дэмакратый новага часу тады яшчэ не было). Нават еўрапейскі папацэзарызм (адрозна ад расійскага цэзарапапізму) парадаксальна сведчыць пра адваротнае: дзяржавы ўзнікалі, быццам бы вылузваючыся з абдымкаў папскага дыктату, аднак завершанасць сваю як нацыянальныя ўтварэнні яны атрымалі не без дабратворнага ўплыву рэлігійнай кансалідаванасці. Тут, я б сказаў, назіраецца дыялектычная заканамернасць, калі адна з'ява дзейнічае ў двух кірунках.

Напрыклад, Лютэр, зрабіўшы пераклад Бібліі, стварыў нацыянальную мову, што нямала спрыяла сталенню нацыі. Разам з тым пратэстантызм, узаконіўшы права

---

[10] "А між іншым яшчэ за дзве тысячы гадоў да з'яўлення нацый Бог... сурова папярэдзіў будучых вернікаў, якія памкнуцца ўзяць на душу грэх нацыяналізму: «Няма ні эліна, ні юдзея...»" (цытуецца паводле беларускага тэксту "Коду адсутнасці", с. 21).

[11] Поўная цытата (Каласянам, 3: 8-11): *"А зараз вы адкладзяце ўсё гэта: гнеў, лютасць, агавор, ліхаслоўе, з вуснаў вашых; не хлусіце адно аднаму, бо вы распранулі старога чалавека з дзеямі ягонымі і, апрануўшыся ў новага, абноўленага ў пазнанні паводле вобраза Творцы, дзе няма ні Эліна, ні Юдэя, ні абразання, ні крайняй плоці, ні барбара, ні Скіфа, ні раба, ні вольнага, дзе ўсё і ва ўсім ёсць Хрыстос".* (Пераклад мой паводле "Bibel in gerechter Sprache").

дзяржавы кантраляваць царкву, нямала спрычыніўся да ўзнікнення рэлігійных войнаў, якія зрабілі Германію «запозненай нацыяй». Бісмаркаўскі «культуркампф» супраць палітычнага каталіцызму, які фармальна таксама можна разглядаць як тормаз для ўтварэння нацыі, паспрыяў стварэнню сённяшняй Германіі, вольнай ад пагрозы сепаратызму, якая адчуваецца ў некаторых «своечасовых» нацыях, што асаблівага «двубою» не зведалі.

Можна, вядома, сказаць, ідучы ўслед за тэзісам Акудовіча, што плата за кансалідаваную нацыю ў той жа Германіі ці Францыі – секулярызаванае грамадства. Аднак хто ведае, якую форму будзе мець «рэлігійнасць» у будучыні?

## “Нацыянальная і сацыяльная дзяржава несумяшчальныя...”

Працытуем яшчэ раз цытаванае раней з перакладнога тэксту (с. 159): “*І колькі я ні ламаў галаву, я ўвесь час прыходзіў да адной высновы: “Нацыянальная дзяржава і “сацыяльная” дзяржава – несумяшчальныя. І з гэтага вынікала, што “свядомым” нічога не заставалася, як кожнаму дажываць свой век у сваёй уласнай сабачай будцы, пакуль усе да аднаго не вымруць...*” Эўрыка!

Не трэба ламаць галаву. Не можа ж быць несацыяльнай дзяржавы! Так, як не можа быць “дзяржаўнай дзяржавы” без нацыянальных (state = nation) эгаізмаў. Ніхто ж не спрачаецца, што самы просты тавараабмен і гандаль ужо ламае нацыянальныя бар’еры, сутыкае людзей розных поглядаў, змяняе свет... Здаецца ж Маркс пісаў, што перш чым думаць, пісаць, будаваць дактрыны, чалавек павінен паесці, пакрыць сваё цела вопраткай, пабудаваць жытло. Так бы мовіць – штодзённасць вызначае свядомасць. Хто чытаў “Im Innenraum des Kapitals” Петэра Слётэрдайка (“Унутраная прастора капіталу”), той не мог не заўважыць апокрыф пра “Ляўдацыё англійскай шпільцы”, – “імперыяльны” тост, які нібыта прамовіў у 1778 г. у Глазга Адам Сміт, тагачасны галоўны кантралёр Шатландскай мытні, падчас застолля ў гонар брытанскага прэм’ера лорда Норта: “*Шчаслівым будзе свет, які аднойчы ператворыцца спрэс у кірмаш, – кірмаш, перапоўнены галасамі гандляроў і пакупнікоў! У тым шчаслівым свеце філосафы будуць атрымліваць загады ад вытворцаў шпілек, у якім накірунку ім трэба скіроўваць свае думкі...*” Гэтыя ж словы нельга ўспрымаць сур’ёзна як канчатковую перамогу матэрыі над духам. Гэта аптымістычны застольны жанр кшталту вядомага тоста Васіля Шаранговіча, колішняга рэктара нашай Мастацкай акадэміі: “*Дык вып’ем жа за нашых графікаў, – найлепшых не толькі ў свеце, але і ў сусвеце!*”

Але ж і па сённяшні дзень нават адзіная эканамічна развітая Еўропа, з даволі прыстойнай сацыяльнай сістэмай і “постнацыянальнай паліткарэктнасцю”, не развітваецца з “хімерамі нацыянальнага”. Я ўжо не кажу пра Каталонію ў Гішпаніі ці Фландрыю ў Бельгіі. Яшчэ да апошняга эканамічнага крызісу колішні міністр унутраных спраў, лідар фракцыі ХДС у Бундэстагу Вольфганг Шойбле (цяпер міністр фінансаў) на канферэнцыі “Інтэлектуалы і нацыянальнае пытанне” адзначыў: *“Для чалавечага існавання неабходны “слушны баланс” паміж індывідуальнымі магчымасцямі самавыяўлення і неабходнымі грамадскімі здольнасцямі, акрамя таго яшчэ повязямі з сям’ёй, вёскай, горадам, радзімай (Heimat) і Айчынай (Vaterland)... Для мяне застаецца бясспрэчнай – няхай гэта каму і падасца старамодным – ісціна, што суверэнітэт дзяржаваў абапіраецца на ўсё, што мацуе ў сэрцы чалавека пачуццё Айчыны... Ніхто дагэтуль не прыдумаў лепшых рамак, чым нацыянальная дзяржава, у якіх правы грамадзянаў могуць быць сфармуляваныя і гарантаваныя. Таму трэба перастаць шукаць нешта падазронае ў тым, што чалавек падкрэслівае сваю прыналежнасць да пэўнай нацыі... Пошук іншых эрзац-ідэнтычнасцяў ліе ваду на млын правых радыкалаў, што ловяць*

*пацукоў разладу. Агульнае пачуццё Еўропы пачынаецца якраз там, дзе Еўразвяз знаходзіць сілу, што закладзена ў асобных дзяржавах"*[12].

З часу таго выступу сп. Шойбле прайшло нямала гадоў. На гэтую тэму з пераменным поспехам выказваліся і прыхільнікі, і праціўнікі. Аднак апошні эканамічна-фінансавы крызіс, як напісаў "часопіс для сучаснага Еўрапейскага мыслення" CICERO (5-2012), *"разбудзіў побач з прывідамі нялепшых патрыятычных забабонаў і нацыянальных эгаізмаў сапраўды велізарныя магчымасці калектыўных высілкаў асобных дзяржаў, якія рабілі выбар паводле сваіх гістарычных ідэнтычнасцяў"*. Думаю, нямецкія сацыёлагі яшчэ зробяць аналіз гадоў крызісу: як традыцыйнае нямецкае самаўсведамленне дапамагло Германіі выстаяць і выйсці з эканамічнай пасткі з найменшымі стратамі. Варта падумаць пра гэта і пры ўважлівым аналізе перамогі нямецкіх кансерватараў (ХДС/ХСС) на апошніх выбарах у Бундэстаг.

## Апрыёрная прыдумка: "адраджэнцы-русафобы" 90-х гадоў

Вось захацелася Валянціну Акудовічу паспрачацца з прыдуманым ім жа самім лозунгам *"Толькі беларуская Беларусь"*, якога нібыта прытрымліваўся БНФ, і раскручваць далей свой сапраўдны сімулякр пра адраджэнцаў-русафобаў, – калі ласка. Ён не аналізуе ні праграмныя дакументы руху БНФ "Адраджэнне", ні праекты законаў па культуры і адукацыі, якія фракцыя БНФ распрацоўвала ў ВС, ні канцэпцыю моўнай палітыкі ў Беларусі, што была напісана актывістамі БНФ у Моўнай камісіі Фонду культуры. Акудовіч паўтарае стэрэатыпныя прапагандысцкія прыдумкі Лукашэнкі пра "чамадан-вакзал-Расія". Нешта падобнае гаварыла ў свой час Святлана Алексіевіч: "*Я помню, как Пазняк призывал белорусов уходить в леса, партизанить и пускать под откос поезда в знак протеста по поводу объединения с Россией. А у меня в России на Радио «Свобода» тогда по этому поводу спросили: «Что делают сейчас белорусы?» А я говорю: копают картошку и закручивают банки, а революция – только в голове у Пазняка»*. Але ж гэта – павярхоўнае агучванне стэрэатыпаў, якія ўзнікаюць з агульнага нядобразычлівага падыходу да феномена нацыянальнага, які можа праяўляцца ў асобных ягоных прыхільнікаў у выпадковых няўдалых выказваннях, метафарах, лозунгах. Нацыянальнае – вельмі датклівая дзялянка, дзе выпадковыя эмоцыі ці няўдала сказанае слова могуць часам выклікаць нязгоду ці нават варожасць апанента.

Крытыка Зянонам Пазняком агрэсіўнай палітыкі эканамічнага расейскага неалібералізму ў адносінах да Беларусі трактуецца сп. Акудовічам як антырасейскі нацыяналізм. Не хоча Валянцін Акудовіч ведаць, што сярод актывістаў БНФ былі прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў, што на гэта звярталася першачарговая ўвага. Не аналізуе Валянцін Акудовіч ні змест "Закону аб мовах" (вельмі памяркоўны, дзе расейская мова мела статус мовы міжнацыянальных зносінаў), ні яго практычную рэалізацыю на пачатку 90-х гадоў. Пішу гэта з поўнай адказнасцю, бо быў афіцыйнам членам групы экспертаў, што яшчэ ў савецкі час пісала праект "Закона аб мовах у БССР", старшынём Моўнай камісіі пры Фондзе культуры, выступаў у школах, збіраў подпісы бацькоў за адкрыццё беларускіх класаў. Мой подпіс стаяў першы ў лісце 250 прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, што пісалі зварот у ЦК КПСС ў канцы 80-х гадоў. Перад гэтым быў "ліст 25-ці", ініцыяваны Быкавым і Зянонам Пазняком. У абодвух лістах падкрэслівалася думка аб правах тытульнай нацыі і нацыянальных меншасцяў.

Не раз і не два Валянцін Акудовіч у публічных выступах вінаваціць беларускую

---

[12] Кароткі пераказ выступу можна знайсці ў архіве газеты "Bonner Stadtanzeiger" (26-27. 11. 1994 г.) у інтэрнеце пад рубрыкай "Прамова ў падтрымку нацыянальнай дзяржавы" на с. 4. або поўны тэкст праз Archivserver der Deutschen Nationalbibliothek.

дыяспару і БНФ за нібыта адступленне ад “збалансаванай” моўнай палітыкі БНР: там, маўляў, было аж чатыры дзяржаўныя мовы. Гэта так – чатыры. Але ж ён ці не ведае, ці не хоча ведаць пра пастанову, якая выйшла праз тыдзень пасля абвяшчэння Другой устаўной граматы. У пастанове канстатавалася, што з улікам абсалютнай “лічэбнай большасці” карэннага насельніцтва беларуская мова абвяшчаецца “пераважнай” у грамадскіх дачыненнях. Аб гэтым можна прачытаць у спецыяльным прэс-рэлізе, які захаваўся ў Архіве БНР.

У пытанні пабудовы “беларускай Беларусі” мы заўсёды падкрэслівалі, што з улікам усходняга суседства з ягоным як бы роднасным нам “культурным кодам”, дзе і па сённяшні дзень пануе “імперыяльная генетыка” дзяржаўнасці, пабудова сённяшняй суверэннай дэмакратычнай Беларусі без дзяржаўнага характару беларускай культуры і мовы немагчымая, як кажуць, паводле азначэння. У адрозненне, напрыклад, ад Рымскай імперыі, якая пакідала сваім васалам тэрмы і віадукі, але прымусова не “рымлянізавала” прысабечаныя тэрэны, а паступова сама растваралася ў розных там грэцыях, прымаючы іх культуру, расейская экспансія несла разам са штыхом расейскія буквары і сшыткі для чыстапісання. Расея як цывілізацыя не прымае напалеонаўска-дэголеўскі лозунг (цяпер ужо еўразвязаўскі) *Еўропа Айчынай*. Гэта не закладзена ў ейным “кодзе дзяржаўнасці”.

Як мовазнаўца я прачытваю гэта і ў асацыятыўна-семантычных моўных фігурах. *Лихой* парень Саша Белый з серыяла «Брыгада» гаворыць: “*Да, я не раз и не два преступал закон, но я построил два храма от фундамента до купола...*” Наш Леў Сапега, прэзентуючы Статут 1588 года, казаў: “Мы прымаем гэты закон, каб не было *ліхасці...*” Іван IV быў для маскоўцаў *грозным*, а для нас і еўрапейцаў – *жахлівым* (Iwan der *Schreckliche*, Ivan Le *Terrible)*. Маскоўскі «*преступник*» *пераступаў* закон, наш злачынца “*чыніў зло*” паводле разумення старога *звычаёвага* права. Масковія не магла стварыць *устойлівых звычаяў* на ўсіх прысабечаных землях, бо на працягу 150 гадоў у 16-17 стагоддзях штогод пашырала свае “пределы” на 35 000 кв. км., – тэрыторыю адной Галандыі. Гэта разлікі Арнольда Тойнбі.

## Пра яўрэяў і станаўленне беларускай нацыі

Пішучы “кнігу пра сябе”, як ужо адзначалася, у сваіх як бы гістарычных абагульненнях Валянцін Акудовіч не абцяжарвае сябе пошукамі адэкватнай статыстыкі ці хаця б спасылкамі на даследаванні папярэднікаў.

Развіваючы тэму запаволенага выспявання беларускай ідэнтычнасці ў гарадах, Валянцін Акудовіч узгадвае вядомы факт пра “яўрэйскасць” беларускіх гарадоў. Аднак абапіраецца выключна на свой асабісты досвед. Пры гэтым сам сабе пярэчыць да камізму: “*Калі я нарадзіўся, у Беларусі ўжо не было яўрэяў”* (с. 168). Перад гэтым, чатырма сказамі раней, глыбакадумна разважае: “*Як гэта магло стацца, што ў маім асабістым разуменні беларускай гісторыі яўрэі амаль не ўзгадваюцца... Чаму яны адсутнічаюць у маёй кнізе? Адказ вельмі просты: усе беларусы жылі ў вёсцы, а ўсе яўрэі жылі ў горадзе”*. Пішучы эсэ на побытавым узроўні, “філёзаф-эсэіст” карыстаецца стэрэатыпамі, што ўспрымаюцца на слых, але не адпавядаюць абсалютна вядомай статыстыцы. Так, ён катэгарычна сцвярджае: *у беларускіх вёсках яўрэі не жылі*. Не ўдаючыся ў падрабязнасці адрозненняў паміж яўрэйскімі адасобленымі паселішчамі-“штэдтэламі” і часткай вёсак, дзе яўрэі такі жылі, прывяду дакладныя лічбы статыстыкі. Паводле перапісу 1897 года, вынікі якога адлюстраваныя і ў “Дакументах і матэрыялах па гісторыі Беларусі” (т. 3, с. 215, 1953), *“большасць яўрэяў, якія валодалі моваю ідыш (56,4%), жылі ў вёсках і толькі 43,54% – у гарадах*”. Гэта сведчанне ўскоснае, але пераканаўчае: *у вёсках яўрэі жылі*.

Але ж хай бы сп. Акудовіч звярнуўся да разважанняў таго ж Карла Маркса

адносна гарадскога насельніцтва Еўропы ў перыяд фармавання этнасаў ды нацыянальнай буржуазіі. Там жа таксама было нямала яўрэяў. Тут не так усё чорна-бела. Рэч жа не ў простай статыстыцы, а ў нутраной гаспадарчай палітыцы. Узгадайце "Вялікую хартыю вольнасцяў" (арт 10-12, дзе закранаецца тэма пагашэння пазыкаў яўрэйскім ліхвярам) у Англіі, рэформы Кромвеля, палітыку Тарквемада ў Іспаніі, грамадзянскія рэформы Напалеона ў Францыі, царскія ўказы ў Расеі пра межы аселасці. Не так усё адназначна было ў беларускіх мястэчках з размеркаваннем уласнасці. Раіў бы аўтару пачытаць па-расейску ці на якой іншай мове, якой сп. Валянцін Акудовіч валодае, мемуары Ехезкеля Коціка, сучасніка Шолама Алейхема, пра жыццё яўрэяў у беларускіх мястэчках "Мои воспоминания", што выйшла ў Берліне ў 1922 годзе. Яна перакладзена на дзясяткі моваў. Або даследаванні ў часопісе OSTEUROPA пра гаспадарчае жыццё ў гарадах і мястэчках Беларусі ды Украіны. Тон жа задавалі царскія намеснікі, а не яўрэі-гаспадарнікі. Былі ў нашых мясцовых латыфундыстаў яшчэ з часу ВКЛ, як і ў Германіі, свае "прыдворныя яўрэі" (гоф-юдэн, або Hoffactoren), свае яўрэйскія беднякі, рамеснікі і да т. п.

Гаворачы пра яўрэяў, Валянцін Акудовіч яшчэ катэгарычна сцвярджае: габрэі і беларусы не кантактавалі на "культурным полі". На с. 168 чытаем метафарычны пастулат: *"Беларусы і яўрэі як бы (quasi) жылі побач 600 гадоў, але ніколі не сустракаліся... Я маю на ўвазе, што абедзве культуры, абодва народы не сустракаліся..."* Але ж на гэтую тэму ёсць вялікая бібліяграфія! Найбольш апошнім часам напісана за межамі Беларусі. У тым ліку і ў Нямеччыне. Можна было б параіць аўтару пачынаць з нарысаў Змітрака Бядулі "*Жыды*" (1915 г.), "*Жыды на Беларусі"* (1918 г., "Вольны шлях", пад псеўданімам Ясакар з эпіграфам з Р. Скірмунта "*Любіць свой народ не знача ненавідзець чужыя"*), *"Рукапіс чарнакніжніка XVIII веку"*("Вольны сцяг", 1921, 300 старонак на іўрыце, ідыш і беларускай мове: замовы, рэцэпты знахараў, малітвы).

Няхай бы Валянцін Акудовіч узяў у рукі сапраўдную энцыклапедыю-помнік беларуска-яўрэйскім культурным кантактам – "Ідыш-беларускі слоўнік" Аляксандра Астравуха (2008 г.) на 987 старонак ды пачытаў бы хаця б прадмову ў форме ўяўнага дыялога паміж Максютам Літвінам і Мошкам Літваком...

Як германіст і спецыяліст па фанетычнай інтэрферэнцыі пры моўных кантактах магу сцвярджаць пра засведчаны факт узаемапранікнення прасадычных прыкметаў нашых дзвюх моваў. Паслухайце беларускія інтанацыі і параўнайце іх з гаворкай старых яўрэяў. Хто ў каго запазычыў? Зрэшты, прыслухайцеся да нямецкай прасодыі, якую прынеслі на нашыя землі яўрэі-ашкеназі. А зазірніце ў бібліяграфію працаў, дзе даследуюцца запазычанні ў ідыш з беларускай і ў беларускую з ідыш. А беларуская анамастыка – гэта ж парад даўніх запазычанняў з біблійнага іўрыту ды ідыш! Або праанализуйце мэлас песні Ісака Любана "Бывайце здаровы, жывіце багата"... Ці не заўважыце вы ў ёй водгукі тыповых местачковых яўрэйскіх найгрышаў. Шкада, Акудовіч "*нарадзіўся, калі яўрэяў ужо не было"*. Я ж грэшны, яшчэ памятаю той час, як пісаў Рыгор Барадулін, *"калі ў рэках было багата рыбы, а ў мястэчках шмат яўрэяў"*. А самаіронія беларускіх пісьменнікаў! Ці ж яна не падобная на яўрэйскую? Ці наадварот? Каб чуць свет, мала мець вушы, трэба яшчэ мець сэрца... А хатнія рэцэпты беларускай кухні? Прыклады ды ўзгадкі можна доўжыць.

## Пра "плебейства" беларускай вёскі

Беларуская вёска з ейным "плебействам" і вечнай прыземленасцю, як галоўны тормаз сталення нацыянальнай ідэнтычнасці, далася ў знакі свіслацкаму хлопцу, што юнаком прайшоў школу маскоўскіх літаратурных курсаў і дэманстраваў на

радасць сваім бацькам і на зайздрасць сябрам сапраўдны акцэнт "шамкающих московских просвирен".

Як злы фатум беларускай гісторыі Валянцін Акудовіч разглядае сялянства, якое ніколі не цікавілася *"сімвалічнымі каштоўнасцямі кшталту свабоды",* а толькі думала пра чарку і скварку, і адпаведна гістарычна абумовіла выбар мадэлі беларускай дзяржавы як сялянскай нацыі, – "*сацыяльнай грамадзянскай дзяржавы*". *"Беларус або працуе, або п'е гарэлку*" (с. 161). Ён не ўмее і не хоча, паводле Акудовіча, радавацца, па-сапраўднаму адпачываць (на гэтай жа старонцы). Маналог Акудовіча на гэтую тэму ёсць нават у відэарэсурсах беларускага сеціва.

Адкуль жа тады мы ведаем "Жаніцьбу Цярэшкі", Купалле, вясельныя, жніўныя, калядныя, радзінныя песні (па-мойму, акрамя нас, іх ні ў кога няма), "Гуканне вясны", беларускія народныя і аўтарскія казкі (напр., Рэдкага), казкі палешукоў-беларусаў, запісаныя Сержпутоўскім і да т. п. Валянцін Акудовіч як бы часам успамінае пра гэта, але неяк паміж іншым, без радасці. Мусіць, гэта яму перашкаджае: не атрымліваецца "пустой прасторы". А "код адсутнасці" патрабуе...

Пра сялянства і фармаванне еўрапейскіх нацыяў напісаны манблан кніг і дысертацый. Нідзе сялянства не было носьбітам элітарных ідэй. Каралі, цары, князі з войскам ваявалі, шляхта выстаўляла харугвы, сяляне давалі фураж, хлеб, ішлі пешымі рэкрутамі, царква і адукаваная частка этнасу фармавалі ідэі. (Некаторыя даследчыкі, праўда, асобна выдзяляюць малыя горныя этнасы, дзе станавыя адрозненні нібыта былі менш заўважныя).

Нямецкая культурная антрапалогія адрознівае гістарычна эканамічнае становішча сялянства па "эльбенскай лініі": на ўсход ад Эльбы сяляне зведалі ў Новы час "другое прыгоннае права" ў адрозненне ад жыхароў сельскай мясцовасці на захад ад Эльбы, дзе хутчэй трэба гаварыць пра сялянства як пра стан, пазбаўлены абсалютна ўсіх прывілеяў, але якія не былі юрыдычна жорстка прывязаны да зямлі і, як наёмны падзёншчык або збанкрутаваны арандатар, запаўнялі шэрагі так званага "міжсялянскага насельніцтва" (unterbäuerliche Bevölkerung)[13], што натуральна вяло да ўзмацнення цыркуляцыі насельніцтва паміж горадам і вёскай. Гэта ў значнай ступені спрыяла фармаванню падобных ідэнтычнасцяў і пачуцця "мы". Лёс беларускага сялянства пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай добра ўпісваецца ў гэтую нямецкую схему.

А што, больш паўночныя Нарвегія ці Літва былі гарадскімі нацыямі? Калі не памыляюся, у Коўне, вельмі літоўскім горадзе, жыло паводле перапісу 1897 года трохі больш, чым 6% летувісаў. Канечне, нават на малых суседніх тэрыторыях, напрыклад, у Балтыі, ёсць свае гістарычныя адрозненні. Так, нямецкія каланісты пабудавалі ў свой час у эстаў нешта накшталт нямецкіх "аграгарадкоў", але не перашкаджалі сталенню дробнага нацыянальнага бізнесу, што ў далейшым дабратворна адбілася на фармаванні нацыянальнай ідэнтычнасці ў сельскай мясцовасці. Пэўна, сацыялогія сяла не павінна быць містычнай, а больш канкрэтнай. Так, як гэта ў нас, напрыклад, робіць Андрэй Кіштымаў, даследуючы прамысловую вытворчасць у гарадах і мястэчках дарэвалюцыйнай Беларусі.

Акудовіч як бы паміж іншым адзначае, што пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай беларуская мова ў выглядзе мясцовых гаворак захоўвалася толькі ў вёсцы. Тут трэба гаварыць не толькі пра мову, але пра ўвесь комплекс этнанацыянальнай ментальнасці, з якой вось ужо больш за два стагоддзі з таго часу мы чэрпаем рэшткі беларушчыны. Мы падступаем да трывожнай мяжы. Тэарэтычная змена парадыгмы з мадэлі "моўнай дзяржавы" на "дзяржаўную

[13] Гл., напрыклад, Wolfgang Reinhard: Lebensformen Europas. Eine historische Kulturantropologie. C. H. Beck. München, 2004. с. 318.

дзяржаву" (нямецкія тэрміны Sprachstaat і Staatsstaat) у эпоху эканамічнага глабалізму і суседства з хворай неліберальнай эканамічнай імперыяй на Усходзе (як бы з "чытэльным" для нашых грамадзянаў культурным кодам) – смяротная небяспека для 9-мільённай краіны з нестабільнай сацыяльнай будовай. Трэба карэнным чынам мяняць падыход да "вясковай" тэмы ў гістарычнай парадыгме.

Нічога такога асаблівага і містычнага ў беларускай вёсцы няма, напрыклад, у параўнанні з украінскай ці расійскай. Канечне ж, памежжа адрозніваецца ад цэнтру. Тэрыторыі, што былі пад Польшчай – не такія, як усходнія, дзе рана пачалася калектывізацыя. Адносіны ў розных пакаленняў да прыватнай уласнасці розныя. Мясцовасці, што засяліліся імігрантамі пасля масавага прымусовага бежанства мясцовага насельніцтва ў час Першай сусветнай вайны, маюць свае адметнасці, – не на карысць беларускага этнасу. Гэта – частка нашай катастрофы. Выезд на адходніцтва па вярбоўцы пасля службы ў войску – яшчэ адзін удар па беларушчыне.

Тое ж могуць сказаць пра сябе і ўкраінцы. Толькі я нідзе не чытаў, што там сацыёлагі ды іншыя дзеячы ў галіне гуманістыкі "накладаюць пакуты" на сялянства, вінавацячы яго ўва ўсіх грахах. Гэта тое самае, што біць сабаку за тое, што ён пільнуе хату і брэша, а не абрастае салам і не нясе яек. Маленькі чалавек, што працаваў на зямлі, ў 18-19 стагоддзях пры бясконцай змене гаспадароў іншым быць не мог. Ці ж можна так фатальна-зняважліва гаварыць і пра беларускае сялянства, якое не па сваёй ахвоце зводзіла з цёплых хлявоў сваіх кароў і коней у халодныя абory калектывізацыі пры Саветах і ад'язджала траляваць галаруч лес у сібернай тайзе.

Нарэшце, не варта забывацца, што хутарская ды засцянковая свядомасць – гэта не так і блага. Расейскі акадэмік Дзмітрый Ліхачоў у сваіх нарысах "О русском", разважаючы пра "генетыку" расейскай дзяржаўнасці, са шкадаваннем пісаў пра "ясачную рэнту" і людзей з псіхалогіяй перакаці-поле, і заўважаў, што "*оседлость – это начало нравственности*". І наш Янка Купала пісаў: "*Не шукай ты шчасця-долі на чужым шырокім полі...*" Невядома, чым яшчэ адгукнецца пафас сусветнага братэрства. Даследаванні антрапагенетычных і генадэмаграфічных матэрыялаў нашымі вучонымі паказалі, што вёска стала захавальнікам і на генетычным узроўні нашых адметнасцяў і спадчыннай інфармацыі. А колькі войнаў і закалотаў з суседзямі зведаў наш край... Быў у гэтым нейкі касмічны сэнс: прырода ўтрымлівала этнас ад змяшання і страты свайго аблічча.

## "Хімера беларускай партызанкі"

Я не збіраюся грунтоўна разважаць пра партызанскі рух на Беларусі, хаця я даволі шмат прачытаў у савецкіх, постсавецкіх і нямецкіх крыніцах пра гэтую з'яву і маю свой асабісты сантымент на гэты конт: мой бацька загінуў у партызанах у апошнія дні вайны на нашай зямлі, – 3 чэрвеня 1944 г. У вёсцы Забораўна карнікі забілі і спалілі агнямётамі некалькі маіх блізкіх і далёкіх сваякоў разам з іншымі вяскоўцамі. Ведаю нямала рэгіянальных ды сямейных легендаў. Расповядаў пра партызанку мы наслухаліся розных: ад саміх партызанаў і пра партызанаў. Падчас блакады ў нашай хаце "стаялі" партызаны. Расказвалі рознае. Памятаю аповед пра расейскага палітрука, які думаў, што тоўстае сала – гэта мыла і гаварыў "*шьшяс*" і "*йішьшё*", як і колішні даваенны расеец-"фінагент", што апісаў у нас свінню за нядоімку, а пры немцах пайшоў служыць у паліцыю. Але ніхто, як кажуць, на побытавым узроўні не ўспрымаў расейскамоўнага палітрука ці шарагоўца як панскага прыганятага з "народнай" казкі. Надзвычайнасць становішча і лютаванні чужынцаў прыглушалі крыўды на савецкую ўладу. Людзі йшлі ў лясы не толькі на загады расейскамоўных камісараў.

У гэтым пункце постмадэрны “код адсутнасці” Акудовіча, мабыць, дасягае свайго апагею. Ён пераплюнуў нават свайго сімпатыка, самога Анатоля Тараса. Той у свой час пасля выхаду ў серыі “*Невядомая гісторыя*” кнігі Сяргея Захарэвіча *“Партизаны СССР. От мифа к реальности”* (дзе Тарас быў выдаўцом і навуковым рэдактарам), у адным з інтэрв’ю безапеляцыйна заявіў: “***Уся*** (?! – *П.С.*) *гісторыя партызанскага руху СССР – адзін вялікі міф”.*

Акудовіч задае сам сабе пытанне: *“Чаму раптам узнік збройны супраціў у апошнюю нямецкую акупацыю, а дагэтуль падчас ранейшых акупацый, у тым ліку і перадапошняй нямецкай дваццацігадовай даўніны, – яго не было?”* (с. 60). І тут жа дае чорна-белы безапеляцыйны адказ, які пасуе да ягонае схемы “коду адсутнасці”: “*Адказ відавочны: “Збройны супраціў беларусаў супраць акупацыі быў навязаны Расеяй...*” (с. 61). І далей: *“Тое, што для Расеі было Вялікай Айчыннай вайной, для нас было самазнішчэннем.”* (с. 62).

Ці не занадта? Хай бы хоць замест “Расея” напісаў “Савецкая імперыя” ці нешта накшталт. Немцы ж у гэтую другую вайну – **у адрозненне ад 1812 года ці 1914-1915 гг., дзе яшчэ паводле старых традыцый ваявалі арміі** – вялі татальную кампанію вынішчэння этнасаў і ідэалагічных ворагаў: бальшавікоў, камісараў, славянаў, яўрэяў, цыганоў. Калі мой бацька пайшоў у лес, ён больш помніў пра спаленую агнямётам стрыечную сястру ў Забораўне, чым пра арыштаванага і памерлага на лесараспрацоўках у Карэліі ў 1930 г. роднага брата Браніслава. Немцы пераступілі мяжу, якую адкрыта не пераступалі энкавэдысты. У Курапатах расстрэльвалі ноччу. Немцы палілі людзей удзень, пры яркім сонцы. Ды і крыўда ад свайго чалавека ці блізкага суседа не такая балючая, як ад далёкага незразумелага прыхадня. Тут ужо спрацоўвае інстынкт самазахавання. Пэўна, мой пакрыўджаны энкавэдыстамі бацька пайшоў не ў паліцыю, а ў партызаны не таму, што яго нехта туды гвалтам прывёў (з партызанаў можна было лёгка ўцячы і прыйсці ў нямецкую камендатуру), а таму, што ён не захацеў мяняць свае “прымардыяльныя” прывязанасці на часовыя матэрыяльныя даброты, якія яму маглі паабяцаць у нямецкай камендатуры: яшчэ адну карову, каня з калгаснай канюшні ці смалакурню, дзе некалі працаваў застрэлены немцамі Мойша Бахарэўскі.

Хто ж цяпер спрачаецца пра перабольшаную ў прапагандысцкіх мэтах статыстыку партызанскага збройнага супраціву ці пра тое, што нашыя вёскі, бывала, паліліся карнікамі пасля часам матываваных правакацыяў зусім не мясцовых партызанскіх камандзіраў? Усё гэта было. Але ж адрозненне паміж першай і другой нямецкай акупацыяй – *фенаменалагічнае*, што павінен быў бы разумець «філосаф» Акудовіч.

## “Рабочыя страйкі 1991-га года – Вандэя, а не дэмакратычны рух”

Адмаўляючы амаль усё, што звязана з нацыянальна-дэмакратычным уздымам канца 80-х і пачатку 90-х гадоў, Валянцін Акудовіч лічыць і рабочыя пратэсты, што пераходзілі ў масавыя страйкі ў красавіку 1991 года, тэарэтычнымі прыдумкамі БНФ. Паводле Акудовіча – гэта былі “маршы Вандэі”, скіраваныя супраць зменаў, страх перад “так званай свабодай”. Гэта былі маршы за чарку і скварку. Тыя рабочыя – гэта ўчарашнія сяляне. А беларускія сяляне спрадвеку *“баяліся свабоды, як чорт святой вады”.*

Такія сцверджанні – зноў жа прадукт схемы, у якую аўтар “Коду адсутнасці” хоча ўціснуць і рабочы рух. Яго павінна “не быць”! Аднак, як кажуць англічане, каб даведацца, ці смачны пудынг, яго трэба пакаштаваць. Відаць, як і на Зянона Пазняка каля Маскоўскіх могілак, на калоны страйкоўцаў сп. Акудовіч глядзеў стоячы ў каго-небудзь на плячах... Для яго гэта быў натоўп. Для мяне – не. Я

выбіраўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета ад прадпрыемства "Гранат" (г. зв. "завод робатаў"), дзе чытаў лекцыі пра беларускую культуру і гісторыю. Туды мяне завабіў Алег Шагулін, паважаны інжынер-інтэлектуал, які карыстаўся вялікім аўтарытэтам і сярод рабочых. За мяне галасавалі і працаўнікі суседняга завода вылічальнай тэхнікі. Старшынём страйкама, які вёў калону рабочых Фрунзенскага раёна на плошчу каля Дома Ураду, быў мой сябра – фрэзероўшчык 6-га разраду з МЗВТ Уладзімір Цытрон.

У тых калонах ішлі розныя людзі. Былі там і рабочыя з Заводскага раёна, якіх проста падбухторвалі некаторыя кіраўнікі прадпрыемстваў, каб націснуць на ўрад і выбіць грошы на зарплату. Але абсалютная большасць добра ўсведамляла, што такое эканамічныя, а што такое палітычныя патрабаванні. Прычым палітычныя патрабаванні ўсё больш пашыраліся. З абласцей з буйных гарадоў прыходзілі рэзалюцыі з патрабаваннем суверэнітэту, забароны кампартыі, нацыяналізацыі саюзнай маёмасці. Пад тэкстамі стаялі сотні подпісаў. Шмат маніфестантаў ішлі пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

Я памятаю твары рабочых актывістаў: Сяргей Антончык, Генадзь Быкаў, Георгі Мухін, Уладзімір Цытрон... Усе яны – члены гарадскога страйкаму. Мы хадзілі на заводы, выступалі ў цэхах. Да нас у Вярхоўны Савет прыходзілі рабочыя дэлегацыі. Раіліся, падказвалі нешта нам... Усё было вельмі featureзнае, усё мянялася. Ішло жывое жыццё, якое нельга ўціснуць у апрыёрныя схемы.

## Як узнікаюць коды адсутнасці і рэсентыменты?

### *Мутацыі траўмаванага грамадства*

Інтэлектуалы кажуць featureзнае. Адны сцвярджаюць, што выбар ёсць заўсёды. Іншыя – што асоба ёсць цацкай гісторыі і абставінаў. Інтэлектуал Акудовіч захоплены выказваннем нямецкага сучасніка, які нібыта працытаваў без спасылкі выказванні Петэра Слётэрдайка з ягоных "франкфурцкіх" лекцый пра трагедыю сучаснікаў існавання дыктатуры: у іншых абставінах яны маглі б стаць бліскучымі прадстаўнікамі сваёй нацыі!

Калі праходзіць час дыктатуры, сучаснік – або ягоныя дзеці й унукі – пад святлом сумлення новага часу "пішуць сваю кнігу ўспамінаў". Дзейнічаюць свядомыя і падсвядомыя аберацыі памяці. Немцы памятаюць рэзананснае апытанне, што праводзіліся штотыднёвікам "Die Zeit" у 2005 годзе ў 60-ю гадавіну заканчэння Другой Сусветнай вайны. Толькі 3-5% дзяцей і ўнукаў у сем'ях, дзе тры пакаленні мелі акадэмічную адукацыю, сказалі, што іхнія дзяды і бацькі актыўна падтрымлівалі Гітлера або бралі ўдзел у Халакосце. Астатнія прылічалі сваіх продкаў у горшым выпадку да катэгорыяў *"вымушаны спадарожнік рэжыму* (Mitläufer), *звязаны прысягай салдата або дзяржаўнага службоўца"*. Невераемна высокі адсотак выпаў на рубрыкі *"актыўна ўдзельнічаў у супраціве"*, *"дзейсна падтрымліваў супраціў"*, *"спачуваў і таемна дапамагаў"*, *"удзельнічаў у акцыях сабатажу"*... На чым жа тады трымаўся рэжым?

"Прэзідэнцкі рэжым" у Беларусі – не раўня гітлераўскаму, – дэманічнаму, гіпертрафавана "прымардыяльнаму": нямецкая вернасць, нямецкае віно, нямецкія жанчыны, нямецкія танкі, – усё найлепшае. Наша спаруда – усяго толькі неасавецкая прарасейская антынацыянальная аўтакрататыя з мэтай захаваць персанальную ўладу любым коштам. Для этнаса гэты час – разбуральнае бясчассе.

Аднак і ў нармальнага чалавека з рухомым розумам, скіраваным на простае выжыванне, у бясчассі стаяння на раздарожжы ўзнікае пачуццё чакання збаўцы. Скаваны страхам розум падсвядома шукае далей ад скрыжавання ўтульныя спраты для разняволення ў самім сабе. І становіцца сам сабе збаўцам. Ён пачынае

фармуляваць апраўданне сваім уцёкам перад тымі, хто застаўся там, наверсе, у рэальным жыцці, і яшчэ варушыцца, супраціўляючыся злу. Адчуваючы, што быць сам-насам з сабою даволі ўтульна і бяспечна, што вяртанне ў жывое жыццё ўжо немагчымае, рэфлексіўны розум дзеля апраўдання ўцёкаў пачынае з утульнага залюстроўя нібыта разумна і шчыра будаваць сваю карціну бачання жыцця там, наверсе. Навошта? Спрацоўвае падсвядомы сорам: каб потым выставіць яе і для дэманстрацыі і сваім дзецям, і некаму трэцяму, які не рэфлексаваў і не супраціўляўся злу, а проста вырошчваў капусту. Так паступова гэты разумны ўцякач, пабудаваўшы стройную будыніну дзеля апраўдання сваёй маленькай (ці вялікай?) здрады, так умацоўваецца ў перакананні праведнасці, што непрыязныя адносіны да неразумных змагароў паціху перарастаюць у нешта, падобнае да алергіі, ці нават ідыясінкразіі. І вось з гэтай разумнай пячоры пустэльніка нашага часу, як з сіласнай вежы, вурдалакі, монстры і слабыя скалечаныя душы знаходзяць сабе супакойны пачастунак.

### *Videor ergo sum: дэманы віртуальнай прасторы*

Грамадства, як сённяшняе беларускае, траўмаванае аўтарытарным і антынацыянальным – выдатны гумус для мадэрных "постнацыянальных" мысляроў, ліберальных і не вельмі, у якіх самапераўзыходжанне як характарыстыка духоўнага росту асобы, можа няўзнак перарасці ў самаўзвышэнне, спарадзіць плоскі публіцыстычны нарцысізм, які лёгка перацякае ў дэсакралізацыю агульнапрынятых людскіх каштоўнасцяў.

Сярод гэтых "мы" на розных "інтэлектуальных" лапіках мутацыяў чужых пазычаных тэкстаў выяўляецца шмат асобаў розных зацікаўленняў ды ўзростаў. У Акудовіча ёсць нават супернік, метадолаг з філасофскім ухілам, які параможна пікіруецца з ім у сваіх пісьмовых маналогах. Гэта – самаабвешчаны "лідэр грамадзянскай супольнасці РБ", зорка "Белсату", уладальнік сайту "Логаінквізітар", "кіраўнік "Лятучага ўніверсітэту", "мэтадоляг і філёзаф" Уладзімір Мацкевіч. Ён прывёз з расійскіх абшараў кадэбэшна-макіявелеўскія ідэі Шчадравіцкага перабудовы грамадства ("захапіць плацдарм мыслення") і пачаў "думаць Беларусь".

Сваё бачанне перабудовы нашага краю Уладзімір Мацкевіч лапідарна сфармуляваў у шматлікіх інтэрнэт-лекцыях і праектах, інтэрв'ю, інтэрнэт-гутарках "Безумное чаепитие", эсэ "Сага об учителях", "Не думайте о рыжем и слепом утконосе" і да т. п.

Вось россып перлінаў з кіліма сентэнцыяў Уладзіміра Мацкевіча:

*...Беларусь – невозделанная страна... У беларусов в голове пластилин...* («Безумное чаепитие» з Ліпковічам і Курэйчыкам)... *Культура – это всё, что транслируется. Вот белорус ковыряет в носу. Это и есть культура...* (інтэрнэт-лекцыя) *Для среднестатистического беларуса достаточно ровно три К. Колхоз – крама – канапа. Канапа – для мужчин, для женщин – колхоз – крама – киндэр.* (З «Утконоса»). З такімі сентэнцыямі можа параўнацца хіба здзеклівы верш канвертыда Генрыха Гейнэ пра палякаў "*Krapülinski und Waschlapski, Polen aus der Polakei*" ("Крапюлінскі і Вашляпскі, палякі з Палякіі").

Так выглядае атэстацыя самога сябе: "*По- настоящему состоявшийся человек заставляет мир вращаться вокруг себя.* (З інтэрв'ю на партале BEL.BIZ). *Ощущаю себя миссионером, как Иона в чреве кита... Вот кто-то тот недосягаемый, пережует меня и выплюнет для осуществления моего предназначения* (Відэа з сеціва. Гутарка пра канфесіі)... *Я убежден, что от меня через Щедровицкого можно проследить в ретроспективе непрерывную цепь ученичества к Сократу, Фалесу и дальше...... Николай Круковский делает заявление: "Мае карані як беларускага філасофа – у беларускай вёсцы"... Вот замаячил новый Мефистофель* ("Сага об учителях")...

*А с чего вы взяли, что я их* (людей – *П.С.*) *люблю? За что их любить? Есть только несколько человек среди семимиллиардного человечества, которых я люблю* (з інтэрв'ю BEL.BIZ)...

Сам У. Мацкевіч і ягоныя найлепшыя аднадумцы чытаюць лекцыі ў розных гарадах Беларусі. Начальства дазваляе. Сваіх вучняў ён возіць на семінары нават у замежжа, дзе праводзіць з імі ролевыя гульні для "захопу плацдармаў мыслення". Ягоная жонка таксама "думае Беларусь". Не так даўно, чытаючы ў Магілёве лекцыю (у межах "Лятучага ўніверсітэта") пра стан універсітэцкай адукацыі, яна бязлітасна крытыкавала беларускі досвед, выказвала гатовасць быць міністрам адукацыі, заклікала слухачоў вывучаць замежныя мовы і родную. Сама чытала лекцыю парасейску. Калі вядомы магілёўскі настаўнік Міхась Булавацкі пацікавіўся, чаму яна не карыстаецца беларускай, яна адказала афарыстычным пытаннем: *"А Вам шашечки или ехать?"* Гэта з анекдоту савецкага часу пра грузінскага прыватнікабамбілу, які з'едліва прарэагаваў на заўвагу, што ён не таксіст.

Для прыхільнікаў чыста "грамадзянскай" дзяржавы, якіх ахвотна цытуюць расейскамоўныя ліберальныя сайты, беларушчына – толькі арнамент, вакол якога можна будаваць сваю экзістэнцыю ды вальяжна дэманстраваць гульню ў цынічныя перліны.

Вылечыць беларусаў ад савецкасці і беларускай правінцыйнасці ды завезці ў "Метэрніхаў сад" Еўропы бярэцца і беларускамоўны акудовічаўскі выхаванец з "Бумбамліту", еўрапеізаваны літаратар Альгерд Бахарэвіч у сваім "*Гамбурскім рахунку"*. На пачатку творчага шляху, яшчэ ходзячы з тазікам-бубнам у эпатажнай калоне "Бумбамліту", які "пераадолеў" кансерватыўных нацыяналістаў з "Тутэйшых" Алеся Бяляцкага[14], ён сфармуляваў свой эстэтычны ды этычны "Маніфест": *"Зазірніце мне ў рот // Я вам верш пазяхаю // Там пануе заўжды некрануты смурод // Там заўсёды вяртаюцца ўсе будулаі // Там жыве працавіты і мужны народ*... І застаўся верны свайму маніфесту, – з рэсентыментамі, атрыманымі ў спадчыну ад свайго настаўніка.

Метафарыст Бахарэвіч ва ўступным слове да "Гамбурскага рахунку" на Радыё Свабода раскрывае генеалогію сваіх рэсентыментаў трапнымі кароткімі пасажамі, з якіх мы даведваемся, што ён вырас на гарадскім правінцыйным асфальце, на дзявятым паверсе камунальнага дома, з пыльным ліфтам, што ён *«быў выгнаны з дзяцінства»*, што ягоная настаўніца беларускай літаратуры мела мянушку «Жаба», што яна, *«бясконца стомленая, ...як добрая пажылая жаба, выпаўзала на шчарбатыя пліты школьнага клясычнага курсу белліту, каб пагрэцца на сонейку...»* Далей аўтар заўважае, што гэтая атмасфера *«прымушала пачуваცца саўдзельнікам усеагульнай нянавісьці...»* Трэба разумець, нянавісці да беларускай літаратуры, якая для будучага пісьменніка з дзяцінства сціснулася ў школьнасавецкую дзённікавую абрэвіятуру «белліт».

Тут рэсентымент непрыязнасці, нават нянавісці да роднага, хай сабе і непрывабнага, траўмаванага, нагадвае паводзіны літаратурнага героя Лаўручка з апавядання Змітрака Бядулі "На Каляды к сыну". Цяжка зразумець, што

[14] На прэзентацыі кнігі Валера Каліноўскага "Справа Бяляцкага" выступоўцы ацэньвалі праваабарончую працу Алеся Бяляцкага як працяг грамадскай дзейнасці з часу "Тутэйшых" і "нефармальнага" нацыянальнага руху 80-х гадоў, дзе на парадку дня стаялі пытанні нацыянальнага Адраджэння. В. Акудовіч выказаўся насуперак агульнай танальнасці ў ацэнцы ахвярнай грамадскай дзейнасці Алеся са стрымана-негатыўнай нотай ("Я тут хачу, магчыма, сказаць папярок усім..."), усумніўшыся ў тым, што ў будучыні гэтая дзейнасць наўрад ці будзе ацэнена адэкватна разуменню самога Бяляцкага. У самой кнізе В. Акудовіч, як бы станоўча ацэньваючы "някідкі беларускі супраціў" праваабаронцы, падсумаваў сваё разуменне вынікаў ягонай дзейнасці такімі словамі: *"Што датычыць грамадзкага плёну ад гэтай ахвярнасьці, то тут няма адназначнага адказу..."* (С. 324).

сфармавала ў хлопчыку-школьніку пачуццё агіды да “Новай зямлі” Якуба Коласа. (“*Я... пляваўся малым і ад беллітаўскай «Новай зямлі»*”). Якая б ні была настаўніца, – але ж былі бацькі, сямейная пяшчота, можа, кот у кватэры, трава каля дому... Нават з тых жа фабрычных Шабаноў, дзе ўзрос “бязлітасны” крытык, на паўднёвым небакраі можна было разгледзець “край зубчаты бору”. Памятаю гэта са сваіх лыжных вандровак саракагадовай даўніны. Але ж для памяці пра добрае трэба мець сэрца.

Свае рэсентыменты Бахарэвіч упакоўвае ў метафары, заўважаючы, што Якуб Колас *«тоне ў бяздоннасці словаў, як той воўк на стрыжані ракі, што бездапаможна чапляецца за лёд”,* калі замілавана малюе карціны сялянскага жыцця.

Распраўляецца Бахарэвіч і з Янкам Купалам. Для Янкі Купалы савецкага перыяду ён знаходзіць кафкіянскую метафару – *Каян Лупака*. Гэта назва эсэ пра Купалу з “Гамбурскага рахунку”. Успрымаецца як злавеснае таўро – “Каін”, здраднік, труп колішняга Купалы. Гэта не што іншае як плагіяцкае наследаванне кафкіянскага “Die Verwandlung” – ператварэнне Грэгара Замзы ў кузюрку. Бахарэвіч так і кажа: “*Што б там ні казалі, Каян Лупака – велічны вобраз, бо ў ім шмат кафкіянскага*” (інтэрв’ю для Радыё Свабода пасля прэзентацыі кнігі). Бачыце, велічны, таму што ў ім шмат кафкіянскага. Кафка – мера велічы. Кафка, як Джойс і Набокаў – куміры Бахарэвіча. З такімі кумірамі аўтару не патрэбныя ні тыпалагічны гістарызм, ні хрысціянская спагада, ні крытычны погляд на самога сябе. Бахарэвіч да нядаўняга часу жыў у Нямеччыне як “малады гнаны рэжымам літаратар”, пра што не стамляўся паведамляць у сваіх інтэрв’ю ды анкетах. (*“Любы чалавек, які ня можа ўладкавацца ў Менску на працу па сваёй дыплёмнай спэцыяльнасьці й ня можа прэтэндаваць на публікацыю сваіх твораў без уступленьня ў “правільны (*чаргінцоўскі – *П.С.) саюз пісьменьнікаў”, можа лічыцца перасьледваным”.* Тлумачэнне былога кіраўніцтва Пэн-цэнтра)... Са свайго гамбурскага далёка Бахарэвіч пачынае сучасна па-еўрапейску прачытваць “белліт”. Напрыклад, у свае 37 гадоў ён, выпускнік філфаку, прачытаў упершыню Адамчыка і Стральцова (прызнанне на 420-й старонцы “Гамбурскага рахунку”).

Элегічна заканчваючы эсэ пра Васіля Быкава, Бахарэвіч заўважае: *“Чалавеку, якому ўтульна жыць са сваімі дэманамі* (ці не пра сябе кажа аўтар?), *карысна чытаць Быкава перад сном... На Быкаве скончылася тая беларуская літаратура. Засталося надзейна закаркаваць яе ў бутэльку з муранскага шкла і пусціць па вадзе...”*

Бедная наша “залатая рыбка”, чэмпіёнка свету па плаванні, Аляксандра Герасіменя! Яна, пэўна, яшчэ не паспела прачытаць Бахарэвіча, захапляецца беларускай класікай і кажа беларусам: *“Чытайце Быкава!”* Калі паслухае Бахарэвіча, які ў сваім “Дзённіку” на Радыё Свабода рэкламуе Барыса Віяна (“пісьменнік стагоддзя”), то зможа далучыцца да сапраўднай ліберальнай эстэтыкі – прыгажосці дагледжаных гомасексуалістаў, непаўторнасці ванітаў з чырвонымі таматамі, адлюстраванымі ў фотаальбоме філосафа Партра/Сартра, магічнасці аўтапартрэта аптэкара ў сэксуальным акце з дачкой, змешчанага на сцяне... (Гэта з “раману стагоддзя” *“Пена дзён*”). У Барыса Віяна ёсць і твор з назвай: *“Я прыйшоў, каб напляваць на вашыя магілы”*. У сваім імянным “Дзённіку”, які штодня з’яўляецца на сайце Радыё Свабода, 2-га лютага сёлета Бахарэвіч надрукаваў нарыс пра першую грамадскую прыбіральню ў Лондане. Дзень 2-га лютага – каталіцкія Грамніцы, дзень народзінаў Кастуся Каліноўскага, дзень перамогі пад Сталінградам.

Аўтару, які прэтэндуе на еўрапейскі інтэлектуалізм, можна было б ведаць, што ў нямецкага і – шырэй – еўрапейскага “більдунгсбюргерства” існуе традыцыя пэўнай “культуры ўспамінаў” і “культуры пераадольвання гістарычных траўмаў”. Ёсць траўмы народаў, што самі чынілі зло, і ёсць траўмы народаў-пакутнікаў, якія

былі вымушаны паводле экзістэнцыйных абставінаў (для выжывання) адступаць ад “крыштальных” этычных стандартаў. Гэта – як нашыя палітвязні, якія, баючыся за сваіх родных, пішуць прашэнні аб памілаванні, не будучы вінаватымі. Нават для злачынцаў хрысціянская цывілізацыя захавала прынцып рымскага права non bis in idem – нельга караць за адно і тое ж двойчы. Бахарэвіч з асалодай цытуе купалаўскі верш, прысвечаны 20-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, які быў напісаны акурат пасля “вялікага расстрэлу” ў лістападзе 1937 года.

У інтэрнэт-дыскусіі я ўжо ўзгадваў пра абставіны напісання Янкам Купалам гэтага верша. Паэт тройчы меў гутарку з “заказчыкамі”. Адмовіўшыся першы раз, потым пад пагрозай расстрэлу Якуба Коласа і сваякоў напісаў чатыры страфы. Садызм “таварышаў” не ведаў межаў: запатрабавалі павялічыць тэкст да васьмі слупкоў. Напісаў восем. Вось так Янка Купала ў чарговы раз ператвараўся ў “літаратурнага здрадніка”, у Каяна Лупаку. Гэта мне расказала Ядзя Раманоўская, Купалава пляменніца, якая працавала загадчыцай рукапіснага фонду ў музеі Янкі Купалы. (Я пісаў тады артыкул “Мова Янкі Купалы” ў энцыклапедычны даведнік “Янка Купала”. Было гэта, здаецца, на пачатку 80-х гадоў). Даказаць абсалютную праўдзівасць пачутага я, натуральна, не магу. Ядвіга ўжо даўно памерла.Ды і яна, так бы мовіць, – асоба зацікаўленая. Аднак адно зразумела – пісаць Купалу ўрачыстыя прысвячэнні Кастрычніку ў тыя дні было пакутай.

Амерыканскі скульптар Пітэр Айзэнман, які праектаваў мемарыяльны комплекс Халакосту (каля Брандэнбурскай брамы ў Берліне), заклаў страшэнную для немецкай гістарычнай памяці канцэпцыю фенаменалагічнай эстэтыкі у выглядзе поля, густа пакрытага цёмнымі гранітнымі плітамі без навершша. Ён сказаў: “*Няхай гэта вечна ціснe на грудзі ўсім нямецкім пакаленням...*” Гэта зрабіў прадстаўнік народа-ахвяры. Жаданне пазбавіцца ад пачуцця вечнай віны прымусіла немцаў адважыцца на поўную навуковую і папулярную публікацыю гітлераўскага “Майн кампф” (публікацыя пачнецца праз год), каб праз публічнае сузіранне монстра нарэшце зняць флёр прывабнага табу і даць нацыі той аптымістычны міф існавання, які яна мела да хваробы на вялікі дэманізм 20-га стагоддзя.

У традыцыі пераадолення траўмаў ахвярамі гвалту, якія пэўна (ці нібыта) пераступілі мяжу прыстойнага, існуе прынцып забывання. У тых жа яўрэяў, калі яны чытаюць *“Банальнасць злога”* Ганны Арэндт, дзе яна нагадвае сваім суродзічам пра супрацоўніцтва “Яўрэйскіх саветаў” (Judenräte) з нацыстамі (самі складалі спісы на адпраўку ў канцлагер, дабраахвотна давалі рэжыму грошы і да т. п.), пра “нармальнага немца Айхмана” (такіх было нямала), – спрацоўвае стэрэатып забывання гістарычнага негатыву як ахоўны інстынкт для захавання аптымізму. Яўрэі нагадваюць пра гэта хіба што ў кантэксце гістарычных даследаванняў. Гэта ў пэўным сэнсе – нешта накшталт паліткарэктнага табу. На гэтую тэму ёсць у габрэяў нямецкамоўныя тэксты, сфармуляваныя з алюзіяй на Стары Запавет – “Am Anfang war das Vergessen” (“На пачатку было забыванне”).

“Мемы” пра беларусаў тыпу Каяна Лупакі – творы людзей з халодным сэрцам, якія мала думаюць пра тое, як іх слова адгукнецца ў душы народа, на мове якога ты пішаш, які ягоны вобраз ты ствараеш.

Нашыя цяперашнія маладзёны, якія па вядомых прычынах амаль не вывучаюць нашую літаратуру ў школе і абсалютна не навучаныя чытаць тэксты, на ўра прынялі кліпавае таўро эсэіста Бахарэвіча: Янка Купала – Каян Лупака, усе пісьменнікі савецкага перыяду – прыслужнікі і графаманы, хваласпеўцы Сталіну... І ўсе беларусы гэткія: церпяць, не паўстаюць, мяняюць свабоду на кілбасу, іх проста няма, яны – людзі без ценю, як і дзяржава РБ...

Падобныя прысуды культуролаг Максім Жбанкоў называе *“адбудовай альтэрнатыўнай літаратурнай міфалёгіі ў фармаце інтэлектуальнага рэдызайну”* з мэтай *“пераасэнсавання вульгарнай культурнасьці”?* Тут без паўлітра не разабрацца,

хто вульгарна культурны. А вось камплімент Жбанкова аўтару "Шабаноў" зразумелы: *"Ён выкарыстоўвае тое, што ён дакладна ведае. Сьвядома сыходзіць у прасторы пабытовага жыцьця мікраараёнаў"*.

Пра бурапенную авангардную эстэтыку "маладых" 30- і 40-гадовых наднацыянальных і па-за-сацыяльных беларускіх творцаў ужо гаварылася нямала. Кіруючыся прынцыпамі шоў-бізнесу (абы гаварылі, хай сабе і скандальна), яны ствараюць "літаратурныя тэксты", не цураючыся мату, перверзій, экскрэментаў, інцэсту, брыдкіх алюзіяў... У свой час – яшчэ да Бахарэвіча – разняволены прыклад эстэтычнай дэсакралізацыі нацыянальнага пантэону даў цяперашні старшыня ПЭН-цэнтру, цяпер ужо 40-гадовы Андрэй Хадановіч, радасна гуляючы ў непрыстойныя метафары з алюзіямі на Янку Купалу і Кастуся Каліноўскага: *"Хлопчык і копчык", "Пляўкі", "Лісты з-пад коўдры"...*

У зборніку фіналістаў конкурса да стагоддзя "Нашай Нівы" "*In Вільня veritas*" (2007) ("*Пабачыць Вільню і... паржаць...*") поўна разбэрсаных здзеклівых алюзіяў на беларускія творы, рэаліі ды асобы: "Мы вернемся сюды на *танках*, на *коласах, купалах, цётках...*"; "І зграі шэрых віленкіх катоў // Нам адчайдушна прапяюць *Магутны Божа...";* або: "...Ён (бабёр)... узляцеў па-над *раскіданым гняздом* // Што баранілі *птушкі* так зацята// Ў яго зубах – іржавая граната,// *Марат Казей* з зубамі і хвастом...*;* Цень *Каліноўскага* блукае па Лукішках, // І сарамліва просіць закурыць...*//;* Паставім пляшкі *шчыльнымі радамі,* // Бабёр ў Вяльлі свой *слуцкі пояс* мые..."

Думаецца, аднак, што эстэтычная стома (ці глухата?) ад гармоніі, любові, дабрыні, спагады хутчэй апаноўвае тых творцаў, якія не слухаюць сваё сэрца і не шукаюць блізкага цяпла і людскасці ў тых, для каго ствараюць свае "тэксты". Скразнякі наднацыянальнага і па-засацыяльнага выдзьмуваюць з іх каштоўнасці, якія мы ў дапасаванні да этыкі мастацкай творчасці ўмоўна называем гуманістычнымі, рамантычнымі, хрысціянскімі, інтэлектуальнымі. Падобна, што нашыя "маладыя", 30-ці і 40-гадовыя авангардысты, навучыўшыся слібізаваць па-еўрапейску, але не прачытаўшы па-людску напісанае сваімі папярэднікамі, што сапраўды валодалі беларускім словам, адразу трапілі ў постмадэрнісцкае разнатраўе і спяшаюцца развітацца з "той" літаратурай, – літаратурай Быкава, што не іранізваў, а даследаваў трагедыю беларускай партызанкі, Караткевіча, што пісаў "гістарычныя сімулякры" пра Каліноўскага, Якуба Коласа, які ад замілавання вясковай ідыліяй, патанаў у словах, "як воўк на стрыжні, што бездапаможна чапляецца за лёд..."

Глыбінёвая прычына такога светаўспрымання і выяўлення – адсутнасць феномена пачуцця любові і спагады да чалавека як экзістэнцыйнага суб'екта, так і да аб'екта свайго аналізу – Радзімы малой і вялікай. Застаецца цынізм, энтрапія, геленаўскі гуманітарызм, тахелес[15]... Да гэтага, пэўна, трэба дадаць і тую агрэсіўнасць, што вынікае з недаадукаванасці "прамежкавага чалавека", які вельмі лёгка залічае сябе ў шэрагі інтэлектуалаў, што могуць без сумневу выносіць вердыкт на любую тэму.

Паводле Акудовіча, "*актуальнаму мастацтву трэба не столькі змагацца за сябе, за сваё месца ў Беларусі, а сканцэнтравацца на супраціве татальнай баналізацыі свету дзеля ратавання культуры як дыскурсу ўнікальных актаў тварэння"*. На жаль, гэты "дыскурс унікальных актаў тварэння", што супрацьпастаўляе сябе "сацыяльнай баналізацыі" ў выкананні малаадукаваных і цынічных аўтараў часта трансфармуецца ў вельмі прымітыўныя кантэксты рынкавага мэйнстрыму.

---

[15] Ням. "Tacheles reden" (*з ідыш*) – "гаварыць адкрыта" – мае пэўнае адценне цынізму. Ужывалася як канчатковае слова пры заключэнні не вельмі чыстага гешэфту.

## Што ж пісалі да Акудовіча ў нямецкамоўнай прасторы пра Беларусь?

Што да метафараў пра невядомасць Беларусі для нямецкага чытача, тут аўтар нямецкага пасляслоўя сп. Поляк, безумоўна перабольшвае, абмяжоўваючыся акудовічаўскай постмадэрнісцкай спарудай, дзе Беларусь аказваецца фантомам. Як ужо адзначалася, для яго Беларусь – "*незапоўненая прастора*", "*белая пляма Еўропы*", "*невядомая велічыня*" (матэматычны тэрмін), "*тэрыторыя Hic sunt leones*" (Так рымляне абазначалі на старажытных картах землі па-за межамі імперыі).

Не хочацца верыць, што для *"дыпламаванага славіста і гісторыка, які спецыялізуецца на Усходняй Еўропе, рэдактара часопіса "Spiegel" да 1998 года, шматкроць узнагароджанага аўтара і перакладніка "за пашырэнне на Усход еўрапейскай свядомасці"* (з выдавецкай анатацыі пра аўтара пасляслоўя), Беларусь з'яўляецца невядомымі тэрэнамі, дзе "жывуць ільвы". Канечне, гэтая метафара пэўным чынам адпавядае экзатычнаму жанру Валянціна Акудовіча, дзе даводзіцца, што нас проста няма.

Знаёмства з нямецкімі мемуарнымі запісамі і тэкстамі, напісанымі ў жанры "штодзённай гісторыі" (Alltagsgeschichte) паказвае, што на побытавым узроўні ў сямейнай памяці ў немцаў захавалася нямала ўспамінаў пра "Вайсрусланд" яшчэ з часоў напалеонаўскага паходу на Усход, дзе бралі ўдзел тысячы "пешага і коннага народу" з розных нямецкіх зямель і нямала немцаў-генералаў[16]. Я ўжо не кажу пра "знаёмствы" з часоў Першай і асабліва Другой сусветных войнаў. У беларускіх балотах вязлі нямецкія саюзнікі Напалеона, у першую вайну немцы прымянілі атрутныя газы пад Смаргонню... З апошняга паходу на Усход немцы добра помняць не толькі лёгкі ўваход без бою ў пакінуты Мінск у чэрвені 1941-га, але і "Мінскі кацёл" 1944 года.

Наш край немцы вывучалі не толькі па вайсковых картах, але і ў межах сваіх вядомых "усходніх штудыяў". У прафесара Райнэра Ліндэра ў 500-старонкавым даследаванні гісторыі Беларусі[17] ёсць цэлы раздзел, які так і называецца – "*Беларусь у нямецкамоўнай гістарыяграфіі*". Не пераказваючы змест гэтага раздзела, дадам толькі тыя крыніцы на нямецкай мове пра Беларусь, пра якія праф. Ліндэр паводле жанру свайго даследавання не ўзгадвае, або якія з'явіліся пасля выхаду манаграфіі.

За гады існавання Рэспублікі Беларусь самімі немцамі ўжо было напісана некалькі дзясяткаў навуковых і папулярных кніжак і грунтоўных артыкулаў пра нашую краіну.

Ужо ўзгаданы часопіс "Wostok", пачынаючы з 1993 г., выдаў чатыры спецыяльныя выпускі, прысвечаныя Беларусі. Апошні (№4, 2011) называўся: *"Беларусь: сталенне нацыі – грані гісторыі"*. Аўтарамі нумара былі: Алесь Краўцэвіч, Сяргей Харэўскі, Андрэй Кіштымаў, Аляксандар Астравух, Зміцер Санько, Пётра Садоўскі, Вольга Штокман, Пятро Васючэнка. На старонках часопіса раней з'яўляліся артыкулы Анатоля Грыцкевіча, Т. Гаранскай, В. Скалабана, Ул. Конана, інтэрв'ю з беларускімі амбасадарамі ў Нямеччыне, гутарка з Аляксандрам Лукашэнкам, Уладзімерам Някляевым, Андрэем Саннікавым.

Беларуская тэматыка не была рэдкай і на старонках часопіса "Osteuropa". Фонды, даследчыя цэнтры, газеты, грамадзянскія ініцыятывы, асобныя аўтары публікавалі гістарычныя і актуальныя матэрыялы. Ужо ў 1990 годзе ў Мюнстэрскім універсітэце адбылася канферэнцыя "Беларусь і Захад" (ініцыятары прафесары

---

[16] Гл., напр., нядаўна перакладзеныя ўпершыню "Успаміны пра паход Саксонскага корпусу генерала графа Рэйньe 1812 г.", напісаныя генералам фон Функам. Мазыр, 2013. Выданне і каментар Ул. Лякіна, пераклад А. Клімчыка.

[17] Rainer Lindner: Historiker und Herrschaft. Nationsbildung und Geschichtspolitik in Weißrussland im 19. und 20. Jahrhundert. R. Oldenburg Verlag München 1999. S. 141-146.

Ф. Шольц і Г. Ротэ), потым з'явіліся папулярныя кніжкі "Беларусь" (Д. Гольтбругэ), "Адкрыццё Беларусі" (Э. Шэр), "Ціхая рэвалюцыя чарнобыльскіх дзяцей" (Э. Шухардт у суаўтарстве з Л. Копелевым), шэраг кніг пра нямецкую акупацыю, успаміны жыхароў габрэйскіх гета і г. д. Інфармацыйны нямецка-беларускі цэнтр (Мінск-Дортмунд), амбасада ФРГ у Мінску, Гётэ-Інстытут рэгулярна давалі інфармацыю для сваіх грамадзянаў пра палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё Беларусі. У нямецкамоўнай інтэрнэт-энцыклапедыі з'явіўся грунтоўны артыкул пра беларускую мову (Г. Цыхун), выйшла даследаванне Г. Ротэ «Каментары да «Бібліі рускай» Ф. Скарыны" (2002), фондам Фрыдрыха Эбэрта праведзена канферэнцыя *«Беларуская нацыянальная ідэнтычнасць»*. Нашым сучасным узаемадачыненням з Расійскай Федэрацыяй была прысвечана грунтоўная брашура Гайнца Тымермана (колішні кіраўнік Кёльнскага інстытута усходніх даследаванняў) "Расія і Беларусь у еўрапейскім кантэксце" (2003).

Самым грунтоўным нямецкамоўным даследаваннем Беларусі апошніх гадоў побач з калектыўным выданнем *"Дапаможнік па гісторыі Беларусі"* (2001 г.) стала ўжо ўзгаданая манаграфія Райнера Лінднэра "*Гісторыкі і ўлада. Утварэнне нацыі і палітычная гісторыя Беларусі ў 19-м і 20-м стагоддзях* (1999 г.). У 2003 г. выйшаў беларускі пераклад гэтай манаграфіі, зроблены Лявонам Баршчэўскім. У напісанні "Дапаможніка" бралі ўдзел вядомыя беларускія навукоўцы П. Лойка, Г. Сагановіч, З. Шыбека, А. Кіштымаў, А. Каханоўскі, І. Чыквін, М. Іваноў. Рэдактарамі і аўтарамі выдання былі Д. Байраў і Р. Лінднэр.

Яшчэ падчас існавання СССР нямецкамоўная прастора пашыралася тэкстамі пра Беларусь дзякуючы даследаванням аўстрыйскіх славістаў Г. Бідэра (беларускія запазычанні з нямецкай) і Ф. Нойрайтэра (пераклады беларускай паэзіі), М. Банькоўскай (Швейцарыя), выкладчыцкай і асветнай дзейнасцю немцаў К. Гутшміта (беларускі ўніверсітэцкі семінар), С. Хайль, Ё. Шлёца. Ужо ў тыя гады на нямецкую мову перакладаў Васіля Быкава Норберт Рандаў.

Асобнай увагі заслугоўвае абложная праца навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры АН БССР Уладзіміра Сакалоўскага, які апошнія сорак гадоў свайго жыцця прысвяціў даследаванню нямецка-беларускіх літаратурных і навуковых ўзаемадачыненняў. У Нямеччыне апублікаваныя ягоныя крытычныя даследаванні працаў па беларусістыцы А. Брукнэра і Р. Абіхта, напісана шмат грунтоўных рэцэнзіяў на нямецкія тэксты па гісторыі Беларусі. Рудольфу Абіхту, аднаму з першых даследчыкаў беларускай культуры ў Нямеччыне, Ул. Сакалоўскі прысвяціў асобную манаграфію *"Рудольф Абіхт. Жыццё і дзейнасць"*. З архіва Ул. Сакалоўскага можна даведацца, што гэты нямецкі славіст, тэолаг і гісторык супрацоўнічаў з прадстаўнікамі беларускай культуры І. і А. Луцкевічамі, В. Ластоўскім, Я. Станкевічам. У беларускай газеце «Гоман» 10 красавіка 1917 г. ён змясціў артыкул «Калі пісан «Тарас на Парнасе». Беларускія матэрыялы і пераклады друкаваў у газетах "Deutschland", "Wilnaer Zeitung", "Zeitung der 10. Armee" і яе дадатку "Beobachter", дзе змясціў вялікі нарыс «Са старажытнай і новай гісторыі беларусаў». Пры яго актыўнай падтрымцы ў Берліне ў 1919 г. была выдадзена кніга «Беларусь» з раздзеламі па гісторыі і культуры нашага краю («З беларускай літаратуры», «З беларускай вуснай народнай творчасці»). Аўтарамі кнігі былі Вальтэр Егер і Антон Луцкевіч пры дапамозе Юльяны Мэнке як перакладчыцы. Р. Абіхт спрычыніўся таксама да напісання раздзела для гэтай кнігі «Духоўная культура» ("Die geistige Kultur"), прымаў удзел у складанні сямімоўнага нямецка-беларуска-польска-руска-літоўска-латышска-ідыш слоўніка (1918).

У нямецкай літаратурнай і гістарычнай бібліяграфіі пра ВКЛ можна знайсці нават пераклад з ангельскай (зусім сучаснага паводле актуальнасці!) артыкула Ф. Энгельса з газеты "Тайм" 1890 г. "*Foreign Policy of Russian Tsardom* (*Знешняя палітыка Расейскага Царства*), дзе ён, пішучы пра "Рэспубліку Двух Народаў"

і ВКЛ, разглядае іх як вынік польска-беларуска-ўкраінскага хаўрусавання перад небяспекай расейска-азіяцкай экспансіі, называе ВКЛ *“так званым Вялікім Княствам Літоўскім”* (so-called), бо ў ім дамінаваў славянскі этнас і культура. Энгельс праўдападобна не займаўся праблемай ужывання размоўнай формы палітоніма “Літва”, якім карысталіся палякі і расейцы. Ён піша: *White Russia, and Little Russia found protection against the Asiatic invasion, by uniting themselves into the* so-called *Lithuanian Principality* (*Белая Русь і Малая Русь знайшлі сваю абарону праз аб’яднанне супраць азіяцкага нашэсця, аб’яднаўшыся ў* так званае *Вялікае Княства Літоўскае).*

Як ужо адзначаў аўтар нямецкага пасляслоўя, да Акудовіча ў нямецкамоўнай прасторы пра Беларусь *такога* яшчэ ніхто не напісаў. Усе папярэднія нямецкія публікацыі пра Беларусь – па-нямецку грунтоўныя[18] і паліткарэктныя (для свайго часу), не пазбаўленыя месцамі уплываў расейскіх, польскіх ды літоўскіх гісторыкаў, з блытанінай пры ўжыванні скарочанага палітоніма *Літва* з абрэвіятуры ВКЛ.

Як “пазітывісцкія назіральнікі”, апісваючы гісторыю ВКЛ, нямецкія гісторыкі, добра знаёмыя з расейскімі й польскімі тэкстамі, у значнай ступені пішуць гісторыю “тэрыторыі”, а не этнасаў і нацый. Пры такім падыходзе зусім натуральнымі з’яўляюцца крытычныя закіды беларускім, літоўскім ды ўкраінскім гісторыкам канца 20-га стагоддзя ў новай рамантычнай міфалагізацыі, незбалансаванасці паміж публіцыстычнымі рэфлексіямі і крыніцазнаўствам, перабольшваннем ролі нацыянальна арыентаваных “дыскурсных групаў”, стварэннем новых міфаў геройства і пакутаў.

Тут увогуле ўсё больш-менш ясна. З боку заходнееўрапейцаў, якія гістарычна «своечасова» прайшлі шлях ад этнасу да нацыі і дзяржаўнасці (nation=state) і ўжо паспелі забыцца на свой «своечасовы» рамантычны нацыяналізм XIX стагоддзя, такая крытыка зразумелая. Аднак, ні ў водным тэксце нямецкіх аўтараў, зусім паводле класічнай дыяхранічнай традыцыі, адлік пачатку гісторыі Беларусі і беларускай нацыі не пачынаецца з трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, а на некалькі стагоддзяў раней. Ва ўсякім разе, у іх інтэрпрэтацыі Полацкае княства і ВКЛ – абавязковы складнік разгляду пачаткаў беларускай гісторыі.

Падобна, што Валянцін Акудовіч перастараўся ў пафасе свайго “постнацыянальнага самаадмаўлення”. Для нямецкіх “більдунгбюргераў”, не гаворачы ўжо пра гісторыкаў, такое чытво будзе трохі нечаканым, бо яны ўсё ж успрымаюць сёння Беларусь як дзяржаву са сваёй, хай сабе і спецыфічнай самаідэнтыфікацыяй, а не толькі нацыю-сімулякр, якая існуе як гістарычны прывід, прывязаны да пэўнай тэрыторыі і часу. Ужо ўзгаданы на пачатку берлінскі часопіс “Wostok” у летнім нумары (№2-2013) ў раздзеле “Літаратурныя навіны” з пэўнай доляй іроніі анансуе кнігу беларускага аўтара: “*Таму, хто хоча пачытаць пра адсутнасць Беларусі ў сусветнай гісторыі, раім пачытаць “Код адсутнасці” В. Акудовіча...”*

Швейцарская пісьменніца, перакладчыца і літаратурны крытык Ільма Ракуза (дарэчы, перакладчыца вершаў Алеся Разанава), прэзентуючы чытачам нямецкі пераклад “Коду адсутнасці” ў “Нойе Цюрыхер Цайтунг” (3.08.2013) у артыкуле з назвай “*Краіна, якой амаль няма”* (“Das Land, das es kaum gibt”) напісала: “*Большай часткай нацыянальна настроенай інтэлігенцыі, да якой належыць нямала дэмакратычных апазіцыянераў, тэза Акудовіча ўспрымаецца як правакатыўная і непрыймальная. Аднак філосаф мае падтрымку і станоўчыя водгукі з боку*

[18] Былі і кур’ёзы. Першыя сучасныя аўтары прозвішча Шушкевіч часта пісалі ў форме “Шушкебіч”, а “пушча” ў спалучэнні “Белавежская пушча” перакладалі словам “Heide”, якое па-нямецку значыць *“пясчаная бязлесая раўніна, парослая нізкарослым хмызняком”.*

*знакамітых асобаў. Напрыклад, пісьменніцы Святланы Алексіевіч, якая не можа друкавацца ў лукашэнкаўскай дзяржаве, або менеджаркі культурніцкіх праектаў Ірыны Герасімовіч".*

## Пасляслоўе

Натуральна, кожны чалавек, які ўмее гаварыць, чытаць і пісаць літары, мае права выказваць свае думкі пісьмова і вусна адносна свайго ўспрымання пэўных падзей, прачытаных кніжак, навуковых канцэпцый і г. д. Выказванні могуць мець форму навуковых трактатаў, пародый, філіпік, хваласпеваў і г. д. Аднак кожны раз чалавек са здаровым розумам не павінен выходзіць за межы выбранай парадыгмы і не блытаць, як у нашым выпадку, сацыяльна-палітычную публіцыстыку з жанрам постмадэрнісцкіх "паэтычных" дыскурсаў са сферы рэлігіі, культурнай антрапалогіі, гісторыі і г. д., пабудаваных на метафарах, аксюмаронах ды іншых рытарычных фігурах. Тады і атрымліваецца, як кажуць: адзін разумны напісаў, а другі, яшчэ разумнейшы, прачытаў. Вось Валянцін Акудовіч праз дасціпную навукападобную філасофскую паэтычную фантазію давёў, што Беларусь, яе гісторыя, грамадзянскія рухі – прыдумка, ніштo. Тут жа энергічны папулярызатар гісторыі Анатоль Тарас салідарна падхапіў канцэпцыю "грамадзянскай" Беларусі, – Беларусі без мовы, без гісторыі, без памяці. І назваў кнігу – "Беларусь превыше всего". Ці не абсурд?

Вось ужо ці не з дзясятак гадоў "адраджэнец" Акудовіч даводзіць слухачам Беларускага калегіюма, што ні яго ("Мяне тут няма"), ні Беларусі вакол яго ("Код адсутнасці") няма. Прыходзяць выпускнікі калегіюма на гістфак БДУ, ва Універсітэт культуры, іншыя дзяржаўныя адукацыйныя ўстановы РБ, а там большасць выкладчыкаў хоць і без асаблівага нацыянальнага патрыятызму, але ж расказваюць дэмаралізаваным выхаванцам Калегіюма *на лекцыях па гісторыі Беларусі,* што было такое ВКЛ, што была газета "Наша Ніва", што друкаваліся ў ёй добрыя, светлыя паэты – Багдановіч, Купала, Колас, самаахвярна закладалі падваліны нацыянальнай самасвядомасці... Ці не абсурд?

Пачытайце сайты нашых беларускіх амбасадаў, якія мы часам крытыкуем за іх абыякавасць да нацыянальнага. У кароткіх гістарычных даведках пра Беларусь, якія яны прэзентуюць замежнікам, яны больш патрыятычныя, чым "нацыяналіст" Акудовіч. Ці не абсурд?

Нашыя гісторыкі, культуролагі, грамадскія актывісты, выязджаючы за мяжу на навуковыя канферэнцыі, стараюцца выкладаць сваім калегам нацыянальнае бачанне нашай гісторыі, ачышчанае ад напластаванняў мінулага часу. (Пра неабходнасць выпрацоўкі нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі ў кантактах з замежжам нядаўна гаварыў Алесь Краўцэвіч у інтэрв'ю для "Belarusian Review"). А вось "апазіцыйны пачынальнік Адраджэння" сп. Акудовіч прасоўвае сваім "Кодам адсутнасці" ў дабрачынных гуманітарных праектах у мадэрнай упакоўцы ўсё той жа заходнерусізм. Абсурд.

Добра, што звычайныя грамадзяне Беларусі, хоць і не так шмат, як хацелася б, але ж чуюць і чытаюць Караткевіча, Багдановіча, Купалу, Коласа, а не аўтара "Коду адсутнасці".

## P.S.

Гэтыя нататкі былі завершаныя акурат перад 19-м днём кастрычніка, 25-й гадавінай утварэння Аргкамітэту БНФ. Тады ў 1988 годзе ў касцёле Сымона і Алены Васіль Быкаў, адпрэчыўшы ад мікрафона прадстаўніка наменклатуры,

разам з Зянонам Пазняком абвесцілі беларусам гэтую навіну. Моладзевая дружына, якую ўзначальваў Алесь Бяляцкі, акуратненька адвяла ад мікрафона партыйнага таварыша ў залу. Вось такі быў "ненацыяліст" Васіль Быкаў. Вось такі быў "кансерватыўны нацыяналіст", кіраўнік "Тутэйшых" Алесь Бяляцкі. Цяпер палітвязень.

З нагоды 19-га кастрычніка шмат хто выказаўся пра БНФ. Чаму не перамог? Адзін з дэпутатаў апазіцыі БНФ, узгадваючы вечар 25 жніўня, калі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце быў нададзены канстытуцыйны статус, знайшоў такія словы: "На плошчы перад Дома урада – мора людзей... радасныя твары, прамоўцы выступаюць з грузавіка, адчуваецца подых гісторыі... А па праспекце побач са свістам праносяцца легкавікі. Людзі, гэта ж усё для вас і дзеля вас! Прыпыніцеся!"

Фронт не перамог, не прыйшоў да ўлады. Не мог тады перамагчы, як па сутнасці антырасейскі "гістарычны праект" краіны, перашнураванай эканамічна на той момант з Расеяй абсалютна. Але Фронт перамог, удыхнуўшы ў прыспаныя душы нашу ідэнтычнасць, якая, безумоўна, адродзіцца ў нашых дзецях і ўнуках, каб быць сабой у Еўропе Айчынаў, а не "пределамі" суседа.

Ірына Шаўлякова-Барзенка



...найбліжэйшая перспектыва *тутэйшасці* ў мастацкай славеснасці – усё тая ж утульная партызаншчына...

# Авантуры *тутэйшасці* ў найноўшай беларускай літаратуры

У працах сучасных беларускіх літаратуразнаўцаў лейтматывам гучыць думка пра тое, што ўся новая і найноўшая мастацкая славеснасць прасякнута пафасам аднаўлення нацыянальнай ідэнтычнасці. Навуковы пошук у адпаведным кірунку з непазбежнасцю (амаль фатальнай) адштурхоўваецца ад *тутэйшасці* – і ў яе ўпіраецца.

Хаця ў строга храналагічным сэнсе векавы юбілей п’есы Янкі Купалы “Тутэйшыя” святкаваць пакуль рана, сімвалічныя “сто гадоў тутэйшасці” шырока адзначаюцца ў беларускім літаратурна-мастацкім дыскурсе ўжо з другой паловы 1980-х. Агульная мадальнасць гэтага задоўжанага святкавання супадае з аўтарскім вызначэннем жанру п’есы. У “трагічна-смяшлівых сцэнах”, з якіх складаецца беларускі літаратурны працэс канца XX – пачатку XXI стагоддзя, *тутэйшасць* – гэта і рухальная сіла анталагічнага сюжэту, і сцэнограф прыватна-экзістэнцыйных ландшафтаў, і дырыжор моўнымі стыхіямі мастацкіх твораў... Па-за напышлівымі намінацыямі *тутэйшасць* у беларускай мастацкай славеснасці апошніх трох дзесяцігоддзяў набывае, на наш погляд, усе правы звацца вобразам-канцэптам.

Разглядаючы канцэпт як тэрмін "парасонавага кшталту" (А. Кубракова), дазволім сабе ў тэарэтыка-літаратурным кантэксце скарыстаць ідэі лінгвістаў і канцэптолагаў дзеля выяўлення сутнасных характарыстык *тутэйшасці* як феномена беларускага літаратурна-мастацкага дыскурсу.

*Тутэйшасць* утрымлівае інварыянтныя прыкметы (ментальная прырода, моўнае выражэнне і сацыякультурная абумоўленасць), а таксама абавязковыя структурныя элементы (паняційны, вобразны і каштоўнасны, з дамінаваннем апошняга) канцэпту.

Варта разам з тым браць пад увагу, што гнуткасць, універсальнасць структуры, "сэнсавае хістанне паміж паняційным і пачуццёвым, вобразным полюсамі" збліжае канцэпт з мастацкім вобразам.

В. Зусман вызначае *літаратурны канцэпт* як "вобраз, сімвал ці матыў, які мае «выхад» на геапалітычныя, гістарычныя, этнапсіхалагічныя моманты, што палягаюць па-за мастацкім творам". Можна меркаваць, што літаратурны вобраз тады становіцца канцэптам, калі ўключаецца ў так званую асацыятыўную сетку культуры. Аналіз авантур *тутэйшасці* ў беларускай літаратуры прыводзіць да наступнай высновы: менавіта ўзрастанне напружанасці "паміж чаканай, нацыянальна абумоўленай ацэнкай вобраза і яго кантэкстным пераасэнсаваннем" у літпрасторы апошніх двух дзесяцігоддзяў не дазволіла *вобразнаму* (індывідуальна-аўтарскаму) *чынніку* дарэшты растварыцца ў *паняцці*. Інакш кажучы, сёння *тутэйшасць* чымсьці нагадвае героя Ф. Багушэвіча ў трактоўцы В. Булгакава (толькі ніхто ні ў кім не памёр). Гэта не вобраз і не канцэпт у чыстым выглядзе. Гэта – мастацкі вобраз-канцэпт, складовыя часткі якога трансфармуюцца ў розным тэмпе. Так, у найноўшай беларускай літаратуры канцэптавы чыннік ("ядро" *тутэйшасці*) застаецца адносна ўстойлівым, а вобразны знаходзіцца ў дынамічным стане.

У гісторыка-культурных даследаваннях апошніх гадоў усё часцей гучыць думка пра тое, што "ў *тутэйшасці* няма нейкага аднаго канкрэтнага тлумачэння. Сярод адценняў гэтага значэння можна вылучыць: адрозненне і адчужэнне ад палякаў і рускіх, стан дэпалітызацыі і дэнацыяналізацыі, а таксама адметную форму культурнага супраціву і патрыятызму".

Калі ў гэтым сегменце гуманітарнага дыскурсу разгортваецца веер тлумачэнняў канцэпту *тутэйшасць*, то ў айчыннай літаратуразнаўчай традыцыі інтэрпрэтацыі адпаведнага вобраза-канцэпту трымаюцца рэчышча, акрэсленага Янкам Купалам у "Тутэйшых", творы, усе персанажы якога "так ці інакш пазначаны "гэтай усеагульнай нацыянальнай бядой – трагедыяй «тутэйшасці»".

*Тутэйшасць* утварае філасофска-мастацкае ядро купалавай п'есы пра жыццё на скрыжаваннях – гістарычных, геаграфічных, што наўпрост фарміруюць спецыфіку так званага беларускага ментальнага тыпу. "Не сягоння-заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца як сыр у масле", – запэўнівае Мікіта Зносак у другой дзеі, якая, паводле задумы драматурга, адбываецца ў снежні 1918 года. На заўвагу Янкі Здольніка пра тое, што гэтая свабодная прафесія не для "рэгістратарскага светагляду", Зносак шчыра здзіўляецца: "Не разумею, пры чым тут мой, между протчым, светагляд? Можна мець светагляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, а рабіць чацвертае, як навучае мой профэсар гэр Спічыні. І я пастанавіў у сваёй аратарскай профэсіі моцна прытрымліваца гэтай мудрасці". Аленка ў апошняй дзеі (адбываецца ў чэрвені 1920-га) скрушна зазначае: "Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Але так пагналі, што і след згінуў. Ужо тут, у Менску, мы даведаліся, што перш адны гналі, пасля – другія, потым – зноў тыя самыя, потым – зноў другія, а там далей і няведама, хто гоніць і куды гоніць".

Мікіце Зносаку вярэдзіць зусім не сумніўнасць статусу "грамадзяніна Памежжа" ў эпоху міжчасся; яго бянтэжыць няпэўнасць наступстваў таго, што жыццё набывае

форму мітынгу: "Мітынг – гэта тое з вушамі таварыства, дзе аратарыць буду я, а слухаць будуць яны, і крычаць будуць: віват, рэгістратар Зносілов! – калі іх па шэрсці пагладжу, і – далоў, рэгістратар Зносілов! – калі пагладжу іх проці шэрсці, между протчым". Зносак ва ўспрыманні чытача (і гледача сцэнічных ўвасабленняў п'есы) ачольвае ўмоўную групу персанажаў, што атаясамліваюцца з "тутэйшымі" як увасабленнем прыстасавальніцтва, пасіўнасці, што персаніфікавалі "ідэю маральна-духоўнай зніжанасці ў сістэме жыццёвых уяўленняў". Аднак і Янка Здольнік, на думку В. Каваленкі, не пазбаўлены заган, з якіх сатканы вобраз Зносака. Напрыканцы 1980-х даследчык зазначаў: "Здольнік і Аленка – такія ж «тутэйшыя», як і ўсе іншыя персанажы п'есы, толькі ступень сатырычнай і крытычнай характарыстыкі розная".

Аднак ужо з другой паловы 1980-х і асабліва ў 2000-х ідэйна-семантычная маналітнасць успрымання вобраза-канцэпту *тутэйшасці* ў пэўным сэнсе расхістваецца, пра што сведчаць і дыяметральна супрацьлеглыя яе інтэрпрэтацыі. Так, С. Дрозд вызначае ў якасці галоўных прыкмет *тутэйшасці* талерантнасць характару, працавітасць, павышаную філасафічнасць, этнаграфічную самабытнасць, рэлігійны плюралізм, яркі моўны каларыт. Але найважнейшая, на яго думку, асаблівасць *тутэйшасці* – "яе імунна-абарончы менталітэт, прыродны і набыты. <...> У тутэйшасці – вытокі нашай грамадзянскасці". У той жа час А. Каўка трактуе панаванне "міфічнай тутэйшасці" як "фактычную адсутнасць" Беларусі. А па па версіі П. Васючэнкі (сярэдзіны "нулявых") *тутэйшасць* купалавых герояў канцэптуалізуе ў мастацкім творы здрадніцтва як спосаб ментальнага прыстасавання да хранатопу *паміжжа*: "У «Тутэйшых» Янкі Купалы ўсе чыста адзін аднаго здраджваюць. Мікіта Зносак прапануе «гэру» германцу сваю «мамашу» замест сябе. Потым здае чырвонаармейца ў польскую паліцыю. У фінале твора гэр Спічыні здасць камісарам свайго вучня... Сведамы Янка Здольнік таксама Мікіту Зносака здаў – не падтрымаў яго ў жаданні вучыць беларускую мову й стацца праўдзівым беларусам. Завядзёнка «тутэйшых» – кагосьці здаваць (здраджваць)".

А. Пяршай, не ўнікаючы агледзін меркаванняў айчынных і замежных гісторыкаў, філосафаў, культуролагаў, палітолагаў, фармулюе ўласны погляд на *тутэйшасць*: іншая форма "нацыянальнай" ідэнтычнасці, яна "ўказвае не на «дакладнасць» вызначэння і пазнавання нацыі, а на сувязь прадстаўнікоў гэтай нацыі з іх «геаграфіяй» – унікальным спалучэннем гістарычных, сацыякультурных і палітычных абставін, што вызначаюць лад рэчаў у канкрэтным рэгіёне". Там, дзе літаратуразнаўцы найчасцей натыкаюцца на пагрозу *беларушчыне*, аўтар цытаванай працы адшуквае ўмову вітальнасці, жыццяздольнасці, умову і вытак самой *беларушчыны*. Нас у дадзеным выпадку будзе цікавіць не столькі гістарычны ці геапалітычны аспект праблемы, колькі ментальныя спосабы арыентацыі ў сітуацыі дынамічнага, вірападобнага "скрыжавання" – і іх "пераклад" на мову мастацкай літаратуры. Інакш кажучы, нашу ўвагу прыцягваюць *вынікі трансфармацыі этнакультурнага канцэпту ў мастацкі вобраз-канцэпт.*

Вытокі *тутэйшасці* як этнакультурнага канцэпту трывала звязваюцца сучаснымі даследчыкамі з феноменам "лакальнасці". Фарміраванне новай інфармацыйнай рэальнасці абумовіла глыбінныя аксіялагічныя трансфармацыі самога разумення рэчаіснасці, што вядзе, у сваю чаргу, да парадыгмальных трансфармацый культуры. Бытанскі сацыёлаг Э. Гідэнс у межах сваёй канцэпцыі сучаснасці ўказвае на канфлікт паміж найноўшымі тэхналогіямі камунікацыі і ростам патрэб у лакальнай аўтаноміі ды культурнай ідэнтычнасці, звязанай з паняццем традыцыі як прадуктам бесперарыўнай інтэрпрэтацыі, што звязвае сучаснасць з мінулым.

Агульнакультурныя зрухі ў "глакальным (глабальны+лакальны) свеце" прывялі да актывізацыі працэсаў мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі беларускай нацыянальнай літаратуры ў якасці рэакцыі на маштабны крызіс яе ідэнтычнасці

(аксіялагічнай, экзістэнцыйнай, эстэтычнай, etc.). У прасторы найноўшай мастацкай славеснасці фармулюецца адмысловая *сэнсаформа* існавання і самой літаратуры, і аўтэнтычнай культуры ў цэлым: размова ідзе пра своеасаблівае "між-быццё", быццё ў бясконцым міжчассі і на непераадольным памежжы. "Беларусы здаўна прызвычаіліся да існавання "паміж", спакушаючы сваёй адкрытасцю і Захад, і Усход", – заўважае літаратуразнаўца І. Афанасьеў. Паводле ж філосафа В. Акудовіча, "«тутэйшасць» не ведае мяжы, таму "яна і не ведае нацыянальнасці ў яе ідэнтыфікацыйным значэнні". *Тутэйшасць* у логіцы гэтых разваг як бы адмяняе неабходнасць (сама)ідэнтыфікацыі (ці, прынамсі, аслабляе фатальнасць пошукаў ідэнтычнасці). Неабходнасць, якая напрыканцы XX – напачатку XXI стагоддзяў ператварылася для беларускіх літаратараў розных пакаленняў у... жарсць, а ў некаторых выпадках – у праклён. Цікава, аднак, што персаніфікуецца *тутэйшасць* у творах найноўшай беларускай літаратуры не ў мастацкіх структурах дзеяння (бяздзеяння), звязанага з пошукамі "ўласных межаў", але ў вобразах-локусах з даволі выразнымі контурамі:

Ня горшы час, ня горшы лёс
і ёсьць свабода ў межах гета.
На руб спыняецца манета,
і сьлёз тваіх шкада да сьлёз.

*У. Сцебурака.*

Звяртаючыся да азначэння А. Пяршаем *тутэйшасці* як іншай формы нацыянальнай ідэнтычнасці, мусім удакладніць: мастацкія ўрэчаўленні *тутэйшасці* адсылаюць не столькі да рэальнай тапаграфіі Беларусі, колькі да *геаграфіі абставін*. Л. Дранько-Майсюк у паэме "Ірландыя" (1999) акрэсліў нібыта відавочныя "межы межаў" *тутэйшасці*: "Расія клікала, – я не хацеў туды, // Прыеліся імперскія прысмакі; // Не правакуючы нервовае нуды, // Маўчала Польшча – малайцы, палякі". Праз дзесяцігоддзе межы паступова пачынаюць замяшчаць сабою ўласна прастору (згадаем колішняе "сціскаецца прастора, // як сіло" А. Разанава).

Калі разглядаць прыгожае пісьменства пачатку XXI стагоддзя не як *найбелліт*, пераемніка *сучбелліту*, а як складана арганізаваную сістэму, чыннікамі якой з'яўляюцца не толькі паэтычныя, празаічныя, драматычныя творы, эсэістыка, літаратурна-крытычныя публікацыі і літаратуразнаўчыя даследаванні, але і калялітаратурныя падзеі, праекты, канфлікты, супрацьстаянні і да т. п., то можна заўважыць цікавую рэч: канцэптавая тапаграфія мастацкай славеснасці ў спецыфічнай праекцыі **аднаўляе атлас *тутэйшасці* як контурную карту *беларушчыны*.**

У межах літаратурнага працэсу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя паступова акрэсліваецца своеасаблівая ("самаарганізаваная") стратэгія пераадолення крызісу мастацкай ідэнтычнасці. Галоўным вектарам гэтай стратэгіі становіцца рэміфалагізацыя *беларушчыны* як ключавога канцэпту нацыянальнага Міфа. Грунтам згаданай рэміфалагізацыі з'яўляецца актуалізацыя (у творах самых розных аўтараў: Р. Барадуліна, А. Разанава, Р. Баравіковай, В. Казько, К. Тарасава, У. Арлова, Ф. Сіўко, Л. Дранько-Майсюка, П. Васючэнкі, С. Кавалёва, Л. Рублеўскай, І. Бабкова, А. Аркуша, А. Федарэнкі, А. Наварыча, А. Казлова, С. Балахонава і інш.) канцэптаў, вобразаў, артэфактаў нацыянальнай культуры, традыцыйнай, класічнай і сучаснай.

Рэміфалагізацыя аказваецца, бадай, найбольш устойлівай платформай для выштукоўвання рацыянальнага бачання перспектыў нацыянальнага быцця. Звязана гэта з тым, што розныя выявы *тутэйшасці* напачатку XXI стагоддзя аказаліся функцыянальна запатрабаванымі і як ступені разгортвання канцэпту Беларускага Дома. Яшчэ адна сустрэча вытока і вусця.

У найноўшай беларускай літаратуры формай, спосабам існавання *тутэйшасці* ёсць партызаншчына: наўпростава ў мастацкіх тэкстах гэты вобраз-канцэпт урэчаўляецца (вербалізуецца, уцялесніваецца ў словавобразах) адносна нячаста. Пры гэтым у каардынатах беларускага літаратурнага працэсу другой паловы 1990-х – 2000-х гадоў *тутэйшасць* як вобраз-канцэпт выяўляе відавочную ўнутраную супярэчлівасць.

З аднаго боку, ён актуалізуецца ў ключы стэрэатыпным, асвечаным, так бы мовіць, традыцыяй паблажліва-пагардлівага ці паблажліва-іранічнага стаўлення да ўсяго, што *тут*:

Сьвінафермы, ангары – някідкі той фон,
што знутры вырывае прыглушаны стогн,
натуральны ў тутэйшых шыротах.
Кожны ночны ліхтар – нібы казачны эльф.
Непаўторны палескі жаночы рэльеф
пазбаўляе спакою і цноты.

*С. Прылуцкі.*

Эстэтызацыя "антыпаэтычнага" ў тэкстах С. Прылуцкага зусім не выпадковая, калі браць пад увагу тую скрупулёзнасць, з якой аўтар аднаўляе не толькі атмасферу 1990-х, але і іх сімвалічны ландшафт. Гэты "ландшафт", як бы дзіўна тое ні гучала ў дачыненні да паэзіі С. Прылуцкага, выдатна ўпісваецца ў *геаграфію абставін* класічнай *тутэйшасці* (© Янка Купала).

У літаратурнай прасторы пачатку XXI стагоддзя адзнакі "класічнай" *тутэйшасці* (як традыцыйныя, спадчынныя заганы) паступова змякчаюцца, страчваюць вастрыню; іх бясспрэчнасць як бы размываецца. У мастацкіх тэкстах індывідуальна-аўтарскі вобраз і нацыянальны канцэпт узаемна прарастаюць адзін у адным – і адзін адным прырастаюць: згадаем паэзію М. Купрэева ("Правінцыйныя фантазіі"), Л. Галубовіча ("Апошнія вершы Леаніда Галубовіча"), А. Глобуса ("Новае неба"), В. Слінкі ("Арахна"); паэзію, прозу ("Горад Боны і Давіда") Л. Дранько-Майсюка (і ягоную ж прозапаэзію – паэму "Аляксей Нічыпорка і Рудольф Гес"); прозу В. Казько ("Сказ пра аднавокую казу Цылю", "Сказ пра ката, які смяяўся"), А. Федарэнкі ("Нічые"), В. Мудрова ("Тузік і Кузік"), У. Сцяпана ("Дзед"), А. Наварыча ("Антонік", "Літоўскі воўк"), С. Рублеўскага ("Азярод", "Святло лускі"), Н. Бабінай ("Рыбін горад"), А. Брава ("Імя Ценю – Святло") і інш.

Цікава, як пашыраецца спектр увасабленняў *тутэйшасці* ў прозе апошніх двух дзесяцігоддзяў: ён улучае як сімвалы, што набліжаюцца да іканічных знакаў ("Шабаны" А. Бахарэвіча, "Сфагнум" В. Марціновіча), так і разгорнутыя сімвалічныя метафары ("Пуціна" Б. Пятровіча, "Угліс" Ф. Сіўко, "Любіць ноч права пацукоў" Ю. Станкевіча і інш.). Адны і тыя ж вобразы-локусы ў творах сучасных празаікаў могуць паўставаць увасабленнямі розных модусаў *тутэйшасці*: варта прыгледзецца ў адпаведным аспекце, напрыклад, да мастацкага ландшафту "Малой падарожнай кніжкі па Горадзе Сонца" А. Клінава – і "Праклятых гасцей сталіцы" А. Бахарэвіча; да пейзажу "гэпэ" ў навелах У. Сцяпана і вобраза правінцыйнага гарадка ў прозе Ю. Станкевіча. У якасці нейтральнага (у ацэначным сэнсе) пункта адліку можна ўважаць персаніфікацыю *тутэйшасці* ў "Духу сярэдзіны", які "жыве ня толькі ў Японіі, лунае ён і над Беларусьсю". Ён вымагае беларускага літаратара ўчэпіста трымацца "каранямі" і "кронаю" за *тутэйшасць* як за самасць. Але менавіта Дух сярэдзіны абвастрае адчуванне "знікомасці", у пэўным сэнсе – фантомнасці тутэйшага быцця: "Для чалавека, што жыве ў цывілізаваным грамадзтве, Айчына – гэта ўсё, што *ёсьць*... Для цывілізаванага беларуса Айчына – гэта, найперш, тое, чаго *няма*... <...> Я – беларус. Ну, што ж, такая ўжо мая доля..." (Л. Галубовіч, "Зацемкі з левай кішэні").

Надзвычай паказальным у дачыненні да таго, што адбываецца з *тутэйшасцю* ў прасторы калялітаратурнай, бачыцца заклік крытыка П. Абрамовіча “да ста гадоў маўчання”: “На нашых вачах знікае, ператвараецца ў попел маральны аўтарытэт нацыянальнай літаратуры, і самі пісьменнікі ўжо не здольныя абараніць свае ідэалы, абгрунтаваць уласнае эстэтычнае крэда, пераканаць чытачоў у жыццёвай неабходнасці сваіх твораў ці хаця б проста стаць на непрацяглы час нашымі цікавымі суразмоўцамі. <...> Трэба, каб у Беларусі нарэшце запанавалі сто гадоў літаратурнай адзіноты, каб пісьменнікі сыйшлі на свае ўнутраныя выспы, больш не пілі «горкую» з журналістамі і крытыкамі, не ляцелі на зманлівае святло хуткаплынных літаратурных прэміяў і тусовак, не прагнулі як мага хутчэй аддаваць у друк свае творы, а напісалі штосьці і схавалі ў стол. Толькі так можа адбыцца трыумф беларускай літаратуры, яе павяртанне да чытача”. У літаратурным кантэксце пачатку XXI стагоддзя выразнікам *тутэйшасці* становіцца не **моўкнасць**, але **маўчанне**. Маўчанне пачынае ўспрымацца не як адмова ад маўлення (асобаснага ці нацыянальнага), але як метапрамаўленне сябе ў нацыянальным (згадаем, напрыклад, зборнік “З гэтага свету: вершы пасля вершаў” Л. Галубовіча ці кнігу А. Дуброўскага-Сарочанкі “Эстэтыка маўчання”).

Яшчэ адна цікавая калізія ў авантурах *тутэйшасці* на прасторах най(-цікавейшага) белліту: цягам апошняга дзесяцігоддзя вобраз-канцэпт пачаў набываць вагу і функцыі міфалагемы. Прычым асэнсаванне (наўпроставае і ўскосна-алюзійнае) гэтага феномена перамясцілася са сферы ўласна мастацкай славеснасці ў прастору культурасофскай эсэістыкі (тэксты В. Акудовіча, Я. Рагіна, С. Дубаўца, Ю. Барысевіча, І. Бабкова і інш.).

А вось у найноўшай версіфікацыі вобраз-канцэпт рэдукуецца да іканічных знакаў:

...Мы пакаленьне Ы!
Мы — homo posttutejshy.
Мы — эўрапейскасьць гейшы.
Кожны чацьверты — першы,
бо нас ратуюць вершы.
Мы пакаленьне Ы!
<...>
Мы пакаленьне “Ы!”:
мы — дрыгавіцкі драйф,
мы ўсе — ліцьвінскі лайф,
мы ўсе — крывіцкі кайф.
Мы пакаленьне “Ы!”

Гэты тэкст В. Куставай *“Посттутэйшыя, або Пакаленне “Ы”* быў размешчаны ў маі 2007 года на форуме www.litara.net. Гэты тэкст, дзе ў эпіцэнтры маніпуляцый аказваецца так званая перыферыя вобраза-канцэпту, уяўляе цікавасць найперш як аб’ект назірання за тым, якім чынам актуальны слой канцэпту (яго складаюць сучасныя асацыяцыі, інтэрпрэтацыі) здольны ўплываць на ядро *тутэйшасці*. Калі меркаваць і па колішняй рэакцыі наведвальнікаў згаданага рэсурсу, і паводле сённяшняй (нон)рэцэпцыі гэтага тэксту, ядро *тутэйшасці* – у бяспецы (недасягальнае для ўплываў найноўшай актуальнасці). Наколькі нам вядома, у апошнюю пяцігодку такіх наўпроставых замахаў “запосьціць у пісьмёны” (© Валярына Кустава) *тутэйшасць* не рабілася.

*

Такім чынам, сінопсіс трансфармацый (авантур) *тутэйшасці* ў беларускай літаратурна-мастацкай прасторы найноўшае пары можа выглядаць наступным чынам.

***Тутэйшасць*** – гэта і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц, то бок наша ўсё. Тэарэтыкам літаратуры з'яўляецца ў выглядзе *вобраза-канцэпту*; практыкам – у самых розных абліччах (ад хтанічных да эратычных); шырокай грамадскасці – у жахлівых снах.

Да сярэдзіны 1980-х была "персанажам" адмоўным. Найчасцей. Часам надзялялася рысамі трагедыйнасці; часам – неўразумеласці, недавыяўленасці.

Часткова рэабілітаваная ў даследаваннях гісторыка-культурных, а таксама ў філасофскіх працах 1990-х – 2000-х гадоў.

У найноўшай літаратурна-мастацкай прасторы *тутэйшасць* набыла адзнакі вобраза-канцэпту; ёй уласцівы ўплывовасць і няўлоўнасць адначасова. Найчасцей урэчаўляецца ў іканічных вобразах-локусах (балота, гета, рэзервацыя і г.д.).

Форма існавання ў літпрасторы пачатку XXI стагоддзя – партызаншчына. Натура – супярэчлівая.

Патэнцыял – творчая (у шырокім кантэксце – сацыяльным, культурным, мастацкім) выбуховасць; недаацэнены.

Найбліжэйшая перспектыва *тутэйшасці* ў мастацкай славеснасці – усё тая ж утульная партызаншчына.



Эмануіл Іофе



...больш за 6 тысяч ахвяраў Асвенцыма складалі беларусы...

# На самой справе, гэта крывавыя землі!

***Рэцэнзія на кнігу Тымаці Снайдэра***

***Тымаці Снайдэр. Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным / Пераклад з англійскай мовы Сяргея Петрыкевіча; навуковыя рэдактары Генадзь Сагановіч і Уладзімір Калаткоў. — Мінск: Медысонт, 2013. – 640 с.***

Кніга Тымаці Снайдэра “Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным” была ўпершыню выдадзена ў Нью-Ёрку ў 2010-м годзе на англійскай мове. Праз тры гады, у 2013 годзе, яе выдалі ў мінскім выдавецтве “Медысонт” у перакладзе на беларускую мову.

Некаторыя чытачы могуць сказаць: “Па гэтай тэме так шмат напісана! Што тут можна дадаць новага?”

Адразу можна адказаць, што рэцэнзаваная кніга прымушае па-новаму паглядзець на два трагічныя дзесяцігоддзі гісторыі Еўропы – 1930-я – 1940-я гады. І ў гэтым сэнсе яна пэўным чынам унікальная.

Па-першае, у гэтым выданні адлюстравана вялікая панарама злачынстваў, учыненых нацысцкім і савецкім рэжымамі на




“крывавых землях” – у Беларусі, Польшчы, Прыбалтыцы і Украіне, дзе з 1933 па 1945 год было загублена 14 млн. чалавек. На падставе шырокага корпусу дакументальных сведчанняў і спецыяльнай літаратуры аўтар даследуе матывы і метады дзеянняў абодвух дыктатараў, вызначае колькасць іх ахвяраў і ставіць нямала складаных пытанняў.

Кожнага чытача не пакінуць абыякавым і выклічуць роздум думкі Тымаці Снайдэра, выказаныя ім у прадмове кнігі:

“У цэнтры Еўропы ў сярэдзіне XX ст. нацысцкі і савецкі рэжым знішчылі каля 14 млн. чалавек. Абшар, дзе памерлі ўсе гэтыя ахвяры, цягнецца ад Цэнтральнай Польшчы да еўрапейскай часткі Расіі і ўключае ў сябе тэрыторыю Украіны, Беларусі і краін Балтыі. У перыяд станаўлення нацыянал-сацыялізму і сталінізму (1933-1938), супольнай нямецка-савецкай акупацыі Польшчы (1939-1941), а пасля нямецка-савецкай вайны (1941-1945) гэты рэгіён сутыкнуўся з нябачаным раней у гісторыі масавым гвалтам. Ахвярамі яго былі ў асноўным яўрэі, беларусы, украінцы, палякі, рускія і прыбалты – спрадвечныя насельнікі гэтых земляў. Чатырнаццаць мільёнаў былі знішчаны ўсяго за дванаццаць гадоў, у 1933-1945 г., калі Гітлер і Сталін адначасова былі на вяршыні ўлады... Большасць з іх складалі жанчыны, дзеці і пажылыя людзі, ніхто не валодаў зброяй, а шмат хто быў наогул пазбаўлены маёмасці і адзення”.

Больш лаканічна гэтую думку аўтар кнігі выказаў у раздзеле “Лічбы і тэрміны”: “Пад “крывавымі землямі” я разумею тэрыторыі, якія ў той ці іншы перыяд паміж 1933-1945 гг. зведалі на сабе як нямецкую, так і савецкую ўладу, кожная з якіх ажыццяўляла тут свае рэпрэсіўныя захады. Акурат тут у 1941-1945 гг. немцы здзяйснялі найбольш масавыя забойствы яўрэяў”.

Па-другое, прыемна здзіўляе якасць і колькасць выкарыстаных крыніцаў. Гэта тры варшаўскія архівы (Архіў новых актаў, Усходні архіў цэнтра “Хартыя”, Цэнтральны ваенны архіў), матэрыялы Інстытута нацыянальнай памяці і Яўрэйскага гістарычнага інстытута, якія размешчаныя ў Варшаве, два лонданскія архівы (Архіў Польскага музея і Цэнтр даследаванняў польскага падполля), Ваенны архіў у Фрайбургу і матэрыялы Інстытута сучаснай гісторыі ў Мюнхене (Германія), два амерыканскія архівы (Відэаархіў сведчанняў Халакосту памяці А. Фартунафа, Ельскі ўніверсітэт і архіў Гувераўскага інстытута Стэнфардскага ўніверсітэта), Мемарыяльны музей Халакосту ў Вашынгтоне, два расійскія архівы (Архіў замежнай палітыкі Расійскай Федэрацыі і Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі) і два ўкраінскія архівы (Цэнтральны дзяржаўны архіў вышэйшых органаў улады і кіравання ў Кіеве і Дзяржаўны архіў Ровенскай вобласці), велізарная колькасць кніг (у тым ліку зборнікаў дакументаў), часопісных і газетных артыкулаў на розных мовах. Цяжка нават уявіць, што бібліяграфія рэцэнзаванага выдання складае 47 старонак!

Па-трэцяе, дэталёвы аналіз папярэдняй літаратуры дазваляе зрабіць выснову, што дагэтуль ні ў адной кнізе, не лічачы энцыклапедый, не было такога шырокага ахопу падзеяў і тэмаў. Адзінаццаць раздзелаў гэтага выдання разглядаюць голад у СССР, класавы тэрор, нацыянальны тэрор, Еўропу Молатава-Рыбентропа, эканоміку Апакаліпсісу, канчатковае вырашэнне яўрэйскага пытання, Халакост і адплату, нацысцкія фабрыкі смерці, Супраціўленне і спапяленне, этнічныя чысткі, сталінскі антысемітызм.

Па-чацвёртае, у адрозненне ад папярэдніх даследчыкаў Тымаці Снайдэр арыгінальна разглядае праблему “Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным”. Ён адзначае:

“Вытокі нацысцкага і савецкага рэжымаў, гэтак жа, як і іх сутычкі на “крывавых землях”, ляжаць у Першай сусветнай вайне 1914-1918 гг.

Крах старой Расійскай імперыі і паражэнне старой Нямецкай імперыі стварылі ва Усходняй Еўропе вакуум улады, якога бальшавікі, як ні стараліся, не маглі запоўніць...

Разгром палякамі Чырвонай Арміі пад Варшавай у жніўні 1920 г. палажыў (больш дакладны пераклад – "паклаў" – *Э. І.*) канец надзеям на сацыялістычную рэвалюцыю ў Еўропе. Дагавор паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, падпісаны ў Рызе ў сакавіку 1921 г., пазначыў сабой сапраўднае завяршэнне пасляваеннага ўладкавання. Дагавор вызначыў усходнюю мяжу Польшчы, замацаваў падзел украінскіх і беларускіх земляў, што стала яблыкам разладу на доўгія гады, а таксама паклаў пачатак пераўтварэння бальшавізму з рэвалюцыйнай дактрыны ў дзяржаўную ідэалогію... Нямецкім ультраправым давялося пераасэнсаваць канец пасля ваеннага парадку як інтарэс толькі адной Нямеччыны, які можа быць дасягнуты па меры таго, як адродзіцца і расквітнее сама Нямеччына.

...Пасля таго, як ваенныя дзеянні ў Еўропе спыніліся, нямецкі ўрад хутка знайшоў агульную мову з Савецкім Саюзам. Урэшце, і Берлін, і Масква хацелі памяняць усталяваны еўрапейскі парадак за кошт Польшчы. Абодва бакі імкнуліся пераадолець міжнародную ізаляцыю. Вось чаму дэмакратычны нямецкі ўрад у 1922 г. заключыў з Савецкім Саюзам Рапальскі дагавор...

Пазней, атрымаўшы пасаду рэйхсканцлера Нямеччыны, Гітлер падпісаў з Савецкім Саюзам дагавор, які прадугледжваў падзел Польшчы. Тым самым ён давёў да крайнасці ідэю, якую падзяляла шмат немцаў – аб тым, што польска-нямецкая мяжа несправядлівая, а польскі народ не заслугоўвае ўласнай дзяржаўнасці...

Сталін прыйшоў да ўлады ў другой палове 1920-х гг. у вялікай ступені дзякуючы кадрам, якія ён сам прызначыў і сярод якіх мог разлічваць на падтрымку. Гітлер заваяваў падтрымку дзякуючы асабістай харызме і чакаў ад сваіх паплечнікаў і прыхільнікаў такой палітыкі і рыторыкі, якія б найлепш адпавядалі ягонай рыторыцы і светапогляду...

У 1933 г. агульнай рысай савецкага і нацыскага ўрадаў стала іх здольнасць знайсці адказ на сусветны эканамічны крызіс...

Гітлер і Сталін прыйшлі да ўлады ў Берліне і Маскве, але распрацаваныя імі планы пераўтварэнняў датычыліся перш за ўсё тэрыторый пасярэдзіне".

Па-пятае, бадай, ніхто з гісторыкаў так яскрава не раскрыў падабенства нацысцкай і савецкай сістэмаў, як гэта зрабіў амерыканскі гісторык Тымаці Снайдэр. Ён умела і папулярна акцэнтаваў увагу чытачоў на прыклады гэтых падабенстваў. А цяпер удумаемся ў наступныя радкі:

"Толькі поўнае ўсведамленне падабенстваў паміж нацысцкай і савецкай сістэмамі дазваляе зразумець іх адрозненні. Абедзве ідэалогіі процістаялі лібералізму і дэмакратыі. У абедзвюх палітычных сістэмах было перакручана навыварат значэнне слова партыя: замест адной са шматлікіх груп, якія змагаюцца за ўладу паводле агульнапрынятых правілаў, яно пачало адзначаць групу, якая вызначае правілы. І нацысцкая Нямеччына, і Савецкі Саюз былі аднапартыйным дзяржавамі. І ў нацысцкай, і ў савецкай палітычнай сістэме партыя адыгрывала ключавую ролю ў сферы ідэалогіі і грамадскай дысцыпліны. Палітычная логіка абедзвюх сістэм патрабавала пазбаўлення ад аутсайдараў, а эканамічныя эліты і там, і там былі пераканы, што пэўныя групы залішнія ці шкодныя. У абедзвюх дзяржавах людзі, якія займаліся эканамічным планаваннем, былі схільныя лічыць залішняй колькасць свайго сельскага насельніцтва. Сталінская калектывізацыя была заклікана выціснуць лішніх сялян з вёскі і пераразмеркаваць іх у гарады або ў ГУЛаг. Нават калі яны паміралі ад голаду, гэта не мела асаблівага значэння. Гітлераўская каланізацыя прадугледжвала галодную смерць і дэпартацыю дзясяткаў мільёнаў людзей (у спасылцы аўтар кнігі падкрэсліў, што грунтоўнае абмеркаванне маральнага боку аграрнага пытання ў яго розных праявах і яго сувязі з генацыдам ажыццявіў Бэн Кінан – *Э. І.*).

Як савецкая, так і нацысцкая палітэканамічныя сістэмы абапіраліся на калектыўныя структуры, пры дапамозе якіх ажыццяўляўся кантроль над сацыяльнымі групамі і адбіранне іх рэсурсаў...

Сталін не менш за Гітлера гаварыў пра ліквідацыі і чысткі...

Савецкая сістэма была найбольш крыважэрнай, пакуль Савецкі Саюз не ваяваў. Нацысты ж, наадварот, да пачатку вайны забілі не больш як некалькі тысяч чалавек. Аднак у ходзе сваёй захопніцкай вайны Нямеччына знішчыла мільёны людзей хутчэй, чым любая іншая дзяржава ў гісторыі (на той момант)...

Параўнанне дзвюх сістэм і іх лідэраў пачалося з моманту прыхода да ўлады Гітлера...

Пераўтварэнні, прадугледжаныя Сталіным і Гітлерам, шмат у чым насілі эканамічны характар, і вынікі эканамічнай палітыкі кожнага з "правадыроў" найбольш балюча адчуваліся на "крывавых землях".

Па-шостае, амерыканскі прафесар Тымаці Снайдэр унёс істотны ўклад у даследаванні Халакосту на крывавых землях. Гэта адна з цэнтральных тэмаў рэцэнзаванай кнігі. Асабліва падрабязна гэтая праблема разгледжана ў шостым раздзеле "Канчатковае вырашэнне яўрэйскага пытання" і сёмым раздзеле "Халакост і адплата".

Новы падыход аўтара пачынаецца са сцвярджэння, што "праз шэсць месяцаў пасля пачатку аперацыі "Барбароса" Гітлер перафармуліраваў свае мэты такім чынам, што фізічнае знішчэнне яўрэяў выступіла на першы план". На той час яго найбліжэйшыя паплечнікі зрабілі шэраг ідэалагічных і адміністрацыйных крокаў, неабходных для рэалізацыі такога рашэння.

Савецкія масавыя забойствы, лічыць Т. Снайдэр, давалі немцам пажыўную глебу для прапаганды. Нацысты сцвярджалі, што ў пакутах пры савецкай уладзе былі вінаватыя яўрэі, і такая трактоўка знаходзіла свой водгук. Нават без нямецкай агітацыі (а тым больш пад яе ўплывам) многія людзі ў міжваеннай Еўропе асацыявалі яўрэяў з камунізмам.

Вельмі важна, што аўтар кнігі акцэнтуе ўвагу чытачоў, што па ўсёй дузе, якая распасціралася ад Балтыйскага да Чорнага мора, канец чэрвеня – першая палова ліпеня 1941 года былі адзначаны масавым гвалтам у дачыненні да яўрэяў. У адрозненне ад некаторых аўтараў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў у Літве і Латвіі, ён адзначае, што ў гэтых рэспубліках немцы маглі абаперціся на мясцовых нацыяналістаў і хоць на нейкі час выдаць сябе за вызваліцеляў гэтых дзяржаў. У выніку плён ад прапаганды быў большы, а ўдзел мясцовага насельніцтва ў пагромах і забойствах яўрэяў больш значны.

Ацэньваючы Халакост на тэрыторыі Заходняй Украіны, Т. Снайдэр слушна заўважае: "Варта ўлічваць яшчэ тое, што насілле супраць яўрэяў збліжала мясцовае неяўрэйскае насельніцтва з немцамі. Гнеў, як і хацелі немцы, скіроўваўся супраць яўрэяў, а не супраць пасобнікаў савецкай улады наогул".

Даследуючы правядзенне Халакоста на беларускай зямлі, аўтар кнігі звяртае ўвагу чытачоў, што ў кастрычніку 1942 года Магілёў стаў першым буйным беларускім горадам, дзе былі забіты амаль усе яўрэі... 2-3 кастрычніка 1941 г. немцы (пры падтрымцы атрадаў дапаможнай паліцыі з Украіны) расстралялі ў Магілёве 2 273 мужчын, жанчын і дзяцей. 19 кастрычніка былі забітыя яшчэ 3 726 гараджан.

Ён даказвае, што на Беларусі нямецкія вайскоўцы мелі наўпроставы загад забіваць жанчын і дзяцей. Гэты загад быў аддадзены Эрыхам фон дэм Бахам, обергрупенфюрэрам СС і генералам паліцыі ў "Цэнтральнай Расіі" – тэрыторыі ў тыле групы армій "Цэнтр". Бах, якога Гітлер называў "чалавекам, здольным пераплысці цераз мора крыві" (даецца спасылка на кнігу К. Герлаха "Калькуляцыя смерці" – *Э. І.*), быў прамым прадстаўніком Гімлера і, зразумела, дзейнічаў у адпаведнасці з яго пажаданнямі.

Т. Снайдэр бачыць непасрэдную сувязь паміж дэпартацыяй савецкіх немцаў у Казахстан у жніўні-верасні 1941 года і пачаткам дэпартацыі нямецкіх яўрэяў на ўсход у кастрычніку-лістападзе 1941 года. Менавіта 28 жніўня 1941 года Сталін выдаў загад дэпартаваць да сярэдзіны верасня ў Казахстан 438 700 савецкіх немцаў – пераважна жыхароў АССР немцаў Паволжа. Сваёй імклівасцю, эфектыўнасцю і тэрытарыяльным размахам адзін гэты ўчынак Сталіна пераўтвараў у насмешку ўсе тыя нясмелыя і супярэчлівыя дэпартацыйныя акцыі, якія немцы праводзілі ў папярэднія два гады. У сярэдзіне верасня 1941 года ў адказ на гэты выклік Сталіна Гітлер прыняў вельмі неадназначнае рашэнне аб высылцы нямецкіх яўрэяў на ўсход. Менавіта ў кастрычніку-лістападзе 1941 года немцы пачалі дэпартаваць нямецкіх яўрэяў у Мінск, Рыгу, Коўна і Лодзь.

У сувязі з гэтым аўтар кнігі піша: "Дагэтуль нямецкіх яўрэяў пазбаўлялі грамадзянскіх правоў і ўласнасці, але амаль ніколі – жыцця. Цяпер яны высылаліся (хоць і без адмысловага загаду аб забойстве) туды, дзе яўрэяў расстрэльвалі дзясяткамі тысяч. Магчыма, гэта была помста Гітлера. Ён не мог заўважыць таго, што Волга так і не стала нямецкай Місісіпі...

Цалкам магчыма, што Гітлер пачаў дэпартацыю нямецкіх яўрэяў таму, што верыў або хацеў прымусіць іншых паверыць, што аперацыя "Тайфун" – другі наступ на Маскву, які пачаўся ў кастрычніку 1941 г., – прывядзе вайну да пераможнага канца".

Тымаці Снайдэра па праву можна назваць гісторыкам-аналітыкам праблемы "канчатковага вырашэння яўрэйскага пытання", дакладней лёсу дэпартаваных яўрэяў з розных краінаў Еўропы на Усход. Аб гэтым сведчаць наступныя радкі рэцэнзаванай кнігі:

"Па меры таго, як ход вайны паварочваўся на карысць Сталіна, Гітлер мадыфікаваў свае ваенныя мэты. Паводле ранейшых планаў прадугледжвалася спачатку знішчыць Савецкі Саюз, а потым перайсці да ліквідацыі яўрэяў. Цяпер, пакуль знішчэнне Савецкага Саюза адкладалася на няпэўны час, сутнасцю вайны стала поўная ліквідацыя яўрэяў. Адгэтуль пагрозай уяўляліся не столькі славянскія масы і іх гіпатэтычныя патаемныя яўрэйскія ўладары, колькі самі яўрэі. У 1942 г. антыславянская прапаганда прыціхла, паколькі ўсё большая колькасць славян прыбывала на працу ў Трэці рэйх. Гітлераўскаму рашэнню забіваць яўрэяў, а не эксплуатаваць іх, відаць, паспрыяла адначасовае рашэнне эксплуатаваць славян – замест іх раней планавага знішчэння. Гэтыя крокі азначалі адмову ад большасці зыходных пунктаў, з якімі Гітлер пачынаў вайну, – хоць ён, вядома, так і не прызнаў гэтага...

На самой справе рашэнне аб забойстве яўрэяў якраз супярэчыла гэтай канцэпцыі, паколькі яно ўскосна цягнула за сабой прызнанне таго, што немцы ніколі не здолеюць апанаваць (больш правільным будзе пераклад – "ажыццяўляць" – *Э. І.*) кантроль над велізарнымі тэрыторыямі, неабходнымі для канчатковага вырашэння яўрэйскага пытання шляхам дэпартацый. У лагістычных адносінах масавыя забойствы – больш простая рэч, чым масавыя дэпартацыі. Вось чаму знішчэнне яўрэяў было адзінай магчымасцю для Гітлера спраўдзіць сваё прароцтва... Забойства яўрэяў было не столькі праявай, колькі сурагатам трыумфу. З канца ліпеня 1941 г. забойства яўрэяў тлумачылася тым, што надзеі на бліцкрыг не апраўдаліся. Са снежня 1941 г. узмацненне антынямецкага альянсу паставіла на парадак дня татальнае знішчэнне яўрэяў як нацыі".

Нельга не згадзіцца з аўтарам рэцэнзаванай кнігі, што пятай і фінальнай версіяй "канчатковага вырашэння" стала масавае знішчэнне. Сярод нацыстаў слова "перасяленне" пераўтварылася цяпер у своеасаблівы эўфемізм. Пасля гэтага "перасяленне" або "перасяленне на Усход" пачало азначаць масавае забойства.

Канстатуючы, што на працягу 1942 года немцы знішчылі большую частку

яўрэяў, што засталіся і знаходзіліся пад іх акупацыяй, Т. Снайдэр звяртае ўвагу на тое, што больш за ўсё часу працэс поўнай ліквідацыі яўрэяў заняў на землях, якія немцы захапілі ў першую чаргу.

Беларускім чытачам будзе цікава, што на думку аўтара кнігі, цэнтральнай арэнай процістаяння паміж нацысцкай Нямеччынай і Савецкім Саюзам была Беларусь. Яе гарады зрабіліся полем бітваў армій, якія наступалі і адступалі, яе мястэчкі – цэнтры яўрэйскага жыцця – былі знішчаныя Халакостам. Уся краіна была полем сімвалічнага змагання паміж Гітлерам і Сталіным, якое вялося не толькі сіламі салдатаў на франтах, партызанаў у лясах і паліцэйскіх над расстрэльнымі ямамі, але і прапагандыстамі ў Берліне ды Маскве, а таксама ў сталіцы рэспублікі – у Мінску.

Аб высокай кампетэнцыі і аб'ектыўнасці разгляду праблемы Халакоста ў рэцэнзаванай кнізе сведчаць наступныя радкі: "Савецкая ваенная гістарыяграфія ніколі не аддавала шмат увагі нацыскаму генацыду яўрэяў. З пункту гледжання Сталіна і яго паслядоўнікаў значэнне мелі не забойствы яўрэяў самі па сабе, а магчымасць іх палітычнай інтэрпрэтацыі. Акцэнтаванае нацыстамі атаясамліванне яўрэяў з камунізмам было не толькі элементам іх веры і падставай для масавых забойстваў, але яшчэ і прапагандысцкай зброяй супраць Савецкага Саюза. Калі савецкая дзяржава не больш чым яўрэйская імперыя, то тады, даводзілі нацысты, у пераважнай большасці савецкіх грамадзян няма ніякай рацыі абараняць яе. Такім чынам, у лістападзе 1941 г. Сталін падводзіў пад абарону СССР не толькі ваенную, але і ідэалагічную базу. Галоўны пастулат гэтай ідэалагічнай базы заключаўся ў тым, што Савецкі Саюз – гэта не яўрэйская дзяржава, як сцвярджалі нацысты, а дзяржава ўсіх савецкіх народаў, але перш за ўсё рускага. 7 лістапада (Т. Снайдэр мае на ўвазе першы яўрэйскі масавы пагром 7-8 лістапада 1941 года – *Э. І.*), калі яўрэі ў Мінску святочнай калонай маршыравалі да сваёй смерці, Сталін прымаў ваенны парад у Маскве. Каб узняць дух савецкіх грамадзян і данесці сваю веру ў перамогу да немцаў, Сталін нават адклікаў часці Чырвонай Арміі з іх абарончых пазіцый пад Масквой і прымусіў прайсці маршам па яе праспектах. У сваёй святочнай прамове ён заклікаў савецкіх людзей кіравацца прыкладам "нашых вялікіх продкаў", сярод якіх былі названыя імёны шасці дарэвалюцыйных герояў і палкаводцаў – спрэс рускіх. У хвіліну адчаю савецкі лідэр звярнуўся да рускага нацыяналізму.

Так Сталін асацыяваў сябе і свой народ з колішняй Расійскай імперыяй, якую ён толькі ўчора абвінаваціў у яўрэйскіх пагромах... Калі ж вайна была галоўным чынам вайной рускага народа, то што было рабіць з масавымі забойствамі яўрэяў?"

Заслугоўвае асобнай увагі і роздуму арыгінальная думка Т. Снайдэра: "Гітлераўскі публічны антысемітызм паставіў Сталіна, як і кіраўнікоў іншых дзяржаў Антыгітлераўскай кааліцыі, у досыць складанае становішча. Гітлер сцвярджаў, што саюзнікі ваююць за яўрэяў, а таму самі саюзнікі (асцерагаючыся, што з такім пунктам гледжання пагодзіцца іх уласнае насельніцтва) мусілі сцвярджаць, што яны ваююць за вызваленне прыгнечаных народаў (не робячы пры гэтым акцэнта на яўрэях). Сталінскі адказ на гітлераўскую прапаганду прадвызначыў характар усёй наступнай савецкай ваеннай гістарыяграфіі, якая ўсіх ахвяр нямецкага генацыду абагульнена называла "савецкімі грамадзянамі", але пры гэтым найпершае месца ў барацьбе супраць фашызму адводзіла рускаму народу".

Кніга Т. Снайдэра садзейнічае аднаўленню праўды пра аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфашысцкага падполля не толькі ў Мінскім гета, але і ва ўсім Мінску – Гірша Смоляра.

У 1992 годзе выйшла ў свет кніга беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук (у гады Вялікай Айчыннай вайны намесніка камандзіра Барысаўска-Бягомльскага партызанскага злучэння па разведцы і контрразведцы) Канстанціна

Дамарада “Партийное подполье и партизанское движение в Минской области. 1941-1944». У гэтай кнізе ёсць такія радкі:

«Не был Г. Смоляр и «героем подполья», каким обрисовал себя в некоторых своих публикациях и каким запечатлён в так называемых «протоколах «доппарткома», где он упоминается (под псевдонимами) четыре раза. Г. Смоляр оказался в гетто, по-видимому, не столько для организации борьбы против оккупантов и спасения населения, сколько для личного обогащения, вымогательства у своих сородичей с помощью членов юденрата драгоценностей (золота, американских долларов и т.п.) под благовидным предлогом оказания им помощи и освобождения из гетто» (Доморад К.И. Партийное подполье и партизанское движение в Минской области. 1941-1944. Минск, 1992. С. 149).

Упершыню ў гістарычнай літаратуры Т. Снайдэр на падставе аналізу шэрагу гістарычных крыніцаў, у тым ліку даследаванняў ізраільскага гісторыка Ш. Халяўскага, нямецкага гісторыка Б. К'яры і ўспамінаў самога Г. Смоляра, прыйшоў да такіх высноваў: “Незнаёмы з тутэйшымі палітычнымі парадкамі, польска-яўрэйскі камуніст Гірш Смоляр падштурхнуў мінскіх камуністаў і яўрэяў да дзеянняў. Незвычайнае спалучэнне савецкага і польскага вопыту дало яму здольнасць (і, магчыма, наіўнасць) не сядзець склаўшы рукі... Трапіўшы ў гета, ён пачаў ствараць тут падполле. Адначасова ён пераконваў Казінца, што павінна існаваць і агульнагарадское падполле. Казінец хацеў ведаць, каго прадстаўляе Смоляр; той шчыра адказаў яму, што за ім не стаіць ніхто, акрамя яго самога. Такі адказ тым не менш пераканаў Казінца, што Смоляр пасланы Масквой для работы пад глыбокім прыкрыццём. Абодва завадатары згуртавалі вакол сябе вялікую колькасць людзей, якія хацелі змагацца супраць нацыстаў, і да пачатку восені 1941 г. гета і ўвесь Мінск былі ўжо цалкам пранізаны камуністычным падполлем”.

Аўтар кнігі лічыць, што Гімлер і Гітлер атаясамлівалі яўрэйскую пагрозу з партызанскай. Логіка сувязі паміж яўрэямі і партызанамі заставалася расплывістай і хісткай, але яе наступствы для яўрэяў Беларусі, якая ўяўляла сабой сэрца партызанскай вайны, былі гранічна яснымі.

На думку Т. Снайдэра, перад вясной 1942 года мінскія яўрэі адчулі, што лес стаў, бадай, больш бяспечным месцам, чым гета. Сам Гірш Смоляр быў вымушаны сысці з гета ў партызаны. З прыкладна дзесяці тысячаў мінскіх яўрэяў, якія далучыліся да партызанскіх атрадаў, каля паловы перажылі вайну. Сярод іх быў і Смоляр. Але партызаны зусім не абавязкова з ахвотай прымалі яўрэяў. Сваёй галоўнай задачай яны бачылі барацьбу з акупацыйным рэжымам, а не аказанне дапамогі мірнаму насельніцтву ў выжыванні. Яўрэяў, у якіх не было зброі, партызаны часта адпраўлялі назад, гэтак жа як і жанчын і дзяцей. Нават узброеных яўрэйскіх мужчынаў часам не прымалі, або, у некаторых выпадках, забівалі за зброю. Партызанскія камандзіры баяліся, што яўрэі з гета – нямецкія шпіёны. І гэтае абвінавачванне было не такое абсурднае, як можа падацца”.

Не прыводзячы ніякіх спасылак, аўтар кнігі сцвярджае: “Немцы час ад часу сапраўды хапалі жонак і дзяцей, а потым пасылалі мужоў у лес па інфармацыю аб партызанах, калі тыя хацелі зноў убачыць свае сем'і”.

Заслугоўвае ўвагі думка Т. Снайдэра, што на працягу 1942 года становішча яўрэяў у лясах паступова паляпшалася па меры таго, як некаторыя яўрэі стваралі свае ўласныя партызанскія атрады. У якасці прыкладаў ён прыводзіць 106-ы атрад Шалома Зорына і атрад Тув'і Бельскага.

Погляд аўтара рэцэнзаванай кнігі на вынікі партызанскіх аперацый і на адносіны савецкага кіраўніцтва да становішча яўрэяў на акупаваных тэрыторыях, выказаны наступным чынам: “Якімі б эфектыўнымі часам ні былі партызанскія аперацыі, яны прыводзілі да непазбежнай гібелі беларускага цывільнага насельніцтва – як яўрэяў, так і неяўрэяў...

Бядотнае становішча яўрэяў тым больш не было для савецкага кіраўніцтва прадметам вялікага клопату. Пасля лістапада 1941 г. Сталін ні разу не вылучаў яўрэяў як ахвяр Гітлера. Некаторыя партызанскія камандзіры спрабавалі абараняць яўрэяў. Але ў цэлым Саветы, як і амерыканцы з брытанцамі, здаецца, ніколі не разглядалі ўсур'ёз магчымасці ваенных акцый, непасрэдна скіраваных на выратаванне яўрэяў. Савецкая сістэма заўсёды процістаяла незалежнай ініцыятыве і цаніла чалавечае жыццё вельмі танна. Яўрэі, што знаходзіліся ў гета, працавалі на карысць немцаў, няхай сабе і прымусова, а таму іх масавыя расстрэлы мала кранал савецкае кіраўніцтва. Яўрэі, якія не дапамагалі, а перашкаджалі немцам, выглядалі небяспечнымі якраз сваёй ініцыятыўнасцю – хто ведае, раптам пасля яны скіравалі б сваю зброю супраць савецкай улады? Паводле сталінскай логікі, яўрэі былі пад падазрэннем у любым выпадку – ці яны заставаліся ў гета і працавалі на немцаў, ці яны выходзілі з гета і тым самым дэманстравалі здольнасць да самастойнага супраціўлення. Ранейшыя ваганні мясцовых мінскіх камуністаў аказаліся апраўданымі: маскоўскі Цэнтральны штаб партызанскага руху палічыў іх падпольную арганізацыю утварэннем, інспіраваным гестапа. На людзей, якія ратавалі мінскіх яўрэяў і дапамагалі партызанам, быў навешаны ярлык “прылады ў руках Гітлера” (Т. Снайдэр дае спасылку на працу амерыканскага даследчыка К. Слепяна аб савецкіх партызанах у час Другой сусветнай вайны, выдадзеную ў Канзасе (ЗША) ў 2006 годзе – *Э. І.*).

Т. Снайдэр з горыччу канстатуе, што, нягледзячы на новыя наступальныя аперацыі Вермахта, “вайна” з яўрэямі была адзінай вайной, у якой немцы на працягу 1942 года выйгравалі.

Вельмі важна, што на падставе мноства крыніц Т. Снайдэр прыйшоў да высновы, што галоўныя нямецкія антыпартызанскія акцыі сярэдзіны – канца 1942 года і пачатку 1943 года, вядомыя як “вялікія аперацыі”, на самой справе ў першую чаргу прадугледжвалі знішчэнне беларускіх сялян, а таксама яўрэяў. Не здолеўшы справіцца з партызанамі, немцы забівалі людзей, якія маглі дапамагаць ім (партызанам – *Э. І.*) у барацьбе.

Не меншую каштоўнасць мае другая выснова аўтара кнігі: “Гэты край (гаворка ідзе пра Беларусь – *Э. І.*) быў домам для адной з найбуйнейшых у Еўропе папуляцый яўрэяў, асуджаных на пагібель, але і надзвычай здольных да супраціўлення. Цалкам магчыма, што ў Мінску і ва ўсёй Беларусі на барацьбу супраць Гітлера ўстала больш яўрэяў, чым у любым іншым рэгіёне, – хоць, за рэдкім выключэннем, яны не маглі процістаяць нацысцкаму рэжыму без дапамогі савецкай улады”.

Шмат цікавых матэрыялаў змешчана у восьмым раздзеле “Нацысцкія фабрыкі смерці”, у дзявятым – “Супраціўленне і спапяленне”, у дзясятым “Этнічныя чысткі”, у адзіннаццатым раздзеле “Сталінскі антысемітызм”.

Менавіта ў раздзеле “Сталінскі антысемітызм” Т. Снайдэр акцэнтуе ўвагу чытачоў на наступныя абставіны: “У тым, што немцы шукалі калабарацыяністаў і знаходзілі іх, не было нічога дзіўнага. Але з'ява калабарацыі падрывала міф пра згуртаваны савецкі народ, які паўстаў на абарону айчыны, усімі сіламі супраціўляючыся ненавісным фашысцкім захопнікам. Пашыранасць калабарацыі была яшчэ адной прычынай таго, што масавыя расстрэлы яўрэяў мусілі быць забытыя.

У час вайны Саветы і іх саюзнікі ў цэлым былі згодныя, што змаганне з гітлераўцамі не варта разумець як вайну за вызваленне яўрэяў... Яўрэйскае пытанне, як правіла, абміналася прапагандай...

Такая стрыманасць адносна расавых забойстваў ў лепшым выпадку была праявай боязі так ці інакш ухваліць гітлераўскае расісцкае разуменне свету. Паводле гэтай логікі, яўрэі не былі грамадзянамі нейкай адной краіны. а таму іх вылучэнне не магло грунтавацца толькі на расавых крытэрыях і тым самым магло азначаць прыманне расісцкага пункту гледжання Гітлера...

Дзеля таго, каб сталінская інтэпрэтацыя вайны змагла зрабіцца асноўнай, той факт, што яўрэі былі галоўнымі ахвярамі вайны, мусіў быць забытым... Знішчэнне яўрэяў не толькі не было непажаданым успамінам само па сабе – яно выклікала і іншыя непажаданыя ўспаміны. Таму яно мусіла быць забыта".

Добра, што на стар. 588-614 прыведзены цікавыя і адначасова каштоўныя карты "крывавых зямель" у розныя перыяды, а на старонках 615-639 – вельмі каштоўны індэкс, які ўключае ў сябе імянны ўказальнік.

Нягледзячы на шматлікія вартасці рэцэнзаванага выдання, яно, на вялікі жаль, не пазбаўлена шэрагу недахопаў.

Па-першае, нідзе не адзначана, якое гэта даследаванне: гістарычнае ці паліталагічнае? Дасведчаны чытач можа адказаць: «Звярніце ўвагу на апошні абзац прадмовы, там напісана: "Гэта даследаванне зводзіць у адно нацысцкі і савецкі рэжымы, яўрэйскую і еўрапейскую гісторыю, а таксама іншыя нацыянальныя гісторыі. У ім апісваюцца ахвяры і каты. Яно аналізуе ідэалогіі і планы, сістэмы і грамадствы"».

На самой справе ў кнізе больш паліталогіі, чым гісторыі. А выдавецтва "Медысонт", якое выпусціла кнігу, саромеецца назваць Тымаці Снайдэра палітолагам, на другім баку вокладкі ў кароткай біяграфічнай даведцы называе яго "амерыканскім гісторыкам, спецыялістам па мадэрнай гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы". У гэтай жа даведцы яно піша тэрмін "Халакост" з малой літары, што само па сабе з'яўляецца памылкай.

Гэтым я не хачу сказаць, што кніга дрэнная. Наадварот, яна каштоўная і цікавая, але трэба было, каб сам аўтар або выдавецтва дакладна вызначылі яе жанр.

Па-другое, у выданні дапушчаны шэраг фактычных недакладнасцей.

Так, на стар. 14 сцвярджаецца, што больш за 300 тысяч беларусаў і супастаўная колькасць палякаў былі забіты ў часе карных экспедыцый, прычым не даецца ніякай спасылкі.

Па маіх разліках, ахвярамі нацысцкага генацыду на тэрыторыі Беларусі ў часе Вялікай Айчыннай вайны стала 904 124 беларусы (Иоффе Э. Погиб каждый третий // Народная газета. – 8 снежня 2012. – С. 15). Пераважная большасць з іх была застрэлена і спалена ў часе карных экспедыцый нацыстаў.

На стар. 107-108 кіраўнік штурмавых атрадаў СА Эрнст Рэм названы Эрнстам Ромам.

Т. Снайдэр адзначае: "Мінскія яўрэі, вывезеныя 7 лістапада (1941 года – *Э. І.*) ў Тучынку, былі расстраляны 9 лістапада (у галоўны святочны дзень нацыстаў – гадавіну "піўнога путчу") (стар. 295).

На самой справе, мноства крыніцаў сведчыць, што гэта адбылося 7-8 лістапада 1941 года.

На стар. 297 аўтар кнігі спрабуе вызначыць колькасць вязняў мінскага гета і прыводзіць звесткі аб колькасці мінскіх яўрэяў у 1939 годзе (70-71 тыс. чалавек). Ён канстатуе, што "частка мінскіх яўрэяў паспела ўцячы з горада, перш чым ён быў узяты немцамі ў чэрвені 1941 г., яшчэ некалькі тысяч былі расстраляны летам і восенню 1941 г.".

Адчуваецца, што ён вельмі павярхоўна даследаваў гэтае пытанне.

Да сённяшняга часу ў розных крыніцах і нават у энцыклапедычных выданнях прыводзяцца супярэчлівыя звесткі аб колькасці вязняў Мінскага гета ў 1941-1943 гадах. Называюцца такія лічбы: 50 тысяч, 55 тысяч, 75 тысяч, 80 тысяч, 85 тысяч, каля 100 тысяч, 100 тысяч, больш за 100 тысяч чалавек.

На думку большасці вучоных-гісторыкаў, да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску налічвалася каля 85 тысяч, ужо да 25 чэрвеня 1941 года разам з яўрэямі-бежанцамі з гарадоў Заходняй Беларусі і мінскай вобласці знаходзілася каля 100 тысяч яўрэяў. Каля 45 тысяч яўрэяў былі мабілізаваны

ваенкаматамі горада і паспелі эвакуіравацца да таго, як у Мінск уступілі нямецкія войскі.

Такім чынам, ёсць падставы меркаваць, што 28 чэрвеня 1941 года каля 55 тысяч яўрэяў Мінска аказаліся ў нямецкай акупацыі.

Пасля рэгістрацыі гэтай колькасці яўрэяў у Мінск пачалі вяртацца яўрэі, якія не змаглі эвакуіравацца і спрабавалі перасяліцца ў вёскі Мінскага і іншых навакольных раёнаў. Акрамя гэтага, акупацыйныя ўлады перыядычна перасялялі ў Мінскае гета яўрэяў з прылеглых да Мінска гарадоў і мястэчак – такіх, як Слуцк, Узда, Чэрвень, Койданава (Дзяржынск), Смілавічы. Можна меркаваць, што ўжо ў ліпені 1941 года ў Мінску налічвалася каля 80 тысяч яўрэяў, у тым ліку 55 тысяч мінчан.

З лістапада 1941 года ў выніку галтоўнай дэпартацыі ў Мінск тысяч яўрэяў з Германіі, Аўстрыі, Чэхаславакіі і іншых краін Еўропы яўрэйскае насельніцтва горада пастаянна павялічвалася, нягледзячы на аблавы і пагромы. Многія даследчыкі лічаць, што разам з замежнымі яўрэямі праз Мінскае гета прайшло 100-105 тысяч яўрэяў, у тым ліку каля 85 тысяч вязняў гета.

Мінскае гета ўжо з першых месяцаў свайго існавання стала пеклам для яго вязняў. Штодзень тут здараліся забойствы, аблавы, дзённыя і начныя пагромы і проста смерць ад голаду. Пагэтаму выклікае вялікае сумненне наступная сцвярджэнне Т. Снайдэра без якой-небудзь спасылкі:

“У канцы 1941 г., калі ваеннапалонныя ў сваіх лагерах масава паміралі ад голаду, некаторым з іх удавалася выжыць, уцёкшы ў Мінскае гета. У той час гета ўсё яшчэ было больш бяспечным месцам” (стар. 298).

На стар. 306 аўтар кнігі, характарызуючы пагром 2 сакавіка 1942 года, падкрэслівае: “Усяго у той дзень было забіта 3 412 чалавек. З дзяцей выратаваўся толькі Фелікс Ліпскі”.

Гэта не адпавядае сапраўднасці, бо ў “малінах” (тайных сховішчах) выратаваліся яшчэ сотні дзяцей.

Прычым, Т. Снайдэр спасылаецца на ўспаміны Ф. Ліпскага на нямецкай мове, апублікаваныя ў кнізе “Existiert das Getto noch?” у Берліне, Гамбургу, Гёцінгене ў 2003 годзе пад назвай “Адно дзіця з Мінскага гета”. Але ў яго ўспамінах адсутнічае такое сцвярджэнне.

Лічу памылковай выснову, што “правал сакавіцкай аблавы” (не аблавы, а пагрома – *Э. І.*) падштурхнуў немцаў прыняць меры да разгрому Мінскага падполля (стар. 306-307). Аналіз шматлікіх гістарычных крыніцаў не пацвярджае гэта. Нямецкія спецслужбы ў Мінску, якія адказвалі за барацьбу з мінскім падполлем, дзейнічалі па сваім плане, які яны распрацавалі значна раней, чым адбыўся сакавіцкі пагром 1942 года.

На стар. 307 ёсць такія радкі: “У канцы сакавіка-пачатку красавіка 1942 г. немцы арыштавалі і пакаралі смерцю 251 падпольшчыка (Мінска – *Э. І.*). Прыкладна ў той жа час Мінск наведаў Рэйнхард Гейдрых”.

Маюцца аўтарытэтныя звесткі, што гэты сакрэтны візіт адбыўся 3 сакавіка 1942 года.

Некаторыя радкі кнігі Т. Снайдэра даюць падставы для стварэння міфа аб баявых дзеяннях 106-га партызанскага атрада пад камандаваннем Ш. Зорына. Прывядзём гэтыя радкі са стар. 308: “106-ы атрад Шалома Зорына налічваў ў дзесяць разоў больш чалавек, чым звычайныя атрады, і праводзіў набегі на Мінскае гета з мэтай выратавання яўрэяў”, прычым наконт “набегаў на Мінскае гета” аўтар кнігі спасылаецца на кнігу І. Эрэнбурга і В. Гросмана “Чорная кніга”.

Адразу хачу падкрэсліць, што нічога падобнага ў “Чорнай кнізе” няма.

На самой справе, 106-ты атрад, якім камандаваў Шолам Зорын, ні ў якім разе не быў у дзесяць разоў больш, чым звычайныя партызанскія атрады Беларусі. Па

дадзеных Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, у студзені 1944 года у ім налічвалася 556 чалавек. Гэта быў не звычайны, а сямейны партызанскі атрад.

Праз шмат год камісар 106-га партызанскага атрада Яфім Фейгельман у размове з аўтарам гэтых радкоў успамінаў:

"Пасля раздзелу нашага атрада на баявы і сямейны, баявы атрад налічваў 137 чалавек. Ён ахоўваў старых, жанчын, дзяцей, удзельнічаў у баявых аперацыях: перахопліваў абозы, знішчаў паліцэйскія ўчасткі. Разам з іншымі партызанскімі атрадамі 106-ы абяззброіў і ўзяў у палон некалькі сотняў польскіх легіянераў (часці Арміі Краёвай), якія перайшлі на бок фашыстаў. Падрыўная група атрада выходзіла на чыгунку Стоўбцы-Мінск, спусціла пад адхон чатыры эшалоны з варожымі саладатамі і тэхнікай..."

Куды там баявому атраду ў 137 чалавек уварвацца ў Мінск, напасці на Мінскае гета, каб вызваліць яго вязняў! Іх бы ўсіх перабілі яшчэ на подступах да гета.

І яшчэ. Каб здарылася нешта падобнае, камісар атрада Я. Фейгельман абавязкова згадаў бы пра такую аперацыю.

Такому таленавітаму вучонаму, як Т. Снайдэр трэба больш крытычна адносіцца да гістарычных фактаў, якія ён прыводзіць у сваёй кнізе.

На стар. 311 мы чытаем: "Дзеці, якім пашчасціла апынуцца ў такіх лагерах (гаворка ідзе аб "сямейных лагерах" для жанчын, дзяцей і старых – *Э. І.*), гулялі ў сваю версію хованак: у іх немцы палявалі на яўрэяў, якіх абаранялі партызаны. У іх выпадку гэта было праўдай. Аднак, хоць партызаны выратавалі каля 30 тыс. яўрэяў, няясна, ці не пацягнула за сабой такое заступніцтва яшчэ больш ахвяр сярод яўрэйскага насельніцтва".

Па-першае, невядома да якіх партызан адносіцца лічба "каля 30 тыс. яўрэяў", выратаваных імі, – беларускіх ці ўсіх партызан на акупаваных тэрыторыях СССР? З тэксту бачна, што хутчэй за ўсё да беларускіх партызан. Але ў любым выпадку гэтая лічба на самой справе значна меншая, прычым Т. Снайдэр тут не дае ніякай спасылкі.

Аўтар кнігі дапусціў блытаніну адносна агульнай колькасці ахвяраў Халакоста ў Еўропе. Агульнавядома, што гэтая лічба складае каля 6 мільёнаў загінулых яўрэяў.

У рэцэнзаваным выданні гэтая лічба вагаецца ад 5,4 млн. яўрэяў (стар. 318, 519) да 5,7 млн. яўрэяў (стар. 474, 519). У чытача міжволі ўзнікае пытанне: "Дык колькі ж яўрэяў загінула ў час Халакоста?"

Т. Снайдэр не дае дакладнага адказу на гэтае пытанне.

Адначасова ён значна памяншае колькасць яўрэяў – ахвяраў Халакоста на тэрыторыі Беларусі. На стар. 325 аўтар кнігі без усялякіх спасылак адзначае, што немцы забілі ў Беларусі паўмільёна яўрэяў, у тым ліку 30 тысяч – у антыпартызанскіх акцыях.

Па падліках аўтара гэтых радкоў, які ўжо чвэрць стагоддзя займаецца даследаваннем дадзенай праблемы, ахвярамі Халакоста на тэрыторыі Беларусі ў сучасных межах у 1941-1944 гадах сталі каля 715 тысяч беларускіх яўрэяў і каля 90 тысяч яўрэяў з многіх краін Еўропы.

На той жа 325-й старонцы аўтар кнігі сцвярджае, што з дзевяці мільёнаў, якія жылі ў 1941 г. на тэрыторыі БССР, каля 1,6 млн. забіты немцамі. На яго думку, сюды ўваходзяць каля 700 тысяч ваеннапалонных, 500 тыс. яўрэяў і 320 тыс. чалавек, залічаных у партызаны (большасць якіх былі бяззбройнымі цывільнымі асобамі).

На самой справе, на тэрыторыі Беларусі ў сучасных межах напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны пражывала 9 млн. 183 тысячы чалавек. Па маіх падліках, ахвярамі нацысцкага генацыду на беларускай зямлі сталі 1 мільён 845 тысяч 155 жыхароў.

У чытача можа ўзнікнуць пытанне, каго дакладна мае на ўвазе Т. Снайдэр у лічбе 320 тысяч чалавек, "залічаных у партызаны, але большасць з якіх былі бяззбройнымі цывільнымі асобамі"?

Гэтай лічбай ён уносіць блытаніну ў падлік дэмаграфічных страт у гады Вялікай Айчыннай вайны. Агульнавядома, што ў 1941-1944 гадах загінула 44 791 беларускіх партызан.

На стар. 326 аўтар кнігі прыходзіць да наступнай высновы: "Прыблізная ацэнка ў два мільёны ахвяр сярод насельніцтва Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны выглядае абгрунтаванай і памяркоўнай".

Па падліках аўтара гэтых радкоў, людскія страты Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны і вайны з Японіяй, не лічачы stratаў насельніцтва Заходняй Беларусі ў часе вайны Германіі супраць Польшчы ў верасні 1939 года, складаюць 3 мільёны 74 тысячы 193 чалавекі (Народная газета, 8 снежня 2012 г. – С.15).

На стар. 358 аўтар кнігі адзначае, што пераважную большасць ахвяраў Асвенцыма складалі польскія і венгерскія яўрэі. На яго думку, больш як 200 тысяч чалавек былі прадстаўнікамі іншых народаў. Сярод іх было 74 тысяч палякаў і каля 15 тысяч савецкіх ваеннапалонных.

Хутчэй за ўсё, Т. Снайдэру невядома, што больш за 6 тысяч ахвяраў Асвенцыма складалі беларусы. Гэта вынік даследаванняў беларускага гісторыка К.І. Козака.

На стар. 429-430 дапушчана элементарная памылка пры падліках колькасці немцаў, дэпартаваных у часе вайны і пасля 1945 года. Прывядзем гэтыя радкі кнігі:

"Пад канец 1947 г. Польшчу пакінулі каля 7,6 млн. немцаў, яшчэ каля трох мільёнаў былі дэпартаваны з дэмакратычнай Чэхаславакіі. У Савецкім Саюзе падчас вайны дэпартацыі зведалі каля 900 тыс. немцаў Паволжа. Тым самым колькасць немцаў, якія страцілі свае дамы ў часе вайны і пасля яе перавысіла 12 млн. чалавек".

"Як перавысіла, – скажа дапытлівы чытач, – яна нават не дасягнула гэтай лічбы" (7,6 млн. + 3 млн. + 0,9 млн. = 11,5 млн. чалавек, але ніяк не "больш за 12 млн. чалавек").

Як для вучонага-палітолага, так і для вучонага-гісторыка вельмі важна не толькі веданне складаных навуковых праблемаў, але і асобных дэталяў, імкненне быць максімальна дакладным пры разглядзе гістарычных падзеяў і фактаў.

На стар. 438 Т. Снайдэр піша: "Святлана Алілуева, дачка Сталіна, выпадкова падслухала, як яе бацька абмяркоўваў з Цанавам спосаб падачы забойства Міхоэлса: "Няхай гэта будзе аўтамабільная аварыя".

Аўтар кнігі памыляецца. Сталін ніколі не абмяркоўваў з міністрам дзяржаўнай бяспекі БССР спосаб падачы забойства Міхоэлса ў Мінску. Ён абмяркоўваў яго з першым намеснікам міністра дзяржбяспекі СССР Сяргеем Агальцовым, які быў адказным за аперацыю па забойстве С. Міхоэлса.

Т. Снайдэр лічыць, што немцы забілі каля мільёна ўласна савецкіх яўрэяў (с. 440). З гэтай лічбай нельга згадзіцца, таму што на самой справе немцы забілі каля 1 мільёна 400 тысяч украінскіх яўрэяў, каля 715 тысяч беларускіх яўрэяў і звыш за 130 тысяч расійскіх яўрэяў. А гэта 2 мільёны 245 тысяч савецкіх яўрэяў без 298 тысяч яўрэяў Прыбалтыкі (220 тысяч літоўскіх, 77 тысяч латышскіх і каля 1 тысячы эстонскіх яўрэяў) і Малдовы (Малдавіі).

Аўтар кнігі падкрэслівае, што ў 1949 годзе Лазар Кагановіч ужо не быў найбліжэйшым паплечнікам Сталіна і яго меркаваным пераемнікам (стар. 450). Шчыра кажучы, Л. Кагановіч ніколі (яшчэ раз паўтараю – ніколі!) не разглядаўся ў якасці пераемніка Сталіна.

На стар. 466 сцвярджаецца, што міністр дзяржаўнай бяспекі СССР Віктар Абакумаў у сакавіку 1951 года забіў урача Якава Этынгера. Гэта памылка. На самой справе, у першую чаргу гэта віна падпалкоўніка следчай часці па асабліва

важных справах Міністэрства дзяржаўнай бяспекі СССР Міхаіла Руміна, які вёў справу прафесара Я.Г. Этынгера.

2 сакавіка 1951 года, не вытрымаўшы следчага прэсінгу, Этынгер раптам памёр у турме ад, як было сказана ў акце аб смерці, "паралічу сэрца". Да гэтага часу Румін па ўласнай ініцыятыве паспеў выціснуць з свайго падследнага і прызнанне ў тым, што той заведама няправільным "шкодніцкім" лячэннем садзейнічаў у 1945 годзе смерці сакратара ЦК ВКП(б) Шчарбакова.

Шкада, што аўтар даследавання не выкарыстаў фонды архіваў Рэспублікі Беларусь і найноўшыя даследаванні беларускіх гісторыкаў і палітолагаў.

На некаторых старонках кнігі мы сустракаемся з недакладным перакладам з англійскай мовы на беларускую. Так, на стар. 432 і 463 ужыты тэрмін "Нямецкая Дэмакратычная Рэспубліка" замест правільнага тэрміна "Германская Дэмакратычная Рэспубліка".

Нягледзячы на вышэйназванае, падкрэслю яшчэ раз, што кніга Т. Снайдэра "Крывавыя землі. Еўропа паміж Гітлерам і Сталіным" вельмі каштоўная, цікавая і пазнавальная, мы маем арыгінальнае даследаванне таленавітага амерыканскага гісторыка аб крывавых землях Еўропы. Безумоўна, яна знойдзе свайго чытача і будзе абуджаць думку ўсіх, каму неабыякава трагічная і гераічная гісторыя Беларусі і іншых краінаў Еўропы ў 1933-1953 гады.

# Смак Беларушчыны

***Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»***



**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 288 с.**

Пабачыў свет першы нумар літаратурна-мастацкага альманаха “Брама”. Гэта выданне Магілёўскага абласнога аддзялення ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”. Нагадаем, што свае альманахі маюць таксама Гродзенскае (“Новы Замак”) і Брэсцкае (“Жырандоля”) абласныя аддзяленні СБП. Гомельскія літаратары таксама рыхтуюць першы выпуск свайго выдання. У першым выпуску альманаха “Брама” змешчаныя паэзія, проза, драматургія, а таксама пераклады і літаратуразнаўчыя артыкулы, успаміны і эсэ, прысвечаныя жыццю і творчасці Сяргея Грахоўскага, Аляксея Пысіна, Міхася Ларчанкі, Рыгора Бярозкіна, Яўгеніі Янішчыц, Янкі Сіпакова. Усяго на старонках “Брамы” апублікаваныя матэрыялы 27 аўтараў.



**Вусцішны пакой. Зборнік містычнага апавядання. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 444 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Бібліятэка часопіса “ПрайдзіСвет” “PostScriptum”).**

Гэтае выданне стала другой кнігай Бібліятэкі часопіса “ПрайдзіСвет” у межах серыі “Кнігарня пісьменніка” Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. У кнігу ўвайшлі 29 вусцішных апавяданняў у перакладзе на беларускую з англійскай, французскай, нямецкай, партугальскай, украінскай, польскай і шведскай моваў. Для перакладу былі абраныя як класікі гатычнага жанру, такія як Эдгар Алан По і Жэрар дэ Нэрваль, так і, напрыклад, наш сучаснік Юрый Вінічук.

“Апавяданні з “Вусцішнага пакоя” маюць розную напругу – некаторыя нагнятаюць жах і здольныя змусіць кроў стынуць у жылах, а ў некаторых аўтары іранізуюць і кпяць з самой готыкі. Але адчуванне лёгкай ірэальнасці, хуткага прывіднага ценю, скразняку з тагасветнасці не пакіне да апошняй старонкі”, – піша крытык Аляксандра Дорская.



**Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна / укл. Н. Давыдзенка; прадм. У. Някляева. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 388 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 47).**

«“Вушацкі словазбор” — спроба сабраць за адным бяседным сталом хоць крышачку непераўзыдзенага шматгалосся роднае мне зямлі, шматгалосся, якое, на жаль, пачынае глухнуць», — піша Рыгор Іванавіч ва ўступным слове да кнігі, прысвечанай “Светлае памяці мамы Куліны”.

Нездарма на вокладцы змешчанае фота беларускай вёскі — Народны паэт склаў не проста слоўнік адметнай лексікі Вушаччыны, ён імкнуўся перадаць “паганскія карані і біблейскае неба”, “чысціню бачання свету”, галасы “мамы Куліны, крэўных і блізкіх”. Прадмову да кнігі напісаў Уладзімір Някляеў. Укладальнікам выдання стала Наталля Давыдзенка, рэцэнзентам — Кастусь Цвірка.

**Эдуард Дубянецкі. Покліч самотнага неба: вершы, паэма. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 204 с.**




Вершы з новай кнігі паэзіі Эдуарда Дубянецкага вызначаюцца абвостранай пачуццёвасцю, фантазійнасцю, празрыстасцю стылю, жаданнем спасцігнуць складаныя праблемы быцця, пра што яскрава сведчаць многія творы лірычнага, філасофскага, грамадзянскага і (сама)іранічнага гучання. Як і ў яго папярэднім зборніку, тут доўжацца пошукі мастацкай выразнасці ў галіне формы і зместу, строфікі, рытмікі і рыфмоўкі верша. Аўтар прапануе чытачу пазнаёміцца са шматлікімі класічнымі вершаванымі формамі, вядомымі з гісторыі еўрапейскай і ўсходняй (пераважна персідскай) паэзіі. Некаторыя з іх (*бейт, дайна, дойна, дубейці, мураба, мусаба, мусадас, мухамас, шаіры, эклога, эпод* і інш.) упершыню ўводзяцца ў беларускую паэзію. У асобных раздзелах кнігі падаюцца вынайдзеныя аўтарам віды верша, а таксама ягоныя “праменьчыкі” – адмысловая форма паэтычных афарызмаў і мініяцюр.

*Пакуль маўчанне валадарыць на зямлі*
*і неба даглядае свае сны...*
*Ды прыйдзе час –*
*маўчанне знікне і*
*распусцяцца, бы кветкі,*
*галасы...*

**Генадзь Кісялёў. Смак Беларушчыны. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 498 с.**




У выданне, прымеркаванае да 150-годдзя Паўстання Кастуся Каліноўскага на Беларусі і Літве, увайшлі два зборнікі артыкулаў выдатнага літаратуразнаўцы і гісторыка Генадзя Кісялёва. Першы з іх – “Радаводнае дрэва” – выйшаў у 1994 г. і стаўся знакавай кнігай для шанавальнікаў беларускай мінуўшчыны. Другі зборнік – “Смак Беларушчыны” – быў складзены Генадзем Кісялёвым на пачатку дзвюхтысячных гадоў і дагэтуль не друкаваўся. Тут сабраныя артыкулы, большасць з якіх публікаваліся ў 1990-я гады ў перыёдыцы і пазней былі істотна пашыраны і дапрацаваны даследнікам. Прадмову да кнігі напісаў Уладзімір Арлоў.

**Пра Кастуся. Гістарычны комікс паводле Уладзіміра Караткевіча. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 28 с.**




Яшчэ адно выданне, звязанае з юбілеем Паўстання 1863-64 гг., – гістарычны комікс, створаны паводле п’есы Уладзіміра Караткевіча “Кастусь Каліноўскі: Смерць і неўміручасць”, якую геніяльны творца напісаў да стагоддзя Паўстання. Стваральнікі комікса лічаць, што “ніхто не раскрыў вобраз Каліноўскага настолькі добра, як Караткевіч”. Падчас працы над выданнем яны карысталіся гістарычнымі сведчаннямі, тагачаснымі гравюрамі і выявамі, а таксама наробкамі сучасных рэканструктараў падзей паўстання. Малюнкі і мастацкае аздабленне комікса зрабіў мастак і музыка Уладзімір Дрындрожык.

# Нашыя аўтары

**Арабей Лідзія** — празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг: «Калібры», «Мера часу», «Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы», «Сярод ночы», «Пошукі кахання», «Пошукі ісціны», «Белае поле» і інш. Нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі. Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавацць, наліваццa!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Ксты» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг: «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Голуб Юрка** – паэт, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова. Аўтар кніг паэзіі: «Гром на зялёнае голле», «Дрэва навальніцы», «Векапомнае поле», «Сын небасхілу», «Поруч з дажджом», «Зажураны камень», «Брама зімы», «Багра» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Горна на Зэльвеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Гронская Вольга** – паэтка, перакладчыца, літаратуразнаўца. Аўтар кнігі вершаў «АдВольная міфалогія». Нарадзілася ў 1978 годзе ў г.п. Крывічы Мядзельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Дрындрожык Уладзімір** – паэт, музыка. Скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт (аддзяленне «Дызайн»). Сёлета выдаў музычны альбом «Зрабі крок назад» і намаляваў комікс «Пра Кастуся» паводле п'есы У. Караткевіча. Удзельнік музычнага гурта «Шэпт Срэбра». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

**Іофе Эмануіл** – гісторык, палітолаг, сацыёлаг, культуролаг. Прафесар БДПУ, доктар гістарычных навук. Аўтар звыш за 1730 друкаваных прац, у тым ліку 46 кніг і брашур. Сярод іх – «Из истории белорусской деревни», «Страницы истории евреев Беларуси», «Белорусские евреи в Израиле», «История Беларуси XVIII-XX веков» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Беразіно. Жыве ў Мінску.

**Камоцкі Алесь** — паэт, бард. Аўтар кнігі паэзіі «Спроба ісці па расе», «Наспадзяванае», «Глыбіня дажджу», «48», музычных альбомаў «Першы сшытак», «Я табе...», «Дым» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Касцюкевіч Павел** – празаік, перакладчык. Закончыў Тэль-Авіўскі акадэмічны каледж (факультэт псіхалогіі) і курсы творчага пісьма ў школе рэкламы Aboodi-Creative (Тэль-Авіў). Аўтар кніг прозы «Душпастырскія спатканні для дачнікаў», «Зборная РБ па негалоўных відах спорту». Лаўрэат прэміі імя Ежы Гедройца (2012). Нарадзіўся ў 1979 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Лапіцкая Алеся** – крытык, празаік, публіцыст. Лаўрэатка конкурсу «Беларуская літаратура XXI стагоддзя: постаці, тэндэнцыі, перспектывы» (2010), што ладзіў «Дзеяслоў». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Лянкевіч Уладзімір** – паэт, перакладчык. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (беларуская філалогія) і Беларускі Калегіюм (аддзяленне філасофія/літаратура), аспірантуру БДУ. У час навучання ў калегіюме пачаў наведваць перакладчыцкую майстэрню. Займаецца музыкай, грае ў гурце «TonqiXod». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Мароз Уладзімір** – паэт, празаік, публіцыст, сцэнарыст. Аўтар кніг «Голас», «Рэй», «Хутаранская зорка», «Беларускі храм» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Косаве на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Пашкевіч Алесь** — паэт, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Нябесная сірвента», «Пляц волі», «Зваротныя дарогі», «Круг», «Сім победиши» і інш. Лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі імя Валянціна Пікуля (2009). Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Набушава на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Прыгодзіч Зіновій** – празаік, публіцыст. Аўтар кніг: «На палях рэспублікі», «Добры дзень, сад!», «Крылы дужэюць у палёце», «Жменя зярнят», «Жуpaвы на далёкай пойме», «Ноч перад нядзеляю» і інш. Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Лышча на Піншчыне. Жыве ў Мінску.

**Садоўскі Пётра** — публіцыст, мовазнаўца, грамадскі дзеяч і дыпламат. У 1992 – 1994 гадах працаваў Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам Рэспублікі Беларусь у ФРГ. Пасля адстаўкі займаецца грамадскай і палітычнай дзейнасцю. Быў сябрам Прэзідыума ды старшынёй камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета БССР і Рэспублікі Беларусь 12-га склікання. Да 2009 года быў чальцом сойму Партыі БНФ. Аўтар кнігі ўспамінаў «Мой шыбалет». Нарадзіўся ў 1941 годзе. Жыве ў Мінску.

**Сачанка Барыс** – празаік, перакладчык, выдавец. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984). Аўтар кніг прозы: «Дарога ішла праз лес», «Барвы ранняй восені», «Зямля маіх продкаў», «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя», «Дарогі», «Аксана», «Памяць», «Тры аповесці», «Ваўчыца з Чортавай Ямы», «Горкая радасць вяртання», «Вечны кругазварот» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойнiччыне.

**Стралко Валер** – перакладчык. Перакладае на беларускую з украінскай і з украінскай на беларускую. Лаўрэат міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко за кнігу «Непагасны агонь» (2003), прэміі імя Кандрата Крапівы за пераклад «Тараса на Парнасе» (2003), міжнароднай літаратурна-мастацкай прэміі імя Грыгорыя Скаварады (2013). Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Любечы на Чарнігаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сцебурака Усевалад** — празаік, паэт. Аўтар кніг вершаў «Крушня», «Бег па самаадчуванні». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Жлобіне. Жыве ў Мінску.

**Супрунчук Віктар** – празаік. Аўтар кніг «Страсці», «Недзе баліць ля сэрца», «Набат», «Жывеш толькі раз» і інш. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Чайкоўская Вольга** – паэтка. Удзельніца музычнага праекту MЯTNA. Нарадзілася ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

**Федарэнка Андрэй** — празаік, драматург. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Шаўлякова-Барзенка Ірына** — крытык, літаратуразнаўца, паэт. Аўтар кніг «Галерэя сноў», «Тэорыя літаратурных тропаў», «Сентыментальнае паляванне», «Рэстаўрацыя шчырасці». Нарадзілася ў 1970 годзе ў Чэрвені на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Шаўчэнка Тарас** – паэт, празаік, мастак, этнограф. Класік украінскай літаратуры. Нарадзіўся ў 1814 годзе ў сяле Морынцы Кіеўскай губерні (цяпер Чаркаская вобласць). Памёр у 1861 годзе ў Санкт-Пецярбурзе.

# Contents

***POETRY***

**Ryhor Baradulin.** On the Way of Potatoes. *Poems*.
**Jurka Hołub.** Supply of Love. *Poems*.
**Leanid Hałubovič.** Early Winter. *Poems*.
**Volha Hronskaja.** Tales About Madmans. *Poems*.
**Aleś Kamocki.** To Not Get Lost. *Poems*.
**Volia Čajkoŭskaja.** The Labyrinths. *Poems*.
**Uładź Liankievič.** Day of Mountains. *Poems*.

***PROSE***

**Andrej Fiedarenka.** My Uncle Adolf. *A story.*
**Viktar Kaźko.** Eternal Call of Water. *Short Stories.*
**Lidzija Arabiej.** Search of Truth. *Sketches.*
**Pavieł Kasciukievič.** Case Babaroza. *Family Saga.*
**Viktar Suprunčuk.** When the Birds Are Singing. *Short Stories*.
**Usevaład Scieburaka.** Dinner Overlooking "Dinamo". *Selected Sketches*.

***DEBUT***

**Uładzimir Dryndrožyk.** In Distant Lands. *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**Taras Shevchenko.** The Artist. *An excerpt from the story. Translated by Valery Stralko.*

***HERITAGE***

**Barys Sačanka.** «Literature Is the Voice of the People».
*Barys Sačanka talking to Zinovij Pryhodzič.*

***JUBILEE***

**Aleś Paškievič.** «That Day Has Arrived».
*Spiritual universe of prose by Masiej Siadnioŭ.*

***CONROVERSY***

**Piotra Sadoŭski.** «The Book of Me»,
*or Post-National Resentiments of Kiebitz-Intellectual*.

***CRITICISM***

**Iryna Šaŭliakova-Barzienka.** Adventures of *tutejšaść*
in the modern Belarusian literature.

***BOOKRONCLE***

**Emmanuił Ioffe.** In Fact, It's Bloody Land! *Review of the book by Timothy Snyder.*

***DZIEJASŁOŬ'S STOCK***

*New books on **DZIEJASŁOŬ's** shelves.*

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

**Кнігі, якія пабачылі свет у серыях "Кнігарня пісьменніка" і "Пункт адліку", даступныя чытачам у розных гарадах Беларусі:**












**У Берасці:** Кнігарня "Іскра", вул. Пушкінская, 4.
**У Магілёве:** Кнігарня "Думка", пр-т Міра, 10.
**У Віцебску:** Кнігарня "Веды", вул. Леніна, 54; Кнігарня "Светач", вул. Кірава, 10.
**У Гародні:** Выдавецтва "ЮрСаПрынт", вул. К. Маркса, 11.
**У Бабруйску:** Кнігарня "Букініст", вул. Ульянаўская, 49.
**У Маладзечне:** Кнігарня "Спадчына", вул. Прытыцкага, 7.
**У Полацку:** Кнігарня "Полацк -Светач", вул. Камуністычная, 27.
**У Мінску:** "Акадэмкніга", пр-т Незалежнасці, 72; "Кнігарня Ў", пр-т Незалежнасці, 37А; "Кніжны салон", вул. Калініна, 5; "Кнігарня пісьменніка", вул. Казлова, 2; "Веды", вул. К. Маркса, 36; "Светач", пр-т Пераможцаў, 11; "Цэнтральны кніжны", пр-т Незалежнасці, 19; "Кнігі & кніжачкі", пр-т Незалежнасці, 14.

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Сяргея Шапрана, Уладзіміра Крука,
Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Юрыя Дзядзінкіна, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.